## «ЯК МАЛЕНЬКІ»

Раніцай дзядзька з цёткай прыйшлі ў гумно абіваць лён. Як толькі дзядзька адчыніў старыя, скрыпучыя дзверы, у гуменца хлынула маладое, румянае сонца. Дзядзька толькі рукамі развёў:

— А-а! Братка ж ты мой! Ганна, глядзі!

І глядзяць абое.

На таку стаіць лён у пуках, а над ім блішчыць на сонцы вялікая сетка павуціння. З-пад страхі на лён павук працягнуў аснову, на якой ужо трымаецца ўся сетка, усподзе прымацаваная да лёну. Сетка — як тая зорка касатая. А ў асяродку сам майстар — пузаты, пярэсты павук. Ад яго ва ўсе бакі, як косы ад зоркі, разыходзяцца ніткі павуціння, пераплеценыя што чуць дык большымі кругамі. Мігаціць, смяецца вясёлае сонца, рыжаватым золатам іграюць галоўкі і каліўцы лёну, сетка мяняецца колерамі вясёлкі, кожная нітачка асобна.

— Во!- усміхаецца дзядзька.— Пакуль мы тое-сёе, дык ён ужо напрацаваўся. А-ёй-ёй! Працягні ты такія вяроўкі. І як ён не скалоўся?..

— І праўда,- кажа цётка,- дасць жа ж Бог кожнай жывёлінцы свой промысел. Плёў-плёў, ткаў-ткаў, а зараз сеў сабе ды спачывае, замарыўся...

— А ведаеш, Ганна,- пачаў, памаўчаўшы, дзядзька, ды такім голасам, быццам яму няёмка было, — неяк хто яго... як і брацца за яго... Усё роўна неяк бы...

Ён палез у кішэню па махорку. Паглядзела цётка на свайго, усміхнулася.

— Ты, — кажа, — бацька, заўсёды, як маленькі. Ён сабе, а мы сабе. Бяры ды вынось, хай насыхае: сонейка... А я пайду на гусі цікну, як яна іх там пасе.

І пайшла за гумно.

Дзядзька згарнуў папяросу, прыпаліў, абапёрся аб шула, стаіць, пакурвае. «Валька! Валька-а, го-оў! — пачуўся з-за гумна голас яго Ганны, — а каб ты села крыцай, жабянё ты... А дзе твае гусі, га?»

І чуваць было, як Ганна пабегла па росным калматым поплаве. «Дасць малой чэпалаху!» — падумаў дзядзька. А сам усё глядзіць на павука... Пасля плюнуў, можа, дваццаты раз, кінуў «бычка», прытаптаў яго і, быццам устрапянуўшыся, узяўся за крайні пук.

— Што ж ты рассеўся, як добры пан? — сказаў дзядзька і зачапіў павука саломінай. Павук неспакойна заварушыўся, насцярожыўся. — Ну, ну, разумны ты, ды не зусім. — І пацягнуў за пук. Некалькі асноўных нітак павуціння пацягнулася за пуком, уся сетка выцягнулася, звузілася, і павук замітусіўся. Пачаў спачатку забіраць у

сябе сетку, але, бачачы, што не да парасят, калі свінню смаляць, — пабег па нітцы павуціння пад страху і схаваўся. Дзядзька ўзяў два пукі аберуч і панёс, а за ім пацягнулася сетка.

І ўсё характво растраслося.

Разаслаў дзядзька пук на таку, сеў на ім і ну хвастаць пранікам па галоўках.

А сам думае:

«Нябожчык тата цесляй быў і мяне пачаў браць з сабой ад пятнаццаці год. Вось ужо дваццаць трэці гадок, як і я валачуся па зрубах. І мерзнеш чалавек, і кіснеш, і пячэшся, як той рак, на сонцы. А то як гвякнуўся раз з рыштавання, тады, як Клімашыку верх на гумно зацягалі... І гаспадарка ж няшчасная таксама, кідаешся то казлом, то бараном, б'ешся, як тая рыба аб лёд, а столькі і толку. А там залетась пажар. Прыехаў з лесу — толькі гуменца застаў... Хата і сёння яшчэ стаіць без каморкі. Ды якая там хата, адна парахня! Зляпіў сяк-так, а саломы што купіў, а што і жабраваць прыйшлося».

І дзядзьку жыва ўспамінаецца тое прадвесне, гразь у Загоры, і сам ён — галодны і злосны — ідзе па гразі, з чужога двара... Пад пахаю кулёк саломы, аб'ехала перавясла, а сам дзядзька папраўляе шапку, якую толькі што скідаў, дзякуючы чалавеку за дар.

— Нной, Маруся! — гукае ён з прыгорка на кабылу. Яна стаіць сярод вуліцы, ледзь не па калені ў халодным гляі, і нешта думае ці проста дрэмле, адкапыліўшы губу. — Эх, падкурчылася, здыхата! Нічога не выдумаеш, я за цябе не пацягну. Нной!..

Кабылка напялася ўся як мага — і скура, і косці — і паплыла па балоце далей. А дзядзька хляпае збоку.

А пасля, позним вечарам, скурчыўшыся на выжабраваных кулях, ён доўга-доўга едзе дахаты. У падсуседзі, у чужую хату, адзін са сваімі чорнымі думкамі. Злосна сцёбае кабылку і слухае, як яго колы на драўляным хаду скрыпяць па калдобах, у якіх то хлюпае вада, то хрупае лядок, як шчымяць яго мокрыя ногі і ные з голаду нутро, як енчаць над балотам кнігаўкі, таксама, мусіць, галодныя, халодныя, беспрытульныя і злосныя...

Эх ты, доля наша, доля чубатая!..

Але чаму гэта, браткі, адгукаецца ў сэрцы чужы боль, хоць бы сабе і малы? Чаму не хоча падняцца рука, каб раскідаць чужое, сатканае цяжкай працай павуціннe?.. Чаму ён заўсёды, «як маленькі», як Ганна кажа, абы толькі ўбачыў ці пачуў нешта прыгожае, гатоў глядзець на яго, любавацца і слухаць, разявіўшы рот, забываючыся аб усім на свеце, нават аб долі сваёй, нават аб тым, што самога яго не шкадуе ніхто?..

1937

## СУСТРЭЧА

Абы толькі хатнія селі за стол — снедаць, палуднаваць ці вячэраць,— адкуль толькі тая Мурка і возьмецца: ужо і трэцца каля дзеда Сымона, і мяўкае, просіць есці, і толькі ў яго.

Або прыйдзе ён у гумно, па сена карове, а кошка ўжо тут — бяжыць угары, па бэльцы, і мурлыкае, нібы хоча сказаць: «А во дзе я, а ку-ку!..»

— Ах ты, накольніца,— кажа дзед.— Бачыш, куды ты залезла!

Пасля ўжо ён нясе сваё сена па сцежцы, а Мурка бяжыць перад ім, наставіўшы хвост, як стрэльбу.

Аднойчы зімой быў пажар і згарэла большая палавіна вёскі. Згарэла ўсё і ў Сымонавых — і хата, і хлеў, і гумно.

Дзед Сымон быў тады дома адзін. Калі загарэлася суседава хата — зашумела, затрашчала полымя, павярнуў чорнай хмарай дым і загалёкалі людзі на вуліцы,— па старога напаў такі жах, што ён зусім разгубіўся. Як паіў каля студні карову, так і стаў, і стаяў, пакуль но загарэўся іхні хлеў.

Тады дзед убег у хату, зняў з паліцы свае акуляры, будзільнік... Спыніўся і думае:

«Здаецца, усё. Усё?.. Ці ўсё?..»

На печы драмала Мурка.

Дзед зняў яе і выбег з хаты.

Больш выхапіць з агню не ўдалося нічога.

Пагарэльцаў паразбіралі па хатах тыя, хто ўцалеў ад пажару. Сымонавых наклікаў да сябе сваяк — амаль на другі канец вёскі.

На ягоным будынку спынілі пажар. Застаўся ў дзядзькі толькі зруб ды столь, замест страхі. Наклалі на столь саломы і пачалі так жыць — дзве сям'і ў невялічкай хаце. Цесна, душна, нядобра. Як толькі адліжыць — на саломе растае снег, па сценах цячэ, са столі капае...

Тыдняў са два пасля пажару дзед Сымон быў неяк адзін у сваяковай хаце. Ляжаў на печы, пакрыўшыся кажухом, і думаў пра тое, што вось ён і занядужаў ад гора... А потым пачулася дзеду, што за дзвярыма штосьці нібы мяўкае.

«Няўжо гэта яна?» — падумаў дзед.

Мурці не было ад самага пажару. Так ужо і лічылі, што недзе загінула.

«Няўжо яна?..»

Дзед злез з печы, накінуў на плечы кажух, падышоў да дзвярэй. Як толькі ён адчыніў іх — Мурка шмыгнула ў хату. Убегла, мяўкнула, прылегла, перакулілася і наставіла лапы — ад радасці!..

«Знайшла!» — хацеў адразу крыкнуць дзед Сымон. Але ён раптам забыўся пра гэта, махнуў ад твару рукамі, сказаў:

— Галубка мая!.. Няма, няма нічога... Усё згарэла...

І заплакаў.

1937

## СЁННЯ «ДЗЯДЫ»!

Гразь сцягнулі нарэшце першыя прымаразкі. Надвор'е сёння яснае, здаровае. Сад падасланы жоўтым лісцем. На клёне яго ўжо амаль што няма, а бяроза яшчэ ўсё калыша ад ветрыку доўгімі залацістымі косамі.

Я абкопваў яблыні, ціха мармычучы ў добрым настроі...

А потым да мяне — вядома ж, цераз плот — прыйшоў сусед. Худзенькі, абадраны Сашка, з рэдкімі, светлымі валасамі, з-за якіх яго і празвалі Лысым.

У Сашкі нямоглы бацька і тоўстая сястра, гультайка Марта. Маці памерла — як на памяць шасцігадовага хлопчыка — вельмі даўно.

Сёння Лысы таксама ў добрым настроі. Можа, таму, што ўвечары «дзяды» — поліўка з пеўнем, капуста, яечня, аладкі... Дванаццаць страў! І ўсё трэба есці — ад «кануны», накрышанай булкі ў салодкай вадзе, да густой панцаковай кашы, якая ставіцца на стол дванаццатай. Хоць лыжку адну, а вазьмі. Спрадвечны звычай памінак, «дзядоў», на ядзе ўжо толькі і трымаецца. Хіба што бабка якая ў каго і памоліцца за душачкі ўмарлыя, а так — садзяцца людзі і сапуць над місамі — за ўсё недаяданне — у дванадцаць столак!.. Ну дык як тут і Сашку не цешыцца?..

Лысы выняў з кішэні падвойную костку пеўневай нагі, адцягнуў кавалак сырамяткі, прывязанай за гузік, пакланіўся і пытаецца:

— Можа, вам што сыграць, пане Сцяпане?

— Ну, ну...

— Січас, пачакайце, настрою гармошку.

Сеўшы на камені каля плота, ён зайграў. Шморгаў, як смыкам, косткай па сырамятцы і, пераймаючы не скрыпку, а гармонік, галёкаў:

— Тува, тува, тува-ва!.. Тува, тува, тува-ва!..

Так паўтаралася бясконца. І на кожным «тува-ва» бледны твар Лысага аж крывіўся ад смакаты, як ад болю, аж вочы плюшчыліся, аж закідалася назад і весела пагойдвалася галава!..

З вуліцы, цераз брамку, прыбеглі Сыты і Худы. Адразу ж далучыліся да музыкі. Худы, рухавы і спрытны малец, Сашкаў аднагодак, махнуўся па садзе, падняў канчар нейкай дошкі і камень, прысеў і пачаў барабаніць. А меншы, тоўсценькі карантыш Сыты, з нястачы хоць якога струманту, паўсаджваў адубелыя ручкі ў кішэні і, прысеўшы ад стараннасці, верашчаў з усёй сілы Лысаму ў тон. Тое самае «тува-ва» — то басам крычалі хлопцы, аж гарлякі надзімаліся, то падвываючы ўгару, ды так высока, тоненька, нібыта хочучы, каб іх пачуў

увесь свет!..

Я ледзь не ляжу ад рогату. Маці Худога і Сытага, Каваліха, выйшла з вёдрамі па ваду, спынілася на вуліцы, слухае і смяецца. Тоўстая Марта таксама пачула музыку, выйшла на двор.

— Пайшоў дахаты, здыхоцце ты! Я скажу нябось бацьку!

А малыя — яшчэ мацней.

Крычала, крычала Марта, ды — глядзіце! — ужо і яна рагоча. Ус- перлася локцямі на нізкі плот і ажно заходзіцца, ажно тоўстыя плечы ды тарбаватыя грудзі трасуцца.

— Божа мой, божачка! — кажа ледзь не праз слёзы.— І калі ў цябе будзе які-небудзь розум!..

...Ціхі, марозлівы вечар. Яшчэ зара не пагасла зусім, а зоркі ўжо відаць — адна, другая, трэцяя... «Дзяды» яшчэ не давараны — агні гарацць пакуль што толькі ў вокнах кухняў.

Стаю на вуліцы, каля брамкі, маўчу. Кавалішын Толя, старэйшы брат Худога і Сытага, выйшаў трохі пазней, не заўважыў мяне і таксама стаіць — цераз вуліцу, перад сваім гародчыкам.

Ды вось направа ад мяне, каля суседавых варот, адліпла, запішчала завесамі, стукнула брамка, і на сярэдзіну вуліцы выйшаў Лысы.

Стаў і свішча, няўмела яшчэ, па-малечы.

— На, Цюлік, на! — падмацаваў ён крыкам свіст.— На, цю, на!..

— Навошта ён табе? — спытаўся Толя.

Сашка падышоў да яго і прыцішана, па-дзелавому пачаў:

— Цюлік недзе прапаў. Ты толькі не кажы нікому, Анатоль, бо Марта будзе біцца. Яна сёння два пеўні зарэзала, нашага і Якубавых. Трэба Цюліку кішкі аддаць, каб было шыта-крыта! Дзяды, паніма- еш?.. На, Цюлік, на!..

Успамінаю крык і таўстаморды смех над шэрымі штакетамі:

«Божа мой, божачка!..» І сам смяюся ціха. Толькі з іншага.

*1935-1937*

## «РАЗБУДИ МЕНЯ ЗАВТРА РАНО...»

«Мілая мама!

Учора я сніў цябе зноў. І толькі цяпер зразумеў, як шмат я вінаваты перад табою. Да ўчарашняй ночы не мог ніяк сабраць думак у адно і напісаць табе першае пісьмо з астрога. А тут вось гэты сон і памог мне.

Ішлі мы з табою, здаецца, пясчанай пустыняй. Ні канца ёй ні краю не відаць, пясок ды пясок. А сонца пячэ — страхата. Мне, маладому, і то было цяжка ісці, таму што ногі абсоўваліся ў гарачым пяску, а ты ішла побач са мной, не адстаючы, хоць і змучана цягнучы за сабой ногі ў стрэпаных валёнках, тых самых, у якіх я цябе дома накінуў. А мне, нягодніку, нат і не падумаць, што ты мне бабай магла б быць па гадах, нат і не падумаць пра твае хворыя ногі...

А пасля ты лягла... і памерла... І я не мог ні плакаць, пі слова сказаць, а толькі стаяў пад табою, глядзеў і глытаў горкі-горкі цяжар, што напіраў у горла. Сталася гэта вельмі хутка,— мне нават не помніцца, як гэта было. Аказалася толькі, што ты ляжыш на пяску, выцягнуўшы ўздоўж сябе сухія, спрацаваныя рукі, нізка над вачыма павязаная чорнай, аслабленай і насунутай на вочы хусткай. Вочы назаўсёды зачынены, і ўвесь твар высахлы, і дзіўна тырчыць над ім тонкі нос з горбікам, такім самым як і ў мяне... А над табой — агромністая, панурая піраміда. (Гэта такая вострая гара, складзеная з вялізных камянёў, калісьці даўно-даўно, беднымі егіпецкімі нявольнікамі, на загаду іхніх бяздушных паноў-фараонаў. Здаецца, што я ці Міхась чыталі табе пра гэта.) І толькі мы траёх па пустыні: панурая піраміда, ты і я... Дый то толькі я, бо адзін я жывы. Я азірнуўся навокал: пясок, пясок, пясок... Нідзе ні душы, пі тых бедуінаў па вярблюдах, пра якіх пішуць у кнігах, ні далёкіх пальмаў над травою і халоднымі кры ніцамі!.. І я зразумеў, што куды я цяпер ні бяжы — хоць на край свету — нідзе не знайду цябе, як не знайду тваёй душы, твайго голасу, твайго стомленага, ласкавага погляду ў тым, што вось перада мною...

І раптам, як гэта бывае ў сне, і ты, і піраміда прапалі, і засталася адна толькі твая чорная хустка, зацягнутая моцным вузлом. Моцным, бо я глядзеў на яго і адчуваў, што мне не развязаць яго ніколі... Я заплакаў і прачнуўся.

Успомніў, што ты жывая, што смерць твая — сон, мана, і плакаў ужо іншымі, шчаслівымі слязьмі. Хацелася смяяцца, гаварыць некаму, што ты жывая, што я магу яшчэ сказаць табе, што я...

Над бляхай, што закрывае маё невялікае акно, каб відаць было толькі неба, паварушваліся лісты каштана, залітыя ранішнім сонцам. Потым пад імі, на зрэзе бляхі села чырванагрудая ластаўка. Яны, бачыш, гнездзяцца і пад астрожнымі вокнамі. Села і штосьці стала шчабятаць. Відаць, да тых, што ў гняздзе, вышэй.

А мне няма з кім гаварыць, апроч цябе... І таму, калі дзяжурны салдат прынёс маю каву, я папрасіў яго далажыць шэфу,— так называюць начальніка нашага вайсковага арэшту,— што я хачу напісаць пісьмо.

— Скажы, што матцы.

— Шэфуньця не ма,— адказаў салдат,— і до полудня не бандзе.

Ледзь я дачакаўся, пакуль ён вернецца. І вось, нарэшце, пішу.

Старэнькая мая! Даруй мне за ўсе мае крыўды, за грубасць, за ўсё тое з Волькай, за слёзы твае і бяссонныя ночы! Цяпер я ведаю, што ты даравала ўжо мне ўсё, а я... Я толькі сёння сабраўся прасіць прабачэння. Я плачу перад табой, цалую твае страпаныя валёнкі,— не адны ўжо ты іх страпала, служачы нам! — бо я не варты цалаваць твае сухія, карэлыя, спрацаваныя рукі. Па мне не плач,— які ўжо я ні ўдаўся, а ўсё ж сваю справу раблю, пакутую за службу людзям, службу дабра, якую ты ўсё сваё жыццё ціха, цярпліва нясеш, зусім не думаючы пра гэта...»

1937

## ЯНА

...І толькі ён адчуў, што адзін у пустым, цёмным гумне, у вачах яго зноў пачала праходзіць яна — з раскрытымі для абдымкаў рукамі, з вачыма поўнымі ласкавай гутаркі без слоў.

— Ну што ж, мае міленькія, я ўвесь ваш, я нічога не магу, не абаранюся, я нічога да вас не маю,— казаў ён у думках, ціхенька, як гуллівае дзіця, скурчыўшыся і прыціснуўшы да грудзей складзеныя рукі. Ён часта, у сіле духа, дражніў свайго нячысціка, кажучы адно, а робячы другое. Бывала, раніцай не хочацца ўставаць, а трэба, дык ён казаў сам сабе з пакорным выглядам: «Ну што н?, голубе, я нічога да цябе не маю, паспі сабе», і тут жа ўсхопліваўся і, смеючыся, пачынаў апранацца.

Перш ён чуў яшчэ кваканне жабаў па загуменні, дзявочую песню на вёсцы, потым у цемры пачалі бязгучна лопаць і разыходзіцца пухпыры, нібы кругі на вадзе, тады замітусіўся і ў адзін бок праляцеў разоў колькі нейкі бясконцы мур, рабенькі ад зялёных і жоўтых цаглінак... І ён заснуў.

І нехта добры паслаў яму сон.

Здаецца, выходзіў ён з жоўтага, спеючага жыта, папярэшчанага куколем і валошкаю, ішоў зарослай, роснай мяжою, над якой ніўка з ніўкай шчаніліся каласамі, выходзіў на шырокую палявую дарогу, пакрытую сівым пытлёваным пылам. Успомнілася ў сне, што калісьці сніў нешта падобнае, і ад успаміну стала соладка, цёпла на сэрцы, як бывае ўспомніўшы вельмі важнае, пра што моцна забудзеш...

А над раннем яна, так лёгка пераможаная наяве, усё ж прыйшла. Такая нібы пакрыўджаная, ціхая, добрая, аднак жа не забылася быць такою, якою ён бачыў яе калісьці на кірмашы,— у меру, панадна поўнай, з вачыма сінімі, вялікімі, што, як гаворыцца, «трохі наверсе», з усмешкай, з якою яна глядзела на яго тады, радая, што і ён на яе загледзеўся. У светла зялёнай сукенцы і высокіх чаравічках, што зводзяць яго з розуму, яна прыйшла не анёлкам, а ва ўсёй панаднай пышнасці сваёй красы.

Тады яны (хто яны — ён не мог зразумець, а толькі ведаў, што яны, значыцца маладыя, вясёлыя, добрыя) сядзелі за сталом, а яна ўвайшла і стала, зірнула на яго поўным як быццам сораму і любага расчаравання поглядам, у якім ён прачытаў: «Мілы, я так хацела, каб ты быў тут адзін». Сэрца яго напоўнілася ласкай, і ён пачаў — недарэчнасць якая — гаварыць, як дзіцяці: «Мілая мая, ідзі, ідзі з намі кашку есці!..»

Але тут нехта ўзяў і павалок яго некуды ад усіх, прымусіў яго расплюшчыць салодкія вочы і ўбачыць раніцу, і гумно, і старэйшага брата, які будзіў яго. «Пачакай, пачакай, вось, вось ужо ўсё, зараз я...» — прасіўся ён думкай у брата і зноў нырнуў у соп. Ох, ужо не было іх, тых маладых і добрых, і «кашкі» тое пе было,— толькі яна адна, і ён кінуўся да яе...

Але брата нельга было ўпрасіць. Прыйшлося здацца. Ён прачнуўся і сеў, сонна пачаў падзяваць кашулю, а ў паўсне была яна, і ён усё ляцеў, ляцеў і ніяк не мог даляцець да яе.

— Добра, добра, калі ты вельмі!.. — сказаў ён уголас на сябе самога. І хацеў яшчэ дадаць: «Рассаладзеў!..»

— Што «добра, добра»? Яшчэ і. ўпінаецца, паніч! Уставай вот! — сказаў брат, ужо выходзячы на двор, чамусьці зачыніўшы за сабою вераю.

Сон расплыўся. Навокал — тое самае гумно — кроквы, латы, салома, дзве сахі з крыжаваннем уверсе, гнёзды ластавак на латах. Праз шырокія шчыліны старых дзвярэй льецца, дрыжыць растрывожаным пылам, коле заспаныя вочы, ляжыць палосамі на тану вясёлае сонца. Ён нацягвае порткі, нага заблытваецца ў калошыне, ён злуе, а потым ужо і смяецца, падскакваючы на адной назе.

Апрануўся і выйшаў з гумна. Пасля ўчарашняга дажджу вішні, яблыні, грушы бялелі ў квецені, здавалася, нанава зацвілі. Каля гнязда на гумне стаяў бусел і калупаўся ў пер'і. І ўсюды было поўна сонца, смеху...

Прыйшлі мужчыны — плазаваты дзеравякі. Як гэта добра, што на месцы старога хлява паставім новы! Як добра, што галава другога бусла тырчыць з гнязда! І гэтая ясная, росная раніца — добра!..

Ён выпусціў а хлява кабылу, напаіў, і калі яна задумалася над карытам і са зачэпленай валасатай храпы закапалі ў ваду буйныя кроплі — ён зноў засмяяўся. Жарабя, конік, таксама піў, як сталы, задумаўшыся.

Ён лёгка ўскочыў па Каштанку і паехаў. А на пашы, пусціўшы кабылу, радасна паплёхаў па празрыстых, цёплых дажджавых лужынах.

Пасля плазавалі. Ён трымаў брату дзеравяку, а яна не слухалася.

Пасля мужчыны курылі, седзячы па дзеравяках, а ён пастукваў абухам па кары. Раптам яму ўспомніўся соп, яна, тая «кашка», і стала так смешна!.. Паглядзеў на бусла, што паходжваў па спіне страхі,— стала яшчэ смяшней. Зноў засмяяўся.

Дзядзька Яўхім, маўклівы здаравяк, кінуў недакурак, плюнуў.

— Чыво смiёшся? — спытаўся яшчэ па даўняй салдацкай прывычцы «па-гарадскому».

— Так сабе... Мала чаго...

— А вот лучша падзяржы мне гэты цурубалак, а то круцiцца.

I зноў застукалі сякеры.

*1936—1937*

## ПРОСТА, І ЯСНА

Як праз сон, успамінаю сябе маленькім хлапчуком. Лазіў па падлозе і застраміў палец.

— Баліць,— пішчу я і лезу да мамы.

— Што баліць? — схіляецца да мяне яе малады, мілы твар.

— Пальчык баліць, во! — паказваю я і плачу.

— А мой жа ты гаспадарык,— кажа мама і вымае з кашулі іголку.— Я вось ей дам, гэтай больцы, калі яна вельмі...— І мама пора застрамку іголкай.

— Баліць! — верашчу я і адбіваюся — б'ю маму рукою па шыі і плачу яшчэ горш.

Мама бярэ мяне на калені.

— Трымай, Люба! — смяецца яна да мае сястры. Люба бярэ мяне за ногі і моцна трымае. Я крычу і ўюном выкручваюся з маміных рук. Сукеначка мая закасваецца, і я тузаюся голымі ножкамі ў панчохах і крычу як сцяць. Мама абнімае мяне і, трымаючы адной рукою мае рукі, выпорвае іголкай застрамку.

— Во, бачыш, няма,— кажа яна і пушчае мяне.

— Баліць! — пішчу я.

— Што ж баліць? Вось жа яна, твая болька. Дай яе, Люба, сюды — я ёй дам!

Люба паднімае з падлогі вялікую трэску і — ажно прысядае — рагоча. Мама б'е трэску і лае яе. А я смяюся і плачу. Пасля я шкадую маму,— яна папрасіла,— абнімаючы за цёплую, мяккую шыю. А яна туліць далонню мой мокры ад слёз тварык да свайго твару, і цалуе мяне, моцна і многа, і хукае на мой скурчаны пальчык.

Мілая, добрая мама! Вось бы цяпер мне цябе! Мне ж гэтак хочацца, каб мяне прыгарнуў, пашкадаваў хто-небудзь добры, разумны, назваў бы сыночкам, чаго я так даўно не чуў.

Але ж не! Вось разбалелася галава ад цёмных думак, а сэрца ад горкай, як чэмер, тугі. Усталі злыднямі цяжкія пытанні жыцця, і не можа іх разгадаць мой бедны блазенскі розум...

А я ж хачу, я намагаюся вырашыць іх,— я не жартую, не забаўляюся жыццём, а жыць хачу і жыць разумна! Хачу быць разумным, добрым, любімым. Хачу ды не ведаю сёння зноў, з чаго і як пачынаць? Уцякло ад мяне сёння ўсё тое, што я ведаў, а ўсё, што я пачаў рабіць, здаецца мне такім марным і смешным, дурным і агідным...

«Адзін, адзін, як тая трысціна на пожары,— думаю я пра самога сябе.— Ой, наскочыш ты недзе на ліха, наскочыш...»

І вось я плачу. Дзяцюк, людцы мае, сорам, а плачу.

* * *

Учора вельмі аслабеў душой, ababіўся. Вельмі нездаволены сабою, проста да адчаю. Што яно — гэтая слабасць мая? Страта веры, правільных адносін да жыцця, таго, што давала мне сілу і шчасце. Адчуваю моцна, мацней, чым калі-небудзь раней, што, каб стаць чалавекам, трэба пачынаць зноў ад пачатку.

...У акне мільганула нешта. Гляджу на двор,— стары жабрак.

Уваходзіць у хату, здароўкаецца і, без усякіх прадмоў, траскучым голасам цягне: «Найсвентша матка...» І я адчуваю, што будзь гэта гадоў са два таму назад — не вытрымаў бы, засмяяўся б.

Уношу яму талерку мукі. Дзед пакідае песню на паўслове,— відаць старого вераб'я,— і спехам настаўляе сваю торбу. Шшух! — ляціць туды мука, як у калошыну. А дзед гугніць:

— А каб вам гасподзь, а каб вам...

— Няма за што, дзеду,— гавару і гляджу на яго.

Сінія, бяскроўныя, апухлыя ад марозу рукі; на вусах намерзлі саплякі; на ўсю галаву лысіна. Старэнькі кажушок, увесь на латах, як чарапіцай пакрыты, разбітыя лапці.

— Вы, дзеду, відаць, і паабедалі б?

Ён глядзіць на мяне.

— А ты хіба дасі, што пытаешся?

— А чаму ж.

Дастаю з печы цёплае малако і кладу на стол акраец свежага хлеба.

— А мой жа ты галубок,— хмыкае дзед, цераз галаву здымаючы торбы. Ён садзіцца ля стала і есць, толькі вусы ходзяць.

— Адкуль вы, дзеду?

— Я, дзеткі, з Дзятлавіч, але сам жыву ў Горках, у дачкі, замужам тут.

— А што ж гэта вы так... ходзіце?

— Гэта, сынок, не я, гэта гора мае ходзіць. Хіба ж пайшоў бы чалавек? Ды паслаў бог зяця, каб ён падвярнуўся! Я, кажа, на цябе рабіць не буду!..

— А што, больш у вас нікога няма?

— Больш? Ёсць і больш. Сын недзе яшчэ перад вайной пакруціўся ў Амерыку ды прапаў. І дачка ў Расіі ёсць, настаўніца. Ды вось не піша... Раней пісала і грошы прысылала разоў са тры. Тады і на мяне ласкавей глядзелі. А цяпер во не піша... Э-хэ-хэ, дзеткі, каму стары міл? От, як былі малыя, як я цягнуў з апошніх жылаў, гадаваў, вучыў — тады і я... А цяпер...

І губы старога задрыжэлі.

— Ну, пайду я,— заварушыўся ён неўзабаве.— Дзякуй табе, голубе, дзякуй. Малачка цёплага на старыя кішкі — ніколі я не спадзяваўся...

— Ат, што вы, дзеду, што вы,— праводжу я старога з хаты.

І мне зноў добра. Мне няёмка нават і думаць пра тое, што я зрабіў чалавеку. Мне проста добра — і ўсё.

1936-1937

## ЯК НЕ ТАЯ

Дзед з бабай, як у той казцы, жылі ў старэнькай хатцы на курынай лапцы.

Стаяла хятка «без портак»: ніякіх, значыцца, за ёю прыбудовак не было, апроч плеценых, над колас крытых сенцаў, дзе стаяла Красуля і парасяты. Парослая куп'ём зялёнага моху, страха насунулася на аконцы, што паўпадалі, як выплаканыя вочы. Было іх тры: адно большае, ад вуліцы, а два ад падворку — малое і яшчэ меншае «проціўпечнае», толькі як цёрла паставіць. Паўпадалі аконцы даўно, нешта хутка пасля таго, як загінуў на вайне адзіны ў старых сынок Алісей. Дзед ababіў іх тады па шалёўках дошкамі, і ад вуліцы хатка стала падобнай да бабкі, калі яна падапрэ шчокі і тужыць.

На зіму абложаць хату бульбянікам, і стане ў ёй цёмна, як у яме. Пядзя ўздоўж, корх упоперак, і да столі рукой дастанеш. Кухні няма, і седала, і едала разам. З сяней, ад каровы і парасят, дыхціць, і з падпечка таксам а, бо курэй у бабкі — няма што грашыць.

Але старым і ў гэтай добра: сякая-такая ды свая, свой прытулак на старасць. Печ яшчэ добра грэла, быў ложак, палок. На покуці стол, а над сталом ад акна да акна — багоў штук з восем. На вокнах альвас у чаронках. Кот з кошкай. Скарынкі за старымі паядалі.

А ёсць жа хаты ў людзей! Хаця б вось у Змітрука, суседа насупраць. Нямецкі вугал, тры акны ад вуліцы, чатыры ад надворку. Авокны ж, вокны! — карову увёў бы. Ганачак пад бляхай і цымантовая, папярэшчаная скалачкамі і чарапкамі падмуроўка... Ды шмат у каго хаты хлёсткія ёсць — ну, у адных лепшыя, у іншых горшыя — але такое, як у дзеда з бабай, няма ні ў каго.

2

Куды, кажа, воўча, бяжыш? Па сірочае!

Трэба ж яшчэ было, каб стаўся зімой пажар.

Змітручыха сала пякла на прыпеку, і ўзялася ў коміне сажа. Выбегла сама, дзеці, Змітрук з гумна прыбег — давай тушыць. А гвалту не падымаюць — сораму баяцца, бо не раз ужо загаралася ў іхнім коміне, не раз лаялі нядбаліцаў. А вецер тады — як на злосць, і страха не на жарты ўзялася. Тады ўжо сталі крычаць і званіць у рэйку. Эх, бягуць людзі! І давай, хто ваду насіць, хто заліваць, хто суседнюю страху здзіраць, хто галасіць, хто набытак выносіць і выганяць з хлявоў жывёлу.

Вецер ірваў уздоўж вёскі, прэч ад хаткі старых, і яна не ўзялася. Бабка, як толькі ўбачыла вялікі агонь, зняла з покуцця багародзіцу і

выбегла з ёй на загуменне.

— Заступніца... прасвятая багародзіца... адвярні вецер у чыстаполіцу... пашкадуй людцаў! — малілася яна, трымаючы ікону тварам да агню.

Агонь жа, як шалёны, ірваў, шумеў, трашчаў, а над ім чорнай хмарай клубіўся, валокся над вёскай дым. На загуменні раўлі на снезе каровы, гайсалі і храплі на агонь апуджаныя коні, скавыталі, нагорбіўшыся, пацэплыя свінні, бэкалі авечкі, і, б'ючы ў крыллі, насіліся над дымам галубы. Цераз палі, з усіх бакоў, беглі людзі, гразнучы ў глыбокім снезе. Дарогай імчаліся з мястэчка пажарнікі.

А бабка ўсё малілася за хатку, зарок давала ўсім святым, што прыме ў яе пагарэлых — колькі ўлезе, хай толькі яна не згарыць. А дзед працаваў як мог. Адразу, як толькі ўзялася Змітрукова страха, ён выгнаў на гарод Красулю і парасяты, вынес з бабамі бабчын купар, кубелец з мукой, стол, ложак, дзяжу, багоў... А тады залез на страху з вядром вады і трыма мокрымі дзяругамі, разаслаў іх ад агню і сядзеў, пакуль агонь перакінула далей. Тады ўжо людзям пабег памагаць.

Спынілі агонь ажно на дзесятым двары. Спачатку хлопцы, як вароны, captured селі на Піліпаў будынак, сарвалі страху, бусакамі звярнулі верх, кроквы і латы, адарвалі ад хаты гаручыя сені з каморкай, расцягнулі і залілі. Ведама, сіла! Стаялі два насосы ля студні, адны ганялі ваду, а іншыя — і бабы, і дзеўкі, і дзеці — насілі яе: са студняў астаткі і з раўка на вуліцы, бо ад агню растала і пацякло. Насілі хто чым: вёдрамі, цабрамі, саганамі, місамі... Пажарнік, насунуўшы шапку і наставіўшы каўнер, стаяў крокаў пяць ад агню і кіраваў вужам. Вада з шумам біла па гаручым бярвенні і злізвала полымя.

— Так яго, так, Мітрапан,— крычалі пажарнікі,— вось, вось хіба атата!..

І перамаглі-такі, утушылі.

А на вуліцы — чыстае пекла! І кублы, і сталы, і сані, і ложкі, і аконныя рамы з пабітымі шыбамі, і багі, і вопратка, і лапці на багах... Затушылі,— раз'ехаліся пажарнікі, разышоўся чужы народ, а свае пачалі разбіраць з вуліцы набытак. У каго засталося гумно — вёз у гумно, у каго хлеў, хата, адрына — валок туды, у каго ж нічога не засталося — вёз да радні або да суседзяў.

3

Увайшоў дзед у сваю хатку — бачыць: сядзіць у іх на ложку хворы Аленін Натолік, у бацькавай калматай шапцы, і пазірае ў акно, як дагарае іхняя хата.

Натоліку дзесяць гадоў. Два тыдні ўжо, як яго раптам хапіла:

адняло і памяць і мову, і глытаць нічога не можа. Думалі — дойдзе, а тут яму адпусціла крыху, стаў і разбірацца, і гаварыць, і глытаць рэдкае.

Як толькі пачаўся пажар, Рыгор, мужык цёткі Алены, ахінуў Натоліка ў кажух, прымчаў да дзеда ў хату і пасадзіў на ложку, ля акна.

— Ты тут, Натоль, не баішся адзін? — спытаўся Дзед.

Малы замармытаў нешта, закруціў галавою і ледзь-ледзь аказаўся:

— Не.

— Зараз мама прыйдзе, не бойся.

Натолік зноў закруціў галавой, цяжка глытаючы сліну, і шэптам, з перапынкамі, спытаў:

— А што... дзеду... нашая хата... згарэла?

— Згарэла, унучак, згарэла,— сказаў дзед і пагладзіў малога па шчацэ вялікай, каравай рукой.

— А дзе ж... мы... дзеду... жыць бу... дзем... га?

Дзеду падкаціла пад горла, зашчымела ў носе, і па маршчыністым, замурзаным гарай твары пакаціліся слёзы.

— А ў мяне, Натоль, чым не хата? — расставіў ён рукі.— Вельмі выгодная хата! Мама прыйдзе, тата, Верка, Раман — а-ёй! — хай багаты дзівіцца, чым бедны жывіцца. А вясной зробіце новую, лепшую, як гэтая была.

Натолік ледзь-ледзь усміхнуўся і прамармытаў:

— Але... зробіш... якраз... ого... зробіш...

4

І праўда — прыйшлі ўсе: мама, тата, Раман, Верка, Маня, Ніна — поўная хатка, як завязаць. Паставілі ложак уздоўж, другі ўпоперак, навешалі на печ мокрых каптаноў, спадніцаў, портак...

Увечар бабка з Аленай запалілі ў печы, зварылі саган бульбы з мундзірамі, насыпалі на стол солі, палажылі бохан хлеба, сталі вячэраць. Абселі стол навакол, разгутарыліся...

Пасля палеглі спаць,— хто на печы, хто на лаве, хто на ложку, хто на таку. Дзед лёг на лаве, пад багі галавой, а баба на яго любімым месцы, на печы, бо на яе ложку палажылі хворага Натоліка. Алена прылягла каля яго, не распратваючыся. Натолік кідаўся і енчыў на ўсю хату: зноў яго ўзяло за мазгі, бедака... Разоў колькі ён спіхаў Алену з ложка, ажно яна, урэшце, устала і села ў нагах.

За акном была шэрая, адліжная ноч. На іхнім котлішчы тырчала толькі, як злыдня, белая печ з палавінай разваленага коміна і валяліся асмалкі.

Бедная!.. Закруціла галавой, хапілася за твар аберуч і ціха, наўз-

рыд заплакала.

А ўсе спалі, саплі, храплі. У хатцы было душна, як у пекле, мляўка і кісла ў роце ад смуроду прэючай на печы мокрай вопраткі.

— Ах... ма-мач-ка... мая... да-ра-жэнь-кая-а-а!..— мармытаў гарачы, як жар, Натолік.

— І дакуль будзе гэтак? І калі ж палепшае? Божа мой, божачка, аха-ха!..

На печы заварушылася бабка.

— Аленка, ты плачаш? Не плач, галубка мая,— аказалася яна.— Які бог намачыў, такі і высушыць. Табе і легчы недзе. Ідзі да мяне, рыбка, тут цёпла, прастора.

Алена, хліпаючы, палезла на печ, да старое. Бабка падсунулася да сцяны, пад пляцёнкі цыбулі, і Алена легла каля яе, падлажыўшы пад сябе далоні.

І бабка расказала ёй, як калісьці, гадоў сорак таму назад, у іх дома, калі яна яшчэ дзеўкай была, таксама вось пагарэлі.

— А потым, бог даў, пабудаваліся, абжыліся. Праўда, цяжка, але што ж — ці ты плач, ці галасі, то рады не дасі,— гаварыла яна.

Алена патрохі супакоілася, Натолік перастаў кідацца, і бабы паснулі.

5

Жылі разам доўга, да лета.

У Рыгора ад пажару засталося толькі гуменца. Вясной перайшлі ў яго спаць маладыя і сам, а ў хаце засталася Алена з Натолем, які надзіва ўсім паправіўся і пасвіў авечкі.

Каля акна стаяла, як патароча, іх вялікае ложка, на ўсю, здаецца, хату.

Хату Рыгор паставіў лепшую, як меў. Пакуль не было печы, варылі ў бабкі. Цесна, нядобра, а каму найгорш — бабцы: заўсёды трэба дзве печы адстаяць. Бабка любіла чыстату,— хатка ў яе тыя разы, як шклянка,— а тут яе ў цеснаце, чыстаты гэтай, не ўтрымаеш. Зімой, не тут кажучы, было нават, што і вошы пайшлі. Бабка была жанчына ціхая, талковая, а Раман з Аленай увесь век жылі як кот з сабакам, а тут, ведама, бяда, што дня грызуцца. І прыкра бабцы, хоць ты ўцякай.

Але яна памятала свой зарок на пажары, ды і шкадавала Аленіных — дзе ж ім дзецца? — і моўчкі цярпела.

Найгорш ёй надазоліла гэта вялікае ложка.

Пасля і Натолік з Аленай перайшлі ў сваю хату, а ложка ўсё стаяла, быццам аб ім зусім забыліся. І сказаць не скажаш, ды і не варта:

колькі часу хораша пражылі, каб не пазлавацца. І цярпела.

Аднак прыйшоў і гэтаму канец. У жніўні ўжо, перад святам прыйшлі Аленіны дзеўкі і забралі ложка дахаты.

Адразу свет адчыніўся ў хатцы.

— Дзякуй богу міламу: ім свае, а нам свае,— усцешылася бабка, ды адразу за венік. Вымела чыста куток і, шчаміўшы дзясны з трыма апошнімі зубамі, прыцягнула сюды свой вялікі купар, на яго былое месца.

Сонейка глядзела ў хату, а ў сонейку варушыліся ўзнятыя венікам пылінкі. Села на купры шэрая кошачка, прыгрэлася на сонцы і задрамала.

Неўзабаве прыйшоў дахаты дзед,— ён Красулю пасвіў на невадзе,— азірнуўся па хатцы, расставіў рукі і засмяяўся:

— А ведаеш, Марта, як не тая хата зрабілася, дальбог!..

*1937*

## ЦЮЦІК

1

Ён нарадзіўся ў лесе, у двары таго дзядзькі, што пільнуе лес. Спачатку нічога не бачыў і ніяк не называўся,— жыў сабе вобмацкам, ды ўсё. Было нешта вялікае, калматае, цёплае, у чым ён хаваўся разам са сваім чорным казытлівым чмысікам; там жа была нейкая соска з крынічкай цёпленькага малака; а нешта вялікае, добрае грэла цюціка, абнюхвала і лізала, пяшчотна і многа. Было яшчэ нешта другое — маленькае, цёпленькае; яно тоўхалася з ім разам у пушыстай аўчыне і, заблудзіўшыся, дарма намагалася адабраць у яго соску з малаком і ўсё мармытала, усё пахныквала...

Пасля цюцік стаў бачыць і ўцяміў, што тое вялікае нешта з пушыстым цёплым кажухом і соскамі — гэта яго мама, калматая сука Муха, а цёпленькі мармытун — брат, такі самы шчанюк, як і ён. З ім разам цюцік ссаў матку, пасля хлябтаў малако з чарапка, гуляў на двары і ў будзе на саломе.

І ніколі яму на цямок не ўзышло, што з ім будзе далей.

Аднойчы маці недзе пабегла, а яны з братам сядзелі ў будцы і глядзелі на двор. Церушыў дождж, на будку капала з яліны, і не хацелася нават носа высаджваць на двор.

Цераз леснікову сядзібу, дарогай, ехалі фурманкі з дровамі. Дзядзькі спыняліся каля студні і паілі коней. Яны цмокалі на шчанят у будцы, гаварылі пра іх, але ніхто не чапаў.

А пасля дык едзе адзін толькі дзядзька на сівай, пацярушанай грэчкай, кабыле. Спыніўся каля студні, раскілзаў сваю здыхатую ды давай цягаць ёй ваду вагой у старое заплеснелае карыта. П'е Сіўка, а дзядзька падсвіствае ёй і глядзіць на шчанят. Пасля гэта — шлэп, шлэп у лапцях — падышоў да буды.

— І-і,— кажа,— якія харошанькія!

Усадзіў у буду руку і пагладзіў іх, прыгаворваючы: «Цюценькі, цюцькі...» За каршэнь выняў цюціка з буды, узяў на рукі, пагладзіў, пагаварыў, зноў палажыў, а сам пайшоў у хату.

З хаты выйшлі яны ўдвух з дзедам Арцёмам.

— Я ж кажу, чалавеча,— гаварыў дзед,— бяры хоць абодвух, балазе і сукі няма.

— Дзе там, дзеду, абодвух,— адказаў дзядзька,— будзе мне і з адным моташна. Баба ў мяне драпежная, сама ніяк не наесца.

— Эй, а што ж ты? Мужчына, я ж кажу, як той мядзведзь, а бабы баішся.

— Якое там, дзеду! Воўк сабакі не баіцца, але не хоча звягі слухаць.

— Я ж і кажу — часцей нос падціраў бы.

— А ўжо ж неяк там будзе.

— Дык у што ж ты яго возьмеш, чалавеча?

— Мяшэчак вось...

І дзядзька зняў з воза мокры мех з рэшткамі сена.

— Дзяржы ж т'каля. Я ж кажу — ядуць усё, як старыя, і ў роце чорна: злосныя.

Дзед выняў цюціка, расшчаміў яму зубы, паказваючы дзядзьку цюцікаў чорны рот, і апусціў шчанюка ў мех. Мех завязалі, і цюціку зрабілася цёмна. Дзядзька закурыў з дзедам з бараняга капшука, сунуў яму нейкую нуду на махорку, прывязаў мех на дровах і паехаў.

Была позняя, шэрая восень, гразка, і на звілістых лясных дарогах — глыбокія выбоі. Дровы моцна калывала і трасло, мех качаўся на паленах. Цюціка ў мяху кідала ўва ўсе бакі; у цемры ён тоўхаўся носам у бясконцае мокрае палатно і жаласна пахныкваў.

Лесам, лесам, пералескамі — і дзядзька выехаў на шырокі гасцінец. На глыбокім пяску перастала трасці. Цюцік супакоіўся, сагрэўся трошкі і заснуў.

2

Дахаты дзядзька прыехаў позна. Мокры, ацэплы, галодны. Распрог сваю Сіўку, упусціў яе ў хлеў, узяў на адну руку мокры хамут з шорамі, а ў другую — мяшок з цюцікам і пайшоў у хату. Там сабе лямпачка свеціць, цёпла, і дзеці яго, Міхась і Волька, гэтак радыя будуць пярэстаму цюціку!..

— Што гэта, дзеці? — усміхаецца дзядзька, прыўзняўшы руку з мяшком.— Можа, шышкі яловыя або шэранькі зайка? Не, гэта вось што!

І дзядзька вытрас цюціка на падлогу.

— Сабачка! Мама, сабачка! — закрычалі Міхась і Волька.— Ах ты, наш малышок! Цюценька мой, і лапкі рабенькія, сыценькі, цёплы... Мама, дай яму малачка! У кошчын чарапок!

— Яшчэ чаго не было,— аказалася маці.— Мала яшчэ, што галубоў гіблота, дык новую трасцу прывалок. Дальбог, і гэтага звяду! Не бачыла смуроду!

— От ты сціхні,— адказаў ёй бацька.— Якраз табе хлеба не хопіць. Засцігнула. Есці лепш давай!

Ён распрануўся і сеў каля стала. Волька падышла да яго, палажыла яму ручкі на калені і спытала, пазіраючы ў вочы:

— А што мы яму, тата, есці будзем даваць?

— От, пакуль малачко будзе хлябтаць, а потым бульбу свіную. Гэтак, як Курцік, памятаеш? — адказаў тата і пагладзіў Вольку па галоўцы.

— Пэўна,— аказалася ад печы мама.— Свіную бульбу. А потым заколеш яго. На вось, жары! — паставіла яна на стол капусту.

Але бацька ўстаў і пайшоў да паліцы, на якой стаял! збанкі з малаком, завешаныя зрэбнай полачкай.

— Хацяж поўнага не пачынай, каб цябе ліха заела! Дай я сама!

А першы з краю збанок якраз быў поўны. Хацеў бацька ўзяць яго, на злосць бабінай звязе, але падумаў і ўзяў пачаты. Міхась падставіў кошчын чарапок, тата наліў малака, узяў цюціка за каршэнь і ткнуў мызачкай у малако. І малыш пачаў прагна хлябтаць.

Міхась і Волька падскаквалі ад радасці і смяяліся на ўсю хату. Тата паджургваў сваю пасаломленую чупрыну і таксама емяяўся.

А той, за каго пасварыліся — галодны цюцік з рабенькімі лапкамі,— хлябтаў, разгірачыўшыся, і толькі пачмыхваў, павільваў тоўстым хвосцікам і ўвачавідкі таўсцеў.

3

Маму звал і цётка Алена.

І вось гэтую зіму нешта дрэнна куры нясліся ў цёткі Алены. Адна марока. Выпусціць яна іх з падпечка, хопіць адну-другую за крыллі, памацае ды лаецца:

— А каб вас каршун падзёр! Адно павыядаліся, як копы!

Шэраму пеўню пападала па пер'і, і, адскочыўшыся, ён нездаволена кудкудыкаў, не ведаючы, чаго яна хоча — дурная баба...

— Агрызайся яшчэ, ціпун табе на язык, жарабец ты!

На «шчадра» цётка Алена накарміла іх куццёй у вялікім абручы з кадушкі, і неўзабаве Драпясценькая выйшла з падпечка, скочыла на лаву і на ўсю хату раскудахкала, што яна знеслася. Мама паслала Міхася пад печ з газоўкай.

— Ёсць! — крыкнуў Міхась.— У гэтым куточку яйцо, а ў гэтым яшчэ адна сядзіць, жоўтая!

Ад крыку яго закалыхаўся агеньчык газоўкі і цёмныя цені, а курыца спалохана паклявала галавой і кудахнула.

— Ну, вылазь, а то спудзіш яе! — гукнула маці пад печ, і Міхась вылез на хату.

— Мне зварыш, мама, мне! — затупала Волька.

А Міхасю проста хацелася самому кудахкаць ад радасці. Ён падсунуў яечка цюціку пад нос. Шчанюк панюхаў яго, завіляў хвосцікам і аблізаўся.

— Яшчэ чаго не было! — крыкнула мама.— Навучы, бацькаў сынок! Дай сюды яйцо! А ты вон, здыхата!

Мама адшпурнула цюціка нагой. Шчанюк заплакаў і лёг у сваім кутку.

Плакаць яго навучыла цётка Алена. Так з самага рання і лічы, што як дзядзькі дома няма, дык і паплачаш. І каб сказаў было за што! Хоць бы надоечы. Знайшоў ён у каморы пад скрыняй палавіну каравай халявы ад старога валёнка і панёс яго дзе-небудзь лепш перахаваць. А цётка стрэла яго ў сенях і дала прачуханца махрамі. А тут, як наліха, з кожным днём усё цікавей рабілася пашукаць што-небудзь, знайсці ды занесці ў лепшае месца. І заўсёды амаль спаткаешся з гаспадыняй і яе пякучымі махрамі...

Цётка нібы знарок шукала прычыны, каб звесці цюціка. І такі знайшла.

Аднойчы яна выпусціла курэй з падпечка, а сама пайшла недзе з бязменам, прычыніўшы дзверы. Малых не было дома: Міхась пайшоў у школу, а Волька да свае сяброўкі Тоні. А сам дзядзька паехаў у млын. Цюцік убег у кухню пагрэцца, а пасля — нюх, нюх, нюх,— пад печ. А там тры яечкі, такія самыя, як Міхась панюхаць даваў — цёпленькія, гладзенькія. Цюцік узяў адно асцярожненька ў зубы, панёс.

— О, гэта дык але! — стрэла яго ў сенях цётка. Схапіла цюціка за хвост, развязала другой рукою фартух і давай яго сцябаць, прыгаворваючы: « А я табе! А я табе!» А цюцік крычаў на ўвесь свет. Цётка вынесла яго на двор і шпурнула цераз плот на мерзлую раллю.

Снегу было няшмат, і цюцік выбіў лапку. Заенчыў, заплакаў. Пасядзеў, палізаў бальку, хацеў ісці, але толькі ступіць — заенчыць зноў. І ён пачыкіляў: тры з палавінай, тры з палавінай... Плот быў новы і зусім шчыльны. Як ні намагаўся цюцік ушыцца на свой двор — не было нават малое дзірачкі. Тры з палавінай, тры з палавінай... «Ы-хы-хы! Ы-хы-хы!..» Пасля плот кончыўся, а навокал усё снег ды снег, а па снезе паскрэбвае сярдзіты вецер.

Чыкіляў, чыкіляў цюцік і апынуўся пад нейкім гумном. З дзядзькавага хутара, сам таго не ведаючы, ён прычыкіляў у вёску. Пачынала шарэць. Цюцік кульгаў па вуліцы і пахныкваў. Падышоў да нейкіх варот, цікнуў спаднізу і палез на падворак. Пуста навокал, і сені зачынены. У наступных дзвярах у куточку была дзірка, для ката. Цюцік панюхаў і палез. Цёмна. Нюх, нюх, нюх... Адна толькі шорсткая

кастрыца. А потым раптам — шшух! — і паляцеў кудысьці старчма. Стукнуўся аб нешта цвёрдае, вострае, перакуліўся і ўпаў на сырое каменне. Пабіў лабаціну, спіну. Плакаў, плакаў, як той бедны Якаў, і ўсё яму пан бог аднакаў. Тады ён змоўк і прыслухаўся: ціхенька, цёмна, толькі пахне квашанай капустай і сырою бульбай. У кутку шарганулася нешта па дошках, а пасля запішчалі, зацяўкалі пацукі.

«Ну,— падумаў цюцік,— прападу я тут за нішчымны квас...»

4

У Габрусёвых у хаце была толькі бабка Хвядося. Шарую гадзіну спраўляла сабе ды паглядала ў вокны, што гэтак позна, а хатніх — няма ды няма. Яны пайшлі да малатарні да Якіма — і Сцяпан, і Настуля, і Рыгорка.

— А-а, што ж гэта так забавіліся? Скаціне не давана. Хм, пайсці хоць бульбы ўнесці.

Бабуля апранула кажушак, узяла кошык і патэпала ў пагрэбнік. Падышла да жарала, кінула туды кошык і ну ступаць на лесвічку.

— А-я-яй! — заенчыла нешта адтуль.

— Пан Бог з намі — што ж гэта? — Уздрыгнулася бабуля ды ходу.— Хай яго ліха, што ж гэта? — Пастаяла, падумала.— Пайду хіба газоўку вазьму.

Але старая і з газоўкай пабаялася. Стала зноў чакаць хатніх. Прыйшлі яны, і бабуля ім расказала.

— Хадзем! — сказаў Рыгорка.

Яны пайшлі. Хлопец палез у яму.

— А мо не лезь, унучак, хай яго...

Шаркнула запалка, і ў жарале засвяцілася.

— Сабачка, баба, сабачка! А мой жа ты!

З ямы пачулася пахныкванне.

Цюціка дасталі і панеслі ў хату. А там ужо мама агонь запаліла.

— Бедненькі, цюцька, галодненькі,— шкадавала яна.

— Хай яго! Толькі напалохалася,— смяялася бабуля.— Дальмала: што за звер?..

— От, бедавалі па Лыску. От і сабака будзе. Бачыш, які ладны,— казаў тата, папыхваючы люлькай.

Налілі цюціку капусты.

— Бачыш, бачыш, аж чарапок падскоквае! — смяяўся тата.

— Нейкая ж зараза ножку перабіла,— гаварыў Рыгорка, прыглядаючыся.

Тата адкашляўся і плюнуў.

— Мала хіба дурняў на свеце,— сказаў ён і зноў зацягнуўся дымам.

— От дзе — буху, буху, як у бочку, а ўсё смокча махнушу гэтую,— сказала мама.

А бабуля Хвядося:

— Што ж ты,— кажа,— другі б'еш скацінку: скацінка ж немая, мілыя, яна не скажа...

А цюцік толькі аблізваўся ды павільваў тоўстым хвосцікам.

Рыгорка занёс яго ў хлеў, пагладзіў і палажыў ля Гнедчынага катуха, а сам пастаяў і пайшоў.

Цюцік пачаў прыслухоўвацца, нюхаць. Пад ім навокал пахла конскім гноем і аржаной саломай, а над галавой хрупала сена кабыла. Пачуўшы сабачы дух, яна панюхала і, не датыкаючыся да цюціка цёплымі, валасатымі губамі, з агідай пырхнула. Цюціку здалося, што і яна ўжо ведае пра ягоную крыўду і шкадуе яго. Ён пахныкаў ёй трохі, а потым змоўк. Гнедка хрупала мерна, павольна, час ад часу спыняючыся, каб насцеражыцца, паслухаць...

Ах, як добра цюціку, як смачна ў жываце, які ён пузаценькі, цёплы і мляўкі!

Цюцік скурчыўся і шчасліва заснуў.

## МАРЫЛЯ

У багатага дзядзькі Жука, без пары нарадзіўшы малое, памерла нявестка Марыля.

Звялі маладзіцу са свету сямейнікі. Свёкар быў звер і скупеча, «зямля ненаежная». А сынок — яшчэ горшы. Воза сена не мог накласці, няўдаліца, і ўсё злаваўся. А хто ж заўсёды першы пад рукой, як не жонка? І ёй даводзілася часта. Як толькі пажаніліся, дык і набіць яе не мог, пакуль не навучыўся. Свякроў была вельмі ж драпежная ў працы. Калісь нават дзяцей на полі ці ў градах раджала. Цяпер хадзіла згорбіўшыся і ўсё подбегам, трушком, быццам ёй горш, як усяму свету, часу не хапала. На кірмаш сядзе ехаць і то, здаецца, бегла б на возе, каб хутчэй справіцца. На добры лад, ёй ужо зусім не след было працаваць, а яна такі ўсюды трапляла. Усю малацьбу цапамі пераб'е разам з маладымі. Тады ўжо, бачыце, насмела можна пілаваць: «Я вось і то, а вы-то, што ж?» Жміндзіла — хай бог крые...

Марыля — сірата з далёкай вёскі. І ліха ж яе падагнала выйсці за гэтага Івана! Жыла яна дома пры тату і браце. Пасля тата памёр і адпісаў ёй ажно паўтары дзесяціны, бо яна была з ганьбай: на правай руцэ тры крайнія пальцы наўскасяк аджавала трыбай малатарні. Ад залатой рукі першай у вёсцы жняі і праллі засталася толькі кукса. Марыля абкручвала яе хусцінкай, спачатку ад болю, а потым ад сораму. Сваты пачалі абмінаць яе, і маладосць завяла без пары. Марыля была ціхая, пакорная работніца і жаль свой дзявочы хавала глыбока: па вачах — што пасумнелі, праўда, пасля прыгоды — немагчыма было пазнаць, колькі слёз праліваюць яны ў адзіноце. Думала ўжо дзеўкай векаваць, і з думкай гэтай крыху лягчэй было датуль, пакуль у хаце спачувалі. Пасля ж прыйшлося рознае пачуць ад брата і ад братавай — што і казаць... Марыля зрабілася зусім чужой і лішняй у татавай хаце і ўсё больш ды больш стала думаць аб замужжы, — хоць які, абы свой куток.

І вось тады падагнала Івана.

Паслухаць было, што казалі аб ім людзі, але нейкі туман найшоў на дзяўчыну, нічога не бачыла. Прыехалі яны тады — мамачкі! — гарэлкі, цукерак, віна... Сватам быў нейкі купец-свінабой. Апрануты абодва па-панску. А як пачаў сват гаварыць — паслухаць толькі! Іван не спадабаўся ёй адразу. Расказвае, колькі ў іх поля, кароў, свіней, як ён з мамаю лён палоў. І ўсё ікае ад выпіўкі, усё садзіць у вочы дымам папяросы. А нос, нос! — быццам нечым наліты, упяўся ўніз і цягне за сабой лупатыя вочы. Прыйшлося, аднак, пагадзіцца, бо цяжка было спадзявацца на лепшага.

Пра пасаг гаварылі нямнога. Паўтары дзесяціны — гэта была амаль палавіна ўсёй татавай гаспадаркі. Прасіць у Мікіты, Марылінага брата, больш, можна было хіба толькі пазычыўшы вачэй у сабакі. Аднак сват і са сваімі вачыма не пасаромеўся патрабаваць яшчэ і карову.

— Малачко трэба не мне і не вам, яно трэба дачушкам, сынкам, — гаварыў ён Мікіту. — Справа наша старая, а іх — маладая. Малады з маладушкай сюды-туды — і дачушка, праз гадок — сынок, а то і зноў дачка, і што ж, — падай малачка! Не скупіцеся, пане Мікіта, і будзе ўсё на гэтым шыта-крыта...

Мікіта быў чалавек гарачы, часта лаяўся, соваўся нават і з кулакамі, аднак доўга спрачацца са сватам не змог, — уступіў і карову, хоць у хаце былі таксама малыя. А выпраўляючы Марылю, расплакаўся, як бабёр, і ўсё аддаў пасля, і вяселле справіў з апошняга, як усе добрыя людзі.

Увечары, напярэдадні шлюбу, дзяўчаты, плетучы вяночак з руты, заспявалі:

Зборная субота настае,
Марылька дружыну збірае.
Сама маладзенькая між усіх,
Схіліла галаваньку ніжэй усіх,
Схіліла галаваньку з касою,
Паліліся слёзанькі ракою...

І Марыля заплакала. Заплакала не вясельнымі слязьмі, для звычаю, а сапраўднымі, сірочымі. Гэтак ясна зрабілася ўсё, — што без долі сцерлася маладосць, што і цяпер на шчасце спадзявацца цяжка...

— Не плач, галубка, змірышся, — шаптала ёй цётка, маміна сястра, і, азірнуўшыся на Стэпку, Мікітаву бабу, зашаптала цішэй: — Не будзеш хоць хлебу ці добраму слову жадна, не тое, што ў гэтай брыдоты...

Ды Марыля не чула, не разумела нічога. Яна ўсё плакала, прыпаўшы галавой да цёткі.

...Грызня, пабоі, беспрасветная праца... Дома нават з куксай работніцай была, там жа таўкачом празвалі. Пераступі — кепска, недаступі — яшчэ горш! А пасля ж яшчэ старыя схамянуліся, што мала іх Ванечка пасагу ўзяў... Тады пайшло яшчэ горш.

І чаму ёй не ведаць было ў пору пра Івана, чаму не знайшоўся добры чалавек ды не сказаў ёй гэтага, чаму яе самую асляпіла?.. Лепш бы ўжо наймічкай век звекаваць.

Гэты дурань ніяк не мог ажаніцца. Куды не ткнецца — прымуць, — вядома, багаты, — але паглядзяць на самога, паслухаюць, што аб ім

людзі гавораць, і аддадуць утратнае. Тады ўзяўся ажаніць яго той самы пан Чыжэўскі, купец з мястэчка, свінабой. От, сабакар і п'яніца, ды брахаць вельмі спрытны, — хоць каго закалыша. Як яна ненавідзела пасля, даведаўшыся аб усім, яго тлустую свіную морду!.. Сыходзіла з хаты, абы ён заехаў да іх.

...Апалі дзявочыя грудзі, уваліліся вочы, кукса была вечна абкручаная лапінкай, а левая рука карэлая, парэпаная. Спачатку хоць песні спяваліся. Абы толькі ўспомніла пра долю, — у кожным напеве сірочай тугі і жалю чулася нешта такое, што душыла за горла, займаючы дух, і па-дзіцячы хацелася плакаць: «Мамачка, галубка!..» А потым і гэта зрабілася надта балючым.

* * *

На другім годзе пачалася Марыля першым дзіцем. Але і гэта не ратавала яе ад здзеку. На восьмым месяцы сталася тая бяда, што звяла яе ў дамавіну.

Перад касавіцай кончылася ў пограбе бульба, і стары загадаў бабам ачысціць пограб ад бруду. Сам ён крыў гумно ў суседа, а Іван паехаў у млын. Марыля ўлезла ў яму, наскрэбла першы кошык гразі з бульбяной гніллю і кастрыцай і, падаючы яго наверх свякрові, — раптам войкнула, кінула кошык і села...

Як толькі і прайшла тая ночка!.. Пад раніцу як быццам адлягло. Свякроў знала, што будзе бяда, і таму не пайшла ў лён, а выйшла палоць грады. «Ну ж і свет пайшоў, — мармытала яна, — абы трохі, дык і на табе...» Стары правіў у хаце хамут. Марыля ляжала на палку, з каптаном пад галавой, і, не сціхаючы, стагнала. Раптам яна прарэзліва войкнула раз і другі... Пачалося. Стары яшчэ ніжэй згорбіўся над хамутом, а пасля такі не вытрымаў, — выйшаў і паклікаў старую. Абціраючы чорныя рукі падолам, цётка Катрына патрухала ў хату. Стары пастаяў ля плота, уталопіўшыся ў грады, пайшоў пад гумно, вярнуўся пад адрынку, зноў пастаяў пад плотам, тупа гледзячы па бацвінне, — і нідзе не мог знайсці прыпынку.

«Што ж гэта? — падумаў ён.- Спалохаўся, ці што?» — і пайшоў у хату.

— Мамачкі мае, а-а-ах, родненькія-я-а... — стагнала Марыля.

Не гледзячы туды, стары прайшоў і сеў над хамутом.

— А ты, таўкачына, чаго? — закрычала старая, убягаючы з кухні з чыгуном вады ў закасаных руках.

Стары вінавата згорбіўся і замітусіўся: за хамут ды ходу з хаты... Але і ў адрынцы ён не мог узяцца за работу. Слухаў. Марыля крычала хрыпла і дзіка, а потым зацiхла. «Відаць, па ўсім?» — падумаў стары. І

раптам чуе: дрэп, дрэп, дрэп ад сяней — ідзе яго Катрына.

— Ну, пакінь хамут, Сцяпан: трэба трунку зрабіць, — сказала яна, увайшоўшы ў адрыну. — Божа мой, Божа!.. І што ж гэта робіцца? — і раптам — а-ха-ха-а! — заплакала наўзрыд.

У нагах непрытомнай нявесткі ляжала нежывое дзіця. Стары зірнуў на яго і моўчкі пасунуўся і хаты. Узяў з каморкі сякеру, пілу, жменю цвікоў і пайшоў у адрыну. Рукі ў яго неяк дзіўна дрыжалі. Прысеў на калодцы і закурыў люльку. Супакоіўшыся трохі, узлез наверх і пачаў са стукам перакідаць дошкі, шукаючы патрэбнага кавалка. Выбраўшы паточаную шашалем шалёўку, скінуў яе наніз, паскроб трохі гэблікам, парэзаў і збіў трунку.

На той час вярнуўся з млына Іван. Ён увайшоў у хату, нічога не ведаючы.

— Падла ты, абармот крывалапы! — сустрэла яго маці. — Ці раз ужо я казала табе!.. Дарвешся — як да скаціны, каб цябе на скулы збіла, каб цябе! Цяпер вось маеш! Шморгай носам, каб цябе пятля зашмаргнула!..

Гэтым разам Іван змаўчаў і панура паклышаў з хаты.

Старая выцягнула са свайго падгалоўя брудную, працёртую на спіне кашулю, адарвала лапіну, угарнула ў яе нямыты трупік дзіцяці і палажыла яго ў трунку. Няўмела стукаючы малатком і загінаючы старыя, павыпростваныя цвікі, сама забіла века і, паклікаўшы з сяней Івана, загадала яму несці за ёй трунку.

Марыля заварушылася, павярнула галаву і паглядзела.

— Ах, ма-мач-кі-і... Мама, сынок?..

— Нежывое, дзеткі, нежывое... Ніхто гэтаму не прычына. Вось панясём, пахаваем...

Марыля працягнула рукі, хацела абаперціся і ўстаць, але не здужала. Рыўком толькі падняла праставалосую галаву, апала назад на каптан і, заплюшчыўшы вочы, заплакала.

Старая ўзяла ў сенях рыдлёўку і патрухала на загуменне. Следам за ёй ішоў Іван, несучы пад пахай трунку.

...Назаўтра рана, той самай загуменнай сцяжынкай, ішлі на могільнік чатыры мужчыны з рыдлёўкамі: капаць другую, ужо большую магілу...

* * *

— Маўчы ты мне лепш са сваім «па-харошаму!». Ён яе са свету звёў, а ты... Удушыць яго мала за гэта! Я з яго скуру палосамі драў бы, а ты!.. — крычаў Марылін брат Мікіта.

Яго пухкія маладыя губы дрыжалі са злосці пад рыжаватымі, запушчанымі вусамі. З-пад шапкі лезла калматая, нястрыжаная чупрына,

а вочы блішчалі, як з падпечка. З рота нясло гарэлкай, і, гаворачы, ён пырскаў слінай на свайго швагра, Сымона, які сядзеў побач з ім. Мікітава баба, падсухая, белабрысая Стэпка з хітрымі, як у Сымона, вачыма, сядзела ў перадку. Яны вярталіся з хаўтураў па Марылі. Вярталіся без пары, бо п'яны Мікіта расплакаўся са злосці і, схапіўшы ўслон, кінуўся да Івана. Іх разнялі, і хітры Сымон паспяшаўся ўцячы. Яны ехалі ўжо чацвёрты кіламетр ад Пагор'я, а Мікіта яшчэ ўсё трапятаўся. Толькі ўспомніць мёртвы Марылін твар і грукат жвіру па дошках труны — зноў хацелася біць насатую морду дурнога Івана, забойцы ягонай сястры...

— Эх, Мікіта, — гаварыў Сымон, — ты, бачыш, і на мяне ўжо злуеш. Тут, брат, ні бой, ні слёзы не памогуць. Ну што, наклеілі б нам, колькі б улезла, і ўсё... А трэба па-харошаму. Марылі не паднімеш, а пасаг трэба вярнуць. І поле, і карову. Дзяцей няма — чорту лысаму даруеш? Малады Жук — булава, ды стары хадовы чалавек, з ім без суда не абыдзешся. І ты не драмі ў шапку, а ў суд, па-харошаму, о! Тут яшчэ справа заблыталася, што поле змянілі, ды гэта таксама нічога.

— Гэта-то гэта, — згадзілася Стэпка, — а то запырскаецца, і ўсяго. Я і сама казала...

— Што ты казала? Я і сам ведаю, лепш за вас! Яна ў мяне не сястра, а сястрычка была, а ён!..

— Унь, машына, трымай! — перапыніла яго Стэпка. — Трымай хоць ты, Сымон!

З-за гары, бліснуўшы шклом на сонцы, якое ўжо заходзіла, з ровам выпаўз аўтобус.

— Я і сам сваю кабылу ўдзяржу! — крычаў Мікіта. — Ніякіх мне чарцей не трэба, сам гадаваў. Машка, глядзі!

А Машка ўжо заказырылася. Гэта была гнядая, яшчэ не да смерці худая кабылка, якраз тая гарапашніца, што валочыць мужыцкую долю.

— Трымай, каб цябе за грудзі ўзяло, каб цябе! — крычала Стэпка, але Мікіту відаць былі толькі яе разяўлены рот і рукі, якія з адчаем учапіліся за цапкі драбінаў. Вясёлы шафёр пачаў трубіць.

— Каб табе хрыпела ў горле, каб табе! — зноў крычала Стэпка.

Машку вось-вось пасадзіў бы на хвост, ды левая ляйчына, — вядома ж, уся на вузлах, — лопнула, і Машка паляцела цераз равок направа, у жыта. Воз сцялежыўся. Сымон, вырабіўшыся з-пад Мікіты, схапіў кабылу за аброць. Забыўшыся пра страх, Машка прагна хапала сівыя каласы красуючага жыта.

— П'яніца ты, абібок! Лейцаў людскіх няма! — барахталася з-пад

воза Стэпка.

— Дай мне, дай здыхату! — схапіўся Мікіта да Машкі. Ён хвастаў яе кулакамі па храпе, а кабыла курчылася ў хамут і адварочвала галаву, зубамі і губамі трымаючы зашчэмленыя каласы з сіва-зялёнай маладой саломай.

— Мала, мала яшчэ?..

Ад удару па косці храпы зайшлася болем Мікітава рука, а з Машчыных зубоў і губы пайшла кроў.

— Мала, мала яшчэ?..

Думаў, усю сваю крыўду выб'е. Пасля заплакаў, адышоўся. А яна толькі крутнула галавой ды зноў за каласы.

— Ну, і хіба ж ты гаспадар? Хіба ж гэтак трэба па-харошаму? Эх ты!.. — казаў Сымон, звязваючы ляйчыну.

Мікіта маўчаў. Бяссільная злосць вылілася на Машку, яго безадказную памочніцу, і ясна стала, якая яна, гэта злосць, горкая, дзікая і дурная.

— Памажы! — загадаў Сымон, беручыся складаць сцялежаны воз. Мікіта вінавата памог яму, а пасля папрасіў:

— Я лягу, Сымон, а ты за мяне пакіруй...

...Сонца зайшло, і пачалося змяркanне — ціхае, свежае, з расой і камарамі. Машка, ужо зусім забыўшыся пра крыўду, рупліва тупала па пяску, тоўхаючыся ўперад галубінай хадой. Брат гаварыў сястры аб тым, як ім трэба адсудзіць Марылін пасаг, — гаварыў спакойна, «па-харошаму». Сястра падтаквала яму. А мужык яе — бедны, аброслы Мікіта — ляжаў ніцма і не чуў: спачатку ён уздрыгваў ад глыбокага, недзе з-пад самага сэрца плачу, а потым заснуў і хроп.

«Вазьмуся, нябось, за яго!» — раз-пораз думала Стэпка.

* * *

— А справа, брат, вельмі простая, — казаў старому Жуку пан Чыжэўскі, — табе, значыцца, гэтак: бабе і сыну ўдзяўбі, што нябожчыца нявестка сама захацела свой пасаг прадаць, бо зямля была вам не з рукі. Вы хацелі тыя самыя паўтары дзесяціны ля дому купіць, а яна была гуляка: абы схадзіць хораша, з'есці, выпіць, цукерак, скажам, пасмактаць. Грошы, як вада, сюды-туды і перамыкала без толку...

— Неяк, бачыце, пане Чыжэўскі...

— Што тут «пане Чыжэўскі»... Сведкі — галоўнае. Ты, брат, сам павінен ведаць, не малы: не падмазаўшы, не паедзеш!..

— Я ведаю, я толькі да таго, ці ўдасца?

— Чаму ж раптам «не ўдасца»? Прысяга будзе, праўда, але хто ж яе сёння баіцца? Ну што, падумай, сведкі знойдуцца.

Гаварылі яны ў местачковай карчме, зашчапіўшыся ў баковачцы. На століку была бутэлька і закуска. Жук атрымаў учора павестку на суд з Мікітам за Марылін пасаг і, як з усякай важнай справай, прыйшоў з павесткай да Чыжэўскага. Гэта быў местачковы кулак, які нажыў на гандлі свіннямі тоўстую кішэню і яшчэ таўсцейшую морду. З кожным днём ён рабіўся ўсё больш ды больш падобным да свайго тавару і выглядам і натурай. Усякая подласць, пачаўшы ад недаважвання і недалічвання і канчаючы хоць бы на сённяшняй справе, рабілася ім спрытна і з ахвотай, абы толькі было выгадна. Жук штогод прадаваў два-тры ўкормленыя парсюкі, і паміж ім і свінабоем Чыжэўскім даўно завязалася нейкая прыязь. Марылін пасаг, праўда, прадалі з яе згоды і купілі столькі ж зямлі бліжэй. А таму цяпер трэба баяцца, што Мікіта адсудзіць яе...

— Ну, як ты, Жук, — надумаўся, ці мне шукаць?

— Што ж, хіба Лустач ці Свісток, — адказаў стары, падумаўшы.

— Абодва пойдуць, — сказаў свінабой. — А трэці ёсць у мяне. Гаваку Антося знаеш?

— Пэўна.

— Ну, дык ты іх ідзі пакліч. Абодва сёння на рынку. Ды, зрэшты, і Гаваку сам пакліч. Скажы яму, што я прасіў. А я вас тут пачакаю. Падрыхтую тут усё як мае быць...

...На рынку, у гушчары вазоў з задзёртымі аглоблямі, стары Жук першага знайшоў Лустача. Побач з ім каля воза стаяў і Раман Чачотка, па мянушцы Свісток.

Лустачыха, уладзіўшы свае справы, ужо сядзела на возе і глядзела на каня, які хрупаў сена з пярэдняга палукашка, — глядзела злосна і сумна, нібы чакаючы, калі ж гэты конь павернецца нарэшце задам і павязе яе дахаты. «І чаго ён яшчэ ўсё ные тут? — думала яна пра свайго чалавека. — Не лізнуў яшчэ, ліха яго галаве!..»

Жук павітаўся, адвёў Лустача ўбок і пачаў з ім шаптацца.

Лустач быў прымак з той даволі рэдкай пароды прымакоў, якія змаглі адразу захапіць у хаце ўладу, пасля чаго жонка толькі агрызаецца здалёк ды з асцярогай, не пападаючы пад руку. Гэта быў чалавек з сярэдняга гатунку подлых людзей, — усякай подласцю ён адстойваў толькі свае асабістыя справы, не нападаючы першы. Але за добрую чарку мог дапамагчы чалавеку, бо на сваю чарку не заўсёды хапала.

— Гэта можна, — сказаў ён, даволі хутка зразумеўшы Жука. Чаркай запахла густа. Прыйшло якраз тое, без чаго яму сумна было б вяртацца дахаты. — Раман! — паклікаў ён Свістка.- Ідзі сюды!

Раман Чачотка — высокі, лёгкі мужчына ў акуратных лапціках —

служыў пры цару гарадавым і дагэтуль яшчэ не мог прывыкнуць да працы на гаспадарцы. За гэта яго і празвалі Свістком. Гаспадарка была малая, дзве дзесяціны, поле добрае, але без добрых рук хлеба яно давала няшмат. Свісток «зрабіў камбінацыю» — прадаў бацькаву гаспадарку і купіў шэсць дзесяцін пяску за Нёманам, куды перавёз свае старыя будынкі і стаў лічыцца лясным хутаранінам. Падраслі дзеці, пачалі араць той пясок лепш за бацьку, але пясок не стаў ад гэтага больш хлебным за чарназём, пакінуты ў роднай вёсцы. Нельга сказаць, каб Чачотка быў нездаволены іменна панскай уладай, каб ён, як іншыя беднякі, чакаў прыходу савецкай улады, — Свісток наогул, не залазячы глыбока ў палітыку, чакаў перамены, прыходу іншай улады, якая заўважыць яго і ўлічыць яго былыя заслугі і чын. Сёння Раман прыехаў купіць пудзік жыта на хлеб. Пачаўшы яшчэ з дому, ён усю дарогу «абдумваў камбінацыю», — як гэта ад тых дзвюх залатовак, што жонка сабрала, прадаючы яйкі і масла, адкалоць пару грошаў на чарку. Жонкі ён не баяўся. Зрэшты, і на кірмаш сёння прыехаў адзін. Але за жонкай цяпер стаялі два сыны, якія ўжо гаварылі з бацькам па-даросламу, і гэта было не вельмі прыемна...

Свісток стаяў з мяшком пад пахай, слухаў Жука і Лустача — сябра свайго яшчэ па японскай вайне — і з першых слоў уцяміў, што Бог нарэшце зірнуў на яго ласкавейшым вокам.

— Калі трэба, дык трэба, — сказаў ён. — Вось толькі мне скокнуць да Цукермана, жыта купіць.

— Скокнеш пасля, — сур'ёзна сказаў Лустач. — Цукерман твой у лес не ўцячэ.

— І гэта праўда, — таксама сур'ёзна згадзіўся Свісток. Ён падышоў да сябравага воза і кінуў на яго свой скручаны мяшок.

Лустачыха ўсё зразумела.

— Піліп, — сказала яна, — зноў наліжашся! А я тут стой да ночы.

— Упадак цябе не возьме, — адказаў прымак. — Сядзі вось ды бурчы колькі ўлезе. Пайшлі, мужчыны!

Стары Жук сказаў ім, куды ісці, а сам пайшоў шукаць Гаваку.

Гавака быў сёння на рынку таксама без бабы, з рабою, як зязюля, дачкой. Яна стаяла каля воза, гледзячы, як бацька збіраецца запрагаць кабылу.

Выслухаўшы просьбу Жука, Антось Гавака — мужчына ў новым, цаглянага колеру паўкажушку і ў добрых, зацярэбленых гноем ботах — павярнуў каня ў аглоблях галавой да перадка і паставіў дугу да кола.

— Калі Чыжэўскі там, — сказаў ён, — дык і я табе, браце, не вораг. Падыдзем і зробім.

Гэта ўжо быў пародзісты падлюга, для якога подласць даўно стала верай і шчасцем. Уся ваколіца, апроч яго нешматлікіх сяброў, людзей, вядома, «не менш талковых», думала пра Гаваку так, як думаюць пра гадзіну, на якую лепш за ўсё не наступаць. Ён наступаў амаль заўсёды першы. Нешта адразу пасля вайны Гавака захапіў за бясцэнак нядрэнны хутар паблізу ад свае вёскі, і, судом адагнаўшыся ад намаганняў законных нашчадкаў нябожчыка хутараніна, ён разласаваўся на суды і навучыўся іх выйграваць. Стравіць табе жыта ці авёс, ды глядзі, што і цябе яшчэ засудзіць, калі сунешся да «сэндзі пакою» — міравога суддзі.

Жука Гавака лічыў раўнёй сабе, «сапраўдным гаспадаром», і просьбу яго прыняў даволі ахвотна. Да таго ж яшчэ суд — справа прывычная, а дармовую чарку выпіць у добрай кампаніі — таксама можна.

— Яно, браце, дарэчы, я Чыжэўскага сёння не бачыў, — гаварыў ён, ідучы ад воза побач з Жуком.

* * *

Два тыдні пасля гэтага быў суд. Мікіту адмовілі ў іску, апіраючыся на сведак, якія аднагалосна давялі, што пасаг свой Марыля прадала сама і прагуляла. А паўтары дзесяціны зямлі ва ўрочышчы Навінкі куплены Жуком за яго кроўныя грошы...

— Устаць! — грымнуў судовы выканаўца. Прысутныя ўсталі. Суддзя надзеў сваю ярмолку і ўрачыста прачытаў:

— Іменем Рэчы Паспалітай польскай... і г.д. і г.д.

А перад ім стаяў растрапаны Мікіта, у лапцях і дзіравай куртцы. Гледзячы на задаволеныя морды Івана, старога Жука і іхніх сведак, яму хацелася хапіць з пакрытага зялёным сукном стала крыж з распятым богам і шпурнуць яго ў сытую, важную морду суддзі... Ды тут ужо была не Машка і не баба, на якіх можна бяскарна зганяць злосць, а грозны, непахісны мур, які яму не прабіць галавой.

— Пане сэндзя, — сказаў Мікіта, ужо са слязьмі на вачах, — я незадаволены судом, я буду падавацца далей...

— Маеце права, — спакойна адказаў суддзя, — на гэта ёсць акруговы суд у Навагрудку.

...Пакуль у тым самым нумары карчмы Жук з сынам, Чыжэўскім і сведкамі замочвалі выйграны суд, гасцінцам шпарка тупала галубінай хадой худая гарапашніца Машка. Мікіта, выпіўшы з бяды, ляжаў ніцма на возе і ўжо зусім не мог разабрацца, ці прыняць крыўду, ці падавацца вышэй, — дзе яго, пры беднасці і прастаце, чакала хутчэй за ўсё яшчэ большая крыўда...

*1937-1943*

## ПРАПАВЕДНІКІ І ЗЛАДЗЕІ

Было гэта ў студзені трыццаць сёмага года.

Пятрусь Грыб, адзін з багацеяў мястэчка Дварок, дачуўся надоечы, што лес ягоны сякуць напавал, больш як заўсёды.

«Паеду,— вырашыў стары,— зірну на яго, а можа, і застаць каго ўдасца...»

Трэба было, аднак, каб тае ночы, калі ён меў выязджаць, баба яго — заўсёды дакладная, як будзільнік,— заспала.

Ляжалі яны абое на печы — Грыб ад сцяны, а Грыбіха ад хаты, бліжэй да насценнага гадзінніка. Глухаваты ад старасці, Пятрусь спаў яшчэ моцна, мог недачуць гадзінніка, і таму ён спадзяваўся на сваю Аксеню.

На вялікім куфры старой, на сенніку і з падушкай — усё як трэба — спаў начлежнік.

«Шмат народу цяпер ходзіць па гасцінцы,— думала ўвечары Грыбіха.— То беспрацоўныя, то святыя, то палітыкі. Вось і ім солтыс прывёў нейкага з тых, што пасля турмы за камуну не маюць права жыць у сваім павеце, а ідуць у свет вочы на высылку. Зда еццa, быў бы ты сабе чалавек як чалавек, а ён — куды там! Пятрусь яму пра лес, пра нашу шкоду, дык ён... Выходзіць, па-ягонаму, што ледзь не самі мы вінаваты, а не той, што наша дабро крадзе... Але Пятрусь не стаў з ім доўга гаманіць. «Будзем,— кажа,— газу тушыць, годзе. Мне заўтра ў лес, як найраней, а вам — чаму не! — добра сабе пахаджаць, можна і пагутарыць...»

Адвярнуўся Пятрусь і заснуў,— дзякуй богу за сон...

Сама старая ніяк не магла заснуць. Збунтаваў ёй усю душу гэты хлопец. Доўга сядзела на печы, без агню, і ўсё думала, успамінала...

«Жылі яны з Петрусём, можна сказаць, усё жыццё толькі ўдваіх. Ад сына, Міхася, сапраўднай дапамогі не было. Спачатку вучыўся, а потым фельчарам быў. Вучылі — думалі, што карысць будзе, гонар, пашана. Адно ж ён больш з хаты, як у хату, насіў. Падумаць толькі — лякарствы галоце на свае грошы купляў! Заробіць якую нуду, дык і тое ад бацькоў схавае, каб ізноў аддаць... Няхай бы ты лепш нявучаны быў, ды разумны, як бацька з маткай. Засне ён тыя разы, а яны — давай шарыць грошы па кішэнях у яго ці ў кнігах. А ён аднойчы вазьмі ды прачніся,— ці, можа, і зусім не спаў,— і выйшла ў іх з бацькам сварка. Першы раз бацьку юдай назваў... А то больш было так: паглядзіць рана па кішэнях, пакруціць галавой і кажа: «Ну і людзі з вас, маці...»

Рана Міхась налётаўся. Бацькаўскае слова не вецер. Падчапіў недзе тыфусу, паляжаў колькі дзён і памёр. Гадоў нешта са тры пасля таго, як цара скінулі, у іх пачаўся тыфус, дык Міхасю і супынку не было, пакуль не наскочыў.

Які ён там ні быў,— усё ж такі свая кроў. Ды і адзін жа, як тое вока ў ілбе. Гаравалі дужа, колькі слёз пралiла!.. Тады ж яно ўсё самае лепшае ўспомніцца, уся тая ласка, якая была.

Стаяла яна над ім стаянцом, дзень і ноч. І неяк раз павёў сынок вачыма па хаце, спыніўся зрокам на ёй... «Мама, старэнькая мая...» — прашапталі сухія, гарачыя вусны. І яна адказала яму набрынялымі за доўгі час рыданнямі. Падняў руку, і яна бяссільна апала старой на прыпол. Пальцы заварушыліся, знайшлі яе руку... І тут рыпнулі дзверы, і, як цень, стаў на парозе Пятрусь. Міхась памкнуўся ўстаць. «А-а, гэта ты, бацька,— прамармытаў ён сіпла,— грошы прыйшоў шукаць...» І зноў апаў на падушку.

Гэта былі яго апошнія словы.

Праўда, дарма на бацьку грашыў, хай яму бог даруе. Бо каму ж, як не яму, збіралі яны ўвесь век? А што ён супраць бога пайшоў, дык хай яго бог і памілуе...

Доўга пасля таго жылі яны ўжо зусім толькі ўдваіх, пакуль сілы служылі. Пятрусь — гаспадар не абы-што. Засекі жыта. Два разы гарэў, два разы будаваўся. Гарэў праз ліхіх суседзяў: падпальвалі. Цяпер вось дом цагляны, у два канцы, а ўсе будынкі глінабітныя. На лета бралі парабка, куплялі каня, купляў у яўрэяў-крамнікаў гной, поле добра ўрабляў, дык яно і давала. І ў самой яе грады не горшыя, як у гароднікаў-татараў. Яны з Петрусём не глядзелі, як іншыя, каб з'есці, выпіць, знасіць. Глядзелі, каб было як жыць, каб людзі не смяяліся, кожны, як той казаў, дурань. Памаліўся богу дый пайшоў, не агінаючыся, ад цямна да цямна. І бог даваў: і ладна ўсё, і ў торбачку, на дно гэтага самага куфра, дакладаліся адна да адной «чырвоныя галоўкі» — пяці- і дзесяцірублёўкі мікалаеўскага золата. «На чорны дзень. Самая цвёрдая надзея...» На зіму парабка адпраўлялі, прадавалі каня і зімавалі ўдваіх. Цяжкавата, але ладна затое.

А пасля такі нячысты паблытаў. Надумаліся сабе палёгку зрабіць і сваякоў памілаваць. У яго быў пляменнік,— от, галайстра нейкі, тут у мястэчку,— а ў яе пляменпіца — добрая дзяўчына, гаспадыня спраўная, хоць і з вёскі. Казала-такі: бог — богам, а паперка сваё, паперку трэба зрабіць. Ды Пятрусь не паслухаў. Адно за адным пайшло... Дзе ж там! — з родчым дзіцем не ўжыўся, а гэта ж чужое. Схамянуўся Пятрусь прагнаць,— ды куды там,— без кія да Ванькі ні доступу. Самой толькі Ганны было шкада. Дзеўка яна не цаца была, а Ванька

— атлёт. Век бы ён Ганны не ўзяў, каб на Грыбава дабро не пагнаўся. А тут пачаў яшчэ біць яе і сварыцца: «Пакіну!»

А яшчэ ў іх дзяўчынка была, Лідачка. Не магла і падумаць старая, што трэба будзе з ёю разлучыцца. Але ж свая кашуля да цела бліжэй. Выжылі яны сваіх «прымакоў». Ды так-такі з нічым. Пятрусь хадовы, судзіцца ўмее. Ну і золата таксама.

І вось жывуць ізноў цэлы гадочак адны. Дом ачысцілі, падмалявалі, здалі пад кватэры панам ужэндні-кам, а самі сяк-так у баковачцы-кухні. Колькі ім трэба! Лета, таксама як і раней, управілі. Цяпер парабак пайшоў, каня прадалі, і жывецца спакойненька.

Ды вось дачуўся Пятрусь, што балоцкая бедната — зладзеі гэтыя! — лес іхні сячэ. Хоча заўтра паехаць. Каня ў Лейзара ўзяў. Хаця б не заспаць...

Так думала старая, засынаючы.

...І заспала.

Бо прыснілася ёй Лідачка, зорачка яе ненаглядная, унучка, хоць і не родная. Прысінілася так, як калісьці было ў сапраўднасці. Пакупала яна Лідачку, здаецца, і калыша, спявае:

Люлі, люлі, люлі,
Ката ў лапці абулі...

— А-а-а,— цягне Лідачка з-пад хусцінкі, памагаючы сваёй бабе. А потым — і спіць жа, здаецца! — падняла лобікам хустку, сцягнула яе ручкай з галавы, смяецца, рыбка, і кажа: — Бабуля, бу-у!..

— Бу-у, бу, нягодніца, бу-у-у,— упіраецца старая маршчыністым ілбом у цёпленькі лабок унучкі. Тады Лідачка ловіць бабуліны «бусі» адчыненым ратком, як птушанё... А потым, шэльма, за бусі:

— Бабуля,— кажа,— опа-па...

— Бяссонніца ты мая,— наракае бабуля. Бярэ Лідачку на рукі і садзіцца з ёю на нізкім услончыку перад грубкай.

— Зі-зя, зі-зя,— паказвае Лідача пальчыкам на агонь у грубцы.

— Жыжа, жыжа, каток,— адказвае старая. А сама заглядзелася, як зыбаюцца цені на моцным бярозавым жары, і думае зноў аб тым, што пайшоў з іхняй хаты спакой і лад, і толькі Лідачка, як тая божа я іскра, тлее між імі і лучыць іх у адну сям'ю. А то б і насы адно аднаму паадкусвалі...

Прачнулася старая і задумалася. Як яны цяпер — і Ванька, і Ганна, і Лідачка?.. Стары насценны гадзіннік цік-так, цік-так, а Грыбіха думае. А пасля гадзіннік захроп, зашыпеў і, набраўшы духу, бомкнуў адзін раз і зноў пачаў махаць маятнікам пад барадой і стукаць: цік-так, цік-так...

«Першая гадзіна,— падумала старая,— паспее яшчэ, хаця б у тры выехаць з дому. А то яшчэ і сам акалее недзе пад кустом, чакаючы злодзея».

Задумалася зноў...

Усё тое самае круціцца: то начлежнік і сын, нябожчык Міхась, то прымакі і Лідачка... Сумна стала старой на сваю адзіноту. Падумаеш, багатая, а і спамянуць ніхто не спамяне па смерці...

«А можа, ён нядобра ідзе?» — раптам падумала яна. Паднялася, абмацала на камінку запалкі і злезла з печы. Запаліла лямпу на стале і падышла з ёй да гадзінніка. Падняла агонь, зажмурылася. Праз пыл на шыбе на Грыбіху глядзелі цыфры і стрэлкі старога, як яна сама, гадзінніка. Цік-так, цік-так, цік-так...

«Ах ты! — без нечага тры, вось-вось зазвоніць. А тут яшчэ і каня не карміў, і снеданне не гатова...»

— Пятрусь, уставай! — гукнула старая на печ.— Уставай, падла ты, тры гадзіны!..

Пятрусь, хоць і глухаваты і спіць яшчэ моцна, раскатурхаўся хутка, сцяміў, у чым справа, і, злазячы з печы, пачаў:

— Дурніца ты, забрында! Цяпер што? — дарма я Лейзару каня накарміў, каб ты наелася чэмеру! А там увесь лес пасякуць!..

Старая зноў успомніла Лідачку, Міхася, і ўся тая злосць на жыццё, якую яна толькі мела, сабралася, здаецца, адразу.

— А я што,— заскрыпела яна,— камень? Мне мора трэба? Ты вось ляжы, як пан, а я табе ўсюды спраўлюся. Скулу! Ступаліся ногі за ўсім... З табою ж не ўбудзе ніхто. Ганну прагнаў...

Удар кулаком у сухія, уцягнутыя пад плечы грудзі перабіў ёй гаворку. Колькі там трэба было!.. Старая так і асунулася каля стала, аберуч схапіўшыся за сэрца. Стары збянтэжыўся, што і гэтага выйшла зашмат, аднаго кулака. Ён пастаяў, пасля дзьмухнуў на лямпу, апрануўся і выйшаў. А старая адвяла дух і заплакала.

Начлежнік на куфры прачнуўся яшчэ на першы крык, але толькі цяпер уцяміў, у чым справа. «У-ух ты, якое гняздо!» — падумаў ён учарашняю думкай.

— Цётка, што з вамі?

Старая прыціхла: схамянулася, што ён не спіць.

— Цётка, чаго вы?

Такім голасам гаварыў тады Міхась... Ды яшчэ: «Мама, старэнькая мая...»

А хлопцу ўспомнілася раптам далёкая, родная вёска. Там, за Баранавічамі, дзе пачынаецца Палессе. Тая вёска, куды ён вярнуўся з астрога, пасля таго як

...аб'ездзіў без білета далёкія старонкі —
Каранова, Гродна, Вронкі...[1]

Як шмат змяніўся ён за тры гады! А вёска і мама былі, здавалася, тыя самыя. Ен вярнуўся сталейшым, як выйшаў. Ужо не саромеўся свайго жалю і тваіх старэчых пяшчотаў, ён цалаваў твае сухія, спрацаваныя рукі і нечакана дрыжаў. А цёплыя слёзы каціліся... А ты — усё ж тая самая: замучаная працай, у лапцях,— ты цалавала яго, не могучы звясці губы ад плачу, туліла да сухіх грудзей яго худую астрыжаную галаву, мурзала гарачымі слязьмі і плакала: «Коля мой, мілы мой Колік... Дзіцятка маё, што яны з цябе вырабілі!.. Што яны зрабілі!..»

І цяпер вось гэтая другая маці плача. Толькі ж аб чым і чаму?.. Мікола ўстаў з куфра і, басанож па халоднай земляной падлозе, пачаў шарыць у цемры. Рог стала... запалкі... Запаліў адну, пасля лямпу. Разгледзеўся. Старая сядзела на зямлі, ля печы.

— Уставайце, цётка, я памагу.

— Я сама, сынок, я сама,— баранілася яна. І ўстала сама. У выступках патэпала да ўслона. Села. А Мікола лёг ізноў. Доўга маўчалі абое. Ён глядзеў на яе ўпаўшымі, зашклёнымі ад слёз вачыма, а пасля павярнуўся на спіну, уперыўся зрокам у столь...

— У мяне быў таксама сынок,— пачала, памаўчаўшы, старая.— Таксама добрае сэрца, няхай яму бог даруе...

— Я ведаю, чуў.

Ды тут зашлёпалі валёнкі Петруся, пасля грукнулі дзверы, і, не дачакаўшыся яшчэ, пакуль ён увойдзе ў кануру, гутарка абарвалася. Пятрусь распрануўся, патушыў агонь, палез на печ. Там ён нагой аб нагу скінуў з валёнкаў галёшы, і, адзін за адным, яны мякка ляпнулі аб падлогу. Гэта былі апошнія гукі. Потым цемра злучылася з цішынёй.

Пакуль стары распранаўся, начлежнік вадзіў вачыма за яго павольнымі, важнымі рухамі, і ўчарашняе прыкрае пачуццё вярнулася зноў...

«Які ён дзікі, гэты стары! І як усё ж такі дзіўна складаецца часта жыццё: у такой сям'і, як колас на смецці, узрастае такая адзінка, як той іхні сын...»

Учора ўвечары солтыс, ведучы Міколу сюды на начлег, расказваў аб Грыбавым сыне чамусьці з хітранькай усмешкай...

«Той быў талстовец, але ўсё ж такі неяк імкнуўся да лепшага. Бачыш, не пайшоў за бацькамі, цягнуў за беднатой, загінуў у змаганні з

---

[1] Палітычныя турмы ў буржуазнай Польшчы.

хваробай... А маці яго?.. Усе яны крышку падобныя, нашыя маці... Шкада старой... А стары кулачына — агідны...»

2

Раніца ўстала марозная, ясная. Пакуль парастайвалі ў небе зоркі, збялеў асколак мссяца і зарумяніўся над лесам усход,— вёскі ўжо не спалі. Світанне ніколі не застае іх у сне, бо працоўны зімовы дзень у вёсках пачынаецца ноччу.

У Балотцы, той самай вёсачцы, каля якой быў лес Петруся Грыба, вядома, таксама не спалі. Над стрэхамі шэрых хатак, заваленых снегам, слупамі стаялі дымы. Сям-там скрыпеў журавель або тарахцела круцёлка над студняй. Сцежкамі да гумнаў праходзілі мужчыны. І толькі дзе-нідзе свяціўся ў хаце спознены агеньчык.

У хаце гарбатага краўца Лапінкі снедалі пры агні. Раней, як заўсёды, бо сёння тут начаваў па дарозе з горада і цяпер хацеў выехаць раней дзядзька Алесь Жывіца, Алёшачка, як называў яго гаспадар, сябар маленства, сусед з той самай занёманскай вёскі, адкуль быў і Лапінка, прымак у Балотцы.

Прымы яго — нясытыя: загончык поля і хата на курынай ножцы. Ды Лапінка жыў дома пры брату, ліхім чалавеку, у бядзе і паняверцы, і таму ён згадзіўся і перавёз сюды цераз Нёман сваю машыну. З таго часу ў старэнькай Марцінай хаце весела сакатаў нястомпы «зінгер», а над ім таксама безупынна малоў і спяваў, спяваў і малоў вясёлы, як шпак, калека-кравец. «Чорт не адны лапці стаптаў, пакуль такую пару дабраў»,— жартаваў ён з сябе і з Марты, але ўсё ж, як людзі кажуць, дзеткі былі, дый адно за адным.

Два старэйшыя хлопчыкі, Косцік і Шурка, снедалі цяпер разам з бацькам і госцем. Дзеля госця Марта нанякла скавародку сала, і ўсе мачалі ў яго бульбу і елі ўрачыста, па-святочнаму.

— Я ж кажу, брат, хлопцы ў цябе — малайцы. І дарма ты ўсё плачаш...— гаварыў госць.— Так і глядзі — год за год...

— Сэрца маё трапечацца, Алёшачка, як пачую... Сам, як той казаў, граша не варты, ды дзеці затое — слава богу,— гаварыў Лапінка. І выходзіла ў яго гэта неяк па-бабску: ня-ня-ня-ня... Маленькі каля дзядзь-кі Алеся, ледзь з-за стала відаць, і ногі не дастаюць падлогі. Ён быў гарбаты без гарба, не ад роду: малым быўшы, зваліўся, накольнік, з вішні і ўбіў, як кажуць, ногі ў с..., не вырас. Галава — без шыі, як у вожыка, і пастрыжаны «пад ярша».— Паглядзі вось,— казаў ён,— Косцік мой — гаспадар, дзякуй богу, навабранец, дванаццаты гадок ад восені. Памагае мне: намёткі выцягвае, грэе ўцюг, гузікі пры-

шывае. Ужо і ў лесе два разы быў. Або Шурка. Дзевяты гадок, чытае — як рэпу грызе, і гусі пасе ўсё лета...

Косцік і Шурка ласа елі, раз за разам абсмоктвалі ацякаючыя салам пальцы і маўчалі, быццтам гутарка іх не датычыла.

— А Колік яшчэ спіць,— гаварыў Лапінка,— як пшаніцу прадаўшы, ні аб чым галава не баліць... Паглядзі!

Дзядзька Алесь чуў гэты перабор сыноў яшчэ ўчора вечарам. І цяпер яму зноў успомнілася тое самае: згніўшыя пенчукі прыдарожных вербаў, абсмаленыя пастухамі, дуплаватыя, а ўсё ж жывыя, бо з-пад карэння іх ідзе падсада маладых, кучаравых лазінак, жывых і вясёлых.

— Але, братка, узбіўся ты на корань. Здароў будзь, дзяцей — нібы ў Янкеля, нашага карчмара,— сказаў ён і засмяяўся.— Ды што ж ты гэтага яшчэ не ўспамянуў, што ў калысцы. Усё роўна ўжо: «Божаваспомні...»

— Гы-гы-гы,— зарагатала Марта.— Саромеецца, дальбог! Я казала — нашто яно нам чацвёртае? Хапіла б і трох. Ды ўсё ён вінаваты, дальбог.

Лапінка збянтэжана зачырванеўся.

— Ну, нічога, Кастусь,— смяяўся госць.— Даў бог дзеці — дасць і хлеб. Свет вялікі. А што ж ён у цябе ў лес? Наймаў хіба каня?

Лапінка ажыў.

— Якое, Алёша, ён сам, як людзі.

— Саматугам?

— Якое! Не ведаеш хіба, як у нас дровы возяць па-шляхецку? На сабе. Высеча цялеж,— на плечы і панёс. Кожнай раніцы, як ваўкі, так і сунуцца з кустоў...

— Проша пана, далікатна,— засмяяўся госць.— Яшчэ б зонцікі пабралі, каб не капала з галля... А каб вас з вашым панствам. І ты ўжо, бачыш, шляхціц, пан: дровы на сыне возіш...

— Ну, убіўся ў вароны — каркай так, як і оны. Чым я не пан? — емяяўся Лапінка.— Ем ваду, п'ю ваду, умываюся і разліваю...

— Э, братка, няма лепш, як у нас лес крадуць. Пашлеш разведку, а сам — назіркам. Махнеш пень, ачок семдзесят — восемдзесят, ды справішся за дзень разоў два-тры. О, гэта хоць варта заходу. А што ж ты, як той казаў, не пад'еў, а толькі замурзаўся.

— Што ты раўняеш, Алёша. Куды я, чарвяк той няшчасны. Я рад, што хоць гэтак, як людзі. Каб гэта конь ды сам быў чалавекам. Раней наймаў, а цяпер і я, як усе.

— Па-панску,— гыкнуў госць,— пад зонцікам. Эх вы, шляхта, шляхта!..

— Не магу, Алёша, і сам ніяк прывыкнуць. Няма каб гэта проста, па-свойму, па-людску, а ўсё козырам. Бабка тая забрынданая ў хату ўвойдзе і то: «Дзень добры панам». А ёй усе з такімі важнымі відамі: «Дзень добры, пані». Няма таго, каб цётка ці бабуля. На саломе спяць, зубамі ішчуцца, а панства…

— Ты ўжо не малоў бы, дальбог,— не вытрымала Марта.— От, тушы лямпу ды еш!

— Што, не праўда? — агрызнуўся Лапінка. Аднак устаў, хукнуў на лямпу — раз і яшчэ раз — і сеў.— Без агню відна,— сказаў.— Ну, дык нясі там другое, чаго ж…— І калі Марта выйшла ў кухню са скавародкай, ён зашаптаў да госця: — Маёй пані не падабаецца, бачыш. Таксама шляхцянка.

— Будзеш малоць-малоць,— казала Марта, несучы на стол зацірку,— а зараз яшчэ тое трапло прыйдзе. Хай бы лепш Косцік ішоў хутчэй, а то зноў прычэпіцца, прапаведаваць будзе, дальбог.

— А хто гэта? — спытаўся госць, беручыся за лыжку.

— Вучань мой, брат Міша.

— Як гэта: брат? Адкуль ты ўзяў яго?

— Гэта, Алёшачка, брат ва Хрысце. З Зарэчча адзін, бапціст. Пяцідзесятнікі — так яны называюцца.

— А чаго ж вы яго баіцёся?

— От,— адказала Марта,— воўк сабакі не баіцца, але не хоча звягі слухаць, дальбог. А мой яму патурае…

— Няможна гэтак, Мартачка,— перабіў яе Лапінка.— Ён не сваё гаворыць. Напісана: «Не ўкрадзі». Ну, ён і стаіць за слова гасподняе. Крычыць на мяне, што Косцік ходзіць лес красці. Грэх. І кароўку на панскім папары папасвіць — таксама грэх. Вось ён які, брат Міша. Жывуць яны спраўна, на ўсё Зарэчча. Ён — старэйшы сын у бацькі, смятаннічак, дваццаты год, голас звонкі, сам без ніякага клопату, чысты, гладкі…

— Нябось, каб свайго не было, дык папасвіў бы,— умяшалася Марта.

Госць аблізаў апошні раз лыжку, палажыў яе.

— Грэх…— пачаў ён.

— Ешце яшчэ, дальбог,— перасцігнула Марта.

— Не, дзякую,— устаў дзядзька Алесь.— Грэх…— сказаў ён, вымаючы капшук з махоркай.— Грэх, як той казаў, у мех ды кіем па баку. А яны загарнулі паўсвету — і не грэх. Гэта, брат, адна крамка: папы з багатымі. А ты, наш брат, бядняк,— хоць здохні. І ты вось дзень і ноч сохнеш з іголкай, а ў хаце палена дроў няма. Не, братка, хто, як той казаў, у лесе не крадзе — той у хаце не гаспадар.

Прыказка спрадвеку. Сам накраў, аблажыўся, а ты, як той казаў, голы, дык будзь яшчэ і святы.

— Яно гэтак, Алёшачка,— ажывіўся Лапінка.— Пяць з палавінай злотаў адна метра дроў, тры злоты хурманка. І едзеш вунь на той свет, у пушчу. А мне тут сохні колькі дзён за вазок. А надоўга яго хопіць? А хлеб, а адзецца, абуцца? А тут табе, і праўда, лес пад бокам, ды няможна. І сам не гам, і нікому не дам. Не, самі-то яны гамаюць, толькі ты на яго паглядай, як той цюцька... А паглядзіш ізноў, па Івангеллю... напісана ж такі...

— Напісана...— перабіў госць.— Ты скажы, чаго яшчэ не напісана дагэтуль? А ў Івангеллі хіба не сказана, што «горы і долы выраўноўвайце»? Не казаў хіба той самы Ісус: «Гора вам, багатыя»? Казаў?

— Казаў, Алёшачка...

— Ну, бачыш. У гэтым уся праграма: падзяліся, як з братам. А гэтыя што, бапцісты твае,— толькі іншых дакараць. Як збяруцца разам, дык, э-тэ-тэ, хоць ты да раны яго прылажы, аж пацее з любві, а разыдуцца — кожны святы да сябе рукой горне. Ён табе прапаведуе, мне. Пеклам нас страшыць. Дзе ты знойдзеш горшае пекла, як тут? Ты пайдзі вунь тым, што арудуюць намі, скажы, што грэх... Я іх бачыў адзін раз, ды і то сказаў, годзе. Іду гэта па Зарэччы, чую, у хаце адной аж на сцену лезе народ, лямант, візг!.. Што гэта, пытаюся. Моляцца, кажа. Увайшлі мы. А каб вас з вашай малітвай. О ды о! А пасля, братка, як паднялі тарарам — хоць уцякай!..

Лапінка засмяяўся. Успомніліся яму сходы зарэцкіх баптыстаў. Вось ужо шосты гадок з той пары, як у іх там пачалося, як яго цягне туды да прыгожых песняў і мілых слоў аб пралітай госпадам крыві. Хадзіў туды часта, бо непрыхільна было сярод ганарыстай балоцкай шляхты. Там вось гэты самы «брат Міша» згадзіўся вучыцца ў яго шыць і шые ўжо другую зіму. І ўсё намагаецца, блазен, перацягнуць яго ў сваю веру, перахрысціць у Нёмане, другі раз ад роду, цяпер ужо не голага, а ў споднiках. На сходах Лапінка чула падцягваў хору сваім бабскім голасам, слухаў пропаведзі і спадцішка глядзеў на ўсе бакі. Калі ж «веруючыя» станавіліся на калені і голасна, з прыплачам і хвараблівымі крыкамі, маліліся, па абраду заплюшчыўшы вочы,— Лапінка таксама закрываўся рукамі і ўкрадкай, праз пальцы, цікаваў на тое, як хто моліцца, асабліва калі «хрышчоныя духам» пачыналі балбатаць на «замежных мовах».

— Хай ужо госпад даруе, Алёшачка,— пачаў ён цяпер, смеючыся,— і грэх і смех! Пятруеь з Навасёлак, стары кавалер, рыжы, морду быццам куры падзюбалі, заплюшчыць вочы, закапыліцца, як табакі панюхаўшы, ды толькі адзімае: «А-фу-лэ!» Гэта ён з духам

святым па-інастраннаму. А Раман Дуля — ух ты, у новым кажушку, грудзі ўперад, сцёгны тоўстыя — шах-шалах,— халявы блішчаць, бах на калені... «Госпадзі! Ты благаваліў, о, што б я празрэў і навучаў народы, о-о, малю цібя». А гаворыць, як той прарок, зігзагамі ўсё, лукаткамі. Таксама з духам святым. А я сабе думаю: прайдзісвет, прайдзісвет! Забыўся ўжо, колькі ад цябе дзевак паплакала? А цяпер ты «празрэў і навучаеш народы». А хто ў Таццяны каноплі мочаныя ўкраў? Пагнаўся!.. А з бабамі, Алёшачка, яшчэ лепш. Марылька Гарцава — баба рабочая, што гадок, то й сынок. Эх, зажмурыцца, звядзе калені і зойдзецца: «Асаначка, Ісусічак мой, залаценькі!..»

— Ха-ха-ха, а ты, брат, той самы, цябе нішто не зменіць,— смяяўся госць.— Арціст, дальбог, арціст, шпіктакаль!..

— Смяецца,— гаварыла Марта, таксама рагочучы,— смяецца, трапло, а сам хутка будзе такі самы пярэхрыст, дальбог.

— А што ж,— згадзіўся Лапінка,— я таксама ўжо «брат прыбліжоны»... Чакаюць яны, чакаюць, пакуль я паверу ды хрысціцца пайду, а я ўжо чацвёрты гадок хаджу перадойкай. Раз, на сабранні, сяджу я ззаду, а брат Рапейка — прапаведнік, што быў у Амерыцы,— эх, толькі вочы паблісквабоць, поўны, харошы,— «брація,— кажа,— бліжэй сюды. Той брат, маленькі, з смірэнным відам,— бліжэй да сэрца господняга. «Прыйдзіце ка мне ўсе труждаючыяся і абрамянёныя..» Я гэта за шапку ды на самую першую лаўку. Гляджу: Настуля Кукобіна, багатырка на ўсю вёску, моліцца, а сама ўсё цікуе за рэчку, каб гусі ў шкоду не ўлезлі. А пасля — эх, паляцела — агы-ля!.. Ну і даваў жа ёй брат Рапейка па пер'і. Нельга, кажа, служыць адразу богу і мамоне!..

— Усім вам адна трасца, дальбог,— перапыніла Лапінку Марта,— маўчаў бы лепш.

— А ты чаго равеш? — спытаўся Лапінка.— Мне што — лепш, чым «тваю маць» ды «тваю маць», ды накурацьм ажно дух займае. Або шляхта гэтая, проша пана, кепікі толькі з мяне. Які я пан,— я так сабе чыста апрануты.

Лапінка ўстаў з лавы і, сагнуўшыся ў сярэдзіне, паківаўся, як качар, да машыны. Сеў, пасля азірнуўся на Марту. Яна была ў кухні.

— Маёй пані не падабаецца, бачыш,— зашаптаў ён.— Адно ляжала б на печы, як той мядзведзь. А я, як рак, пякуся...— Зірнуў у акно.— А вунь і брат Міша ідзе. Награшыў я, госпадзі, будзе мне і ў хвост і ў грыву...

**3**

Грыбаў начлежнік заспаў.

— Пане, пане гэты!.. Чалавек, уставайце! Снеданне гатова! — будзіў яго Пятрусь, тузаючы за плячук.

З цяжкай галавой Мікола сеў і пачаў апранацца. Цьмяна свяціла лямпа, і за чатырма шыбкамі глыбокага ў тоўстай цаглянай сцяне акенца была яшчэ ўсё ноч, бясконцая зімовая ноч...

Пакуль ён апранаўся, мыўся халоднай вадой і выціраўся каравым ручніком, стары сядзеў каля стала і гаварыў:

— Я думаў учора, што вы адной кацігорыі з маім нябожчыкам, але не. Мой быў, праўда, таксама з прыдурам, але трапяткі да работы. Лячэнне — лячэннем, а да працы возьмецца — кіпіць. І што ні возьме — сталярку, мулярку, шавецкае. Залатыя рукі! Ды што ж, без галавы. Талстога знайшоў, анціхрыста. Адрокся ад царквы святое, ад бога, ад бацькоў, ад роду. Бог яго і пакараў. Чаму б яму цяпер не жыць было, пажываць разам з намі?.. А вы яшчэ лепшы перац! Пазнаць, брат, птушку па палёце. Спаць давідна, пахаджаць сабе толькі з кута ў кут, памахваючы палачкай, на ўсім гатовым. І турма не памагла. Каміса-рам быць захацелася, лёгкага хлеба. А дома, пэўна, бацькі б'юцца над гаспадаркай, калі ёсць якая скула зямлі, і плачуць... Э-хэ-хэ, не гэтак бог гаварыў. Ну, сядайце...

Снедалі. Бульба ў лупінах, падагрэтая ў рынцы ўчарашняя капуста, хлеб, як зямля, і халодныя аладкі, таксама ўчарашнія. У давяршэнне раскошы старая прынесла з прыпека засмуголены гаршчок з соллю, зачэрпала жменю на стол, а гаршчок так і пакінула: можа, яшчэ хто захоча... Мікола слухаў, еў грэбліва і ніяк не мог перамагчы ў сабе ўсё нарастаючае пачуццё агіды. Седзячы побач са старой, ён стараўся не глядзець на тое, як яна дзіка, быццам вароняй лапай, хапала касцістай рукой бульбу або адрывала лапіну тугой, кіслай аладкі і моўчкі ўрачыста ела. Пятрусь голасна чмакаў, перакідаючы на бяззубых дзяснах гарачую бульбу, хлюпаў капустай і ўсё гаварыў, гаварыў... Яда і так не лезла Міколу ў душу, а тут яшчэ, следам за ёй, пхалася гэта агідная, самаўпэўненая пропаведзь:

— Не, не гэтак жыць трэба. Мой усё хацеў богу дагадзіць, пярэ-хрыст, ды дурам... (Плям, плям ротам.) А вы дык і зусім адракліся. Думаеце, бог дарує? Не... (І зноў: плям, плям...) Ты жыві чэсна, трудзіся ў поце ліца і маліся шчыра, святую царкву шануй — і ўсё. На тое і ёсць святая царква. І ў нас тут таксама... я таксама братчыкам. (Плям, плям.) Я два разы гарэў — усё праз суседзяў,— два разы будаваўся. Цяпер бачыце самі: усё маю і на ўсякую галоту хопіць. (Даплямкаў, палажыў лыжку, узяў бульбіну з чыгунчыка і пачаў абіраць яе чорнымі ногцямі.) Я ж казаў учора — лес у мяне, вёрстаў дзесяць адгэтуль, ля вёскі Балотца. (І зноў пачаў плямкаць). Чатыры

гектары. Там галота жыве. Сякуць, як хто цяў. Вядома, недагляд. Сіла не тая: семдзесят восем, дзякаваць богу. Нябось, каб гэта раней было, я б цябе адвучыў... А так ён, другі думае, што як я сам у лес не прыеду, дык яму так і сыдзе... А бог? Я ж такі купляў, стараўся! За крыўду маю ён цябе скруціць, не бойся. Голы быў, голы і здохнеш. А ў Петруся хопіць, бо ён з богам, а з ім — хоць за мора. «На ця, госпадзі, упавахам і не пастыдзімся вавекі». Лі яшчэ зацірку, Аксеня, хай есць чалавек...

А «чалавеку» ўжо і зусім не лезла ў горла. Нешта яго толькі стрымлівала, каб не плюнуць, на ўсе гэтыя ўчарашнія аладкі з бульбай, за якія Грыба два разы палілі, і на ўсяго яго кулацкага бога...

Старая цяжка ўстала і, цягнучы ногі ў стрэпаных валёнках,— малая, сутулавата-гарбатая, у засмуголеным клецістым халаце,— павольна і цяжка, як жаба-падрубніца, папаўзла да печы. Наліла на прыпеку зацiркі і несла яе да стала. Вялікі палец яе рукі, зашчэплены за край місы,— каравы, з жоўтым ногцем,— увесь быў у засіўленай зацірцы. Міколу зрабілася прыкра, быццам ён цяпер толькі як належыць заўважыў увесь іхні бруд...

— Праўду кажа стары,— скрыпела яна з пасвятлелым ад радасці тварам,— ён бацька, яго трэба слухаць. А то ўсе вы так і загінеце марна, без бацькавай волі... Ды што ж вы гэтак раптам? Ешце, ешце, чаго ж...

— Не падабаецца, пэўна,— казаў Пятрусь,— праўда вочы коле.

Мікола ледзь паспеў апрануцца, падзякаваць і выйсці.

Світала. Пад ботамі скрыпеў марозны снег. «Ух ты, якое гняздо!..— уздыхнуў ён з палёгкай.— А мне толькі шкада было старой...»

4

«Брат Міша» адчыніў старыя, скрыпучыя дзверы і, прыгнуўшыся, увайшоў у Лапінкаву хату. Унёс з двара многа зімы: чырвоныя шчокі, і снег на ботах, і холаду — брр...

— Слава нашаму госпаду,— сказаў ён і пачаў рас-пранацца.

— Хай будзе слава яму вавекі, амін! — адказаў Лапінка і застыў, як певень пасля кукарэкаў.— Мішачка, брат ва Хрысце, якая дабрата разліваецца па душы, ажно сэрца ёкнула. Волас ад воласа аддзяляецца. А ты раней сёння, Мішачка.

— Нешта ж сёння і вы падняліся...

— Гэта ж во госцік дарагі, Алёша Іванавіч, з мае роднае вёскі. Разам калісьці па гародах лазілі. Заехаў, дзякуй богу, не пагрэбаваў маім сіроцтвам, укусіць хлеба-солі!..

— Укусіць... Укусіць і пажаваць,— смяяўся госць, апранаючыся.— Смяешся толькі з усіх, а сам таксама навучыўся гаварыць няведама як, зігзагамі. Шляхціц!..

— Гэта не шляхецтва, Алёша. Тыя ўсё па-панску крывяцца, а я па святому пісанію. Гэтак, здаецца, і госпаду прыямней: соладка, мяк-ка...

— Глынуў бы і так, па-нашаму... Ну, бывайце здаровенькі!..

Госць развітаўся і выйшаў. Хлопчыкі, Косцік і Шурка, выбеглі за ім пад'ехаць. Неўзабаве ён праехаў каля акон, скрыпучы палазамі, на вёску. Хлопчыкі, румяныя з марозу, убеглі ў хату і пачалі апранацца: Косцік у лес, а Шурка ў школу.

Лапінка, каб адвясці ад Косціка ўвагу «брата Мішы», запрапанаваў яму заспяваць што-колечы «на славу госпада».

— Якую? — спытаўся «брат Міша».

— Грэшнік, слушай ухом веры...— замест адказу зацягнуў Лапінка.

— А, сто дваццаць чацвёрты псалом. Ты яшчэ, бачыш, і не ведаеш. Глупства якое дык запомніў бы, нябось,— сказаў «брат Міша» і дагнаў Лапінку размашыстым скрыпучым голасам.

Лапінка спяваў, абмётваў дзірку на гузік і ўкрадкам цікаваў то на «брата Мішу», то на Косціка.

«Брат Міша» выцягаў намёткі з кончанай учора курткі і спяваў, спусціўшы галаву над работай. А Косцік апрануў бацькаў неданосак — куртачку, шапку, узяў з пячуркі рукавіцы і пайшоў. За ім — Шурка з сумачкай за плячыма. Лапінка цікнуў на «брата Мішу». Той не падняў галавы, спявае. Добра! Але вось Косцік вярнуўся з сяней і пацягнуў з-за печы пілу. Піла зазвінела, і... «брат Міша» падняў вочы, зморшчыўся і закруціў галавой...

Праспявалі. «Брат Міша» злосна маўчаў. Колькі надзеі паклаў ён на тое, што прывядзе нарэшце «к госпаду» гэтую «заблудшую авечку». А тут — зноў сатана не дрэмле. Косцік і ўчора і пазаўчора хадзіў у лес па чужыя дровы. Сын «прыбліжонага» чалавека, за сэрца якога кранула божае слова!.. Ён зірнуў на Лапінку. Той сядзеў чырвоны як рак. Пэўна, брыдка: каяўся і пазаўчора і ўчора. «А ўсё ж такі,— падумаў «брат Міша»,— можа, ён і раскаецца. «Не да сямі разоў дараваць брату свайму, да сяміжды сямідзесяці разоў»,— сказаў гасподзь. Вазьмуся я за яго, балазе Марты ў хаце няма...»

— Брат Канстанцін,— пачаў ён грозна,— лепш бы ты сам хадзіў красці лес, чым сына з дарогі збіваеш. Падумай, што ты адкажаш госпаду, калі станеш перад судом яго. Ці ж прыемна будзе ісці ў агонь вечны, угатаваны д'яблу і ангелам яго, падумай?..

— Ну, што ж я, бедны, зраблю? Што мс ты, Мішачка, зробіш з каханай бядою? Каб было як, не краў бы, дальбог! А так і тут гару і там агонь вечны... Дзе, кажа, варонс ні лятаць,— усюды г... дзяўбаць. Пацягаю смалы, што ты зробіш...

— Не багахульствуй, бязумец! Гасподзь не гэтае нам угатовіў. Кроў яго святая, пралітая за нас...

— Ды я ж веру, Мішачка, усім сэрцам, усім памышленнем маім...

— Мала гэтага: «вера без дел мертва». Ты паглядзі, са мною ўчора што было...

— Ну, Мішачка, ты ды не я,— перапыніў яго Лапінка.— У цябе і веры больш, і гаспадарка такая, ты і к госпаду бліжэй...

«Брат Міша» памаўчаў: дух заняло ад гордасці. Лапінка толькі з палёгкай уздыхнуў: думаў, канец. Але «брат Міша» сяк-так адглытаўся ад радасці і зноў пачаў:

— Ты павінен памятаць, што напісана «хто саблазніт едзінага ад мальгх сіл», дык яму, проста кажучы, лепш камень млынавы на шыю прывязаць ды ў бухту галавой...

Марта стаяла ў кухні за дзвярыма і прыслухоўвалася. І нарэшце яна не сцярпела. «Камень на шыю, майму Кастусю?..»

— Чаго ты прыстаў да яго як смала?! — затарахцела яна знячэўку, уваходзячы ў хату.— Добра, што сам ты жывы на неба паляціш, святы... А ён, калека, бедны чалавек. Мы дзень з алеем, а тыдзень — так галеем, а ты яму яшчэ камень на шыю, святы... За што? Я дзіця паслала, бо маё. Як захачу, так і будзе...

Яна была грозная, страшная са сваім чорным, растрэсеным чубам і вялікімі рэдкімі зубамі... Але адступаць было позна. І «брат Міша» паўстаў за «гасподняе слова».

— Неба і зямля прайдзёць, а слова маё не прай дзёць, сказаў наш госпад,— прарочa падняў ён голас

— Мы самі ведаем! — перапыніла яго Марта.— Няма чаго вочы вытрэшчваць. Табе за бацькавай спіной добра «спасацца», а пачакай толькі, хай свая вош укусіць. А тут — мой сын, мой і адказ. Нс баюся! А ты наробіш сваіх, тады і вучыць будзеш,— вось што!..

Ачуняўшы ад страху, Лапінка толькі шаптаў праз смех, які нельга было стрымаць:

— Каса... на камень... У аднаго — рай... У другое — дзеці... А мне, беднаму, як той сучцы ў карытцы... І там і тут... Прымак — прышый кабыле хвост...

І ён ад рогату схіліўся на машыну.

5

Павярнуўшы з гасцінца на палявую дарогу, Мікола, ужо нее памінаючы Грыба, пайшоў на поўнач.

Свет быў вялікі для яго, аднак і цесны, нібы клетка. Асуджаны дэфензівай[1] на блуканне ў межах аднаго Навагрудскага ваяводства, ён меў права затрымлівацца ў адным месцы не больш чым на суткі. Кожны дзень трэба было адзначацца ў іншым пастарунку[2], ці ў гміне[3], ці ў солтыса. І — дзень за днём — далей і далей, ад мяжы да мяжы ваяводства, нібы ў вялікай клетцы. Прасцей за ўсё было б вырвацца з гэтай клеткі на ўсход, у Савецкі Саюз, але гэта было б недаравальным самавольствам, парушэннем партыйнай дысцыпліны. Не толькі дэфензіва, праз сваіх яўных і тайных работнікаў, ведала шлях ссыльнага, назірала за яго маршрутам. Другая сіла, якой служыў Мікола,— сіла камуністычнага падполля, моцнымі ніцямі звязаная з народам,— загадвала яму не кідацца ў паніку, а працягваць работу і ў гэтых умовах. Ад яўкі да яўкі ён ішоў з вёскі ў вёску, з мястэчка ў мястэчка, няўлоўна несучы сваю службу надзейнага, спрактыкаванага падпольшчыка. У гэтай працы родны свет не заўсёды здаваўся яму цесным, як клетка.

Учора Мікола сустракаўея з таварышамі ў вёсцы Рыпінічы, пяць кіламетраў не даходзячы да мястэчка Дварок. Сёння яўка — у лясным пасёлку Шышкі, дзе працуе дзяржаўная смалярня. А начаваць прыйдзецца ў Баброве, таксама на тым баку Нёмана. Там і адзначыцца ў солтыса.

Марозны снег пад нагамі парыпвае гучна, бадзёра. І сонца свеціць так, нібы на гэтым белым свеце ўсё спакойна, нават радасна. Рэдка сустрэнеш якую фурманку ці чалавека — дарога не вельмі язджалая. Града снегу, на якой пракладзены дзве каляіны палазоў,— брудная дзяга, кінутая на гэтым чыстым бліскучым прасторы.

Прайшоўшы добрых дзве гадзіны ад Дварка, Мікола сустрэўся з двума хлапчукамі. Дарогу, па якой ён ішоў узлескам, перасякала другая — ад вёсачкі за Нёманам,— у лес. Гэтай дарогай на скрыжаванне амаль адначасна з ім выйшлі тыя хлапчукі. Проста пайшлі б, толькі зірнуўшы на незнаёмага дзядзьку, але Мікола аклікнуў іх:

— Эй, дрывасекі, здаровы!

Косцік і Шурка — гэта былі яны — спыніліся. Большы быў падпяразаны пілой, як сапраўдны лясун. Меншы трымаў рукі глыбока ў кішэнях портачак і глядзеў на незнаёмага спалохана.

---

[1] Дэфензіва — тайная паліцыя ў буржуазнай Польшчы.
[2] Пастарунак — тут паліцэйскі ўчастак
[3] Гміна — воласць.

— Ну што, баіцёся мяне? — з усмешкай спытаўся Мікола.

Косцік глядзеў на яго адкрыта, не прадбачачы ніякай бяды.

— Чаго ж мы вас будзем баяцца? — адказаў ён пытаннем.

— А ён вось баіцца,— паказаў Мікола на меншага. Шурка глядзеў спадылба, аднак і ён сказаў:

— Не-а. Чаго ж мы вас будзем баяцца?

— Куды вы? Ну, ты, скажаш, ясна — у лес, дровы красці. А ты? У вавёрчыну школу?

На Шурку была торба з кнігамі і сшыткамі.

— Не-а,— сказаў малы.— Я не ў школу. Я іду яму памагаць.

— Правільна,— усміхнуўся Мікола.— Сіла, брат, і салому ломіць.

Косцік тым часам вырашыў застрахавацца ад усякага падазрэння.

— А чаму вы думаеце, што мы ідзём красці? — сказаў ён.— Мы ідзём у свой лес.

— А колькі ж у твайго бацькі лесу?

— Тры гектары,— адказаў Косцік, не задумваючыся.

— А поля?

— Поля ў нас толькі морг,— ужо не зманіў дрывасек.

Мікола ўсміхнуўся.

— Ну, бачыш, як ты лёгка папаўся! Поля морг, а лесу ажно тры гектары. І каня свайго няма, саматугам пацягнеш. Ведаем мы такіх багацеяў. У Грыбавым лесе чахнеш бярозку.

— Якога Грыба? Ніякага Грыба я не ведаю...

— Затое я ведаю. У Дварку ты быў калі-небудзь?

— Не.

— Ну, бачыш. А каб быў, дык і ведаў бы, што там сядзіць гэты грыб. Стары ўжо грыб, чарвівы, але і ядавіты, як мухамор. Як ваша вёска называецца?

— Балотца.

— Ну, бачыш, як я ўгадаў! І тут вось лес таго Грыба. А з вашай вёскі ёсць тут у каго свой лес?

— Толькі ў Якуба Мамоньчыка. У яго сем гектараў.

— А поля?

— Поля яшчэ больш — дзесяць.

— Ну, дык вось ён таксама грыб мухамор. І вы ў яго лес?

— Не, мы пойдзем направа, у чужы. Гэты вясёлы дзядзька засмяяўся.

— А налева, па-твойму, свой?

— Не, ён таксама чужы, але ён з нашай вёскі. Вясёлы дзядзька ляпнуў Косціка па плячы.

— Ты, брат, адразу правільна сказаў, што і ў вас ёсць свой лес. Ён — для ўсіх, ён народны, і вы яго не крадзяце, а бераце, як свой. Шкада толькі, што без каня.

Хлапчукі глядзелі на Міколу, здаецца, не разумеючы, чаго ён, гэты дзядзька, хоча. І Мікола па-думаў сам сабе ўсміхнуўшыся: «Зарана ім гэтая па-літэканомія».

— Ідзіце, хлопцы,— сказаў ён.— Толькі часам не пападзіцеся.

Косцік усміхнуўся.

— Няхай каторы паспрабуе нас злавіць. Абы я з лесу выйшаў. Што ты, скалсу, застаў мяне, ці што?

— Правільна. А ты? — звярнуўся Мікола да меншага.— Рукавіцы забыўся ўзяць?

— Забыўся.

— Снегам рукі патры. Смялей, арол! Ну, у смалярню я гэтай дарогай зайду?

— Зойдзеце,— адказаў Косцік.— Толькі ўсё проста ды проста.

— Ну, дык бывайце, хлопцы, здаровы. Вясёлы дзядзька пайшоў «усё проста ды проста», а дрывасекі направа — у лес.

І ў хлопчыкаў снег хрумсціць пад нагамі. А сонца, сонца!..

— Прыйдзем, Шурка, пад бярозку,— кажа Косцік,— падсядзем: шаргу-шаргу-шаргу... Большае галлё пілачкай, меншае — ножыкам, і выражам цялелс...

Шурку ўспамінаецца казка пра Пілiпку-сынка: «Паехаў дзед у лес і высек цялеж...»

— Як тое, Косцік, што тата баяў,— кажа ён і шморгае носам.

— Не-е, тое — казка,— адказвае Косцік.— А вось я вырасту яшчэ большы, і ў нас свой конь будзе, і я буду ездзіць у лес.

— І я таксама, ого!..

— Не, ты будзеш яшчэ ў школу хадзіць. А я не: хопіць з мяне, і так няма з чаго жыць.

Гэтак казала надоечы мама, але Косціку здаецца, што ён дайшоў да гэтай думкі сам.

— А я тады буду яшчэ бальшэйшы і таксама буду ездзіць у лес,— кажа Шурка, каб растлумачыць, што і ён калісь кончыць школу.

— Не, брат, ты яшчэ смаркач.

Шурка ў адказ толькі шморгае носам і выцірае яго адубелым кулачком. І як гэта ён рукавіцы за-быўся?..

А тым часам пачаўся лес,— спачатку кусты на куп'і, пасля пры-лесак — бярозкі, дубкі, алешнік, елачкі, — быццам квактухі сядзяць. А сонца, сонца!..

— Во, заяц бег,— паказаў Касцік, калі яны звярнулі з дарогі на цаліну, у кусты.

— Дзе?

— Во сляды, бачыш, во! Гэта і гэта. Дзвюма ножкамі... Ці, праўда, чатырма.

І праўда: ад елачкі — заячыя сляды, быццам нехта, бегучы, папіраўся кіёчкам. Пасля пачаліся яліны, бярозы, алешнік, асіннік. Зрабілася зацішней, пацяплела. На ялінах, нагадваючы свечкі на каляднай ёлцы, віселі шышкі-таўкачыкі і залаціліся на сонцы. Нешта заварушылася ў зялёным іголлі, і на сонцы заіскрыўся, пасыпаўшыся, снежны пыл.

— Ціха-а,— шапнуў Касцік,— гэта вавёрка. Я крыкну,— от дзе пойдзе!..

Шурка і так маўчаў, утаропіўшыся, як кот на мышыны шэлест у саломе.

— Ага!..— гукнуў з усёй моцы Касцік. Шурку ажно сцепанула. «Ага!» — ёкнула між дрэў глухое зімовае рэха. Прыціхла зноў, а на яліне ўсё ж такі нешта варушылася. У вершняку шушукала — гэта ветрык поўзаў па вяршынях. А так — ціхенька ўсё, толькі сінічкі: ці-сік, ці-сік...

— Ну, рэжма, Шурка, а то ты ўжо замёрз. Вось гэтую.

А гэта была бярозка — пярэстая, касатая, як і ўсе нашы бярозкі. Вакол яе — казіныя сляды і «боб».

— Што гэта, Касцік, хадзіла,— авечкі?

— Але, авечкі. Козы дзікія, сарны...

І чаго ён смяецца, гэты Касцік?.. А-а, нягоднік, таўхануў рукой бярозку, а сам хуценька нізка прыгорбіўся. Пякучы снежны пыл сыпануў з галля на Шурыка. І на твар і за шыю палез...

— Ы-ы! Касцік-хвосцік! Я скажу ма-а-ме-е,— захныкаў Шурка.

— Бачылі дурня,— лаецца ў лесе... Не плач, гэта ж добранька, сняжок. Бачыш, які ён бліщчасты на сонцы...

Угаварыў малога, асцепаў, і пачалі рэзаць. І праўда: пілачка звонка шаргу-шаргу-шаргу, а на снег сыплюцца пілавіны. Яны пырскаюць і на рукі Шурыку і на твар, адна папала на вока і пячэ... Шурка змахнуў яе рукой і зноў шаргу-шаргу...

— Ты не віляй рукамі, не цісні! — злуецца Касцік. Шурка як мага стараецца не віляць, а ўсё роўна віляе. Шаргу-шаргу-шаргу...

— У-ух, як цяжка з табой! — уздыхае Касцік і садзіцца на нагу.

— Рукі мае памерзлі...— не вытрымаў Шурка.

— Памерзлі? Дык і я ж без рукавіцаў! Снегам вазьмі патры, як той дзядзька казаў. Або не, ты ж яшчэ малы. Вазьмі пабі аб плечы. Бачыў, як я рабіў?..

Шурка ўстае, адступаецца і размахвае адубелымі ручкамі...

— Ай-ей! — закрычаў ён і заплакаў.

— Што ты, што? — схапіўся Косцік.

— А во!

Гэта — другая бярозка. Шурка выцяўся аб яе запясцю і на дадатак зноў абсыпаўся пякучым снегам.

— А-а-а! — плакаў ён, трымаючыся за руку.

— Ты, Шурка, ты не плач, а то стражнік пачуе — дасць нам прачуханца...

— А-а-а!.. Не пайду табе больш у лес... нік-кол-лі-і!..

— І пілу забярэ... Ціха ты, разява! На ўвесь лес... Пачакай — я кончу адзін, а рука перастане. Ты толькі не крычы.

Шурка паслухаў Косціка і з моцпага «а-а-а» перайшоў на ціхенькае «ы-ы-ы». А ручка гэтак баліць, а пасля гэтак зайшла ад пары!..

Шаргу-шаргу-шаргу,— працавала піла. А пасля сталася самае прыгожае: бярозка пахілілася, Косцік папхнуў яе раз, і яшчэ, і яшчэ раз, і бярозка — крр-рах! — легла на снезе. І неяк раптам паменшала.

— Во табе як! — весела крыкнуў Косцік.— А гэтую дурніцу, што цябе, Шурка, выцяла, возьмем ды заўтра спусцім. Ты толькі не плач. Баліць яшчэ?

— Трош-кі,— хныкнуў малы астаткам жалю. Пакуль Косцік церабіў бярозку — Шурка глядзеў.

Рука перастала балець. І неяк шкада зрабілася, што па ўсім ужо і трэба дахаты...

— Косцік...

— Га?

— А мнажэй не будзем рэзаць?

— Больш — нашто? Заўтра. А цяпер борздзенька пойдзем. А то мы тут накрычалі, накрычалі...

Косцік ізноў падперазаўся пілой, узяў на плечы пярэсты бярозавы цялеж, і яны пайшлі па снезе ў той бок, дзе была вёска. Абы крануў тым ці тым канцом целяжа аб бярозку ці алешынку,— зверху зноў церушыўся снежны пыл, бліскучы і пякучы, бо сонца, сонца!..

...Недзе ў мястэчку Дварок стары багацей Пятрусь Грыб адвёў пазычанага каня і брыдзе цяпер цяжкімі валёнкамі па ўхабістай, заплямленай гноем дарозе дахаты. Лейзараваму каню — нішто сабе: дармавога сена наеўся, аўса прыгубіў... А Петрусю і не ікнецца нават, што тут яму якраз цяпер зладзеі зрэ-залі яшчэ адну бярозку...

Аб тым, што гэты лес «чужы»,— «зладзеі» гэтыя зусім не думаюць. Ды вось яшчэ і дзядзька той казаў, што лес не чужы, а іхні, нават нейкі народны... Косцік думае толькі аб тым, што трэба асцерагац-ца, бо, як зловяць,— наб'юць. А Шурка нат і гэтага не думае. Ён ужо не баіцца снегу. Ён тралюе ўслед за Косцікам, разнімаючы рукамі галінкі і лапы. Снег сыплецца, ды ўжо не гэтак пячэ, а ручкі, бадай, і зусім не мерзнуць.

— Я не баюся, Косцік,— кажа ён аб снезе, а Косцік адказвае яму тонам сапраўднага ляснога злодзея:

— Чаго ж баяцца? Абы з лесу — і па ўсім. Што ты мяне злавіў, ці што?

А пад нагамі бадзёра паскрыпвае снег.

*1938—1943, 1956*

## “ВЕТЭРЫНАР”

Нашу Сіўку нешта трывожыла. Прыдзеш у хлеў пасьля ночы, дык пад нагамі ў яе кола вытаптана, як ля малатарні, а сама яна пасусьлена ўся, пад пахамі мокра і грыва паплецена ў коскі, ды гэтак хораша, быццам знарок.

Прабавалі ўсялякай рады. Усіх шаптух абхадзілі. Адна шаптуха параіла ўзяць чырвонай бульбы зь белымі вочкамі, якая завецца вар'яткай, нацерці яе на тарку і мазаць Сіўку нанач. Другая параіла, каб апоўначы верхам на Сіўцы аб'ехаць тры разы навакол могільніка. Але нішто не дапамагло.

Узлаваўся наш тата.

— Ну іх, — кажа, — з шаптухамі! Толькі ўсё сала ды крупы зьвёў. Паеду заўтра па вэтэрынара, што ён скажа, паглядзім.

— Што ён табе паможа, вэтэрынар гэты! — засупярэчыла мама, ды тата сказаў ёй, што «не твая гэта справа», і паехаў. Чакалі мы, чакалі. Мама і стол заслала настольнікам, і хату разы два перамяла, і хвартух новы падвязала. А ўжо толькі ўвечары лах-лах калёсы: узьязджае наш тата на двор. Уваходзіць у хату, а на руках у яго маленькі сівенькі козьлік.

— Вось вам і «вэтэрынар» — кажа тата. Разьвязаў казлу ножкі і пусьціў яго на падлогу. У козьліка — рожкі і пад мызачкай ледзь-ледзь пачалася бародка.

— Дык гэта ты — «вэтэрынар»? — скубануў я яго за бародку. А ён таўхель мяне рогам, і мы ўсе ў рогат: і тата, і мама, і я.

— Сіўку трывожыць ласіца, — кажа тата, — мне вэтэрынар сказаў. Казыча кабылу, каб яна бегала, спацела, а тады пот яе смокча. Ласіца вельмі казінага паху баіцца, адразу ня пойдзе. А шаптухі нямаведама што раілі. Туманяць вочы, дый толькі.

— Ну, будзем бачыць, — сказала мама тату, — што ты із сваім казлом вымудрыеш.

А козьлік, мусіць, ня ведаючы, што аб ім ідзе гутарка, скок на лаву, скок на стол, на ложак, а з ложка на печ. Стаў на коміне ды «ме-е-е-»! Першы раз, такім тонкім, дрыжачым голасам.

Ах ты, свавольнік!

* * *

Памясьцілі козьліка зь Сіўкай разам.

З таго часу ласіца перастала Сіўку і ганяць, і косы заплятаць у грыве. Толькі козьлік пасьля ночы стаіць ці ляжыць змучаны, сам ня свой, ды толькі тоненька, дробненька: «Ме-е-е!»...

— О бедны мой «вэтэрынар»! — жартую я, ды яму не да сьмеху. Пасьля-ж і яго пакінула ласіца, зусім адчапілася. Спаць прымасьціўся ён у Сіўчыным катуху, на сене. Сіўка спачатку пырхала на яго і туліла вушы, а потым прызвычаілася ці можа таксама ўцяміла, што ён яе «вэтэрынар».

Паілі козьліка малаком з бутэлькі, цераз соску. Угледзіць толькі — эх, бяжыць! Укленчыць і смокча, узяўшы соску на язык, толькі хвосьцікам падрыгвае. Вельмі-ж я любіў падражніцца зь ім гэтай бутэлькай з малаком. Як ён бегае за мной і мекае і тоўхаецца рожкамі ў калені!..

Падрос козьлік і вельмі-ж развалачыўся. Панадзіўся ў Піліпавы грады і ўсе капусныя высадкі абцерабіў. Ганяе яго цётка Марта і лаецца: «А каб цябе так ды гэтак!».

А дома ў нас панадзіўся ў каморку, па крупы. Так сабе клямку рогам — раз, дзьверы таўхель, ськіне вечка з кубельца і чаў-чаў-чаў — есьць, толькі бародкай трасе. А то хлеб знойдзе, усе боханы паабгрызае. Проста рады няма. «А каб цябе воўк заеў!» — лаецца мама. А ён забяжыць за вугол ды толькі бародку сваю высуне, цікуе. Век-жа ня будзеш стаяць, пойдзеш, а ён тады зноў — дэб, дэб — ідзе назад.

А хітры, хітры!

Зьбяруцца каля нас мужчыны на вуліцы, гутараць, кураць. А ён — тыц у тое кола із сваёй барадой, стаіць і слухае таксама. Я да яго з надворку ці з вакна:

— Эй ты, «вэтэрынар»!

А ён адвернецца — «ме-е-е!» — і слухае далей.

— Дайце вы яму, дзядзькі, закурыць! — крычу я, а мужчыны сьмяюцца. Нехта зачэпіць яго, ды ён толькі рогам штурхне і зноў слухае.

Ах ты, барадаты!

* * *

Тата паехаў да цёткі Марыі і прывёз назад нашага Жука.

Наша цётка — удава, жыве на водшыбе й вельмі-ж баіцца зладзеяў. Прыстала да таты ўвосень, і ён даў ёй Жука на ўсю зіму.

Вярнуўшыся дахаты, Жук доўга ня мог супакоіцца, прызвычаіцца зноў. Ляжыць навязаны, маўчыць, маўчыць, а потым — «воў, воў, воў» — пачынае выць ад сумных думак.

Козьлік зь ім спачатку не сябраваў. Усё валочыцца недзе ці лазіць па дварэ, таксама сумуе. У нас вароты новыя, заложым падваротню, дык і ня вылязе ніяк. Прыйдзе да Жукавай будкі, брэнькае, брэнькае

па ёй рагамі, разбудзіць Жука, узлуе. Той толькі з будкі — «ррр!». Ды так ужо казёл абрыдзеў сабаку сваім прыставаньнем, што Жук аднойчы ня стрываў ды хваць яго з будкі за бараду! Упяўся мой «вэтэрынар», аж вочы выпуліў, ды дзікім голасам — «Ме-е-е!»

— Ой, барада барада!— крычу я, бягучы ад хаты. Вызваліў яго ад Жука, а ён мне за гэта рогам ды пад бок. А пасьля разагнаўся, каб стукнуць, ды я сьхіліўся ўбок.

Біцца як навучыўся нягоднік! Мама несла ваду на каромысьле, а ён гэта ззаду падкраўся ды зьнячэўку як стукне ёй пад калені — ажно прысела і ваду разьліла. Каралі мы яго за гэта, а ўсяроўна не адвык.

Пасьля-ж яны з Жукам здружыліся так, што аж дзіва. Падыйдзе козьлік да будкі — брэн, брэн рагамі, а Жук спачатку толькі — «гррр!». А потым-такі раскатурхаецца, вылязе з будкі, панюхаюцца на прывітаньне і пайшлі гайсаць вакол двара! Палётаюць, нацешацца і да сенцаў. Стаяць абодва каля дзьвярэй, чакаюць, каб ім чаго далі. «Вэтэрынар» дык той проста прэцца ў хату ці ў кухню сам, а Жук толькі хвастом павільвае кажнаму, хто ні выйдзе. Гэты хоць трохі сораму меў: яму скажы, дык паслухае, згорбіцца і ў будку; прынясеш есьці — твая ласка, а не — дык і так будзе спаць. А козьлік — ого!

І вось аднойчы яны раптам зьніклі абодва. Апоўдні толькі прыбягае Жук адзін. Віляе, віляе хвастом, быццам нешта хоча сказаць, ды ня можа.

— Дзе-ж ты, нягоднік стары, козьліка дзеў? — накінулася мама. — Скавычы вось цяпер, як сабака, адзін. Сорамна, цьфу!

І што-ж, Жук і праўда стуліўся, прыгорбіўся, быццам ад сораму, і моўчкі палез у будку.

* * *

Дзень няма козьліка, другі няма, цэлы тыдзень няма. Мы ўжо так і падумалі, што ён зьгінуў назаўсёды.

Аднак на другім ужо тыдні дачуваемся, што наш «вэтэрынар» жывы, што ён ажно ў Лядах — трэцяй вёсцы ад нас па дарозе да цёткі Марылі. Вось ліха — няўжо яны йшлі туды?..

Я гэта за кіёк і пайшоў у Ляды, кілёмэтраў зь пяць па гасьцінцы. Прышоў, іду па вёсцы. Хацеў толькі каго-небудзь спытацца, дзе тая Янкава Стэпка жыве, у якой апынуўся козьлік, ажно бачу: на нейчым двары, у садку, стаіць мой «вэтэрынар!» Стаіць пад яблыняй дыбка і ўсьпінаецца, каб дастаць на галінцы лісток. А вокал яго дзеці.

— «Вэтэрынар!» — гукнуў я яшчэ ад варот. А ён — пазнаў, нябось, — ме-е-е!» — і бяжыць мне насустрач.

— А што, паслухаў, схадзілі? У прочкі хацеў уцякаць!

А ён штурхель мне рагамі. Таксама хацеў-бы нешта сказаць ды ня можа.

Вышла з хаты жанчына, тая самая, мусіць, Янкава Стэпка, ды кажа:

— Гэта-ж я вось раненька вышла на вёску, а ён ляжыць на мастку і ўцякаць не ўцякае. Замарыўся, відаць. Я гэта за рогі яго ды дахаты. А чорны сабака — таксама, мусіць, ваш — за мною «грр!». А я гэта хвартух расьперазала ды як махну на яго, дык ён і пабег ад мяне. Доўга круціўся каля нашай хаты, пакуль малыя, каровы гонячы, не патурылі яго зь вёскі. А гэты, вось бачыш, прывык.

Цётка, дык тая нічога, — бяры, — кажа, калі ён ваш, — але ад малых я ледзь адпрасіўся: прывыклі да казла, не аддаюць.

Начапіў я козьліку аборачку на рогі і павалок з двара.

Мне дахаты сьпяшацца трэба, а «вэтэрынар» — хоць ты яму што хочаш: дрэ-дрэп ды годзе. Папасу я яго трохі каля прысад і далей. Ужо зусім пад вечар дабрылі мы дахаты.

Ну-ж і ўводзіны былі! Распытваюць мяне, сьмяюцца. А малых дык цэлая чарада за намі ўчапілася.

Падвёў я «вэтэрынара» да Жукавай будкі. Вылез Жук, панюхаў козьліка, а той толькі рагамі таўхель яго, а сам адышоўся і лёг.

— А ну, — кажа мне дзядзька Паўлюк, — шасьні гэта, Лявон, на паперку. Гэта-ж, брат, казка, жывая казка! І трэба-ж ліха ім, надумацца ды згаварыцца!..

— «Вэтэрынар!» — кажу я козьліку. А ён толькі павярнуўся.

— Ну што-ж, ідзі раскажы, як вы ў госьці хадзілі, будзем казку пісаць.

А ён навет і ня ўстаў.

І вось я запісаў гэта сам. Праз дваццаць год, а ўсё-ж такі запісаў.

## ПАСЫНАК

Прыйшоў я ўчора з каўзачкі — мокры, мокры! — і тапчуся ў сенях, канькі хаваю. А мачаха нашая — тыц з кухні:

— Дзе ты, зладзюга, быу?

— Дзе быў, дзе быў... У карчме гарэлку піў. Выпіў чарку, выпіў дзве, закружыла ў галаве...

— Я табе зараз як дам, дык табе не толькі ў галаве закружыць, здыхата ты!

— Дасі, дасі... Вельмі ты мацера...

А яна мне бац па вастрыі. «Цякай!» — кажу я,— а яна мне зыоў ды зноў!.. Я ўжо шдзе «цякай», сам: драла ў хату. А яна мне яшчэ дзвярамі ды па пятах!

— Пан бог з намі, што гэта за кабета? кяжз. нашая баба.

А я разуўся, залез на печ ды ўголас. «Ну,— думаю,— зараза ты, буду плакаць, пакуль тата з лесу прыедзе». Роў я, роў, выў-выў, скавытаў-скавытаў, а потым чую — Прузыня, што ў нас з кудзеляй с я дзіць, ціха пытаецца:

— А за што яна таўчэ яш, свацейка? Ашалела, ці што?

— А маўчы, мілая,— таксаіуіа ціха кажа баба.— Хай яе пярун паб'е. Ці ж гэта пяршынка! Ліха ёй, як звер: дарвецца да малога і лупцуе, як па жывёліне. Ну, за што, за што ты яму кроў пусціла, каб ты пусціла журам, каб ты?..

«Кроў пусціла»,— надумаў я ды мац сябе за нос. А ён гэта патрошкі ўжо і шчымець пераставаў. Памацаў і гляджу: мокрае, ды не кроў. Але ўзяў мяне жаль, і я сабе зноў зацягнуў: «Ы-ы-ы...» Пасля мачаха нечым забразгала ў сенях, дык бабы цыц, ні славечка. Толькі ціхенька тоўх ды тоўх у кудзелю, а верацёны жжум ды жжум...

Зайшлі мае рукі з пары, і ногі таксама, а пасля гэтак цёпленька зрабілася... Падлажыў я рукі пад сябе, каб не гэтак горача было, і гляджу на столь.

Нашую бэльку шашаль патачыў, той самы, што скрыпае ноччу. Нейкія ўзоры ды ўзоры, і на канце, і на сярэдзіне. У сё роўна як мне летась Ганчарыха во лава вылівала, пасля таго, як мяне Рыгорава Падласка на рогі падняла. Эх, расплавілі бабы волава ў лыжцы ды боўць яго ў міску. «Карова, дальбог, карова! Во, во, і ногі, і рогі!» І ўсе мы схіліліся над міскай, глядзім. А там такія вось разгіракі, як тут, на бэльды, ніякай каровы няма. Я й кажу ім тады, а яны мне: «Ты яшчэ малы, дурны...»

Глядзеў я, глядзеў, і начало мне патрохі вярзціся. Во Базылёва вага, ды крывая. Во якраз як кабыла спераду, толькі над зад

распаўзлося і замест заду з хвастом — сыр у клінку. Утаропіўся я ў гэты сыр, а там ужо і нос, як бульбіна, і пессльыіікі, як у Бугаёвага Мікіты... «Уу!» — наставіў я яму губы і ціхенька засмяяўся... А потым чую — Прузыня кажа:

— Сціх нешта, бедненькі, мусіць, заснуў...

«Пачакай жа ты, Проська,— надумаў я,— што вы

цяпер будзеце гаварыць? Мачаха некуды пайшла, дык вы і смелыя...» Прытаіўся і слухаю.

— Я ўжо й кажу не раз, свацейка,— пачала, памаўчаўшы, Прузыня,— твой Герасім такі чалавек, а што ён узяў!..

— Пагібель, мілая, у хату,— адказвае баба.— Яна яму ўжо ўсе костачкі пераела, не токма што. Малога гэтага,— га к і ж хоць і не роднае, а ўсё ж такі дзіця,— што зарве, так і лупцуе. А ўжо мне дык і не пісні.

— Але, свацейка, спадзявалася ж ты хіба? Адзін сынок, увесь век петавала, збірала, і нябожчык Пятрусь, хай са святымі спачывае, таксама. А тут табе такая нешкарадзь бушуе!

— Мне-то ўжо, мілая, што,— дзень мала, два многа, але самому з кім веку дажыць, з кім слоўца прамовіць? Казала: глядзі! Дык не! Уплёўся да гэтае, урэзаўся, як чорт у сухую грушу. І года нават па Мані-нябожчыцы не паплакаў. Гарасім, Гарасім,— кажу тыя разы, дык куды там! «Мамаша такая жонка ўсім насы падатрэ. Красавіца, кроў з малаком, а глаўна — вумная, за словам у кішэнхо не палезе...» А гэтая красавіца на другім годзе карову даіла, а ён нешта сказаў — пзўна ж, гаспадар! — дыкяна, мілая, цэленькі ўдой ды бабах яму на галаву! Улятае ён у хату — пан бог з намі! — па чубе, па вусах белыя рагі дякуць, з кажушка на зямлю капае... «Заб'ю, дальбог, заб'ю!.. Мамачка, што мне рабіць?!» Што ж ты, сынку, будзеш цяпер рабіць — аблізвайся.

— Я й кажу, свацейка,— гаворыць Прузыня,— тае ночы, намятаеш: пасля пажару, нешта над свет... Я ўжо прачнулася, да печы, а тут гвалт на дварэ, тарарам — то баба, то дзіцячы голас. Я гэта спадніцу на сябе ды ў сені. Чую — валтузяцца на вашым падворку. Ён усё: «Ціха ты! Злезеш?», а яна: «Забівае, гвалт!» А Макар Забабулаў — бу, бу, бу — ваўкалак гэты: «Заткні ты ёй горла, Гарасім!..»

Ляжу я на печы ды думаю: «Глядзі ты, Проська, бачыла!» Бо і праўда. Тата хацеў тады дзядзьку Макару па дрэва ехаць, а мачаха яму яшчэ вечарам кажа: «Не паедзеш, кабыла мая, пасажная». Тата хацеў раненька, да свету яшчэ, цішком уцячы, запрог ужо нават, а мачаха выскачыла ў адной кашулі, села на зямлі, ногі ў спіцы і гвалт! Я таксама на двор, таксама ў адной кашулі. Мачаха кажа: «Крычы,

Косцік, гвалт, маму рэжуць!» А мне што? Я: «Па-жар!», на ўсё горла. Дзядзька ж мне пугаю па галышах як цяў — ажно закруцілася! Мачаха — да яго і, эх, шчапіліся! Яна думала — гэтак, як з татам, ды Макар нябось пугаю чосу як даў!.. А тата скача вакол ды ўсё: «Макар, Макар, давольна!» Дурань тата! Я б тады па кабыле ды драла, нябось не дагнала б! А то яна яму тады яшчэ юшку спусціла, і кабылы не дала, і тры дні ў печы не паліла.

А бабы ўсё сваё.

— І ліха ж яго, мілая, ведае,— кажа нашая баба,— каму як каму, а мне дык заўсёды найгорш! Пагрызуцца, дык ён тады ўжо сэплі папусціць ды да мяне: «Ма-ма-ша...» То не спяць разам па сварцы, яна яго да сябе ні ў зуб, а то дык... Хай ужо бог даруе святым чацвяргом...

Натапырыў я вушы... Шэпчуцца... Прышапетваюць толькі... Нічога не разбярэш... А потым зноў мацней.

— Я й кажу, свацейка, молса, каб ёй бог дзеткі даваў, мо б яна і асталявалася, спакоілася б. А то што ж, яна баба, як звер, а дзяцей і няма.

— А маўчы, мілая, маўчы,— шэпча баба.— Быў бы ў яе што гадок, то й ядок, але ж, сама здарова ведаеш, мода цяпер завялася...

Зноў прышапетваюць, заразы... Зноў мацней:

— Я й кажу, свацейка,— Мартосіна нявестка, кажуць, «хлеба гарачага ўсмак пад'ела і праз ноч сама гатова». Ім здаецца, што людзі дурныя...

— Каб іх, мілая, распёрла, як яны да такога гарачага хлеба падкія! Маю раз добра-такі скурчыла, хадзіла крукам. Запрог кабылу ды да дохтара...

Тут ужо я не вытрымаў;

— Яна мне казала тады, што паваліласся ды разбіла калена.

— Ах, мае! — перапалохалася баба.— Гэта ж ты, бімбус, не спіш?.. А каб цябе, як ты прытаіўся!

А я з печы:

— Ага, раскажу! Усё раскажу! І мачасе і тату!

Давай яна мяне прасіць, давай малёкаць. «А Косцік, а залаценькі, а ўнучак, а дзіцятка...» А я ўсё падманьваюся.

Пасля Прузыня дахаты найшла. Сядзіць сабе адна наша баба, тоўхае ў кудзелю, прадзе. Шчапіла губы, злосная, маўчыць. А мне цёпленька, цёпленька!.. Палажыў я сабе на жывот ката, той лапкі пад сябе, мурр-мурр — мурлыкае.

— Баба,— кажу я потым.— Бабка! Хочаш, каб не сказаў?

Маўчыць.

— Бабачка, галубачка, баразёначкі на твары, золатка мае старэнь-

кае, хочаш, каб не сказаў? Раскажы казку. Хоць адну, хоць кароценькую. Дальбог, тады — нікому.

І ўпрасіў-такі.

— От хіба казкі захацеў, нававбранец! Пачакай, кончу ручайку.

Дапрала — шарэць начало. Узлезла да мяне на печ, прыкукобілася каля коміна і пачала:

— Жыў сабе, быў сабе муж Хама і жонка Хіма-гультайка. Пойдзе яна жаць, ляжа ў жыце і спіць, як мядзведзь...

— Якраз як наша мачаха.

— От ты лепш маўчы ды слухай!

— Што маўчы! Я ж сам чуў, як Вяроўчын Паўлюк расказваў мужчынам пра нашу мачаху, што яна пойдзе лён палоць, з'есць кілю сала з хлебам, выш'е збанок кіслага малака, выцягнецца ў ільне і тады ў яе сорак пяць градусаў гарачкі.

— Якое гарачкі, жаба ты! Людзі — божыя сабакі! Нябожчык твой дзед сорак адзін градус меў, дый то жыўцом згарэў, царства нябеснае...

— Наша нябось не згарэла б!

— Слухай вось лепш. Раз пайшла Хіма жыта жаць і, жнучы, святую багародзіцу сасніла. А як прысела на сноп супачыць — заснула і праспала да поўначы. Прачнулася — ах мае! — ды дахаты. Стук-стук, то ў шыбу, то ў дзверы. А Хама замкнуўся і ні шчабоўкне. «Хама, адчыні!» — «А хто ты?» — «Я твая жонка, Хіма».— «Лжэш, падла, мая Хіма тут!» І пытаецца сам сябе: «Хіма, ты тут?» — «Тут», — адказвае сам сабе. «Тут мая Хіма, тут!» Раз, другі, трэці. Пасля думае Хіма: «Ці ліха, можа, я не туды трапіла? Нашая хата сёмая з краю». Пайшла з канца вёскі, лічыла-лічыла, усе сабакі разбрахаліся. Далічылася: іхняя хата. Стукае-стукае, а Хама тое самае ёй: «Тут мая Хіма, тут». На світанні ўжо ўпусціў яе Хама. Даў у каршэнь і кажа: «Палі ў печы, завала ты горкая, і галаву праспіш!» З таго часу Хіма не засынае ў полі. І ўсё.

Я толькі хацеў спытацца ў бабы, чаму наш тата гэтак не зробіць, а тут бразь дзверы ў сенях — мачаха...

— Дзе ж гэта вы падзеліся?

— А мы, Зінка, тут, грземся з Косцікам.

— Грэ-ем-ся,— перакрывіла мачаха бабу.— Сені хаця замкнулі б, а то ўлезе хто ды абярэ. Абое рабое. Ідзеце замкнеце за мною. Не паснеце толькі, я хуценька.

І пайшла. Баба, крэхчучы, злезла, замкнула сені і зноў налезла да мяне.

— Падалася на вячэрнія памыі,— кажу я.

— А няўжо ж. Цяпер дай бог да поўначы. А той прыедзе, каб

дровы скінуць памагла ці вары лыжку наліла, пагрэцца...

Баба яшчэ ўсё нешта мармытала. Мяне ж гэтак у сон кінула, гэтак змарыла... І я заснуў...

Прачнуўся я — нехта за нагу мяне тузае, будзіць: «Вячэраць ідзі!» Раскатурхаўся я трохі, паморгаў на агонь ды бачу: тата наш сядзіць за стал ом, перад ім стаіць міска капусты, толькі пара йдзе, а сам ён чырвоны, толькі вусікі тырчаць, як у прусака.

— Хадзі, Кастусь, павячэраем трохі.

Злез я з печы, за стол ды за лыжку. А баба прыгаворвае:

— На з хлебам, унучак, ды папоўніцы, каб рос хутчэй, тату на падмогу...

— А дзе ж Хіма? — пытаюся я з поўным ротам капусты.

А баба тоўх мяне: «Каб табе заняло!»

— Якая Хіма? — пытаецца тата.

— Ну наша. Тая, што, жнучы, багародзіцу сасніла.

І расказаў яму бабіну казку. Баба дык, здаецца, з'ела б мяне за гэта. А бацька рад, рагоча. Потым мачаха прыйшла з пацягушкаў, дык ён да яе:

— Ну, дзе ты, Хіма, была?

— Што за Хіма?

— Ну тая самая, што, жнучы, сасніла багародзіцу. За што ты Косціка біла? Я хадзяін свайму сыну, не смей распараджацца без мяне!

— На вось табе! Не пыталася і пытацца не буду!

— Замаўчы! Я сказаў: замаўчы!

А мачаха бац яму пад бараду. Ён, мусі, язык прыкусіў, бо аберуч хапіўся за мызу. А пасля і шчапіліся. Тузаўся, тузаўся тата, ніяк нічога не зробіць. А пасля мачаха рраз яго і верхам, і за горла! А я: «Урра!» на ўвесь свет.

Тата хрыпіць, і ўсё:

— Не, брат, не на та-го-о на-рва-ла-ся... гэта табе не з мамай, не з Ко-ось... хр.. хрр...

А сам толькі ножкамі стрыжэ, адна босая, адна ў галошы.

— Каб цябе пярун!— расставіла баба рукі.— Ён дзеравякаў навароча ўся, а ты яго б'еш, каб цябе бог пабіў... Унучак, памагай!

І цягне мачаху за спадніцу. Я з ёю разам упяўся. А тая як не схопіцца ды да бабы! Тата на мачаху: «Не смей маю мамашу біць!» Мачаха бачыць, што крута — за качалку, што на палку ляжала, а я зноў: «Урра!!» Дала яна нам. Тату па мухаедах, бабе па руцэ, а мне дык па крыжы як узбабоўчыла — ледзьве хвост паваляк...

Я сяк-так уступіўся, за каптаи ды ходу. На вуліцы зачапіўся за

нешта ды аб зямлю. Гляджу — што за чорт? — адзін бот свой, а другі — татаў, вялікі. Абодва, ліха ім, левыя. «Ды не,— падумаў я,— не пайду больш у хату!..»

Вярнуўся я з вячоркаў позна. Прабую сені — замкяутыя. Я дзуб-дзуб у акно, ціхенька, раз і другі. Баба мне адамкнула. Мачаха нават дзверы лапатай падперла. Распранаюся я ды бачу: ляжыць Хіма адна на ложку, загуменнем на хату адвярнулася, а бацька на лаве прымасціўся. Абое спяць. Лёг і я.

Баба пацеры якраз гаварыла, а я ёй, стукаючы, усю музыку перабіў. Дык давай яна зноў.

Я ўжо на намяць ведаю ўсе яе гэтыя «ў агурцэ твае, госпадзі» і «часнага, жыватварашчага», толькі слухаючы, навучыўся. І тут чую, кажа яна:

«...Шастая не ўбі, сядзьмая не пралюбы сатвары, васьмая не ўкрадзі...»

Гэта як раз палавіна. Тады пойдзе «Верую», «Аччанаш», «Да васкрэсне бог» і «Настуля хрышчоная». Во, во, дайшла!..

«Я, Настуля хрышчоная, на свет божы пушчоная, лажуся спаць на гаснодніх тарах. Станавіцеся ўсе святыя па баках, матка боская ў галавах, а Ісус Хрыстос у нагах...»

«Ого, думаю, абгародзіцца, і Хіма з качалкай не далезе». А яна далей.

«...і стойце ад поўначы да свету і ад свету да веку. Ссай, ссай, ссай».

Распранулася і лезе да мяне, на «гасподнія горы».

— Баба,— шапчу я.

Маўчыць. А мяне проста пушыць ад смеху.

— Бабка! Ты гэтак хораша молішся,— навучыла б ты Хіму маліцца!

— Хай цябе,— хліпае баба,— хай цябе, унучак, сляпога водзяць, як ты мяне заўсёды падводзіш...

*1942*

## ЦУДЫ Ў ХАЦІНЕ

Напрадвесні яшчэ ўсё то ля док, то брудны снег, то лужыны, то голая зямля. Снег пад нагамі трымаедца, а ступіш на зямлю — так і глядзі: зачэрпаеш лапцем гразі.

Але неба ўжо вясёлае. З прасветлінамі ў хмарах, хаця і халоднае.

Два хлопчыкі ідуць за мамай з вёскі ў вёску па палявой дарозе.

Маці нясе пад пахай скрутак шарачку, загорнуты ў хустку. Высокая і дужая, яна маўчыць, ідзе шырока і цягавіта, нібы ў ярме сваёй удовінай долі.

Тая ж маці, што толькі паўгода таму назад, калі мёртвы бацька ляжаў яшчэ на ложку, а ў хаце былі сама ды малыя,— кідалася ад стала да парога і, нема галосячы, ірвала жменямі валасы. Адна, твар у твар са сваім неабдымным горам... Ды вось жыве, гаспадарыць.

Толькі і радасці — дзеці. Андрэй і Мішка. Не скажаш, што горшыя, чым у добрых людзей. І вучацца ўжо абодва, і дружаць. Трохі, вядома, распусныя, трэба глядзець...

— Вы ўжо хоць там, у хроснага, не выскаляйцеся лішне,— кажа яна, не азіраючыся.— Трэба харошымі быць, каб усе хвалілі.

— Што ж мы, сабакі — выскаляцца? — адказвае большы, Андрэй.

— Ну, ты глядзі ў мяне! З цябе нябось усе свечкі і загараюцца!..

Андрэеў хросны, дзядзька Макар, кравец. Малы, гарбаценькі, з вялікай галавой. Порткі суконныя, шырозныя — ажно ў зборкі пайшлі. У высокіх валенках, аж ногі не гнуцца.

Толькі хлопчыкі з мамай увайшлі ў яго хату, устаў з-за машыны, пачаў:

— Лізавета Іванаўна, кума! Андрэйка, хросьнічак мой ненаглядны! Мішка!.. Сіроткі мае, чым жа вас ласаваць, чым сустракаць?

І — эх!— заківаўся, замітусіўся па хаце. Кошык з бульбай кашкануў валёнкам пад палок, лап'ё, што ляжала на лаве, шпурнуў у запечак...

А хата, хата ў яго!.. Цёмная, нізкая, ток пабіла на ямы.

— Не прастарэкуй ты лішне, Макар. Садзіся вось ды шый.

— А як жа ты, Лізаветка,— ты ж нешта прынесла?

— Паспею. Дай хоць адсапціся.

— Сядзь, дарагая, сядзь. Сагрэй бяседай сэрцайка. Яно ж і спяваецца: «Ах, божа ж мой, адзінота мая, прападае ўся работа мая!..»

Хросны сеў за машыну, заварушыў вялізнымі валёнкамі на рашотцы, і першы цуд яго беднай хаціны — магутны «зінгер» — загаманіў.

Мішка спачатку, цікаўна застыўшы, сачыў, як скача-гуляе бліскучасты шпянёк, як круціцца белая шпулька. А потым — усё адно і тое

ж, адно і тое ж... І ён пачаў патроху ныць:

— Мама, хадзем дадому... Мама...

— Паспееш. І дыхнуць з-за вас няма калі.

— Яны сумуюць, Лізаветка. Вось я вам, хлопцы, нештачка дам.

Хросны ўзяў зэдлік, паставіў пад бэлькай і цяжка ўзлез на яго: спачатку каленьмі, а потым ужо... Хата ў яго даўнейшая: упоперак бэлек яшчэ адна бэлька паложана — трам. Хросны сігануў рукой за гэты трам і дастаў адтуль другі цуд свае хаты — кнігу!.. Абабіў з яе пыл аб шырачэзныя порткі, абабраў рукой павуцінне, падаў бліжэйшаму, Андрэю.

— Яшчэ ў горадзе мне падарылі. Хадзяін, у якога я вучыўся шыць. Дзяцей мне госпад не дае, дык вось яна тут і ляжыць.

У кнізе той цацкі — ну, як жывыя!..

На першай старонцы — зямлянка, градкі капусты, а на парозе стаіць сабе вожык.

На задніх лапках, у сіняй камзэлі, у чырвоных портках са шлейкамі, у выступках. Пакурвае люльку, глядзіць на грады і вось-вось скажа: «П-пых!»

— Цікні,— шапнуў Мішку Андрэй.— Мой хросны! І абодва яны аж зайшліся ад ціхага смеху.

— Ты, Андрэйка, чытай. Ты ж старэйшы. Бо гэта харошая кніжка. «Жыў сабе, быў сабе дзядзя Ёж...»

А яны рагаталі, як дурні.

Пасля пачалася прымерка.

Хросны раскаціў на стале шарачак і аберуч пагладзіў яго.

— Роўненькі, гладзенькі... Шоўк! Залатыя ручкі ў цябе, кумачка...

— От, мерай ты, Макар. Каторая пара.

— І паабедаеце, госцікі дарагія, у мяне. Пасоля з картопляй — чым багат, тым і рад. Прынцэсы мае няма: пайшла ўчора да цёшчы. Сам навварыў.

Ён узяў пакамечаны сшытак, разгарнуў яго і, жмурачыся, пачаў выводзіць тупым алоўкам:

лізавецгн. мгшка. пятровіч, Штанэ

Тады прыгнуўся са сваім «сантыметрам» да Мішкавых портак.

— Ага,— схамянуўся ён, адагнуўшыся,— А як жа будзем шыць: бручкі абыкнавенныя ці з засланкай?

— Ат, бручкі-шмучкі! Жартачкі — кавалеры! З засланкай ды з нагруднікам. Абодвум.

— Даўжыня: семдзесят два,— сказаў і запісаў хросны.— Подшаг,— шапнуў ён і, адной рукой прыціснуўшы канец «сантыметра» ў Мішкавым куточку, другой рукой павёў «сантыметр» да лапцей.

Сам ён, хросны, маленькі і так, а сагнецца — дык і зусім. А за ім стаіць Андрэй. Разгарнуў тую кнігу на першай старонцы, дзе вожык у портках, і — зараза! — падморгвае. Мішка надзьмуўся як сіла мага і маўчыць. Ды тут падвёў сам хросны. Ён цяжка адагнуўся і з натугі:

— П-пых!

Хлопчыкі пырснулі смехам.

І мама здагадалася нарэшце, што тут да чаго. Забрала кнігу, крутанула Андрэя за вуха, а кнігу, нават не стаўшы на зэдлік, палажыла на трам.

Хросны маўчаў, зачырванеўшыся.

Потым елі «пасолю з картопляй». І харошым, разумным хацелася быць, але дзе ж тут иабудзеш?.. У хроснага лыжкі драўляныя і круглыя, як жалудовыя місачкі. А на канцах чаранкоў — яшчэ і бульбачкі нейкія. Смешна! Ну, ды гэта яшчэ нішто... Бо вось ён, стары ўжо дзядзька Макар, трымае лыжку так, што тая бульбачка тырчыць у яго паміж пальцаў... А ж мама не вытрывала:

— Што ты мне гэтай хвігай тыцкаеш пад нос? Хросны зірнуў на руку, здагадаўся і, чырвоны ад смеху, які спачатку хацеў стрымаць, прашаптаў:

— Сорак другі год так свянчуся... Ніяк не адвыкну...

І ад душы зарагатаў. А з ім разам, вядома, і хлопцы. Нават і мама, што так даўно не смяялася. Трэці, найбольшы цуд!

*1943*

## ПАМОЧНІЦА

Яна яшчэ спала б, хоць мухі ройма гудуць, дакучаюць, кусаюцца, хоць Васіль разроўся ў калысцы, што ледзь бабуля яго супакоіла. Ды вось прыйшоў Шурыкаў дзед. З бядою — учора малыя гулялі на іхнім двары і зацягнулі кудысьці аброць. Мілачку будзяць і шмат разоў, на ўсе лады гавораць ёй пра аброць. Вочы малое сонна моргаюць, і гэтак жа клоніць зноў на падушку! Але Шурыкаў дзед яшчэ ўсё пытаецца:

— Ну і што, дзе аброць?

Прыходзіцца ўсё ж такі ўспомніць, што яна, «гэты во», мусіць, там, на прыгумснні, дзе ляжыць перавернуты воз, дзе кошка несла вераб'я, а яны, «гэты во», пабеглі за ёю, забыўшыся пра гульню ў «коні»...

— Вось і ўсё, маладзец,— кажа Шурыкаў дзед.

Міла сядзіць у нерашучасці: ці спаць яшчэ, ці ўжо ўставаць?

— А ўжо ж,— кажа бабуля,— разбуркалася трохі, дык і ўставай за адным скрыпам.

Памыкаўшы трохі, малая даецца апранаць яе. Рукі старое дрыжаць, а ўнучка ўжо шчабеча. Нібы здагадваючыся пра тое, што і ўдзень, і ўначы мучыць яе бабулю, Міла расказвае сон:

— Я сплю, бабка, ляжу сабе і сплю, і сню — здаецца, нашы дзверы рры-ып і адчыніліся, а дзядзька Хведар — тыц у хату! Прыехаў! Вярнуўся!..

Старая глядзіць на сваю шчабятуху, сумна ўсміхаецца і кажа:

— Ах ты, Ганулька!..

Міла ўжо ведае, што Канцавая Ганулька — старая лгунка. «Ілжэ і не круціцца,— кажа пра яе бабуля.— Нібы казку табе расказвае. Прыйшлі, кажа, надоечы сем ваўкоў, пад'елі на нашым двары са свінога карыта з рабым кныручком і палеглі на возе паспаць... І сон яна табе сасніць на ўсякую патрэбу — толькі слухай...»

Унучка сарамліва аблізваецца і моргае, ужо не соннымі вачыма.

Але, відаць, не каецца, што салгала,— яна ж хацела зрабіць сваёй бабцы прыемнае.

Потым старая мые яе, выцірае, ставіць голымі каленкамі на падлогу і пачынае «маліць». Міла і сёння зноў памыляецца, за што цяпер дзякаваць бабінаму «бозі» — за «шчаслівы дзянёк» ці за «шчаслівую ночку». А баба зноў злуе:

— Нябось пра рэпку дык ты не забудзешся!

Па снеданні пачынаюцца гулі — сонца, трава, вясёлыя вочы, прыгажэйшы за ўсякую музыку смех. Ды вось зімой нарадзіўся Васіль, і трэба яго калыхаць, пільнаваць. Спяваючы яму пра ўсё тое стракатае, рудое ды вусатае,— пра курачку-рабку, пра лісічку, што падмятае ха-

ту, пра Ваську-ката, пра ўсё, што Міла навучылася ад бабы,— малая нянька часта думае, як гэта добра будзе, калі іх Васіль сам навучыцца тэпаць. Яна тады выведзе яго з сабой на вуліцу, як Жэнька іхнюю Зосю. А часта яна, не могучы супакоіць свайго разяваку, кліча бабу ці маму з двара і з прыплачам крычыць: «І што мне рабіць з гэтым дзіцем? Ідзі сама ды глядзі!»

Таксама легка, як салгаць бабулі, што сніла пра дзядзьку Хведара, Міла ўмее ўцячы ад Васіля, пакуль ён спіць або мармыча каля маміных грудзей.

Так яно выйшла і сёння. Пакуль мама карміла малога, нянька ціхенька шмыганула за дзверы.

Дзе ж гэта наша бабуля?

Хутка поўдзень. Каровы з ранак прыйшлі. За гумнамі — кветкі цвітуць у высокай траве. А ў небе — хмаркі калмыкамі, белыя, як пух.

Колькі тут трэба для ціхага шчасця!.. Старая вырвалася ад унукаў ды гаршкоў, ужо зацяжкіх на спрацаваныя рукі, узяла даўгаваты кавалак тычкі і пагнала за гумно Падласку. Карова галодная, як звер,— паша ўжо голая, вытаўклі,— і старой вельмі добра глядзець, што тут трава — любата, што скацінка пад'есць. Сама ж прысела ў нечапанай траве, каб не пускаць карову далека, і думае, глядзіць, адпачываючы душой...

Ды Міла і тут яе знайшла.

— Бабо-о, го-оў! — гукае яна ўсцешана і — эх, чык, чык, як верабей — бяжыць. Абышла асцярожна Падласку, зайшла ў траву і павісла ў бабулі на шыі.

— А дай ты мне свет! — бароніцца тая. І ўжо смяецца, а потым пытае пра Васіля.

Міла кажа, што ён сабе спіць, а мама ў хаце... Але робіцца брыдка, што мама, можа, у грады пайшла... Нянька аблізваецца і слёзна моргае вейкамі.

Бабуля добрая. Яна кажа, што маці паглядзіць там малога і сама,— заплача, дык і з гарода можна пачуць. Нічога ёй, пані, не зробіцца, пакалыша.

— А дзе наш тата?

Ну дык І што, калі яна ўжо, Міла, ведае пра гэта?

— Пайшоў канюшыну касіць,— адказвае баба.

— Куды?

— Куды ж, туды — у поле. Старая нават рукой наказала.

Далека, мусіць, тое «туды»? Вунь аж дакуль трава, а потым поле, потым лес...

Усё ў лёгенькай, зыбкай імгле, ажно лень пазіраць — не падніма-

юцца вочы на сонца. А тут вось — кветкі!

— Бабка, я кветачак нарву!

— От калі хіба, нарві!

І пачалася Міліна сапраўдная малітва. У мутнаватым блакіце звоняць, не сціхаюць жаўранкі. А нізам, па густой і глыбокай траве сігае цьь батымі, загарэлымі ножкамі бабіна Міла, збірае кветку да кветкі і моліцца песняй. Словы просяцца самі.

— Кве-та-чач-ка ма-я,
ха-ро-шань-ка-я!..—

дрыжыць над травою песня, трошкі падобная да звону жаўранкаў.

А потым — ах, матыль! Вялікі, жоўценькі, ён лятае з кветкі на кветку, садзіцца, зноў ляціць...

— Ма-ты-лё-ча-чак,
ха -ро-шань-кі!.. —

дрыжыць песня ўдагон матылю.

Міла ўжо вунь як далека ад бабы. А кветак у яе руцэ — усё больш ды больш.

*1944*

# ТЫ МОЙ НАЙЛЕПШЫ ДРУГ

## ШУМЕЛА МОРА

Верасень трыццаць дзевятага года.

Цёмная, мокрая ноч на заходніх подступах Гдыні.

Злева, у даліне, гарыць вялікая кашубская веска. На фоне полымя злыднем тырчыць касцельная вежа. Нядаўна там засеў трэці кулямёт нашай роты. Там цяпер тоўсты, спакойны Кубата, катовіцкі шафёр, з цэлым партфелем, як мы жартавалі калісьці, матчыных пісьмаў за пазухай. Там цяпер Петрык Любка, ад ціхай вячэрняй гаворкі якога дзіўна пахла нашым беларускім сенам... І гэта было ўжо, здаецца, таксама калісьці, ледзь не ў далёкім мінулым... Калі мы ляжалі на другім паверсе казарменных ложкаў, над зялёнымі шорсткімі коўдрамі, побач, і перад сном шапталіся, часамі вельмі доўга.

Таксама «тактыка»! — на вежу касцёла, асветленага пажарам, ды перад самым носам ворага, узняць адзін станкач, узброены дзвюма стужкамі патронаў і цвёрдым загадам — стрымаць ворага з усёй яго наземнай і паветранай тэхнікай...

Што ж, мы павінны былі рабіць і не такія цуды. За тры дні да пачатку вайны наш кулямётны разлік сядзеў на гарышчы адзінокага дома перад самай гранічнай паласой, што аддзяляла ад нас тэрыторыю «свабоднага горада Гданьска», які ўжо даўно стаў фашысцкім плацдармам. Туды каля нашага дома ішла нешырокая брукаваная дарога. На граніцы над гэтай дарогай угару тырчала пярэстая жэрдка шлагбаума. Іменна ён, гэты шлагбаум, пры дапамозе нашага «максіма» павінен быў стрымаць першы націск фашызму. Побач з «максімам» на стале ляжаў, у выглядзе тонкай брашуркі, загад камандуючага абаронай Узбярэжжа: «Пры з'яўленні ворага — закрыць шлагбаум і агнём стрымліваць першы націск аж да прыходу падмацавання...»

Праўда, плютановы Возняк, які тады быў пасланы з намі,— тоўсценькі, пажылы ды вясёлы качар, выпівоха, які за дзесяць год службы то ўздымаўся да чына сяржанта (старшыны), то асядаў да капрала, а цяпер якраз займаў прамежкавы чын, сваю залатую сярэдзіну,— растлумачыў нам той загад па-свойму:

— Г... айца святога,— сказаў ён, зірнуўшы ў брашуру — Слухай маю каманду. Убачыш ворага — чашы за трэцюю тару, там бахні раз пану богу па вокнах і — далей, ногі ўзяўшы за пояс, да самых казармаў!.. Ну, у каго ёсць грошы? Хто пойдзе ў вёску, у краму?..

Разлік, які змяніў нас там ноччу на трыццаць першага жніўня,

дзейнічаў потым згодна загаду. Шлагбаум быў закрыты, аднак замест прадбачанага інструкцыяй ворага ў пешым ці конным страі туды прыйшоў адзін-другі артылерыйскі залп, пасля якога каля руінаў доміка прайшлі аўтаматчыкі.

Такі самы цуд адбудзецца досвіткам і на касцельнай вежы,— няхай толькі Кубата з Любкам пададуць адтуль голас...

Зрэшты, і мы называемся грозна — першы разлік штурмавога кулямётнага ўзвода. Першы нумар разліку, шахцёр Ян Філец,— найлепшы кулямётчык нашага марскога батальёна. Нічога, глупства тое, што ў нас толькі дзве стужкі, пяцьсот патронаў...

Па лісці бручкі, у якой мы заляглі перад узгорачкам, аднастайна бубніць халодны дождж. У акопчыках, выграбеных на скорую руку, збіраецца вада, і пры кожным руху пад каленьмі чмякае гразь. Ад пажару паблісквае мокрае бручкавінне і нечая мокрая каска. Направа, пад абрывам, мора. Усхваляванае, яно ракоча вельмі ж панура. Над абрывам — таксама панура і дзіка — вецер шуміць у бур'яне і хмызняку. Шорсткім языком тугі праводзіць ён па пералозе, бур'яне, бульбянішчы, гне і цярэбіць лісцё нашай бручкі. Час ад часу ўзлятаюць нямецкія ракеты і спакойна асядаюць над берагам і вадою шырокімі парасонамі сіняватага святла. Тады відно, як на ўзгорку, перад якім — таксама тактыка! — стаіць наш, накрыты коўдрай, станкач, адчайна змагаецца з ветрам сухі бульбоўнік. Да жудасці верыш, што адтуль замахваюцца варожыя рукі з доўгімі даўбешкамі гранат...

А мора шуміць...

Праз шум ягоны раз-пораз аднастайна лезе ў душу галашэнне сірэны — з далёкага, самотнага ў імглістай цемры маяка. Цягучы, сумны крык!.. Гэта не хоча паміраць наш порт, на які, як толькі стане днець, зноў абрынуцца бомбы. Гэта не хоча паміраць, наш акрываўлены, працярэблены смерцю гарнізон,— з усіх бакоў акружаны, яшчэ ўсё нязломны ў няроўным змаганні.

Яшчэ нядаўна рэкруты,— толькі паўгода таму назад,— цяпер, на трэцім тыдні вайны, мы ўжо салдаты, абстраляныя да той жывёльнай абыякавасці, з якой можна жаваць і спаць побач з трупам таварыша.

Час ад часу толькі ўстае перад вачыма воблік старое ў валенках і незашпіленым кажушку... Яна ўсё ідзе за саньмі, якія даўно... не паўгода, а цэлую вечнасць таму назад везлі цябе да першай чыгуначнай станцыі. Ідзе, спатыкаецца, нахілілася супраць ветру. Ужо не толькі слёз, але і твару яе не відаць. Не, ты бачыш цяпер і гэтыя слёзы, і гэты воблік — адзіны і непаўторны. Ты мацуешся, хочаш узняцца і ўздымаешся туды, дзе думкі пра фашызм, пра нашу справядлівую вайну, ды ён усё ж вяртаецца — гэты воблік... І вось ты

без слоў, але з тугой, якая недаступна для гэтай самотнай сірэны ў імгле, ты крычыш, пратэстуеш усімі сіламі маладое душы. Польскі салдат, беларускі юнак, ты паўтараеш перадсмяротны крык твайго далёкага, даўняга сябра, героя гаршынаўскага апавядання, якое і ты калісьці чытаў: «Маці мая, дарагая мая! Вырвеш ты свае сівыя косы, ударышся галавой аб сцяну, праклянеш той дзень, калі нарадзіла мяне, у весь свет праклянеш, што выдумаў на пакуту людзям вайну!..»

На досвітку мы нечакана пайшлі ў наступление.

Ланцуг наш доўгі: направа — да мора, улева — да далягляду. Але ён рэдкі. Агонь лёгкіх гармат, які падтрымлівае нас, таксама рэдкі. Аднак і гэтае цёўканне падбадзёрвае. «Максім» расчлянёны: Філец нясе ствол, я згорбіўся пад станком з палазамі. Абапал — стралкі. Штыхі іх таксама не здаюцца бездапаможнымі. Нас не здзіўляе, здаецца, і тое, што вораг маўчыць. Падбадзёраны гэтым маўчаннем, наш порсткі прыгажун капрал Вайтыга крычыць, што ўвечары, псякрэў, мы будзем у Берліне!..

Ды што капрал!.. Мне ўспамінаецца міжволі каштан, камандзір нашай роты, салідны акулярысты сугней, яго прамова перад строем, напярэдадні баёў:

«Як будзем браць іх гарады — не напівацца!..»

Свае ракеты стрымліваюць наша левае крыло, выраўніваючы ўсю лінію наступлення. Тады відно, як хтосьці, стаўшы на адно калена, спешна хрысціцца, а хто, спусціўшы порткі, на кукішках, не менш нервова вызваляецца ад лішняга цяжару... Зноў ідзём. Гразнем у размоклай раллі, шалахцім бульбянікам, абарочваем мокрыя качаны капусты. Праходзім адну, другую вёску... Пустыя. За гародамі трэцяй кашубскай вёскі — шырокі, нізкі луг. Рэдкія вербы. Тарфяныя ямы, поўныя вады. Пасвяцца каровы,— іх многа, і ходзяць вольна, без пастухоў.

Тут і канчаецца наш трыумфальны марш.

За лугам — вялікія ўзгоркі, на схіле якіх засеў у акопах вораг. Недзе адтуль на нас вось-вось абрынецца агонь артылерыі. Мы ляжым на мокрай траве. Нават лапаткі ёсць не ва ўсіх... Снарады топчуць нашу лінію некалькі доўгіх, бясконцых... мінут ці гадзін?.. Чуваць увесь іх шлях: ад гарматных ствалоў — па траекторыі — да выбуху. Адзін, другі... дваццаты... соты... Нячутна далятаюць і асабліва страшна разрываюцца «цяляты» марской артылерыі, да якой мы ніяк не прывыкнем. Раз-поразу чуваць, як урывана зараве, нібы ахне, працятая асколкам карова. Калі не ляжа адразу — зноў скубе... з нейкім жудасна мудрым, незразумелым спакоем. Капрал наш, забыўшыся на думку пра Берлін, шыецца тварам у траву і час ад часу

наслепа крычыць: «Агонь!» Я ляжу за вярбою, побач з якой — наш стары, узор 1908 года, станкач. Флегматычны Філец і цяпер, здаецца, спакойна выглядвае цэль. Зрэшты, гэта няцяжка,— у акопах немцы стаяць і ходзяць на поўны рост, што нам добра відаць і без бінокля.

На мокрым лузе побач з морам у нас няма нават і той перавагі над ворагам, якую аднойчы,— чытаў пра такое,— мелі над італа-фашыстамі абісінцы. Ветру няма, гэты луг не падпаліш, як афрыканскія джунглі, на ворага не пой дзе полымя. Толькі мы самі амаль такія ж бездапаможныя, як абісінцы...

Станкач наш дудзіць час ад часу, уздрыгвае, аддаючы апошнія патроны. Я іх таксама лічу, прапускаючы ў пальцах стужку. Капрал Вайтыга, не вымаючы носа з травы, зноў пытаецца:

— Адступаюць?!

Філец лаецца зноў, ужо неспакойна кідае сваё сілезскае:

— Пяр-ру-не, дзе ж там!..

І вось нарэшце ўсё — патроны канчаюцца. Мы застаёмся толькі з кінжаламі. Па статуту нам належацца пісталеты. Але дзе ж там, пяр-ру-не, калі і вінтовак усім не хапіла!..

Салдатаў не знаёмяць з таямніцамі ваеннай гаспадаркі. І нам невядома, чаму так атрымалася: прыйшла мабілізацыя, дый сам народ паўстаў, і раптам — няма чым узброіць? Хоць бы вінтоўкамі!.. Ну, а куды падзеўся амаль увесь той флот, апіраючыся на які паны крычалі, дамагаліся калоній у гарачых краінах? Чаму не лятаюць хоць тыя самалёты, што зрэдку ляталі перад вайной?.. Нічога мы не ведаем. Мы можам толькі дзівіцца ды абурацца — шэптам або моўчкі. Мы маем права толькі ведаць, шго нас мала, што пасля кожнай сутычк! нас яшчэ менш, што вораг выпрабоўвае на нас усе віды і калібры свае магутнай тэхнікі, што ён недасяжны для нашых штыхоў ды кінжалаў...

Аддаўшы станкачу апошнія патроны, я паварочваюся на спіну і ў той бок, адкуль мы прыйшлі, паказваю пустую скрынку. Адзін, другі раз... Зноў і зноў... Там недзе трэці нумар, кашуб Конке, грыньскі ламавы возчык.

Ён не адказвае на мой SOS.

І я паўзу туды сам. Усе мы доўгія, увесь наш батальён падабраны, відаць, для парадаў — па росту. Паўзці па голым лузе, на вачах у ворага, ды яшчэ такому бамбізе — недарэчна. І я бягу, лавіруючы паміж каровамі, пад музыку выбухаў і асколкаў.

Конке ляжыць у гародзе, упоперак грады, тварам у зямлю, і апошняя кроў яго сцякае з-пад жывата ў баразну. Побач, паміж галоўкамі капусты,— патронная скрынка. Спачатку я ўспамінаю, што гэта —

апошняя, а потым, падняўшы яе, адчуваю, як шалахціць у скрынцы пустая стужка...

Вярнуцца на лінію не прыйшлося. Сябры сустрэлі мяне за капустай, на лузе.

Гэта ўжо быў не ранішні рэдкі ланцуг, а рэшткі яго, меншыя, чым заўсёды.

Першы бяжыць капрал.

— Немцы! — крычыць ён.— Немцы! Назад!..

За капралам — Філец з нерасчлянёным кулямётам на плячах.

За імі ў густой перадвячэрняй імгле вырысоўваецца некалькі рухомых сілуэтаў, і адтуль упершыню даходзіць да маёй свядомасці крык: «Гэн-дэ гох!..» На павароце за вугал цаглянага хлява капрал Вайтыга падае потырч на мокры брук з адчайным, хрыплым крыкам:

— Браця!!

На бягу заўважаю першую кроў на ягонай шчацэ, бачу, як ён хапае ротам паветра...

Другі голас даганяе нас з Фільцам на вуліцы.

— Хлопцы! Ратуйце! — крычыць Савіньскі, яшчэ бегучы з прыпаданнем на адну нагу.

Ен — са стралковай роты, мала знаёмы мне, аднак у крыку ягоным я чую апошні зварот капрала: «Браця!!»

Філец вымае галаву з кулямётнай рамы і з грукатам скідае наш станкач на брук. Відаць, не падумаўшы нават, што і статутам гэта прадугледжана. Мы хапаем Савіньскага пад рукі, бяжым, а ён абвісае, цяжэе з кожным нашым крокам. На прыгуменні заўважаю конныя граблі з тонкімі, плазаванымі аглоблямі. Падскакваю на адной з іх,— яна, нарэшце, ломіцца з хрустам. Распяразваем рамяні, вешаем іх, зашпіленыя, на плечы, прасоўваем у рамяні кавалак аглоблі, саджаем на яго Савіньскага і зноў бяжым. На шыях у нас — сутаргаваўчэпістыя рукі таварыша. Словы яго пераходзяць у нейкі расслаблены, амаль дзіцячы лепет, просьбу, пяшчоту, якая болем адгукаецца ў душы...

За намі доўга трашчаць аўтаматы. Вакол нас, яшчэ ўсё абмінаючы нашы шырокія, трайныя плечы, спяваюць кулі. На бульбяным полі навокал цяжка гупаюць міны і ядавіта звіняць асколкі.

Пасля, за ўзгоркам, насустрач нам — дапамога. Ланцуг, таксама як і наш уранні, рэдкі. Бесказыркі матросаў, каскі, пілоткі пяхоты, штыхі нашы і штыхі французскія — можа, яшчэ з-пад Вердэна — тонкія, доўгія... Усё гэта у імклівым наступе нахшена наперад.

Усё на свеце — і стралянiну, і выбухі мін — пакрывае наша «ўра!», і слова «браця» гучыць у ім ужо інакш, і слёзы самі коцяцца па маім

даўно нямытым і няголеным твары... Хоць і не вернуцца, можа, і гэтыя, а ўсё ж мы — сіла, мы яшчэ сіла!..

Глыбокі, цёмны яр з кустамі і дрэвамі на абрывах. «Бабі дол», які праз некалькі дзён стаў апошнім апорным пунктам і месцам смерці нашага гарнізона. Гдыня, мы чуем тут, ужо захоплена. Для нашых раненых застаўся толькі вось гэты дом з белым палотнішчам на даху. На палотнішчы — вялізны чырвоны крыж, які ўсё ж не ратуе ад фашысцкіх авіякулямётаў.

Тут быў дагэтуль заразны шпіталь. У цемры ледзь відаць павыкіданыя з палатаў сеннікі, многа насілак. Стогны і — асабліва страшная — цішыня пад дожджыкам. Калі мы праходзім тут са сваім акрываўленым цяжарам, з адных насілак нас аклікае ціхі, дзіўна стрыманы голас:

— Калегі, запалка ёсць?

Гэта — адзін з тых, што маўчаць, і на насілках застаючыся салдатамі.

На ганку шпіталя нас сустракае маладзенькая дзяўчына — у белым адзенні санітаркі і ўся ў святле з калідора. Хусцінка з чырвоным крыжам на лбе так блізка ад жалезнага канта маёй каскі, а вочы — поўныя слёз — яшчэ бліжэй, даходзяць у самае сэрца.

— Хлопчыкі, родныя, вы іх не пусціце сюды?..

Яна бярэ з талеркі, што ў левай руцэ, і падае

нам — як дзецям, адразу ў рот — пірожнае. І мы жуём.

— Пяр-ру-не! — прыглушана мармыча Філец. І абрывае, мне здаецца, з прыплачам.

К чорту іх, слёзы!.. Не, дарагая, мы іх не пусцім!..

Так гаварылі мы і Савіньскаму, калі палажылі яго на падлозе шпітальнага, поўнага крыку і стогнаў калідора.

Так думалі мы пасля, зноў лежачы каля другога станкача, на тым узгорку, дзе нас сустрэла ўвечары «ўра».

І зноў налева ад нас ляжалі пад дажджом бяссонныя сябры, а направа, пад іншым ужо абрывам, шумела мора і галасіла ў імглістай цемры сірэна маяка...

...На трэці дзень прыйшлі разгром і няволя.

## КРОЎ НА СЦЯНЕ

Спачатку было нас некалькі сот. Мы, марская пяхота, проста пяхота і рознае іншае войска. Усё, што адалела, што магло ісці. Гналі нас па знаёмай дарозе. Польскія дзеці давалі нам яблыкі, хлеб, польскія маці плакалі. Другія суткі, ужо на варожай зямлі, нас везлі ў

перапоўненым таварняку, без яды і вады, пад замкам. Пяць сутак марышы за дратамі шталага, дзе нас было ўжо некалькі тысяч. Перапісалі, пабілі на групы, далі кожнай групе ахову, вахмана ці двух, і — за вароты, на праду.

З таго дня засталося нас дваццаць. З розных палкоў. Кадравікі і старая «рэзерва».

Нас прывезлі ў маёнтак, дзе над векавымі ліпамі дыміў комін вялікага бровара і млосным смуродам брагі было насычана ўсё навокал — ад шорсткіх, як перасохлыя вехці, вусоў зубатага вінакура да шэрых леташніх стагоў саломы далека за гумнамі.

Дарогі з паўстанка ў маёнтак — не больш за кіламетр, а канвайраваць нашу арбайтскаманду выйшла іх, швабаў, з пятнаццаць. Паляўнічыя стрэльбы. Мушкеты нейкія, бадай, з эпохі Фрыдрыха Вялікага. Нагайка з алавянай галкай на канцы (гэтым узброіўся якраз той вінакур). І аўтамат. Сынок аконама, нагала стрыжаны шчанюк у форме гітлерюгенда, нёс яго на баявым узводзе, з пальцам на спуску.

Сустракалі нас, відаць, усе, хто ўжо або яшчэ трымаўся на нагах.

І ўсе глядзелі, вухкалі на нас, як на самых сапраўдных разбойнікаў...

Мы думалі, дзівакі, што тут нас, нарэшце, хоць трохі накормяць. («Немец спачатку дасць есці, а потым спытае работы»,— гаварылі калісьці палонныя з першай сусветнай вайны.) А нам далі вялікія металічныя кашы, трохзубыя матычкі і пагналі ў поле. Ужо не па-святочнаму, без шыку — толькі наш вахман і аконам. За садам пачыналася бульба, а канчалася яна там, дзе, як у казцы, неба сутыкаецца з зямлёй. Бровару бульба патрэбна, а ўжо кастрычнік пачаўся — спазняемся. Так гаварыў аконам вахману.

І вось пацягнуліся змрочныя дні. Безліч бясконцых баразнаў апоўзалі мы сырымі каленьмі, процьму кошыкаў бульбы выграблі з зямлі. А колькі ж бяссільнай нянавісці, горкай крыўды зазналі нашы нервы, затузаныя голадам, холадам, здзекам, тугой!..

Адно ўспамінаецца лёгка і светла — дружба.

Нядаўні наш ротны кухар Збых — цяпер не ў белым каўпаку і не з такой чырвонай, паліванай ражкай — самаахвярна апякаў гарачай бульбай рукі, выпсладаючы яе з катла на доўгі стол, і ніколі не было таго, каб нехта з нас атрымаў пяць бульбін тады, калі другому прыходзілася чатыры з палавінай. Так было вечарамі. Раніцай сутачны хлебны паёк, па дзвесце грамаў, ён таксама дзяліў з аптэкарскай дакладнасцю. Тое ж было з абедзеннай бурдой, якую мы, без хлеба, сёрбалі заўсёды ў полі. Вечарамі, на нарах халоднай адрыны, пры кволенькай электрыцы (і на лямпачках эканомілі), мы рэзаліся ў

самаробныя карты, бурна, часцей за ўсё па-пустому, але бяскрыўдна спрачаліся, рагаталі, спявалі, а потым, кожны па сабе, снілі волю і хлеб. Казік Халупка амаль штоночы крычаў і плакаў праз сон, паўтараючы «мама» і «Зося»... Крык гэты часта будзіў каго-небудзь з сяброў, нехта часамі нават уключаў святло і, стуліўшыся, доўга сядзеў на саломе. За дошкамі пераборкі, што аддзяляла нас ад кашошні, мерна жавалі і фыркалі коні, пазвоньваючы ланцугамі кантараў. Па чарапіцы манатонна паклёўваў бясконцы восеньскі дождж. А ў кутку, над смярдзючай парашай, варожай насмешкай цьмяна блішчала вялікае, рабое ад пpаталін люстра. Прачыналіся яшчэ адзін-другі, перакідаліся словам, тушылі святло і зноў аціхалі. На досвітку грымеў замок і чуўся агорклы вахманскі голас... Капаючы бульбу, мы старанна раўняліся ў рад, ніхто не вытыркаўся нават хоць бы на нос наперад, як ні стараліся нас падзадорыць на гэта брахлівыя, наіўныя батрачкі, як ні крычалі аконам ці вахман вечнае «польнішэс швайн!..».

Пасля, аднак, між намі аб'явілася гадзіна. Пажылы пехацінец, панурэйка Фліс, «рэзерва», з тых пазнанякаў, што гавораць трохі панямецку. Ен пачаў вырывацца ў рабоце, усё больш ды больш нахабна агрызаючыся з намі, завёў нейкія шэпты ды хаханькі з вахманам, і нават са сваімі збіваўся не толькі на мову, але і на думкі нашых гаснадароў. Тыя яго, вядома, хутка заўважылі і пачалі ставіць нам у приклад удзячнай працавітасці, у доказ таго, што мы — няўдаліцы і нават сабатажнікі.

Нeяк апаўдні аконам забраў Фліса з поля і павёў у зусім недалёкую вёску. Увечары Фліс вярнуўся ў нашу адрыну адзін, без вахмана, проста ззяючы ад шчасця. Ён будзе працаваць у цесця самога гера аконама! Ён будзе хадзіць туды сам і прыходзіць, як сёння, сам!.. Ён нажорся, як чоп, гэты рабочы гітлераў бугай, і з сабой прынёс бутэрброд, які доўга і даўка чвакаў, лежачы на спіне...

Гэтак пайшло штодня. Шчасце яго не ўмяшчалася ў ім. Ён мог гадзінамі бубніць пра ўсе падзеі свайго дня, пра кожны кавалак яды, пра кожны крок сваіх баўэраў... Яго, вядома, абсякалі. Ён трохі агрызаўся, а то баязліва маўчаў, нават і ў страху хітра пасміхаючыся. Найгорш, аднак, было тое, што сёй-той з нашых хлопцаў пачаў спакваля здавацца, прыкметна зайздросціць яму. Голад...

А потым выбухнуў боцман Антоні.

Ён быў малодшы механік з «Віхра», марак. Захварэў у жніўні, і вайна застала яго на беразе. У няволі Антоні як быццам да часу зняў з сябе набытае шматгадовай службай званне і стаў проста старэйшым таварышам, якога любілі за сціпласць, за ўсмешку і апавяданні пра рэйсы ў краіны неймаверна цікавых прыгод, у тым ліку, вядома, і

самых зманлівых — з чужымі красунямі. Расказваў ён так шчодра, што мы прывыклі і засынаць пад гэтую дабрадушную буркатню, і прачынацца, і зноў засынаць... Бывала, слухаеш яго, задрэмлеш, зноў прачнешся, а ён усё сядзіць каля чыгуннай печкі, глядзіць на агонь і слініць-пакурвае люльку з нямецкай «сечкай». Прыўзнімешся на локці і скажаш яму (мы ўсе, намнога маладзейшыя, былі з ім на «ты»):

— Што, Антоні, цягніка чакаеш?

А ён усміхнецца — па-свойму сумнавата, добра — і ціха адкажа:

— Так, браце, курчэ пячонэ...

Гэтым «печаным куранём» ён падмяняў для сябе ўсю тую непрыкрыта грубую лаянку, якой мы з казармаў былі, здавалася, безнадзейна заражаны.

Значыцца, Фліс хваліўся сваімі гаспадарамі. І баўэр вельмі добры, і фраў добрая, і нявестка — таксама. Іхні адзіны сын быў недзе на ванне, камандзірам батарэі, а жонка яго, гэтая самая нявестка Кэта, хадзіла — ён і пра гэта не раз гаварыў — спачатку тоўстая, а потым нарадзіла хлопчыка. Камандзір батарэі неўзабаве, ужо ў пачатку зімы, прыехаў у адпачынак з французскай граніцы. І быў таксама вельмі добры з Флісам. Ажно руку яму гер лейтнант Горст падаў, ажно паклікаў у спальню і пахваліўся нашчадкам...

Каб толькі ж гэта!

Калі пачаў ён, Горст, бацькам і Кэце паказваць свой франтавы альбом, дык узяў ды паклікаў таксама і Фліса з двара.

Альбом — з польскага фронту. Там былі вельмі прыгожыя — «чыстыя», Фліс гаварыў,— здымкі разбураных гарадоў, спаленых вёсак, трупы салдатаў, жанчын, дзяцей. «Многа такіх усякіх здымкаў». Што сам гер лейтнант здымаў, а што здымалі іншыя, ягоным апаратам. То ён, гер лейтнант, на маршы, верхам, перад усёй сваёй батарэяй. То ён рукой каманду падае: «Агонь!» То ён пасля глядзіць, любуецца, што нарабіў. Руіны, трупы — разам з ім.

— Гэтыя здымкі,— расказаў наш мармытун,— ну, тыя, дзе і ён, Горст павялічыў, нават пяць штук пад шклом ирывёз, у рамачках такіх. І паразвешваў у хаце. Адзін дык над ложкам у Кэты, у саменькіх галавах. А яна...

— Маў-чаць! Ты... скур-вы-сын! Ты мне...

Антоні ўсхапіўся ля печкі.

— Ён тваім горам!.. Крывёю нашай!.. Сцены свае!..

Антоні ажно задыхаўся.

Мардаты Фліс, які сядзеў на нарах, асеў глыбей у салому, прыгорбіўся. Змоўк. І глядзіць на Антонія, на нас, нібыта ўпершыню адчуў, што ён — яшчэ тут, што ён — адзін супроць усіх...

Далей было, што было, калі ён зноў акрыяў,— назаўтра, наогул пасля,— а ў той вечар ён звяў і раскіс, як дзярмо. Проста гадка глядзець... Зрэшты, і потым ён не палепшаў, а толькі стаіўся. Ды гэта — пазней...

А ў тую ноч, калі ўсе ўжо спалі, а я прачнуўся, як ад штуршка, Антоні яшчэ ўсё сядзеў каля печкі. Я ўстаў і падышоў да яго. Сеў побач, на другой табурэтцы. Антоні слініў-пакурваў сваю люлечку, што ўжо, здаецца, даўно не дыміла, і пёк на распаленай да чырвані печцы бульбу, нарэзаную проста пялёсткамі.

— Бяры, Уладак, еш,— усміхнуўся ён. Зноў ранейшы — спакойны і добры.

Я маўчаў. Нават падзякаваў кіўком, узяўшы гарачы, хрусткі скрылёк.

— Табе не холадна?

«Не»,— закруціў я галавой. Салгаў. Бо плечы пад ушчэнт зношанай кашуляй яшчэ падрыгвалі ад холаду, які быў за намі — навокал і ўверсе.

— Сагрэешся трохі...

Ён, мусіць, зразумеў, што я і ўстаў, і чакаю — не так сабе. І ён неўзабаве пачаў:

— Над узгалоўем... Чуў?

Я ўсё маўчаў, чакаючы.

— Ты на Аксыўскай Кэмпе быў?

— А дзе ж я быў? — азваўся я нарэшце, ледзь не злосна.

— Быў, дык і ведаеш, як было. За пару дзён да канца. Ужо зусім ні зброі, ні надзеі,ні парадку... Ноччу яшчэ ўсё кідалі жменькі людзей на іх акопы. А замену пярэдняй лініі рабілі, курчэ пячонэ, удзень, пад абстрэлам у тыл адыходзілі. Зрэшты, дзе быў той фронт, дзе той тыл? Як на смех, прыціснулі нас — такою сілай! — да мора, а тут у цябе адна вінтоўка — і на гарматы, і на самалёты. Як бога кахам, сам бачыў, як нейкі рэзервіст абцасам адбіваў затвор карабіна. Здаецца, італьянскага, ці, можа, нават рымскага яшчэ. Узброілі! Крычалі толькі: і самі магутныя, і саюзнікі... Што ж, мы, салдаты, рабілі, што маглі...

Апаўдні — так, семнаццатага — нас змянілі. Каля Пагужа. Мы там два дні праляжалі. Адступілі, як і заўсёды, пад агнём. Спыніліся на нейкім хутарку. Яблыкі елі, нават паселі чысціць зброю. А тут — на табе!.. Першы выбухнуў на раллі за плотам, другі метраў за трыццаць правей, а тады — сам ведаеш, як гэта робіцца,— абмацалі і залпамі!.. Пяць чалавек, мы дабеглі да вёскі і распаўзліся па норах. А яны па нас, курчэ пячонэ, малоцяць!.. Калі перацiхла, я — ну, усё ж старшы

— выйшаў з пустога дома, пайшоў шукаць сваіх людзей. Двух сядзелі за малачарняй, а двух знайшлі мы ў пограбе, разам з цывілямі.

Спусціўся я туды адзін. Гудуць у цемры — моляцца, плачуць. Сам ведаеш — дзеці, старыя, жанчыны... Страшна. Прывык я трохі да цемры, бачу — налева ад уваход а, прытуліўшыся да сырой мураванай сцяны, стаіць дзяўчынка. Малая, дробная, гадоў пяць-шэсць. Трасецца ўся і шэпча, следам за ўсімі:

— Пад тваю абарону... святая...

І шаптаць не можа — дрыжыць.

— Яворскі! Сойц!

Аказваюцца глуха, неахвотна. Сорамна. Не хочацца.

— Ану выходзь!

Дзяўчынка спалохана адсунулася ад мяне, далей у цёмнае. Відаць, я быў усё-такі страшны. А што ж — аброслы, брудны, як чорт, гранаты, каска, карабін. Як жывая, стаіць у вачах — замурзаны тварык, плечы дрыжаць і падбародачак. А як глядзела яна!..

Так, хлопча, мы былі салдатамі. А ўсё ж баяліся і мы. Ты як? Можа, гэта і сорамна... Я асабліва баяўся артылерыі. Страшная ўлада металу над бедным, кволым целам чалавека... Курчэ пячонэ! Як часта хацелася крыкнуць: за што?.. Ну, ды гэта — не па-салдацку. Бо мы не мелі права на страх. І мы яго...

А дзяўчынка? За што па гэтай галоўцы жалезам? І па вачах, і па ручках, якія дрыжаць?.. Мяне адразу здушыла штосьці за горла, вось так — ад грудзей угару. Забыўся, што і старшы ў групе. Так, Уладак, я меў дзяўчыну, хацеў ажаніцца сёлета, хацеў мець дзяцей. Не многа — толькі б такую, як тая...

— Кася, не бойся, дурненькая,— азвалася з кута жанчына. Маці. Яна сядзела на клунку дабра, трымала на руках груднoе.— Пан бог не дазволіць. І маці яго прасвятая таксама. А гэты пан — добры. Ён бароніць ад немца. Дай пану яблыка. На!..

Малая ўзяла яблыка і працягнула яго мне. Рука дрыжыць. Шапнула штосьці нячутнае.

Мне б цябе затуліць на руках, мне б цябе вынесці з гэтага пекла, а я толькі сказаў:

— Не бойся, дзяўчынка. Усё будзе добра.

Баліць душа ад гэтых слоў... І сёння, хлопча, таксама...

А тут жа ўсё, сам ведаеш, грымяць ды грымяць, ірвуцца ды рвуцца снарады. Якраз тады, калі я ўзяў яблыка і сказаў тыя словы,— вельмі блізка громам раскалоўся выбух, і ўсе мы на момант сціхлі. Я, як заўсёды, зажмурыўся, нават, здаецца, прысеў. Інстынктыўна. Дзяўчынка кінулася ад мяне з прарэзлівым крыкам:

— Ма-му-ся!..

Калі ж адспявалі — недзе над намі — асколкі, у перапынку паміж выбухамі зноў заварушылася жыццё. Зноў пачуліся словы:

— Касю, не бойся, дурная. Пан бог і маці яго прасвятая...

О, курчэ пячонэ!.. О, шваб!..

Тады я выйшаў з зямлянкі адзін. Стаў пад дрэвам, гляджу. Дзве дзеўкі вылезлі з таго самага пограба і, пакуль я сабраўся спыніць іх, пабеглі. Я крыкнуў — нават не азірнуліся. А тут — нібы спецыяльна заўважыўшы іх — снарад! Я інстынктыўна ўпаў. Віскат асколкаў, дзявочы лямант. «Ну, ёсць!" — мільганула ў маёй галаве. Ды не — абедзве яны праляцелі назад і нырнулі ў сховішча. Зноў выбух! «Намацвае! Заўважыў!..» І сталася, хлопча...

Ен такі, мусіць, заўважыў. ІПто ты хочаш — у Гдыні з акон стралялі па нас, з гарышчаў. Мясцовыя немцы. На дрэвах — у полі, у вёсках — сядзелі карэкціроўшчыкі. Ты думаеш, чаму так трапна біла іх артылерыя?..

Пограб, вядома, абрушыла. Два пападанні.

Мы ўжо хацелі пайсці адтуль, але Зыгмусь упяўся, калі аціхла: «Не, адкапаем сяброў!» Бо і людзі сабраліся, з нораў другіх павылазілі, па лапаты пайшлі.

Амаль усе ў тым пограбе был і нежывыя. І Кася — таксама... Толькі маці яе ацалела ў кутку. Нейкім цудам, як быццам на гора сваё.

Мы вынеслі малую на траву. Маці яе вывелі пад рукі. Села пры ёй. А грудное — яно ацалела таксама — жанчыны забралі.

Кася, відаць, зноў стаяла каля сцяны... Не, Уладак, я табе не скажу, як яна... Сойцу тады адарвала абедзве нагі, ён яшчэ дыхаў, калі мы яго адкапалі. Яворскага амаль што не было. А малую... Ды не!..

Калі я потым, зусім пад вечар, праходзіў там — маці яшчэ ўсё сядзела. Слата церушыла, навокал грымела, ракеты ўжо сям-там успыхвалі сцішнаватым святлом. Усіх ужо там прыбралі, забітых. А Касю жанчына ўсё не давала забраць. Яе не чапалі і не ўгаворвалі. Толькі малую прыкрылі дзяружкай.

Маці — я пастаяў там, воддаль, паглядзеў — раз-поразу адкрывала яе... разбітую галаву і ўглядалася доўга. Потым глядзела кудысьці. І на мяне, хоць і не бачыла, мусіць. І зноў на Касю... Зноў кудысьці... Дзе вораг. Дзе той бог... Такімі, хлопча, страшнымі вачыма...

Антоні змоўк.

А я ўсё чуў яго ранейшы задыханы крык:

«Ен тваім горам!.. Крывёю нашай!.. Сцены свае!..»

## СОНЕЧНЫ ЗАЙЧЫК

Прадвесне.

З неба імжыць, здаецца ад пачатку свету, дождж,— дакучлівы, халодны. А навакол, колькі відаць пад шэрым каўпаком з імглы і нізкіх хмар, уся зямля належыць юнкеру, і ўся яна густа пакрыта кучкамі гною.

Мы растрасаем яго цяжкімі, васьміраговымі віламі.

Я ўжо ў іншай камандзе, у іншым маёнтку. Побач тырчыць новы вахман, новы слуп, да якога мы прывязаны тут, на варожай зямлі. Калі і як парвецца гэта прывязь — невядома. Невядома таксама, калі прасохне вопратка на стомленых касцях, калі заціхне ў галаве панурае гудзенне голаду...

І вось тады на цёмную сцяну выбягае наш Сонечны Зайчык, наша пацеха — падлетак Стась Пшэрва, гдыньскі добраахвотнік. Ён перастае трэсці гной і, успёршыся на вілы, асабліва вялікія для яго, пачынае песню.

Нямнога слоў у гэтай песні.

— Раней, калі мы жылі на Мазоўшы,— расказваў неяк Стась,— і мату ля, і татусь-нябожчык служылі ў маёнтку. І матуля спявала з батрачкамі гэтую песню. Не памятаю, як там было, бо даўно мы прыехалі ў Гдыню. Па хлеб. І там матуля спявала таксама.

Слоў у песні нямнога, ды словы — простыя і горкія, як батрацкая доля. Баляць і рукі, і ногі, баліць і душа. «Калі б табе, сонейка, прыйшлося працаваць на пана, ты не стаяла б так доўга над лесам,— зайшло б хутчэй...»

Так — у песні, а для нас нават сонца не свеціць. І ў шчырым голасе хлопца не менш, відаць, беспрасветнай тугі, чым, бывала, у песні ягонай матулі-батрачкі.

Спявае Стась не ўпершыню, а ўсё ж і цяпер мы міжвольна спыняемся трэсці.

Вахману Кумбіру — не да нашых пачуццяў. Інтарэсы юнкера — інтарэсы дзяржавы. І абаронца іх крычыць:

— Давай! Давай!

— Ага-а! Не падабаецца табе такая песня! — ажывае Стась. Ён хапае пад паху вялікія вілы, і пальцы яго пайшлі перабіраць па іх васьмі рагах, як па струнах гітары.

Прыпеўка складаецца на хаду:

Nie patrz no tak krzywo
i nie rycz ze złości —

Przyjdzie czas i my wam
Porachujem kości.

Апошнія словы Стася мы пакрываем дружным рогатам.

— О, Пшэрва, Пшэрва!— прысядаючы, смачна смяецца кухар Збых.

Сымон Жарнак, здаравенны нёманскі плытагон, з асалодай сморкаецца і, абапёршыся на вілы, рагоча.

— Ёлкі зялёныя! — гаворыць ён.— Цяпер яшчэ каб закурыць!

Смяецца нават і шэры слуп, да якога мы тут прывязаны.

— Пшэрва фон, Пшэрва граф, Пшэрва міністр,— гаворыць ён.

І столькі ідыёцкай радасці на гэтай мордзе, што нам становіцца яшчэ смяшней.

Ды інтарэсы юнкера — інтарэсы «вялікага Райху». Вахман успамінае пра гэта і зноў, нібы заведзены, крычыць:

— Давай! Давай!..

Цяжкія вілы зноў пачынаюць трэсціся над шэрай раллёй, і сябар мой, Жарнак, гудзе — прыдумвае найлепшыя жаданні ўсім панам, праз якіх мы тут апынуліся.

Пра ўцёкі мы пачалі гаварыць, вядома, з першых дзён палону.

Наогул мара гэтая выказвалася ўголас, а практычны бок справы мы абмяркоўвалі па двух, па трох, і найчасцей перад сном, на саломе.

На першай арбайтскамандзе я шаптаўся з Антоніем. Ён быў беластачанін, там жыла яго маці, адна і старая. Сюды, у гэты маёнтак, мяне прывезлі ў лютым, з лагернага шпіталя, дзе я ляжаў два тыдні. Тут мне найбольш спадабаўся Сымон Жарнак: добры хлопец, дый землякі. Спалі мы побач. Ну і шапталіся. А злева ад мяне спаў ГІшэрва. Стась часамі шаптаў мне з другога боку. Пра тое ж.

— Калі я, Уладак, збіраўся на фронт, матуля дала мне вось гэты світэр. Яшчэ і браць, дурніца, не хацеў... Уладак!.. Ты спин? Як яна там цяпер, мая матуля?.. То ж я самы старэйшы ў сям'і. Антось малы яшчэ. Дзе ён і што ён заробіць!..

І прыпеўкі, і звонкі хлапечы смех знікалі некуды на ўсю ноч. Сонечны Зайчык туліўся да мяне, каб не званіць зубамі, і шаптаў:

— Уладак! Ты спіш? Добра вам, беларусам: вам ёсць куды ўцякаць. А ў Гдыні ж гітлеры таксама, як і тут.

А потым паўтаралася, як заўсёды, адно:

— Але і я таксама ўцяку. Вось паглядзіш.

— Спаў бы ты лепей,— гудзеў яму цераз мяне Жарнак.

Мы рыхтаваліся да ўцёкаў удвух з Сымонам, і толькі з ім гаварылі аб гэтым сур'ёзна.

* * *

Прыйшла вясна. Збіранне сіл завяршалася. Мы пачалі збіраць на дарогу хлеб. Сілы сабралася столькі, што нават у светлыя дні бывала цёмна ў вачах. Запасы хлеба папаўняліся за кошт гэтых сіл. Адну лустачку — мой ці Жарнакоў паёк — мы з'ядалі адразу ўранні, другая лустачка ішла ў энзэ. Парушаўся гэты парадак рэдка,— надзея на вызваленне часцей за ўсё перамагала голад.

Так прайшоў май. У палавіне чэрвеня я выпадкова пачуў, як пажылы рэзервіст Загродскі, марскі хваравіты рыбак, шаптаў маладому матросу:

— І ад мяне там, Ясь, пацалуеш каханую нашу айчызну... Прывітаеш там польскае мора...

Словам, ясна было, што збіраецца некалькі груп і кожная хоча вырвацца нершай. Пасля пачнуць пільнаваць нас яшчэ больш крута.

Ды Пшэрва, наш Сонечны Зайчык, апярэдзіў усіх.

Ён пайнюў адзін, нечакана для нас і па-блазенску непрадумана. Быццам упершыню дыхнула на яго салёным ветрам недалёкай Балтыкі, нібы здалося, як хлопчыку, які заблудзіўся на рынку, што куды ні пайдзі — усё роўна трапіш да мамы...

На нершай днёўцы хлопец не заснуў — ад радаснага хвалявання. Дзень здаўся бязлітасна і недарэчна доўгім. І Стась не выцерпеў, вылез з куста, пайшоў. Асцерагаўся, кажа, ды прыкмецілі. Даганялі — уцякаў, акружылі — пачаў адбівацца каменнем...

І вось апаўдні назаўтра яго прыгналі назад у маёнтак.

Утрох, пад наглядам старога парабка-цесляра, мы працавалі каля цыркуляркі. Частка каманды, з адным вахманам, рабіла штосьці ў садзе, а рэшта хлопцаў, з другім, пайшла ў поле.

Мы першыя ўбачылі Стася.

Яго нрыгналі два ўзброеныя вінтоўкамі малойчыкі з павязкамі гітлерюгенда. У падзёртым, укачаным мундзіры, без пілоткі, акрываўлены, Пшэрва ледзьве ішоў, а падышоўшы бліжэй, здаецца, не пазнаў нас. Праз кроў, што ўжо засохла на твары і ў растрапаных валасах.

— Дзе вахман? — спытаўся адзін з малойчыкаў.

Басаногія хлапчукі, якія ўжо аднекуль пазбягаліся, закрычалі наперабой:

— Ён у садзе! Вунь ён ідзе!

Рухавы, жоўценькі яфрэйтар Лерхе так спяшаўся выканаць свой абавязак, што не заўважыў нават як два маладыя героі тылу прывіталі яго, заядла ўзняўшы правыя рукі. Яфрэйтар на хаду зняў з рэменя карабін і сподбегу ўдарыў Стася прыкладам у грудзі. Хлопец

хіснуўся і, ступіўшы два крокі назад, асеў. Абодва малойчыкі з візгам пачалі таўчы яго нагамі,— і хочучы падняць і разам з тым не даючы падняцца...

Затым пачулася траскатня матацыкла. Ехаў аконам.

Ен паспяваў адразу ўсюды. Уладанні юнкера распасціраліся ва ўсе канцы далека ад двара. І кожнай групе батракоў ці палонных, што працавалі ў полі, па некалькі разоў на дзень чуваць быў матацыкл. Калі ж ён заціхаў, гэта азначала, што аконам глядзіць у бінокль, шукаючы ці проста гультаёў, ці сабатажнікаў. Хадзіў і ездзіў ён заўсёды з кульбай. Клыпач, якога Пшэрва ахрысціў Гуляйнагой.

Цяпер, спыніўшыся каля нас, Гуляйнага сігануў з матацыкла і ўзяў сваю кульбу за другі канец...

Гэтага было ўжо цераз край.

Я падскочыў да аконама якраз тады, калі ён замахну ўся. Не ведаю, як гэта атрымалася,— можа, таму, што ён ад нечаканасці сумеўся,— але выхапіць кульбу з ягоных рук я паспеў. Пасля нехта збіў мяне з ног, ззаду ўдарыўшы па галаве, відаць, прыкладам, і ўстаць самому мне не давялося...

Больш за ўсё балела, здаецца, тое, што два нашы сябры — Карповіч і маленькі, набожны Цыдзік — не кінуліся на дапамогу. Уявіў сабе нават ад злосці, а можа, і ўбачыў, што белабрысы Карповіч яшчэ ўсё разважае, ці варта ўмешвацца, а Цыдзік трасецца і шэпча нешта сваёй «вастрабрамскай»...

Пад вечар — «ліквідаваць паўстанне» — прыехаў обер-лейтэнант з трыма салдатамі.

Мяне і Пшэрву паставілі да сцяны. На вачах у сяброў. Скаваныя камандай «смірна», яны моўчкі глядзелі на нас — два шэрагі па дзевяць чалавек. Мы не бачылі іх: перад намі была толькі цагляная сцяна канюшні, а пад нагамі, на жвіры,— рэдкая, маленькая трава і таксама тут няраслыя лісты лапухоў. Апошнюю сувязь з роднай хатай — пацёрты блакнот з трыма фотаздымкамі (пісем яшчэ не было) — забраў з кішэні прыезджы салдат. Тры шэрыя, бязмоўныя істоты ў касках, насаджаных нізка на вочы,— яны стаялі за намі. “Нашы” кулі былі ўжо загнаны ў патроннікі.

Месяцаў пяць перад гэтым плютановы Пронь успамінаў у бараку, на сцёртай саломе, варшаўскі май дваццаць шостага года — крывавую барацьбу пілсудчыкаў з эндэкамі за ўладу. Каля сцен цытадэлі пілсудчыкі расстрэльвалі потым палонных «бунтароў», і Пронь, тады яфрэйтар, камандаваў аддзяленнем. Расказваў пра гэта «махорка» спакойна, і ў цемры голас яго быў агідны: «Чатыры кулі, проша вас, у адну патыліцу. А хлопцы ўсё маладыя, чубатыя. Як жарнем, дык

валасы і закрылі ўвесь твар».

Цяпер другі фашыст — пружыністы, крыклівы обер-лейтэнант з чарапамі на шапцы і каўняры — дзейнічаў хутка, і часу на роздум было ў нас няшмат. Я ўспомніў толькі свае валасы, і чужая, халодная думка — дакуль жа хопіць іх? — гудзела ў галаве, як апошняя сувязь і з нізкім сонцам скрозь хмары, і з цэглай, што вось, залітая яго святлом, хвалюецца і ходзіць у вачах. Але па спіне мітусіліся мурашкі. Здаровы, дваццацідвухлетні арганізм хацеў кожным нервам убачыць апошні свой момант і кожным нервам баяўся яго надыходу.

І вось пачулася каманда...

Не, не нашым забойцам.

Гэта нашых сяброў павярнулі направа. Яны пайшлі. На развітанне шорстка тупаціць па жвіры іх стаптаны абутак.

Каманда зноў...

Грымнула. Вочы — на нейкі момант раней — закрыліся самі...

Ды што гэта? Няўжо і потым не сціхае шум у галаве? Няўжо і тады яшчэ можна расплюшчыць вочы?.. Я адкрываю іх, і праз імглу плыве, хвалюецца безліччу роўных чырвоных цаглінак усё тая ж сцяна...

Зноў каманда.

Мяне паварочваюць ад сцяны.

Побач са мной — зноў той самы хлапчук з валасамі і тварам у закарэлай крыві. Перад намі — тыя самыя каскі, вінтоўкі, шэры колер варожай вопраткі.

Яны крычаць. Нехта смяецца, і я пазнаю, што гэта — аконам. Доўгі, мярцвецкі твар яго пад кепкай скрыўлены ад смеху...

...Мяне і Стася вахман Кумбір гоніць па вузкім і няроўным бруку палявой дарогі.

Абапал зялёныя дрэвы прысадаў. За імі — поле. Шэры вечар вось-вось павінен змяніцца дажджлівай ноччу.

Дзесьці не спіць яшчэ нямецкі юрок. Ён такі самы нецярплівы, як і нашы — і на ўскраіне Стасевай Гдыні, і ў нашай вёсцы пад Наваградкам. Усё навокал ведае, што будзе дождж, што і трава нап'едца ўдосталь, і галаве пад закарэлай крывёй палягчэе, а ён, дзівак, усё цвірынькае — просіць піць.

Няхай шчабеча. Нам няможна размаўляць. Нават калі мы зірнём адзін на аднаго, вахману здаецца гэта небяспечным. Ён крычыць, пагражае, што будзе страляць, і ты глядзіш перад сабой і моўчкі, цяжка ідзеш...

Вахман наш думае, здаецца, так:

«Обер-лёйтнанту добра,— пастрашыў, сеў з салдатамі ў машыну і паехаў. Яфрэйтару Лерхе таксама добра: застаўся з камандай і ся-

дзіць цяпер недзе пад дахам. А то мо зноў да Марты палез пад пярыну. А ты гані праклятых палякаў у горад, дзе лагер. Дарогі чатырнаццаць кіламетраў, а пройдзена менш палавіны. І колькі ні крычы на гэтых разбойнікаў, яны хутчэй не ідуць. А дождж неўзабаве пачнецца. Вялікі дождж, будзе доўга ісці, будзе цёмна, і ў цемры яны шмыгнуць з дарогі ў кусты...»

На самым дне зачуханага вахманаўскага кацялка сядзіць, напэўна, і такая думка, што сёння палякаў можна было і не гнаць, што гэты скнара праклятьі, аконам, на добры лад, мог бы паслаць з імі ў горад машыну... Ды большую частку мазгоў займае тое, што называецца пачуццём абавязку. «Фюрэр ведае, што робіць» — так гаворыць першая запаведзь часу. Усякае начальства — скажам, аконам ці той обер-лёйтнант — лепш ведае, чаго хоча фюрэр, і яму, радавому, Кумбіру, застаецца адно — паслухмяна выконваць. Чорт іх бяры! Гэта ж усё-такі не фронт!..

Мусіць, ад гэтых думак вахману робіцца раптам лягчэй. Ён пачынае нават жартаваць.

— Пшэрва — фон, Пшэрва — граф, Пшэрва — міністр,— гаворыць ён, ледзь не крычыць.— Сёння Пшэрва быў трошкі капут!..

Мы маўчым.

Толькі дождж пачынае нарэшце ісці,— не сцярпеўшы, відаць, недарэчнага квакания шэрай двухногай істоты. Спачатку падаюць рэдкія, дужыя кроплі. Б'юць па нашых галовах, па бруку... Пасля, нібы здаволеныя такой разведкай, мільёны буйных кропель дружна абрушваюцца на зямлю.

Спачатку я стараюся стуліцца, нібы нават схаваць у каўнер галаву. Добра было б прыпусціцца да першага дрэва бягом, каб схавацца пад ім ад дажджу. Ды вахман палічыць гэта за ўцёкі. А на такіх нагах, як нашы, ад вінтоўкі далека не ўцячэш. Можа, адыдуць трохі рукі... ногі... галава...

Гляджу на Стася. Зайчык, нібы адчуўшы, што я думаю, усміхаецца. З пазаўчарашняга дня гэта першая ўсмешка.

— Добжэ,— гаворыць ён.

І ад гэтай усмешкі, ад гэтага слова, таксама першага сёння, мне робіцца лягчэй, як ад дажджу.

А дождж аблёг надоўга. Першы, гвалтоўны напор яго сціх, і, нібы вызвалены гэтым напорам, невычарпальны запас цёплых кропель бязмежным севам асядае на зямлю. Шчодрае неба спакойна шуміць, а прагная зямля гатова багацець бясконца. Многа сілы патрэбна таму, хто ўсіх корміць, і многа можна набрацца яе да світання. Усё навокал зліваецца ў адзін суцэльны, шэры, цёплы шум, і ў гэтым шуме я чую,

здаецца, шчаслівыя, ціхія ўздыхі: «Як добра!.. Ах, як добра!..»

Нездаволены толькі вахман. Свінствам, праклятым свінствам называе ён мокрую шэрую цемру. Вінтоўка ўжо не на рамяні, яна ў яго руках. Каб мы не забываліся пра гэта, ён час ад часу штурхае то Стася, то мяне штыхом...

Калі ж адна сцяна прысадаў паварочвае раптам з гасцінца ўправа, на палявую дарогу, нам становіцца хоць трохі зразумелым, чаго ён хоча.

— Рэхтс ран! Направа! — крычыць ён, і мы сыходзім з бруку на пясок.

Дарога значна вузейшая за гасцінец, дрэвы абапал яе здаюцца вышэйшымі, чым на гасцінцы», і мы нібы ўваходзім у вузкі цёмны калідор.

У глыбіні гэтага калідора праз густую сетку дажджу зманліва, невыразна замігцеў агеньчык. Пасля, чым бліжэй мы падыходзілі туды, усё больш ды больш выразна ішло нам насустрач асветленае акно.

— Пшэрва — фон, Пшэрва — граф, Пшэрва — міністр! — зноў ажыў вахман.— Сёння Пшэрва быў трошкі капут. Цяпер мы ўжо прыйшлі, і Пшэрва будзе цалкам капут. Цяпер і Пшэрву і цябе, праклятыя доўгі сабака, з'ядуць чорныя негры.

Мокры глыбокі пясок над нашымі нагамі зноў змяніўся брукам. Прыдарожныя дрэвы дайшлі да гушчы цэлага натоўпу дрэў, паміж якімі яшчэ цямней вызначаліся сілуэты вялікіх будынкаў. Маёнтак. За акном першага доміка, у глыбіні двара, праз дождж і лісце відаць былі іншыя вокны.

— Чорныя негры не тут,— гаварыў, зусім акрыяўшы, вахман.— Тут жыве мой добры камарад Гросман. Хальт!!

Мы спыніліся. Вахман пастукаў у акно.

Да шыбы прыліп спачатку жаночы твар, пасля ён знік, а з глыбіні пакоя да акна падышоў мужчына ў белай кашулі. Ён адшчапіў кручкі, піхнуў на двор абедзве рамы акна і высадзіў, ледзь не пад дождж, сваю лысіну.

— Хто там? А, Кумбір! Ты звар'яцеў, чалавеча, ці што?..

«Ыайлепшы камарад» зайшоўся сытым смехам.

Кумбір і сапраўды быў надобны на мокрую курыцу. Не выручала і вінтоўка, якую ён яшчэ ўсё трымаў у поўнай гатоўнасці атакаваць.

— Куды ж ты з імі, як дурань, у цемру такую ды ў дождж?

— Застрэліць трэба было, ды мы вырашылі, што здохнуць і самі. У штрафкампані[1].

---

[1] Даслоўна — штрафная рота. Нешта накшталт канцлагера ў лагеры ваеннапалонных.

— А навошта ў штрафкампані? Мы іх зараз да неграў пусцім. Да раніны толькі костачкі застануцца!

Зноў той самы — аж з самага чэрава — сыты, здаволены смех.

— Даволі ржаць, сухі вар'ят! Ідзі адчыняй тваю будку.

«Сухі вар'ят» пачаў апранацца. На вачах у нас ператварыўшыся з вясёлага таўсцюшка ў стандартнага вахмана пад плашч-палаткай, ён выйшаў на двор і з парога ўключыў кішэнны ліхтарык. Мы пайшлі ад святла каля акон зноў у цемру. Спераду ішоў вахман з ліхтарыкам, ззаду другі — з настаўленай вінтоўкай. Смакуючы зусім шчаслівую развязку, задні вахман штурхаў то Стася, то мяне штыхом, паўтараючы мілыя жарты пра фона, міністра і неграў.

І вось мы ляжым на саломе.

У цемры, высока над намі, вызначаюцца шэрымі плямамі прадаўгаватыя вокны ў цагляным муры адрыны, праз якія да нашага слыху даходзіць той самы роўны, шчодры шум дажджу.

Саломы пад намі няшмат. Яна намокла ад нашай вопраткі, і мы бакамі адчуваем пагрозлівы холад цэментавай падлогі.

Не спім не толькі мы,— час ад часу ў цемры чуваць то шуршание саломы, то ціхі чалавечы шэпт.

Мы ведаем, хто тут. Як толькі адзін вахман зняў са скабы вялікі замок, прыадчыніў палавіну дзвярэй і сказаў: «Калі ласка!» — другі штуршкамі нрыклада ўвапхнуў нас у шчыліну ўвахода. Стась спатыкнуўся на нешта, я спатыкнуўся на Стася, і мы ўпалі. Калючае святло ліхтарыка заплюшчыла мае вочы, а з-за святла пачуўся голас:

— Што, бачыце, праклятыя польскія свінні?!

Святло ліхтарыка перайшло з нашых вачэй убок.

Галавой да сцяны, раскінуўшы чорныя, аголеныя

да лакцёў рукі, крыясам лялсаў чалавек. Да пояса ён быў накрыты шынялём. Твару амаль не відаць было, толькі тырчаў падбародак. З-пад шыняля віднеўся чорны з шэрай, святлейшай падэшвай ступак.

Вахман з ліхтарыкам ударыў ботам у пятку гэтага ступака і нечакана моцна гаркнуў:

— Устаць!

Чалавек на саломе рыўком падцягнуў свае чорныя рукі, успёрся на іх і. сеў.

Гэта быў... Так, гэта быў мой даўні і добры знаёмы. Над горкім лесам яго і я, вясковы падлетак, плакаў калісьці, чытаючы адну з найлепшых кніг майго маленства. Гэта быў чорны дзядзька Том, праўда, ужо з другой, яшчэ не напісанай кнігі пра лес шматпакутнага народа. Мне здалося, што ён, дзядзька Том, не па мёр, збіраючы бавоўну амерыканскаму плантатару Легры, бо хтосьці зноў прадаў яго — ужо

сюды, дзе пануюць плантатары прускія.

— Устаць, праклятыя чорныя свінні!

У святле ліхтарыка яшчэ раз заміргалі сонныя вочы негра, і сноп святла пайшоў з яго ў глыбіню будынка... Адзін за адным на саломе сядзелі чорныя Томы — салдаты французскай каланіяльнай арміі. Між імі — некалькі белых нявольнікаў.

— Шварцэ нігер,— захіхікаў Гросман,— Вось я прынёс вам есці. Паглядзіце на гэтае мяса!..

Негры спачатку не бачылі нас. Цяпер мы з Пшэрвай міргалі вачыма ад калючага святла і не бачылі неграў. Пасля ліхтарык пагас, халодны цэмент падлогі адазваўся пад ботамі вахманаў, і, нарэшце, вялікія дзверы зачыніліся. За імі пачуліся бразгаценне замка, гутарка, смех і крокі па бруку.

Ціха і цёмна.

Цішыня шамацела спачатку саломай, а потым уздоўж сцяны пачуўся ціхі шэпт. І шэпт гэты быў незразумелы для нас, як шум дажджу і шамаценне саломы.

Шэпт як быццам краўся па саломе, шукаючы некага ў цемры... Вось ён пайшоў ад нас у той бок, па чорных галовах каля доўгай сцяны. Патаптаўся на месцы, шалпочучы сухой саломай, і вось павярнуўся назад. Ідзе сюды. Дайшоў да апошняга з краю негра, побач з якім я ляжу. Пазнаю — шэпт пытаецца ціха, шукае мяне. Так, шукае,— працягвае руку і ў цемры дакранаецца да маёй галавы. Пальцы яго пераходзяць з маіх валасоў на лоб, і цёплая далонь спыняецца. Знайшоў.

Дзядзька Том нешта шэпча, пытаецца.

Чаму я не ведаю яго мовы? І чаму ён не можа сказаць тое самае зразумела?..

— Стасю, Зайчык, ты спіш? Не ведаеш, што ён гаворыць?

— Не, не ведаю,— шэпча ён у адказ.— Яны гавораць, відаць, па-французску...

А шэпт не змаўкае. Людзі паўзуць да нас па саломе — адтуль і адтуль... Каля нас садзяцца, і я таксама паднімаюся.

— Ка-ма-рад... Ка-ма-рад!..

Адно вядомае слова, як новы дотык цёплай рукі, даходзіць да мяне з гэтага незразумелага шуршания.

— Камарад, хто вы? — шэпча той самы голас па-нямецку.

Нейкую сотню слоў гэтай мовы мы засвоілі за дзевяць месяцаў па лону. І я адказваю, што мы — палонныя, што сябар мой — «поле», паляк, а я — «вайсрусэ», беларус. Слова «вайсрусэ» не зусім, відаць, зразумелае для таго, хто пытаецца. І, каб упэўніцца, ён шэпча:

— Москаў, камарад?

— Масква,— адказваю я, і нечаканая гордасць гарачаю хваляю бяжыць на мяне.

— О-оо! — гаворыць яна галасамі людзей, што ў цемры сядзяць каля нас.

Побач са мною, дзе дзядзька Том, зноў мацней шуршыць салома. Пасля чуваць — нешта рыпіць, нібы падэшва пад тупым шавецкім нажом. Да пляча майго дакранаецца рука, відаць, тая самая, што цёпла ляжала на маім ілбе. Я лаўлю гэтак добра знаёмы і так пажаданы пах. Хлеб трапляе нарэшце на зубы. Таксама рыпіць, як рыпеў пад нажом...

Потым у цемры шоргае і загараецца запалка. Язычок полымя выхоплівае з цемры некалькі чорных і белых людзей. Яны сядзяць на саломе, на голым цэменце. Яны глядзяць на нас. Усміхаюцца ўсе,— гэтая мова для ўсіх зразумелая.

— Арманд,— гаворыць той, што трымае запалку.— Леа Арманд,— таўчэ ён кулаком у грудзі. Хлопец белы, зусім малады яшчэ, як Стась. Запалка ў пальцах яго дагарае, і хлопец спяшаецца сказаць: — Бэльжык! Бэльжык!..

— Бельгіец,— з наіўнай гордасцю тлумачыць Пшэрва.

Арманд усміхаецца. І тут, пакуль паміж пальцаў яго ўзнятай рукі дагарэла запалка, у другой руцэ я заўважыў нешта бліскучае.

Навокал — цемра зноў. Запалка больш не загараецца.

Ціха-ціха грыміць «Інтэрнацыянал». Арманд іграе на губным гармопіку. Толькі пачаў — і сціх...

«Ці ты малы, мой добры, бедны Стась?.. Супакойся. Табе давядзецца яшчэ быць салдатам. І воля прыйдзе. Не плач».

А ён не слухае мяне. Ды, зрэшты, я нічога не кажу. Можа, і ён не плача, а толькі плечы яго... так уздрыгваюць пад маёю рукой?..

...Пазней, калі заціхла ўсё: і наша гутарка, і шуршание са ломы, і шум дажджу — у прасветах акон, высока над намі, пачаў нараджацца дзень.

— Уладак, ты спіш?

За вокнамі, чуваць, прачнуліся ўжо вераб'і.

Хвіліна ціінына.

І зноў:

— Уладак!.. Я... Калі буду ўцякаць... Ну, другі раз... Дык я табе скажу. Абавязкова. Добра? І пойдзем разам.

— Добра, спі.

Наваг дождж не шуміць за сцяной. Чутно толькі — чырыкае руплівы верабей. Сеў, відаць, на акне і рад, што ноч і нягоды прайшлі.

Нават думае, мусіць, што гэта ён перамог, бо шчабеча, здаецца, аб гэтым.

— Уладак! А нас... не застрэляць?..

«Дзівак ты, хлопча,— пытаеш, як быццам я ведаю. Спі».

Я не сказаў так, толькі падумаў.

Ну, а заснуць і сам не заснуў.

## ЧАТЫРОХ І ПРЫГАНЯТЫ

Фельдфебель Элер, дзябёлы вусач, загадчык лагернага склада вопраткі і абутку, стаяў перад глухою брамкай у казарменным плоце і лаяўся.

— О доннэрветар!— трубіў ён.— Дык гэта ж, мае апосталы, свінства!

Адзін з аддзелаў склада знаходзіўся ў казармах, каля якіх звычайна размяшчаюцца шталагі. Вечарэла сёння амаль ад самага ранку, і Элер з камандай палонных спазніўся вярнуцца з работы. Брамку, праз якую ямы штодзень вярталіся, вартавы ўжо замкнуў і ключ, вядома, забраў з сабою ў каравульню. Цяпер бяры ды ідзі ў галоўную брамку, рабі вялікі круг...

Фельдфебель вырашыў клопат прасцей. Цяжка падскочыў, усцерабіўся на брамку і, крэхчучы, гхавіс на ёй жыватом. Адзін з палонных, плячысты, куртаценькі дзядзька Янушчык, з лёкайскай увішнасцю падбег да шэфа і перабавіў яго на той бок.

Тады пералезлі палонныя, пераставіўшы цераз брамку вазок, на якім яны сёе-тое вазілі ад склада да склада.

— Наперад, мужы галілейскія, позна! — сказаў таўсцюх, і каманда пайшла па асфальце ў свой лагер.

Палонных было чатырох — два беларусы і два французы.

Побач з малым, рысістым Янушчыкам шырока сігаў і стрымліваў хаду здаравіла Калечыц, Саша-гарманіст, мой саслужывец у войску і сябар па нарах тут, у палоне. Чарнявы, ціхі, заўсёды задуманы. Не той гарманіст, што можа да ўпаду рэпіць кадрылі ды полькі, абы заплацілі,— іграе Саша таму, што самому гэта добра, і больш за ўсё іграе песні.

Знаёмства наша пачалося з вальса «На сопках Маньчжурыі» — журботнай песні пра славу без перамогі. Пачуўшы гэты вальс у казарме, я пайшоў па лабірынце двух'ярусных ложкаў на гукі гармоніка, убачыў музыку і ўжо назаўсёды вылучыў яго для сябе з натоўпу стрыжаных нававбранскіх галоў. Вочы, якія хочуць так многа сказаць. Амаль дзіцячая душа, многа якой выліваецца ў ціхай,

шчырай ігры...

Мы разлучыліся ў дні вайны, а зноў сустрэліся ўлетку саракавога года, у лагернай штрафкампані. Саша ўцякаў дахаты, і злавілі яго недзе ў Польшчы. Ужо не з тым гармонікам, які ён прывёз у войска з роднай вёскі каля Валожына, а з новым, нямецкім. Палонныя, што працавалі на арбайтскамандах, атрымлівалі па трынаццаць марак у месяц, бонамі, за якія, праз вахмана, можна было купіць толькі тое, што не ахоплівалася картачнай сістэмай: кавалак мыла, пачак тытуню, люстэрка, брытву, чамадан, гармонік ці мандаліну. Сябры па арбайтскамандзе ў складчыну набылі Калечыцу акардэон, і ціхае дваццацідвухгадовае дзіця пайшло пасля з гэтым скарбам дахаты — з Германіі ў Беларусь, начамі... Калі Сашу прыгналі ў нашу штраф-кампані, я заўважыў і пазнаў яго здалёк, у брамцы. З музыкай за плячыма, яшчэ больш схуднелы і доўгі. Калечыц ішоў перад вахманам без шапкі. Ён быў з чорным «гарохавым» чубам, мне яшчэ незнаемым, адгадаваным у палоне. Сустрэў Сашу, як і кожнага штрафніка, унтэр Кугель, гарладзёр і кацюга. Тры здаравенныя поўхі, першае прывітанне штрафкампані, навічок атрымаў адразу, каля ўвахода ў нашу драцяную загарадзь. І ён, ужо адзін, ішоў насустрач мне — яшчэ да слёз чырвоны ад новай крыўды, але ўжо з усмешкай на даўно няголеным твары, размахваючы доўгімі рукамі.

І вось ужо больш за паўгода мы спім побач, спачатку ў штрафным, а з восені — у агульным бараку. У галавах нашых нараў, на палічцы, стаіць бывалы Сашкаў акардэон, найбольшы скарб барака № 3.

Цяпер Калечыц ішоў у першай пары, глядзеў на бычыны карак фельдфебеля і ўспамінаў тры курыныя яйкі. Пазаўчора Элер прынёс іх аднекуль, вельмі задаволены ўдачай. І сапраўды — перамога! Па харчовых картках прыходзілася па адным яйку ў тыдзень на кожнага немца, а тут!.. Эх, доннэрветар!.. Але як толькі фельдфебель выняў іх з кішэні, каб нахваліцца, адно залатое яйка раптам упала з рукі на брудную падлогу склада і, пэўна ж, разлілося. А гэты дзябёліна стаў ракам і, амаль прыпаўшы вусамі да закарэлай дошкі, хлябтаў сырую яечню і толькі хрыпла пакрэктваў, прыцмокваў ад задавальнення...

Сашавы думкі перабіў палонны, што ішоў за ім. Таксама чарнявы, але куды шчуплейшы, нават маладзейшы з выгляду. Француз Ружэ. Ён незнарок наступіў Калечыцу на пятку і з вінаватай усмешкай дакрануўся да яго пляча:

— Пардон, Сашка. Ві-ба-чай.

Імя гэта ці прозвішча — Ружэ, Калечыц, добра не ведаў. Бо колькі тут можна даведацца адзін пра аднаго, калі пры сустрэчах карыс-таешся ўсмешкамі, жэстамі ды тым нейкім дзесяткам нямецісіх слоў,

якія кожны з іх калечыў па-свойму? Праўда, Ружэ пачаў вучыцца ад Сашы слоў беларускіх і, у сустрэчным парадку, вучыць таго па-французску. Ну, ведаюць — адзін: “мерсі”, «пардон», «сіль ву пле», другі: «дзякую», «вібачай», «калі ляска»... Пацеха толькі, прыемная забаўка. А ўсё ж яны змаглі дагэтуль сяк-так узаемна даўмецца, што Сашка — земляроб, «бляншрус» і цяпер ужо «савецік», а Ружэ — рабочы, ткач і таксама (кулак, узняты з усмешкай) «рот фронт». Француз быў прыгажун з малымі, белымі, нібы жаночымі рукамі. А беларус, хоць і рахманы, любіў па-хвацку вітацца. Калісьці, знаёмячыся з Ружэ, ён добра-такі ціскануў яму руку. Хлопец ахнуў ад болю, а потым, з поўнымі слёз вачыма, паказаў збянтэжанаму «бляншрусу» сваю малую, знявечаную руку і расказаў, растлумачыў па-іхняму, пра сваё няшчасце. Летась, калі Ружэ працаваў на будаўніцтве аўтастрады, ваганетка падмяла яго і зламала руку ў запясці. Яе злячылі няўдала: каму там было непакоіцца...

Чатырох палонных, што працавалі на складзе, таўсцюх фельдфебель называў то «апосталамі», то «мужамі галілейскімі». Паўтараў ён гэта па сто разоў на дзень з аднолькавым задавальненнем. Ружэ прыйшоў на склад, пятым апосталам, два тыдні таму назад. Хлопец спалохаўся, што яго, паколькі рука ўжо залячылася, могуць яшчэ, чаго добрага, зноў пагнаць да ваганетак. А на складзе было не толькі лягчэй ды цяплей, але ж і пажывіцца мог чалавек чым-небудзь. Увесь шталаг зайздросціў гэтай маленькай арбайтскамандзе.

Худы, чарнявы хлапчына стаяў ля парога, сумна, з надзеяй глядзеў на Элера сваімі чорнымі вялікімі вачыма і, на французскі лад калечачы нямецкія словы, прасіўся:

— Іш віль арбайт. Ішь віль зэр гут арбайт...[1]

— Што цябе, бязрукага, узяць? — загрымеў, натапырыўшы рыжыя вусы, фельдфебель.— Ёзап, дай мне мой рэвальвер!..

Увішны лёкай Янушчык падсунуў свайму таўсцюху чорную дзвярную ручку, і фельдфебель грозна прыцэліўся. Ды на яго зусім сур'ёзна глядзелі глыбокія, напоеныя горкім сумам вочы юнака, і Элер апусціў свой «рэвальвер».

— Ну, добра, працуй. Паглядзім, што з гэтага. выйдзе.

Пад вечар, калі да кухні пад'ехала машына з хлебам, грозны таўсцюх, вельмі зацікаўлена чытаючы на хаду газету, даволі спрытна прыхапіў з кузава булку хлеба, прынёс у склад і раскроіў на пяць кавалкаў. Чатыры, роўныя, раздаў старым апосталам, а пяты, большы, даў Ружэ.

---

[1] Я хачу працаваць. Я хачу вельмі добра працаваць...

Праз некалькі дзён зоркае вока каменданта шталага прыкмеціла, што ў Элера не чатыры, а пяць памагатых. Сухі, крыклівы маёр загадаў фельдфебелю аднаго неадкладна прагнаць. Калі таўсцюх паведаміў гэта сваёй камандзе, Ружэ збялеў і памкнуўся да дзвярэй.

— Гальт! — закрычаў фельдфебель. Ён грозна паглядзеў на сваю пяцёрку і тыцнуў пальцам на француза Лекашэ: — Ты тут найбольшы лайдак. Ты заўтра не прыходзь.

Выбар гэты быў Сашу прыемны ўдвая. Па-першае, таксама, як і Янушчык, куртаты Лекашэ быў яшчэ большы за таго падлізнік. Пры ім «апосталы» асцерагаліся не толькі ўзяць сабе ці сябру які-небудзь шалік ці шкаргіэткі, замяніць падраныя чаравікі на навейшыя, але ж нават і ўголас падумаць нра такое «злачынства». І гэта ў той час, калі сам іх наглядчык, заўважыўшы штосьці такое, толькі крычаў: «Ага, на складзе завяліся мышы!» — або і наогул, не заўсёды ўдала, рабіў выгляд, што нічога не бачыць. Па-другое, і, відаць, галоўнае,— Саша ўжо не хацеў разлучацца з Ружэ.

Зрэшты, адстаўку Лекашэ ўся каманда ўспрыняла з палёгкай, уключаючы і самога Элера, якому двух лёкаяў было, аказваецца, мнагавата.

Цяпер Ружэ ішоў у пары з сівым, крыху ссутуленым мусье Дэмазье. Гэта быў вясковы настаўнік, вельмі маўклівы, дабрадушны чалавек з вялікімі акулярамі ў касцяной аправе. Спачатку сам ён не краў. Аднак, заўважыўшы, як Саша ці Ружэ, які, дарэчы, вельмі хутка асвоіў гэты промысел, бралі штосьці з вопраткі, надзейна хаваючы здабычу ў бяздонныя французскія шаравары, стары ківаў галавой і ўсміхаўся, нібыта хочучы сказаць: «І правільна. Не голым жа хлопцам хадзіць. Глядзі толькі не пападзіся». А днямі мусье Дэмазье, иарэшце, абасмеліўся і сам...

Падумаўшы пра гэта, Саша на хаду азірнуўся і падміргнуў старому: «Што, гуманіст, нясём і мы?» У шараварах таго хаваліся сёння цёплыя англійскія шкарпэткі, па адной у кожнай калашыне. Гэта, відаць, яшчэ ўсё і бянтэжыла і палохала педагога. Ды ён усміхнуўся ў адказ значна, як Сашу здалося, маладзей, чым заўсёды. Што ж, сёння яшчэ адзін хтосьці сагрэе ногі і душу сяброўскай спагадай!..

Ружэ і Дэмазье цягнулі за дышаль нізкі, шырокі вазок, на гэты раз пусты.

На павароце ў лагерную браму ім сустрэлася худая, панура палахлівая фрау ІПустэр, прыбіральшчыца каменданцкага барака. Таўсцюх Элер з ходу закідаў яе пошлымі салдацкімі жартачкамі. Жанчына не адказала і не ўсміхалася. І ад гэтага Сашу яшчэ больш агідным здаўся лёкайскі Янушчыкаў рагаток.

У браме, вітаючы фельдфебеля, пажылы вартавы пад каскай стукнуў абцасамі і падцягнуўся на «смірна». Уся каманда, быццам нават урачыста, уплялася ў шталаг.

...У шавецкай майстэрні тым часам яшчэ ўсё папорвалі ды пастуквалі.

І тут былі палонныя розных нацыянальнасцей, аднолькава заваленыя работай.

На сталах і пад сталамі ляжалі боты і чаравікі, проста горбамі і ў мяшках. Падкутыя, падбітыя цвікамі. І ўсе яны, таксама як і людзі, што перакідалі іх з месца на месца, былі малыя і большыя, зношаныя і навейшыя, французскія і польскія... Кожная пара іх, каб толькі магла гаварыць, расказала б, можа, не горш за людзей, пра вельмі многае. Як яны легка скакалі па казарменных сходах, ганарыста адбівалі парадны крок на польскім бруку ці на бельгійскім асфальце; як яны потым таптал і палітую кроўю ці пакрытую попелам зямлю і як, нарэшце, мурзаліся гноем у баўэрскіх кароўніках ці на юнкерскіх горбах кампосту і адбівалі вялы рытм няволі на дарогах фашысцкай Нямеччыны...

Але боты маўчалі.

А людзі яшчэ ўсё працавалі ці больш прыкідваліся, што робяць нешта, і непакоіліся, як гэта сёння так зацягнуўся «фаерабэнд» — канец рабочага дня, Даўно пара па бараках. І шмат каму ўжо хочацца запусціць чаравікам ці ботам у спіну загадчыку-немцу, які пра гэта забыўся.

Загадчык майстэрні, нярослы, прыгожанькі салдат, стаяў, да лакцёў паўсаджваўшы рукі ў кішэні штаноў, і абурана сакатаў:

— Ці ж ты, доннэрветар, дагэтуль яшчэ не ведаеш, што спачатку трэба цэтлік занесці да гера фельдфебеля, каб ён падпісаў, а тады ўжо сюды? Гэта ж няхай ён, Элер, толькі даведаецца! Ты ведаеш, што тады будзе?..

Перад ім стаяў беларускі дзяцюк у зношаным польскім мундзіры, у клёшных англійскіх портках і зялёна-сіняй з чырвонымі кантамі нарвежскай шапцы. Ён трымаў у руцэ старыя чаравікі, якія ўжо ледзь не галосячы прасілі кашы, а ногі яго, абкручаныя каравымі анучамі, стаялі ў вялізных і размалёваных, як разінскія чаўны, галандскіх драўляных клюмпах з пацешнымі пупсікамі на насках. Хлопец, відаць, дпямі прыехаў з вясковай арбайтскаманды і не ведаў пра новы парадак з рамонтам.

А справа выглядала так. Элер заўважыў, што ў лагеры гэтай зімой развялося зашмат абутку і пачалася спекуляцыя. Шаўцы зараблялі на гэтым найбольш, камбінуючы і абутак і работу налева, а законна зда-

дзенае ў майстэрню доўга ляжала там нечапанае, чакаючы чаргі. Фельдфебель вырашыў увесь рамонт прапускаць толькі праз уласныя рукі.

Дзяцюк з чаравікамі стаяў перад немцам моўчкі. Думалася яму, відаць, слухаючы на большую палавіну незразумелае сакатанне, што ўсё гэта — тое самае ліха, што і ў польскіх казармах калісьці. Пагаўкае ды сціхне. Але той не сціхаў.

Тады крайні шавец, даўгатвары хлапчына на крывых здаравенных нагах, не вытрываў:

— Не бойся, Корань. Гэта фэст хлопец, так толькі любіць пажміндзіць. Ты пачакай...

І, каб паказаць сябру, як ён тут проста жыве з начальствам і як ўжо ўмее па-іхняму, ляпнуў загадчыка па рукаве.

— Лясма, Вілі,— сказаў.— Іх моргін фертык махін і фільфебель нікс вісан. Ганцэгаль. Ушыстко едно, мэнш![1]

— Ты так думаеш, Штэфан? — памякчэў немец.— Аднак, мілы мой...

Ен не скончыў, а той, у галандскіх чаўнах, не паспеў усміхнуцца, што з рамонтам, відаць, атрымаецца,— калі адчыніліся дзверы і з двара паказалася вусатае мурло фельдфебеля...

— Слухай, Вілі,— пачаў Элер і раптам заўважыў няшчасныя чаравікі.— Ага! — загрымеў ваяўнічым, усцешаным голасам.— Зноў адзін без цэтля! Зноў спекулянт!

Таўсцюх нечакана рухава ўляцеў у барак, схапіў чаравікі з рук перапалоханага чаўнаносца і шпурнуў іх у дзверы, над галовамі сваіх «апосталаў».

Няўдала. Звязаная пара падкутых салдацкіх грукачоў перакулілася ў паветры так, што адзін з іх ударыў Ружэ.

Хлопец ахнуў, хапіўся аберуч за скронь і сеў на свой вазок.

Нават дзядзька Янушчык абурыўся. Праўда, па-свойму.

— Ну, гэтак нікс гут,— сказаў з асцярожненькай смеласцю.— Гэтак, фельдфебель, нікс махін...

А Элер ужо трымаўся за дзвярную клямку і глядзеў сюды, больш тупа, чым збянтэжана.

Саша — ён потым сам так гаварыў мне — стаяў як пень і пазіраў то на Ружэ, то на фельдфебеля, то на сяброў.

А ўсе маўчалі. Так, здаецца, доўга-доўга...

Ружэ парушыў гэтае маўчанне. Калі ён адняў ад твару свае жаночыя рукі — там не было ўжо мілай, сумнай усмешкі... Цярплівасць

---

[1] Пакінь, Віллі. Я заўтра папраўлю, і фельдфебель не будзе ведаць. Усё роўна, чалавеча!

падарвалася, і маладое сэрца — з болем крыўды і спутанай страсцю нянавісці — успыхнула раптам і, бяссільнае, толькі заплакала. А за ім заплакалі і чорныя, летуценныя вочы...

Сівы мусье Дэмазье апамятаўся першы: ён пачаў неяк збянтэжана гладзіць то разбіты цвікамі твар юнака, то — чамусьці — яго седлаватую, з вострымі чубікамі пілотісу.

— Ціха, ціха, мой хлопча, ціха, харошы,— шаптаў ён нешта накшталт гэтага па-французску і азіраўся раз-поразу на фельдфебеля.

Пасля дастаў з кішэні сігарэты. Ружэ апошні раз усхліпнуў і ўзяў а дну з іх доўгімі, спрытнымі пальцамі левай рукі. Стары шаркнуў запалкай і падставіў хлопцу кволы агеньчык. Ружэ, аднак, дыхаў яшчэ неспакойна — агеньчык згорбіўся, упяўся і прапаў. Ды ўжо да тытуню прыліпла жывучая зорачка жару. Ружэ пацягнуў разоў колькі і ў губах падставіў сігарэту мусье Дэмазье. Пакуль той пыхкаў, цягнучы агеньчык да сябе, за цяжкімі акулярамі старога настаўніка юнак убачыў іскрынкі слёз і, вядома ж, усхліпнуў зноў.

Саша дарэмна прыкусваў губу. У вачах стала цёпла, і па халодных шчоках папаўзлі няпрошаныя, горкія, ужо даўно накіпелыя слёзы. Бо ў іх было адразу ўсё — і даўняя глыбокая туга, ад якое парой падкочвае да горла рыданнямі, калі хочацца ўпасці на нары,і, схаваўшыся з галавой пад вашывыя транты, крычаць на ўвесь свет, і душыцца ад плачу, і хвастаць мазольнымі кулакамі па фельдфебельскім мурле, і гладзіць любы твар Ружэ — яшчэ з большай пяшчотай, чым гэты сівы стары!..

— Слухай, Ёзап! — пачуўся раптам хрыплы Элераў бас.— Ты скажы яму, Ёзап,— гаварыў ён чамусьці Янушчыку,— што я незнарок, што сёння позна ўжо, а заўтра я яму хлеба дастану. Цэлую булку! Аднаму яму!..

## ЗЯЗЮЛЕНЬКА

Ноч выдарылася як па заказу: цёмная, пасля дажджу. За вокнамі барака, дзе размяшчалася наша каманда, чутно было, як безупынку сакаталі конікі і над мокрымі мэндлямі жыта каля брукаванай дарогі сумна шумел і бярозы.

Апоўначы мы выбраліся са свае «буды» на ўскраіне заводскага пасёлка — назаўсёды. Не ўсе, а толькі ўтрох. З трыццаці нашых сяброў большасць спала, пасля нялёгкай працы моцна, а хто прачнуўся, калі мы збіраліся, той ці маўчаў, ці жадаў нам шчаслівай дарогі, ці ўголас баяўся...

Наіўна асцярожныя, мы перайшлі дарогу задам, як мядзведзі, а

потым павярнуліся на ўсход. Шарахцелі ржышчам, брылі па свежых роллях, па моры соннага калосся ярыны. Ішлі шпарка, устрымліваючы, каб не бегчы, прапускалі праз пальцы і зрывалі вільготныя пшанічныя каласы і нават ціха, гулліва ржалі...

З таго часу мы сталі начнымі людзьмі.

Зоркі вялі нас на ўсход. Вясковыя хлопцы, мы былі дрэннымі астраномамі. Ва ўсёй мігатлівай жарстве, што асыпала нашу высокую столь, мы пазнавалі перш за ўсё Вялікую Мядзведзіцу. Яна была ў нас заўсёды па левай руцэ, а трошкі правей ад Заранiцы быў родны наднёманскі край. Туды цягнула нас, як цягне стрэлку компаса на поўнач.

Дзесятай ноччу мы прабіраліся па абшары памешчыцкай бульбы. Ішлі амаль да пояса мокрыя; ногі спатыкаліся на баразнах, блыталіся ў густым бульбяніку і непрыемна нылі пад каленьмі. У грудзях таксама нешта балюча ныла — ці то з сярэдзіны, ці зверху.

Цярплівасці мы назапасіліся нямала, але ўсё ж час ад часу хацелася крыкнуць: «А ліха ж вам з вашаю бульбай, праклятыя юнкеры!..»

Досвіткам напаткалі на ўскраіне лесу нейкую самотную адрыну, а ля яе вялізны шэры стог старой саломы. Спакуса была вялікая. Каторы ўжо дзень мы то моклі ў кустах пад дажджом, то ад зямлі нацягваліся холадам. Асцярожна і з таго боку, дзе стог амаль упрытык туліўся да сцяны адрыны, мы залезлі на саламяную вышыню, выграблі бярлогу і ляглі. Мікола, як заўсёды, забяспечыў маскіроўку. Пасля ён прытуліўся да мяне, і, засынаючы, я чуў яго шчаслівае пашэптванне.

Калі я прачнуўся, сонца стаяла яшчэ ўсё высока. Праз салому, якой Мікола прыцерушыў наша гняздо, прамені яшчэ даставалі нас. Першым пачуццём, з якім я ўбачыў іх, была тая самая злосць на доўгі, бясконца доўгі летні дзень. Грудзі нацягнуліся сухота, гаркавага саламянага пылу, і так хацелася выбрацца наверх, ісці. Ды яшчэ было рана, а хлопцы спалі. І я маўчаў.

Неўзабаве здалёк дайшоў гудок паравоза, а потым усё бліжэй чулася грукатанне вагонных колаў.

— Цягнік.

— А ты не спіш ужо?

— Даўно.

— І ўсё думаеш?

— Думаю, Уладзік...

Пра што ён думае, я не пытаюся: думаем мы, як відаць, пра адно. Быў жнівень сорак першага года...

— Вось ён пайшоў, яшчэ адзін цягнік,— ціха, павольна гаворыць Мікола.— Туды, напэўна, на ўсход. Новыя танкі павёз, новых салдатаў... Нашы там кроўю абліваюцца, а мы...

Трэці сябар, Калодка, хроп, спакойна, па-хатняму прысвістваючы носам. І ў гэтым яго бестурботным храпенні было нешта такое, ад чаго станавілася яшчэ больш прыкра чакаць.

Пасля, калі праменні сонца пачалі патроху вылазіць па саломінках з нашай бярлогі наверх, штораз, то ўсё чырванейшыя, а нарэшце і зусім падняліся з яе, Мікола не вытрымаў — высадзіў галаву.

— Хутка зойдзе,— шапнуў ён,— Нехта яшчэ вунь корпаецца ў бураках. Адзін. А буракоў, буракоў — ёлкі-палкі! Панскія, мусіць. Усюды паны. Вунь нейкі мурза па шпалах папоўз.

— Не паказвайся.

— Думаеш, блізка?.. А тут і лес зусім, зусім пад бокам. А бярозкі якія!.. Якраз як у нас... Сёння ж субота: нікога на полі не будзе ўжо. Ну, Уладзік, вылазь.

Я паслухаў і высадзіў галаву.

На захад распасціралася плантацыя цукровых буракоў. Нейкі мужчына хадзіў па іх воддаль, прыгнуўшыся, і абрываў бацвінне. На ўсход, ускраінай лесу працягнуліся чатыры струны чыгуначных рэек. Каб не рэйкі ды шпалы і жвір, верасы і бярозкі прыйшлі б да самага стога. Сонца заліло іх на развітанне барвовым, раскошным святлом.

Мы разбудзілі Калодку. Той апрытомнеў і пачаў, абіраючы з твару салому:

— Усё, хлопцы, як усё. Супачыці-то добра ўдалося, а каб гэта яшчэ і наесціса. Бо ўжо ж і ногі слухаць не хочуць.

Мікола ўсміхнуўся, а потым, нібы не стрымаўшы новага прыступу весялосці, гыкнуў.

— Чаго ты? — спытаўся Калодка.

— З цябе.

— Які ж тут смех з мяне? Што чалавек пад'еў бы?

— Вядома. Хочаш у старцах жыць ды з перцам есці. Ну, сядзем на сані.

Мікола першы з'ехаў уніз.

Па аднаму, уперабежку перабраўшыся цераз чыгуначнае палатно, лесам мы рушылі смялей.

Такі ўжо склаўся парадак, што я ішоў заўсёды першы, за мной амаль зусім нячутна ступаў малы і спрытны Мікола, і ззаду чмыхаў Калодка, спакойна і бясстрашна, нібы ў свой Кобрын на кірмаш.

Гэты жанаты, цяжкі паляшук наогул быў вялікі аптыміст. На днёўках спаў, няхай здароў будзе, як мядзведзь. Надоечы пракашляў увесь

дзень пад кустом, а потым апраўдваўся тым, што «ніяк жа ж не мог устрымацца...». Ідучы, ён грукаў вялізнымі артылерыйскімі ботамі, нібы Коласаў дзядзька ў Вільні, і часта, на хаду, любіў паразважаць уголас. «Сядзі, сядзі сабе, бойса,— гаварыў ён пра тых, што яшчэ засталіся ў няволі.— Ты бойса, а я прыйду дахаты, адрэжу сабе ад бохана колькі мая душа захоча, і паглядзім, каму будзе лепш...»

Калодка пайшоў з намі вельмі ахвотна, відаць, з цвёрдай упэўненасцю, што гэтыя два завядуць яго проста дахаты і нават пасадзяць за стол. Што будзе далей — няважна, абы нарэшце пад'есці. На першай днёўцы ён так старанна прылажыўся да нашага запасу хлеба, што яго паменшала адразу на некалькі дзён, а мы з Міколам першы раз уздыхнулі.

Выбар быў мой, і, грэшны чалавек, калі б Калодку выбіраў у спадарожнікі не я, а Мікола — я ўжо не раз упікнуў бы. А Мікола маўчаў, употайкі глытаючы нездавальненне, а потым нават пачаў і смяяцца.

Ды смеху было няшмат, і смех гэты быў гар капа ты, а часам і зусім горкі. Дарогі яшчэ гэтак многа, а ногі ўсё тыя самыя. Хутка восень, а мы без шынялёў... Думалася спачатку, што голад у полі не страшны: дзе каласок, дзе бручка, дзе бульбы спячэш... «Жылі ж калісьці святыя ўгоднікі па цэлай сотні год»,— смяяўся Мікола. І мы клявалі каласы, ахапкамі бралі на пракосах гарох і на хаду вылузвалі струкі, разоў са тры варылі ў кацялку бульбу, адзін раз нават з маслякамі. Аднак, калі на пятую ноч уцёкаў мы ўбіліся ў нейкую пушчу і толькі праз двое сутак выйшлі на яе ўсходнюю ўскраіну, Мікола заключыў, што святыя ўгоднікі, як відаць, не ўцякалі з палону... Ногі цяжэлі з кожным днём. І ўсё часцей скрыгатала па сэрцы ўздыханне Калодкі: «Эх, каб наесціса!..»

Учора на досвітку, выйшаўшы з пушчы, знайшлі мы абрывак нямецкай газеты. Мяркуючы па даце, якой азначаны былі дзве карэспандэнцыі з розных раёнаў, яе пакінуў нехта нядаўна, і, значыцца, друкавалася яна недалёка. А па назвах раёнаў — Дойч Кронэ і Пінайдэмюль — можна было меркаваць, што мы знаходзімся паблізу ад былой польска-нямецкай граніцы. Адкрыццё асабліва па сэрцы ці, лепш, па нутру прыйшлося Калодку.

— Я вам кажу, што гэта Польшч ужо,— гаварыў ён, уперавалку сігаючы за, Міколам.— Дакуль жа быць Германіі — дзесяты дзень ідзём. І газетка ж таксама піша. Нават і свет запах, здаецца, інакш. А калі Польцч, дык будзем сёрбаць боршч.

— Пасёрбаеш,— сказаў з усмешкай Мікола.— Я цэлы год адсёрбаў, годзе.

У Міколы быў горкі вопыт. Летась ён уцякаў і папаўся з-за гэткага вось самага баршча: зайшоў на хутар папрасіць пад'есці, а там якраз салдат, сын гаспадарскі ў адпачынку...

Ды для Калодкі гэта быў не доказ.

— Ну, ты нам пра тое каторы ўжо раз! Ты ж на сабаку нейкага наткнуўся. А гэта ж свае, палякі. Накормяць.

— Давай! Разяўляйся шырэй!..

І вось тады, нібы для таго, каб спыніць гэтую спрэчку, перад намі, у лесе, пачулася песня. Хлопцы сціхлі, і мы спыніліся.

Насустрач нам паўзла між асакі і папаратніку вузкая, звілістая сцяжынка, а па сцяжынцы нехта зусім маладзенькі нёс нам польскую песню:

Ty pójdziesz górą,
Ty pójdziesz górą,
A ja doliną.
Ty zakwitniesz różą,
Ty zakwiteniesz różą,
A ja kaliną...

— А што — не казаў я, а што? — паспеў усцешыцца раней за ўсіх Калодка.

А потым мы, без каманды, нырнулі са сцежкі ў кусты.

Спыніць дзяўчынку, не спалохаўшы, было даручана мне. Знешніх дадзеных, якія падкупілі б спявачку адразу, у мяне было не больш, чым у сяброў. Пазаўчора я аглядаў у вадзе нейкай пушчанскай сажалкі сваё даволі журботнае адлюстраванне. Паўпадаўшыя вочы глядзелі з-пад брывей, нібы з-пад прыпека, а твар накрывала густая чорная пожня. Аднак цяпер я стаў за бярозу, і сэрца мае забілася так насцярожана, нібы мне трэба было — не толькі трэба, а неабходна! — го лай рукой злавіць на галінцы бярозы маленькую, палахлівую птушку...

І вось дзяўчынка паказалася,— спачатку мільганула паміж дрэў, на паваротах сцяжынкі знікаючы за зеленню кустоў. Яна спявала, і — услед за голасам — усё набліжаўся, ясней вырысоўваўся воблік спявачкі. Вось, праз зялёную сетку лісця, ужо зусім недалёка паказалася светлавалосая галоўка. Яшчэ бліжэй. Стракатая сукенка пашыта, відаць, даўно: тонкія, загарэлыя ногі дзяўчынкі здаваліся пад ёй залішне доўгімі. Не па гадах прыкметна яна махала рукамі, асабліва далека назад закідаючы правую. Рукі таксама здаліся мне даўжэйшымі, чым трэба. Відаць, не па ўзросту вялікі цяжар прыходзіцца ёй паднімаць...

Песню сваю дзяўчынка цалкам не ведала,— праспяваўшы дзве першыя страфы, яна зноў завяла ад пачатку:

Ty pójdziesz górą,
Ty pójdziesz górą,
A ja doliną...

А голас — амаль зусім дзіцячы яшчэ — да болю сардэчна расказваў аб тым, як цяжка расцвітаць калінаю ў няволі.

Я меў няпоўных дваццаць чатыры гады, тры з якіх забралі панскія казармы і гітлераўскія лагеры. Столькі было тугі па свабодзе і мар пра жыццё, так многа любасці да роднага сабралася ў душы!.. І вось яна ідзе — ужо не проста сябар нядолі, палонны, ужо не фашыст з аўтаматам, а першая ўсмешка свабоды!.. Так мне здалося, ледзь не да слёз... Дзяўчынка амаль параўнялася з бярозай, за якой я стаяў. Трэба было гаварыць, а я ніяк не мог пачаць. І ўжо тады, калі застаўся ёй апошні крок, пасля якога мой голас быў бы вокрыкам ззаду,— першае слова з натугай сарвалася з майго языка.

— Дзяўчынка,— ціха сказаў я на-польску. І, перш чым яна паспела спалохацца, дадаў мацней: — Я свой. Не бойся.

А яна ўсё ж такі спалохалася. Загарэлыя тонкія ногі заныліі, здаецца, зусім прыкметна. Ды ненадоўга. На вуснах і вачах малое паказалася нясмелая ўсмешка, амаль зусім прыкметна праясніла твар, і вось, як апошні доказ, што дзяўчынка прызнала ва мне свайго, яна сказала:

— Дзень добры!

Я працягнуў руку. Малая не задумвалася нават на момант: маленькая далонь, на якой я адчуў мазалі, і ўсе пяць малых і цёплых пальчыкаў схаваліся ў маёй бруднай, вялікай жмені.

— Пан ест наш. Пан уцека з няволі. Познала́м адразу.

Вялікія светла-блакітныя вочы глядзелі па-дзіцячаму даверліва, наіўна. А словы яе «позналам адразу» казалі аб тым, што падлетак пачаў уваходзіць ва ўзрост, якому да твару бывае няшкодная, мілая мана. Бо не адразу малая пазнала мяне,— адразу яна проста спалохалася.

Яна спалохалася зноў, калі ў кустах, дзе сядзелі Мікола з Калодкам, пачулася шамаценне.

— Ой, што там? Што там, проша пана?..

Я не паспеў супакоіць яе. З-за куста паказаўся мядзведзь-Калодка.

— Дзень добры, цурка, дзень добры! — уголас гаварыў ён, падыходзячы.— Не бойся нас — свае! Ну, як жывеш, як маешся?

Малая павіталася з Калодкам за руку і, выглянуўшы з-за яго на новы шорах у кустах, убачыла Міколу.

— О, ешчэ едэн пан! — сказала з усмешкай.

— А божа мой, які ён пан! — здзівіўся Калодка,— Хлопец ледзьве

ногі цягае, а яно кажа — пан. Голад, мая каханая, не цётка.

Мікола быў прыкметна нездаволены такім акрэсленнем яго выгляду. Па-свойму спрытна, ён павітаўся з дзяўчынкай, як кавалер.

— А як паненачку завуць?

— Ядзя. А пана?

— Галодныя каторы дзень ідзём,— умяшаўся Калодка,— а тут, у лесе, дрэва ці траву не будзеш грызці. Чловек усё ж такі, а не быдла...

Ядзя, знаёмячыся з Міколам, была не вельмі падобная на дарослую. Ва ўсмешцы, з якой яна называла яму сваё імя і хацела пачуць у адказ імя «пана жолнежа», больш было проста дзіцячай цікавасці. А цяпер, пачуўшы Калодкавы словы пра голад, яна нібы схамянулася і раптам нашмат пасталела.

— Добжэ,— сказала яна.— Вы пачакайце тут, а я пайду і прынясу вам хлеба.

— О, гэта дык гэта! — амаль ускрыкнуў Калодка.— Эх, не было б гэта сваё. Ідзі, цурка, ідзі!..

Дзяўчынка трошкі падумала.

— Вы пахавайцеся,— сказала зусім сур'ёзна.— А я, як прыйду, скажу так.

Яна зусім па-дзіцячаму наставіла губы і ціха закукавала:

— Ку-ку, ку-ку!..

— А то яе разумніца мая! — зусім расплыўся Калодка.— Ты нам ку-ку, і мы табе з кустоў ку-ку. Ты толькі хлеба нам нясі пабольш. І хлеба, і да хлеба!..

Апошняе было ўжо сказана ўдагон.

А галоўнае так і не ўспомнілі — не спыталіся, Польшча ўжо ці яшчэ ўсё Нямеччына?

Я ледзь не крыкнуў услед дзяўчынцы «пастой», але ўспомніў адразу, ужо з адкрытым ротам і ўзнятай рукой, што і тут небяспечна крычаць. І ў гэты момант яна апошні раз мільганула ў зелені кустоў. А на момант пазней мы пачулі зусім недалёка смех...

Засмяяўся нехта не там, куды пабегла дзяўчынка, а ў тым баку, адкуль мы прыйшлі. Спакойна разважаючы, можна было падумаць, што на ўсіх мовах людзі смяюцца аднолькава: засмяяцца за дрэвамі мог і не вораг. Ды мы за два гады прызвычаіліся да думкі, што парняволенай Гітлерам Польшчы было не да смеху. Засмяяўся мужчына, на смех якога другі мужчынскі голас таксама весела і моцна адказаў... па-нямецку!

Мы шыбанулі ў лес.

Мікола бег першы. Ён паспеў нават па-нашаму ціха крыкнуць: «Бягом!» Следам за мной трашчаў галлём і грукатаў Калодка.

Метраў праз дзвесце ці трыста я ўспомніў, што з гэткім шоламам нам не прайсці. Я сігануў на ўвесь цырісуль, дагнаў Міколу і, параўняўшыся з ім, загадаў:

— Пачакай!

Мікола зразумеў мяне таксама, як мы перад хвілінай зразумелі ягоны загад.

— За мной — Калодка, ты — за ім. І — ціха.

Мы пастаялі момант і рушылі павальней, аднак амаль зусім нячутна.

Наша найлепшая сяброўка — ноч — ішла насустрач нам вельмі павольна. У ельніку яна асела ценямі, у шэрай гушчы якіх мы адчувалі сябе лепш. Ды ельнік спачатку радзеў, потым яго патрохі змяніла бярозавае драбналессе. Стала святлей. Па верасах, сям-там збіваючы капелюшы затоеных грыбоў, мы, не змаўляючыся, пайшлі шпарчэй, а за намі, і спераду нас, і абапал нячутна ішла небяспека...

І вось я нарэшце спыніўся.

Праз рэдкія кусты і бярозкі прылеску мы ўбачылі луг. ён рассцілаўся шырока ў бакі і наперад, а светла-шэрае неба над ім гаварыла, што ноч яшчэ не прыйшла. Маленькія кравецкія машыны конікаў усё яшчэ сакаталі ў роснай атаве,— бязлікія, нястомныя краўцы яшчэ ўсё шылі, нават прыцемкам. Дзень датляваў на захадзе бяскроўнай палоскай зары. Зорак яшчэ не было. Асцярожныя прыгажуні сарны яшчэ не выйшлі на ўскраіну лесу. Нават і з гушчару не чутно яшчэ хрыпатых поклічаў іх фанабэрыстых, раўнівых дзецюкоў, галасы якіх надоечы да сцішнаты нагадалі нам брэх аўчарак.

Ісці далей ці начакаць?

На лузе толькі сцеледца, нібы ўздымаецца з травы, туман. Над лугам адно бязмежнае, ціхае неба.

І мы пайшлі.

Шорах роснай травы пад нагамі. Маўчанне і думкі, якіх ніхто з нас не хоча выказваць. Усё не новае, усё зразумела і так.

Новае прыйшло толькі недзе на самай сярэдзіне лугу. Гэта была рака.

Толькі пазнаўшы яе падградою туману, дзе мы ўжо навучыліся здалёк пазнаваць непрыемны, дрыготкі холад вады, я спыніўся, сябры падышлі, і Мікола сказаў:

— Ну, вядома...

Адзін за ўсіх нас, ён з прыціскам адпусціў на свабоду зусім зразумелую, шчырую лаянку.

Гэта не быў адчай, а проста прыкрая злосць. Не ўпершыню наш шлях перагароджвала вада. Не ўпершыню найлепшы наш плывец,

Мікола, моўчкі садзіўся на беразе і першы пачынаў распранацца.

Так пайшло і цяпер. Мікола зняў цераз галаву сваю сумку і сеў.

Кожны раз мы рыхтаваліся да пераправы хутка, не чакаючы нават, пакуль абсохне пот. І справа гэтая заўсёды выглядала аднолькава. З клункамі ўсёй нашай збруі, прывязанымі на галаве, мы падыходзілі да вады, і першаму, хто тыцнуў скручанымі пальцамі нагі ў раку, належала права акрэсліць тэмпературу словам «нічога» або, у праціўным выпадку, якім-небудзь больш красамоўным выразам. Незалежна ад гэтага Мікола апяразваўся цераз плячо канцом нашага шнура, а я ці Калодка надзявалі на працягнутыя рукі маток. Шнур гэты мы звілі на першай днёўцы са шпагату, вялікі клубок якога Мікола прыдбаў на заводзе. Шнур быў доўгі, метраў сто, і надзейны, у тры шпагаціны.

Падрыхтаваўшыся, Мікола «змераў тэмпературу», адмоўна акрэсліў яе зусім ненавуковым тэрмінам, увайшоў па калені ў ваду і сказаў:

— Ну, вадалазы, пускай!

Маток шнура трымаў на руках Калодка. Сёння ў яго на галаве капой сядзеў падвойны клунак: свая і Міколава вопратка. Такі парадак у нас — першы плыве на разведку ўлегцы.

З пагардай да ўсяго, што супраць нас, Мікола кракнуў і ціха даў нырца.

— Няхай здароў будзе, як бабёр,— зашаптаў Калодка, ужо танцуючы зубамі.

Мікола вынырнуў яшчэ цішэй. Паплыў, нацягваючы шнур. Седзячы на кукішках над самай вадой, я прапускаю шнур праз жменю, а Калодка з мядзведжым спрытам паварочвае працягнутыя рукі, з якіх бязгучна разматваюцца, сплываюць петлі шпагату.

Я не зводжу вачэй з Міколы. Штораз, то меншай кропкай адсоўваецца ад нас яго галава, за якой на вадзе распаўзаецца штораз шырэйшы трохкутнік. Потым кропка, якая вядзе наперад гэты трохкутнік, знікае зусім, і, нарэшце, я адчуваю ў жмені тры штуршкі. Разведчык на тым беразе дае сігнал, тройчы тузаючы за шнур.

Я — з клункам свае вопраткі на галаве, і мне ныраць няможна. Ды не вельмі й ахвота. Плыву то пад шнурам, нацягнутым над самай вадой, то побач з ім, каб на кожны выпадак ён быў пад рукой. Вада, як заўсёды, без назвы, чужая, халодная... І, як заўсёды, трывожна, што ногі твае звядзе здрадлівая сутарга,— зімовы лагерны падарунак. Нагамі стрыжэш пад вадой, рукамі распорваеш плынь асцярожна... Бліжэй да берага, калі ўжо бачыш сябра, робіцца весялей. Шнур, які ён трымае, ужо не патрэбен табе, аднак бачыць яго, нібы працягнутую, моцную руку, прыемна.

Адчуўшы дно, я ўстаю і брыду, а Мікола тым часам сігналіць адпраўленне Калодку. «Зноў крапіва!..» — лаюся ў думках, хіснуўшыся, як ад агню, ад роснага лазовага куста.

— Ну, кіта наструніў,— шэпча Мікола.

Ён цягне шнур, памагае Калодку, які цяпер ім апяразаны. Калодка плавае слаба, з пыхценнем.

— Глядзі, зараз плюхне нагой, хоць разок,— шэпча Мікола, і нябачная, добрая ўсмешка даходзіць да мяне праз дробны перастук яго зубоў.

І праўда, мядзведзь наш збіўся з такту, не змог танцаваць пад вадой. Плюхнула. Раз. І яшчэ раз.

— Харошы дзядзька,— шапчу я, нібы дзеля таго, каб апраўдаць Калодку.

— Нам бы толькі яго накарміць,— з той самай усмешкай у голасе кажа Мікола.

— А сам не еў бы?

— Сам? І сам я, браце, без вусам... Ну, усё. Калодка выходзіць з вады і, здымаючы свой па-

двойны клунак, шэпча:

— Ххол-лад-дна, тр-рас-цца яй-е ггал-лав-ве!

Гэта — чыстая, голая і да чорцікаў сцюдзёная праўда. Мы хутка апранаемся, і нам, як заўсёды ў такі момант, робіцца значна цяплей ад думкі, што вось і яшчэ адна перашкода — за намі.

А гэта ўсё ж такі была яшчэ Германія!

За лугам, калі пачаліся палі, пад нагамі ў нас шарахцела спачатку ржышча, пасля пачалося вялікае поле бручкі. Ужо сцямнела настолькі, што ў небе — навокал над намі — праявіліся першыя тысячы зорак. Не хапала толькі месяца, у святле якога — на вялікім абшары зямлі — халодна блішчала б роснае бручкавінне, як часта бывала раней, нейкіх дзвесце, не больш, кіламетраў за намі.

— Ну, вось...— сказаў Мікола, першы прыпадаючы да харчу. У голасе яго была і радасць галодных, і злосць на тое, што і яшчэ за адным вадзяным рубяжом краіна нашай няволі не скончылася...

Голад мы пакідаем тут жа, на месцы. Міколаў ножык пераходзіць з рук у рукі, і аблыселыя пры дапамозе яго галовы бручкі дзіка хрумсцяць пад нашымі зубамі. Па меры таго як напаўняецца халаднаватым і салодкім сокам наша нутро, я пачынаю заўважаць больш выразна, што мы адны пад высокімі зоркамі, што мы ляжым на зямлі, якая нават грэе нас, што мы нібы прыпалі да яе грудзей, каб нацягнуцца сілы.

— Пагрызём, а пасля і паскачам, як зайцы,— гаворыць Мікола.

Калі ўстаём ісці, Калодка выбірае яшчэ адну бручку, і мы, па прыкладу яго, робім тое самае. Потым доўга ідзём, як заўсёды, адзін за адным і на такой адлегласці, што шэптам гаварыць няможна.

Бручка, іржышча, бульбянік, ралля, зноўіржышча здаюцца мне менш дзікімі, чым лес і луг. Маленькія бабкі аўса, густыя рады якіх часта трапляюцца на шляху, здаюцца мне маленькімі дамамі, у якіх зусім нядаўна патухлі агеньчыкі. Мы — тры Гуліверы — ідзём па вуліцы гэтага казачнага пасёлка, і зманлівае адчуванне жылля так настойліва непакоіць мяне, што я нарэшце здаюся.

— Прывал, сябры мае,— кажу, і гэта ўспрымаецца як агульная думка.

Мы бяром адразу па нскалькі казачных домікаў за іх каласяныя стрэхі і абарочваем на кучу. Тады з асалодай лажымся на цёплых, яшчэ не астылых ад дзённага сонца, аўсяных снапах.

Бручку на гэты раз ямо больш культурна. Ачысціўшы сваю, Мікола разрэзвае яе на скрылікі, як галандскі сыр, і надзяляе нас па чарзе. Мы хрумстаем ляніва, нават з асалодай. Ды асалоды гэтай няшмат: поўнае не напоўніш, а даўні голад не ўдасца за раз супакоіць.

Я паварочваюся на спіну і пачынаю толькі слухаць і глядзець.

...У маленстве, калі ты вяртаўся з коўзанкі мокры, а маці — па-свойму вельмі правільна, а па-твойму зусім незаслужана — сустракала цябе пякучымі махрамі фартуха, ты найчасцей забіраўся на печ. Гэга была нібы крэпасць, дзе ты ў далейшым мог лічыць сябе амаль зусім недасягальиым. Гэта было найцяплейшае месца ў хаце, асабліва для тых, у каго ў такі час быў надзейны саюзнік — бабуля. У мяне яе не было, і я звычайна перажываў сваю крыўду адзін. Ляжаў, глядзеў на столь, спачатку хмыкаў, а потым пачынаў разглядаць, нібы нейкі цікавы малюнак, сукі і разводы слаёў на дошках. І крыўда праходзіла, асабліва тады, калі маці — цяпер ужо і па-твойму правільна — успамінала, што ты не еў амаль ад рання.

Маленства наша мінула даўно, назаўсёды. Ды засталіся не толькі ўспаміны аб ім. Я не забыўся любіць хараство, як калісьці любіў, упершыню пазнаючы яго і ў дробязях: праз пажаўцелы ліст, што ападаў з галля на галаву, і ў неабсяжнай, загадкавай велічы неба, якім захапляўся каля вогнішча першых начлегаў на пашы.

Я ляжу на аўсяных снапах, за многія сотні кіламетраў ад хаты, з якое пайшоў у жыццё. Я даўно не дзіця, і крыўда мая — не дзіцячая. Ды на зорную столь нада мной я гляджу з нейкай дзіўна-дзіцячай усмешкай. На другой злева зорцы сузор'я Вялікай Мядзведзіцы — мне здаецца — прысеў камар. Бедная зорачка міргае, міргае і ніяк не

можа яго сагнаць... А можа, гэта не камар? Можа, яна падміргвае мне і сябрам, нібы хоча сказаць, што мы напэўна выплывем з шалёнага віру на родны прастор, туды, дзе нас любяць, дзе мы патрэбны будзем, як свае?..

Не міргай, зорачка! Прайшло не толькі маленства,— юнацтва мінула таксама. Яшчэ тры месяцы таму назад мы думал і пра родны край, як юнакі,— там спадзяваліся знайсці сунакой і матчыну ласку, думалі там адпачыць перад новай, сапраўднай і радаснай працай. Ды нашы мары абарваліся. Вораг, якога мы пазналі ў верасні трыццаць дзевятага года, цяпер захацеў адабраць у нас волю і шчасце ўжо назаўсёды, забраўшы радзіму, якую мы любім даўно, хоць ні разу яшчэ не былі ў яе межах. Што ж гэта сталася з нашымі? Так адступаць!.. Як зразумець нам гэта?.. Не міргай, зорачка,— мы ідзём не спакою шукаць. Мы...

Ды што гэта — песня?

Я падняўся і сеў.

Нямецкая песня ўстае за гарой, куды пайшлі адгэтуль шэрагі аўсяных домікаў. Песню співаюць дзяўчаты, якім памагае гармонік.

— Весела сцервам,— праз зубы гаворыць Мікола.

Ён таксама падняўся, сядзіць на снапах. І Калодка спыніўся жаваць. Мы не гаворым больш, думаем кожны сваё.

Гэтую песню мы чулі не раз. Вельмі часта ў ёй паўтараецца слова Эрыка — дзявочае імя. Больш у песні я разумею няшмат. Ды мне хапае таго, што ўжо ад музыкітолькі я ўспамінаю іншую Эрыку — нашу...

...Шкляны завод. Вялікі комін, чорны подых якога здаваўся мне подыхам нашых збалелых грудзей. Вялізныя, чорныя гурбы вугалля. Ад ранку да цямна мы адчуваем яго скрыгатанне пад нашымі лапатамі, чуем грукат яго аб жалеза пустых ваганетак.

А паблізу ад нас сядзіць дзяўчынка. Злажыўшы на каленях руку і ўспёршыся на іх дзіцячым вострым падбародкам, яна глядзіць на нас, не зводзячы вачэй. Так глядзела і ўчора, і пазаўчора... Па некалькі разоў на дзень з-за чорнай горбы вугалля, дзе домікі рабочага пасёлка, чуваць жаночы голас: «Эры-ка-а!» І калі гэты покліч паўторыцца некалькі разоў, дзяўчынка паволі, відаць, неахвотна ўстае і ідзе. Пасля прыходзіць зноў і зноў глядзіць. Нястомна, моўчкі...

Комін, вугалле, ваганеткі — усё засталося далёка на захадзе. Навокал іржышча, домікі бабак. Над намі — ціхі, азораны акіян. Я міжвольна — ад думак пра тую дзяўчынку — падцягваю стомленыя ногі і, паклаўшы на сагнутыя калені рукі, апускаю на іх галаву. А дзяўчынка стаіць у вачах як жывая, як тут. Столькі болю і столькі надзеі ў яе не

па ўзросту сталых вачах. І я чытаю ў іх, як і тады, адно бязмоўнае пытанне: «Ці праўда гэта, што ты — мой найлепшы друг?..»

«Ты мой найлепшы друг!..» Гэтак казаў нам немец Карл, стары рабочы. Разам з ім мы, Мікола і я, разладоўвалі акумулятары без рукавіц і разам з ім апарылі кіслатою рукі. Абураны, Карл крычаў на ўвесь цэх, паказваючы рукі інжынеру. Яны былі знізу мазольныя, зверху — худыя, як рукі нашых бацькоў. А «гер інжэнір», верны слуга сваіх гаспадароў, усміхаўся. «Та-ак,— сказаў ён,—цяпер табе можна, бадай, і рукавіцы выдаць...» І горш за ўсё, што разам з інжынерам смяяліся тады і тры іншыя немцы, падлеткі, якім на гэты раз пашанцавала не апарыць рук. Не смяяліся толькі Мікола і я. Пасля Мікола нават пачаў — больш жэстамі, чым нямецкаю мовай,— тлумачыць юнакам, што ўсё гэта зусім не смешна. А Карл — бязвусы, маўклівы стары ў сініх штоніках, палатаных да апошняй магчымасці, з лустачкай хлеба ў кішэні таксама палатанай курткі,— Карл падышоў да Міколы, падаў яму руку, сказаў: «Ты — мой найлепшы друг!»

У Карла мы і спыталіся потым, чаго так дзіўна глядзіць на нас каторы дзень малая Эрыка. Азірнуўшыся навокал, стары ледзь не шэптам пачаў: «Вам я скажу. Бацька яе, рабочы Віллі Кляйн, быў камуніст. Цэлая група камуністаў была на гэтым заводзе. Пасля іх забралі ў канцлагер, нешта перад вайной. У гэтым коміне быў замураваны архіў. Дзяўчынка ведае, што вы з Расіі, і яна... Але ціха! Давайце працаваць»,— закончыў ён і зноў узяўся за лапату. Мы азірнуліся. Нікога не было, нават фашысцкага ценю,— чаго ён спалохаўся? Карл зразумеў наша здзіўленне, выпрастаўся ад вугалля і, успёршыся на цяжкую лапату, з добрай усмешкай сказаў: «Вораг чуе». Такія плакаты віселі навокал, і так іх вытлумачыў па-свойму чалавек, што ў нас убачыў сяброў...

— Шкада малое,— азваўся раптам Мікола задумана, ціха.

— Вядома,— сказаў я адразу, нібы пра Эрыку не толькі ўспамінаў, а гаварыў уголас. А потым, схамянуўшыся, спытаў: — Каго шкада?

— Каго ж?.. Вярнулася недзе з хлебам, хадзіла па лесе і кукавала. А можа, і плакала... Эх!..

Хвіліну мы маўчым.

І побач з чорнымі вачыма Эрыкі ўстаюць перада мной заплаканыя вочы Ядзі. Замучанае польскае дзіця, з кавалкам хлеба, украдзеным у гаспадара, ходзіць, можа, па лесе, углядаецца ў цемру і ціха кукуе. Цяпер ужо няма для нас сумнення ў тым, што гэта яшчэ ўсё Нямеччына. І дзяўчынку прывезлі сюды, як прывозяць усіх, у няволю. І яна недзе плача, бо родныя людзі, якіх яна не бачыла даўно, па якіх так збалела душа, ашукалі яе. Хацелася так многа ім сказаць, пра

многае спытацца, а яны пайшлі... А можа, не ўдалося ёй украсці хлеба: заўважылі — ці скупая, крыклівая фрау, ці сам пануры, з вялікай, як чайнік, люлькай «гросбаўэр» — прускі кулак. І дзе яна цяпер, што думае, які цяжар нясе на сэрцы?..

— Мне здалося адразу,— сказаў я Міколе,— што ты не пра гэту...

— Усё як усё,— перапыніў мяне Калодка,— а хлеба, хлопцы, больш за ўсё шкада. А то нажэрліся мы гэтай бручкі, як каровы, і ўсё роўна што і не еў чалавек. Як той казаў — абедаў, а жывот не ведаў. А хлеб — усё ж такі хлеб. Каб прынесла...

— Жы-вё-лі-на,— павольна, ціха, але выразна прасіпеў Мікола.

— Ты пра каго? — здзівіўся Калодка.

— Пра цябе.

— Дык гэта я для цябе — жывёліна?

— Ты.

— Дык ты за гэта, кал і хочаш... ты...

Калодка ўстаў.

Наступіла трывожная паўза.

Мікола маўчыць.

І мне здаецца, што нехта нябачны выцягнуў з гранаты кальцо, вялікі палец той самай рукі паволі адпускае скабу, пасля чаго адстукае некалькі самых даўжэйшых секунд — і наступіць развязка...

Калодка гэта зразумеў.

— Хлопчыкі...— ціха сказаў ён.— Ды хлопчыкі, што вы?.. Дык я ж да самага Брэста цярпеціму! Што вы?.. Я проста жартаваў. Я разумею ўсё. У мяне ж ёсць таксама дачушка. Алеся...

У паўцемры, хоць блізка стаім, я невыразна бачу Міколаў твар. Ды ён жа, гэты твар, так добра мне вядомы. З-пад заўсёды прыхмураных чорных брывей цяпер глядзяць на Калодку Міколавы вочы, напэўна, ужо з іскрынкамі добрага смеху.

— Ну, вось бачыш,— гаворыць Мікола.

І я падхопліваю яго пачуццё.

— Ды што ты, Сцёпа,— кажу я,— няўжо ты падумаў: «пакінуць»?! Ты толькі гэтак не ный. І так ногі не служаць, а ты яшчэ павіс на іх...

— А ў цябе ж адны боты пудоў са тры,— у тон мне гаворыць Мікола.

Мы смяёмся. Не толькі Мікола і я.

— Ды няхай бы вы, хлопцы,— рагоча Калодка,— былі здаровенькія, ну вас!..

І мы пайшлі.

На ўсход — на сваю Зараніцу.

*1941-1951*

# МОЙ ЗЯМЛЯК

1

Вясной, як толькі сыходзілі крыгі, амаль кожны дзень можна было бачыць, як ён ідзе на раку ці вяртаецца з ракі дахаты. Вудачкі, вуды, начныя шнуры, венцер, восці, сачок — уся гэтая рыбацкая снасць пушчалася ў ход. Зрэбная торба была заўсёды мокрая і поўная. Калі часам не хапала рыбы — на спод торбы ішла трава, а дробнарыбіца зайздросна прыкрывалася зеленаватымі, лычастымі шчупакамі, паласатымі акунямі, язямі... І заўсёды наверх ганарыста тырчаў хвост найбольшай у той дзень «штукі». Да пояса мокры, цяжкай мядзведжай хадой ён чмакаў па залітым лузе, а следам за ім асцярожна хляпала хітранькая сучка.

— Вудзіць дык вудзіш, а вячэраць хрэн будзеш? — спатыкаў яго нехта з суседзяў.

— Сёння, браце, шчупачка ганяў па лузе, — спакойна адказваў ён. — Ніяк, ліха яму! Трэба будзе яшчэ заўтра падысці. Дваццаць чатыры фунты!

— Ха-ха-ха! — рагатаў сусед. — А ты, брат, і зважыў яго, не злавіўшы?

Верная сучка нездаволена вурчала, як сцянны гадзіннік перад боем, а потым злосна брахала — гаў! гаў!..

— Мушка, цыц! — суцішаў яе гаспадар. Мушка вінавата спушчала мутныя вочы і бахкала мокрым хвастом на яго таксама мокрай зрэбнай калашыне.

А ён зусім спакойна пачынаў пра другое.

Ён ніколі не стараўся ўпэўніць іншых у тым, што кажа праўду. Кожны, хто знаў Паўлюка, ведаў, што дзядзька гэты — манюка.

«Ах ты, Паўлюк, што ж ты маніш!» — сарамацілі ў нашай вёсцы лгуноў.

Аднак Паўлюкова мана была адменнай ад простай маны.

Ніхто не ўмеў так «марозіць». І тады, калі звычайнай балбатнёй пагарджалі, — Паўлюк за сваю бескарысную, мастацкую ману быў вядомы далёка. Былі выпадкі, калі яго ноччу, толькі па голасе, пазнавалі ў пятай — дзесятай вёсцы.

І пэўна: шчупак мог быць і ўсіх толькі дзесяць фунтаў, але, ганяючыся за ім па лузе, залітым ад вясновай паводкі, Паўлюку чамусьці неадчэпна думалася, што «шчупачок» напэўна дваццаць чатыры фунты, таксама як той, што летась увосень папаўся яму на вуду.

Зімой, у душнай накуранай хаце, пры газніцы, мужчыны прасілі:

— Ану, Паўлюк, змарозь што-небудзь яшчэ, бо нешта ўсе, як мокрыя, маўчаць.

— Адамовіч сабачку дастаў, — пачынаў Паўлюк, крыху папраўіўшы калматую, як воз канюшыны, авечую шапку.

Адамовіч — хутаранін, за пятнаццаць кіламетраў ад нашай вёскі, аднак ніхто з мужчын не дзівіцца таму, што Паўлюк знае ўжо і таго «сабачку».

— Хацеў я ў хату зайсці, дык ён, зараза, стаў на парозе, разгірачыўшыся, ды толькі — ур-р-р...

Мужчын пачынае разварушваць: павінен быць сапраўды цікавы «сабачка», калі нават Паўлюка не паслухаў. Бо заўсёды амаль хапала таго, каб Паўлюк пагудзеў яму, пагладзіў па лабаціне, прыцмокнуў — і зноў новы «сабачка» пакорна чыкаў услед мядзведжым лапцям чарадзея. А гэты, бачыш, — ур-р-р...

— А ноччу, — гудзіць далей Паўлюк, — сядзе сярод двара, натапырыцца і слухае. Пасля гэта — чык-чык-чык — хутар вакол абяжыць, праверыць усюды. І зноў сеў. І так, браце, усю ноч. «Эх, — кажа стары Адамовіч, — каб ён тады ў мяне быў, не звялі б цыганы маю Сіўку». Дваццаць восем пудоў зімкі аддаў за яго...

— Ну ж мы і рагаталі! — кажа нехта з мужчын, хочучы спыніць расказчыка на найвышэйшым напружанні маны.

Гэта — словы самога Паўлюка: калі яму часам і самому ўжо стане моташна ад лішне смелай маны, ён папраўляе на вочы шапку і канчае не зусім удалую казку так: «Ну ж мы і рагаталі».

Мужчыны смяюцца, а Паўлюк сабе толькі маўчыць, хоць бы што. Праўда, дваццаць восем пудоў азімай пшаніцы — гэта амаль каровіна цана, аднак цяжка іначай акрэсліць незвычайную вартасць «сабачкі». Сам Паўлюк, каб і меў тых дваццаць восем пудоў, можа, і не даў бы іх за сабаку, аднак свае два-тры, а то і ўвесь пяток сабачак ён харчуе зімой аўсяным цестам, спаборнічаючы са сваёй Гануляй, якая корміць тады парсюка.

— Цікава толькі, — казаў нехта з мужчын, — як таго сабачку не заб'юць.

Дзядзька Васіль, дзюбаносы, як галка, і з такімі ж, як у галкі, жывенькімі, хітрымі вочкамі, уперад заходзіцца ціхім нутраным смехам, а потым кажа:

— У яго там пасярод двара замест буды тая самая конская печань ляжыць, дык ён пад печань — хоп! І ўсё.

Узнімаецца рогат.

І сам Паўлюк, папраўляючы шапку, спачатку ўхмыляецца, а потым — хэ-хэ-хэ — смяецца здаравеннымі грудзьмі.

А справа з печанню заключалася ў тым, што ў Румыніі, бачыце, ды ў тым палку царскай артылерыі, дзе Паўлюк служыў у сусветную вайну чубатым, галасістым бамбардзірам, былі зусім незвычайныя жарабцы. Калі аднойчы Паўлюковага «жарэбчыка» парвала снарадам, Паўлюк ад наступнага снарада надзейна схаваўся пад ягонай печанню. Пабіла пасля амаль усіх жарэбчыкаў у батарэі, і прыйшлося папаўняць яе румынскімі конямі. Румынскі конь — «як сабачка», а расейскі хамут, прынамсі, у той батарэі, такі, што Паўлюк праходзіў у яго, прыгнуўшыся не больш, як у дзвярах свае хаты. Навялі румынскіх канюкоў, думалі, думалі, што рабіць, а потым гэта — па два ў хамут, па два ў хамут!..

* * *

Сабак Паўлюк мяняў не горш, як цыган коней. Кожны чарговы сабачка, трапіўшы да яго, перш за ўсё пазбываўся роднага імені і хутка звыкаўся з тым, што ён ужо не Курта, а Жэўжык ці Жук. Калі ён, высалапіўшы язык, цяхкаў услед за зайцам і не даганяў яго, тады пазбываўся хваста і іншых, лішніх на погляд гаспадара, дробязей. Калі ж і пасля такой палёгкі яму не ўдавалася накрыць «зайчыка», — ён некуды знікаў, а на месца яго неўзабаве паступаў іншы. Варта было навічку быць цікавым і шустрым, — і Паўлюк, ведучы яго дахаты, не тузаў, крый бог, за аборачку, а ўслед за цюцькам цяжка цёпкаў подбегам. Сучкі знікалі тады, калі яны не давалі пажаданага прыплоду. Затое ўдалы вывадак акружаўся проста-такі бацькоўскім клопатам. Сука ела цеста, а цёпленькія, з прэсным пахам, смактуны — малако, на роўных правах з Паўлюковымі дзецьмі. Крывалапы пузачык хлябтаў, а здаравенны Паўлюк кленчыў ці станавіўся ззаду яго ракам і тузаў цюціка за хвост. Давячыся малаком, шчанюк цяўкаў, і, на першыя адзнакі злосці, Паўлюк смяяўся, як малы. Цюцькі вучыліся хапаць за калошы, брахаць на чужых, не чапаць курэй, а ганяцца за свіннямі, станавіцца дыбка, даваць лапу, казыраць да адвіслага вуха і іншае рабіць, не менш патрэбнае. Адзін ці два выдатнікі гэтай вучобы пакідаліся сабе, а рэшта спушчалася ў людзі. Каля плота была вялікая сямейная буда. Калі не сука з сям'ёй, дык проста дзяжурны сабачка званіў кальцом ланцуга на дроце ўздоўж двара. Побач з будой Паўлюк гаспадарліва падсцілаў салому. Вясной ён выклікаў сваю Ганну з-за красён на двор і, паказаўшы на ладны вазок гною, хітра пасміхаючыся, казаў: «А што, глядзі!» Таксама як кожны ўпаляваны зайчык, гэты воз павінен быў давесці, што Паўлюк недарма марнуе на сабак аўсяную муку і высеўкі. Ганна злосна плявала, а ён, дабрадушна пасміхаючыся, вёз гэты новы

гатунак угнаення на свой вузкі, гарбаты загон. Услед за ім фанабэрыста, пераможна задраўшы хвасты, беглі адзін-два сабачкі.

...Аднойчы летнім вечарам, калі ад цёплай ракі паднімаецца пара, мы цягалі з ім сетку, удвух. Ціха заходзілі, ціха тапталі нагамі, падводзячы сетку да берага. Пасля паднімалі яе на сябе, адцэджваючы спалоханых са сну плотак, заграбалі іх у мокрыя торбы на шыях і задаволена, смачна пакрэхвалі. Найбольшай удачай таго вечара быў вялікі, быццам знарок для нас адкормлены, язюк. Ён толькі што ўшыўся тупым рылам у аер і салодка задрамаў, а тут мы яго зачэрпалі! Паўлюк прагна ашчарэпіў яго ўчэпістымі лапамі і шчасліва смяяўся: «А-та-та!..» Увесь час рыбалкі я любаваўся на тое, як з паднятай сеткі гэтаксама, як з вады, струменілася пара, як вочкі сеткі зацягваліся плеўкай, а потым плеўка лопала, і, услед за дзесяткамі іншых кропель, у ваду ападала яшчэ адна кропелька. Гледзячы на Паўлюка, асабліва калі ён задаволена, быццам ужо смакуючы яго, рагатаў над язюком: «Эх, браце, а мы ж цябе ажэнім з паўлітроўкай!» — мне думалася грэшнай справай, што дзядзька далёкі ад маіх пачуццяў бескарыснага захаплення. Аднак ён раптам, ды ў самую адказную хвіліну, калі трэба было заходзіць-заганяць ад берага, спыніўся, заціх, загледзеўся, а потым сказаў:

— Паглядзі, засынае!..

І праўда, рака засынала.

...Вясной трыццаць восьмага года панскія паліцыянты прынеслі ў нашу вёску яшчэ адзін новы загад: звясці ўсіх галубоў. Таму што ў нас, бачыце, «прыгранічная паласа». Паўлюк, вядома, не паслухаў загаду, — і раз, і другі раз. І толькі пасля таго, як яго аштрафавалі і Ганна пачала з ім няшчадную барацьбу за знішчэнне галубоў, — Паўлюк злавіў тры апошнія пары вертуноў, каб завезці іх да сябра ў далёкую вёску, туды, дзе канчалася «прыгранічная паласа». Аднак ён не здолеў зрабіць гэтага. У вёсцы яшчэ развязаў і зняў хустку, якой быў абвязаны кошык. Чубатыя, пярэстыя прыгажуны, паблісківаючы сінню і чырванню сваіх латаў, асэпленыя сонцам, збянтэжана застылі.

— Перад ліхім канцом вар'яцеюць, крукі!

Гэта Паўлюк — пра паліцыю.

Стары голуб-павадыр падняўся першы. Ён патаптаўся кашлатымі і чырвонымі, быццам з морквы, ножкамі, скокнуў на край кошыка, залопаў крыллямі і ўзняўся. За ім узнялася ўся сям'я. Пакуль яны радасна кружылі пад пярэстым ад хмарак блакітам, Паўлюк, загледзеўшыся ўгару, гудзеў:

— Скулу вам, паночкі, не аддам!

Гэтак вось скупа і рэдка выказваў ён свае пачуцці да прыроды.

І толькі раз мне давядося пачуць, як ён іх абараняў.

Нехта з маладых, асабліва старанных гаспадарыкаў упікнуў Паўлюка тым, што ён замест парсюка корміць цестам сабак.

— Сюды-туды і сем пудоў! — усхваляваны загудзеў Паўлюк. — І сем пудоў, і капейка, і скварка на лета!.. А ці ведаеш ты, што такое любоў, хараство? То ж кветачка цвіце, і то... Ды што табе!.. Свінтух сем год не стрыжаны...

Гэта было міжвольнае прызнанне, ужытае ў парадку самаабароны.

* * *

Толькі паэзія цяжкай гаспадарскай працы была яму, бадай, зусім чужой.

Вось ён вяртаецца з поля, з сярпом ці з касою. Уперадзе, быццам на разведку, бяжыць сабачка, абнюхваючы кожны кусцік шчавука ці асоту і на кожны з іх паднімаючы нагу. За ім кабыла Мышатка з танканогім жарабём лянiва члапае па сівым, пытляваным пыле палявой дарогі. Яна наелася за дзень, а ўсё ж час ад часу хапае сівыя мяцёлкі аўса і на вокрык Паўлюка, а то і сама, вінавата трухціць наперад. Другі сабачка, больш любімы ў той час, ідзе збоку, аціраючыся аб калошу Паўлюковых портак. Спераду, на грудзях Паўлюка, звоніць жмут іржавага ланцуга і матляецца шпень: на ланцугу Паўлюк вядзе цялушку. Шырока расставіўшы вушы, цялушка то дэбае спакойна, то раптам трухціць, каб чамусьці панюхаць сабачку або тузануць за бараду адзін з тых трох снапоў аўса, што на спіне гаспадара. Побач з цялушкай, на вяроўцы, ідзе каза. Ззаду — гуллівы козлік, яшчэ безбароды, з маленькімі гузамі рожак, але таксама, як матка, задзёршы хвосцік.

— Здароў, Рабінзон! — спаткаеш яго, як заўсёды з усмешкай.

— Ячмень, браце, жаў. Цэлы дзень! Ажно ў вачах жоўта.

Разыдзешся з ім, яшчэ і яшчэ раз засмяешся, а потым толькі належна раскусіш, колькі бязлітаснай спёкі, ныцця ў паясніцы і лайдацкай пакуты ўложана ў гэтыя словы.

Таксама, як жоўта ў вачах ад ячменю, зялёна бывала ад касы, шэра ад плуга. «Каб рабіць было добра, дык і воўк рабіў бы», — жартам апраўдваўся Паўлюк.

Аднак трэба сказаць, што пры ўсім гэтым ён жыў ніштавата.

Бадай за цэлых два работнікі трапяталася Ганна.

Сам жа ён прырабляў вартаваннем, быў, як гаворраць у нас, паплаўнічым.

За вёскай, абапал ракі, да самай пушчы стэпам ляжалі панскія і

сялянскі лугі. Вартаваў іх Паўлюк. Вясной над ракою ўставала калматая лазовая буда. Тут паплаўнічы жыў да апошняй атавы. У поўдзень сабачкі ў будцы, ахоўваючы сон гаспадара, злосна бурчалі праз солад дрымоты ці члапалі на дакучлівых мух і аваднёў. А ноччу яны рабілі з Паўлюком абход ці аб'езд на Мышатцы сваіх неабсяжных уладанняў, — шукалі зладзеяў-начлежнікаў. Мышатка шчасліва выпасвалася на мурожным прыволлі, тут і жарабілася, і неўзабаве вакол яе, непакоячы кветкі, з кволым іржаннем гайсаў новы жарабок ці жаробачка. Вечары і раніцы Паўлюк праседжваў над адвоямі, узброены рознакаліберным вудамі, цярпеннем і вопытам лепшага ў ваколіцы рыбака. І ў сорак — сорак пяць гадоў ён, — паўнакроўны, вясёлы мядзведзь, — ніяк не мог выжыць прывычак сваёй разгульнай маладосці. Былі ночы, калі ён пакідаў сабак і Мышатку адных і плёўся лугамі ў суседнія вёскі па мёд з чужых вулляў... Бывала і так, што гэты мёд — маладзіца ці ўдоўка — сам прыходзіў да мядзведзя пад духмяную засень яго вялай лазовай бярлогі. Здаравенныя боты яшчэ надзіва добра выбівалі чачотачку, а вечарамі, у вясковых хорах, голас яго верхаводзіў па-ранейшаму. Зімой, аб'ехаўшы навакольныя маёнткі і вёскі, Мышатка горда цягнула дахаты мяхі збожжа — плату за вартаванне.

У вартаванні гэтым быў толькі адзін за лета цяжкаваты тыдзень. Перад касавіцай трэба было палажыць на рацэ сезонны мост. Ды і тут Паўлюк уладжваў справу па-свойму. Памагаць яму прыходзіў цесць, яго вечны памочнік, быццам даўжнік, пакутнік за нейкія грахі. Ад берага да берага снавала чайка. Гупала шляга, заганяючы палі. З-пад сякеры на ціхую ваду ападалі сухія яловыя трэскі. І, мусіць, гледзячы на тое, як іх адразу кружыла на месцы, а потым нясло за вадой, у галаве Паўлюка складалася новая казка.

— Ты бачыў шапку ў майго цесця? — гудзеў ён, дачакаўшыся каго-небудзь.- Царская, браце, круглая, як рэшата. Дваццаць гадоў, як Мікалая скінулі, а цесць гэту шапку ніяк не даносіць. Зацягалі мы бэльку на мост. І як ён пакаўзнуўся — ба-бах у ваду. Бэлька, браце, за ім! Шчасце яшчэ, што паспеў схавацца пад ваду: як гапнула, толькі вада слупам! Бэлька выплыла і адплылася, а цесця — няма... Толькі бурбалкі са дна — буль-буль... А потым шапка — выплывае!.. Выплыла, закружылася на месцы, а тады ўжо сам цесць — вылазіць з-пад вады. І адразу ў злосць. «Чаго ты, — кажу, — на мяне, ці ж я цябе папіхаў?..»

Спаважны, ціхі мужчынка — цесць — яшчэ лёгка ступаў па зямлі худымі босымі нагамі, а ўслед за ім пайшла па вёсцы новая казка зяця, — хоць бяры тую «царскую» шапку нарэшце скідай!

2

З усіх Паўлюковых сабак найлепш я памятаю двух. Адзін быў звычайны гаспадарскі Цюлік. Другі ж быў гончы, хорт, якога Паўлюк горда зваў Ваўкадавам.

Перад летам, як толькі на нашым балоце вывадкі дзікіх качак абрасталі першым пер'ем, Цюлік паказваў свае паляўнічыя здольнасці. Маладыя качкі лятаць яшчэ не маглі. Яны прабіраліся па куп'і, аеры ці асацэ — пехатой, а вадою, вядома, уплаў. Паўлюк заставаўся на грудзе ці брыў следам за Цюлікам так далёка ззаду, каб не перашкаджаць яму. Старыя качкі ўзляталі, а сыты, цяжкі падлётак застываў, прытаіўшыся ў асацэ ці між куп'я, пакуль не трапляўся на нюх Цюліку. Сабачка далікатна паднімаў яго за крылы, паказваючы здобыч гаспадару. Калі ж больш рухавы падлётак з крыкам кідаўся ўцякаць — плысці подлетам па балотнай вадзе, разганяючы раску, — Цюлік абурана кідаўся за ім і даганяў. Дахаты Паўлюк вяртаўся абвешаны жывымі качкамі і горда казаў сваёй Ганне:

— А што, глядзі!

Ваўкадаў вечна снаваў следам за Паўлюком, маркотна апусціўшы да зямлі вострую мызачку.

— Жалезная! — горда казаў Паўлюк пра гэтую мызу. — Як абцугамі бярэ! А ногі, браце, зірні!..

І праўда: абы толькі зайчык папаўся на вочы, Ваўкадаў, распасцёршыся ў пагон, заўсёды насцігаў яго, і на заячую спінку ці гарляк хапала таго, каб ён раз толькі цапнуў зубамі. Хуткасць доўгіх ног і моц «жалезнай» мызы Ваўкадаў найлепш паказаў Паўлюку, злавіўшы за адзін год два лісы, што было, дарэчы кажучы, сурова забаронена для такіх, як Паўлюк.

Аднак ні Цюлік, ні Ваўкадаў не прабылі ў яго лішне доўга. Паўлюк быў верны сваёй натуры: Цюліка ён змяняў, здаецца, на Ваўкадава, а Ваўкадава адступіў пану за іншага сабачку і за некалькі пнёў лесу на новую хату ў прыдачу.

З ліку «сабачак», якія перайшлі цераз Паўлюковы рукі, толькі гэтыя два ў нейкай меры замянілі яму адсутнасць правай рукі паляўнічага — стрэльбы. Праз доўгія дваццаць год панавання пілсудчыкаў Паўлюк мог толькі марыць пра яе.

Незабыўны верасень трыццаць дзевятага года зрабіў яго нарэшце сапраўдным паляўнічым.

* * *

Пачалася жоўтая восень.

Пад ботамі прыемна шуршала залатое лісцё маладога бярэзніку, сяды-тады патрэскваў сучок, а спакойны мядзведжы голас гудзеў:

— Сустрэў мяне Царучок (сапраўднае прозвішча ляснога хутараніна Царук, але ў Паўлюка ён «Царучок» — таксама, як ваўчок, сабачка, зайчык), — дай, кажа, браце, раду, — усю бульбу перарылі! Ну што ж, я ламаначку ўзяў і пайшоў. Засеў, чакаю. Нешта так і не доўга чакаў. Чую — чухаюць сцежкай адзін за адным. Прымергаваўся я, бачу — ідуць. Першы, браце, здаровы лабач, унурыўся, чэша, а ўслед за ім яшчэ з восем. Задні шляхціц дык зусім яшчэ кныручок. Важак, мусіць, пачуў мяне, ліха яму, бо — гоп! ды — гу-у!..

«Ламаначка» ў Паўлюка за плячыма. Ён раптам спыняецца, разгірачыўшы здаравенныя боты, а рукі настаўляе на падабенства вушэй вепрука.

— Я гэта, браце, яму калі ткнуў! Ён на дыбы ды ўголас! А заднія як чмыхануць! Гэты за імі з гарачкі здорава часаў. Я з сабачкамі ўслед. Каб ты выдах! — толькі досвіткам знайшлі мы яго ў гушчары, у ламаччы. Яшчэ цёпленькі. Кашкануў я яго нагой, дык ён: гу-у! як праз сон. Зарадзіў я ламаначку, яшчэ раз цюкнуў яму, так ён душой і загавеў. «Ну, а цяпер што?» — кажу я на Мурзу. Круціць, падла, хвастом. Думаў я, думаў, мергаваўся, мергаваўся — ніяк. Гляджу — пачаў вепручок пруцянець. Стой жа, — думаю я, — ты сам мне паможаш. Прыўзняў яго за хіб, паставіў і трымаю. Сабачка — аж канчаецца! — то за вуха яго, то за нагу! Пшоў вон! — пусціў я адну руку, замахнуўся. Гляджу — стаіць вепручок, сам стаіць! Пусціў я другую руку, а сам гэта тыц пад яго з галавой. А гэты, ліха яму, за сцягняк яго ззаду — як хваціць. Вепручок так і сеў мне на карак. Свету белага, браце, не бачу, — мызаю ў мох, — ну, думаю, дайшоў Паўлюк. Як узяла мяне злосць, як уляпіўся я за зямлю, як упяўся, — устаў! Цяпер як жа ламанку падняць? «Падай, — кажу, — сукін сын!» Махае, падла, хвастом, падвільвае. Прыгнуўся я, падняў ламаначку, паналок... Аж у вачах, браце, цёмна! Ледзь далез да Царучка. Зваліў, давай будзіць... Дванаццаць, браце, пудоў!..

Мне карціць памагчы Паўлюку кончыць лішне багатую казку вядомым спосабам: «Ну ж мы і рагаталі!», — але я маўчаў. Як не маўчаць! — гэта ж сёння, нарэшце, ён узяў мяне з сабой на вепручкоў. За плячыма ў мяне другая ламаначка, з якой я хутка пальну. Ламаначка таксама Паўлюкова.

І вось мы сядзім у засадзе. На лузе яшчэ дзень, а ў гушчары сутуняецца. Падкурчаныя ногі ныюць, ды я баюся правіць іх, каб не спудзіць дзічыну, якая вось-вось... Першы стрэл — Паўлюкоў, бо на яго, ён кажа, пойдзе вепручок. Калі Паўлюковага стрэлу не хопіць — я

павінен «цюкнуць» яшчэ раз. Калі ж ён сядзе адразу — я павінен біць па другім. Разам з Паўлюком за пнём прытаіўся Мурза, вось-вось гатовы скочыць на любога вепручка.

Хвіліны цягнуцца, цягнуцца, ныюць... І раптам — ёсць! Зусім недалёка пачулася «чуханне», затым з-за альховай падсады, за некалькі крокаў ад мяне, паказалася страшэнная лабаціна. Першае, што я паспеў падумаць, было тое, што лабаціна і клыкі — на мяне! Тады я нацэліўся, зажмурыўся і пальнуў!..

Я спадзяваўся на візг і на Паўлюкоў стрэл, аднак... пачуў толькі адчайны брэх Мурзы, які пусціўся ўдагон за дзічынай, і... самы цвёрды, адборны мат...

— Пудоў пятнаццаць штука!.. Цьфу, смаркач!.. Цяпер дагані, пацалуйся!..

...Цямнее. У твар цярушыць стрэчны дожджык. Есці хочацца — падцягнула духі. А на сэрцы зусім такі нясмачна ад няўдачы.

— Таксама вось, як толькі Пілсудскі зайшоў, — гудзе побач Паўлюк, — адбываў я рэзерву ў Пружанах. Канаводам быў у паручніка. Паедзем тыя разы на дзікоў. Што ж, пасядуць паночкі за пнямі ды толькі пах-пах! пах-пах!.. І ўсё на вецер! «Каб вам, — кажу, — ручкі паадсыхалі!» А мне страляць не даюць. Карабіначка, браце, як цацка, французская. Не стрываў я аднойчы: як цяў, дык ён толькі: «Пі!» — і асеў. «Усё роўна, — кажу, — пане паручнік, ён на вас не пайшоў, а мне было вельмі ж з рукі». У пана, браце, рука гуляшчая, пшанічная, — калі зачэрпаў мне па вастрыі — толкі зоры ў вачах захадзілі... Заліўся я юхаю, плюнуў, карабінку аб зямлю! «Каб ты, — кажу, — разам з ім упруцянеў!..»

Я смяюся, ды неяк не зусім. Так і хіліць цікнуць на мядзведжую, жытнюю лапу майго настаўніка. А «вастрыё» ў мяне было тады яшчэ зусім-такі маладое, далікатнае...

Аднак гэта былі толькі словы, якія мусілі акрэсліць горыч ашуканага чакання. З гадзіну пасля гэтага тая самая лапа гасцінна налівала мне «Маскоўскай», падсоўвала хлеб і скаварodку з гарачай смажанінай — паласатым, праслоеным салам з «дванаццаціпудовага» вепрука.

3

Наступны раз частаваў паляваннем я. Было гэта ажно тры гады пасля, увосень сорак трэцяга.

У той час мяне ўжо лічылі нядрэнным камандзірам падрыўной групы. І вось захацелася Паўлюку пайсці са мной на двухногіх ваўкоў.

Браць дзядзьку на адзін падрыў, на два-тры дні, камандзір атрада

не дазволіў. Паўлюк быў добрым сувязным, работнікам больш патрэбным пакуль што на месцы, чым у атрадзе, і рызыкаваць яго непадазронасцю дзеля ягонай цікавасці толькі — справа зусім несур'ёзная. Аднак Паўлюк не адставаў.

Нарэшце, нібы выкарыстоўваючы апошні доказ, ён упікнуў мяне даўнейшым доўгам. І праўда, за мной быў ладны даўжок — скрынка патронаў, наган і сёе-тое больш.

Яшчэ ў першыя, змрочныя дні адступлення, калі мы, мясцовая моладзь, апушчалі ў сажалкі і рачныя віры старанна спавітыя кулямёты, вінтоўкі, наганы, — не драмаў і Паўлюк: ён зняў з пакінутай машыны «скрыначку» патронаў і закапаў яе на полі, пра запас.

Што больш — я не ведаў, бо толькі гэта зусім выпадкова прыкмеціў.

Дрэнна, не па-суседску зрабіў я, не пайшоўшы з атрада па гэтую «скрыначку» сам, а паслаўшы сяброў па групе. Быў у нас такі Міхась, што вельмі любіў адводзіць убок ды шаптаць на вуха. Адвёў ён мядзведзя за вугал і шэпча: «У вас, дзядзька, вось так ды гэтак, нам Мікола казаў...» Міколу, вядома, прыдумаў. «А ліха яму, — загудзеў Паўлюк, — такі не змаўчаў! То ж мы з ім разам закопвалі. Я, дурань, адну толькі вінтовачку і ўзяў, а ён жа, хлопцы, кулямётаў, патронаў, гранат!» — «Які Мікола, дзядзька, скажыце...» — натапырыўся Міхась. «Як які? То ж ты кажаш, што вы ад яго!» Што зробіш, прыйшлося хлопцам адказацца ад Міколы. Калі ж Паўлюк дастаў з-пад застрэшша новую «вінтовачку», — ім прыйшлося паверыць яму і падумаць, што я салгаў. Наступны раз паслалі самога мяне. Перш-наперш я, вядома, прызнаўся. «Вось з гэтага трэ было і пачаць, — гудзеў Паўлюк, — а то скалацілі мне, жэўжыкі, ноч. Ну, пайшлі!» Узялі «рыдлёвачку», пайшлі. «А ты, браце, таксама вуж, — гудзеў Паўлюк, ідучы, — і як ты прыкмеціў тады?» Адкапалі мы «скрыначку» — цяжкая. Прыйшлося запрэгчы Мышатку. Другім разам я пачаў адразу з ласкі і атрымаў зусім новы «наганчык», старанна ўквэцаны і спавіты бадай што цэлымі порткамі. Трэцім разам я атрымаў тры гранаты і «жменьку» наганных патронаў. Затым было яшчэ разоў са два «па жменьцы», пакуль Паўлюк не сказаў: «Закрываецца крамка, няма, браце, усё».

Пра гэты вось «даўжок» ён і напомніў мне, зноў просячыся на «жалезку».

— Мне, браце, толькі зірнуць, як ён стане на дыбы!.. — сціпла тлумачыў Паўлюк.

І што ж, прыйшлося нарэшце ўзяць.

— Падумаеш, — параіліся мы, — ходзіць жа дзядзька і так, па заданню, ці проста валочыцца цэлымі днямі. Так ужо канча будзе некаму падумаць, што ён з намі пайшоў. Толькі, хлопцы, каб адна наша група ведала — больш ніхто.

Паўлюк чакаў за вёскай, на ўмоўленым месцы. Калі ён выйшаў на свіст з-за куста, на ім мы ўбачылі... вінтоўку-«дзесятачку», наган, за «ласяком»[1] — гранату.

— Э, брат, дык ты маніў, што нічога сабе не пакінуў!

— Што ж, — загудзеў ён у адказ, — без снасці, браце, і вошы не заб'еш.

У дарозе, вылучыўшы момант, калі мы з ім засталіся ззаду, Паўлюк таямніча шапнуў:

— Семачак хочаш?

Я зразумеў справу проста.

— Давай паплюемся, — сказаў я. Наставіў кішэню, і ён мне ўсыпаў... гарцавую «жменьку» наганных «патрончыкаў».

— Зойдзеш калі, яшчэ, можа, знойдуцца шчопці-другія, — шчасліва гудзеў ён у цемры.

Днявалі мы на хутары. Наступная ночка падтасавалася якраз для нашага промысла — цёмная, з дожджыкам. У Засуллі мы ўзялі праваднікам Ігната, сувязнога.

— Паўлюк, ці не ты? — прыгледзеўся ў цемры дзядзька Ігнат, калі я вывеў яго на загуменне.

— Я, браце, як маешся?

— Што ж вы, — здзівіліся мы, — знаёмыя, за трыццаць вёрст?

— Мой Цюлік быў адгэтуль... Той, што качкі лавіў. Не забыўся?

...Лёня, Косця і Кныш засталіся ў засадзе. Дзядзька Ігнат, я і Паўлюк падаліся на справу ўтрох. Крокаў больш сотні ад рэек, дакуль быў высечан фашыстамі лес, за прыгоркамі між карчоў мы прыселі, параіліся. Дзядзьку Ігнату я даручыў канец шнура, строга наказаўшы не дакранацца да яго, а самі з Паўлюком папаўзлі. Паўзучы, я разматваў шнур. Час ад часу мы спыняліся, каб прыслухацца: ці не шаркаюць па жвіры, усцяж рэек, падкаваныя боты патруля... А потым паўзлі далей. Спачатку — быў грудок, і пад намі шуршала мокрая ад дажджу шорсткая лясная трава.

Пасля, у лагчынцы каля насыпу, намоклі калені і локці. Пасля мы выпаўзлі на насып. Паўлюк са сваёй «дзесятачкай» урачыста ўталопіўся ў цемру, у той бок, адкуль мы чакалі патруля...

Гэта быў мой шосты падрыў. Дагэтуль рукі прызвычаіліся амаль

[1] Рэмень з ласінай скуры.

зусім не дрыжаць ад хвалявання, — я працаваў хутка і спраўна. Выграб ямку пад рэйкай, паміж шпаламі, уставіў тол, тады — найбольш адказная работа, — сабраўшы ўсю асцярожнасць, прывязаў да кручка шнурок і капсуль заправіў у зарад. Мы адпаўзлі, абмінаючы наш папярэдні шлях, каб не крануць як-колечы шнурок.

Чакаць прыйшлося не вельмі доўга.

— І раздабрыўся ж, трасца яму, як на злосць! Ушчэнт раскіснем, — нездаволена мармытаў Паўлюк на дождж. — А той не ідзе, не грукоча, каб ён галавой налажыў!

Я быў у творчым, шчаслівым настроі — трохі ўстрывожаным, трохі гуллівым.

— І наложыць, ты думаеш — не? — шапнуў я ў адказ.

Памаўчалі. А дожджык, і праўда, так і паўзе за каўнер. Крышку правей ад міны, адпаўзаючы, я прыкмеціў велікаваты кусцік. Гэта мой арыенцір. На фоне цёмна-шэрага неба над насыпам ледзь вызначаецца яго сілуэт. Я не зводжу з яго вачэй.

— Як паглядзіш на ўсё, што вырабляюць чэрці, — гудзе, пачакаўшы, Паўлюк, — дык хоць і сёння з вамі ў лес пайшоў бы... І прыйдзецца, мусіць...

— Не ўсім, брат, з намі быць, пачакай, — шапчу я. — Дзядзька Ігнат і ў хаце сядзіць, ля дзяцей, а мы без яго як без рук. А пра сябе — ты ведаеш сам...

Я ўспамінаю пра днёўкі ў Паўлюковым гумне і тое, як нядаўна наш Міхась-шаптун, ранены ў нагу, два месяцы адлежваў на гары Паўлюковай хаты, і пра іншыя «сувязныя» справы майго земляка... І да болю ў вачах пазіраю на куст... Пасля мне раптам робіцца чамусьці вельмі весела.

— Дзядзька, — шапчу я Ігнату, які нахохліўся ад дажджу, — а ці ведаеш ты, навошта тол патрэбен у мірны час?..

— На каросту, — за дзядзьку адказвае Паўлюк.

Зноў цішыня, чаканне. Паўлюк выкарыстоўвае іх на складанне новай казкі — пра тол.

— Пярэськава Тэкля жаліцца мне аднойчы, — пачынае ён, пачакаўшы, — «азадак, Паўлючок, хоць таркаю дзяры...».

— Стой, ідзе, — асякаю я казку.

Застыглі.

— І праўда, — шэпча Ігнат, — ідзе...

Сэрца маё грукаецца бадай што мацней, як цягнік, гэтак ціха ён сунуўся. Быццам на мушку вінтоўкі, я ўзяў яго на куст... Перад сабой паравоз папіхае пустую платформу. Фашыст прывык закрывацца другімі. А мы на гэтую «хітрасць» — вяровачку. Вось... платформа...

закрыла... мой куст... вось... паравоз...

— Тузай! -ледзь не падскочыў я.

Так, тады было цёмна, усё разбілася ўмомант, — а ўсё ж і дагэтуль стаіць у вачах тая прагная страсць, з якой Паўлюк тузануў за вяровачку.

4

Не адной тысячай мокрых ножак па страсе адрыны тупаціць дождж. Соладка, парна пахне цёплая атава, на якой я ляжу, пазіраючы ўверх, на запыленае павуцінне пад лацінамі. Вакол, як хто паспеў паваліцца, спяць нашы хлопцы. Я ж толькі прыкідваюся, што сплю: я слухаю. На ўскраі тарпа сядзіць Паўлюк. Ён бае новую казку дзядзьку-хутараніну, у якога мы спыніліся перадняваць.

— Нарабілі, браце, мяса, — гудзе яго прыцішаны голас. — Падлажылі мы гэтую самую цацку пад рэйку і ляжым. А цёмна — хоць ты на ваўка ўссядзь. Чуем пасля — ідзе. Крадзецца, браце, на пальчыках, босы, баючыся ступіць на шкло. Навучылі паршыўца хадзіць! А тут жа яму пад чэрава як гапне!.. Перакуліўся на спіну, і толькі колы, як жывыя, як лапкамі перабірае, круцяцца... А вагоны цераз галаву, цераз галаву, поныр'ю!.. Падняўся вэрхал, піск — якраз, як гэта пацукоў недзе ў скрыні напрэш...

Ён змаўкае на момант, а потым канчае:

— Сотні дзве наглушылі!..

Я маўчу і думаю:

«Дык вось яна — казка і пра нас. Ды якая тут казка! Гэта — наша партызанская сапраўднасць, абагуленая мастаком. Яна ў нас — як казка, толькі добра расказвай. Нічога, калі заўтра ці пазаўтра ў сённяшні Паўлюкоў расказ паступіць папраўка: наш сувязны, магчыма, данясе ў атрад, што гэтым разам мы пусцілі пад адкос эшалон толькі, скажам, з вугаллем ці з нейкім ломам! Мінулы раз у мяне былі цыстэрны з гаручым — дванаццаць цыстэрн! — а ў Юзіка — «жывая сіла». Чаго ж не было яшчэ ў мяне ці ў яго, тое напэўна будзе. У іншых жа бывае! А Паўлюк — ён па-свойму выказвае нашы жаданні, нашу нянавісць да захопніка, — чым больш набіта будзе «пацукоў», тым лепш...».

— Будзі, братка, — шэпча гаспадар, — а то і гарох астыне...

Адпырхваючыся, праціраючы вочы, мы садзімся на атаве, вакол бяздоннага гаршка гарохавай кашы, лустаў хлеба, салёных гуркоў.

— За вашыя, хлопчыкі, і ручкі, і ножкі, і ўсё... Каб мы, Бог мілы даў, ды прычакалі... — пачынае дзядзька, дастаючы з-пад палы заткнутую лапінкай бутэльку.

У шклянку прыемна забулькаў пяршак.

* * *

— Дык што, Снапок, мабілізацыяй заняўся, га?..

Іван Кузьміч, з неразлучнай люлькай у зубах, глядзіць на мяне, мнагазначна прыплюшчыўшы вока. А мне — не прыдумаеш проста, як тут выкручвацца.

Ноччу, калі мы праходзілі паўз нашу, маю з Паўлюком, вёску, я сказаў:

— Ну што ж, ідзі ўжо хіба, Паўлюк.

А ён са шчырым здзіўленнем спытаўся:

— Куды?

— Як куды? — у сваю чаргу здзівіўся я. — Дахаты!

— Дахаты? А што яна, у поле збяжыць? Зойдзем за тыднік-другі...

І як тут давесці цяпер камандзіру, што я не хацеў самавольна пераводзіць Паўлюка з сувязнога ў падрыўнікі, што я хацеў толькі сплаціць яму наш доўг, што Паўлюк гэтым падрывам назаўсёды ўрос у маю групу, а з групай — прырос да атрада?

Аднак я тлумачу:

— Таварыш камандзір...

— Я ведаю, што я — «таварыш камандзір», — перабівае Іван Кузьміч, — вось ты дык, відаць, забыўся пра гэта. Самавольства, язві яго душу!..

Іван Кузьміч — з-за лініі фронту, партызан грамадзянскай вайны, сібірак, з неразлучным алтайскім нажом і «язві яго душу». Звыш усіх яго камандзірскіх і чалавечых якасцей, ён — аматар дысцыпліны і знаўца бадай што ўсіх гатункаў табаку.

Я не куру. Для мяне што мультан, што не мультан — адзін чорт. А дысцыпліну я люблю таксама. А потым у мяне адна такая звычка ёсць, што я люблю да сэрца лезці напраскі. І заўсёды амаль удаецца. Дык вось і цяпер я таксама рвануў:

— Іван Кузыміч, дык вы б хоць зірнулі на яго спачатку. Дальбог, падзякуеце!..

Іван Кузьміч спачатку маўчыць, а потым ледзь прыкметна ўсміхаецца і кажа:

— Ну што ж, давай яго, тваё дзіва, сюды.

Па дарозе ад сталярні, дзе я знайшоў Паўлюка, да камандзірскай зямлянкі я тлумачыў яму, як трымацца, каб адразу прыйсці даспадобы майму начальству. І вось Паўлюк стаіць перад Іванам Кузьмічом «смірна». Ботам унізе прасторна, і яны, па старой артылерыйскай памяці, зусім прыстойна вытрымліваюць статут. Затое галава на

шырокіх мажных плячах міжвольна прыгнулася наперад так, як служыць пакатая столь невысокай зямлянкі.

— Таварыш камандзір! — чаканю я, бадай што лепш, як заўсёды. Аднак Іван Кузьміч як быццам не чуе мяне.

— Так, нічога сабе, — кажа ён. — Ну і што, дзе гуляў?

— А я ў Міколы-сталяра сядзеў. Глядзеў, як гэта ён скрыначкі стружа. Спраўны хлапчына!

Сталяру Міколу — пад пяцьдзесят, і мы, маладыя — больш палавіны атрада, — завём гэтага «хлапчыну» — дзядзька Мікалай.

— Што, што ён робіць? — перапытвае, як недачуўшы, Іван Кузьміч.

— Ну, міны, скрыначкі для мін...

— А, вось яно што! Так, ён у нас майстар — няма што казаць. Абы толькі толу хапала.

— А каб гэта са снарадаў паспрабаваць, таварыш камандзір, — пачынае Паўлюк, як быццам ніколі не чуўшы аб тым, што мы выплаўляем шмат толу з валяшчых снарадаў і бомбаў. — Я ведаю адно месцечка...

А я чамусьці гляджу на яго здаравенныя боты. Калені ўжо самавольна прыгнуліся ў паўдарогі са «смірна» на «вольна», і адзін ступак адставіўся ўбок, выразна парушыўшы дысцыпліну.

— Слаўнае месцечка, — гудзе Паўлюк. — Вось вы мне толькі дайце заўтра хлопцаў са два, таварыш камандзір, дык мы падыдзем на Нёман. Там у мяне штук з дзесятак самалётных бомбачак ляжыць на дне. Трэба іх будзе падняць.

— А што, Снапок, — звярнуўся да мяне Іван Кузьміч, — пашлі з ім заўтра пару чалавек, а то і сам, калі хочаш, пайдзі.

Іван Кузьміч увачавідкі мякчэе. Ён бярэ са стала сваю вечную люльку і круглую баначку — прадмет нашай зайздрасці — з надпісам: «Нашым партызанам і партызанкам слава!» Баначку гэтую ён прынёс сюды з Вялікай зямлі разам з мноствам іншых каштоўнасцей. Пакуль ён прывычным рухам скручвае з баначкі вяршок, я зноў гляджу на Паўлюковы боты. Яны ўжо і зусім забыліся пра ўмоўленае «смірна»:

Паўлюк па-сяброўску ступае наперад і кажа:

— А вы майго, таварыш камандзір, мультанчыку... А то вы, гляджу я, нейкую там сабе пацяруху курыце. Эх, і хлопцы ж у вас: каб чаго — табаку не прынесці!..

— Яны толькі за дзеўкамі, язві іх душу, — зусім дабрадушна мармыча Іван Кузьміч, лезучы трыма пальцамі ў Паўлюкоў капшук.

Ён напіхае люльку, тады, не без важнасці, падстаўляе Паўлюку аганёк зайздроснай самапалкі, якая таксама з Вялікай зямлі, потым

прыкурвае сам, смачна зацягваецца поўнай зацяжкай і, амаль што зусім захоплена, кажа:

— Язві яго душу — хар-рош!..

Я не куру. Мне мультан не мультан — адзін чорт. Ды якое там, па-мойму, з табаку хараство! Я ўпэўнены, што камандзір гаворыць гэта больш пра Паўлюка.

*1945*

## КАЗАЧОК

Самшэлы хутар Батракова Кудзерка закінуты ў самы глухі куток Налібоцкай пушчы.

Начамі дзікі ўзрывалі бульбу амаль пад вокнамі хаты, а днём, калі па хутар трапляў чужы чалавек, крамяная чырванашчокая Маня, адзіная дачка ўдавы Батрачыхі, хавалася ў каморку ці на печ.

Па пачатку вайны над паляпай гулі самалёты і чуўся, здаецца, зусім недалёкі грукат гармат. Аднак салдатаў па хутары так і не бачылі: не ішлі сюдой пі нашы, адыходзячы, ні немцы.

Цяпер жа, да другой зімы партызанскага царства, змянілася ўсё. Батрачыха то ваявала з вясёлымі хлопцамі за кожны ахапак доўгага шорсткага ляснога сена, то мірылася з імі, смакуючы прывезены з дзесятай вёскі самасад. А Маня настолькі прызвычаілася да людзей, што ўжо зусім прыкметна збіралася павялічыць сям'ю.

Партызаны спыняліся па хутары праездам ці праходам, найбольш падрыўнікі, ідучы на «жалезку» ці ў лагер. Батрачыха пазнала іх за гэты час так шмат, што кожнага незнаёмага лічыла навічком у пушчы, «свежаяіжім».

...Міша Спорык, яшчэ два хлопцы і Валя прыйшлі ў Батракову Кудзерку завідна.

— Здарова, цётка, жывеш! А ў нас якая кветка, паглядзі! Свежанькая! Казачок!

Батрачыха ажно рукі развяла.

— Ах, Мішачка! Ах, мая долечка! Зноў дзеўка ў портках! З вінтоўкаю! Ды што ж гэта за свет настаў!..

А «свежанькая» — хоць бы што, смяецца. Паставіла вінтоўку, села і глыбока, з палёгкай уздыхнула:

— Ой, каб яшчэ, здаецца, трошкі — не дайшла б.

Ды такое ні гэта з марозу румянае, спраўнае. Хлопец — ды годзе! Толькі як зняла кубанку і стала прычэсвацца — гэтыя пасмы дзявочыя, гэты грабеньчык... Ды як зияла рэмень і вышываны кажушок — гэтыя грудзі, і ўсё...

І таму, як збіраліся спаць, Батрачыха шапнула:

— Ты, галубка, са мною лажыся. Манька няхай на печы. Ды пад сцяну залазь, а я ад хаты. Мая дурніца таксама раней зухавала...

Ды «свежанькая» засмяялася ў адказ і лягла ад хаты сама.

Смех яе гаспадыня зразумела па-свойму.

— Не насмяецца,— шапнула збоку, на самае вуха,— не бойся. Абы жывы-здаровы быў...

Пытання «хто?» не дачакалася, дык растлумачыла:

— Харошы хлопец. Уткін. Разведчык. Слесар. І на гітары іграе. Божыцца: «Вазьму з сабою...» Ажно за Маскву.

Памаўчала яшчэ.

— Бо ў нас, відаць, трапёны, не захоча жыць...

«Свежанькая», здаецца, добра такі заснула.

Гэта — толькі здалося Батрачысе.

Для «казачка», як і ўчора, зноў пачалася бяссонніца.

Дык што ж гэта, нарэшце, за бяда! Ці брыдзеш цэлы дзень па снезе, ці сядзіш за сталом,— усюды адны толькі думкі, адно і на сэрцы. Ад самага рання чакаеш начной адзіноты, каб зноў бясконца марыць...

Марыць не так сабе, але аб ім, бо ён такі, нарэшце, ёсць.

«Ён» не з'яўляўся доўга. Спачатку нават думкі аб ім не было. Калісьці малая Валечка, прыбегшы з вуліцы, дзе верх заўсёды бралі хлопцы, з плачам пыталася ў мамы, чаму і яна не хлопец. Падлеткам білася з хлопцамі, ездзіла конна, хадзіла на лыжах і часта думала пра тое, з якім шчасцем абула б боты са шпорамі. Падабацца яна пачала досыць рана. Рана магло б і каханне прыйсці, ды Валя нікога са знаёмых хлопцаў не любіла, і таму, калі бывала з кім-небудзь з іх сам-насам, амаль зусім не хвалявалася. Так і расла, быццам дзічка. Касіла, арала, па-мужчынску віталася моцнай, шурпатай ад мазалёў рукой.

Быць толькі сувязной ёй надакучыла. Хадзіць у разведку ў навакольныя гарнізоны, даставаць паперу і медыкаменты — гэтага было замала. Прыйшла ў атрад сама, супроць волі штаба, з якім была звязана. На кухню не захацела, у санчасць — таксама, засталася байцом.

Спачатку ў мужчынскай зямлянцы было дзікавата. Аднаму з малайцоў, што быў занадта ўпэўнены ў сваёй прывабнасці, прыйшлося нават дзеля прыкладу хропнуць ручкай нагана пад бараду.

І тады вось з'явіўся «ён».

«Так і трэба,— сказаў.— Цяпер, малец, аблізвайся. А мала будзе,— я папраўлю!..»

Гэта быў Міша Спорык, камандзір падрыўной групы.

Ён быў у атрадзе ўвесь час, дый так яна знала яго, да прыходу ў атрад. Аднак для Валі ён, здавалася, нібы наогул з'явіўся толькі ў той дзень.

На гэтым пачалося. Спачатку ў іх была проста дружба, а потым... потым адбыліся два выпадкі.

У першым выпадку, калі іхняя група наткнулася ноччу на засаду і з васьмі партызан толькі трое, разам з ёй, засталіся жывымі, Валя да

болю спускалася смерці. Быццам толькі цяпер зразумела, што ёй дзевятнаццаты год...

Другім разам, на днёўцы, яна ўзяла на рукі сяброўчына дзіцянё і зусім нечакана, зусім небывала адчула, як хочацца яшць, і жыць — не адной...

З таго дня з'явіліся нават бяссонныя ночы, раздвоенасць: адна Валя, ранейшая, яшчэ ўсё не баялася заставацца з Мішам сам-насам; другая Валя, новая, улад і баялася іх адзіноты і марыла пра яе...

Яна законна чакала — то трывожна, то ўпэўнена,— што Міша нарэшце пачне: скажа ёй тое, што яна ўжо мо соты раз (ды дзе там соты!..) кажа яму ўсёй душой, так, як трэба дзяўчыне спачатку — без слоў. І ў гэтым чаканні бясконца мяняліся вобразы іх будучага шчасця.

А Міша як быццам не думаў пра гэта.

Вось і цяпер ён спакойна спіць, храпе сабе з хлопцамі на падлозе. А яна як лягла побач са старой, так і ляжыць на спіне, нават рукі злажыла, нібы трымаючы сэрца. Глядзіць у цемру і шэпча без слоў:

«Што ж, хіба мне самой падысці да цябе і сказаць: — Няўжо ты думаеш, што я і праўда «казачок», што я і праўда «дзікая»? Ды гэта яе толькі для іншых такая, таму што я ўсё шукала цябе. Няўжо ты не ведаеш, Міша, чаму я сама перайшла ў тваю групу? Няўжо ты думаеш, толькі таму, што зайздросціла вам? Эх ты! Ты чакаеш, пакуль, можа, я...»

Але раптам спужалася гэтай думкі, у цемры заплюшчыла вочы і, павярнуўшыся да гаспадыні, уткнулася тварам у падушку.

— Ты што, ці не хворая, дзеўка, чаго ты? — шэптам азвалася Батрачыха.— Пакуль заснём з табою, дык людзі і ноч разбяруць.

«Свежанькая» хацела прамаўчаць, але, пачакаўшы, нібыта смехам, ціхенька папрасіла:

— А ты мяне, цётка, і праўда пусці пад сцяну...

Ізноў яны ідуць.

Па рыхлай адліжнай дарозе. Паміж нядошлага зарасніку. Палянамі ля шэрых хутарскіх будынкаў. У зацішку высокага лесу.

Спераду едзе фурманка. На ёй вінтоўкі, гранаты, тол. Дзядзька кленчыць у санях-развалах і нудна, як гэты хмарны, пануры дзень, маўчыць. Кабылка пляцецца абы-абы, а потым, калі яе сцёбаюць вераўчанымі лейцамі па сухім кантовым крыжы, трухціць і спатыкаецца, чапляючы падковай за падкову.

Міша расказвае нешта, а хлопцы смяюцца.

Ды Валя, бадай, не чуе яго. Яна і не слухае. Успамінаючы ноч з гэтым дзіўным сваім забыццём, яна нават рада, што ідзе ззаду і.

Міша не бачыць яе. Да яе то зноў вяртаецца пастрой гэтых дзён — шчаслівае чаканне адзіноты, то сорам за тое, што ўчора раскісла.

«Няхай табе толькі не здасца, што буду сама набівацца»,— думае Валя.

— Дзвіна, брат, не тое, што Нёман,— расказвае Міша.— Яна разліецца — мора! Ха-ха-ха! Успомнілася, хлопцы, ірундовіпа. Крыгі ідуць па Дзвіне — проста жах, а па крызе сядзіць, брат, чырвоны певень. Тут смерць на носе, а ён — ку-ка-рэ-ку!..

«Табе, голубе, бачыш, нічога, смяешся, а я...» — думае Валя.

— Пасмяяўся я з таго пеўня, а потым, хлопцы, аднойчы і сам...

Ды раптам ён спыняецца.

Перш чуваць збоку, зусім недалёка, ад дарогі, дзе хутар па ўзгорку, мяшаны вокліч: «гальт!» і «стой!»

Потым адтуль устаюць тры варожыя постаці: немец і два «бобікі»-паліцаі...

Дзядзька са зброяй ад'ехаў наперад пастолькі далёка, што ворагам значна бліжэй да яго. Зброя ў развалах, на шчасце, прыкрыла кажухом. Дзядзька, нібы азораны выратавальнаю думкай, бяжыць да немца і задыхана, часта гукае:

— Свой! Сво-ой!.. Мы з Лужы! З Лужы, паночку! Дальбог!..

Чорныя «бобікі» спакойна, упэўнена брыдуць па снезе амаль па калені і нават вінтовак сваіх не трымаюць напагатове.

Шэры немец — тропікі збоку і ззаду — цяжка набліжаецца да дзядзькі.

Насустрач паліцаям стаіць адзін Міша. Першы ішоў, а цяпер яшчэ выйшаў паперад. Рука ў кішэні кажушка, збялеў, толькі ноздрамі паварушвае, быццам гатовы да скоку.

Адзін паліцай адлучаецца, ідзе на яго. Другі — на Валодзьку. «Бобік» нешта крычыць, ужо гатовы заехаць прахожаму поўху. Калі ж ён падыходзіць зусім, Міша пытаецца, проста ў вочы:

— А ты, можа, і ўдарыць хочаш, сукін сын?

Паліцай перш бармоча, збялеўшы:

— Ды што вы, таварыш, завошта...

Потым адскоквае ўбок і хапаецца за рукаятку затвора. Міша выхоплівае з кішэні наган. Страляе. Паліцай, узняўшы рукі, валіцца назад.

За гэтым стрэлам, як водгук, грыміць паўнагучны вінтовачны стрэл: другі паліцай б'е па Мішу. Міша, здалося, хіснуўся, а потым страляе зноў, яшчэ, яшчэ раз. Другі паліцай перш асядае на снег, а потым лажыцца.

Немец строчыць з аўтамата па доўгім, зашмальцаваным канаусе дзядзькі і паварочвае наўцёкі.

Міша першы бяжыць да кабылкі, якая рада, што больш не сцёбаюць лейцамі, спакойна стаіць на дарозе. Міша бяяшчь неяк дзіўна: улукаткі, бокам, задыханы. Ён цяжка падае ў развалы і крычыць:

— Гані!

Валя падае ззаду, якраз па яго, і пошта крычыць таксама.

Ды толькі Кастусь і Валодзька, дабегшы, паднімаюць кабылку на нейкі нядошлы галоп.

А тут з узгорка, з хутара — немец спыніўся, гад!— па іх лапоча аўтамат.

Валя не чуе, як блізка спяваюць кулі. Яна толькі адчувае «яго» і шчасліва, нарэшце шчасліва шэпча:

— Я не дам цябе больш, затулю...

На гэтым для Валі канчаецца ўсё.

...Зноў у лясную дзіч па дарозе пляцецца худая кабылка.

Цяпер ужо не дзядзька, а Кастусь кленчыць спераду.

На саломе пад доўгім кажухом ляжаць дзве маўклівыя постаці: Міша і Валя.

Дзядзька-падводчык і чацвёрты таварыш, Валодзя, засталіся ля хутара — назаўсёды...

За нізка навіслыя лапы ялін раз-поразу чапляе крывая вішнёвая дужка, і снег казытліва цярушыць на бледны твар «казачка». Вочы з чорнымі, доўгімі вейкамі заплюшчаны. Ды пад павекамі... жыве адчуванне жыцця. Праз боль у правым баку, няўмольны, перарывісты, туга зацягнуты кужэльным ручніком, яна часамі — вельмі здалёк — чуе ў хвіліну палёгкі высокую, белую песню палазоў і адчувае снег, быццам нечы гуллівы, пяшчотны дотык... Пасля яна нават расплюшчвае вочы і патроху з цяжкасцю пазнае, што шэра-зялёная сетка над ёю — гэта ельнік і неба...

На Валю шугае туманам, а потым побач з ёю родны голас кажа:

— Лепш табе трохі? Ну, вось і добра... Пашанцавала нам з табой нішто... Разам, дзеўка, і пакукуем...

Яна хацела б нешта адказаць. Але не можа.

Заплюшчыўшы вочы, толькі ўсміхаецца.

*1946*

## АДЗІН ДЗЕНЬ

I

Пакуль Ліда Свірыд не спаткала ў пушчы трох партызан, маладзіцы здавалася, што ўжо загінула ўсё.

Гэтае «ўсё» пачыналася з хаты на хутары, свайго гнязда. Беднае было яе гняздо, асірацелае пасля таго, як забілі Андрэя, аднак усё ж такі гняздо, бо ў ім жыло разам з Лідай іх птушанё — дзевяцімесячная Берачка. Недалёка ад хутара была вёска Ляды, дзе Ліда таксама была калісьці птушанём, а потым вольнай птушкай. Там жылі цяпер — мама, якая спачатку прыходзіла вучыць Ліду купаць Верачку, і тата, які пасля смерці Андрэя памагаў... не памагаў, а проста ўрабляў, як сваю, і яе, удовіну, гаспадарку. Там быў Мікола, старэйшы, сямейны брат, былі сяброўкі і сябры маладосці, сваякі і суседзі. За Лядамі — Ямнае, Градкі, Зарэчча, Грачанікі — бліжэйшыя вёскі, у адну з якіх выйшла замуж Марыля, сястра, у другую — Зіна, найлепшая сяброўка, у трэцяй — дажывала веку добрая цётка Настуля...

Адным словам,— быў свой невялікі круг, родная частка вялікага свету, з сярэдзінай, сэрцам — Верачкай.

Перасякаючы гэты круг, з поўдня на поўнач плыў Нёман. Таксама родны, свой, аптаваны ўлетку, абкоўзаны зімой.

У Лядах на Нёмане стаяў партызанскі дазор, а ў зрубе, сяк-так накрытым бульбянікам,— застава. У зрубе, а не ў хаце, таму што ад восені хат у Лядах не было: іх папалілі фашысцкія карнікі. Цяпер былі толькі зямлянкі, павеці, азяроды, пад колас крытыя пагрэбнікі, абгарэлыя платы і неяк асабліва аголеныя і самотныя ліпы, высокія грушы-дзічкі, бярозы і клёны. Паміж зямлянак, дрэў, платоў і чорных струп'яў котлішч заўсёды на вачах стаяў гэты незвычайны зруб. І, толькі паглядзеўшы на яго, на душы рабілася лягчэй і спакайней — і за дзіця, і за сябе, і за добрых людзей. Начамі з пушчы за Нёман выязджалі разведчыкі, выходзілі ўзводы, часам цэлы атрад ці брыгада. І толькі пачуўшы, як гаманілі вясёлыя хлопцы, як коні іх фыркалі і грукацелі па дошках парома або плюхацелі вадою ў бродзе, добра было ад думкі, што вось і сёння Верачка ціха засне і сама адпачнеш, а ўранні зноў устануць усе ды возьмуцца за працу, амаль што таксама спакойна, як да вайны.

Гэтак было датуль, пакуль не пайшла па людзях гаворка пра вялікую, нечуваную бяду, якая называецца зусім новым і вельмі страшным словам — блакада...

І вось яна, тая бяда, падкралася непрыкметна.

Гэта сталася перад самай касавіцай. На досвітку ўспыхнуў бой на

Нёмане. У Дуброве за Градкамі, дзе быў мост насупраць лагера брыгады «Сокал», бой разгарэўся надоўга. А ў Лядах заставу — пятнаццаць хлопцаў — разграмілі аж надта раптоўна.

Ліда толькі паспела ўсхапіцца з пасцелі, зірнуць у акно і выбегчы на двор, а людзі ўжо беглі, уцякалі ў пушчу: старыя, дзяўчаты, дзеці... Схапіўшы адно, чаго ёй нідзе і ніяк немагчыма забыцца — сваю сонную, цёплую Верачку,— паляцела і Ліда.

Ззаду, на Нёмане і ў вёсцы, чуўся крык, страляніна, узнімаўся пажар. Над галовамі ўцекачоў, абганяючы іх, звінелі кулі, а міны цяжка гупалі то тут, то там, злосна брызгаючы вакол сябе вісклівымі асколкамі. Дарогай і полем, па зелені збожжа, бегла многа людзей. Ліда з дзіцем ніяк не магла іх дагнаць. І не таму, што цяжка было ці нязручна, а таму, што, як толькі яна кідалася бегчы хутчэй, малая прачыналася і зноў заходзілася плачам. Толькі з Верачкай дабегла яна да першых каля лесу кустоў — і там ужо нікога не было. Кустамі, калечачы босыя ногі (тут толькі ўспомніла пра боты пад ложкам), дабегла да бярэзніку. Пасля ўбілася ў росны гушчар і, ныраючы пад галлё, сарвала хустку, парвала сукенку і двойчы спатыкнулася. І толькі тады, калі спатыкнулася на ламачыну трэці раз і ледзь-ледзь не ўпала, Ліда пайшла памалу, тулячы дачушку да задыханых грудзей.

— Ціха, ціха, галубка мая,— гаварыла яна.— Ну, не плач...

А сама ўжо гатова была і заплакаць.

Яна засталася адна. Спераду быў толькі лес, а на руках — дзіця, з якім не паспяшаешся, нікога не дагоніш.

Ды і як даганяць, куды бегчы? А тут, глядзі, дагоняць і цябе... Вунь як страляюць — бліжэй ды бліжэй...

Гэты жах нарадзіў недарэчную думку аб тым, што ўсё, што за ёй,— загінула. А цяпер... а цяпер і яна...

— Ціха, ціха, малая мая... Ну, не плач...

Вусны шапталі, прасілі, а вочы ўжо плакалі...

Сонца толькі што выбралася з-за дрэў у чыстае неба, калі маладзіца, усё ўцякаючы ад грукату гармат і страляніны, наткнулася ў гушчары па трох узброеных людзей, адзін з якіх трымаў за павады каня. Спачатку, не пазнаўшы іх, яна жахнулася, а потым радасна ўскрыкнула:

— Хлопчыкі!..

Там былі: Жэнька Саковіч, Тадорын Іван і Серада з Грачанікаў. З імі больш года партызаніў яе Андрэй.

2

Тры партызаны, адзін з іх паранены і толькі адзін з канём,- вось і

ўсё, што засталося ад разведкі іх атрада.

...Гэта сталася так нечакана і хутка.

На досвітку яны вярталіся з задання. Коні, узмакрэлыя ад далёкай дарогі і хуткай язды, як толькі ім зноў дазволілі перайсці на ступу, пачалі задаволена фыркаць, рупліва тупаючы па глыбокім пяску. Коннікі зноў пачалі гаварыць і закурваць.

Вызначаючы кароткі начны шлях бяссоннага летняга сонца, па поўначы святлела паласа суцэльнай зары. Сонца, якое, здаецца, так нядаўна села амаль па паўночным захадзе, перапаўзло, хаваючыся за далягляд, на паўночны ўсход і спынілася, каб пачаць памаленьку выплываць наверх. Яно было яшчэ глыбока за пушчай, таму што над грэбенем лесу яшчэ ўсё нясмела займалася сапраўдная зара ўсходу. А па меры таго як яна разгаралася, рэшткі вячэрняй зары патухалі. Вось-вось павінен быў прачнуцца ў збожжы першы жаўранак і, атрасаючы свежыя кропелькі з шэрага, цёплага пер'я, узняцца пад полем, абвяшчаючы захопленым шчэбетам пачатак новага дня.

Шура Сучок ехаў сёння далёка спераду. Каштанка аднастайна тупала, нудна парыпвала сядло. Аўтамат, як заўсёды, вісеў перад грудзьмі. Нават і Шура, вельмі асцярожны і ўважлівы хлопец, глядзеў наперад спакойна. Вось толькі пераехаць гасцінец, праехаць каля гэтых вёсак, а там трохі лугам — і лес. Ды і вёсак, дакладна кажучы, няма: гэта адно Загароддзе, якое ляжыць па ўзгорках абапал звілістай рэчкі Вушанкі. Падаючы кірунак усёй групе, каля першай палавіны вёскі Шура павярнуў управа, пераехаў шырокі пясчаны гасцінец і патупаў з узгорка ў лагчыну, да мосціка...

Нядаўна з Шурам здарыўся адзін, здаецца, нязначны выпадак, які запомніўся хлопцам у атраднай разведцы. У тую ноч яны былі на заданні пад самым бокам фашысцкага гарнізона. Шура стаяў на пасту за апошнім будынкам вёсачкі. Калі ж па яго пасля паехалі, хлопца не знайшлі на ўмоўленым месцы... Устрывожаныя сябры кінуліся шукаць. Сучок стаяў за дрэвамі, не больш трохсот крокаў ад першых дамоў мястэчка, дзе пачыналіся гарнізонныя драты.

"Ну, і да чаго ж гэта? — крычаў пасля камандзір.— Каму гэта патрэбна было б, каб цябе раздушылі, як хрушча? Эх ты!.."

«Я, каб што-небудзь такое,— апраўдваўся Шура,— спачатку даў бы вам знак, каб вы змаглі спакойна адысці».

«А сам?»

«Сам? Чорт яго ведае»,— засмяяўся збянтэжаны хлопец.

Ён быў, як аказалася, зусім не падрыхтаваны да такога пытання. «Сам,— сказаў ён на скорую руку,— таксама нешта рабіў бы...»

Гэты дробны выпадак яшчэ раз паказаў разведчыкам, пра што

менш за ўсё задумваўся іх сціплы, маўклівы таварыш, якому толькі цяпер, на другім годзе прабывання ў атрадзе, пайшоў васемнаццаты год...

Як толькі Каштанка затупацела па дошках мастка, Шура ўмомант заўважыў, як у другой палавіне Загароддзя ад гумна да хлява мігнуўся, перабег, прыгнуўшыся, нехта чужы. Ззаду былі таварышы, і Шура даў ім знак, узмахнуўшы рукой, а сам ірвануўся туды, да гумна...

Пакуль юнак, прашыты чаргой кулямёта, паспеў асунуцца ў нейкую цёмную бездань, у лагчыне паміж дзвюма палавінамі вёскі з усіх бакоў затрашчаў перакрэсліш агонь. Разведка апынулася ў пастцы.

...Жэнька Саковіч падумаў спачатку, што ён апамятаўся першы і ад яго пачалося тое, што яны, чатырох з дзесяці, сабраліся на ўскраіне лесу. Таксама мог думаць і кожны: гэтак цяжка было зразумець, як яны змаглі вырвацца з кальца знішчальнага агню.

Каля рэчкі, на першай прагаліне лесу, яны зноў напароліся на кулямёты. Цяпер стралялі з танкаў, замаскіраваных у кустах. Тут застаўся яшчэ адзін таварыш, вясёлы Ляўко, тут пад раненым Жэнькам забілі каня, і тут ужо хлопцы дагадаліся, што справа — не так сабе, што гэта не звычайныя засады. Калі ж неўзабаве, як быццам па сігналу гэтых дзвюх засад, на поўначы, відаць, каля брыгаднай пераправы на Нёмане, разгарэлася кулямётная траскатня, узмоцненая выбухамі мін і грукатам гармат,— усё нарэшце зрабілася ясна...

3

— Дык што ж гэта робіцца, Ліда?!

Пытанне прагучала недарэчна. Злосны — то зноў нарастаючы, то крышку радчэйшы — трэск кулямётнага агню ўсё больш ды больш набліжаўся. Выбухі мін і снарадаў лажыліся недзе зусім недалёка. Хто з партызан мог звярнуцца з такім запытаннем да жанчыны, якая і так была амаль непрытомнай ад жаху? Хто яго ведае,— кожны, здаецца, гатоў быў спытаць. Яны стаялі навокал Ліды. Яна ж была адна з таго боку, ад Нёмана, адкуль пачалося. Аднак і яна не магла ім нічога сказаць, дзе брыгада, дзе іхні атрад, як далучыцца да сваіх... Яшчэ горш: вось яна, зусім не званчэючы на іх прысутнасць, вызваліла з-за станіка поўную, маладую грудзь. Дзіцёнак прагна ўткнуўся ў яе, прытуліўся і змоўк. Тады Жэнька, як быццам успомніўшы нешта, дастаў з сумкі пакецік бінта і, працягнуўшы яго Івану, папрасіў:

— Вазьмі, брат, падвяжы ты мне руку па шыю: пошта цяжкая стала.

— Дык ты паранены, Жэня?..— спалохана спытала Ліда.

— Нават і перавязаны ўжо,— усміхнуўся Жэнька, неяк сарамліва гледзячы на Ліду...

Яе маленькая, сагнаўшы першую смагу, пакінула ссаць, смачна цмокнула губкамі, паглядзела на траву і працягнула ўніз смешна маленькую ручку з ружовымі, расстаўленымі пальчыкамі.

— Ня,— сказала яна.

Маці, якая адна ведала мову дзяўчынкі, прызвычаеным рухам зашпіліла станік і машынальна, як быццам між іншым, нагнуўшыся да высокай лясной травы, скубанула рукой. Выскубла цэлую жменю, але маленькая ручка з ружовымі пальчыкамі знайшла ў гэтай жмені патрэбнае ёй. Гэта быў белы, пушысты, нібы дзіцячая шапачка з трусінага пуху, дзьмухавец. Як толькі пальчыкі малой згарнуліся на кветцы ў кулачок, ад кветкі засталося трошкі пуху. Ды і той быў зусім нясмачны. Засліненыя ружовыя губкі пачалі яго нездаволена і па-дзіцячаму няўдала сплёўваць. У іншы час толькі б смяяцца на гэтае цудоўнае нездавальненне!.. Нават і цяпер нешта цёплае заварушылася ў душы, але тут...

Тут з прарэзлівым ровам над вершняком шуганула вялізная цёмна-срэбраная птушка. Хлопцы раптоўна прыселі, Ліда нават упала, з ускрыкам затуліўшы сабой Верачку. Жэнька паспеў заўважыць, як з-пад крылаў жалезнай птушкі, здаецца, проста пад імі аддзяліліся два прадаўгаватыя прадметы.

— Бомбы!..

Яны распіралі паветра і доўга, бясконца доўга сіпелі, вылі, спяшаючыся ўрэзацца ў зямлю. Гэта толькі здалося, што яны адарваліся з-пад крылаў над самай галавой: два страшныя выбухі, адзін за другім, скаланулі паветра воддаль ад іх. Што там людзі і конь,— нават зямля захадзіла ад выбуху! А потым пайшлі асколкі. Адны з іх тонка, як пчолы, звінелі па ворсе, збіваючы галінкі і лісцё, другія гулі таўсцей, як чмялі, і злосна чокалі, уядаючыся ў галлё і камлі. Адзін — вялікі і зычны — дайшоў праз гушчар зусім блізка, да гэтай вось стромкай алешыны. Падсечаная, яна нездаволена крахнула, пастаяла нейкі, амаль няўлоўны, момант, а потым памалу паехала ўніз. Зачапіўшыся верхавінай за верхавіну другой, маладшай алешыны, неяк дзіўна выкруцілася ўбок і, цярэбячы голле сяброўкі, гупнула на траву. Тады ўжо, вырываючы з рук павады, шарахнуўся зусім спалоханы конь.

Да Жэнькі страх прыйшоў пазней, калі, пакрываючы зумканне апошніх асколкаў, заплакала, задыхаючыся ад жаху, маленькая дзяўчынка.

— Пойдзем, Ліда, з намі,— сказаў ён.— Не плач.

Але куды ж ісці?

Некуды ж вось ідзе гэтая вузкая лясная дарожка...

Дык і яны пайшлі туды.

Праз некалькі хвілін даронага раптам здрадзіла. Абмінаючы мокрую лагчыну, яна павярнула крута ўлева, якраз туды, адкуль найбольш блізка чуваць быў агонь. На поўдні грымела таксама. Вольным пакуль што заставаўся толькі ўсход. А на ўсходзе, абыякава да гэтай жменькі людзей, распасцерлася парослае хмызняком балота.

— З канём сюдой не пройдзеш,— сказаў Серада.

Ён рассядлаў каня, сядло на ўсякі выпадак закінуў у кусты, пасля, нібы дома, на грачаніцкім выгане, зняў і аброць. Тады нават хлёстка, як гаспадар, закончыўшы сяўбу, сцебануў каня аброццю па хвасце і, ледзь што но весела, крыкнуў:

— Эн, Сівы!.. Усё, па вайне!..

Недарэчная думка аб тым, што за імі загінула ўсё, была вось гэтак выказана ўпершыню.

Відаць, для таго, каб яшчэ больш апраўдаць яе, Серада працягнуў да сяброў руку з акрываўленым пальцам.

— Перавяяшчэ каторы,— сказаў ён.

Жэнька здзіўлена паглядзеў на яго, памаўчаў, а потым левай, здаровай рукой выняў з кішэні хусцінку.

— Вазьмі. Яна яшчэ трохі чыстая.

4

Яны прабіраліся на ўсход па балоце, парослым кустамі. Скакалі па куп'і, спатыкаліся па найбольш хісткія, тканню падмураваныя купіны, правальваліся або падалі, гразлі, выбіраліся зноў і зноў упарта ішлі наперад.

Першы ішоў малы, каржакаваты Серада. За ім спакойна, шырока ступаў вечна маўклівы Тадорын Іван, худы, жанаты мужчына. Ён нёс два аўтаматы — Жэнькаў і свой. За Іванам спяшалася Ліда. За Лідай — самы малодшы, высокі, яшчэ па-юнацку ссутулены Жэнька. Правая рука яго, прастрэленая, вісела па перавязі. Няваяша, наспех перавязаная рана яшчэ ўсё — чуваць было хлопцу — крывавіла, а пальцы рукі звісалі з бінта, як перабітае крыло. Бровы пад лінялай армейскай пілоткай былі насуплены, а чорныя вочы глядзелі панура — не толькі ад болю...

Страляніна і выбухі мін і снарадаў памалу сталі прыціхаць, аддаляцца па захад. Больш выразна чуваць былі выбухі самалётных бомбаў. Некалькі разоў над балотам, заганяючы хлопцаў і маладзіцу з

дзіцём у кусты, нізка гудзеў бамбавоз ці тарахцеў, падобны на страказу, самалёт-разведчык.

Найцяжэй было Лідзе. Скакаць па куп'і з цяжарам, утрымліваць раўнавагу з запятымі рукамі, падаць так, каб не ўдарыць дачушку, і ўставаць разам з ёю,— было але вельмі зашмат на жаночую сілу.

Ужо два разы маўклівы Тадорын Іван спыняўся і гаварыў:

— Дай, можа, я паднясу.

І два разы яна адказвала:

— Нічога. От ідзі.

Тым часам сонца схіліла з поўдня. Маці сама не адчувала б таго, што ад рання яе сушыць смага, што галодная,— сама не ўспомніла б, дык кажуць аб гэтым грудзі. Верачка цягне і плача: прапала малако. Звыш таго, малой было зусім незразумела, навошта ёй цярпець усе гэтыя непрыемнасці, і яна рашуча пратэставала. Пратэст гэты выказваўся адзіным для маленства сродкам — плачам, які цяжка было супыніць. Яна то сціхала парою, стомленая ці супакоеная лягчэйшай дарогай, то зноў, пры новай цяжкасці, заходзілася плачам. Маці туліла яе, галубіла, прасіла і папракала, быццам дарослую, плакала нават са злосці, а потым, зноў уявіўшы, што можа здарыцца з гэтай светлай, маленькай галоўкай, цалавала дачушку яшчэ гарачэй, прасіла ў яе прабачэння...

З усіх сіл намагаючыся не адстаць ад мужчын, Ліда напружвала ўсю сваю ўвагу ў той бок, адкуль яна баялася пачуць страшнае слова аб тым, да чаго можа давесці іх гэты плач... Ёй хацелася злавіць кожны найменшы позірк папроку і злосці. Хацелася проста самой заглянуць у кожную з гэтых трох душ, каб дакладна і найхутчэй даведацца, што хлопцы думаюць...

Праўда, хлопцы пакуль што маўчалі.

Толькі адзін Серада гаварыў.

Бо вось ён стаў як быццам нейкім камандзірам, лепш сказаць — павадыром. Ён узяўся правесці іх туды, дзе ёсць, як ён кажа, зусім надзейная схованка. Доступ туды ведае толькі ён адзін. Іхняя вёска Грачанікі — усе лесуны, толькі і жылі з заработкаў у лесе.

— Туды, браток,— гаворыць ён,— нават баба Ганна не дойдзе. Па гэты самы бабскі жывакост. Мяне бацька-нябожчык вучыў. Пры Польшчы — не так, а вось у саракавым, як Саветы прыйшлі, вось тады, браток, пачаў я аграбаць капейку. Тады мы яе па-культурнаму пачалі называць: авіябяроза. Бо раней — так сабе па-вясковаму: чачотка, дый толькі. Пра нас з Сабалёвым Іванам нават газетка пісала: ударнікі...

Ён расказвае пра тую бярозу-чачотку, з якой нешта робяць у

самалётах. Яна расце недзе там, у найбольшай глушы, куды іншыя людзі могуць прайсці толькі зімой, як перамерзне балота. Недзе там, на адным з тых балотных астравоў, дзе фашысты не знойдуць Верачку. Абы толькі ён, Серада, не заблудзіў. Абы толькі дзіцятка маўчала...

Ой, мамачка, зноў!.. Зноў спатыкнулася, упала, пусціла адну руку, каб абаперціся і ўстаць. А яна праз траву палезла ў гразь — аж па локаць... Дзякуй табе, Іван,— ты зноў дапамог. А малая заплакала зноў. Ах, ды ціха ты, ціха, гора маё!..

— Каб я не знаў дарогі, не павёў бы,— чуваць спераду той самы голас.— Давяду. Там мы як у бога за пазухай прасядзім. Вось толькі што музыкі з намі зашмат. Пачуюць недзе немцы і — па ўсім. Бяда.

— Ну, ды ціха ты, ціха, дачушка...

Жэнька моўчкі ішоў за Лідай, перамагаючы боль, моўчкі слухаў плач малое, бясконцае гугненне Серады і думаў:

«...Чаму ён так крыкнуў на Сіўку: «Усё, па вайне!»? А гэты палец, які ён нават з радасцю нам паказаў?.. Чаму ён, такі ваяка, сілай нядаўна выцягнуты з хаты, такі таўкач, раптам адчуў сябе начальнікам? Ён завядзе ды схавае!.. Толькі вось Ліда перашкаджае яму. Ды нават не Ліда, а Верачка... Чаму ён забыўся і пра забітых сяброў, і пра тое, што сёння робіцца ў вёсках,— колькі нашых бацькоў, і малых, і дзяўчат расстраляна ці спалена ад рання?.. Можа, Шурка зусім не забіты, а толькі паранены? Можа, недзе яму накладаюць па шыю вяроўку, а ён, як заўсёды спакойны, збірае апошнія сілы, каб плюнуць у вочы кату?.. А дзе таварышы — уся брыгада?..»

...Пад вечар іх спыніла рэчка. Яна была нешырокая. Серада знайшоў ламачыну, памераў глыбіню. Нельга нават пазнаць, дзе пачынаецца дно: ламачына лезе і лезе... Знайшлі паблізу зломак сухой асіны, што ляжаў ад зімы. Перакінулі — якраз хапіла. Праверыць, ці вытрымае, найшоў Тадорын Іван. Ён разуўся на кожны выпадак і накінуў тут зброю. Перайшоў, датрывала. Тады пайшоў Серада з аўтаматамі. Жэнька застаўся апошні — таму, што Ліда стаяла збоку, чакаючы.

— Дай, можа, Верачку мне,— сказаў ён.— Ты ж змаглася.

А яна паглядзела на яго неяк дзіўна і толькі сказала:

— Ідзі.

— Ды што ты, Ліда?..

Яна паўтарыла таксама:

— Ідзі.

А потым дадала:

— Ды куды табе, Жэня! Ідзі хаця сам.

Перайшоўшы на другі бок, Жэнька стаяў і, збялелы, моўчкі глядзеў

то на босыя, чорныя ногі жанчыны, якія надзіва ўпэўнена, цвёрда ступалі па асінавай жардзіне, то на рукі, якія трымалі дзяўчынку. Здавалася, што адарваць гэтыя ногі ад кладкі, а рукі ад дзіцёнка не здолее ніякая сіла.

Перайшла! І зноў пайшла разам з імі. А Жэньку хацелася проста спытаць: «Ты не верыш? Не верыш і мне?» Аднак страшна было пытацца: а што, калі яна таксама коратка, як двойчы сказала «ідзі», скажа «не веру»?

5

Ах, ізноў гэты плач!..

Малая дагэтуль ведала адно. Учора ў гэты час на стале побач з ложкам гарэла лямпа. А яна са сваёй мамай ляжала пад лёгкай дзяружкай. Ляжала, праўда, толькі мама, бо дачушка ізноў дамагалася свайго. Хто там зможа давесці, што яна ўжо ела, што пара было б падкурчыць пад пухкую, ружовую шчочку маленькі кулачок і спаць, праз сон пасмоктваючы губкамі! Хто там: стане аспрэчваць святое права маленства? Дзяўчынка будзе не толькі ссаць: яна час ад часу падніме вочкі і гулліва ўсміхнецца. Няхай толькі мама паспрабуе не засмяяцца ў адказ! Яна пачне цалавацца, мармычучы, доўга, кусаючы першымі зубкамі маміны губы. А тады, перамогшы, нарэшце зноў прыўстане, паднімецца і, як быццам нырне, ападзе да грудзей...

А сёння вось і знайшоўся той нелюдзь, што забраў у малое адразу ўсё. Навокал цемра, холад і лес. Маці сядзіць на зямлі, падкурчыўшы халодныя ногі, туліць да сябе свой адзіны скарб і толькі ледзь чутна, бездапаможна шэпча:

— Рыбка... мілая... што ж табе даць?

Нелюдзь прагнаў іх з роднага гнязда, гнаўся за імі з кулямётамі, мінамі, бомбамі, спыніў у грудзях маці малако...

І вось дзяўчынка дарма намагаецца вярнуць яго. Ужо не для радасці толькі, не для гульні. Першы раз у жыцці яе прымусілі адчуць голад.

Яна плача. Гэта ціхі і страшны плач...

А тут, побач з ім, гэтым плачам, зноў нехта ў цемры варочаецца на траве і зноў нездаволены гугніць:

— Эх, каб табе... як ад цябе ні ўдзень пі ўноч спакою няма. Давядзеш ты нас да пагібелі...

— Хто цябе давядзе? Скажы ты мне, хто цябе давядзе? Ну, скажы ты мне, што ты гаворыш?!

Ліда хацела сказаць яшчэ нешта, ды раптам, як быццам зноў уявіўшы ўвесь жах свайго становішча, яна заплакала — ціха, наўзрыд...

— Ах, Андрэй мой, Андрэй, каб ты быў, каб ты бачыў!..

...Андрэй бачыць. Ён тут. Ён стаіць у вачах Жэнькі, над гэтым жудасным плачам сваіх найбліжэйшых. З пагардай і смуткам прыплюшчыўшы на сяброў шэрыя, моцныя вочы, ён гаворыць:

— Эх вы!..

І за гэтымі словамі — ночы засад і сутычак, першыя радасныя зводкі... І той час, калі яны, яшчэ да ўступлення ў атрад... Да якога там, зрэшты, уступлення! Тады яшчэ і атрадаў ніякіх не было, калі яны, лядаўскія камсамольцы, збіраліся ў старэйшага таварыша, у Андрэя, па хутары, і абмяркоўвалі, што рабіць па пачатак.

Вось і Шура Сучок...

«Я, каб што-небудзь такое, спачатку даў бы вам знак, каб вы маглі спакойна адысці...» — «А сам?» — «Сам? Чорт яго ведае... Што ж, сам таксама пошта рабіў бы...»

Больш ён не кажа нічога.

«...Калі ж на сваёй слабасці, баязлівасці або па злоснай волі я: парушу сваё абяцанне і выдам народную справу,— устаюць перад Жэнькам заключныя словы партызанскай прысягі,— няхай я загіну ганебнай смерцю ад рукі сваіх таварышаў».

«Мы яшчэ не парушылі яе,— думае Жэнька,— аднак мы ўжо сталі на гэты шлях. Мы аслабелі, збаяліся. А збаяўшыся, мы бязвольна паддаліся найбольшаму паміне нас баязліўцу, бо ён абяцае завесці ў надзейную схованку. Толькі вось гэта дзіця перашкаджае, можа выдаць нас сваім плачам... А каб дайшло да выбару, хто мае застацца жыць — мы ці малая,— што ён выбраў бы, наш павадыр?.. А мы, можна надумаць, маўчалі б, бо цяпер вось маўчым, пакуль ён вякае. А потым на нашым шляху, не зважаючы, на ўсе лясныя прамудрасці Серады, могуць з'явіцца фашысты. Жыццё можна будзе купіць толькі здрадай, якую народзіць страх. І што ён выбраў бы, наш павадыр? А мы? Мы таксама маўчалі б?..»

Упёршыся на левую, здаровую руку, Жэнька Саковіч устаў.

— Пара, Іване,— сказаў ён.

Маўклівы, занадта спакойны Тадорын Іван нібы даўно чакаў на гэты загад.

Удвух яны падышлі да трэцяга. І Жэнька загадаў:

— Устань, Серада! Пагаворым.

6

Штаб групіроўкі. фашысцкіх войск, якому была даручана ліквідацыя энскага партызанскага злучэння, уяўляў сабе становішча справы так:

Лясны масіў Н. з'яўляецца базай злучэння. У цэнтры гэтага масіву, у найбольш, як можна думаць, дрымучым месцы, знаходзіцца штаб, які кіруе ўсёй работай паасобных партызанскіх груп. Задача аперацыі заключаецца ў тым, каб сагнаць усе гэтыя групы з ўсёй зоны іх дзеяння ў пушчу, тады аблажыць пушчу шчыльным кальцом войск і сціскаць гэта кальцо датуль, пакуль усе сілы злучэння будуць згуртаваны ў адно месца, вакол свайго штаба. Там яны будуць разгромлены. Было прадугледжана і тое, што пры адступленні ў пушчу партызаны паспрабуюць даваць адпор. Ён будзе хутка зламаны націскам рэгулярных часцей. Тады прыменіцца тактыка прачоскі з загонамі. Па лесе працягнецца шчыльны невад пяхоты, які згорне да цэнтра пушчы і большых партызанскіх рыб і расцярушаную ў баях драбнарыбіцу. Пяхота пройдзе па магчымасці ўсюды, бо дзеля гэтага ёй выданы адпаведныя камбінезоны, аўчаркі, дастатковая колькасць боепрыпасаў. Тактыка загонаў будзе заключацца ў тым, што перад невадам пяхоты будуць выкідвацца засады на дарогах, прасеках і сцежках, па якіх пабягуць партызаны. Непраходныя месцы будуць шчыльна пакрыты агнём гармат, мінамётаў і авіябомбамі.

План аперацыі быў задуманы і распрацаваны з усёй нямецкай педантычнасцю, аднак ён не даваў тых вынікаў, па якія разлічваў штаб групіроўкі. Жорсткія абаронныя баі на ўскраінах пушчы давялі захопнікам, што здольнасць партызан супрацiўляцца рэгулярнаму войску з артылерыяй, браневікамі і самалётамі — улічана далёка не дастаткова. Яшчэ больш недастаткова былі ўлічаны «дзікія здольнасці рускіх» — партызанская кемлівасць, вынослівасць і веданне прыроды. Фашысцкі «невад» атрымаўся на практыцы далёка не шчыльным. Тымі месцамі, што лічыліся зусім непраходнымі для гэтага «невада», нягледзячы на шчодры агонь мінамётаў і бомбаў, у тыл ворага прабіраліся партызаны. Пушча таіла ў сабе недаступныя астравы, праходы да якіх ведалі нават не ўсе мясцовыя жыхары. Там была захавана бяззбройная частка загнаных у пушчу людзей — старыя, жанчыны і дзеці. «Невад» таксама не ўсюды даставаў да дна. Невялічкія, паасобныя групы партызан рассыпаліся перад наступаючай сілай, зарываліся пад тоўстыя аўчыны ляснога моху, а на балотах пакрываліся куп'ём і, зліўшыся з прыродай, трывалі там датуль, пакуль па іх цягнулася сетка варожых салдат.

Больш таго, была яшчэ адна не прадбачаная фашысцкім штабам акалічнасць. Некаторыя з тых, каго яны мелі на ўвазе, гаворачы пра «большых партызанскіх рыб», зусім нечаканым, імклівым ударам прарывалі «невад» і выходзілі з пушчы ў тыл сілам блакады.

Яшчэ адно, галоўнае з галоўнага, было таксама не ўлічана ворагам

дастаткова. Гэта — пачуццё радзімы, пачуццё вялікай, непераможнай еднасці савецкіх людзей, якое жывіла кожную групу, кожнага партызана.

Быў свой, вялікі, родны партызанскі свет. Для колатага, хто насіў гордае званне народнага мсціўца, асяродкам гэтага свету была яго група ці аддзяленне, ці ўзвод. За гэтым цэнтрам, найменшым, былі большыя цэнтры: узводы ў атрадзе, атрады ў брыгадзе, брыгады ў злучэнні. Энская пушча як база злучэння ва ўсе бакі — ляскамі, пералескамі і родным полем — злучалася з іншымі масівамі беларускіх лясоў, дзе таксама былі партызаны. На поўнач, поўдзень і ўсход злучэнні беларускіх партызан дзейнічалі поруч з народнымі мсціўцамі іншых братніх рэспублік. Такім чынам ствараўся ён, магутны партызанскі свет, частка непераможнага, усенароднага фронту змагання з фашызмам.

Недарэчная думка аб тым, што раптам мог загінуць гэты свет, магла ўзнікнуць сярод яго найменшай часткі — трох партызан з разгромленай разведкі — толькі таму, што гэтая частка адчула сябе адарванай ад роднага свету і па нейкі час паддалася страху.

Тым часам яе баявая сям'я, брыгада «Сокал», давала ворагу адпор. Увесь гэты дзень на подступах да пушчы кіпеў гарачы, няроўны бой. Бой з ворагам, які пераваляў і колькасцю і ўзбраеннем. Толькі ноччу, калі высветлілася, што фашысты прарвалі партызанскі фронт далей на поўнач і абыходзяць сокалаўцаў з тылу, брыгада пакінула пазіцыю. Адышоўшы за ноч у глыб лесу, на досвітку яна павярнула крута на поўдзень. Штаб вырашыў намацаць там найбольш слабое месца ў варожым кальцы, прабіць гэта кальцо і выйсці ў тыл варожым сілам.

На ўскраіне Чорнага балота сокалаўцы спаткалі трох партызан і жанчыну з дзіцем. Яны ішлі на захад, у той бок, дзе — як яны спадзяваліся — і сёння стаіць яшчэ на Нёмане іх брыгада.

— Хто вёў? — ціха, прыгнуўшыся з сядла, спытаўся камбрыг, пачуўшы сумную гісторыю пра лёс сваіх людзей.

Яму было дваццаць пяць год. З той ночы, калі ён апусціўся па гэтую зямлю з парашутам, прайшоў толькі год. Атрад «Сокал» вырас у брыгаду, а камандзір яе заслужана насіў далёка вядомае імя — Грозны. Аднак знешні выгляд камбрыга ніяк не пасаваў да гэтага імені. Чарнявы, дробны хлапчына ў кубанцы заўсёды быў вясёлы, просты ў абыходжанні.

Ён заклапочана глядзеў з сядла на трох разведчыкаў і ціха пытаўся:

— Хто вёў?

І вось тады сталася так, што малы, каржакаваты Серада, чырвоны

ад напружання і страху, ступіў наперад і далажыў:

— Учора вёў я, таварыш камбрыг. Хавацца вёў. Спалохаўся, як баба...

— Ты пра сябе гавары, пра мяне гавары,— перапыніў яго маўклівы Тадорын Іван.— Якраз мы з табой бабы, а не яна...

Ён паказаў на Ліду з малой на руках.

Тут грымнуў смех. Яны смяяліся — да чорта стомленыя, непакорныя, свае!.. Смяяліся з коней, смяяліся спешаныя, смяяўся і сам камандзір.

Аднаму Жэньку было не да смеху. Ён толькі памятаў пра цэлы дзень, пра цэлы дзень адступлення ў той мох, куды іх вёў Серада. Ён чуў цяпер сяброўскі дружны смех, і, здаецца, дарэчы было б праваліцца.

— Ну, Саковіч, нічога, здаралася і такое,— сказаў яму камбрыг.

— Саковіч сёння вёў, таварыш камандзір...— пачаў, ізноў падцягнуўшыся на «смірна», Серада.

— Я ведаю і сам,— перапыніў камбрыг.— Саковічу трэба каня. Несцярэнка,— звярнуўся ён да свайго ад'ютанта.— У трэцім узводзе вазьмі. Ну, і гэтым сокалам... таксама,— і ён паказаў з усмешкай на Івана і Сераду.— Хоць я з прыемнасцю паслаў бы іх у пяхоту. Пеша лягчэй заслужыць прабачэнне. Як, Серада?

— Я заслуяеу, таварыш камандзір...

— Даволі! Ведаю і сам.

Заставалася толькі пачуць каманду — паперад! Ды камбрыг не забыўся яшчэ аднаго.

— Што, кажаце, зробім з жанчынай? — спытаўся ён. Ніхто не гаварыў аб гэтым, Грозны сам запытаўся і сам адказаў: — Жанчыну, вядома, тут не пакінем. Толькі і з намі ёй няма чаго рабіць. Ану, паклічце мне Дзеда.

— «Дзед»,— гэта быў брыгадны старшына. З Грачанікаў, адной вёскі з Серадой і адной з ім прафесіі — лесаруб. За сорак год валацужання з сякерай стары вывучыў пушчу добра.

— Што, Дзед, да Праглай адгэтуль далёка? — спытаўся камбрыг, калі з'явіўся старшына.

— Адгэтуль трэба пад сонца ісці,— адказаў Дзед, доўга не думаючы.— Да Чортавага акна будзе добрая кіламетра. А там балотам кіламетры са тры... А што?

— Як што? А сем'і нашы дзе? І трэба туды завесці вось гэтую цётачку з дзяўчынкай. Здаецца, дзяўчынка?

— Дзеўка, дзеўка, таварыш камбрыг, а як жа,— адказала Ліда і першы раз сёння ўсміхнулася.— Мая партызанка. Свірыдава дачка.

Андрэя Свірыда.

«Дзеўка» болей не плакала: яна з заклапочаным выглядам прагна смактала кавалачак брыгаднага хлеба.

— Ну што ж, як трэба, дык трэба,— сказаў, хвіліну падумаўшы Дзед,— Но хочацца, праўда, ды дзеўкі шкада. І І ў ты, Андрэеўна, ідзі да мяне.

Верачка надзіва даверліва працягнула ручкі і нават сказала Дзеду: «ня».

— О, брат, не бойцеся,— прагудзеў Дзед,— яна ведае, з кім сябраваць. У старшыны не толькі хлеб,— у яго і скварка знойдзецца. Што, пойдзем?

— Ну дык што ж,— нібы схамянулася Ліда,— дай вам божа, шчасліва, таварышы дарагія.

Яна працягнула руку камбрыгу, Серадзе, Івану і некалькім іншым хлопцам, што стаялі бліжэй. Калі ж дайшла да Жэнькі, нешта як быццам падумала ці ўспомніла, бо нечакана аберуч абняла яго і моцна, як брата, пацалавала.

— Які ты, Жэня...

І заплакала.

— Ну, цалавацца дык цалавацца, а плакаць чаго? — прагудзеў з усмешкай Дзед.

Сказаўшы гэта, ён рушыў, а потым спыніўся.

— Шчасліва, хлопцы! — ужо не сказаў, а крыкнуў, бо насустрач ім паплыў, затупацеў жалезны, конны грымячы паток.

— Шчасліва, Дзеду! — крычалі коннікі,— Глядзі там — толькі грыбоў не аб'ешся!

І зноў смяюцца, ужо на рысях,— непакорныя, слаўныя хлопцы!

*1940 -1952*

## ЛАЗУНОК

Позняя ноч. Пад нагамі паскрыпвае свежы, марозны снег. Безліччу дробных крупінак ён іскрыцца пад ціхім і сумным святлом вулічных ліхтароў. Час ад часу прагудзе аўтамашына або, выкрасаючы дугой сінія іскры, прагрукаціць амаль зусім пусты трамвай.

Над цёмнымі руінамі і рэдкімі агнямі горада зноў, як да вайны, пераклікаюцца гудкі заводаў. У адказ ім з вакзала або з далёкай ускраіны даносіцца не менш задорны гудок паравоза.

Вялікія вокны друкарні напоўнены яркім святлом. Яны будуць свяціць усю ноч.

Гэты вялізны, уцалелы ад бамбёжак і пажараў гмах стаіць ціха, без зычных гудкоў. Толькі зусім блізка праходзячы каля яго, можна пачуць нутраны, нрыглушаны сценамі гул, вельмі надобны да шуму марскога прыбою.

Гэта гудзе друкарскі цэх.

Суцэльным гулам ракочудь вялізныя ратацыённыя машыны — камбайны друкарскай справы. Сіпяць і ляскаюць малыя руплівыя «амерыканкі». Да суму аднастайнымі раскатамі гудуць машыны, што называю цца плоскімі. І шум нагадвае марскі прыбой. Не толькі шум! Гледзячы ўздоўж лініі дзесятка гэтых машын на тое, як з-пад вальцаў узад ды наперад з мерным грукатам раскачваюцца талеры,— зрокам памяці бачыш, як кішыць на пяску пена, як неспакойна варушыцца галька, як пырскаюць угару ўсплёскі хваль, у бяссільнай злосці штурмуючы валуны...

Думы і вобразы заключаны ў металёвыя радкі набора.

Палосы — старонкі будучай існігі — таксама строга і стройна заключаны ў форму. Па спускавой дошцы на барабан спаўзаюць белыя аркушы. Чорныя вальцы раз-пораз убіраюць пад сябе нагружаны наборам талер. З барабана на доўгія лучыны «пальцаў» сплываюць аддрукаваныя аркушы. Побач з машынай няспынна расце стапа паперы.

Падлетак Міхась Лазунок першую ноч стаіць каля плоскай друкарскай машыны. Ён увесь напоўнены радасцю працы над кнігай.

Праўда, найбольш складаная і адказная частка работы зроблена без Міхася. Майстар сам спусціў і прыправіў форму, сам адрэгуляваў накладку, сам зрабіў заліўку і змазку машыны. Міхасю засталося толькі стаяць ды глядзець — наглядаць за спраўнасцю друкавання. Аднак, нягледзячы на гэта, хлопец адчувае сябе бадай што зусім паўнаякасным майстрам.

З вышыні сваіх пятнаццаці год ён важна глядзіць на машыну. Вось яна і вялізная, і хітрая, і шмат чаго ў ёй ён не паспеў дагэтуль зразумець, а ўсё ж такі яна поўнасцю падначалена яму. Варта толькі павярнуць вось гэтую ручку ў адзін бок — і ўся гэтая музыка спыніцца, у другі — пойдзе зноў.

Апрача таго, хто ж яму тут перашкодзіць уяўляць сябе майстрам? Сапраўдны, значыцца дарослы, майстар Іван Сымонавіч стаіць ажно каля трэцяй машыны. Абапал Міхася стаяць такія сэмыя, як ён, падлеткі. Усе яны — былыя вучні рамесніцкай школы паліграфістаў, першы выпуск пасля вайны. Іх школа знаходзіцца тут жа, на першым паверсе. У друкарні не хапае рабочай сілы, і таму іх выпусцілі са школы датэрмінова, у канцы першага навучальнага года. Яны паспелі прайсці толькі палову курса. Ды і гэты год не быў належна выкарыстаны з-за розных Непала дкаў. Шмат часу заняла прыборка памяшкання і ўстаноўка вучэбных машын, зімой было страшна холадна. І ў выніку — яны прыйшлі ў друкарню амаль што навічкамі. Аднак, гледзячы на іх, можна думаць, што кожны з іх таксама, як Міхась, лічыць сябе ледзь не майстрам. Дык чаму ж Міхасю не лічыць?

Міхасёву сталасць даказвае яшчэ і тое, што сам Іван Сымонавіч паставіў на талеры, збоку набора, яшчэ адно неабходнае слова: «Лазунок». Унізе кожнага аркуша стаіць лічба 3, а тады — «Якуб Колас. Дрыгва». Лічба 3 — гэта чарговы нумар друкарскага аркуша. Якуб Колас — гэта імя і прозвішча пісьменніка, які напісаў кнігу пад назвай «Дрыгва». Слова «Лазунок», Міхасёва прозвішча, пастаўлена на полі аркуша дзеля таго, як сказаў майстар, што Міхась лічыцца сёння, на трэцяй змене, адказным за якасць друку. Якуб Колас адказвае за тое, як напісана кніга, а Міхась Лазунок — за тое, як яна будзе надрукавана. І як тут пасля гэтага не ганарыцца?

Звыш усяго, як апошні доказ Міхасёвай сталасці, да яго прыстаўлена памочніца — Люда Міронччык, таксама з іхняга выпуску. Яна шмат большая за Міхася, а ўсё ж такі стаіць каля яго толькі прыёмшчыцай. Так што можна нават час ад часу, з ахвоты, зрабіць ёй сякую-такую заўвагу. Міхась даўгавата глядзіць на тое, як Люда здымае са стала аддрукаваныя аркушы і адносіць іх на стапу. Усё ў яе ідзе як трэба. І за што б учапіцца?..

— Цётка,— кажа нарэшце Міхась,— вы, можа, паменш хапалі б?

— Што? — пытаецца Люда, не дачуўшы праз гоман машын.

— Што, што... Паменш, я кажу, адбірай.

— А што табе да гэтага? Баліць?

— Як гэта што? Прыёмка павінна быць спраўнай. Не ведаеш, мусіць.

— Ай-ёй! Які ж ты зрабіўся начальнік! Глядзеў бы от лепш на сябе.

Ну што ж, прыёмшчыца яўна недысцыплінаваная. Ате «начальнік» не мае больш у запасе адпаведных сваёй годнасці слоў, і таму ён вырашае проста прамаўчаць. Ён кладзе ў кішэні зашмальцаваных портак чорныя ад змазкі і фарбы рукі, важна цыркае слінай праз зубы і адыходзіцца ад машыны.

Міхасёвым суседам справа, каля машыны № 7, стаіць Толя Касёнак, больш вядомы па хатняй мянушцы — Цыган.

Толя старэйшы за Міхася на адзін толькі год, але вышэйшы ён нават за Люду. Наогул увесь іх выпуск — сто сорак хлопцаў і дзяўчат,— усе большыя за Міхася. Затое яго і празвалі Бабашкай[1] яшчэ на пачатку вучобы, як толькі пачалі знаёміцца з прабельным матэрыялам.

Бабашка, не вымаючы з кішэняў рук, важна глядзідь на верхні аркуш Цыгановай прадукцыі. Таксама мне работа! Падумаеш —нейкія бланкі друкуе! Черная рука пакідае цёплую кішэню і перагортвае адзін, другі аддрукаваны аркуш. Тое самае! Бабашка зноў кладзе руку ў кішэшо, зноў важна цыркае слінай праз зубы і нейкі момант думае над тым, як тут найлепш сказаць Цыгану аб перавазе такой, скажам, прады, як друкаванне трэдяга аркуша «Дрыгвы», над усімі відамі дробных друкарскіх формаў — усімі гэтымі бланкамі, квіткамі... Ён толькі хоча пачаць, як раптам праз гул машын даносіцда сур'ёзны голас дарослага:

— Эй, хлопец!

Гэта — майстар. Бабашка, выхапіўшы рукі з кішэняў, лётам ляціць да машыны.

— Ты што, на рабоце ці на рынку? — пытаецца Іван Сымонавіч.

— На рабоце, таварыш майстар,— больш пакорна, чым разгублена, адказвае Міхась.

— На рабоце, брат, так не стаяць. Гэта што?

Майстар паказвае рукой на тры пакамечаныя аркушы.

— Гэта, таварыш майстар, брак,— яшчэ больш пакорна адказвае Міхась.

Больш тут нічога не скажаш. Машына як быццам у нейкай змове з Іванам Сымонавічам. Так усё было спраўна, а як толькі Міхась адышоўся, «пальцы» чамусьці няўдала прынялі два лісты, скамячылі іх, а трэці ліст наогул сышоў з барабана парваны. І майстар таксама спрытны: умомант заўважыў!..

Як толькі Іван Сымонавіч адышоўся, Міхась з цвёрдым намерам

---

[1] Бабашка — металічны брусочак, ніжэйшы за наборную літару, які ўстаўляецца ў набор, каб зрабіць такім чынам прабел.

больш ні на крок не адыходзіцца ад сваёй машыны, пачынае сачыць за працай «пальцаў».

— Таварыш майстар! Таварыш майстар! — чуваць ціхі, прыглушаны гулам машын голас. Міхась чуе яго, але не адварочваецца. Ён ведае: гэта Люда. Яна стаіць каля папяровай станы, адвярнуўшыся, і толькі прыкідваецца, што нешта робіць.

— Міхаіл Бацькавіч!..

Міхась робіць выгляд, што гэта яго не датычыцца.

— Таварыш Лазунок, што гэта ў вас? Няўжо брак?

Далей Люда не можа трываць: яна садзіцца на стапу і звонка смяецца.

Хочучы давесці дзяўчыне, наколькі вышэй ён стаіць над усім гэтым блазенствам, Міхась пачынае высвістваць, робячы зусім абыякавы выгляд.

Пасля крыху супакоіўшыся, ён заціхае і задумваецца.

...Ат, ісолькі там гэтага браку! Аднак...

Аднак у памяці зноў паўстае, як жывы, той самы дзядуля...

Было гэта больш за месяц таму назад, яшчэ ў школе. На перапынку Міхась з нуды прадзьмухаў у абмерзлай шыбе акна невялікае круг лае акенца. Стала, нарэшце, і не выходзячы з класа, відаць, што робіцца на вуліцы. Людзі ідуць. Прайшло тры машыны. Два салдаты ў кажухах праехалі на санях каля самага тратуара. А потым Міхась зацікавіўся толькі дзядулем. Ен ішоў тым бокам вуліцы, уздоўж высокага шэрага плота. Спаважна ступаў па снезе, апіраючыся на кіёк.

— Зірні,— сказаў Міхась гэтаму самаму Толю Цыгану.

— Вось прыдумаў, Бабашка! І рад яшчэ, як невядома што! — сказаў Цыган. А ўсё ж прыгнуўся да Міхасёвага акенца і пачаў цікаваць.

— Дзядулю бачыш каля плота? — спытаўся Міхась.

— Бачыш, бачыш... Я яго знаю, не толькі што бачу. Гэта ж, Бабашка ты, Якуб Колас. Ён у друкарню прыходзіў аднойчы. Мне тады завуч паказваў. Відаць, новую кніжку прыносіў. О, паглядзі,— сказаў Толя, зноў прыгнуўшыся да акенца,— ён і цяпер у друкарню ідзе. Вунь і папка пад пахай, таксама як той раз...

Дзе там глядзець у акенца! Міхась хапіў шапку і выбег на ганак.

Дзеля таго, каб Якуб Колас звярнуў увагу на маленькага друкарскага вучня, хлопчыку трэба было хаця б прывітацца. А ён стаяў, дашчэнту разгубіўшыся ад захаплення. Ды дзе там, зрэшты! — толькі ад прывітання, можа, нават і Кол асу цяжка было б здагадацца, што рабілася ў той час у Міхасёвай душы... Дзеля гэтага трэба было б

шмат аб чым расказаць.

Нерад усім трэба было б сказаць, што ў гэтай маленькай друкарскай Бабашцы, нягледзячы на яго пятнаццаць год, жыве зусім сталае сэрца. І аб тым расказаць, дзе і як яно, гэтае сэрца, так хутка паста лела.

Фашысцкія бомбы не далі Міхасю скончыць нават чацвёртага класа. Замест школы хлопчык пайшоў з бацькамі ў лес, да партызан. Расказваць бы пра тое, як ён сядзеў у балоце ў час апошыяй блакады, як яго там знайшла і выцягнула за нагу аўчарка... Фашысты спачатку білі яго таксама, як усіх дарослых, а потым разам з дарослымі везлі ў таварным вагоне. Сёння ён ведае, што іх тады везлі паліць у печах трасцянецкага лагера смерці. Тады ён гзтага не ведаў, таксама як не ведаў ніхто з дарослых. Не ведаў, але не хацеў, каб яго вёз некуды пракляты, ненавісны фрыц. Бабашка скочыў у прыадчыненыя дзверы вагона, куляўся, быццам падстрэлены заяц, з высокага насыпу пад адхон. Па ім стралялі — але дарзмна.

Пасля трэба было б яшчэ расказачь пра тое, як ён вярнуўся дахаты, у спаленую вёску. Толькі з мамай і Верай, старэйшай сястрой, бо тата іх адразу пайшоў удагон за ворагам. Расказаць бы пра тое, як маленькі чатырнаццацігадовы хлапчук ішоў сюды цэлых сорак кіламетраў пеша. Лідзія Пятроўна, настаўніца, прачытала ў газеце, што тут адкрываецца школа, у якой будуць вучыць друкаваць кніжкі. І ён адразу пайшоў. Як ён блуісаў па вуліцах зусім незнаёмага горада, паку ль не знайшоў сабе сякога-такога прытулку!.. Як ён думаў пра хлеб, пакуль для іх не наладзілася сталоўка.! Як ён мёрз у сваім летніку, пакуль ім не выдалі форменнай вопраткі!.. Расказаць аб гэтым трэба было б хоць бы для таго, каб давесці, што ён, Міхась, нічога не збаяўся. Што вось дамогся свайго: ён тут хутка закончыць вучобу і будзе па-сапраўднаму друкаваць кніжкі. Надрукуе тады і дзядулевы — усе тыя казкі і вершы, што так хвалявалі калісьці малога Міхаську...

Трэба, безумоўна, трэба было б пра ўсё гэта расказаць. Але Бабашка не асмеліўся, ды і не паспеў. Ён так разгубіўся, што нават не змог прывітацца.

Вялікія вокны друкарні зусім замураваныя дзівоснымі ўзорамі дзеда-мароза. За імі — над горадам — позняя ноч. А ў цэху — гул машын, аднастайны, як гоман марскога прыбою.

З-пад барабана на доўгія лучыны «пальцаў» няспынна плывуць аддрукаваныя аркушы. Маленькі друкар Міхась Лазунок сочыць за імі і марыць.

...Ашто, каб цяпер — адчыняюцца раптам дзверы і ўваходзіць той

самы дзядуля. Яшчэ больш: ён падыходзіць сюды, да машыны, і спачатку не кажа нічога, а проста бярэ верхні аркуш і моўчкі глядзіць. І толькі ўбачыўшы, як спраўна Міхась Лазунок друкуе яго Талаша, дзядуля кажа: «А як жа ты называется, хлопча?»

«Ох ты, таксама надумаўся! — прыемна ўздрыгвае Міхась, як быццам прачынаючыся ад салодкай дрымоты.— Чаго ён пойдзе сюды так позна. Зрэшты, без пропуска яго і не ўпусцяць. Ды і наогул ніколі ён сюды і не хадзіў...

А чаму б яму і не прыйсці? — зноў вяртаюцца цёплыя мары.— І пропуска яму ніякага не трэба: яго сам дырэктар прывёў бы. Тут я кнігу яго друкую, дык як жа яму не зірнуць! А што, як, і праўда, цяпер...» Ох, вы, мары! Неверыцца, не верыцца, а потым зноў — цік! — і пaглядзіш на дзверы. Немагчымае здасца настолькі магчымым, што па ўсім табе раптам забегаюць салодка-казытлівыя мурашкі. Апусціш над працай галаву — і здаецца, што вось ён, дзядуля, стаіць над табой і глядзіць... Зробіцца неяк горача-горача, добра-добра. Проста так-такі і верыш, што вось ён стаіць...

— Ну, памочнік, як справы?

Ох ты!.. Ну, чаго, гэта ж майстар. Іван Сымонавіч глядзіць на Міхася і ўсміхаецца.

— Бачыш,— кажа ён, памаўчаўшы,— глядзець трэба пільна, уважна, а задумвацца лішне каля машыны не варта. Наша, брат, справа з табой такая, што мы нічога асаблівага не прыдумаем. «Дрыгвы» мы, братка, з табой ке напішам. А за гэтую штучку дык нам будзе брыдка.

Скажы ты, і як ён заўважыць: гэтая «штучка» — маленькая доўгая плямка паміж радкамі слоў.

— А я, таварыш майстар, не заўважыў,— зусім вінавата гаворыць Міхась.

— Нічога, паробіш хоць з палавіну майго — заўважыш...

Іван Сымонавіч паварочвае ручку матора ўлева, і вялікая машына паслухмяна спыняе працу. Пакуль ён, запаліўшы над высунутым талерам лямпачку, шукае і выраўноўвае ў ірабельным матэрыяле тую «штучку», якая робіць зусім непатрэбную ў кнізе плямку, Міхась сочыць за працай яго вялікіх запэцканых рук.

— Таварыш майстар...

— Ну?

— Ці можна мне ўзяць адзін такі ліст дахаты? Чытаць.

— А ты любіш чытаць? — пытаецца майстар, не адрываючы позірку ад работы.

Яму, відаць, зусім неўпрыцям, што гэтым пытаннем ён закрануў найбольш жывое месца ў душы свайго памочніка.

— Ого! — радасна кажа Міхась.— Я чытаю, таварыш майстар, вельмі многа. Бо вось вам — зірніце сюды.

Іван Сымонавіч перастае стукаць і глядзіць на Міхася.

— Працуем мы, таварыш майстар, восем гадзін. Застаецца — шаснаццаць,— гаворыць Міхась. На слове «восем» ён загінае адзін палец, а на «шаснаццаць» — два.— Шаснаццаць гадзін я свабодны. Ну, дык вось і чытаеш.

Іван Сымонавіч умее заўважаць, І цяпер ён адразу заўважае, што галоўнае тут — не «шаснаццаць гадзін»...

— Табе б, малец, вучыцца,— кажа ён, пазіраючы ў вочы Бабашкі.

— А я і найду,— усцешана адказвае Міхась.— У вячэрнюю школу для дарослых.

Пакуль майстар, выпрастаўшыся, папраўляе заключку, Міхась вырашае нарэшце спытацца ў яго пра сваё найбольш важнае.

— Дзядзька,— кажа ён, першы раз сёння выходзячы са службовага тону,— скажыце мне, а гэтае вось слова... ну, прозвішча мае на лісце, яно і ў кнізе застанецца?

Майстар і тут адразу здагадваецца, у чым справа.

— Вядома, застанецца,— кажа ён.— На тое мы яго і паставілі, каб засталося.

Гаворачы гэта, Іван Сымонавіч неяк дзіўна ўсміхаецца. Але Міхась не заўважае гэтага...

Некалькі дзён пасля гэтага галоўны рэдактар выдавецтва, падпісваючы да выпуску ў свет першы, так званы «сігнальны», экземпляр новага выдання аповесці Якуба Коласа «Дрыгва», зрабіў тэхнічнаму рэдактару заўвагу.

— Наогул, уражанне даволі прыемнае,— гаварыў ён, гартаючы кнігу.— Чаму, аднак, паважаны Лазар Міронавіч, мы з вамі ніяк не можам поўнасцю пазбавіцца недахопаў? Хоць два, хоць адзін, хоць маленькі,— а ўсё ж такі павінна нешта быць. Вось і тут: няма чаго іншага, дык хоць абрэзку сапсавалі. Ну, чаш гэта варта, зірніце.

Ён павярнуў разгорнутую кніжку бокам. На полі, даволі-такі далека ад краю, стаяла зусім непатрэбнае ў кнізе слова — «Лазунок».

— І тут вось, і тут,— гартаў старонкі галоўны рэдактар.

Убачыўшы яшчэ разоў некалькі тое лішняе слова, тэхрэдактар нарэшце згадзіўся, што гэта — хоць і нязначны, але таксама недахоп.

Згадзіцца з гэтым ніяк не змог бы толькі той, чыім прозвішчам было гэта «лішняе ў кнізе» слова. Дзе там лішняе! Міхась ледзь дачакаўся таго дня, калі ў кіёску з'явілася «Дрыгва» — першая кніга, у стварэнні якой ён прымаў иепасрэдны ўдзел.

І вось яна нарэшце ў яго руках!

Іван Сымонавіч не ашукаў: на палях кнігі ажно вунь колькі разоў паўтараецца Міхасёва прозвішча. Пусціш старонкі з-пад пальца — дык толькі і мільгае: Лазунок, Лазунок, Лазунок... Шкада толькі, што сям-там яно прыхвачана нажом, як быццам распілавана наўздоўж. Ну, ды гэта — драбніца! Бываюць і горшыя недахопы.

Бабашка доўга стаіць каля кіёска, бясконца гартае кнігу, і ўсмешка не сходзіць з яго вачэй.

*1947*

## ЛІПА І КЛЁНІК

*Галі*

1

Зялёны домік дарожнага майстра стаіць каля самай шашы.

Праязджаючы тут на машыне, на хаду можна заўважыць толькі зялёныя сцены, зялёны плоцік, белыя ліштвы вялікіх акон і стракаты чарапічны дах. Потым абапал дарогі зноў пабягуць дрэўцы прысадаў, тэлеграфныя слупы і за слупамі то поле, то лес...

Не заўсёды заўважыш з машыны, што ў гэтым прыгожым, адзінокім доміку жыве Ліпа, дзяўчынка, якой нядаўна пайшоў пяты год.

Спачатку, калі яна прыехала ў гэты домік, Ліпе было вельмі цікава стаяць пры дарозе, махаць рукамі на кожную машыну і на кожную з іх нацкоўваць свайго неразлучнага сябра — старога калматага сабаку Дзіка.

Аднойчы Ліпа нават не вытрымала: паплявала ў маленькія жмені таксама заўзята, як гэта робяць хлопчыкі, разагналася і пабегла па другі бок шырокай-шырокай і гладзенькай, як стол, асфальтавай паласы. Яна не дабегла і да палавіны шашы, як раптам з-за горкі — адзін і другі раз — сярдзіта загудзеў сігнал машыны. Маленькія босыя ножкі занылі ад страху. Ліпа затупацела на месцы, а потым заплакала: «Мама!» Машына спынілася, і шафёр, адчыніўшы дзверцы кабіны, хацеў нешта крыкнуць. Але Дзік накінуўся на яго з такім злосным, абураным брэхам, што дзядзя шафёр сам спалохаўся, залез назад у машыну і паехаў далей.

З таго часу Ліпа ніколі больш не адважваецца без таты ці мамы пераходзіць на той бок шашы. І наогул цяпер яна вельмі рэдка стаіць пры дарозе. Хіба толькі тады, калі на шашы ідзе адразу вельмі шмат машын ці паўзе і грукоча, аж вушы баляць, які-небудзь вялізны, замурзаны цягач.

2

Мама з татам паехалі ў горад разам, але ўвечары мама вярнулася адна. Ды затое яна прывезла Ліпе такі дарагі і доўгачаканы падарунак — пушыстую белую шубку.

Мама апранула сваю залатую дзяўчынку, трапяткімі ад радасці пальцамі зашпіліла ўсе гузікі шубкі, а тады падхапіла малую на рукі, павярнула тварыкам да лямпы і з захапленнем крыкнула:

— Ах ты, Снягурачка!..

І Ліпа адразу забылася на той смутак, што тата вернецца толькі

заўтра. Яна захацела адразу ісці ў новай шубцы гуляць. Ды мама сказала, што позна, што ноч на дварэ, а мароз сёння гэтак кусаецца, гэтак цісне!.. І Ліпа пахныкала трохі, а потым згадзілася. Ну, добра, яна пачакае, пакуль зноў будзе дзень, няхай толькі мама дазволіць не скідаць сёння шубку ўвесь вечар.

Мама пасмяялася і дазволіла. Але ў хаце было цёпла: спалохаўшыся марозу, бабуля спаліла ў грубцы вялізнае бярэмя бярозавых дроў. Неўзабаве Ліпа скінула новую шубку, а сама лягла і пачала чакаць, калі ж нарэшце прыйдзе дзень.

Яна паляжала, падумала трошкі, а потым спыталася:

— Мама, а клёніку сёння ці холадна, мама?

3

Клёнік рос на тым баку шашы, цераз якую Ліпе няможна было пераходзіць. Рос не адзін, а разам з іншымі дрэўцамі, якія ў гэтую восень былі пасаджаны абапал дарогі з гасцінца ў калгас. Там былі клёнікі, ліпкі, бярозкі. Былі нават чатыры яблынькі і адна груша. Яны раслі адразу за клёнікам, які пасадзіла Ліпа...

Ну, не зусім сама, бо яна толькі трымала яго над ямай, пакуль два хлопцы прысыпалі карэнне клёніка зямлёй.

Хлопцы завуцца Ўладзік і Шура. А яшчэ там былі і Міхась, і Марылька, і Волечка... Ой, як многа дзяцей, ажно цэлая школа!

Спачатку яны садзілі, а Ліпа стаяла ў адчыненай фортцы зялёнага плота і глядзела туды, за шашу. Прыслухоўваючыся да дзіцячага гоману, вялізны Дзік раз-пораз прыпадымаў галаву, плюшчыў вочы ад сонца і дабрадушна малаціў хвастом па штакетах адчыненай форткі. А Ліпа гэтак хацела туды, да дзяцей.

І дзеці як быццам адчулі гэта. Яны падышлі да шашы і пачалі крычаць:

— Дзяўчынка! Дзяўчынка, а ён не кусаецца?

— Не-е! — гукнула Ліпа, устаўшы на пальчыкі. — Наш Дзік малых не кусае!

— Дык ты ідзі да нас! Будзем дрэўцы садзіць?

— А мне тата казаў не хадзіць за дарогу. І мама казала!..

— А мы цябе перавядзём!

Два хлопцы — якраз тыя самыя Ўладзік і Шура — перабеглі цераз шашу, узялі Ліпу за рукі і, баязліва азіраючыся то на вялізнага калматага сабаку, што бег за дзяўчынкай, то на прыгорак, з-за якога магла паказацца машына, асцярожна пайшлі па асфальце.

Цёця настаўніца, якая была трохі далей, каля іншай чародкі дзяцей, спачатку накрычала на хлопцаў за тое, што яны прывялі

сюды маленькую дзяўчынку без дазволу яе мамы ці таты, а тады ўзяла Ліпу на рукі, пагаварыла з ёй і зусім так, як мама, пацалавала і ў адну і ў другую шчочку.

А дзеці выбралі Ліпе самы меншы і самы найлепшы клёнік.

Ён стаіць цяпер недзе ў полі, прывязаны перавяслам да слупка, трымаецца гэтай саломеннай ручкай за апорыну, як той маленькі хлопчык, што сам не ўмее хадзіць. А на дварэ гэтак жа холадна, а ў полі гэтак жа шмат снегу!..

— Мама, — пытаецца Ліпа, ніяк не могучы заснуць, — а калі я пайду пагляджу яго, мама?..

4

На досвітку па пругкіх гурбах снегу за сцяной асцярожна зашастаў заяц.

Пачуўшы яго, у сенцах зялёнага доміка стары калматы Дзік насцярожыўся, нездаволена пабурчаў і, нарэшце, зусім зазлаваўшы, пачаў брахаць, нібы стукаць у бубен:

— Бум! Бум! Бум!

Знячэўку спалоханы заяц падскочыў, кінуўся ўбок і стралой паляцеў па гурбах.

Уранку Дзік доўга пятляў па заячых слядах вакол доміка і невялічкага саду, а потым некуды знік.

І вярнуўся ён толькі тады, калі ў адчыненай фортцы зялёнага плота, шчасліва жмурачы вочы ад сонца, ужо стаяла Ліпа — Снягурачка ў белай пушыстай шубцы.

Дзік падышоў да Снягурачкі і, як заўсёды, прытуліўшыся да яе, падставіў сваю вялікую галаву пад маленькую руку дзяўчынкі, нібы хочучы сказаць:

«Дзень добры, Ліпа. Пагладзь мяне трошкі, пачапай мае доўгія вушы».

— Ану цябе! — сказала Ліпа, надзьмуўшыся. — Ты мне шубку забрудзіш. Пайшоў!

І, выняўшы руку з пушыстай, таксама беленькай муфты, піхнула Дзіка ад сябе. Але Дзік не пакрыўдзіўся.

«Вось бачыш, якая ты! — замахаў ён хвастом. — А я толькі хацеў табе нештачка паказаць».

І тут ён раптам падскочыў ад нейкай, аднаму яму вядомай радасці, пачаў кружыцца, прысядаць на пярэднія лапы і клікаць:

«Бум! Бум! Бум! Ідзём! Ідзём!»

Ліпа засмяялася і пабегла за ім па чысценькім, бліскучым снезе.

5

У тым, што Ліпа зноў не паслухала тату і маму — зноў адна перабегла шашу, — сёння вінават быў Дзік. Ён забег на той бок і пачаў, прысядаючы, клікаць:

— Бум! Бум!

А потым яшчэ вінаваты і сонца, і новая шубка, і снег. Гэтак радасна, гэтак хораша, гэтак цёпла! Ліпа падумала трохі, яшчэ раз азірнулася назад, а потым, выняўшы з муфты рукі, пабегла. Бягом перабіраючыся цераз глыбокія, узорыстыя каляіны аўтамашын, яна спатыкнулася і ўпала цёплымі ручкамі ў снег. Адразу спалохалася — ён жа такі казытлівы, пякучы, — а потым засмяялася і пачала крычаць:

— Дзік! Дзічок, пачакай, я іду!

Калматы Дзік не толькі пачакаў сваю маленькую, пушыстую і белую як снег сяброўку, — ён вярнуўся назад і пабег з ёю разам. Яны перабеглі шашу, апынуліся на вузкай, абсаджанай дрэўцамі дарозе, і тады раптам Ліпа ўспомніла нешта, спынілася і сказала:

— Дзік, а вунь дзе мой клёнік! Вунь дзе, вунь там... От дурны, і не ведае.

Ліпа стаяла на цвёрдай, утаптанай коньмі дарозе, а Дзік — за дрэўцамі, на цаліне.

— Бяжым, бяжым, Дзічок, сюды!

Але Дзік толькі ведаў сваё: перад ім, быццам нейкі ўзор, зноў слаўся панадны, хвалюючы заячы след. Той самы, па якім ён нядаўна забег так далёка ў поле, амаль да самага лесу. Таго самага зайца, што швэндаўся ноччу за іхняй сцяной.

— Бум! Бум! Бум! — забрахаў Дзік, задзёршы ўверх вялікую вушастую галаву, і на яго, на сабачай, мове, гэта азначала: «Не, лепш сюдой! Сюдой!»

Ды Ліпа не паслухала яго: яна пабегла дарогай. І толькі каля самага клёніка звярнула на цаліну, прабегла трошкі, не пратоптваючы шэрымі валёначкамі пругкую, заскарыненую гурбу, а потым спатыкнулася і зноў упала цёплымі ручкамі ў снег. Аднак не заплакала. Яшчэ ўсё шалпочучыся ў снезе, яшчэ ўстаючы, яна закрычала:

— Клёнік, міленькі, як ты жывеш?..

6

З сініх вачэй Снягурачкі адна за другой пакаціліся дзве гарошыны буйных слязін. А потым яшчэ і яшчэ дзве...

Ліпа не плакала б — Ліпа не плакса! — ды вось нехта нягодны

зламаў два маленькія дрэўцы. Не клёнік, а тыя яблынькі, што пасадзілі Волечка і Шура. Не зламаў, а абдзёр і пагрыз увесь ствалок і паабламваў усе галінкі.

Каб супакоіць Ліпу, Дзік дабрадушна матлошыць хвастом, пераступае з нагі на нагу і, задзіраючы ўгору вушастую галаву, разгублена паскавытвае... Ну, і як тут давесці малой, што нядобры і брыдкі — той самы заяц, што ва ўсім вінавата старая, якая не выйшла адчыніць Дзіку, не выпусціла яго, а толькі, не злазячы з печы, пастукала ў сцяну, каб ён маўчаў... А цяпер вось — глядзіце!..

Дзік спачатку бурчыць, а потым, зусімззлаваўшы на зайца, пачынае брахаць: «Бум! Бум! Ну, пачакай, пападзешся, вушасты!» — лаецца Дзік на сваёй мове.

Але Ліпа не хоча яго зразумець.

Раптам яна перастае плакаць, выцірае вочы кулачкамі ўжо халодных рук, хавае кулачкі ў муфту і кажа, таксама як тата, зусім па-даросламу:

— Дзік, на цю, на!

Асцярожна сыходзіць з цаліны на дарогу, яшчэ раз азіраецца назад, туды, дзе мама і бабуля, а потым то ціха, спаважна ідзе, то зноў вымае з муфты ручкі і бяжыць... Бяжыць не да хаты, а ў той бок, дзе зусім недалёка для тых, хто ўжо вырас вялікі, стаіць новая школа.

Следам за Ліпай бяжыць вялізны, калматы Дзік. На гэты раз зусім паслухмяны, ні разу не збочваючы з дарогі і не забягаючы наперад.

7

Марознай зорнай ноччу на шашы то прасунуцца ціхія сані, то зноў прамчыцца машына. Далёка чуваць, як пад дугой патрэньквае стары званочак, яшчэ далей разносіцца і гул і фыркание матораў. Затуліўшыся ў цёплай кабіне ці падбягаючы, каб сагрэцца, за саньмі, людзі гутараць, кураць, маўчаць.

А тым часам у ціхім зялёным доміку, каля самай дарогі, спіць Снягурачка.

Новая шубка і муфта вісяць цяпер у шафе.

Калматы Дзік ляжыць у сенцах. Ён то злосна бурчыць праз сон, відаць, успамінаючы нешта непрыемнае, то зноў прыслухоўваецца, ці не лазіць па снезе той самы шэры, вушасты нягоднік...

А Ліпа спіць.

І сніцца ёй, што заяц зноў прыбег да прысад па калгаснай дарозе. Хацеў абгрызці яшчэ дзве яблынькі, якія пасадзілі Маечка і Ўладзік. Ды ўсе дрэўцы стаяць ужо ў пушыстых саламяных шубках. Ліпа сказала, і дзеці прыйшлі, паабвязвалі яблынькі саломай. Тады заяц

вырашае абгрызці Ліпін клёнік. За тое, што яна хадзіла ў школу. Але клёнік таксама ўжо не баіцца зайца. І яго абвязалі саломай — у шубцы і ён. Стаўшы на заднія лапы, заяц пнецца дастаць галінку. А клёнік, як той малы, што сам не ўмее хадзіць, плешча ў ладкі такімі, як Ліпіны ручкі, лістамі і весела, звонка смяецца.

І Ліпа смяецца таксама. Смяецца праз сон. Яе зноў вязуць цераз шашу на санках, таксама як удзень. Цягнуць санкі і Шура, і Ўладзік, і Волечка... Многа многа дзяцей, ажно цэлая школа! Дзік бяжыць паміж імі і весела, галасна брэша: «Бум! Бум!» А потым цёця настаўніца бярэ Ліпу на рукі, аддае яе маме і кажа:

— Вы не злуйце на Ліпу, яна была ў нас. Сёння Ліпа — вялікая цаца!

А клёнік яшчэ ўсё смяецца і плешча ў маленькія ладкі...

*1948*

# ЖЫЎ-БЫЎ ВОЖЫК

Пачынаецца казачка так.

Жыў-быў вожык у лесе, а потым узяў ды памёр...

Ды не той, пра якога хачу расказачь, а другі, зусім іншы — вялікі, стары.

А нашага Тупалу тата зловіў у лесе і прынёс у кішэні дахаты. І гэта не казка, а праўда.

Я быў тады яшчэ такі малы, што нават не хадзіў у школу.

Тупала быў таксама малы, круглы, як шэры клубок, і калючы.

Тата вярнуўся з лесу і сказаў:

— Ну, Лёнік, я прынёс табе яблыка.

Ад радасці я забыўся, што яшчэ вясна, што яблыкаў яшчэ няма, і ўсадзіў руку ў татаву кішэню.

— Ай! — ускрыкнуў я, укалоўшы аб нешта пальцы.

І хацеў ужо нават заплакаць, але тата мой засмяяўся.

— Дзівак чалавек, укалоў ды злуецца! — сказаў ён.— Ды гэта ж лепей за яблыка, ты паглядзі!

І ён выняў з кішэні маленькі калючы клубок.

Спачатку вожык наш ніяк не называўся. Ён нават разгортвацца не хацеў: як палажылі яго ў кутку, пад матм ложкам, так і ляжаў. Не на голай падлозе, а на імху. Тата сцягнуў граблямі са страхі старога хлява тры купіны моху, паслаў у кутку — і выйшла пасцель.

Мох зялёны, пушысты і цёплы. А шэры клубочак ляжыць на ім і ніяк не хоча разгортвацца. Я наліў яму ў сподак малака і паставіў каля самага моху. А вожыку хоць бы што...

Тады я лёг побач з ім на падлозе і хацеў ляжаць, пакуль ён не разгорнецца.

На дварэ змяркалася, і пад ложкам рабілася цёмна.

— Дурненькі ты,— сказала мама.— Ты яго толькі не чапай, ён і сам малако тваё знойдзе.

І праўда, толькі я лёг у ложак і ў хаце зрабілася ціха, як у куточку пад ложкам нешта ціхенька заварушылася і пачало вось гэтак чмыхаць:

«Ту-ту-ту-пых! Ту-ту-ту-пых!..»

А потым па дошках падлогі затупадзелі маленькія мяккія ножкі.

— А што, не гаварыла я,— сказала мама,— Не палохайде яго, дык ён і малако пачне хлябтаць.

І праўда, мы памаўчалі, і неўзабаве пачулася, што нехта маленькі хлебча. Не так, як кот, а так, як парасяты,— плямкае.

— Ой, тата, я пагляджу!

Тата даў мне запалкі. Я ціхенька злез на падлогу, укленчыў, нагнуўся пад ложак і выняў з карабка запалку. Але як толькі яна чмыхнула і засвяціла, каля сподка я ўбачыў той самы калючы клубочак.

Ды ён ужо ляжаў не на імху, а на го лай падлозе, і малака ў сиодачку было менш, як раней...

Клубок тупацеў усю ноч, і за гэта мы пачалі называць яго Тупалам. А за тое, што ён хутка перастаў баяцца і не згортваўся больш, калі я пазіраў на яго, я ніколі не забываў даваць яму есці.

Спачатку даваў толькі малако, а потым аднойчы разбіў яму на сподак яйцо. Тупала лішне не казырыўся — панюхаў трохі і пачаў хлябтаць.

З нашым цюцікам Мурзам ён не хацеў сябраваць. Як толькі ўбачыць яго — у клубочак, і ўсё. Шчанюк спачатку хацеў панюхаць вожыка: дакрануўся носам да шэрых іголак, заматаў галавой і фыркнуў — не спадабалася. Тады ён прысеў, абняў клубочак лапамі і паспрабаваў яго ўкусіць. Але зноў укалоўся, ды гэтак балюча, што зазлаваў і пачаў уядацца, брахаць. Скакаў, скакаў вакол клубка, а потым яшчэ раз асмеліўся дакрануцца. Ударыў клубочак лапай, як кот па мячыку, заскуголіў, адбегся і лёг.

«Добрыя гулі,— хацеў ён сказаць,— я забаўляцца з табой хачу, а ты — нягодны, колешся».

Ды ён не сказаў гэтага, а толькі лізаў сваю лапу і скардзіўся, хныкаў.

Вусаты Фядот любіў грэцца на сонцы, калі яно свеціць у хату. Сядзе на падлозе, зажмурыцца і мурлыча. На Тупалу ён і глядзець не хацеў, не толькі што з ім гуляць. І нават калі клубочак разгарнуўся аднойчы, сам падышоў да ката і, наставіўшы лычок, панюхаў, наш Фядот толькі лыпнуў спрасонку вачыма, і ўсё. Сядзіць сабе, дрэмле, мурлыкае.

Няма з кім Тупалу пасябраваць.

І стала волсыку сумна.

У кухні нашай жыла квактуха з куранятамі. Спачатку яны былі маленькія, нібы камочкі жоўтага пуху, і ўсё пішчалі, дзёўбалі тварог і мітусіліся па земляной падлозе кухні, як сонечныя зайчыкі. А потым падраслі, квактуха начала вадзіць іх на двор і толькі начаваць прыводзіла ў кухню. Сядзе пад лавай, затуліць іх крыламі, яны паціўкаюць трохі і спяць.

І вось Тупалу стала зайздросна. Уночы ён ціха залез пад квактуху, прымасціўся пад цёплым крылом і давай ад радасці варушыцца. Кураняты прачнуліся і заціўкалі. Квактуха хацела пашкадаваць іх, мадией прытулілася крыламі і раптам закрычала так моцна і так

спалохана, што ўсе мы ў хаце прачнуліся.

Як толькі мама запаліла лямпу, квактуха ўсхапілася, сонныя кураняты з піскам рассыпаліся па кухні, а ў кутку, на тым месцы, дзе яны сядзелі, застаўся шэры калючы клубок. Квактуха пазнала яго, узлавалася і дзюбнула — моцна, балюча.

— Ну, вось,— казала мама, выносячы Тупалу з кухні,— вось ты і зарабіў. Бачыш, чаго табе захацелася, жэўжык!

Каб жэўжыку было весялей, я зняў аднойчы са сцяны люстэрка і паставіў яго на падлозе. А ён ужо тупаў па хаце і ўдзень, не баяўся нікога. Падышоў да люстэрка, наставіў лычок, паглядзеў і надзьмуўся. Каб пастрашыць таго, што ў люстэрку. А той, што ў люстэрку, надзьмуўся таксама, і вось яны абодва разам зрабілі:

«Пых!»

Мы засмяяліся, тата і я, а вожык вельмі здзівіўся. Што такое?.. Паглядзеў, паглядзеў у люстэрка, асцярожненька дакрануўся чмысікам да шкла і як быццам усё зразумеў. Адышоўся і больш не глядзеў у люстэрка.

Тады тата сказаў мне:

— Лявон...

Заўсёды мяне называлі Лёнікам, але як толькі тата хацеў пагаварыць са мной, як з дарослым, ён гаварыў мне Лявон.

— Ведаеш што, Лявон,— сказаў ён тады,— давай выпусцім вожыка, га?

— А навошта? — здзівіўся я.

— Як навошта? Ён пойдзе да іншых вожыкаў.

— Ну і што?

— Як што? Зробіць сабе хатку дый будзе жыць. І яму будзе там вельмі добра і весела, не тое што ў нас. Што ты скажаш, Лявон?

— І панясем яго з табой у лес?

— Навошта ў лес? Пусцім у грады, а ён ужо сам куды захоча, туды і пойдзе.

І мы занеслі Тупалу ў агарод. ...Кажуць, што ў той вечар я выйшаў на вуліцу і там, дзе стаялі мужчыны, сказаў:

— Добры вечар. Хочаце, я вам казку скажу?

— Ну скажы. І я сказаў:

— Жыў-быў вожык у лесе, а потым узяў ды памёр.

— Што, і ўсё?

— Ну, пэўна ж усё. У казцы. А нашага мы выпусцілі. Во!..

*1949*

# ЗЯЛЁНАЯ ШКОЛА

Маленькая, кучаравая дзяўчынка была апошнім дзіцем у беднай яўрэйскай сям'і.

Пра бацысу яе, шаўца Айзіка Фунта, раней гаварылі ў мястэчку: «Жыве чалавек — сямёра дзяцей, а селядца на ўсіх купляе аднаго». Анроч дзяцей была яшчэ жонка і цешча; цешча зусім старая, а жонка заўсёды хворая. Айзікаў варштат стаяў перад акном. І часта шавец, накінуўшы сукаць дратву ці заганяць цвікі, задумана глядзеў у акно і ледзь чутна нагіяваў сваю адзіную песню:

Фрылінг тог, майн голданэр...[1]

Толькі і песні было — чатыры першыя словы, ды песня заўсёды была пра вясну, нават калі за цьмяным акном стаяла сумная восень...

І залаты вясняны дзень настаў. Ды толькі ж пасвяціў ён нядоўга — праз паўтара года ў мястэчка прыйшлі фашысты...

Кожнай раніцы п'яныя паліцаі выганялі яўрэяў-мужчын на рынак і там на пацеху сабе наладжвалі дзікую муштру. Вярнуўшыся з рынку, Айзік цяжка садзіўся на калодку перад варштатам, глядзеў у акно, і работа валілася з рук... Хацелася зноў заспяваць сваю кароткую, сумную песню, але цяпер яна не ішла. Думкі бездапаможна таўкліся ў беднай галаве, а слёзы самі капалі часам на зрэбны шавецкі фартух...

— Які лес? Які вінтоўка? — шаптаў Айзік свайму суседу Міколу.— А як яны?

Ен ківаў галавою на хату, поўную дзяцей, а потым крычаў на малую, кучаравую дзяўчынку, што заўсёды была найбліжэй:

— Ася, ідзі да бабулі! Чаго ты тут стаіш?..

Дзяўчынка паслухмяна ішла за перагародку, а
бацька ціхенька паўтараў:

— А што з імі будзе, Мікола? З імі?..

І страшны дзень настаў.

Шэрай восеньскай раніцай мястэчка разбудзілі стрэлы і жудасны крык...

* * *

Асі цяжка сказаць, як гэта ўсё атрымалася. Дзяўчынка памятае толькі, як праз сон, што ўсе яны беглі паміж платоў і хат завулка, па гразі, а потым нехта падхапіў яе на рукі і панёс. Яна дрыгала нагамі і плакала: «Ма-а-мэ!» І толькі. ўжо ў хаце дзяўчынка патрохі зразумела, што з ёй.

---

[1] Вясняны дзень, мой залаты... (яўр.)

Чужая бабуля трымала яе на руках і, нахмурыўшы бровы, шаптала:

— Дур-на-я, дур-нень-ка-я, ціха!..

І Ася сціхла. Яна толькі ўсхліпвала і цяжка, глыбока ўздыхала.

— Лезь туды і сядзі,— сказала бабуля, падсаджваючы яе на печ.— Толькі ж глядзі — не плач, каб ніхто не пачуў. І не бойся, я зараз прыйду.

Ася паслухала і сціхла. Каб ніхто не ўбачыў, яна залезла ў самы цёплы куток на печы і з галавой накрылася дзяругай, а каб ніхто не пачуў — заціснула зубамі руку. Калі малая зусім сціхла і, адкрыўшы галоўку, пачынала прыслухоўвацца,— на камінку мурлыкаў шэры кот, а далёка-далёка за сценамі хаты чувацць былі стрэлы... Дзяўчынцы зноў рабілася страшна; яна забылася на суровы загад і голасна плакала.

— Ма-мэ! — клікала яна тую, хто самы найлепшы на свеце. А потым, згадаўшы таго, хто здаваўся ёй дагэтуль самым дужым, крычала: — Та-т-алэ! Та-тэ!

Ніхто не адказваў, ніхто не нрыходзіў. Стомленая ад плачу і разамлелая ад цяпла, дзяўчынка нарэшце сціхла зусім, заснула.

Прачнуўшыся, яна адразу не пазнала, хто сядзіць побач з ёй, хто глядзіць на яе. Бабуля яе не такая,— яна сівая, і галава яе вечна трасецца, нібы згаджаючыся з усімі: «гут, гут, гут». А гэтая, што глядзіць на Асю, не сівая.

— А дзе мама? — спыталася малая, не ўстаючы.

— На вось, выпі, пагрэйся,— падала ёй бабуля конаўку.

Ася паслухала, села і абхапіла пальчыкамі вялікую цёплую конаўку з малаком.

— А дзе мама? — перапытала яна, глытнуўшы некалькі разоў.

— Пі, пі яшчэ.

Ася выпіла яшчэ трохі і заявіла:

— Я хачу дахаты.

Бабуля паглядзела на яе, падумала нешта і спыталася:

— Ты чыя? Відаць, Айзікава?

— У-гу.

— А як жа ты завешся?

— Ася.

— Маленькая яшчэ зусім. Глядзі, што які-небудзь трэці гадок.

— Не-е, мне ўжо, мама казала, пяты.

— Пяты. Заморак ты. Жменя касцей...

І Ася ўспомніла раптам,— гэта ж тая бабуля, што насіла ваду на каромысле. І заўсёды, калі яна ішла па ваду, малыя бегалі навокал яе і

крычалі: «Зось, Зось, не зловіш нябось!» Яна то злосна маўчала, то, паставіўшы вёдры, трасла на дзяцей каромыслам і крычала: «Эх, неахвота толькі займацца!» Тады яна была вельмі страшная, а цяпер вось сядзела, глядзела на Асю, і Асі было зусім-зусім не боязна.

— А я ведаю, хто вы,— сказала дзяўчынка.— Вы — Зось. Вы насілі ваду на каромысле.

— Дурная ты,— адказала бабуля.— Зось — гэта каб быў мужчына, а я ж не мужчына. Я Зося, а дурні кажуць Зось. Ды што табе казаць — малая. Ляж ды спі.

«Зось» ступіла на лаву, з лавы — на падлогу і адышлася ад акна.

— Бабуля,— паклікала з печы дзяўчынка.

— Ну?

— А я дахаты хачу. Хачу да мамы.

— Твая мама сказала, каб ты пабыла ў мяне.

— А таталэ?

— І ён таксама казаў.

Дзяўчынка памаўчала трохі і спыталася зноў:

— Бабуля?..

— Ну?

— А мама прыйдзе сюды?

— Прыйдзе,— глуха адказала старая. Яна глядзела, прыгнуўшыся, у акно — на сырое, халоднае поле.

У хатцы ціха. Чуваць толькі было — на камінку мурлыкаў шэры кот.

— І тата прыйдзе, бабуля?

— І тата прыйдзе таксама,— адказала старая. Яшчэ цішэй.

* * *

Неяк зімой «Зось» разбудзіла дзяўчынку да свету. Каб Ася не здзіўлялася — чаму так рана, яна сказала, што пойдуць сёння далека-далека.

— Туды, дзе мама і тата? — спытала дзяўчынка.— Дзе бабуля? Дзе ўсе? Туды?

— А што ты думаеш, можа, і туды...

Яна не спала сёння ўсю ноч,— сядзела і думала, што ёй рабіць. Дагэтуль усё было добра. Хатка яе стаіць на ўскраіне мястэчка, дзе канчаецца доўгі Балотны завулак і пачынаюцца глінішчы. Хатка маленькая, з адным акном і бляшаным комінам, што вельмі падобны на старую халяву. Ніхто, можна сказаць, не заходзіў сюды, ніхто не жыў паблізу, апроч суседа Якава Мароза. Ніхто не ведаў, што ў Зосінай хаце хаваецца яўрэйскае дзіця. І яна не казала, здаецца, ніко-

му. Праўда, калі яна куды-небудзь ішла — насіць ваду ці пашукаць харчу казе,— Ася заставалася дома адна, пад замком. І вось нехта, відаць, падгледзеў.

Учора, калі яна зайшла да Марозавых, стары Якаў сказаў: «Асцерагайся, Зося. Баюся, што нехта пранюхаў...» Дома старая думала доўга і многа, а потым вырашыла так: «Скулу ім, злыдням,— не на такую натрапілі!..»

Яна дачакалася, што пачало шарэць, і разбудзіла дзяўчынку. Што будзе, то будзе, а чакаць далей нельга. Зося падаіла казу, напаіла Асю цёплым малаком і, закутаўшы яе як найцяплей, панесла прэч з мястэчка — далей ад гэтых нелюдзяў у чорных шынялях!..

«Сабакі, сабакі шалёныя»,— думала яна ідучы. Цяжка ступала па рыхлым адліжным снезе, горбілася пад цяжарам, што варушыўся за спіной, і ўпарта ішла, ішла... Калі нямелі рукі і дзяўчынка аб'язджала ўніз, Зося спушчала малую на снег, і Ася тэпала сама. Ды ісці было вельмі далека, і гэтак страшна станавілася ад думкі, што вось развіднее зусім і на бяду спаткаешся з якім-небудзь сабакам... Старая зноў брала дзяўчынку на плечы, «на барана», і толькі пыталася:

— Не холадна табе?

— Не-а,— адказвала Ася праз хустку, што закрывала ёй тварык на вочы.

— Не холадна, дык і сядзі,— гаварыла старая. І ўсё ішла, ішла...

2

Мінула больш года.

Прыйшла яшчэ адна ваенная вясна.

Вясна, кажуць, прыгожая ўсюды: і ў полі, і ў лесе, і ў горадзе. Ды з гэтым не згаджаўся партызанскі хлопчык Анатоль. І правільна думаў: вясна ў лесе — найпрыгажэйшая.

Праўда, сонца ўзыходзіць тут трошкі пазней, але гэта яшчэ лепш: пакуль яно паднімецца над лесам ды заблішчыць праз голле ў акенцы лагернай зямлянкі,— можна паспаць даўжэй, а потым нават лічыць, што і ты ўстаў вельмі рана. І наогул усё тут не так, як у вёсцы было. Там раніцай на вуліцы раўлі каровы, а тут яны недзе пасуцца на паляне, і мама кожную раніцу ходзіць туды з вядром. Анатоль спіць на пасцелі з яловых лапак, засланых дзяругай, а сонца ўжо даўно глядзіць у акенца. Сонца хоча, каб хлопчык устаў, і яно прыпякае яго. «Чыхнеш, чыхнеш, усё ж такі»,— смяецца сонца. І праўда — Анатоль не вытрымаў, чыхнуў. Але спіцца цяпер вельмі смачна, і хлопчык ласа мармыча нешта і паварочваецца на другі бок. Мама вярнулася з паляны, дзе ходзіць Падласка, амаль з поўным вядром малака. Мама

хоча таксама, каб хлопчык устаў, пакуль сырадой яшчэ цёплы. Яна казыча Анатолеву пятку, што высуну лася з-пад дзяругі, і, смеючыся, кажа:

— Ну, ну, ваяка, устаў бы, ці што...

Анатоль падцягвае нагу і нешта нездаволена бурчыць. Але мама казыча яго за вухам, і вось, зусім прачнуўшыся, ён устае і пытаецца:

— Тата прыехаў?

— Тата прыедзе заўтра,— адказвае мама.

— А хто сёння прыехаў?

Сёння на мове Анатоля азначае — гэтай ноччу. Амаль кожнай ночы хто-небудзь прыязджае ў лагер партызанскіх сем'яў, уцякаючы ад фашысцкага здзеку і смерці. Вельмі цікава бывае, калі прыязджае такая сям'я,— новыя людзі, новыя дзеці, будуецца новая зямлянка. Яшчэ цікавей, вядома, калі прыязджае сам тата. Тады можна пад'ехаць на сядле, патрымац ца рукамі за татаву цяжкую вінтоўку!.. Ды сёння ён не прыехаў.

— Сёння прыехалі з Пяскоў, адна сям'я. У Сымонавых начавалі.

— А зямлянку яны ўжо зрабілі?

— Ну што ты,— смяецца мама.— Як жа яны маглі зрабіць без цябе. Вось паснедай хутчэй ды ідзі.

Анатоль спяшаецца. Сёння ён зусім ахвотна падстаўляе тварык, каб мама памыла яго сцюдзёнай крынічнай вадой, больш, як заўсёды, выпівае малака, надзявае пілотку, бярэ свой «аўтамат», і вось ён ужо на дварэ. Добрай раніцы, сонечны лес!

Праз голле бяроз і алешын на кусты ляшчэўніку, на папаратнік, на мяккі, сыраваты мох кладуцца светлыя плямы сонца. Лісты на дрэвах варушацца, і цені на імху варушацца таксама. Вострыя верхавіны цёмна-зялёных ялін і святлейшыя шапкі яшчэ больш высокіх соснаў абліты яркім сонечным святлом. Шчабечуць птушкі, недзе далека кукуе зязюля, а недзе бліжэй — стукае сякера. Анатоль ведае,— гэта спускаю ць дрэвы на новую зямлянку. Чуеш — вунь ужо сякера не стукае, а шоргае піла. Чакай, чакай... Ага! Дрэва крактанула, зашумела галлём па галлі іншых дрэў, паехала ўніз і глуха гупнула на мох. Цяпер зноў чуваць, як чахкае сякера: дзядзька цярэбіць на зваленым дрэве галлё...

А дзе ж будзе тая зямлянка стаяць?..

І тут Анатоль заўважыў дзяўчынку. Зусім незнаемая дзяўчынка стаіць на дарозе і, адвярнуўшыся ад Анатоля, глядзіць угару, на сасну. Анатолю трэба пазнаёміцца з госцяй, але падыходзіць проста ён не хоча. Ён хаваецца за бярозу, настаўляе свой аўтамат, прыплюшчвае вочы і голасна, звонка крычыць:

— Трр! Трр! Трр!..

Усё атрымалася як найлепш,— дзяўчынка ажно падскочыла. Цяпер ужо можна і падысці. Анатоль бярэ аўтамат «на рэмень» і падыходзіць.

— Не бойся,— кажа ён,— я страляю толькі фашыстаў. Гэта я так — пастрашыў цябе.

— Ой, мамачкі,— усміхнулася дзяўчынка.— Буду цябе баяцца, такога маленькага. Я на птушку гляджу. Як яна называецца?

— Таксама мне — не ведае. Гэта ж дзяцел,— гаворыць Анатоль.— Бачыш, як ён падпіраецца хвастом?

— А нашы будуць рабіць зямлянку,— сказала дзяўчынка, усё яшчэ пазіраючы ўгару.

— А мой тата мінёр, ён фашыстам усе цягнікі паўзрывае. Ага!

— Майго таты няма,— уздыхнула дзяўчынка.— І мамы няма, і бабулі, і нікога...

— А хто ж там сячэ? — здзівіўся Анатоль.

— Гэта дзядзька Сцяпан. Я ў іх жыву. Даўно-даўно. Бабуля Зося памерла, дык я жыву ў іх. Я называюся Ася, а ты?

— Я — Анатоль. Раней мама казала Толік, а цяпер я ўжо вырас.

Ася паглядзела на хлопчыка і засмяялася.

— Ой, мамачкі,— сказала яна, як гаварыла заўсёды цётка Марыля, яе апякунка.— Ён вырас!.. Стане на палена, дык свінні па калена. Вырас!.. Маленькі ты яшчэ зусім...

Анатолю гэта не спадабалася.

— Няхай сабе і не вырас, а ў нас ёсць школа, ага!

— Якая школа?

— Якая школа? Зялёная!

— Зялёная! А хто ж яе пафарбаваў?

— Пафарбаваў... Нічога ты не ведаеш. Ідзём вось, пакажу.

— Ідзём!..

Ася ўзяла Анатоля за руку, і яны не пайшлі, а пабеглі.

3

«Зялёную школу» зрабілі нядаўна. Камісар брыгады, ён жа і сакратар падпольнага райкома партыі, прыехаўшы сюды, паглядзеў, што ў сямейным лагеры сабралася шмат дзяцей, і сказаў:

— Нам бы школу адкрыць, таварышы, га?

— Яно-то добра было б, Мікалай Іванавіч,— згадзіліся мужчыны.— А што ж і праўда, растуць яны тут у нас на лес гледзячы. Але як жа яе, тую школу, зробіш?.. Зямлянку хіба такую разбухаць — чалавек на сорак — пяцьдзесят?..

— Зямлянку,— усміхнуўся камісар.— А навошта зямлянку? Што, яны сонца не любяць або ў нас сонца няма? Зялёную школу зробім.

І вось партызаны прывезлі і парты, і стол, і сапраўдную школьную дошку. А пакуль яны іх прывезлі, старыя мужчыны з сямейнага лагера выбралі месца пад школу і згарадзілі велізарную павець. Праз сцены гэтай павеці відаць былі неба, і сонца, і лес,— бо і сцен тых сапраўдных не было, а проста падпоркі з бярозавых жэрдак. Каб школу не заўважылі з самалётаў, страха была з яловых лап, а падпоркі для хараства дзяўчынкі аплялі дзеразой і кожны дзень прыносілі свежыя кветкі. Заняткі ў «зялёнай школе» праводзіліся так: пісьмовыя пад павеццю, а вусныя — проста дзе-небудзь воддаль, на сонейку.

Анатоль прывёў дзяўчынку пад павець, дзе вучыліся цяпер малодшыя дзеці, такія, як Ася, і трошкі большыя. Іх убачылі праз дзеразу на жэрдках яшчэ здалёк. Дзяўчаткі і хлопчыкі ўжо не пісалі, а толькі глядзелі на іх. «Цёця Тоня», маладая настаўніца, сустрэла гасцей каля ўвахода ў павець.

— Новенькая,— усміхнулася яна.— Гэта ты сёння ноччу прыехала?

Яна прыгнулася і пагладзіла Асю па галаве.

— І вал асы ў цябе якія кучаравыя!.. А стужку ты сама завязваеш ці мама?

Тут ужо Анатоль больш не вытрымаў.

— У Асі мамы няма,— сказаў ён.— І таты няма. І нікога няма. Яна жыве ў таго дзядзькі, што робіць зямлянку. Я ведаю, я яе першы прывёў.

— Ты маладзец у нас,— сказала цёця Тоня.— Ты аўтаматчык. Мы цябе сёння пасадзім разам з Асяй, ты ў нас сёння таксама вучнем пабудзеш. Ну, ідзём.

Настаўніца падвяла малых да свабоднай парты і пасадзіла побач.

— Аўтамат трэба зняць і паставіць вось тут. Ён у цябе не выстраліць часам?

Дзеці засмяяліся. Ды Анатоль зусім спаважна зняў з плячэй сваю зброю і паставіў яе каля парты.

— Не стрэліць, не бойцеся,— сказаў ён.— Ён страляе тады, калі я страляю.

Дзеці засмяяліся зноў.

— Дык вось што, Асенька,— сказала цёця Тоня, калі сцішыўся смех.— Ты будзеш цяпер вучыцца ў нашай школе. Яна ў нас, бачыш, якая харошая! А колькі будзе сяброў у цябе, паглядзі.

Усе глядзелі толькі на Асю. Яна пачырванела, апусціла галаву.

— Школу сваю мы назвалі зялёнай,— сказала на стаўніца.— Яна не такая, як іншыя школы, бо яна партызанская. А мы ўсе — парты-

заны. І ты цяпер таксама партызанка.

— Глядзі—сарока,— штурхануў Асю Анатоль.

Ася падняла вочы. І праўда — сарока прысела на елцы, каля самай павеці, і заглянула праз жэрдкі ў школу.

— Скрэ-ке-ке! — здзівілася яна, убачыўшы так шмат маленькіх партызан.

— Сам ты сарока, Анатоль,— строга сказала настаўніца.— Ты ж у школе, ты сёння вучань, і дай мне, калі ласка, гаварыць. Дык вось, Асенька, вакол нашага лесу стаяць партызаны. Не такія, як твой Анатоль, а сапраўдныя — нашы бацькі, браты і сестры, з сапраўднымі аўтаматамі і вінтоўкамі. Яны абараняюць нас, яны знішчаюць фашыстаў, а мы тут — вучымся.

— Самалёт! — зноў не вытрымаў Анатоль.

І праўда — пачуўся гул самалёта.

— Нічога, Асенька,— сказала цёця Тоня,— ты не бойся. Яны лятаюць кожны дзень. Ды пад галінкамі яны не ўбачаць нашай школы. Мы толькі дожджыку баімся, бо тады наша зялёная страха цячэ, і мы бяжым дахаты.

Самалёт набліжаўся. Ен ішоў не над школай, а значна правей. Аднак Анатоль не вытрымаў.

— Фрыц, на цю, на! — закрычаў ён, і дзеці засмяяліся, а разам з дзецьмі і Ася.

— Ну, бачыш, Асенька, які ў цябе адважны абаронца, твой Анатоль! — сказала цёця Тоня.— Дадзім яму за гэта сшытак, як ты думаеш?

Анатоль паглядзеў на Асю. Эх, ведала б яна, як моцна хацелася яму хадзіць у школу разам з іншымі дзецьмі! І намагаўся ён пайсці ўжо колькі разоў, а толькі ўсё не прымалі, казалі — малы. А цяпер вось выходзіць так, што няхай толькі Ася згодзіцца — і цёця Тоня дасць яму сшытак. Даўшы сшытак, дасць, безумоўна, і аловак, бо як жа пісаць без яго? А з алоўкам і сшыткам ён будзе вучань таксама! Эх, каб толькі дзяўчынка згадзілася.

Дзяўчынка паглядзела на «аўтаматчыка», паглядзела на цёцю Тоню, здаецца, зразумела ўсё, усміхнулася і ў знак згоды кіўнула галавой.

Анатолю цяжка ўстрымацца. Яму хочадца крыкнуць «ура!» і выпусціць угару чаргу са свайго аўтамата, але ён маўчыць. А што ты думаеш,— возьмуць ды зноў адправяць дахаты... Калі ўжо вучань, дык вучань — цярпі!..

Коннік ехаў па пушчы адзін. Свяціла сонца, шчабяталі птушкі, а конніку было сумнавата. Ён глядзеў у зялёны гушчар, куды вілася лясная дарога, і на вусны яго прасілася песня.

Фрылінг тог, майн голдэнэр...—

заспяваў ён амаль зусім нячутна, і песня гучала не ў тон ні сонцу, ні вясне.

Вось ён зноў адзін, без баявых сяброў. А аднаму ды без работы, калі вось так — завёз пакет у штаб злучэння і цэлы дзень вяртаешся назад — не адмахнешся і не адпросішся ад успамінаў пра тую страшную раніцу, калі загінулі ўсе родныя, калі застаўся ён адзін — за калючым дротам, з жоўтай латкай на спіне...

Вясёлы гром, нібы грукат калёс, пакаціўся па небе. Коннік зірнуў угару. Над верхавінамі ялін, што ўздымаліся за палянай цёмна-зялёнай сцяной, уставала шэрая дажджавая хмарка. Часта бывае вясной, што чакаюць, чакаюць дажджу, а хмарка, як быццам гуляю чы ў хованкі, ціхенька падсунецца з-за небасхілу і ўжо тады, калі збіраецца сыпнуць дажджом, знячэўку скажа пра сябе гуллівымі перакатамі грому. Ён грукоча, а першыя кроплі — адна за адной — ападаюць ужо на лісце, на траву, на людзей...

З-за зялёнай яловай сцяны дыхнула на конніка вільгаццю. Адчуўшы першыя кроплі дажджу, плечы яго палахліва сціснуліся пад зношанай гімнасцёркай...

— Эй, Каштан!

Конь ахвотна пабег.

Але позна ўжо, позна — куды ты ўцячэш! Ды, зрэшты, і ўцякаць няма чаго. І сонца свеціць, і дожджык шуміць — любата!..

Эх, дожджык!.. Каб не ён — не збочыў бы коннік з дарогі туды, дзе зямлянкі, не спыніўся б пад дрэвамі! Каб не ён — не пакінулі б дзеці вучыцца, не загарнулі б сшыткаў з недапісаным словам і не пабеглі б дахаты!..

Яны высыпалі з-пад зялёнай павеці, нібы чародка гаманлівых вераб'ёў, імчаліся па вузкай дарозе, па імху, паміж мокрых бяроз і весела, звонка крычалі. Кучаравая дзяўчынка бегла навыперадкі са сваім «аўтаматчыкам» і, даганяючы яго, залівіста смяялася. Яна смяялася, а нехта голасна паклікаў яе, нехта крыкнуў так моцна, што дзеці спыніліся.

— Ася! Ася! — гукаў мужчына з вінтоўкай за плячыма. Пакінуў каня і бег насустрач, нізка расставіўшы рукі...

Не, ён не быў незнаемы для ўсіх, бо дзяўчынка пазнала, ускрыкнула і, апынуўшыся на руках у мужчыны, абняла яго шыю рукамі. Ён цалаваў яе, паўтараў адно толькі слова, а дожджык сыпаў на іх, а яна

пазірала на бацьку, і вялікае здзіўленне, нават спалох застылі ў вачах малой... Дык, значыць, цётка Марыля казала няпраўду, значыць, праўду казала бабуля Зося: тата, яе таталэ — прыйшоў!..

Яна прытулілася шчочкай да яго няголенай шчакі і з надзеяй спыталася:

— А дзе мама, бабуля? Дзе Ічэ, Ханачка, дзе ўсе?.. Яны таксама прыйшлі?

Партызан закружыўся вакол, нібы выбіраючы месца, а потым сеў на мокрую траву, не пускаючы з рук дзяўчынку. Ён нешта гаварыў, паўтараў ёй раз-пораз нешта адно, а слёзы самі каціліся... Ён выціраўся мокрым рукавом, а дождж усё шумеў...

Ужо не толькі дзеці стаялі навокал. Ужо нейкая цётка праціснулася праз натоўп і, убачыўшы на руках у незнаёмага дзяўчынку, амаль што крычала:

— Ой, мамачкі! Асенька, Ася, і няўжо ж гэта бацька?! Ды што ён — з неба зваліўся, ці што?!

— Гэта цётка Марыля,— паказала дзяўчынка рукой.— Я жыла ў іх, таталэ, доўга-доўга. А гэта — наш дзядзька Сцяпан! А яшчэ ў нас ёсць і Васіль, але ён у атрадзе.

Дзядзька Сцяпан з сякерай у руцэ,— ён не хаваўся ад дажджу, рабіў зямлянку,— падышоў да незнаёмага партызана бліжэй, паглядзеў і спытаўся:

— Твая?

Спытаўся, памаўчаў яшчэ, а потым сказаў:

— Ну што ж, пайшлі, брат, у хату. Мы пакуль у Сымона. Чаго тут будзем стаяць на дажджы.

* * *

Увечары, калі мама загнала нарэшце свайго Анатоля ў зямлянку і пачала распранаць, хлопчык спытаўся:

— Наш тата — мінёр, Асін тата — разведчык, а што лепш?

— Усё добра, сынок,— адказала мама,— абы тут немцаў хутчэй не было. А найлепш яно, хлопчык, тое, што вось дзяўчынка была сіратой, а цяпер і ў дзяўчынкі ёсць тата.

— А чаму ён забраў яе і павёз?

— Ну, чаму ж,— у іх жа там таксама ёсць сямейны лагер.

— А школы ў іх няма?

— Няма, дык будзе...

І пакуль яны так гаварылі, Ася была ўжо далёка-далёка. Яна сядзела з татам на кані і ехала ў дрымучы, цёмны бор. Насоўвалася ноч, але з татам было не страшна. Было толькі не вельмі зручна сядзець, і

тата часта браў яе вышэй на рукі. Тады яна зноў пачынала расказваць яму ўсё ад пачатку, урыўкамі, пераскакваючы з аднаго на другое. А таталэ маўчаў, задуманы.

Прытуліўшыся да яго, Ася заціхала і пачынала драмаць. Шумелі высокія сосны, руплiва тупацелі капыты каня, і, заплюшчыўшы вочы, дзяўчынка ўяўляла, што яна плыве на лодцы... Ася ведала гэтае пачуццё,— дзядзька Сцяпан неаднойчы перавозіў іх з цёткай Марыляй за Неман. Успамінаецца Асі, што яна таксама вось сядзела ў цёткі на руках і, як цяпер гамоніць сонны лес, тады гаманіла вада... А потым на зялёнай, сонечнай паляне з'явіўся той самы хлопчык з аўтаматам. «Не бойся, я страляю толькі фашыстаў»,— сказаў ён, а ўсе дзяўчынкі і хлопчыкі з «зялёнай школы» засмяяліся. Смяялася і цёця Тоня. Мілая цёця Тоня!.. Вось і Ася смяецца праз сон. Смяецца і адчувае, што нехта цалуе яе, хто — нсвядома, але гэта ўсё роўна,— напэўна ж, нехта вельмі добры. А потым чуваць і песня. І Ася прачынаецца...

— Ты спяваеш? — ціха пытаецца яна.

І партызану хочацца расказачь малой пра сваю небывалую радасць, гаварыць ёй, што ў нашай непераможнай краіне так многа добрых людзей, расказачь ёй пра ўсё... Ды ён чамусьці не знаходзінь адпаведных слоў. Ён толькі мацней прыціскае свой скарб да сябе і ціха-ціха гаворыць:

— Зараз, зараз, майн тохтэрл[1], прыедзем дахаты...

А потым зноў пачынае спявачь тую самую песню — пра залаты вясняны дзень. Цяпер яна гучыць, як калыханка.

*1950*

---

[1] Мая дачушка (яўр.).

## ДОМА

Знаёмая партызанская кузня. Колькі яна працавала тады на кавалёву сям'ю, а колькі на нас?.. Цяпер абкідана калгасным інвентаром. Гудзе горнам і звоніць кавадлам, як і заўсёды, неяк загадкава хвалюючы...

І каваль, як заўсёды, замурзаны, з усмешкай:

— Няўжо ж гэта, хлопцы, ужо шэсць год прайшло пасля вайны?..

Неман. Гаючая, родная прыгажосць. Успамінаецца той час, калі яна, гэтая прыгажосць, адчувалася і паколатымі, патрэсканымі нагамі. Маленства з вечнай аскомай ад няспелых яблыкаў, з назіраннем жыцця ў дробязях, знізу, калі многае, чаго не заўважаеш сёння, заўважаў і многае адчуваў мацней, без наўмыснага падыходу, без прывычкі залісваць, хаця б толькі вачыма.

Дзікі дзень на рацэ. Са спінінгамі — уніз па плыні, да краю пушчы. Печаная ў прыску, па-першабытнаму смачная шчупачына. То дожджык, то сонца, то вецер, што згортвае хвалі ў баранчыкі. Пясчаная сцежка ў мокрым лазняку. Крыўдна, недаравальна запусцелыя партызанскія могілкі... Халаднаваты, быстры брод.

Ад гэтага броду, ад пушчы хмары гналі нас у другую вёску.

На ўеходзе весела ззяла вясёлка, як сімвал ціхага жыцця, што так па-свойму адчуваецца ў гэтых шматпакутных мясцінах...

Першыя мэндлі. Шпакі пачынаюць лётаць чародамі. На выгане — вясёлыя пастушкі і дамавіты пах торфу ад іхняга вогнішча. Заходзіць сонца. Бусел вяртаецца з кунінай у дзюбе. Век жыві — век будуйся. З гнязда на загуменным вязе бусліха вітае яго гаспадарлівым клёкатам.

Бязмежныя, як неба, прасторы жыта. Дзе так нядаўна яшчэ стракацелі палоскі. Абозы сена. Навінка тут — трактары, грузавікі...

Ідылія вечнага і сучаснасці.

1951

## АХАЛІ-ГАГРА

Хмарная ноч. За акном шуміць мора. Быццам нехта бязмежна дужы хоча ўзабрацца на бераг, злізаць з абрыву наш дом. Ен, гэты нехта, не злосны,— у перакатах яго наступу чуваць хутчэй нават туга, да нуды аднастайная, шматгалосая жальба на лёс, што асудзіў вось так, для нейкай незразумелай мэты, шумець і шумець... Ласкавы, цёплы, пеністы шум. Кал і ты дужы і сам, ён пагайдае цябе на хвалях. Калі ж ты слабы — лепш не лезь, як блазен, угрудкі да здаравеннага дзядзькі, бо ён цябе толькі патрэпле вялікай рукой за чупрыну — заплюе твае ногі жарствой, паваліць і выкаціць разам і галькай на бераг. Нават скажа, здаецца: "Ну, ну!.." Так і гаворыць, так і чуваць у ягоным шуме панурая, нязлосная пагроза дарослага, які сумна заняты сваёй невясёлай справай і не любіць, каб яму перашкаджалі.

Днём яно, мора, пяшчотнае, сонечна-бірузовае.

Горы — цёмна-зялёныя. Ідзеш па беразе, забудзешся, дзе ты, і вось — праз зеляніну дрэў у садзе — убачыш, здаецца, хмару. Дождж будзе, ці што?.. І раптам успомніш, што гэта — Каўказ!..

Снегавых не відаць. Да самай вяршыні зялёнай гары ўзбіраюцца дрэвы, якія адгэтуль, з марскога берага, здаюцца кустамі.

Хмары над гэтай зелянінай, ці, лепш сказаць,— на гэтай зеляніне, здаюцца дымам вялікіх вогнішчаў, раскладзеных дзесьці ў тарах. Вогнішчы тыя доўга гараць, лена і безупынна падпускаючы адтуль на мора дым. Ды ён ніяк не хоча разлучацца з зелянінай гор...

Бязмежная паэзія, якую нашай лыжачкай не вычарпаць да дна.

* * *

Цясніны з сухімі, камяністымі рэчышчамі. Горная дарога, абапал якой то бамбук, то гранатавыя дрэвы з чырвонымі і пругкімі, як з воску, кветкамі, то дубы і грабы, то кусты ажыны. Каменныя домікі на высокіх падмурках. Дзіўна маленькія вуллі. Ослік стаіць на ўзбочны гары, ніяк не могучы прыдумаць, дзе б гэта напіцца... Карова звоніць бляшаным іржавым званком. Высвістваюць дразды. Козы пасуцца з мяшэчкамі на вымі, каб казляняты не ссалі іх без ведама гаспадынь. Стары абхазец, пастух у чувяках, падобных на скураныя лапці нашых пастухоў. Босыя хлапчукі ў цюбецейках. Загарэлыя, абавязкова вусатыя мужчыны волакам цягнуць на валах з гары тоўстыя, грымучыя бярвенні...

Радуле Сціейенскі, паэт не толькі за рабочым сталом, расказвае мне пра сваю далёкую Чарнагорыю. Цікавы чалавек — з яго прыемна калечанай рускай мовай, з яго маладосцю ў шэсцьдзесят год, з

разумным гумарам і веданнем гор.

Сардэчная паэзія далёкага маленства!.. Як ён, Радуле, калісьці прабіваў браню чарапашкам, звязваў іх, запрагаў у малую сошку і "араў". Як яму пахне адтуль пастушыная яда — авечы сыр, ляпёшкі і дзікі часнок...

Мы ідзём па камяністай, вузкай дарозе, апіраючыся на доўгія бамбукавыя посахі.

Далека ўнізе — мора з каёмкай пены каля берага.

Зялёныя вяршыні гор, абмочаныя знізу ў рэдзенькі студзень сівых воблакаў,— штораз бліжэй да нас, а ўсё ж — высока!..

— Добры дзень! — з натуральнай прыязнасцю вітае мой спадарожнік сустрэчную абхазскую бабулю. Засушаную, лёгкую, усю ў чорным. І зусім сур'ёзна пытаецца ў яе: — Скажыце, а ці далека яшчэ да Царграда?..

* * *

Ноччу была навальніца: гром над морам і стук дажджу па вялікіх л і ста х смакоўніцы.

Зранку хмары, яшчэ ўсё цёмныя, ішлі з мора на горы. Там, над вяршынямі, неба святлейшае, нават не-не ды пакажацца сонца. На захадзе — рэзка акрэсленая лінія марскога далягляду. На цёмнай вадзе — белыя баранчыкі, на цёмным небе — белыя чайкі.

Свежа, духмяна, прыгожа.

Апоўдні хадзілі ў горы.

У калючым ажынніку — чорныя, спелыя ягады. Назбіраеш жменю, глынеш — нібы глыток вясёлага віна. У засені магутных букаў, на вышыні шасцісот метраў, ляжаць сівыя, папярэшчаныя зялёным мохам камяні...

Добра закурыць на абрывам цясніны. І гутарыць "о временах грядущих...".

Добра гайдацца, учапіўшыся за пругкае голле бука.

Добра знайсці сцюдзёную крыніцу і прыкленчыць каля яе гаваркой вады.

Добра ўспомніць, што ўчора ты стаяў на носе

імклівага кацера і — паміж ціхім морам ды спакойным небам — адчуваў сябе вольным, як чайка!..

1952

## СНЯЖОК І ВОЛЕЧКА

Вельмі выразна і прагна, як той, хто стаміўся ад смагі, успамінаю драўлянае вядро, даверху поўнае празрыстай, халоднай вады. Мама нясе яго па двары, а са страхі злятае мой голуб Сняжок і садзіцца на край вядра. Вада ў вядры калыхаецца, і піць яе нязручна. Ды голуб п'е, а мама смяецца і ставіць вядро на зямлю.

Мама змарылася, жнучы ад рання, спяшалася дахаты, падаіць Падласку, пакарміць мяне, і зноў спяшаецца ў поле. Мы жывём першае лета без таты, і маме цяжка, а я — сірата. Ды я — мужчына, і хачу быць яшчэ большы і ўсё рабіць, каб маме было лягчэй. Я добра пасу, скрабу ўвечары бульбу, хаджу па дровы...

Бывае, праўда, і так, што я трошкі нашкоджу і мама злуецца. Аднойчы так засядзеўся над рэчкаю з вудай, што мама поцемку сустрэла мяне на лузе. Падласка сама прыйшла дахаты, і мама вельмі спалохалася, куды я падзеўся. А то мы раз з Міхасём, маім сябрам, пачалі віць адразу дзве пугі, і не было каму патрымаць нам вяровачкі, дык мы падлажылі абодва канцы пад вазон. Мы сабе толькі паплёўвалі ў рукі, вілі, а вазон усё ехаў на падаконніку, пакуль не гупнуўся на падлогу. Мама злавала зноў, а я зноў абяцаў, што не буду нягодны. І я стараюся, а мама верыць мне, што я хачу быць добры. Бо мама вельмі добрая сама.

Гэта ведае і Сняжок. Вада ў вядры памалу перастае калыхацца, і ён п'е, не адымаючы дзюбы.

— Перадыхнуў бы хоць! — гаворыць мама.— От дзе хіба рассохся. І праўду кажуць, што «цягнеш, як голуб».

Яна смяецца. Я сяджу ля вядра на зямлі, і гэтак мне добра глядзець на вясёлую маму. Таксама добра глядзець, што мой Сняжок сядзіць на краечку вядра, учапіўшыся за гэты край чырвонымі маршчыністымі ножкамі, а ў вадзе, чым больш яна аціхае, усё выразней адлюстроўваецца яго белае волле.

І вось ён нарэшце напіўся. Паглядзеў на нас, нашурпіўся, нібы са злосці, і скочыў у ваду.

— О, гэта дык гэта! — замахнулася мама.

— Ты не гані яго,— крычу я,— не гані! Няхай пакупаецца.

Кажу таксама, што я і сам прынясу, ды мама зноў смяецца.

— Ну, дзе там — ты прынясеш!..— гаворыць яна.— Здаравяка знайшоўся. І сама прынясу. Ды ён вады не замуціць: ён чысценькі.

Сняжок вады не замуціў. Калі ён скончыў купацца і мама паднесла вядро на парог хлява, Падласка зусім спакойна пачала піць.

П'е яна, таксама як голуб, прагна. Пакуль ён піў, яна глядзела з хлява, з-пад дручка, якім завалены дзверы, і нават мыкнула ад зайздрасці.

Падласка п'е, а мне прыемна глядзець, як хутка апускаецца ў вядры вада. Пасля карова чмакае пысай, цягнучы рэшткі вады, і ласа ліжа драўлянае мокрае дно шурпатым, казытлівым языком. Я люблю гэтае казытанне і таму падстаўляю малую далонь пад халодную мокрую пысу Падласкі.

— Я прынясу яшчэ,— кажу я,— прынясу!.. Ды мама не дае мне вядра.

— Прынясу я й сама.

А мой Сняжок тым часам ужо на страсе.

Ен ужо дакарае за нешта сваю галубку, сварыцца на галубянят. Яны сядзяць на тым баку страхі, ад сонца, і мне іх з двара не відаць. Відаць толькі Сняжок, які на самым хрыбце страхі. Ён надзімаец-ца і кружыцца ваўчком, і пад'язджае, як індык, і ўсё вурчыць, вурчыць!.. Я разумею, што ён кажа. Ён сварыцца на сваю белую сяброўку Волечку, якая залішне песціць малых.

«Нат-тур-ра, нат-тур-р-ра!—сварыцца ён.— Ім, гультаям, і нар-р-руку, а ты ім пат-тур-р-рай!..»

«Не гультаі, не гультаі, а гу-а, гу-а, гуленькі»,— гудзе ў адказ далікатная ціхая Волечка. Яна ўжо выйшла на хрыбет страхі і вытанцоўвае вакол свайго сварлівага гаспадара. «Куды лятаць, чаго лятаць,— стараецца абараніць дзяцей.— Яшчэ каршун, яшчэ куршун, а гу-а, гу-а, гуленькі!..»

«Які кар-р-шун? Які кар-р-ршун?» — яшчэ больш абураецца Сняжок.

Нарэшце, нібы выказаўшы ўсё, што ён хацеў сказаць, Сняжок узняўся, залопаўшы ў крыллі. За ім узляцела яго паслухмяная Волечка, а ўслед за імі — маладыя.

Маладых двое, і я нікому не кажу, што ўсё яшчэ ніяк не магу распазнаць, якое з іх — голуб, якое — галубка... Яны яшчэ пішчаць і часта лезуць да дзюбы бацькоў. Сняжок дарэмна бурчыць на іх, што гультаі,— яны лятаюць вельмі ахвотна.

Ды Сняжок ужо не злуе. Ен уздымаецца вышэй, вышэй, вышэй!.. Пасля спыняецца і, нібы ўчапіўшыся лапкамі за нейкую нябачную вяровачку, нацягнутую ў небе, пачынае заўзята куляцца. Куляецца ён вельмі спрытна, цераз спіну. Вяровачка, за якую ён учапіўся, мусіць, не адна,— яны нацягнуты, як тэлеграфныя драты. Сняжок, пачаўшы ад верхняй драціны, чапляецца за кожную — ніжэй, ніжэй, ніжэй, ніжэй! — а потым, усе перабраўшы, уздымаецца ўверх. Побач з ім

куляецца і кружыць белай пушынкай на ветры малая, спрытная Волечка.

Толькі малыя «гультаі», як называе іх Сняжок, не могуць яшчэ куляцца. Яны нясмела прысядаюць на распушчаныя хвасты, патрымцяць крыллямі, як жаўрукі, і зноў пачынаюць лятаць...

— А я гляджу, не магу наглядзецца.

* * *

Ён быў смелы і горды, мой голуб Сняжок.

Зімой, калі я, гразнучы ў тугіх сумётах, ішоў з суседняй вёскі і нёс яго за пазухай са звязанымі крыллямі і нагамі, я ніколі не думаў, што ён — ды такі забіяка.

Дагэтуль у нас галубоў не было. Волечку даў мне, на два дні раней, Міхась. Дзядзька Сцяпан, мамін брат, даючы мне Сняжка, гаварыў, што першую пару найлепш прывучаць у хаце. І ў нашай ха-це стала вельмі весела.

Сняжок і Волечка хутка знайшлі сабе зручны, зацішны куточак у запечку і пачалі рабіць гняздо. Тут ужо я дапамог,— церушыў ім ля печы салому.

І вельмі пацешна было, як яны валачылі яе, узяўшы саломінку ў дзюбу.

— Будуюпда,— казала мама.— Нібыта дзеравякі з лесу возяць.

А неўзабаве, усадзіўшы ў запек руку, я абмацаў пад голубам малое цёпленькае яйцо. Праўда, дабрацца да яго было не проста. Сняжок злосна гудзеў, кляваў мяне дзюбай і хлёстка, пякуча хвастаў крылом па руцэ. Але гэтым мяне не адгоніш.

А вось на другую зіму ён праз смеласць сваю і загінуў.

Яшчэ бгў люты, холадна было нават у хляве, дзе стаяла Падласка, а галубы ў старым, дзіравым ко-шыку, падвязаным пад лацінай, выседзелі галубянят... Пару маладых я ўвосені аддаў Міхасю, як мы і дамаўляліся з ім, калі ён даваў мне Волечку, і зімавала ў мяне толькі пара старых. Галубянят я заў-важыў не адразу, хоць і прыходзіў у хлеў штодня. Прыходзіў спачатку ўдзень, а пасля, калі наша Падласка прывяла цялятка, прыходзіў з мамай і ноччу. Мы зачыняліся ў хляве, я трымаў лямпу, а мама даіла карову. Як прыемна было пазіраць, што на чыстай саломе ляжаў, падкурчыўшы ножкі, расставіўшы вушы, пярэсты бычок! Як прыемна было слухаць, што ў даёнку дзюрчыць сырадой, які я хутка буду есці з хлебам, што над намі, устрывожаныя шумам і святлом, варушацца і гудуць у кошыку галубы!.. Днём я заўсёды прыходзіў глядзець, калі мама паіла Падласку або прыносіла ёй есці. А то заходзіў і так.

І вось аднойчы я пачуў у кошыку пад лацінай знаёмы піск... «Няўжо малыя?!» — усцешыўся і здзівіўся. Дык вось чаму яны, Сняжок і Волечка, апошнім часам усё сядзелі на змену ў кошыку, чаму ад-туль чуваць было іх радаснае гудзенне!

З катуха, у які мы клалі Падласцы трасянку з саломы і сена, мне ўжо не вельмі цяжка было дабірацца да бэлькі, а з бэлькі я, аберуч трымаючыся за кроквіну і ступіўшы на адну, тады на другую лаціну, далазіў да галубінага кошыка. Адной рукой трэба было трымацца, каб не ўпасці, а другой я палез у гняздо. Гэта было не проста,— Сняжок балюча дзёўбаўся і біўся крылом. А ўсё ж я абмацаў пад ім, на сагрэтай саломе, два цёпленькія, мяккія камочкі!.. Ад радасці я ўжо не злазіў з бэлькі на катух, а проста скочыў на гной і пабег з такой весткай у хату, а потым — да Міхася.

Ды радасць наша была не доўгая. Яе забраў Сымонаў кот Жандар.

Жандарам яго называла мая мама. Ён быў вялікі, пануры, вусаты і шкодны. Мы з Міхасём не любілі яго і ганялі, абы дзе сустрэўся.

Зладзюга ведаў, што акенца ў нашым хляве зімавала без шкла і мы затыкалі яго саломай. Падласцы было ад гэтага цяплей, але затое цёмна. Яшчэ горіп было сядзець у цемры, узаперці галубам. Калі адліжыла і засвяціла сонца, я выняў з акенца салому, каб усім у хляве стала лепш,— і Падласцы з пярэстым бычком, і галубам з галубянятамі... І вось Жандар прыпільтаваў, што я вярнуўся з коўзанкі позна, забыўся заткнуць акенца саломай, і ён залез у хлеў.

Сняжок загінуў з боем. Дзівак! Ён думаў, як і ад маёй рукі, адбіцца ад ката маленькай дзюбай і крыллямі...

Уранні я заўважыў ля хлява на снезе белы пух і пер'е, якога яшчэ больш было на гнаі, куды яно ападала з кошыка.

У кошыку былі адны галубяняты. Відаць, што кот залез туды на досвітку, бо галубяняты яшчэ не змерзлі, жылі, асабліва адно.

Яно і выжыла. Я накарміў яго з рота, сагрэў у руках і пасадзіў у запеку. Тады пабег да Міхася. Мы разам з ім падумаем, што тут рабіць. Галоўнае — злавіць і адвучыць Жандара.

Калі я выйшаў з хаты на двор, са страхі хлява ўзляцела, залопаўшы крыллямі, Волечка. Яна спалохалася нават і мяне.

Яна паляцела кудысьці, відаць, не могучы асмеліцца ўляцець у акенца хлява, і не вярнулася, мабыць, загінула недзе, бо я больш не бачыў яе, хоць і вельмі хацеў, каб злавіць і прынесці ў запечак.

* * *

Зноў вясна.

Зноў наш двор пацярушаны пялёсткамі белага цвету, што асыпаецца з вішань. Падласка ляжыць каля плота, на сонейку, спакойна глядзіць і перажоўвае жвайку. Яна заўсёды жуе, хоць не заўсёды ёсць што жаваць. Сёння мы з Міхасём пастараліся вельмі ўдала — прыпасвілі сваіх кароў на панскім лузе. Падласка і цяпер маўчыць, як змоўшчыца, як і зімой, калі я цішком дадаваў ёй у трасянку больш сена. Тады мама аднойчы злавіла мяне і палаяла, а цяпер я прызнаўся і сам, пахваліўся ёй нашай удачай.

«Асцерагайся, сынок,— сказала яна.— Пападзешся ім у рукі — не памілуюць...»

Ды я не баюся. Што гэты луг не панскі, а наш, вясковы,— я ўжо чуў, і не раз. Што паноў усё роўна не будзе — за год ці за два,— я ведаю таксама. Аб гэтым у нас гавораць і песні спяваюць. Іх не будзе, а нашы каровы цяпер ужо хочуць, каб мы іх напасвілі, і таму сёння мы з Міхасём — малайцы.

Я ўжо большы, чым быў летась, я сам выкручваю са студні вялікае драўлянае вядро з вадою, сам нясу яго поўнае ў хату і сам смяюся, успамінаючы хлопчыка Алеся, пра якога мы нядаўна чыталі ў вершы Якуба Коласа:

Ён дзяцюк, хлапчына,
Носіць ён вядро з вадою,
Як стары мужчына.

І вось я, мужчына, нясу ад студні поўнае драўлянае вядро вады, а са страхі злятае мой Сняжок і садзіцца... ужо не на край вядра, а проста мне на плячо. Бо гэта ўжо не той Сняжок, а сын яго, якога я выкарміў сам.

Я стаўлю вядро на зямлю і падстаўляю голубу далонь. Сняжок, нібы па тоўстай кладцы-бервяне, ідзе па маёй руцэ ад пляча на далонь і, спыніўшыся на далоні. пачынае вурчаць. Ен надзімаецца і кружыццаваўчком, і ўсё вурчыць, вурчыць мне проста ў твар!.. Я разумею, што ён кажа. Ён скардзіцца мне на сваю белую Волечку, якую я прынёс яму ад Міхася.

«Нат-тур-р-ра! Нат-тур-р-ра! — вурчыць, сярдуецца мой белы гадунец, гаворачы пра палахлівую сяброўку.— Ты не кар-р-ршун! Ты не кар-р-р-ршун!..»

— Не, не каршун,— смяюся я і гладжу Сняжка, каб супакоіць яго.

А маладая Волечка глядзіць на нас са страхі і, нібы ёй дрэнна відаць, паднімае раз-поразу ўверх сваю маленькую чубатую галоўку.

Эх ты, Сняжок! Ну, што за дзіва, што ты не баішся мяне? Ці даўно гэта было, як ты, яшчэ не могучы лятаць, хадзіў за мной па хаце, пішчаў і кланяўся, растапырыўшы крыллі, прасіўся на рукі? А ці

даўно ты, ужо на двары, таксама злятаў са страхі да мяне на плячо і лез з дзюбай у рот, прасіў есці? А сёння ты — вялікі гаспадар, герой, мужчына!

І ты ўжо кружышся, вурчыш, як твой бацька, вечна нездаволены буркун. Ану, пайшоў!

Я падкідаю Сняжка далоняй уверх. І разам з ім са страхі, палахліва залопаўшы ў кryллі, узлятае і Волечка.

І вось яны кружаць пад чыстым блакітным небам. Дабраўшыся да тых, нацягнутых уверсе і нікому нябачных дратоў, мой белы прыгажун чапляецца чырвонымі лапкамі за драціну і пачынае куляцца. Побач з ім куляецца і кружыць вакол яго белай пу-шынкай на ветры малая, ціхая, спрытная Волечка.

Няхай куляюцца! Ім будзе весела ў мяне, спакойна, добра. Жандар больш не разбурыць іх гнязда: мы з Міхасём адвучылі нягодніка. Мы парабілі цяпер такія галубнікі, што ніхто не далезе, ніхто не да-стане!

Гляджу — не магу наглядзецца.

*1952*

## ГАЛЯ

Калісьці, пры панах, гэта быў хутар. З шасцю дзесяцінамі добрага поля адразу за садам, з новым вялікім гумном, двума хлявамі і малой старасвецкай хатай. Без шчыта яна, наўкруг накрытая саломай, зялёнай ад моху, нізка насунутай на малыя прыплюшчаныя вокны. Так і глядзела на свет, як сам гаспадар, заўсёды зажмураны Данька, стары Хамёнак, бязлобая галава якога нібы ўрасла ў зімовую шапку — аблезлы, раней, калі верыць старому, гарадскі каракулевы каўпак.

Цяпер гэты каўпак недзе яшчэ ўсё валяецца на гарышчы, а сам Данька Хамёнак ляжыць на ўзгорку пад хвойкамі і муравой. Ад хутара застаўся толькі сад, скрыпучы журавель над зрубам студні і тая самая хата.

У хаце ад усёй Хамёнкавай сям'і ўцалела толькі нявестка Галя з дзецьмі, хлопцам і дзяўчынкай.

Спакойны жнівеньскі вечар. Сонца зайшло. Галін хлопец, падлетак Антось, пайшоў у поле да малатарні. На верхавіне старой ліпы за агародам пагасла чырвань на лісці; шпакі ўзняліся з голля і панеслі свой кірмаш у вёску. Пад паветкай за сенцамі, аддаўшы вячэрні ўдой, лягла на свежым подсціле карова. У хаце за сталом сядзіць чарнявая Сонечка, на поўны рот запіваючы хлеб сырадоем. Тонкія загарэлыя ножкі яе, як і ва ўсіх пастушкоў, папораны ржышчам. Сонечка памыла іх каля студні халоднай вадой, і ногі садзеюць да самых каленак. Яна то пацірае іх адна аб адну, то проста стрыжэ імі пад высокай лавай. Сонечка хоча гаварыць.

— Мамка, — кажа яна, — а сёння Лёня Сцяпанаў смяяўся з мяне. Ты, кажа, пані. Ты, кажа, хутаранка. А чаму? Чаму ён смяецца?

Галя стаіць, прыпёршыся да шафкі з посудам, амаль прысеўшы на яе. Над галавою Галі, на сцяне — стары гадзіннік. На запыленым цыферблаце яго напісана не нашымі літарамі нейкае слова. За ўсе гады, пакуль гадзіннік тут вісіць, ніхто нават не пацікавіўся, што яно азначае. Наогул па гадзінніку разбіраліся толькі мужчыны і Галя. Свякруха пражыла свае семдзесят год, ні разу не падумаўшы аб тым, якое сёння чысло... Даўжэйшая стрэлка гадзінніка адламалася яшчэ ў вайну, кароткая стаіць на адным месцы тыдні ўжо, мусіць, са тры. Жніво. Галіны рукі, загарэлыя да лакцёў, гудуць ад стомы. Галя яшчэ ўсё як быццам не дома. У памяці бясконцым ланцужком ідуць адзін за адным вузлы перавяслаў, закручаныя спрытнымі пальцамі, адзін за адным кладуцца на пожні цяжкія снапы. У вушах яшчэ цокат жняяркі, паасобныя словы, абрыўкі песень, смех, шум збажыны і шоргат іржышча...

— Мамка, чаму?

Галя прыпамінае словы дачкі.

— Чаму? — перапытала яна, яшчэ не гатовая да адказу. І Сонечка адказвае на пытанне сама.

— Мы, кажа, у вёсцы жывём, — гаворыць яна, жуючы, — а вы на хутары. І дзед твой быў пан, і тата пан, і ты таксама паненка.

— А ты скажы яму, што ён яшчэ дурны, — гаворыць Галя нейкім млявым, бяссільным ад стомы голасам.

Яна хацела гаварыць яшчэ нешта, але раптам змоўкла. Слых яе зноў улавіў той самы, на момант згублены гул. У хаце, пад старым гадзіннікам зноў засталася яна не ўся, нібы не ўся яшчэ вярнулася з поля.

— Ты еш, дачушка. Еш ды лажыся. Годзе.

— А ты куды пойдзеш?

— Я хутка прыйду.

Галя стаіць за вішняком, успёршыся рукамі і грудзьмі на шэрую жэрдку старой агароджы. Галя глядзіць у поле. Ногі ў церпкай, халоднай расе, вочы — недзе далёка, далёка... У пшаніцы, якая даходзіць да самага вішняку, сакочуць конікі. Далей недзе — лён стаіць у пучках; таксама многа, многа льну. Яшчэ ўсё цёплы, не астыў ад спёкі, пахне, — смачна пахне, нібы прысмажаны алей... А над пшаніцай, над лёнам, над хлебнай, спакойнай зямлёй — высока ў небе поўны, усім задаволены месяц.

Ды ўсё гэта так сабе, усё гэта — дзеля таго, каб далёка над полем разносіўся гул, грукатанне трактара. Там, дзе ён, дзе сядзіць за рулём той адзіны ва ўсім гэтым свеце, каму ад болю сэрца, ад цяжкай журбы хочацца крыкнуць:

— Ся-ро-жа-а! Ся-рож-ка-а!!

Ён даўно ўжо Сяргей, а не Сярожа, ён даўно ўжо забыўся, — відаць, выцер з памяці ўсё, што калісьці было. А ты крычы, ты ўспамінай, раздзірай сваю душу, дурніца, хоць да крыві...

А то ж было яно, было, калі ён быў і для яе Сярожка. Ох, як даўно гэта было! Не, не даўно, здаецца, толькі ўчора.

Галя толькі яшчэ на дзеўку бралася, калі ў іх вёску, Гаросіцу, прыйшлі з Касцюкоў краўцы-кажушнікі, два здаравенныя панурыя браты. Абодва ў доўгіх кажухах, нібы ў доказ таго, што не заўсёды шавец ходзіць без ботаў, абодва ў вялізных шапках, нібы па цэлай авечцы ў іх на галаве, абодва ў лапцях і вусатыя.

— Дзеўкі, глядзіце — Торбы ідуць! — заўважыла іх праз акно адна з дзяўчат-кудзельніц.

Кажушнікі і сапраўды так называліся — Торба. Цімох Торба і

Ціхан Торба. Мала ведаючы іх — не пазнаеш, каторы Ціхан, каторы Цімох.

— І нейкі хлопец з імі, дзеўкі, гвалт! Дальбог, харошанькі! З гармонікам!

І праўда — з кажушнікамі ішоў дзяцюк... Ну, проста хлопчык! У кароткім кажушку, у ботах, з гармонікам за плячыма. Адна з дзяўчат пастукала галоўкай верацяна ў акно. Ён, вядома, пачуў, азірнуўся. Узмахнуў рукою і стаў, засмяяўся: «Добры дзень!» Можа, нават зайшоў бы ў хату, ды вось адзін Торба, што ішоў з драўлянай планкай-метрам у руцэ, азірнуўся таксама, нешта сказаў, і хлопец пайшоў. Дзіўным здалося дзяўчатам, а потым і ўсім у Гаросіцы, што ў аднаго з гэтых Торбаў ды можа быць такі сын. Такі беленькі, спрытны... Зусім нібы чужы каля тых двух вусатых здаравілаў.

Ён быў іхні пляменнік, сірата з далёкай вёскі. Завуць Сяргей, а прозвішча таксама дзіўнае, як у дзядзькоў, але прыгожае — Юрачка. Вельмі ж да твару яно Сяргею. Так яго і завуць: хто — Сярожа, хто — Юрачка.

Ну, спрытны быў, вясёлы Юрачка, харошы! Дзядзькі яго — вялізныя, а ўсё ж улазілі яны ў найменшую хату. Здымуць шапкі свае, кажухі, застануцца з аднымі вусамі, прысядуць да стала — толькі сапуць над аўчынамі. Так і жывуць на свеце — моўчкі. А Юрачку ў кожнай хаце было цесна. Вядома, не адзін — з гармонікам. Часамі нават да вечара не можа датрываць: уваткне іголку ў кашулю на грудзях, закруціць нітачку, азірнецца на дзядзькоў ды за свой інструмент. Усё рабіў спраўна. Гармонік у яго не так сабе, а ў цётчыну хустку закручаны. Разгорне хустку — гармонік ажно зіхаціць, а расцягне яго — раздасца кожная хата!

Адзін, два танцы прайграе — дзядзькі маўчаць. Пасля старэйшы Торба, Цімох, той, што з метрам хадзіў, прагудзе:

— Можа, годзе, Сяргей? Можа, людзі не любяць?

У адказ на гэта Юрачка крута, з разгону паварочваў вальс на «Мікіту».

Людзі, што ў хаце былі, здаецца, ураз маладзелі. Дзяўчаты — ну, тыя адразу гатовы былі рвануцца з прасніц ды замяцеліць падоламі. Сам гаспадар, калі ён не зусім стары, пачынаў непрыкметна паварушваць пад лавай наскамі ботаў ці лапцей. Нават бабка, што памятае прыгон, і тая высоўвала з-за коміна галаву... А Юрачка патрэсваў, як жаўранак, чубам і ўслед за музыкай падпяваў:

А Мікіта жыта вее,
Мікіціха муку сее,
Мікіта, Мікіта,

Клінам шуба пашыта!..

Молада, хараша, звонка спяваў гарманіст.

Толькі дзядзькі маўчалі. Нават шыць не спыняліся. Ды таксама не скажаш пра іх, што не рады, асабліва ведаючы, што і гармонік Сяргею купілі яны.

Вясёлы месяц быў тады ў Гаросіцы. Танцы, песні — штовечар! Шкада, што не хапіла ў іх аўчын на ўсю зіму...

Ой, мамачка! Для ўсіх вясёлы, а для Галі... ну, і не кажы...

Усё гэта — было.

Цяпер над полем ціхі, поўны месяц. Галіны ногі ў халоднай расе. Плечы стынуць пад тонкай сукенкай... А трактар гудзе і гудзе... Не пакінеш яго, не забудзеш, што гэта — Сярожа, яе Сярожа... Божа мой, як гэта горка, балюча ад думкі такой!.. А ён жа быў яе, яна была — яго, яны так хараша, так многа цалаваліся. Ды не многа, а тыдзень адзін, а ў тыдні ж толькі сем начэй.

Спачатку любіла Галя адна, баючыся сама сабе прызнацца ў гэтым, саромеючыся лішне пазіраць на яго, каб не падумалі ды не пазналі. Яна была наймалодшая ў іхняй дзявочай кампаніі. Сірата з самай беднай у Гаросіцы хаты Марылі Парабчанкі. Так іх і называлі спрадвеку — парабкамі. Бацькі ў Галі не было. Ніколі не было, хоць ён і жыў недзе, а можа, і сёння жыве, не думае нават аб тым, што ёсць у яго дачка. На пашы дзеці лаялі яе брыдкім бязлітасным словам — байстручка. Ды з часам гэта слова абвалілася з яе, як шалуха. Прыгожай, спраўнай вырастала Галачка. У беднай сіраты — добра, хараша ў песні пяецца! — толькі чорныя бровы. Затое бровы — шнурочкам, вялікія карыя вочы, маленькія спрытныя рукі і лёгкія ножкі. Чырвоная хусцінка з вышытымі над ілбом пшанічнымі каласамі, неяк па-свойму, непаўторна завязаная на чорных густых валасах, была ў сірочай красе тым нечым вельмі важным, вельмі ўдала знойдзеным, з-за чаго вар'яцелі бадай усе гаросіцкія дзецюкі. А пойдзе ў танец Галачка — пастой ды паглядзі!

Спачатку Юрачка толькі глядзеў. Глядзеў і рэзаў на гармоніку амаль без адпачынку. Вядома, гуляць пад добрую музыку кожны ахвочы, а падмяніць Сярожу не было каму.

Ды вось у адну нядзелю прыйшоў з суседняй вёскі Качаны Іван Чарнагрэбень, які таксама мог іграць. Гэта ўжо быў пажылы кавалер, падпольшчык, шэсць год прасядзеў у турме, толькі ў гэтую восень вярнуўся. Маладзейшыя хлопцы ў Гаросіцы і асабліва дзяўчаты — хоць ён быў просты такі і вясёлы — з пашанай і неяк міжвольна, не змаўляючыся, гаварылі Івану «вы». На той час свайго гармоніка Іван не меў. Пакуль сядзеў у турме, маці прыйшлося крута, і сын напісаў

ёй прадаць трохрадку на хлеб. Толькі пасля даведалася Галя, што Сярожка ўжо быў знаёмы з Чарнагрэбенем. Ды не толькі знаёмы...

Не раз хадзіў ён ноччу ў Качаны, ды без гармоніка: на нейкую ціхую справу... Але пра гэта ён не паспеў ёй нічога сказаць.

Цяпер, калі Юрачка паставіў на калені Івану свой гармонік, — абодва яны па-свойску ўсміхнуліся. Адзін з просьбай: «Мо рэзнеце, Іван Сцяпанавіч, на радасць ды на лёгкі скок працоўным?», другі — ад нейкай не па ўзросту Івана маладое ўцехі: «Рэзну, браце, даўно ўжо не рэзаў!»

І Чарнагрэбень рэзнуў. Не зусім яно так, як Сяргей, ды ўсё ж полечка «Галка» пайшла «з-пад карча», па-сапраўднаму.

Юрачка страсянуў галавой, устрапянуўся, як выпушчаны са жмені верабей, паправіў паясок на сваёй вышыванай кашулі і рушыў у кут, дзе сядзелі дзяўчаты. І хата, поўная хата людзей — насцярожылася. «Мяне возьме, мяне», — засвяціліся вочы, забіліся сэрцы дзяўчат. А ён падышоў да Галі. Проста і спрытна, як ён рабіў усё, Сярожа пакланіўся. З усмешкай, вядома, такой, што ў ёй і просьба і радасць:

«Нарэшце мы пойдзем!..»

І вось яны выйшлі ў круг, абняліся.

Мужчыны прыўсталі з лаў, маладзіцы націснулі з кута на сярэдзіну, моладзь нібы стаілася ў чаканні нечага, што ўбачыш не вельмі часта.

Дачакаўшыся такта, Юрачка тупнуў і — завірылі!.. Малыя боцікі яго то ледзь краналіся дошак падлогі, то раптам гулка і чотка — па паваротах улева ці ўправа — білі, як выгаворвалі, чачотку. Вакол яго светлавалосай галавы толькі мільгаў румяны тварык пад чырвонай хусцінкай. А ўсё ж такі можна было прыкмеціць, разглядзець і залатыя каласы на чырвані, і чорныя бровы, і вусны, што так і не маглі стрымаць усмешкі сораму і шчасця... Усім было відаць, а Юрачку найлепш.

— Круг, дайце круг! — крычалі дзецюкі, хоць ніхто з іх не думаў пакуль што сам выходзіць у круг. А ён сціскаўся, не стрымаць яго было нават дзесяткам плячэй. Дзядзька Раман Кругляк, стары ўжо, сівы чалавек, узбіўся з валёнкамі на лаву і зверху, падняўшы палец угару, вось-вось гатовы быў крыкнуць: «Эх!»

Нібы пачуўшы гэты выраз усеагульнага захаплення, Юрачка заспяваў:

Чорна галка,
Чорна галка, -
Ты мая,

Ты мая!

На гэтым песню яго абарвалі.

— Правільна, Юрачка! Правільна! — загула, нібы ўздыхнула з палёгкаю, хата. І толькі тады ўжо, нібы давёўшы да поўнага ладу тое, што трэба было давесці, моладзь пусцілася ў танец.

Так пачалося іх каханне.

Гэта быў толькі ўступ да вялікага шчасця, што мела прыйсці, што пачалося ў тую ж ноч, калі ён цалаваў яе каля іхняга акна, а Галя закрывала твар рукамі і прасілася: «Сярожа, міленькі, не трэба...» Ды рукі гэтыя яму зусім няцяжка было разнімаць. А шчасця, гарачага, хмельнага шчасця ім ніяк нельга было ўдосталь напіцца, хоць прастаялі на снезе амаль да світання.

Праз тыдзень Юрачка пайшоў з дзядзькамі ў Касцюкі, дахаты.

І хто мог падумаць, што іх развітанне — навек!..

Цяпер вось стой ды слухай, як за пшаніцай, за вырваным ільном гудзе яго вясёлы працавіты трактар. Думай пра першую радасць сваю, крычы, звар'яцей ды крычы, каб успомніў цябе і прыйшоў. З ім калісьці цёпла было стаяць і на снезе, а цяпер табе, баба, холадна ўжо і на летняй расе. Ідзі, ідзі, дурніца, у хату, дарэмна стаіш... Няхай трактар гудзе, няхай не дасць табе заснуць да дня.

Галя ціха пайшла.

Дзверы — і ў сенцах, і ў кухні, і ў хаце — старыя, скрыпучыя. Як ты ні асцерагайся, усё роўна скрабянуць па сэрцы. У хаце змрочна. Стаіць-то яна вокнамі на поўдзень і на ўсход, але акенцы гэтыя глядзяць з-пад нізкіх капяжоў, нібы пануры чалавек, толькі пад ногі. Галя ідзе ў той куток, дзе ложак, наўздагад, на хаду ўжо расшпільваючы сукенку. Распрануўшыся, яна асцярожна абмацвае край ложка і асцярожна лажыцца. Ды ўся гэтая асцярога — дарэмная. Сонечка яшчэ ўсё не спіць.

Шчака на падушцы, рука пад шчакой, а вочы глядзяць у паўцемру. Галя знайшла рукой яе цёплыя плечыкі і прыгарнула малую — усю за раз, з усімі яе думкамі.

— Мамка, а дзе наш тата?

— Спі, дачушка, ён хутка прыедзе.

— Прыедзе, прыедзе... Я малая была — ты ўсё казала і цяпер усё кажаш. Мамка, а тата харошы?

— Харошы, харошы...

— А Лёнька, дурань, гаворыць, што тата не ў горадзе, што ён у астрозе сядзіць, што ён... Як гэта, мамка?

— Што?

— Ну, як гэта?.. Ой, я забылася.

— Ты вось спі. Заўтра зноў не захочаш уставаць.

— А Лёнька кажа...

— Сціхні! — крыкнула Галя. Нават і для самой сябе нечакана злосна, а што ўжо казаць пра малую. Сонечка ўздрыганулася і заціхла. Цяпер бы ёй якраз і заплакаць ад крыўды, але яна памаўчала хвілінку, а потым цёплая тонкая ручка яе працягнулася да Галінай шыі, трошкі напружылася, абняла і нібы самай моцнай сілай зноў прыцягнула маці да сябе.

— Я, мамка, буду спаць. І ты спі. Добра?

— Добра. Ты толькі адвярніся да сцяны. На гэты вось бачок...

Нялёгка Галі вымавіць адразу столькі слоў. Ды вось малая заціхла. І добра. Гэтак будзе лепш і ёй, і маці.

«Не трэба ёй пакуль што бачыць маіх слёз, не трэба ведаць, што думаю я пра таго, хто стаў на гора наша бацькам яе, а маім мужам... Давай, дачушка, лепш заснём...»

За нізкай столлю, за страхой — высока над хатай стаіць у небе поўны ціхі месяц. За пшаніцай, за пахам ільну спыніўся недзе ў полі трактар. Спі, маладзіца, не паспееш адпачыць, пакуль паблекне месяц. Спі, спяшайся заснуць, пакуль трактарыст і прычэпшчык закурваюць... Ды яна не паспела, вядома. І не старалася, відаць. І трактар зноў гудзе, зноў над палямі коціцца, як хвалі на вялікім возеры, яго бадзёрае грукатанне.

— Мамка, а я ўжо ведаю, — тата наш спекулянт... А што гэта, мамка? Ты спіш?

Галя маўчыць.

«Не ўсё гэта, не ўсё, што ён, твой бацька, спекулянт. Ды я пакуль што памаўчу. А ты лепш спі, не забівай галоўку думкамі. Няхай ужо маці — ёй варта, яна заслужыла — няхай лепш маці падумае...»

...Гарманіст Юрачка больш не прыйшоў у Гаросіцу — ні шыць кажухі, ні цалаваць сваю Галю, ні ўпотай ад яе хадзіць у Качаны. Нешта хутка пасля іх першага развітання камсамольца Сяргея паны пасадзілі за краты. Не аднаго, вядома, — узялі з ім разам і іншых, з Гаросіцы і з Качаноў. Другі раз пайшоў у турму і Іван Чарнагрэбень. У верасні трыццаць дзевятага года, вярнуўшыся ў родную вёску, Сяргей адразу ж пачуў, што дзяўчына яго — за другім.

Як гэта сталася, што малады Хамёнак, Данькаў сын, узяў дачку Марылі Парабчанкі?

Гледзячы збоку, для многіх гэта было ясна. Ён — закахаўся, відаць, так, што пайшоў супраць волі бацькоў. Ну, а на месцы Галі пайшла б за яго не адна. Такі, людцы мае, хутар, ды і хлопец — нічога не скажаш. А што свёкар ліхі чалавек, дык жа не з ім, не з Данькам

слінявым жыць. Прыйдзе час і на Даньку.

Сама Галя ведала больш. Мікола лазіў за ёю даўно, яшчэ да Юрачкі. Гаворка пра арышт Сяргея і Галіны горкія слёзы былі днямі ягонай радасці. Спачатку яна, вядома, і гаварыць не давалася, а потым смутак патроху заглух. А Мікола налазіў — штовечар, то больш. Нават плакаў і страшыў, што кончыць, зарэжа і яе, і сябе... Заступіцца не было каму. Пра гэты замуж шчаслівы трубілі не толькі чужыя — і сваякі, і маці была на яго, Міколавым, баку... Першы раз ён узяў яе ледзь што не сілай. Адразу свет завязаў, заставалася толькі плакаць і моўчкі ісці за ім, у ім шукаць паратунку ад ганьбы. На Данькаў хутар яна прыйшла яшчэ з дзявочым выглядам. Калі ж маладзіцы ўжо нельга было больш схаваць таго, што стала прыкметным раней, чым у хаце чакалі, — у свёкравым вечным зудзенні толькі і чуваць было: «Байстручка, жабрачка, няўдаліца...»

Апошняе слова ён разумеў па-свойму. Яна была і спраўная, і працавітая, ды гэта ўсё — не тое. І жыць, і працаваць трэба толькі таму, каб быць багатым. Хамёнак жыў для гумна. Галава пад старым каўпаком і старасвецкая хатка патрэбны былі менш, чым гэтае гумно. Гумно павінна заўсёды быць поўнае. Дзеля гэтага трэба мець поле. Больш поля — большае гумно. Менш паспіш — болей зробіш. Не з'ясі, не зносіш — больш застанецца. Збіраючыся жаніць сына, Данька перасыпаў гумно, растачыў яго для тых снапоў, што прыйдуць сюды з пасажнага поля. А сын узяў ды звар'яцеў... Галя была для Данькі не сямейнік, яна толькі замяніла наймічку. Колькі яна ні працуй — усё гэта будзе не тое. Ніколі ёй не адрабіць за крыўду, за абразу, за ўрон, нанесены Данькавай гаспадарцы.

Мікола здаваўся іншым за бацьку толькі раней, да вяселля. Тут, на хутары, калі яна пераступіла з ім парог гэтай чортавай ямы, — Хамёнак застаўся Хамёнкам.

Свёкар Данька... Тры разы за ўвесь час ён быў ласкавы да Галі, гэты чалавек.

У першы дзень пасля вяселля свякроў зварыла чыгун бульбы ў лупінах і з чыгуном паставіла на стале. Данька зняў свой каўпак, прыгроб рукамі валасы, перахрысціўся і сеў за стол.

— Масла мо трохі растапі, — сказаў ён жонцы. Яна была паслухмяная, ціхая, верная, гадоў ужо сорак маўчала, як цягавіты, непераборлівы конь. Пайшла ў камору і вярнулася з лыжкаю масла. Яго аказалася мала на ўсю скаваролку. Вяртацца зноў у камору, зноў лезці ў слоік — гэта было ўжо звыш сіл і прызвычаення. І старая схітрыла перад новым сямейнікам: павярнулася да стала спіной і плюхнула ў масла тры лыжкі гарачай вады. Усе заўважылі гэта, і

кожны па-свойму маўчаў. Галя здзівілася, Міколу стала нават няёмка, а старому было прыемна ўдвая — і за хітрасць сваёй гаспадыні, і за тое, што гэтай хітрасці ніхто, як відаць, не заўважыў...

Чорнымі кіпцюрамі даўно нямытых рук ён абіраў сваю бульбіну і, прыплюшчыўшы вочы, маўчаў. Пасля пачаў абмачаць яе ў «масла». Штораз адкусіць бульбіну, то больш усё лезе са шчопцямі ў жыжку.

— Еш, нявестачка, еш, — гаварыў ён. — Дома ж у вас не было. У галечы расла. Абмачай.

Другая ласка прыйшла праз паўгода, у летнюю ноч. Міколы не было нешта дома, старая крахтала на печы, а стары яшчэ соваўся па двары. Пасля ён падзюбаў тымі самымі бруднымі шчопцямі ў шыбу і зусім нечакана паклікаў нявестку па імені:

— Галя!

Яна ажно ўздрыганулася.

— Ідзі сюды, Галя!

Здзівілася. Выйшла. «Чаго яму трэба?..» Данька патупаў па сцежцы туды, дзе ад поля — вішняк. Спыніўся. Яна падышла і спынілася воддаль.

— Ночка якая, га? — сказаў стары. — Канюшына як пахне Сымонава, ліха яго галаве!.. Столькі коп!.. Пайдзі ты, Галя, другую дзяружку вазьмі. Пойдзем, яшчэ разочак прынясём. Зімой лішні ахапак як знойдзеш.

Галя ўбачыла пад пахай у яго скамечаную дзяругу.

— Я ніколі не крала, — сказала яна. — Трэба вам, мала свайго, дык ідзіце.

Павярнулася і пайшла. Не чула нават, што ён там бурчаў. Вядома — што. Ён нездарма скідае свой каўпак, толькі хрысцячыся перад іконай, а разувае лапці раз на тыдзень, у суботу. Ён нездарма зрабіў вялікае гумно.

Трэцяя ласка прыйшла тады, калі яна нарадзіла Антося і, пасля цяжкіх родаў, ляжала цэлы тыдзень у ложку.

— Курыцу трэба зарэзаць, — на трэці дзень аб'явіла свякроў.

Гэтая думка, народжаная ў пакутах, не вельмі ўзрушыла Даньку. Не памагала і тое, што сын — дагэтуль такі паслухмяны, разумны — таксама настойваў на тым, што курыцу ўсё ж такі трэба зарэзаць. Была і курыца такая, не нясушчая, — хадзіла толькі ды сакатала чортведама чаго каля акон, нібы сама прасілася пад нож. Жонка і сын не адставалі. Нявестка, немач на яе, ляжыць, а бульба ўся яшчэ не капана... Стары паклікаў курыцу ў сені, зачыніўся, злавіў яе ў кутку і ўзяў сякеру. Прысуд быў выкананы на парозе. Тады Данька ўнёс яе ў хату, кінуў на падлогу і сказаў:

— Бярыце. Ешце.

Гэта было шаснаццатага верасня — апошні дзень панскай улады.

Паны ўцяклі, а Хамёнак застаўся. Данька не доўга патрываў. Не спаў, не разуваўся ўсю зіму, нават хрысціцца пачаў у сваім каўпаку. «Канец... Канец свету...» — крахтаў ён, лежачы на печы. Напрадвесні старога нарэшце памылі і вынеслі з хаты ўперад нагамі. Назаўтра Мікола ўзяў яго каўпак, шпурнуў з сяней на гарышча і стаў гаспадарыць сам.

Праз год памерла свякроў.

...Трактар гудзе. Поўны месяц высока стаіць над палямі. Адзін будзе гудзець усю ноч, другі — свяціць трактарысту да сонца.

Чарнявая Сонечка цёпла дыхае носікам маме ў плячо. Даўно заснула, успомніла слова, якім назвалі на пашы яе амаль невядомага бацьку. Няхай пакуль што спіць, няхай не ведае больш...

Галя ўстала. Хацела выйсці ў кухню, напіцца, але раздумала і падышла да акна. Не адчыняецца яно, і фортачкі няма. А ўсё ж тут лепш чуваць, як за прасторам калгаснай пшаніцы, за лёнам духмяным бяссонна, нястомна працуе трактар.

— Сярожа, — шэпчуць сухія, гарачыя Галіны вусны, — Сярожа, можа, зайшоў бы? Ну, хоць напіцца... Ды не, ён не зойдзе.

Ён заходзіў у гэтую хату адзін толькі раз. Гэта было напрадвесні сорак чацвёртага года. Нешта апоўначы Хамёнкавых разбудзіў стук у акно. Ясна — хто гэта: адны былі ў той час гаспадары начэй. Адчыняць і цяпер пайшла Галя. Сам гаспадар у такіх выпадках не ўставаў з пасцелі.

Следам за Галяй увайшло толькі двух, рэшта стаяла з коньмі на двары. Галя пабольшыла кнот у газніцы, а сама пайшла ў куток. Яе справа закончана, гаспадар будзе гаварыць сам.

— Добры вечар! Што, хворы? — спытаўся адзін з партызан.

— Ды так, таварышы, няхай яго немач...

— Сэрца?

— Не, яно, каб сказаць...

— Язва?

— У мяне, таварышы...

— Што ж, душа па радзіме баліць? Ляжы, ляжы. Я ведаю — ты спраўкі хочаш паказаць.

Партызан уключыў электрычны ліхтарык, і гаспадар заморгаў у святле.

— Усё нармальна, — сказаў партызан. — Хвароба працякае правільна. Барада запушчана, боты схаваны, самагоначка ёсць...

Мікола зразумеў гэта па-свойму.

— Ды недзе кропля ёсць, таварышы. Добра, што вы напомнілі.

— Ляжы, ляжы, Хамёнак, не ўставай. Няхай пастаіць самагонка твая. Заўтра заедуць бобікі. А можа, з імі і сам пан фельдфебель. А нам твае танцы ды спевы не трэба. Вахлак.

— Вось вы не верыце, таварышы...

— Ды што нам верыць — мы бачым, — перабіў яго партызан. — Бачым цябе наскрозь. У нас, брат, дакладна запісана ўся гісторыя тваёй хваробы, — і барадатай, і безбародай. Ты ўсюды ўсё адбываеш сваёй самагонкай. Народ абліваецца кроўю, а ты... Віляеш, як сука, і нашым, і вашым. Ды што нам з табой гаварыць. Дзе Каштанка? Пад'ём!

Хамёнак усё яшчэ цяжка, не збаўляючы выгляду хворага чалавека, узняўся і сеў на ложку.

— Галя, дай мне валёнкі.

Яна не хацела выходзіць з кутка. Хацелася нават шпурнуць іх, гэтыя знарок ірваныя валёнкі, у гэтую рыжую, знарок запушчаную бараду. Хацелася проста заплакаць ад крыўды і сораму... Аднак яна ўзяла з печы валёнкі і панесла іх перад сабой, каб хоць гэтак, хоць трошкі даўжэй не паказваць людзям, ад каго яна зноў зацяжарала...

— На, — сказала яна адно слова, якое здолела вымавіць.

І тады ён, Сярожа, сказаў:

— Добры вечар, Галя! І ты ад нас хаваешся?

Ах, ну чаму ты, дурніца, тады не сказала яму: «Забяры мяне, родны, адгэтуль!» Чаму не назвала яго тым іменем, якое даражэй табе за ўсе на свеце імёны, — Сярожа? Чаму?..

Таму, што і мову табе, і слёзы адняло ад жалю да сябе, ад сораму.

— Добры вечар, — сказала яна, апусціўшы вочы.

Вельмі добра, што пры газніцы было цемнавата, што ён не асвятліў яе ліхтарыкам. Відаць, хоць трошкі яшчэ паважаў ён яе — калі ўжо не Галю сваю, дык жанчыну.

Яна не пайшла за імі ў гумно, засталася ў сенцах, на парозе, у адчыненых дзвярах. Хутаючыся ў незашпілены кажушок, яна чула... не чула, а прагна слухала маладую гутарку вольных, шчаслівых людзей.

Уся Хамёнкава хітрасць аказалася тут проста смешнай. Два дні выскубаў ён у тарпе саломы схованку, тры месяцы пакутавала ў цемры раскормленая жарабіца. А тут адзін з гэтых хлопцаў пастукаў, відаць, у вядро і, нібы поп, прамовіў:

— Дзе ты там, грэшная душа? Выходзь на божае святло.

Каштанка зафыркала ў адказ, і гэтае фырканне пакрыў вясёлы смех і гоман на таку. Ён, Хамёнак, яшчэ ўсё ныў:

— З выгляду яна, і праўда, як быццам нічога. Ды, падла, без ног...

— Хэ! Та ў нэі дзійсно тількі чатыры ніжкы, хлопцы! — пачуўся прыемны голас аднаго з тых жартуноў, што хораша, відаць, спяваюць. Украінец. — Так шчо, таварышу ўзводны, — гаварыў ён, — моя біда, а ваш наказ залышыцця, мабуць, у сілі. Я конячку сідлаю, так?

— Сядлай, Арцём. Толькі хутчэй, — пачуўся голас Сярожы.

«Ён — камандзір. Я так і ведала», — міжволі з радасцю падумала Галя.

Тым часам той весялун, каго звалі Арцёмам, зняў з невялікага каня сядло і перанёс яго на іхнюю Каштанку.

— Эх, здоровенькы булы, ластіўко! — сказаў ён. — А мого Чалого ты, борода, бэры. Тількі не ў яму цю постаў. Прыйду — побачу, як тый його годуваты мэш. Він — заслужэны кінь. Ну, господы благословы!

Хлопец паставіў у стрэмя нагу, і вось на светлым фоне снегу вырас над іхняй Каштанкай яго сілуэт.

Наструненая павадамі жарабіца затанцавала па прыгуменні.

— Прощай, борода! — пачуўся яшчэ адзін голас. — Ты, кстати, эту пакость сбрей. Мы как-нибудь зайдем, проверим. Вообще, разочка два в неделю бриться — это на здоровье.

— Не слухай, дзядзька, які ён фельчар? Ты лепш пчол у ёй развядзі.

— Точно! Медку не будет, но заснуть не дадут.

— Паехалі! — зноў пачуўся голас Сяргея. Яны паехалі, а Хамёнак застаўся. Пакінуты стомлены канюк, якога ён трымаў за павады, узняў галаву, заржаў. Неяк сумна, балюча — услед іх маладому смеху, цокату мноства падкоў па аблыселым бруку дарогі...

— Не плач, ідзі лажыся, чаго ты... — гудзеў Хамёнак з-пад коўдры. — Ты думаеш, што мне яе не шкада. Такая, ліха ім, кабыліца!..

— Пайшоў ты к чорту! — сказала яна і палезла на печ.

Хамёнак маўчаў нядоўга.

— Ага-а! — пачуўся ў цемры яго зларадны голас. — Дык ты па ім, па гэтым шыбеніку! Ну, паглядзім!..

Ён і тады яшчэ страшыў, ужо ў канцы панавання чужынцаў, ужо напярэдадні вызвалення.

...За акном пачынае світаць. Вялікі, поўны месяц вось-вось пабялее, закончыць дзяжурства над полем, перадасць яго сонцу.

А трактар гудзе і гудзе...

«Зайдзі, зайдзі, Сярожа яшчэ раз. Апошні разок!..»

Галя глядзіць удаль, успёршыся на падаконнік.

А гул усё, здаецца, набліжаецца. Так, ён бліжэй, штораз бліжэй!..

«Ідзі, ідзі адтуль, дарагі мой, куды ты пайшоў пад песню свайго гармоніка на вуліцы, пад цокат падкоў на дарозе, — з той яснай стараны, адкуль ты не вяртаўся гэтак доўга!..»

Збылося!

Трактар спыніўся. Рокат замоўк.

Галя ўстала і адышла ад акна. Міжвольнымі рухамі рук яна адразу паправіла валасы, пасля — таксама міжвольна — закрыла рукамі твар.

Сяргей ідзе. Яшчэ ўсё малады, як і ў той час, толькі цяпер — у сінім заплямленым камбінезоне, з пшанічным чубам над блакітнымі вясёлымі вачыма, з кепкай у левай руцэ. Вось-вось зашалясціць пад яго ботамі росная трава, захрупае жвір каля прызбы, працягнецца да шыбы родная рука, застукае ціхенька ў шкло і — кончыцца ўсё, што было... Ідзі, ідзі, я чакаю даўно... ой, даўно!

Ды што гэта!..

Ну, а ты думала — што?..

Трактар гудзе зноў. І гэты гул цяпер штораз — далей.

Як гэта проста ўсё, як зразумела, што ён завярнуўся, — і як гэта страшна!..

Сядзь і сядзі каля акна. Хочаш — крычы, а хочаш — маўчы, пазірай. Ёсць і яшчэ адно, што табе засталося, — заплач.

І Галя выбрала апошняе. Не выбрала — яно прыйшло само. Прыпаўшы тварам да гарачых рук на падаконніку, яна заплакала — горка, наўзрыд. Плакала доўга, як дзіця, калі яго пакрыўдзяць і пакінуць у такой вось чужой і цёмнай хаце. А потым, як дзіця, стамілася ад слёз. Вярнулася стома на вочы, мякка, уладна, асела на душу... Жняя заснула. А трактар гудзе і гудзе...

...За садам — пшаніца. Багаты хлебны прастор. Над калоссем — густая парная імгла, праз якую спакойна глядзіць на зямлю негарачае сонца. Сёння, у нядзелю, яно нібы адпачывае само і хоча даць выхадны ад спёкі ўсяму, што жыве.

Такога мора пшаніцы не бачылі тут, на месцы нядаўніх палосак ды межаў, ніколі. Прыгнешся трохі — амаль зусім не варушыцца цяжкае ды непахілае калоссе, цёпла-вільготнае ў імгле, нібы спацела... Харошая пшаніца. Так і трэба! Над шчоткай меднага калосся — шэрыя, няўрымслівыя вераб'і. Дажылі да раскошы. Так і лётаюць, так і шчабечуць, так і садзяцца на каласы, нібы пчолы на кветкі. Толькі тыя заўсёды працуюць, гудуць сваю песню сур'ёзна, а вераб'і цяпер шчаслівыя, без клопату. Зусім легкадумны народ.

А трактар яшчэ ўсё гудзе і гудзе... Хто там змяніў гарманіста Сяргея?.. Каля студні мыецца Галін хлопец Антось. Нацягаў у карыта

сцюдзёнай вады, зняў кашулю, і на ўвесь двор чуваць, як ён фыркае ды пакрэктвае ад здавальнення. Харошы хлопец, жывы, працавіты. Добра, што цягне яго да людзей. Сам, па сваёй ахвоце і пазаўчора і ўчора хадзіў з сябрукамі за вёску да малатарні. Антось выціраецца свежым кужэльным ручніком. І зноў, здаецца, на ўвесь двор чуваць, як аж рыпіць яго загарэлы твар, моцныя рукі, што заслужылі і сёння на адпачынак.

Галя вельмі любіць Сонечку. Галі ў маленстве ніхто не здымаў. Якія там маглі быць здымкі. Добра хоць, што люстэрка было ў Парабчанкі. Ды Галя глядзіць на Сонечку сваю, як у люстэрка. Такою, мусіць, толькі такою была яна сама калісьці, — з вялікімі вачыма, чорненькая шчабятушка...

Сонечка стаіць на пасцелі ў кароткай чысценькай кашульцы. Яшчэ ўсё сонная, ды ўжо з усмешкай на прыплюшчаных карых вачах, яна працягвае да Галі тонкія загарэлыя ручкі. Мама надзявае на іх маленькі крэмавы станік, потым зашпільвае яго, спрытна перабіраючы пальцамі белыя гузікі. А тонкія цёплыя ручкі малой ужо абвіліся за Галіну шыю. Чорнавалосая галоўка сама схілілася на маміна плячо. Ой, як прыпала б яна да падушкі!.. Ды нічога, Сонечка ўстане таксама ахвотна. Яна ведае, што цяпер жніво, што ёй і сёння трэба замяніць Антося, пакуль ён паспіць. На двары ўжо стаіць, чакаючы сваю пастушку, ласкавая, спакойная Падласка. У жоўтым чысценькім збанку стаіць на стале каля кубка цёплы сырадой.

— Ты, мамка, спала са мной?

— З табою. То ж мы разам з табою заснулі.

— Сёння, мамка, нядзеля?

— Нядзеля. Сукенку ты надзенеш новую, дачушка. Гэтую.

— А ты, мамка, пойдзеш у поле. Жыта дажалі, дык трэба ўжо авёс. І авёс, пшаніцу. Антось таксама пойдзе.

— Ён паспіць. Ён малаціў усю ноч.

— Антось наш вялікі. Ён у нас, мамка, харошы.

— Харошы, дочка, харошы.

— І я харошая, мамка. Я цябе слухаю.

— Ты — таксама, дачушка. Ты лепшая за нас усіх.

Галя падцягвае малой таксама, як і станік, свежыя, гладкія трусікі, а потым туліць да грудзей усю яе — такую родную, цёплую. «Сонейка маё! Чаму ж я не нарадзіла цябе ад таго, хто быў мой?!.»

А за акном — чуваць — гудзе, ракоча нястомны рабацяга-трактар... Хто там сядзіць за рулём? Хто там змяніў Сярожу?

— А я ўчора думала-думала, думала-думала, — шчабеча Сонечка, — і ўспомніла: спекулянт! А што гэта, мамка? Што?

— Вырасцеш, дочка, яшчэ трохі і тады зразумееш, тады я скажу. Ты — харошая, ты больш не будзеш пытацца?

— Не буду. Я Падласку паганю.

...Галя ідзе па расе каля пшаніцы, туды, дзе дарога ў поле.

«Не, ён — не толькі спекулянт, — у думках гаворыць яна, нібы яшчэ ўсё размаўляючы з дачкой. — Ён — баязлівец, злосны, плюгавы, шкодны чалавек. Ён ніколі не быў тваім бацькам, дачушка мая, не быў маім мужам. Ніколі!..»

Яна ўспамінае яго бараду. Кудлатую, рыжую, з пчоламі. Назаўтра пасля таго, як забралі Каштанку, ён доўга скроб тупою брытвай гэтую бараду, — крахтаў, стагнаў перад аблезлым трохкутнікам люстэрка, а ўсё ж такі скроб. І кожны тыдзень галіўся, да самага прыходу нашай арміі, штоночы чакаючы тых, што абяцалі прыехаць праверыць. Яны, вядома, не прыехалі, а ён, вядома, не змяніўся. Пайшоў на фронт. Ну, прастрэлілі трохі руку... Куды ён толькі ні тыцкаўся з гэтай рукой, каб давесці, што ён за савецкую ўладу! Куды ён толькі не ездзіў на свае гешэфты!.. Стоўбцы, Баранавічы, Менск... І вось сядзіць. Даездзіўся, дабурчэўся...

Можа, нядобра гэта, што яна не шкадуе яго? То ж бацька дзецям, пражылі столькі год... Ды не, не шкадуе, ні разу нават, здаецца, і не падумала. А трактар гудзе...

Хутка знікне імгла, і за пшаніцай, за лёнам адкрыецца чорны прастор свежай, духмянай раллі, стане відаць, колькі за ноч узняў зямлі яе Сярожа. А можа, гэта ён яшчэ сядзіць за рулём? Не, не ён. Нават трактар ракоча не там, — не даходзіць у сэрцы яго несціханы, бязлітасны, добры, любімы гул. Не, не ён.

Нехта ідзе па дарозе... Божа мой — ён!..

Галя хацела рванууца, пабегчы туды, але спынілася — глядзіць... Сярожа ідзе без шапкі, у сінім расхрыстаным на грудзях камбінезоне — такі самы, якім яна нібыта бачыла яго праз акно.

«Не, ён не ўбачыць мяне!.. Не, не цяпер!..» Яна сышла са сцежкі ў пшаніцу. Сяргей ідзе і не бачыць над калоссем яе галавы ў белай хустцы, пад колер імглы. Ды ён сюды і не глядзіць... Толькі на яго, услед яму глядзяць Галіны карыя, сумныя вочы...

«Вярніся ты хоць як-небудзь назад, мая харошая, мая загубленая маладосць! Вярніся, заспявай мне вясёлую песню пра чорную галку, якая яшчэ ўсё твая, зірні мне ў вочы, і я сама падпалю гэты хутар, вазьму дзяцей, пайду з табой усюды, куды скажаш!..»

А пшаніца, якая пшаніца навокал! Густая, чыстая, высокая. Так і трэба!

Галя яшчэ не думае пра гэта: толькі адчувае. Мазольная спрытная

рука жняі пайшла па каласах, і пяшчотныя дотыкі іх разбудзілі ў душы пачуцці светлай, харошай палёгкі...

«Іван Сцяпанавіч! Дзядзька Іван! Памажыце мне, дзядзька!»

Галіны вусны шэпчуць гэта, як даўно завучаныя словы. І дзядзька Іван, разумны Іван Сцяпанавіч, той самы Іван Чарнагрэбень, падпольшчык і гарманіст у мінулым, цяпер старшыня іх калгаса, глядзіць на Галю з-пад густых, ужо як быццам з сівізной брывей.

«Што ты хочаш, Галіна?»

«Дзядзька Іван, я не хачу там жыць, вазьміце вы мяне назад у нашу вёску. Зрабіце мне хатку, і мы з Антосем адробім, за ўсенька адробім. Здыміце з мяне яго прозвішча, дзядзька Іван. То ж вы і самі ведаеце ўсё — хто ён, хто я і хто мае дзеці...»

«Не плач, Галіна, не трэба. Уладзім».

А Галя плача. Ідзе па дарозе і плача. Праз імглу і праз слёзы, што засланілі ад яе гэты пракляты, яшчэ ўсё не зраўнаваны з зямлёю хутар, працягваюцца тонкія загарэлыя ручкі, цёпла кладуцца на шыю яе, і каля самага вуха чуваць:

«Ты харошая, мамка мая!»

Не, гэта ты харошая, ты, маё сонейка, ты лепшая за ўсіх! І доля твая будзе не такой, як у мамы. Ніхто не насмяецца з твайго жыцця... А трактар гудзе і гудзе...

Там — не Сярожка. Ды гэта нічога. Ноччу будзе зноў ён. Зноў будзе балець па ім яе душа, да самага світання...

Няхай сабе. Абы толькі гудзеў.

*1953*

## ПРЫВАЛ

Сцяпанавіч спыніўся і выйшаў з машыны. І праўда — адарваўся ад калоны здорава: трэба чакаць.

Падняўшы капот, ён заглянуў у цёплы, супакоены матор, пасля паволі абышоў машыну, акінуў вокам груз і дзелавіта кашкануў ботам правую заднюю пакрышку. Усё ў парадку.

Груз на машыне — не зусім звычайны: вялікая, дваццацігадовая ліпа з карэннем у скрыні са свежых дошак, падобная на вялізны, паложаны ў кузаве вазон. Пераязджае ліпа з далёкага лесу ў Мінск, дзе ўжо многа такіх, як яна, і шумяць, і цвітуць, і жаўцеюць, нібы і выраслі там — на абочынах новых вуліц, на новых бульварах і ў парках.

Шануючы хустачку, якой ён не без пэўнай важнасці карыстаўся на людзях, Сцяпанавіч з цыганскім фасонам, пры дапамозе аднаго, а потым другога вялікага пальца, голасна прадзьмуў нос і зноў прыслухаўся і паглядзеў з-пад кепкі ўздоўж шашы.

Нічога не відаць і не чуваць...

Тыдні са тры таму назад, апынуўшыся ў такім становішчы, Сцяпанавіч дастаў бы з кішэні цыгарэткі, з няменшай важнасцю, чым ён нядаўна прадзімаў свой нос, прадзьмуў бы чырвоны, тоўсты муштук... Чорт вазьмі! — ён нават галавой закруціў, уявіўшы, адчуўшы на смак і пах тытунёвы дымок. Ды пра курэнне наогул не магло быць і гутаркі: Сцяпан Сцяпанавіч чалавек цвёрды. А прылегчы на сонейку, пакуль падыдуць машыны, ён не хацеў: Сцяпан Сцяпанавіч службіст. Каржакаваты, дзябёлы начальнік калоны пайшоў насустрач сонцу па абочыне, з рукамі глыбока ў кішэнях сініх галіфэ, прыкметна выставіўшы жыюоцік і мармычучы нейкую песню.

Што за песня — не сказаў бы ён і сам. І не таму, што не любіць або не можа спяваць,— наадварот, Сцяпанавіч, калі часамі прыме чарку, ахвотна спявае песні, складзеныя самастойна і тут жа, на месцы.

Спявае нават і без слухачоў, для асалоды ўласнае душы. Гучыць яно прыблізна так:

> А сёння ў нас была зарплата,
> І мы ўзялі паўтаратоначку з прычэпам,
> Інцярэсна, што скажа на гэта жана?..

Музыка, таксама як і словы,— свае работы. Нарэшце з-за ўзгорка на даляглядзе паказаўся грузавік.

«Паўзуць, балаголы»,— з пагардлівай усмешкай падумаў Сцяпанавіч.

Ён спыніўся і, з рукамі ў кішэнях, прыглядаўся з-пад кепкі да набліжэння дзвюх машын, пакуль першая з іх не спынілася за яго машынай, ледзь не ткнуўшыся шклом кабіны ў голле ліпы.

У гэтай машыне быў Недасек, заіка Васіль, якога Сцяпанавіч недалюбліваў.

— Чаго ты прэшся на самае дрэва, чаго? — закрычаў ён.— Што табе — фары трэба мяняць?

Недасек, як толькі заглох матор, адчыніў кабіну і, больш убачыўшы, чым пачуўшы, што Сцяпанавіч нешта гаворыць, спытаўся:

— Г-га? Н-ні-чога не чую.

— Га, га... Дыеганцыю трымай!

— А што — м-мой б-бычок п-пагрызе т-тваю ліпу? Васіль ужо стаяў перад начальнікам з усмешкай на сваім румяным прастадушным абліччы, і злавацца на яго далей было немагчыма. Заіка — хлопец спраўны і вясёлы. Бычком называў ён свой новы грузавік маркі Мінскага аўтазавода — адзіную ў калоне машыну, на капоце якой блішчыць серабрысты, горда набычаны зубр.

За рулём наступнай машыны, якая ўжо таксама спынілася, сядзеў Санька Будай, самы малады і, відаць, самы любімы ў калоне хлопец, хоць ён і прыйшоў у яе толькі месяц таму назад. Выйшаўшы з кабіны, чарнявы, стройны Санька з асалодай, да хрусту ў касцях, пацягнуўся, а потым, гледзячы на лес, гукнуў:

— Елкі зялёныя! Не паветра, а проста... журавінавы напітак!

— Шва, Будай, трошкі лепш,— з усмешкай і смакаваннем у голасе, а ўсё ж такі важна прамовіў Сцяпанавіч.

— Піва я не люблю,— адказаў Санька.— Яно мне, як мая маці кажа, не пануе. А ты, Сцяпанавіч, у добрым месцы спыніўся.

Абапал дарогі — нешырокай асфальтавай паласы — дзвюма сценамі ўздымаўся лес. З гушчару дрэў найбольш выдзяляліся яліны і бярозы,— яліны сваёй цёмнай зеленню, на фоне якой асабліва прыгожа выглядала сонечная жаўцізна дробнага бярозавага лісця. Паблізу, амаль да самага кювета, падышла маладая асіна, нявопытная модніца ў бурачковым уборы, і Саньку відаць было, здаецца, як трымцяць яе лісты — нібы ад сораму за свой дзікаваты колер, нібы ад нейкага затоенага хвалявання... Сонца стаяла над лесам трохі правей ад таго месца, дзе шаша ўніралася ў далягляд, і на абочыне шашы, дзе спыніліся машыны, за кюветам прывабліва зелянела мяккая травяная пасцель, засланая ласкавым сонечным святлом. Па вершняку хадзіў лагодны, мілагучны пошум, а нізам слаўся водар цёплай восені, з якога найбольш выдзяляўся сыраваты, смачны пах грыбоў.

— Як хораша, хлопцы, га? — сказаў Санька.— І сапраўды — залатая пара...

Санька вярнуўся з арміі летась увосень. Хлопец перажываў цяпер найбольш, відаць, шчаслівую пару маладосці, нібы адгульваў адпачынак перад клопатамі сямейнага жыцця, якое хутка мела пачацца. Ен быў адзіным сынам у маці-ўдавы, якую Санька з самага маленства ведае работніцай інструментальнага завода, дзе мама робіць непрыкметную, ды вельмі неабходную работу — прыбірае цэх. Жывуць яны ў адным з пакойчыкаў драўлянага дома на ўскраіне. Цеснавата, але гэта — як Санька думае цяпер — зусім ужо часова. Хутка ён нрывядзе дамоў сваю Ірачку, з-за якой цяпер, кажучы словамі маці, не бачыць белага свету. Ірачка — тэхнік на аўтамабільным заводзе, і хутка яна атрымае кватэру. Як толькі яны пяройдуць туды — няхай сабе адзін пакой, ды кухня затое свая! — мама адразу пакіне працаваць, а будзе глядзець хату. Так гаварылі пакуль што яны толькі самі, хаваючы ад маці радасную неспадзяванку. Мама ўжо ведае Ірачку, якая сама папрасіла Саньку назнаёміць іх, завесці яе ў іхні пакойчык. Дабрадушная і вясёлая сваёй ціхай, зычлівай для людзей весялосцю, старая работніца адразу ўпадабала светлакосую, разумную дзяўчыну і ў той жа вечар, рыхтуючы ім вячэру, ціхенька ўсхліпнула каля пліты, успомніўшы Міхася, свайго старэйшага, які загінуў у вайну... Усхліпнула, а потым, за сталом, міжвольна назвала Іру дачушкай. Сказала і схамянулася, а «дачушка» пачырванела, зірнула на Саньку, які таксама пачырванеў, і абое яны засмяяліся. А маці так і стала называць яе — то Ірачка, то золатка, то зноў дачушка. І ў светлым вобразе дзяўчыны, якую палюбіў яе сын, а за ім і яна, і ў самым пачуцці гэтым — узнагародзе за нялёгкае ўдовіна жыццё, было і сапраўды нешта сонечнае, яснае, залатое... Аднак... Ну, што ж, і яна ўжо адчула сябе свякроўю, адчула рэўнасць да дзяў-чыны, што вось прыйшла і забрала, хоць не ўсяго пакуль што, а забрала ў яе сынка. Ну, што ж, яна — маці, хутчэй бы ёй — за ўсе турботы, за ўсю ціхасць яе — дачакацца таго, каб у сям'ю прыйшло яшчэ адно золатка, якое ўжо можна будзе любіць без рэўнасці, усім аднолькава!.. А Санька, нібы на злосць старой, марудзіў, не жаніўся. Ходзіць толькі ды ўсміхаецца.

Усмешка ў Санькі харошая. Заіка Васіль усміхаецца так, нібы заўсёды просіць прабачэння: «Эх, сказаў бы я вам нешта в-вясёленькае, д-ды вось не выйдзе...» А Санька ўсмешкай сваёй абяцае: «Я вам зараз такое скажу... ну, такое, што проста!..» І так ён будзе абяцаць усё жыццё. Прыемна глядзець на такую ўсмешку, бо ўсе мы заўсёды чакаем і хочам радасці.

Васіль і Санька ўжо дружылі, хоць і пазналіся нядаўна.

— Т-ты ўсё д-дыхаеш, Саня, д-дыхаеш, б-брат,— сказаў Васіль.— З-закурым м-мо, няхай начальнік н-нам п-пазайздросціць.

Сцяпанавіч, усё яшчэ з рукамі ў кішэнях штаноў, прыжмурыўшы пад кепкай малыя шэрыя вочы, глядзеў уздоўж шашы, пад сонца, як палкаводзец, і прыкідваўся, што нічога не чуе.

— Дыхаю, брат Васіль,— гаварыў Санька, беручы ў Недасека махорку.— Дыхаю і ніяк пе нацешуся. Што, давай паляжым?

Яны пераскочылі цераз зялёную канаву і з ходу паляглі на траву. Цела прыемна ныла, адпачываючы пасля трохгадзіннага сядзення за рулём, натруджаныя вочы з асалодай адпачывалі на ласкавай зеля

Чорт вазьмі —не відаць! — з прыкрасцю прабурчаў за канавай Сцяпанавіч.

Насустрач яму замест чаканых грузавікоў імчала-ся «Пабеда».

— Т-твой н-начальнік, Б-будай,— кіўнуў на яе Недасек.— Ідзі, б-брат, павітайся!

— А што ты думаеш? — усміхнуўся Санька. І ён гукнуў: — Сцяпанавіч! Зірні на нумар: можа, мой?

«Пабеда» шуганула каля трох грузавікоў і Сцяпанавіча, і Малыя зоркія вочы яго, прывычна прыжмурыўшыся, злавілі на жоўтай шыльдачцы чатыры лічбы.

— Дванаццаць шэсцьдзесят сем!

— Эх, чорт, не мой! — Санька махнуў рукою і перакаціўся на спіну.

Сцяпанавіч пакінуў углядацца і, канчаткова паддаўшыся спакусе, салідна гоцнуў цераз канаву.

— Што, спадзяваўся, што твой? — спытаўся ён у Санькі, кладучыся побач з ім.

— А што т-ты д-думаў — т-толькі т-ты ў яго н-на-чальнік? — падміргнуў Васіль.— А т-ты, Б-будай, н-на д-дарозе стаяў бы д-ды п-павітаўся б: м-можа п-пазнаў бы цябе...

— Ну, я яго, вядома, пазнаў бы, а ён мяне — не. З машыны яно горш відаць...

Недасек засмяяўся.

— А чаму т-ты д-думаеш, ён цябе не пазнаў бы? Н-начальніцкае вока зоркае,— зноў падміргнуў ён на Сцяпанавіча.— Яно, б-брат, б-бачыць, як рэнтген.

Унурыўшыся над травой, Сцяпанавіч жаваў сухую сцяблінку і маўчаў.

— Мой начальнік,— сказаў Санька,— каго, брат, бачыць не хацеў, таго ніколі і не бачыў.

Са збітай на патыліцу кепачкай, падпёршы далонню поўную, румяную шчаку з рыжавата-залацістай шчэццю, Недасек глядзеў на Сцяпанавіча, зморшчаны не то ад сонца, не то яшчэ і ад бяскрыўднай хітрасці, і ўсё, здаецца, падміргваў.

— Вось т-там, Сцяпанавіч, н-начальнік! — сказаў ён.— П-паслухай, б-брат, д-ды п-павучыся, як к-ка-мандаваць. А то т-ты ў нас Фамут, д-ды н-не зусім яшчэ Фамут.

Сцяпанавіч паглядзеў на заіку, пасля на траву, і твар яго пачаў наліваццa крывёй.

— Па кумпале хочаш? — спытаўся, падняўшы вочы.

— Х-хто — я?

— А хто ж — я?

— Б-бясплатна?

Васіль глядзеў на яго, усё таксама падпёршы рукой шчаку, весела зморшчаны, нібы ад сонца.

— Плявузгаць можна, ды толькі ў меру,— сказаў Сцяпанавіч.— Другі табе паказаў бы за хамута...

Санька падняўся і сеў.

— Ды не хамут, Сцяпанавіч,— Фамут! — сказаў ён, нібы просячы.

— А што за розніца: усё роўна хам. Мы разбіраемся, не вельмі заступайся.

— Ну, гэта ты, Сцяпанавіч, хапіў, брат, цераз край. Дык ён жа табе пра Фамута, пра майго начальніка ўспомніў.

Сцяпанавіч паглядзеў на Саньку, на траву, зноў на Сапьку, і на твары яго, яшчэ ўсё чырвоным, паказалася ледзь прыкметная ўсмешка давер'я.

— Бачыш,— усцешыўся Санька, злавіўшы гэтую ўсмешку.— А ты — адразу па кумпале.

Хлопец не вытрымаў — зарагатаў, зірнуўшы на румянатвары, смешна прыкрыты кепачкай Недасекаў «кумпал».

— Ану вас! Ха, ха, ха!..

Васіль усё глядзеў, як і раней, успёршыся на руку непаголенай шчакой.

— Т-ты, раскажы яму, Б-будай. Нях-хай паслухае пра Фамута. Н-начальнікам к-карысна.

— Што, Сцяпанавіч, расказаць?

— Ну, чорт з вамі, расказвай.

— А мо нецікава?

— Расказвай,— яшчэ раз дазволіў Сцяпанавіч.— Усё роўна няма чаго рабіць.

Санька лёг на жывот і, па-свойму, раней шмат-абяцаюча, усміхнуўся.

— Ну што ж,— пачаў ён,— начальнік мой быў — не звычайны начальнік. Кажуць, што ў разумных — вялікі лоб. У яго быў лоб найбольшы, можна сказаць — суцэльны: ад брывей да патыліцы. А розуму... Ды што!.. Пустое нібы слова — Фамут, можа, не вельмі хто і чуў, каб ён так хамут выгаворваў, а вось, брат, як надзелі неяк на гэтую галаву імя Фамут, дык і здымаць нікому не хочацца. У міністэрстве быў — Фамут, і скінулі — Фамут, і зноў пасадзілі — Фамут...

І вось сядзіць ён за сталом — ніколі нават не міргне, як нейкі бог. Адзін толькі раз за дзевяць месяцаў трапіў я ў ягоны кабінет, дый то праз Клавіну памылку. Спыніўся я, вядома, на парозе. «Клікалі, Барыс Барысавіч?» Маўчыць. ГІотым бачу — і ён глядзіць на мяне, і губы варушацца, а нічога не чую... Зразумеў я — далёка. Крануўся да стала. Ішоў, ішоў, дабраўся да палавіны дывановай дарожкі, чую: «Па-клічце да мяне сакратара!» Ну, пайшоў я без адпа-чынку назад. Толькі і заўважыў, што стол ягоны, а на стале — чарнільны прыбор. Стол — ну, цэлы, браток Сцяпанавіч, участак, хоць будуйся. А чарнільны прыбор — дзве сіласныя вежы, ды яшчэ на падстаўцы. Драбіны трэба. Узлез, абмачыў, злез, падпісаў паперку, зноў палез... Ну, выйшаў я назад у прыёмную, кажу да Клавы: «Што за камедыя? Кліча. Ідзі». А яно маладзенькае, толькі што працаваць пачало. Пайшла, выходзіць з кабінета — чырвоненькая!.. «Выбачайце, таварыш Будай, гэта я намылілася: паслала вас, а яны мне сказалі толькі перадаць вам, што па Лёньку сёння не ў пяць, а ў без пятнаццаці пяць трэба ехаць». А Лёнька вучыцца ў музыч-най школе. Не ведаю, які там з яго выйдзе Ойстрах, а нехатой ужо і ён не хоча хадзіць. У першым класе. Ну, яшчэ Алачка ў шостым, Жора ў інстытуце, сама... Словам — было каго падвозіць ды вазіць: на рынак, на футбол, да дзеўчакі, да хлопчыка, у лечкамісію, да манікюршы, да краўчыхі... Пашану Фамут даваў вялікую — і сабе, і жане, і дзіцёнку па лапцёнку.

— А што т-ты ўсё,— перапыніў Саньку Васіль,— н-нібы п-памінаеш яго: жыў Фамут ды б-быў Фамут? Ён жа ёсць і цяпер.

— Ну, для мяне ён быў,— усміхнуўся Санька.— І больш ён для мяне не будзе. І дзіўна мне, чаго з ім носяцца з месца на месца, нібы гэта нешта такое, што і зносу яму і ніякай замены няма. У адным месцы заваліць работу — яго на другое, там ён рукі пагрэе — яго на трэцяе... Як быццам у начальства толькі і клопату з Фамутом, каб ён не пахудзеў, каб яму без машыпы не жыць... А што гэта ты, Сцяпанавіч, нібыта на мурашніку лёг? Дагоняць хлопцы, нікуды не дзенуцца.

Сцяпанавіч выплюнуў зжаваную сцяблінку і па-свойму важна сказаў:

— Хаця б аварыі не было. Ён памаўчаў, нібы падумаў:

— Ды, зрэшты, я там пакінуў Бусліка замыкаючым. Гэты не падвядзе.

Сцяпанавіч узяў з травы другую сухую сцяблінку і заклапочана пачаў жаваць яе з канца.

— Раб-бота ў д-добрага г-гаспадара заўсёды знойдзецца, — падміргнуў на яго Недасек.— Як у твайго, Б-будай, Фамута. Г-гавары, б-брат, далей.

— Ды тут і гаварыць нямнога,— усміхнуўся Санька.— Калі я, скажам, вазіў начальніка і ўсю яго сям'ю, куды каму ўздумаецца, дык гэта ж я не першы і не апошні на гэтай пасадзе. Мы, як гаворыцца, людзі маленькія, а бензін — ён казённы. І машьгаа таксама казённая, і шафёр на казённай заршіаце. Казну спрадвеку даілі, дык вось і ён, Фамут, прысмактаўся... А на сходах, з трыбуны, глядзі, і сам крычыць аб перажытках капіталізму. Толькі і новага ў яго, што гэты... ну. маскіровачны крык. Зрэшты, я крыку гэтага не чуў: са мною Фамут маўчаў. Сядзе ў кабіну, дык толькі збоку, у профіль яго бачыш. А то ў люстэрка загляну — сядзіць. І хоць ты тысячу з ім кіламетраў праедзеш — адно. Так, здаецца, і крыкнуў бы: «Хто ж з нас каго, таварыш начальыіік, ну, хто каго на суд вязе?!»

— А што ты хочаш? — сказаў Сцяпанавіч.— Ашто, калі чалавек не гаваркі? Не ўсім жа балбатаць.

— Пакінь, Сцяпанавіч! Чаму ж ён не маўчыць, калі з другім начальнікам едзе. Асабліва калі той за яго крыху большы. Мне твае гутаркі многа не трэба,— я сваё месца шафёрскае ведаю,— ды толькі ж добрыя людзі з сабакам і то вітаюцца, а то ў машыну ўлазіць — маўчыць, з машыны лезе — маўчыць. Гэта ўжо, брат Сцяпанавіч, не перажыткі капіталізму,— тут мой Фамут бадай што і самога феадалізму чарпануў. Ды, каогул, якія могуць тут быць перажыткі? То ж ні ён, ні бацька ягоны ніколі тым капіталістам і не быў — з парабка выйшаў у людзі. Словам, мы з ім, як у той песні,— ён маўчыць, і я маўчу. Спачатку я. як і належыцца, уранні яму — добры дзень, на развітанні — бывайце здаровы. І што ж,— галавы нават не паверне ў той бок, а недзе зверху, высока прамармыча нешта ў адказ або, вылазячы з машыны, нібы задам адкажа. Спрабаваў я спачатку і гутарку пачынаць. «Надвор'е якое, Барыс Барысавіч”. А ён памаўчыць, узважьгць становішча, праверыць яго з усіх бакоў і тады ўжо адкажа: «Так». Нібы мне зарплату выплаціць: ні капеечкі больш. «Дарожка якая, Барыс Барысавіч!» Скажаш вось так дый думаеш:

будзе адказ ці не? Адказ сяды-тады бываў. Аднойчы ён нават расшчодрыўся: «Так, дарога добрая»,— адмераў мне зарплату з прэміяльнымі. Ну і ўсяго ад быка малака. І маўчым. Добра, калі з кватэры ці на кватэру з работы вязеш — метраў трыста,— а як на дачу едзеш ці ў камандзіроўку?.. Заспяваў бы, здаецца, а то чалавека якога падвёз бы, дык не! — збоку Фамут сядзіць... Ну, і маўчым. Два ідалы ў адной машыне.

— І ўся сям'я маўчыць? — спытаў Сцяпанавіч.

— Яшчэ чаго не хапала. Дзеці — яны як дзеці. Былі б яны, значыцца, як дзеці, каб іх у людскіх руках патрымаў, а то ж, як мая маці кажа, на пупе скуры не чуюць. Пяць мінут яму хады да гэтай самай музычнай школы, а падавай машыну. Сем гадоў смаркачу, а ўжо таксама перажыткі капіталізму. Я ўжо для яго не дзядзя, не Аляксандр Антонавіч, а *ты.* Ды што хацець! — і мама кажа ты, і Жора — ты... Насядзе з ім поўная машына жорыкаў, і ўсе, як па статуту: «ты», «табе», «цябе не пытаюцца»... Сямейка! Алачка ў шостым класе, пра хлопцаў ужо, ды пры мне, у машыне гаворыць з сяброўкамі, а косы яшчэ ўсё Маня, работніца, заплятае. Ну, а Жорка, дык гэта, брат Сцяпанавіч, наогул элемент. Стары Фамут з начальства ніяк не вырвецца, а малады — з інстытута: жалезабетонны студэнт! Морда — во, кудлы да самых плячэй, і вечна нібыта ён сонны, нібыта не бачыць нікога. Так і чакае, здаецца, пакуль не пачнуць з ім вітацца, шапкі скідаць: «Як здароўечка, Георгі Барысавіч, што загадаеце?» Ляжыць на канапе, чытае і курыць. Пальцы культурныя, а папяроса — яна, вядома, цяжкая,— бах і звалілася на паркет. І што ж ты думаеш,— будзе ляжаць і дзерціся на ўсю кватэру: «Ма-ня! Ма-н-ня!!» — пакуль тая пліту не пакіне ды не прыйдзе падаць. А Мані гэтай — гадоў за пяцьдзесят, і згорбілася ўжо, і псіхіка ў яе такая, што якраз для Фамута,— маўчыць ды тупае круглыя суткі. Накорміць усіх, закалыша, тады ўжо бярэ на раменьчык Букеціка — белы сабачка такі для пацехі — і тупае з ім па двары. Праходачка! Усім, як мая маці кажа, трэба правільны пішчаварэнік.

— Ан-ну цяб-бе! — зарагатаў Недасек. Ён павярнуўся з бока на жывот і праз момант смяяўся, трасучы плячыма і нібы клюючы сваім востранькім носам траву, а потым зірнуў на Санька, на Сцяпана-віча і падміргнуў: — Т-таб-б-бе б, начальнік, т-такую жытуху, га?

Сцяпанавіч, таксама трохі разлагодзіўшы твар, не адказаў, а толькі, гледзячы на Санька, хмыкнуў:

— Гм!..

— Вось табс і «гм»,— усміхнуўся Санька.— Уздумаў, брат Сцяпанавіч, гэты самы мой Жорка вадзіць машыну. Прыстане, як

гразь,— даеш. Ну, раз даў баранку, другі... Справа, як бачыш, не хітрая — круціць. Абы дарога была шырокая ды пустая. А раз на дачу вёз яго, вясной, пасля экзаменаў. Ну, сеў ён за руль, вядзе, пакурвае,— увесь такі факстроцісты. А спераду, бачу, стаяць тры самазвалы. «Спыніцеся, Георгі Барысавіч, станьце калоне ў хвост». Бо спераду, насустрач нам, яшчэ адзін МАЗ ідзе. «Праскочу,— кажа,— не вучы». Ужо і баранку ў яго не возь-меш... Ірвануў ён уздоўж калоны, а пасля — управа. Ад сустрэчнай уцяклі, але капот усё ж такі аб крайні МАЗ прыцёр на павароце. Вылез я, вылез нават і ён. Ужо не гаварыць — па мордзе пляснуць хочацца. Умяціна — во! «Ну, што,— кажу,— га? А што, каб я ўзяў цяпер ды вам па радыятары?» І паказваю яму — вось так! — пяцярню. Маўчыць. Што ты будзеш з паршыўцам рабіць,— астыў я трохі, падкляпаў капот — паехалі.

— А сам на дачы таксама? — спытаў Сцяпанавіч.

— Сам на службе: зарплату адседжвае. А мне тым часам думай, як апраўдвацца будзеш. Еду ў горад і ўжо на ўсё гатоў. Ідзіце вы, думаю, туды, куды па розум не ходзяць, што мне — свет завязаны вамі? Добра дык добра, а не, дык бывайце здаровы. Ніякай хітрасці, Сцяпанавіч, не прыдумаў дый не прыдумваў. Еду.

А ён, Фамут мой, звычайна, як толькі сваё да мінутачкі адсядзіць за сталом, выйдзе на сходкі пад'езда, стане і пазірае цераз вуліцу, на ўзроўні магазіннай шыльды. Ну, а мая задача — пад'ехаць у самы час, як заўсёды, машыну Фамуту да ног і дзверцы раз! — калі ласка. Яму толькі б вочы ўніз ці ўбок павярнуць, і заўтра мне — па ўласнаму, значыцца, жаданню, згодна паданай заяве... Сеў ён, а я нібы тэрмометр яму пад паху: «Пагодка якая, Барыс Бары-савіч, га?» Памаўчаў ён, як належыцца, а потым адказвае: «Так». Ну, думаю, трыццаць шэсць і чатыры дзесятых — нармальна.

Так і пайшло, браток Сцяпанавіч, штодня. Два месяцы вось так вазіў яго, падстаўляў яму дзверцы пад саменькі нос і ўсё думаў: «А што, калі ён скрывіць лінію — зірне хоць трошкі ўбок?..» А потым так. усё гэта абрыдзела: і твар яго драўляны, і немата, так захацелася мне да людзей, што ўзяў я і падаў заяву. Годзе ўжо мне гаршкі на дачу вазіць ды гусей з Камароўскага рынку. Семдзесят пяць рублёў за ўмяціну ўнёс, чатыры дні памаўчаў яшчэ побач з начальнікам у машыне, а потым ён налажыў рэзалюцыю. Разоў са тры ўзлазіў на сваю сіласную вежу, пакуль усё як след абдумаў ды напісаў. Потым яшчэ, апошні раз, узлез, абмачыў пяро, сышоў па драбіне ўніз і распісаўся: «Фамут».

— Выдумляеш,— важна сказаў Сцяпанавіч.— Фамут — такога ў нас прозвішча няма. Каго ты вазіў?

— А г-гэта ўжо н-наша, б-брат, т-таямніца,— падміргнуў Саньку Васіль.

— Ну, таямніцы тут няма...— сказаў Санька. І ён назваў прозвішча і пасаду свайго былога Фамута.

— Д-дарэмна,— пакруціў галавою Васіль.— Яго І так п-пазнаеш. Т-толькі глядзі, к-каторы ходзіць,, т-так сказаць, з н-навочнікамі. І ён людзей не бачыць, і н-на яго неахвота глядзець... Н-ну, не раўнуючы, як н-наш н-началь... Ой, уляпаўся, г-гвалт!..— Васіль зарагатаў і пераваліўся з жывата на спіну.

Сцяпанавіч спакойна павярнуў свой твар да. смехуна, і — Санька заўважыў — правае вуха «начальніка» і правая палавіна гладкага карка пачалі спаква-ля наліваццa крывёй. Паглядзеў на Васіля, тады на. траву, зноў на Васіля, І зноў павярнуўся ў профіль да Санькі. Вось-вось гатоў быў выплюнуць з зубоў сваю сцяблінку І сказануць Недасеку крутое слова. І за тое, што лезе заіка ў вочы з гэтым начальніцтвам, і за тое, што вось ён сам — шафёр другога класа Сцянан Сцянанавіч Тулейка — на трэцім рэйсе пасля таго, як яму даручылі калону, згубіў палавіну яе, адарваўся, як блазен які, паказаў клас язды... За гэта, праўда, злаваць трэба на самога сябе, але на другога яно, вядома, зручней. Сцяпанавіч яшчэ раз павярнуў галаву, паглядзеў на Васіля і выплюнуў з зубоў сцяблінку...

Ды Санька, чулы да ўсякай непрыемнасці, апярэдзіў яго.

— Пакінь, Васіль,— сказаў ён Недасеку.— Такіх начальнікаў, як наш Сцяпанавіч...

І тут ён першы ўбачыў на даляглядзе грузавікі.

— Нашы! — крыкнуў, нібы адчуўшы даўно чаканую падмогу.

Сцяпанавіч і Васіль, як па камандзе, павярнуліся на захад. Тры пары вострых, спрактыкаваных вачэй моўчкі глядзелі на тое, як падыходзяць тры машыны.

— Жылінскі першы,— сказаў, нарэшце, Сцяпанавіч.— Ён, відаць, і тармозіць.

Сцяпанавіч устаў, за ім усталі Санька і Недасек. Пераскочыўшы цераз канаву, не змаглі чакаць — пайшлі насустрач...

Затармазіў, як высветлілася, не Жылінекі, а Моніч,— лопнула камера.

Адна за адной, машыны спыніліся, і, адзін за адным, яшчэ тры розныя чалавекі выйшлі з кабінаў,— рабы ад воспы, суталаваты і даўгарукі Жылінскі, мужчына ціхі і вельмі стаpанны, але без удачы; малснькі Моніч, чорны, кучаравы і хітры, як цыганчук; нарэшце — Буслік, стары, бывалы шафёр, які за вопыт свой быў бы ў вялікай пашане, каб не чарка, якой ён кланяўся даўно і з рознымі прыгодамі.

Галоўнай і пераломнай у лёсе Busліка была прыгода яшчэ даваенная, калі ён на «эмцы» звёз свайго начальйка па сходах аднаго бульвара і не пазбавіўся правоў толькі таму, што начальнік таксама быў чалавек душэўны і чарцы не вораг.

Цяпер, адчыніўшы дзверы кабіны, Буслік стаў на крыле і зацягнуў:

Каб ты добры бондар быў
Ды набіў мне абручы...

Стары, вядома, быў не п'яны.

— Здаровы, хлопчыкі! — гукнуў.— Пяць чалавек з махорачкай — да мяне!

І ён закашляўся.

— Дазвольце далажыць,— звярнуўся, скончыўшы, нарэшце, кашляць, да Сцяпанавіча.— Моніч учора кагосьці памацаў, а сёння, як і водзіцца,— няўдача. Сын, Недасек, сабе намалоціш,— усміхнуўся ён з-пад вусоў Васілю, трымаючы ў прыкметна дрыжачых руках кавалак газетнай паперы.

— А ты, Герасім Пятровіч, пакінуў бы курыць. Не на здароўе гэта,— сказаў Сцяпанавіч.

— Ат, хутка я, браце, пакіну ўсё. Вось толькі б яшчэ разочак паляжаць на сонцы.

— Ну, паляжаць не ўдасца,— яшчэ больш важна сказаў Сцяпанавіч.— І так спазніліся. Па машынах!

— Што ж, без каманды войска гіне. Хлопчыкі, пайшлі! — звярнуўся стары да ўсіх і зноў, ад трэцяй зацяжкі, закашляўся.

Сцяпанавіч, як і належыць, рушыў першы.

А Недасек чамусьці замарудзіў. Санька, не вытрымаўшы, адчыніў дзверцы кабіны і выглянуў. Як-раз у гэты момант выглянуў і Васіль.

— Што? — гукнуў Санька, не могучы праз гул матора разабраць, чаго хоча таварыш. Ды вось з усёй неразбярыхі слоў пачулася: «Фамут», і Васіль паказаў на машыну Сцяпанавіча, што была ўжо даволі далёка.

— Ідзі ты к чорту! — засмяяўся Санька.— Паганяй!

Ён сеў, зачыніўся, і дужы, паслухмяны грузавік яго пайшоў.

Усё зразумела: і Васіль — чалавек не злосны, а яму проста весела, і Сцяпанавіч — не вялікі начальнік, а проста любіць паважнічаць.

Ветрык з'явіўся адразу, забегаў па шчоках Санькі, ласкава-халаднаватай хваляй урываючыся праз левае акно. І радасць зноў прыйшла — з Ірачкай, з мамай, з яго новаю працай, з цудоўным адчуваннем волі...

Санька заспяваў.

## УСМЕШКА

Толькі што адшумела навальніца, і па вуліцы вёскі бягуць вясёлыя мутныя раўчукі.

Я стаю каля варот бацькоўскага двара, і мне вельмі хочацца зняць свае модныя туфлі, прайсціся па быстрай дажджавой вадзе, памясіць нагамі цёплую, пухкую гразь...

Мяркуючы па тым, што я яшчэ не зрабіў гэтага, а толькі раздумваю — я ўжо даўно не малы. Ды я не адчуваю чамусьці ні цяжару гадоў, ні адказнасці за свае паводзіны: я проста рад, можа, нават не менш, чым рады бываюць у такі час малыя.

На захадзе з-за хмар выглянула сонца. З узгорка ўніз па вуліцы ідзе белы, зусім сухі і чысты бычок, а на бычку сядзіць гадоў пяці-шасці дзяўчынка, што таксама не была пад дажджом.

Бычок ідзе паволі, нават салідна, упарта і горда несучы наперад свой шырокі пародзісты лоб з тупымі шэрымі рожкамі.

Дзяўчынка сядзіць на бычку не так, як хлопцы, а бокам, спіной да мяне, нібы знарок схаваўшы свой твар, напэўна, шчаслівa і смешна сур'ёзны, свае, вядома ж, загарэлыя ножкі.

Сонца прасвечвае цераз мокрае, бліскучае лісце бяроз, і на мелкай гразі, нядаўна затупанай слядамі каровіных капытоў, на гаманлівай вадзе і на шэрых штакетах за раўчуком ляжыць рухавая сетка ценю. Калі бычок са сваёй амазонкай уваходзіць у гэты цень, па іх гуляюць сонечныя зайчыкі.

На ўсходзе, куды накіравалася, яшчэ не ўсё аддаўшы, цёмна-сіняя хмара, красуецца вясёлка. Пад вялізную арку яе ідзе вясковая вуліца, а па вуліцы, нібы ў краіну казачнай радасці, едзе светлагаловая дзяўчынка, гулліва пастукваючы пятамі па баку свайго верхавіка.

Трохі воддаль за імі ідзе, таксама босы, бацька дзяўчынкі. Ідзе і ўсміхаецца, бо думае, відаць, што дзіця — заўсёды дзіця, заўсёды радасць, ці хлопец гэта, ці дзеўка.

Але дзяўчынка тым часам праехала міма мяне і там, дзе шумлівы, пеністы раўчук ад плота разліўся на сярэдзіну вуліцы, пачала раптам з'язджаць з хрыбта свайго бычка і, пакуль я сабраўся бегчы ёй на дапамогу, з'ехала і шлёпнулася, села ў мелкую ваду!..

Пакуль мы з бацькам малое падбеглі туды, паспела адбыцца самае цікавае, самае вясёлае ў гэтай гісторыі.

Белы бычок прыгнуў лабастую галаву, наблізіў вільготную казытлівую пысу да твару свае сяброўкі і панюхаў яго, а дзяўчынка працягнула загарэлыя рукі, узялася за рогі бычка, адкінула назад светлавалосую галаву і, смеючыся, устала.

— Ой, татачка! — гаварыла яна і, не могучы дакончыць, звонка смяялася і паўтарала: — Ой, татачка! Ой!

І мы смяяліся ўтраіх, — так весела, так непаўторна молада, што я не вытрымаў больш і... прачнуўся.

*1956*

## ГАСПАДАРЫ

У клубе добрага калгаса сход. У будзень, але святочны. Больш за сто цётак і дзяўчат атрымліваюць медалі Усесаюзнай выстаўкі — за лён, якім славіцца гэты куток Наднямоння.

Смешнавата-ўзварушлівы шык. Людзі гэтыя лепш умеюць працаваць, чым браць узнагароды. Кожная, каго выклічуць, выходзіць з-паміж радоў на праход, няёмка ўсміхаючыся, ідзе да стала прэзідыума і загадзя трымае руку, каб падаць яе старшыні райсавета, "так, як і ўсе", ківае галавой і кажа "дзякуй". Дзяўчаты не надта прызвычаены пастукваць высокімі абцасікамі святочных туфляў. Медалі ўсе начэпліваюць адразу ж, толькі сеўшы, і радасна, як дзеці, усміхаюцца.

Сухенькая, смяшлівая бабка:

— Ну вось, счас і я ўкрашу сваю грудзь!..

Ідзе, а ўсе дабрадушна смяюцца.

Выступаючы, большасць стараецца гаварыць, як і бабка, культурна: "клімацічаскія ўсловія нам не дазволілі..."

Толькі адна кабеціна — пасля даведаўся: жыве ўдавой, сын, лейтэнант, у арміі, дачка, студэнтка, у Мінску — гаварыла коратка і пасвойму:

— Семсот пукоў абабілі, а пяцьсот яшчэ не. Але абаб'ём і гэты. Што я тут буду болей гаварыць! Стараемся, як толькі можам, бо трэба.

Пасля сходу, вядома, танцы. І льнаводкі, і маладыя настаўніцы мятуць польку — не наглядзішся.

1956

## КАР'ЕРА

Здаравенны хлапчына, якога з маленства, дзеля смеху, называлі Пётр Пятровіч, пры буржуазной Польшчы пяць год сядзеў у турме "за камуну", у вайну быў у партызанах, а пасля вызвалення — з вельмі лёгкай рукі мясцовага начальства — узышоў на цярністую сцежку кіраўнічай працы.

Амаль непісьменнага хлопца прызначылі спачатку кіраўніком раённай канторы дзяржбанка, пасля загадчыкам нарыхтоўчай канторы, пасля старшынёй сельсавета і нарэшце старшынёй сельпо.

Кіруючы банкам, Пётр Пятровіч толькі падпісваў паперкі, што яму ні падсоўвалі, вельмі цьмяна ўяўляючы змест пераважнай большасці дакументаў.

— Што ты мне тутака плявузгаеш! — грымеў ён на бухгалтара.— Я падпісаў — усё. А мала табе раз — другі раз падпішу!..

У нарыхтоўчай канторы ён сам, і вельмі ахвотна, быў часамі грузчыкам, памагаў сваім хлопцам.

Як старшыня сельсавета, пабіў аднаго дэпутата. Слухалі на бюро райкама.

— Ну, я ж усё ж такі яго начальнік,— апраўдваўся Пётр Пятровіч.— Усе мы ўжо сабраліся, сядзім, яго чакаем. Раз я паслаў па яго, другі раз — не ідзе. Пайшоў я сам. Сядзіць, гад, ды зацірку мурзае. Ну, узяў я тую міску ды надзеў яму на галаву. Падумаеш — так ужо абразміў!..

У сельпо Пётр Пятровіч вельмі хутка замурзаўся сам.

Не так замурзаўся самахоць, як замурзалі памагатыя.

І вось ён памёр недзе ў турме ці ў лагеры. Падпольшчык, партызан, дый хлопец, урэшце, нядрэнны, калі б яго не ўздымаць без патрэбы і меры...

А маці, якой "Бог смерці шкадуе", увесь свой век пакутніца пры такім сыне, ідзе цяпер за дваццаць кіламетраў у райцэнтр, каб, можа, пенсію якую за Пятра далі...

1956

## ПАРЫЖ, КАФЭ «МАДРЫД»

За шкляною сцяной мноства хвалістых папугайчыкаў. Цалуюцца сабе пры людзях, як сапраўдныя французы. Афіцыянткі ў брэтонскіх нацыянальных касцюмах. Ветлівы малады дырэктар добра гаворыць па-нямецку; скромна хваліўся, што ведае рускую літаратуру, гутарку пра якую пачаў з Дастаеўскага.

Старая, кульгавая, з кіёчкам, у дарагім футры, хоць па дварэ пагодлівы, цёплы кастрычнік, мадам прыходзіць есці вельмі акуратна. Есць доўга, старанна глытаючы процьму вустрыц, старанна фарбуючы губы: пасля яды...

Адной з афіцыянтак я падарыў некалькі маляўнічых паштовак з аўтографамі пашай турысцкай групы. Яна знайшла на адвароце паштоўкі серп і молат, паказала на іх пальчыкам, усміхнулася і ўзняла кулак: «Рот фронт!» Пры дапамозе дырэктара расказала нам, што брат яе, рабочы сцэны пры «Камэдзі Франсэз», быў летась у Маскве. Слова «брат» яна сказала па-французску, па-англійску і, за мной, па-нашаму... Мілая, баявая чарнушка.

Тым часам да старой мадам за суседнім сталом падсела другая. Гэтае «брат», «рот фронт!» і ўсё шчабятанне дзяўчыны з намі абурыла абедзвюх мадам. Яны паклікалі афіцыянтку да сябе і доўга, нудна скрыпелі па яе, дакараючы. Пасля паклікалі дырэктара. Злёгку і з годнасцю схіліўшыся, ён слухаў іх з прафесійна ветлівай цярплівасцю: кліенткі, мусіць, даўнія.

Дзяўчына — каля нашага стала — усміхалася, нават і падміргнула мне на тых, а на развітанне дэманстратыўна ўсім нам паціснула рукі і зноў з мілай усмешкай узняла кулачок — «Рот фронт!».

1951

## АСКОЛАЧАК ВЯСЁЛКІ

«...Дзед біў, біў — не разбіў, баба біла, біла — не разбіла...»

Юрку не біў ніхто. Усе яго прасілі. Сястрычкі наперабой паказвалі, як гэта робіцца. Мама злавала, што ён яе — нават яе! — не слухае. Прасіў сам бацька. Сарамаціў свайго Юрася, гаворачы з ім, як мужчына з мужчынам. Прасіла, нарэшце, госця-бабуля — вельмі заслужаны дзеяч найвышэйшага мастацтва, нястомная вясковая работніца, што нібы так сабе, нібы між іншым выгадавала сямёра дзяцей і дзевятнаццаць унукаў. Дваццатаму ўнуку яна гаварыла:

— Ну, зрабі ўжо, каток, зрабі. Пакажы ты нам гэтае дзіва, а то паеду заўтра дахаты і не ўбачу. Ну, вось, глядзі!

Пляскаючы ў такт сухімі, дрыжачымі рукамі, яна пачынала кволым старэчым голасам тую несмяротную песню, якой захапляліся і яшчэ будуць захапляцца мільёны сястрычак і брадікаў, мамаў і татаў, бабуль і дзядоў:

Ладкі-ладушкі,<br>
Прыляцелі птушкі...

І гэтак далей. А можна і зноў ад пачатку. Усё роўна будзе аднолькава хораша. Каб толькі песні той дапамагалі маленькія ручкі з растапыранымі пальцамі, каб быў па вушы раскрыты ад радасці рот ды каб смяяліся вачаняты.

Вучыцца Юрка не хоча.

Ён стаідь у сваім ложку (ад сцяны — дыван, ад хаты — сетка), трымаецца аберуч за жалезны прут і то смяецца аднazубым роцікам, то робіць тое, што ўжо добра завучыў: зусім як бацька, ляскае языком.

— От нехарошы! Мы цябе больш насіць не будзем, ні Алеся, ні я...

— Дурань! — злуецца мама.

І ўсім гэта смешна, нават самому Юрку. Ён смяецца залівіста, яшчэ раз ляскае языком, а потым надзімае губы і, зверху ўніз шмаруючы па іх кулачком, вельмі задаволена робіць «брр!».

— Не нова гэта, не нова,— усміхаецца бацька.— Пашырай, брат, рэпертуар.

І бабуля, вядома, таксама гаворыць сваё: яна бароніць унука, як быццам тут нехта і сапраўды на яго нападае.

«...Баба біла, біла — не разбіла. Бегла мышка, хвосцікам махнула...»

Махнула хвосцікам не мышка, а рыбка — госця з той цудоўнай краіны, што называецца Кітай. Залатая рыбка, у якой дзіўнае імя — Шубункін.

Яна плавала ў акварыуме, што стаяў у другім пакоі на акне. Плавала не ад на: іх было пядь, і ўсе залатыя, і кожная называецца

Шубункін.

У акварыуме чатыры шкляныя сценкі і гіясчанае дно, дваццаць літраў чыстай вады і, мусіць, некалькі тысяч каменьчыкаў — большых, меншых і зусім-зусім маленькіх, якія лічацца пясчынкамі.

Каменьчыкі — з Крыма, дзе раскошнае сонца і стройныя, вечназялёныя кіпарысы, дзе цёплае мора шуміць дзень і ноч — напявае ласкава, нястомна палошча камяністы, пясчаны бераг, выкочвае на водмели яго з прахалодных глыбіняў такія вось, як у акварыуме, каменьчыкі.

Яны шматфарбныя, бліскучыя, празрыстыя; у іх прыгожыя дзівосныя імёны: халцадон, сердалік, нефрыт...

Разам з каменьчыкамі пясчанае дно акварыума ўсцілаюць малыя і большыя ракавінкі; акамянелыя кіпцюры калісьці грозных крабавых клюшняў; адшліфаваныя хвалямі, як бусіны, кавалачкі шкла.

Разам з крымскімі ёсць у акварыуме каменьчыкі і ракавінкі з гарыстай, сонечнай Югаславіі, дзе працавітыя, мужныя людзі і ў казцы, і ў песні мора сваё называюдь пяшчотным і звонкім імем Ядран.

Над гэтым цёмна-блакітным морам усё — і яснае сонца, і белыя чайкі, і зялёныя кедры,— усё такое прыгожае, што ўсяго, здаецца, узяў бы патрошку дахаты — на светлы ўспамін.

Бацька, які прывёз з Масквы, з заалагічнага магазіна, залатых кітайскіх рыбак Шубункін, з Крыма — каменьчыкі і ракавінкі, і там, над блакітным Ядранам, думаў пра самую светлую радасць. Дочкам, якія чакалі яго, і Юрасю, нараджэння якога ён чакаў з небывалай трывогай, бацька прывёз ад усёй адрыятычнай прыгажосці зялёную шышку з магутнага кедра, што шуміць над хвалямі на чарнагорскай кручы, белае чайчына пяро, што ляжала на шэрым гарбе маленькага каменнага астраўка, некалькі яркіх, празрыстых каменьчыкаў, што блішчэлі на гарачых, пуховых пляжах песеннай Далмацыі...

«...Бегла мышка, хвосцікам махнула — яечка ўпала і разбілася...»

Залатая рыбка Шубункін махнула сваім празрыстым, раскошным, як шлейф каралевы, хвастом, і стаўся цуд — упершыню пасля доўгай зімы з двара ў акварыум заглянула сонца.

Заглянула адным краечкам вока, а ўсё ж у вадзе за шклом зайграла вясёлка...

Юрка, якога перасталі нарэшце вучыць, якога выпусцілі нарэшце з-за сеткі на падлогу, папоўз па дыване вельмі хутка, вельмі пацешна перабіраючы каленцамі.

Паўзці для Юркі — гэта значыцца не ляжаць, не сядзець, не стаяць, узяўшыся за край ложка, а самому рухацца, самому авалодваць прасторай. Ніхто з нас не памятае гэтага пачуцця, а яно, відаць,

вельмі прыемнае!.. Чарнавокі, светлавалосы Юрась нават паўзці адразу не можа: падпаўзе трохі, сядзе і азіраецца. Як тут нова ўсё, як прыгожа! Ану, далей!..

І вось — махнула залатая рыбка хвастом, заглянула ў акварыум сонца, у вадзе за шклом зайграла вясёлка. А хлопчык поўз... Ды не поўз! Ён бег, мякка, як кот, тупаючы далонькамі і каленцамі па пушыстым і, як расквечаны поплаў, вялікім для яго дыване. А потым спыніўся, сеў і азірнуўся навокал.

У чорных, як пераспелыя вішні, вачах гулліва заіскрылася золата рыбінай лускі, адбілася вада, у якой ласкава пераліваліся водбліскі чарнаморскіх і ядранскіх каменьчыкаў... Крыштальна чыстая вада беларускіх крыніц з асколкам яркай вясёлкі усмешкай сонца — аднаго для ўсіх!..

Казка канчаецца. Нічога тут не ўпала, не раз білася...

Толькі светлы і кучаравы Юрачка раскрыў ад здзіўлення свой адназубы рот, развёў рукамі, і дзве далоньа з ружовымі растапыранымі пальчыкамі самі нарэшце запляскалі!

Казцы — канец. І дзед не плача, і баба не плача...

Усе стаяць у дзвярах. Потым дзяўчаткі і мама бягуць да Юркі. Сястрычкі рагочуць, а мама хапае на рукі таго, каго толькі што называла і неадпаведна, і недарэчна, і, зрэшты, зусім не злосна дурнем. Хапае і многа цалуе яго — за яшчэ адно дасягненне. Падыходзіць тата, а за ім, цягнучы хворыя ногі ў валенках, ідзе да Юркі бабуля. Ідзе і ўсміхаецца такім чынам, што на маршчыністым твары яе вельмі выразна напісана:

«Ну, вось і дваццаты тым часам робіцца чалавекам!»

*1957*

## КАРАВАЙ

Мядзельшчына. Жніво. У ціхай, сонечнай вёсцы над возерам спыніўся "Масквіч". Тры дачныя мужы, што вярнуліся з горада, яшчэ як быццам не нацешыліся сваей кампаніяй — закурваюць, стоячы каля машыны.

Раптам — з-за ўзгорка пачуўся незвычайны шолах, бабскі гвалт. Курцы хацелі кінуцца туды, як на пажар, але тут з акна хаты, насупраць якое яны стаялі, пачуўся прыглушаны гол ас:

— Уцякайце, таварышы! Хавайцеся! Будзе бяда!..

Пакуль яны не верылі, з-за ўзгорка паказалася чарада баб і дзевак. Крык, стук качалкаю па вядры, абрыўкі песень, рогат, віск...

Стары, што папярэджваў дачнікаў, знік у акне.

Убачыўшы машыну, жанчыны загалёкалі і рынуліся да яе. Дачныя мужы паспелі ўскочыць у свой "Масквіч" і зачыніцца. Жанкі абляпілі машыну з усіх бакоў, пачалі выманьваць пасажыраў выйсці.

— Тэмпературу пагляджу! — крычала адна, трымаючы, як стэтаскоп, чарку на доўгай ножцы.

— Дабром просім — выходзь! — крычала другая, з намалёванымі вугалем вусамі.

— Бабкі, ану — перакінем! — прыйшла нарэшце шчаслівая думка.

І бабкі сталі пераварочваць "Масквіч". Магло б, вядома, і такое здарыцца, але ж яны паляпіліся з усіх бакоў, пяліся, галёкалі наўвесь свет, а машына толькі нрышаднімалася, як жук, які лянуецца ўзлятаць. І бабкі спакваля ашляхлі. Яны пастукалі кулакамі па шыбах, па кузаве — каб ты лопнуў! — "доктарка" пагразіла ў акно:

— Ну, гады, ваша шчасце!..

І вось чарада, зноў з ваяўнічым крыкам, падалася па вуліцы далей.

Зноў адчынілася акно, і дзед, што папярэджваў дачнікаў, растлумачыў:

— Сёння, таварышы, чацвер. Дык гэта бабы каравай сабраліся пячы. Стася Хрыпунова ў нядзелю замуж ідзе. Тая, што ў крайняй ад пошты хаце. Выпілі трохі, халера, бушуюць. Сёння яны маюць права на ўсё. Могуць мужчынам рабіць, што захочуць. І порткі з вас, выбачайце, цягнулі б, і крапівы туды напхалі б, і пяску насыпалі б!.. Абычай. Банда. Мужчыны нашы ўсе — хто куды!..

## ТРЭБА ПАЕХАЦЬ

Чарнявы, здаравенны грукач, — у вялізных надзягцяраных ботах, у пахучым кажусе, толькі ўчора, відаць, да чырвані нацёртым свежай цэглай, — ляснік Мікола Жолуд стаіць на рынку каля сваіх саней-развалаў і гукае:

— Здароў, зямляк!

Збочваю з праходу сярод распрэжаных фурманак, конскіх хвастоў і задзёртых аглабель і — паміж саньмі і коньмі — іду да яго.

Здароўкаемся. Не ведаю, як яму, а мне вельмі прыемна сустрэцца з даўнім знаёмым, пацiснуць яго вузлаватую і шурпатую, як карага, руку, — нібы набіраючы сілы. Ды і яму, відаць, прыемна, бо смяецца, чорт, выскаліўшы белыя, моцныя зубы, якімі шчодра напханы яго шырокі рот.

— Што, па скварку прыехаў? Бяры вось маю, — цэлыя сані сала!..

У развалах на гарохавінні ляжыць ва ўсёй сваёй дванаццаціпудовай красе ружовая ад холаду, перацягнутая двума пастронкамі адстаўная свінаматка.

— А сам ты што, толькі дзічынку ясі?

Ён адказвае нешта, смяецца, а ўвага мая тым часам выключаецца на момант, не ўспрымае ягоных слоў...

Я ўспамінаю вясняны лес, росны, халаднаваты майскі досвітак, восем дружных, вясёлых хлопцаў, партызанскіх разведчыкаў, і ён, ляснік Мікола, дзявяты, — ляжым мы ў засадзе каля дзічынай сцежкі. Хутка прыемнае спалучыцца з карысным: затрашчаць нашы аўтаматы, і будзе цэлая фурманка свежаніны. Бо тут, па гэтай сцежцы, яны ідуць звычайна на жыр — цэлы вывадак з маткаю. Мікола ілгаць не будзе: сам прыйшоў па нас у вёску, дзе мы тады стаялі. Навокал аж заходзяцца ў падсадзе салаўі. А мы чуем нават, як мармыча, лезучы з зямлі, трава... Вось, вось, вось... Вось яна пачуецца нарэшце, гэтая дзічыная хада!.. Ды тут ён, наш правадыр, узняўся.

«Уставайце, хлопцы! — загрымеў як з яснага неба. — Нічога не будзе». «Няўжо не пойдуць? Дрыжалі колькі... Яшчэ паляжым!»

Але ён — няўмольны і ўсемагутны, як нейкі бог-лясун, — гаворыць: «Браточкі мае, што ж мы робім?! То ж вёска пад бокам: паднімем вэрхал — што людзі падумаюць?.. Мала хіба народ напалоханы?.. Няхай яны лепш падохнуць, ліха матары, тыя дзікі!..»

Да нас адразу даходзіць, што гэта азначае. Надрэчная вёска Мохавічы, першая за лесам, зусім нядаўна адчула начны варожы напад. Няхай цяпер спіць спакойна.

І мы ідзём, ужо вясёлыя, да Міколавай леснічоўкі, дзе стаяць нашы коні...

Цяпер мне хочацца, зноў набіраючы сілы, шчыльней дакрануцца да гэтай простай, здаровай душы.

— Памятаеш, як мы дзікоў пільнавалі?

Ён дабрадушна ўсміхаецца шырокім ротам.

— Вось цяпер прыехаў бы! Га? Ну, няўжо ты і праўда так моцна заняты?..

— А што — ходзяць?

— І ходзяць, і ў кубле ляжаць. Нядаўна аднаго ўходаў, перад самымі калядамі.

— Колькі пудоў?

— А чорт яго важыў! І так нікуды не дзенецца.

— Сальца такое... з праслойкай...

— Сала, браток, любівае. І чарачку яшчэ... Прыязджай — праслоім.

Базару сёння, як кажуць, няма: свіней многа, а пакупцоў не шмат, ды і тыя чакаюць, пакуль прадавец здасца на марозе, пачне патроху збаўляць цану. Да таго ж яшчэ, у Міколы — «мацёра», вельмі падобная на пароcную. Не тавар. Вось зноў нейкі падышоў, памацаў, спытаўся пра цану, сказаў: «Дай божа!..» і пасунуўся далей.

Міколу гэта не збянтэжыла. Нібы ад мухі, адмахнуўшыся ад купца, ён расказвае:

— Паглядзеў я, браток, нядаўна цікавую штуку. Калі ты не забыўся яшчэ — у Чорнай Кудзерцы, каля Ахламеевага котлішча. Каля самай дзічынай сцежкі — яловы выварат. Здаравенны! Неяк я сабе ціхенька іду, гляджу — ліса, ліха матары, то з вываратa, то на выварат, то з выварата, то на выварат!.. Цырк!.. Ляжу я, гляджу і пра стрэльбу забыўся. Што гэта, думаю, да чаго?.. А потым, браток, дзікі. І зноў мяне нібы хто пад бок штурхае: «не страляй!..» Мацёра спераду ідзе, а за ёю жэўжыкі, паласатыя ўсе, як акуні. Адкуль тая ліса і ўзялася, — за апошняга парсючка ды на выварат!.. Рохкала свіння, рохкала! І на дыбы станавілася — не дастане! Пайшла. А тады і ліса з парасём пабегла...

— А ты не страляў?!

— Паверыш, браток, і не страляў. Пасля толькі пакаяўся. Інцярэсу многа! Дзе ты бачыў!

— Ну за ваўкоў, глядзі, капейку добрую аграбаеш?

— Ды каб жа так яны пад руку ішлі! Ого! Абкружылі мы іх нядаўна за Галым балотам, — усё як мае быць. Ды гэтак жа добра адзін, ліха матары, ішоў на Свярдзёлка!.. Ты яго не ведаеш: новы ляснік, замест

Маханьковіча. Недзе ажно з-пад Валожына прыехаў. Стрэльба, браток, новая, а — раз! — асечка, другі раз — асечка!.. А Свярдзёлак... Ты ведаеш, — добра, што мы падбеглі! Хапіў стрэльбу за рулю ды ўжо размахнуўся, каб гвазданууць па сасне! Ледзь адабралі. За рукі, браток, за ногі — ледзь яго ўтрымалі! Разышоўся — няхай бог крые!..

Жолуд гаворыць гэта зусім сур'ёзна. І я міжвольна ўяўляю другога такога, як ён, грукача, ляснога асілка. Бо дзе ж там — ледзь утрымалі!

— А вось і ён! — усцешыўся Мікола. — Гэй, Сцяпан! Ідзі сюды! Можа, хоць ты маю скараміну купіш.

Асцярожна праціснуўшыся паміж двума конскімі задамі, да нас падышоў чалавечак. Не скрыпка, а такі сабе паўскрыпак. І кажух не пахне, і боты даўно не мазаны дзёгцем. Каўнер настаўлены, вушы ў шапцы-аблавушцы не звязаны наверсе матузкамі. Худы, няголены, рыжаваты. Адзін толькі нос тырчыць. Убачыўшы гэты востры, сіняваты носік, я пачаў падазраваць, што Свярдзёлак — не прозвішча, а мянушка. Можа з дому яе прывёз, з-пад Валожына, а можа тут ужо нашы хлопцы прышпілілі.

— Во, ліха матары, здаравіла які! — на ўсе, як кажуць, застаўкі ўсміхнуўся Мікола, паказваючы на Свярдзёлка. — Воўчая смерць! Паздароўкайся, Сцёпа, з чалавекам.

Сцёпа падаў мне руку. Малая, але ўчэпістая, як ракава клюшня.

Мне цяжка стрымліваць смех, а Мікола яшчэ паддае.

— Які там здаровы! — нібы адказвае ён камусьці. — Вунь ужо кропля пад носам вісіць...

Сцёпа шморгае носікам і тонкім, «бабскім» галаском адказвае:

— А кроплю, бачыш, яшчэ ўтрымаю!..

Мы рагочам. Пасля гаворым пра пушчу, пра жыццё, пра міжнародную палітыку... На развітанне леснікі просяць прыехаць абавязкова.

— Хочаш — адзін, — гаворыць Мікола, — а хочаш, дык таварышаў якіх вазьмі. — Ну, і, бясспрэчна, як заўсёды, дадае: — Прывязіце трохі гільзаў, шаснаццатага калібра, і пораху...

— Дрампуляў якіх-небудзь, на ваўкоў, — у тон яму дадае сваім галаском Свярдзёлак. — Каб пекануў катораму, дык каб адразу...

Сцёпа развітаўся са мной і пайшоў. Хацеў ісці і я, але Мікола прытрымаў маю руку.

— А ты не думай, — сказаў ён значна цішэй і неяк нібы нават вінавата ўсміхаючыся, — што я табе пра Свярдзёлка насмешку якую... Ён гэтых ваўкоў налузгаў столькі, што мы з табой і ў вочы не бачылі. Газета пісала: шэсцьдзесят тры. Гэта, браток, пра яго. А як ён

падвывае, каб ты толькі чуў! І за прыбылога, і за пераярка, і за старога воўка, ліха матары, як зойдзецца — хоць ты на печ хавайся!.. І так ён, Сцяпан, харошы чалавек... Дык прыязджай ты, браток, не лянуйся!..

...Сяджу на цягучым пракураным сходзе... Успамінаю словы: «Няўжо ты і праўда так моцна заняты?», чую за імі пах жывіцы і аўчыны, сасновы шум і рыпенне снегу пад ботамі... Трэба паехаць!.. Нават адразу, — не дачакаўшыся канца чарговай гаворкі пра неабходнасць вывучаць жыццё!..

*1957 г.*

## ЁЙ МЫ НЕ СКАЖАМ

У ліпені сорак чацвёртага года мы выйшлі з нашай партызанскай пушчы і — каго не паслалі на фронт — сталі ў сваім раёне партыйнымі і савецкімі работнікамі.

Гледзячы сённяшнім, мірным вокам, нялёгкі гэта быў час. Сям-там яшчэ аказваліся банды, слядамі якіх хадзіў наш знішчальны атрад. Старшыню сельсавета Сашу Туркача, спадцішка вясёлага і неяк паэтычна гультаяватага хлопца, якога ў брыгаднай разведцы два гады абміналі кулі і асколкі, бандыты злавілі непадалёку ад райцэнтра. Уранні пастушкі знайшлі яго знявечаны труп у бродзе ціхай, абязрыбленай паліцэйскім толам рэчкі. Наступнай ноччу я дзяжурыў у райкоме партыі пры адкрытым акне, палажыўшы на стол узведзены аўтамат... Днём мы, моладзь, прывыкалі да мірнай працы, вучыліся наводзіць лад у раёне, абедалі ў нішчымнай сталоўцы і ніяк не маглі без таго, каб не сабрацца на плошчы, не «пабрахаць», не пасмяяцца. Час быў нялёгкі, але і вясёлы. Кожны вечар у даваенным, на шчасце ўцалелым, клубе мы ладзілі танцы. Рыжы Пытляк, загадчык радыёвузла, быў добрым акардыяністам...

Аднак з усіх Пытляковых танцаў мне запомнілася толькі простая і страсная мелодыя вальса, якой мы часта падпявалі:

Ночь светла. Над рекой<br>
тихо светит луна...

Запомнілася, відаць, таму, што ночы ў той апошні ваенны жнівень былі надзіва пагодлівыя, а можа — і хутчэй за ўсё — таму, што падпявалі мы ўслед за Машай.

У меру вясёлая і сур'ёзная, лёгкая ў танцы, простая, мілая чарнушка ў скромнай стракаценькай сукенцы,— такой я сёння бачу Машу тых дзён. Яна прыехала ў наш малады заходнебеларускі калектыў з у сходу, з Разанскай ці з Тульскай вобласці, працавала, здаецца, у банку ці ў прамкамбінаце... Зрэшты, не важна ўсё гэта — адкуль ды дзе,— важней за ўсё для нас тады было тое, што ўсе мы хутка закахаліся ў Машу. І вольныя, як гаворыцца, і заблытаныя,— няхай не крыўдзяцца жонкі, якія былі ў той час нарачонымі.

А Маша дасталася аднаму.

Яго я ведаў яшчэ перад вайной. Ну, як там ведаў... Чуў, што Максім Трацяк працаваў пры панах у падполлі, сядзеў у турме. Пасля, у партызанах, ён быў камандзірам аднаго з атрадаў нашай брыгады. Не з першых таварыш і не з апошніх. На выгляд — трохі ганарлівы, нахмураны, а засмяецца — сімпатычна шыракароты, з моднымі рэдзенькімі зубамі. Пад густымі саламянымі бровамі — маленькія,

калючыя і разам з тым вельмі светлыя вочы. Працаваў ён тз.ды намеснікам старшыні райсавета, хадзіў у сваім камандзірскім кіцелі, без рэменя, у ботах і ў шапцы ахоўнага колеру, з пяцікутнай плямай замест зорачкі.

Да зімы кампанія наша спакваля разбрылася па свеце: хто пайшоў на фронт, хто на вучобу, каго перавялі ў іншы раён. Я паехаў на працу ў Мінск.

І вось прайшло амаль трынаццаць год. Іх, Максіма і Машу, за гэты час я сустракаў не часта, нават вельмі мала. Добра запомніліся толькі дзве сустрэчы.

Неўзабаве пасля вайны, там, у райцэнтры, я бачыў іх на хаду, з кузава спадарожнай машыны. Быў пагодлівы летні адвячорак, выходны дзень, і яны, Трацякі, ішлі шырокім тратуарам, уздоўж зялёнай сцяны вішняку. Маша трымала на руках свой белы скарб — малое ў «канверце» — і ўсміхнулася мне, кіўнуўшы га лавою. Ён... Ды што там прыкідвацца,— я запомніў толькі яе, тую шчаслівую ўсмешку і вочы, поўныя гордай радасді мадярынства.

Пасля я пачаў заўважадь побач з ёй і Максіма. Гады праз два мы пазнаёміліся з ім бліжэй, у Мінску, на вечары ў нашага агульнага друга. Крыху залішне паўнаватая і нeяк з пачуццём уласнай годнасці, шчаслівa спакойная, Маша была прышжая той красою ўдачлівай маці, якая добра зрабіла сваю вялікую справу — падгадавала двое дзяцей, а сама засталася ўсё яшчэ маладой і цікавай. Ні раней, ні цяпер яна не была прыгажуняй; яна была проста вельмі мілая як чалавек, вельмі чыстая, прывабная як жанчына. З ёю было добра. Можна было амаль па-ранейшаму весела і легка вальсаваць, успамінаючы нашу ваенную маладосць, падняваючы пра тую месячную ноч, якая не была ніколі нашай... А на жаночую красу яе можна было глядзець вачамі таксама ўжо сталага чалавека, які нязгорш навучыўся ведаць меру ўсяму, паважаць граніцы свайго і чужога шчасця...

Маша і Максім здаваліся нам з жонкай шчаслівaю парай. Ɫ не толькі нам: так лічылі і тыя, хто ведаў іх бліжэй.

— Харошыя людзі. І ён, і яна...

Гэта гаворыдь мне сёння стары райвыканкомаўскі шафёр Намыста, гуцул Мікіта Самійлавіч, які пасля партызан асеў у нашым раёне. Я ведаю яго, можна сказаць, даўно, люблю паслухаць расказы старога пра даўнюю службу ў аўстра-венгерскай арміі, калі яшчэ, як ён кажа, царстваваў Франц Іосіф «эрштэр». Мы паважаем адзін аднаго і таму вось з прыемнасцю п'ём чарку ў раённай чайной, закусваем селядцом з гарачай бульбай і гаворым пра добрых людзей, якія пазаўчора селі ў вагон і паехалі ў госці, да Машыных бацькоў,—

усёй сям'ёю.

— Харошыя людзі,— паўтарае стары Намыста і, размораны чаркай, змаўкае. Пасля даволі доўгай паўзы ён дастае сваю «цыбуліну» ў вялікім, падобным на грушу футляры, доўга глядзіць на стрэлкі.— Извините за мою некультурность...— кажа чамусьці па-руску.— Цяпер ужо дваццаць тры мінуты пасля чатырох... Пайду вось зараз на бакавую. Што рабіць у святую нядзелю? А ваш аўтобус падыдзе тым часам. Так і жывэмо...

Закончыўшы на роднай мове і з уздыхам, ён зноў маўчыць. У гэтым маўчанні я пачынаю падазраваць нешта незвычайнае. І праўда,— вось ён, Мікіта Самійлавіч, глядзіць на мяне трошкі іншымі, рашучымі вачыма і пачынае:

— Вам толькі і скажу... І ён чалавек харошы, а яна яшчэ лепшая. Як рідна донька, глядзіць мяне, даглядае стару, самотну людыну...— Ен выцірае вочы і зноў па-руску гаворыць: — Извините за мою некультурность... Я не скажу, што Максым Валадымэравыч нешчаслівы чалавек, але ж — не шчаслівы... Толькі вам скажу... Абы мы ехалі каля яго роднай вёскі ноччу, заўсёды спыніцца каля могілкаў і пойдзе туды. Я, вядома, сяджу ў машыне, чакаю. А раз пайшоў за ім следам. Бо доўга вельмі яны, Максым Валадымэравыч, не вярталіся. Прыйшоў, гляджу... А ён ляжыць грудзьмі на магіле і плача... як дытына, плача... Вы ведаеце, вядома...

Так, Мікіта Самійлавіч, я ведаю, я нібы толькі цяпер успомніў, што ў той магіле ляжыдь Максімава першая жонка і першы сынок, расстраляныя немцамі, калі ён пайшоў у партызаны. Я не ведаю нават імя той жанчыны, не бачыў ніколі і хлопчыка. Чуў толькі — наша звычайная вясковая маладзіца, якая ў панскую турму пасылала свайму Максіму кавалак хлеба, адняўшы яго ад уласнага рота, пісала, капаючы слязьмі на смешны, няўдалы след алоўка, што хлопчык усё пытае, а дзе тата?..

— Извините за мою некультурность...— Стары Намыста глядзіць на мяне і пытаецца, нібы просіць:— Мы ёй ніколі не скажам пра гэта?.. Марыя Матвіеўна така добра... Не трэба...

...Адзін. З акна аўтобуса гляджу на жаўталістыя бярозкі і бурачковую пожню грэчкі каля гасцінца, гляджу на яркую, спакойную вячэрнюю зару і думаю, шапчу без слоў:

«Мілая Маша! І сапраўды, можа, вы лепш ніколі не ведайце пра гэтыя яго начныя слёзы!..»

*1957*

## МАЦІ

Жнучы, яна стамлялася з кожным днём усё больш. Гарачую задуху цяжка было адмахнуць ад знямоглых грудзей нават самай вялікай, самай каласістай жменяй. А рабіць трэба было, хоць і свету не бачыш... І яна жала, нікому нічога не кажучы.

Увечары, вяртаючыся дахаты са сваім наймалодшым, у тое страшнае лета адзіным у хаце сынам, старая ледзь перастаўляла ногі, натруджаныя гадамі бязлітаснай працы. Паблеклыя вочы яе глядзелі на свет з-пад нізка насунутай хусткі, здаецца, зусім абыякава.

Аднак яны бачылі многа.

Вось, нечакана спыніўшыся, маці азірнулася на свайго хлопца, які, таксама з сярпом на плячы, пачціва ішоў ззаду, запавальняючы хаду, па-пастушынаму «клюючы» салодкі жытні каласок.

— Глядзі, Васіль, як ён упяўся... Эх! Трымайся, нябога, стой!

Сын перастаў на момант «кляваць», зірнуў у той бок, куды яна паказвала. За вялізнай узорнай дзяругай цераспалосіцы, недзе далёка-далёка за ўзгоркам патухала зара, а зусім блізка ад мяжы, па якой яны ішлі, стаяў пахілы мэндлік жыта. Уранні па нівах, з гары ў даліну, прайшоўся нізам вецер і панасоўваў мэндлікам шапкі на самыя вочы. Мала таго, каторы слабей пастаўлены, дык і ўсяго яго ці нахіліў, ці нават абярнуў зусім. Той, на які паказвала маці, нахілены ўсімі снапамі ўдагон ранішняму ветру, што быў ужо на другім канцы свету, — той не хацеў упасці. І старая жняя ўсміхнулася, гледзячы на яго амаль таксама ўлюбёна ў жыццё, як у тыя гады, калі яна была парабчанкай у панскім двары і не ведала стомы, бегаючы вакол чужога шчасця.

Калі мяжа ўперлася ў гасцінец, маці з сынам павярнулі ўлева.

Па сцежцы на траве абочыны пайшлі таксама: яна — спераду, ён — ззаду.

Па правай руцэ ўздымалася высокая града гасцінца, па левай час ад часу блізка гулі тэлеграфныя слупы.

Прагудзе адзін, пасля ідзеш, пасля зноў стаіць ды гудзе, нібы нешта жывое, — так сумна, нават злавесна, усцішна мармычучы.

На адным слупе, ужо недалёка ад павароту на іхні хутар, старая заўважыла белую плямку паперы — на ўзроўні вачэй. Прайшла міма: няма калі думаць пра ўсё... Потым спынілася. Сказаць сыну, каб зірнуў, што гэта, — не паспела: ён ужо сам чытаў, кінуўшы каласок. Прачытаўшы, аддзёр паперку, парваў яе на кавалачкі і сыпануў імі, нібы жменяй мякіны, камусьці нябачнаму ў вочы.

— Што гэта?

— Каб не давалі есці байцам. Каб выдавалі іх паліцаям. Дадуць гарэлкі і тытуню.

— Няхай бы сабе вісела, сынок. Няўжо ж іх нехта паслухае?

— Будуць расстрэльваць тых, хто не паслухае. Усю сям'ю. І хату спаляць.

— На ўсё божая воля...

Яны пайшлі — зноў адно за адным і моўчкі. Дома, у сенцах старое хаты, яшчэ пры панах выкінутай з вёскі на хутар, маці ўваткнула свой серп у шчыліну над вушаком. Сын зрабіў тое самае. Яна папраўіла аберуч хустку, зверху ўніз з прыціскам правяла рукамі па твары, нібы здымаючы стому з вачэй, і ўжо хацела сказаць, што вось толькі падоіць карову ды будуць вячэраць.

— Я пайду ў вёску, — апярэдзіў яе Васіль.

— Зноў! — больш спалохана, чым злосна, крыкнула яна. А потым перайшла на ласку: — Не ішоў бы ты лепш. Заўтра ж рана ўставаць.

— Ну што ж, і ўстану.

— Дык павячэраў бы хоць.

— Я скора прыйду.

— Ведаю я гэтае скора... Ой, находзішся ты! Давядзе цябе гэты Азароначак! Успомніш ты маё слова!..

— Нічога, маці. Спалохалася?

— Вось тады пасмяешся! Знайшоў чым гуляць! Па-твойму, я сляпая — нічога не бачу, або дурная — нічога не ведаю?

Ён падумаў, што больш не варта... Не, ён проста ўспыхнуў:

— Яшчэ чаго — будзе вучыць!

І пайшоў.

Зноў дай божа цярплівасць на ўсенькую ноч!..

Праз якую гадзіну старая хата ў шэрай, па-начному ўжо аднатоннай, чыстаполіцы стомлена патушыла агеньчыкі акон.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Маці не спіць.

Каля гэтага хутара фронт — трагічны пачатак вайны — прайшоў, як нейкі раптоўны віхор, — і верхам, і нізам. Раўлі самалёты, ірваліся бомбы, грукаталі танкі, беглі па збожжы салдаты... Прайшоў гэты віхор і праз душу: ён нечакана вымеў з хаты абодвух старэйшых сыноў. Сцяпан толькі пазалетась, калі прыйшлі таварышы, вярнуўся з панскага астрога, прычакаўшы нарэшце таго, за што пакутаваў. Уладзік, самы старэйшы, гаспадар, змабілізаваны панамі ўлетку трыццаць дзевятага года, толькі ў замаразкі прынёс асміну вошай з нямецкага лагера.

І вось пайшлі яе хлопцы зноў, цяпер ужо на ўсход. І не вяртаюцца,

як іншыя... Не паспелі і ажаніцца, — так хутка праляцеў ён, гэты час іх доўгачаканай волі. Уладзік толькі дрэва навалачыў, каб новую хату рубіць. Сцяпан у сельсавеце сядзеў, старшынёю. А Васіль — гэты вучыўся дзве зімы ажно ў Навагрудку...

Так, тых няма. Бог святы ведае, што будзе... А гэты, апошні, не хоча сядзець у хаце, шукае няшчасця. Дачакалася — нават не скажа, куды і чаго...

...Яны прыйшлі яшчэ зацямна. Старая не спала ад болю ў нагах, і асцярожны стук у шыбу не разбудзіў яе, а проста спалохаў. Пакуль яна ўзняла з падушкі галаву, пакуль у гэтай сівой праставалосай галаве сто разоў перавярнулася думка — хто гэта? — і нават радасць — а можа? — пакуль яна ўстала, пачуўся амаль да шэпту прыглушаны голас:

— Хозяин!.. Хозяин, открой!..

Як вядзецца спрадвеку, яна спачатку прыткнулася лбом да шыбы, паглядзела. Потым выйшла ў сенцы, дрыжачымі рукамі выцягнула засаўку і адчыніла дзверы. Стала толькі зусім ясна тое, аб чым яна здагадалася адразу: гэта — яны, байцы...

Адзін з іх, — а колькі ўсіх было, не паспела заўважыць адразу ў матава-празрыстым паўзмроку дасвецця, — адзін падышоў да яе і ўсё яшчэ шэптам сказаў, нібы спытаўся:

— Мать? Ты нам хлебушка дай, родная... Ты не бойся: мы сразу же уйдем... Из лагеря бежали...

Шэры і гладкі тэлеграфны слуп са злавесным гудзеннем праплыў перад яе вачыма... З той самай паперкай, якую рваў яе хлопец... Мільганула думка, трывогай тузануўшы за сэрца: а ён яшчэ не вярнуўся!.. Белая пляма паперкі махнулася разам са слупам удаль і знікла. Застаўся толькі страшны няголены твар чалавека з вялікімі вачыма. Засталіся толькі яны — цяпер ужо добра відаць — учатырох.

— Заходзьце, хлопчыкі! Я вам хоць малачка... Хоць смагу прагнаць... Лямпу не будзем запальваць...

Апошняе яна сказала, пераступаючы парог.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І на гасцінцы, і ў мястэчку, на ўсім — так добра знаёмым і якім жа кароткім цяпер — шляху ад роднай хаты да свежай ямы ў лапухах добрыя людзі бачылі яе пакутніцкі паход. І ўсім было зразумела, куды і завошта.

Чатыры босыя, у вайсковых лахманах мужчыны, з рукамі, скручанымі назад калючым дротам, па двух ішлі следам за ёю. Ёй фашысты зрабілі палёгку: не звязалі рук... Што ж, яны не баяліся яе нават так, як гэтых бяззбройных, знясіленых уцекачоў. Адзін з

байцоў, яшчэ зусім хлапчук, нядаўна астрыжаны пад машынку, з усіх сіл намагаўся не ўпасці і, ззаду гледзячы на таварышаў, узнімаў, як і яны, галаву.

Свае худыя, так мала ў жыцці цалаваныя рукі яна трымала мазалямі да мазалёў. Шаптала свае, зусім новыя словы малітвы. І ў ранішнім святле роднага сонца ясным быў яе твар, хоць па маршчынах міжвольна кацілiся слёзы. Яна і тут не думала пра сябе. Дзе ён, яе Васілёк, чаму не вярнуўся?.. Як добра, Божа ласкавы, што ён не прыйшоў, не прыбег нават і на пажар роднай хаты!.. Відаць, далёка ўжо недзе сынок, відаць, адкапалі-такі яны з Азаронкам свае кулямёты... Дзе яны, Уладзік і Сцяпан?.. Хавай іх, Божа, усіх трох ад куль, дай ім усім убачыць матчыну магілу!.. І тут душа яе вярталася да гэтых, да чужых сыноў, з якімі так моцна зрадніла доля... Яна чула іх крокі — шорганне босых ног па жвіры, чула і цяжкае дыханне... Яна аддала ім усё, што магла... А тут нават не азірнешся. І яна рабіла адно — яшчэ як мама вучыла — малілася. І за сваіх сыноў, і за чужых, і за сябе...

Горача дыхалі клыкастыя, дурныя зяпы аўчарак. Чорнай сталлю паблісквалі ў голых да локцяў, загарэлых руках аўтаматы. Час ад часу на ўзбоччы гудзелі тэлеграфныя слупы.

Маці не ведала, хто яна. Не думала аб тым, што не з адным толькі жахам глядзелі на іх паход сустрэчныя, — што вобраз яе засядзе ў сэрцы многіх мужчын горкім, няўмольным дакорам, што вочы і рукі яе ўспамінаць будуць нават дужыя людзі, выганяючы з душы апошні страх перад начной партызанскай атакай...

*1957*

## MEMENTO MORI

Позняй восенню сорак трэцяга года на адным з самых спакойных перагонаў Беларускай чыгункі ўзарваўся нямецкі вайсковы эшалон.

Праз дзень, халодным, золкім досвіткам, бліжэйшую да месца катастрофы вёску акружылі карнікі. Жандары ў касках і стракатых плашч-палатках і мясцовыя здраднікі-паліцаі ў чорных, прамоклых шынялях прыехалі з райцэнтра на пяці машынах. Вёска была вялікая, але «накрыць» яе ўдалося хутка і спраўна. Як высветлілася значна пазней, уцалела толькі двое: хлапчук, які выпаўз баразной у загуменныя кусты, і дзед, што якраз заначаваў у сваяка на дальнім хутары.

Усе іншыя жыхары сагнаны былі ў той канец вёскі, дзе стаяла старая вялізная адрына, — усё, што ўцалела ад калгаснай фермы.

Зондэрфюрэр, начальнік экспедыцыі, разважыў, што прымусіць «бандытаў» капаць сабе яму — доўгая гісторыя. Значна прасцей спаліць іх у гэтай адрыне. Пакуль яго падначаленыя заганялі вёску ў трое шырокіх варот драўлянай будыніны, ён стаяў трохі збоку, на ўзгорачку, і непрыемна моршчыўся ад дзікага крыку і плачу...

Побач з ім амаль непрыкметна ўздрыгвала ад пранізлівай слаты маладая збялелая перакладчыца.

— Мы хутка скончым гэтае швайнэрай[1], і тады, фройляйн Вэра, паедзем дахаты. Будзе зноў цёпла... О так!..

Істота ў скураным паліто і белай вязанай хустцы выклікала на твар крывое падабенства службова-інтымнай усмешкі.

Так бы ўсё і было, як бывала, аднак, зірнуўшы ў натоўп сваіх ахвяр, што набліжаліся да крайняй ад яго чорнай пячоры варот, зондэрфюрэр заўважыў знаёмага.

— Адкуль я ведаю яго?.. О! Мэншэнскінд[2], дык гэта ж той пячнік! Скажыце, фройляйн Вэра, каб яго падагналі сюды.

Печніка падагналі.

— Біст ду дох аўх гір, майн лібэр кэрль?[3] — засмяяўся начальнік.

Пячнік нічога не зразумеў. Ды, відаць, і не чуў. Бледны, без шапкі на лысіне, аброслы сівеючай шчэццю, ён упёрся ў немца скамянелымі вачыма і маўчаў. Толькі бяскроўныя губы перасмыкаліся, як ад нязбытнага жадання гаварыць.

Улетку ён рабіў зондэрфюрэру печы. Знайшлі яго і прывялі, вядомага на ўсю ваколіцу. Пяць раніц дзяжурны жандар абшукваў

---

[1] Свінства.
[2] Даслоўна - «дзіця чалавечае», адпавядае беларускаму «хлопча».
[3] І ты таксама тут, мой дарагі?

яго і кожны раз аднолькава весела знаходзіў у кішэнях майстра тое самае крэсіва, самасад і кавалак чорнага хлеба. А печы атрымаліся выдатныя. Кухар хваліць пліту, а сам зондэрфюрэр — грубку з белай кафлі. Вось і цяпер ён ледзь не заахкаў на ўспамін аб яе гладкай цеплыні.

— Скажыце яму, фройляйн Вэра, што ён не будзе спалены. Спытайцеся, ён хоча жыць?

— Спадар зондэрфюрэр кажа, што вы, дзядзька, будзеце жыць. І ён пытаецца, ці вы гэтага хочаце?

Пячнік толькі паварушыў бяскроўнымі губамі.

— І скажыце яму... Спытайцеся, хто ў яго там ёсць.

— Спадар зондэрфюрэр пытаецца, хто ў вас там ёсць? Там — у адрыне?

З вуснаў у чалавека сарваліся словы:

— Там... мая... баба...

— Ён кажа, што там яго жонка.

— Скажыце яму, што жонка яго таксама не згарыць. Ён можа ўзяць яе.

— Спадар зондэрфюрэр кажа, што фраў... што жонку сваю вы можаце забраць.

Бяскроўныя губы ў сівеючай шчэці заварушыліся зноў:

— У мяне там і дачка... з малымі дзет... камі...

— Ён кажа, што там у яго ёсць дачка са сваімі дзецьмі.

— О! Мэншэнскінд! Можа, у яго яшчэ хто-небудзь ёсць?

— Спадар зондэрфюрэр пачынае выказваць нездавальненне. Ён пытаецца, хто ў вас там ёсць яшчэ?

— Скажы яму, што ў мяне там суседзі... А ты скажы, што яны сваякі...

— Ён кажа, што ў яго там многа сваякоў. А таксама суседзі.

— Суседзі?! Эс іст абэр этвас цу ляхен!..[1] Можа, ён хоча, каб я аддаў яму ўсю гэтую банду? Спытайцеся ў яго апошні раз: чаго ён хоча, вар'ят?

— Спадар зондэрфюрэр пачынае злавацца. Вы, дзядзька, не дурыцеся, калі хочаце жыць. Зараз адрыну падпаляць. Ён кажа, што вы, мусіць, хацелі б забраць адтуль усю банду.

Пад чорнай навіссю броваў ажылі нарэшце вочы. Губы зусім перасталі дрыжаць. Нібыта не сваю, незвычайным жэстам, пячнік узняў галаву:

— А ён што думаў? І ўсіх! Усіх добрых людзей!.. Можа, ён ім раўня

[1] Гэта ўжо проста смешна!..

— гэты твой гаспадар? Або ты, можа?.. Цьфу!..

Чалавек плюнуў пад ногі, тады павярнуўся і ўжо не тым няпэўным крокам, як сюды, пайшоў да варот адрыны.

Быў нейкі момант разгубленасці, а потым зондэрфюрэр сарваў з правай рукі мокрую скураную пальчатку, адшпіліў кабуру, выхапіў пісталет і прыцэліўся...

У жудасным ляманце стрэл амаль не пачуўся.

Але пячнік упаў.

Ён яшчэ ўздрыгваў, калі яго паднялі і кінулі цераз парог, пад ногі збою аднавяскоўцаў.

Тады вароты назаўсёды зачыніліся.

І ён згарэў — адзін, хто мог бы ў той дзень не згарэць.

І ён жыве.

*1958*

# НАДПІС НА ЗРУБЕ

1

Дзве рыбацкія вёскі, у якіх жывуць дзед Вячэра і ўнучак яго Міхась, разлучаны вялікай вадою. Дзедава веска, Падвалока, стаіць на паўднёвым схіле доўгай касы, якая, урэзваючыся ў возера, падзяляе яго на дзве затокі. Нівішчы, у якіх амаль сем год таму назад нарадзіўся Міхась, відаць, калі глядзець з канца касы, на ўсходнім беразе — кіламетраў пяць па вадзе.

Яшчэ вельмі рана. Жнівеньскае сонца толькі-толькі збіраецца ўзыходзіць. Міхась недзе спіць у адрынцы на сене, да вушэй нацягнуўшы на сябе мамін бывалы кажушок. Пойдзем спачатку да дзеда, у Падвалоку.

Зямля тут благая, пясчаная, і вельмі мала яе: усяго, што на касе, па гектару, па два на хату. Падвалокаўцы спрадвеку жывуць з рыбы — і да савецкай улады, і цяпер, стаўшы лепшай брыгадай вялікага рыбгаса. Усё тут у іх рыбацкае: і назва вёскі пахне рыбаю, як невады-падвалокі, і возера пахне, і пясок, і хаты, і нажы, якімі кроячь хлеб, і падушкі, якія даюцца гасцям на сена...

Дзедава хата стаіць усімі вокнамі на возера, да сонца. За гумном (а гумны тут, па ўраджаю, маленькія) на высокім узгорку тырчыць аброслы бур'яном нямецкі бліндаж, яшчэ з Першай сусветнай вайны. З яго як на далоні відаць усё возера — водная прастора, што запаўняе амаль увесь абруч кругагляду. Пакуль жыла старая Вячэрыха, яна часта ўзыходзіла сцежачкай на гэты бліндаж і з-пад рукі выглядала свайго нястомнага Астапа. Пажыла яна, няма чаго грашыць, семдзесят сем гадоў. А вось ужо дзесяць мінула, як дзед, трохі старэйшы за яе, жыве адзін. І толькі сёлета перастаў ён рыбачыць, адгрукаўшы на гэтай цяжкай працы не нейкія там трыццаць тры гады, як той, што злавіў залатую рыбку, а роўна семдзесят пяць. Многія рыбакі не памятаюць нават, калі гэта дзеда Вячэру празвалі «каралём вугроў» — найбольшым майстрам па лоўлі той дзівоснай рыбы, якая ў навальнічныя ночы выходзіць з глыбіняў на бляск маланкі і скача, як вужака, над хвалямі, якая выпаўзае па расе паласавацца маладым гарохам, а нераставаць ідзе ажно ў далёкае цёплае мора... Цяпер ужо стары сам узбіраецца сяды-тады на тое ўзвышша, адкуль яго чакала калісьці Гануля, і глядзіць таксама з-пад рукі, але куды быстрэйшым вокам на любую ваду, усю ласку і ўсе капрызы якой ён вывучыў не горш, чым натуру свае нябожчыцы, а дно азёрнае — лепш, чым падлогу роднай хаты.

Па даўняй звычцы і сёння адстаўны «кароль вугроў» падняўся на досвітку. Унучкі яшчэ спалі на шырокім ложку ў запеку — куды рука, куды нага. Нявестка ціха кешкалася над імі, пачынаючы апранацца. Накрыўшы кепкай нерасчасаную сівізну, дзед выйшаў з хаты, асцярожна рыпнуўшы дзвярыма. Збіваючы шэрымі калошынамі расу з зялёнага бульбоўніку, стаўляючы сухія, загарэлыя ступакі неяк крыва, нібы ён на ўсякі выпадак стараўся лепш трымацца за зямлю, стары падаўся па той самай сцежцы-баразёнцы ўгару, на той самы сямейны назіральны пункт. Ён спяшаўся, але, узышоўшы на бліндаж, нібы замёр, гледзячы туды, адкуль вось-вось павінна было паказацца сонца.

На ўсходзе, за ціхай затокай, за соснамі на далёкім узгорку якраз цяпер палыхнуў язык полымя... Не, гэта не здалося: ён усталяваўся, пачаў разрастацца, набіраць паўкруглую форму і нарэшце, наліўшыся ў барвовы круг, зусім непрыкметна адскочыў ад зямлі. І амаль адразу ўсунуўся знізу ў хмарку, што зацягнула ў тым месцы далягляд.

Высока-высока над дзедам паружавела лёгенькае воблака. Вузкая хмарка ўсё больш ды больш налівалася чырванню, а высокае воблака ўсё святлела, траціла ружовасць. Вогненны круг другім напорам прарэзаўся з хмаркі-смугі ўгару. Возера заззяла радасцю.

Нават адгэтуль, з бліндажа, стала відаць, як за вялізнаю ліпай, за скупымі і марнымі мэндлікамі жыта, за адцвітаючай грэчкай і алешнікам на беразе, у першых промнях новага дня пабліскваюць крыллі чаек. На поўдні, за большай затокай, выразна адлюстроўваецца ў вадзе высока падняты жоўтым абрывістым берагам сасняк. На поўначы, дзе вёска і рыбгас, уздоўж берага папоўз лёгкі туман... Можна падумаць, што стары акадэмік Васіль Раманавіч, дзедаў добры знаёмы, зноў запаліў на новай дачы грубку і зноў бурчыць на печніка, а дым, як і ўчора ўвечары, зноў не ідзе ўгару... На ўсход не вельмі зірнеш — сонца ўзяло сваё!

А над усёй гэтай прыгажосцю, у чыстым небе, трохі воддаль ад воблачка, ужо зусім неружовага, стаіць поўны месяц. Ён не свеціць — выпусціўшы наперад сонца, сам адступіўся, сціпла паблек, а неўзабаве непрыкметна знікне.

Ды, гледзячы на ўсход, стары Вячэра не любуецца. Адтуль павінны паказацца лодкі. Брыгада яшчэ не вярнулася з першага сёлета ўлову сілявы. Зрэшты, брыгада — брыгадай, а патрэбен старому сын. Нават не столькі сын, як лодка... Пад казырком памятай кепкі, пад сівізною брывей напружана жмурацца вочы. Яны наглядзеліся за век і на яснае сонца, якога так шмат бывае на крынічна-празрыстай азёрнай вадзе, і на сцюдзёную чорную цемрадзь, калі вада і вецер — не

разбярэшся: хто зверху, хто знізу! — здзекуюцца з упартасці чалавека. Ужо і стомленыя, але яшчэ ўсё па-рыбацку цярплівыя, быстрыя вочы знайшлі-такі ў вясёлым бляску залатой вады патрэбнае!

— Ідуць,— шапнуў стары.

Чатыры лодкі прыйшлі да берага амаль праз гадзіну.

Не толькі ўсе жанчыны ды дзяды, але і наймалодшае рыбацкае пакаленне — як гэта ні дзіўна каля вады, а ўсё ж такі чарнаногае — высыпала на вільготны затупаны пясок. Следам за людзьмі на сустрэчу сілявы выйшла з хат, гарышчаў і розных спецыяльных закаморкаў усё кашэчае насельніцтва Падвалокі.

Дарослыя ажыўлена гутарылі і пераклікаліся з лодкамі. Дзеці, падкасаўшы портачкі і прыпадняўшы падолікі, шумліва палезлі парэпанымі нагамі ў чысценькую і цёплую, нібы нагрэтую мамай, ваду. Каты — залежна ад узросту — то нецярпліва пахаджалі, задраўшы хвасты, церліся каля гаспадарскіх ног і па-блазенску дакучліва вякалі, то стрымана, салідна аблізваліся, жмурачы лянівыя вочы.

Толькі адзін, найбольш бывалы і вопытны тыграў сваяк, вядомы на ўсю вёску валацуга і злодзей Цярэшка, сядзеў воддаль, на зялёным прыгорку, цікуючы і на ваду, і на сушу з аднолькавым скепсісам на вусатым мурле.

Чатыры вялікія чорныя лодкі адна за адной чырканулі насамі па пяску. Бабы, дзяды і дзеці з вясёлым гоманам рушылі да лодак, а рыбакі, больш скупа выказваючы свае пачуцці, панеслі насустрач ім карычневыя жмуты сетак, у кожнай з якіх ужо нежывым серабром стракацелі незлічоныя сотні сілявак. Пачалася марудная праца — вылузванне рыбы з вочак сеткі ў скрыні: для адпраўкі, калі падыдзе рыбгасаўскі кацер.

Учора стары Вячэра, якому і на пенсіі не сядзіцца ў хаце, сам выбраў месца — найбольш надзейнае. Усе чатыры трыццаціметровыя палотнішчы сетак, непрыкметнаю сценкай апушчаныя ў глыбіню на якарах і паплаўках, былі цяпер густа ўтыканы сілявай. Відаць, не адзін яе гуллівы або напалоханы шчупакамі касяк напароўся на нябачную капронавую смерць. Як заўсёды, старая сілява пазасядала ў вочках жабрамі, амоладзь, падсіляўнікі,— пупкамі. Кволая тлустая рыбка заснула даўно, толькі-толькі папаўшы ў бяду, аднак і ў сетцы, і ў руках, і ў скрынках, што стаялі на пяску, прыемна пахла смачнай спакуслівай свежасцю.

— Ну, бацька, тоня, браце ты мой, выйшла — во!

Сын Вячэры Іван, высокі бялявы мужчына гадоў сарака, які толькі з гэтай зімы пачаў хадзіць за бацьку ў брыгадзірах, выцер рукі аб порткі і самавіта ўзяўся гарнуць цыгарку.

— Сёння пойдзеце туды, за Качан, на Мітрафаніху,— глыбока тоячы гордую радасць, паказаў дзед доўгай рукою на вадзяную бясконцую роўнядзь.— Ты, можа, у лодцы пакурыш, Іване? Паедзем.

— Куды?

— А што я ўчора казаў.

— Зноў ты пра тое!.. Ганначка! Не ламі яе! Ых, жабянё! Ты не ўмееш сама, дык на маму зірні!..

Поўненькая дзяўчынка з вялікімі светлымі вачыма, вельмі падобная на бацьку, тузалася з ужо абдзёртай і раздзёртай сілявінай, ніяк не могучы выцягнуць яе з вочка сеткі. Малады пярэсты і падчапісты кот, як быццам хочучы дапамагчы малой, з налёту ўчапіўся ў рыбку, ярасна мармычучы. Дзяўчынка крыкнула: «Апсік, здыхоцце ты!», а бацька схапіў ката пад жывот, размахнуўся і шпурнуў яго ў ваду.

— Яшчэ і ён, ідры яго айн, цвай, драй!..

Гэта стала сігналам трывогі. Цярэшка — самы бывалы і найбольш скептычна настроены падвалоцкі тыграў сваяк — маланкай шугануў ад вады. За ім — усё кашэчае пагалоўе. Пакуль той пярэсты падчапісты небарака выбіраўся з вады, адчайна малоцячы лапкамі, усе яго аднапляменнікі ўжо аблізвалі вусы, з платоў і стрэх цікуючы на пакінуты рай.

А рагаталі нямногія: найбольш Ганначка ды іншыя дзеці. Малады Вячэра ўсміхнуўся, гледзячы на малых, і пад гэтай усмешкай так і схавалася прычына яго сапраўднай злосці.

— Эх, бацька! І захацелася ж табе, браце ты мой!.. Ну што ж, пайду вазьму пілу і сякеру...

2

Паўднёвы бераг большай затокі, да якога накіраваліся стары з Іванам, пакрыты вечна жывым сасновым шумам.

Хораша тут, калі бывае час палюбавацца!..

Цяпер вось нізам сцелецца верас у румяным ранішнім святле, а над верасам — таксама ў сонцы — густа высяцца гонкія сосны. Добра ўзняць галаву, заглядзецца на іх шэра-зялёныя, са стальным адлівам, кучаравыя верхавіны на фоне цёплага блакіту і галубіных воблакаў. Сосны гамоняць. Нібы расказваюць чароўныя казкі маленства — адну за адной, нястомна і радасна, ціха і мудра, як гэта можа добрая, пагодлівая старасць. Возера сёння маўчыць. Каля нізкага берага, чыста пясчанага ці пабрыджанага рэдзенькай травой, ледзь чутна, раскошліва пахлёбвае хваля. Чайкі гуляюць над люстранай вадою, пікіруючы на спажыву, або садзяцца на вільготны, вылізаны прылівам пясок, толькі імі затупаны, пацярушаны іхнімі перцамі. Тут

жа, выштурханая на бераг мноствам бурных прыбояў, парахнее, петрае на сонцы разбітая лодка. Па рыбацкаму звычаю лодкі пакідаюцца назаўсёды там, дзе іх засцігне апошняя бяда.

Далей на поўдзень — абрывісты бераг. Высокі, амаль з марскою галькай унізе, з мыльным намывам пены. Вада дні і ночы, гадамі падточвае жоўтыя пласты пяску, які абсоўваецца, здрадліва агольваючы карэнне самых смелых соснаў, што густа выйшлі тут на край абрыву. Яны — вялікія і меншыя — адчаянна чапляюцца за абрыў, а потым усё ж такі падаюць...

А наверсе па-ранейшаму патрэскваюць пад нагамі дробнае сучча і старыя хрусткія шышкі. Праглядваюць мілымі вочкамі кветкі іван-ды-мар'я. Час ад часу ў вершняку перасвістваюцца каршуны, і ніяк не пасуе ім іхні свіст, зусім не маладзецкі і не грозны.

Вельмі прыемна бывае, калі ў гэтую дзіч з маляўнічай дарожкай, што пятляе паблізу ад берага, калі ў гэтую раскошную глухамань раптам урэжацца клін жыта, якое ўжо духмяна палавее, ці бульбы, якая цвіце. Знак, што і тут пахадзіла рука чалавека...

«Кароль вугроў» сядзіць на карме, стырнуючы малым вяслом, і пільна ўглядаецца ў недалёкі ўжо сасновы бераг, нібы нешта там выбірае. Падбародак старога, пакрыты нізкай густой зарасцю, больш чым калі задраны ўгару, амаль да самага носа. Ад гэтага заўсёды сціплы і прыемны выраз дзедавага твару здаецца цяпер не проста злосным, а нават драпежным.

Прычына гэтай злосці з лодкі яшчэ не відаць: яна вось-вось адкрыецца за паваротка́й... Але стары ўжо бачыць яе: у вачах яго з самай вясны стаіць густы, высокі Пярэймаўскі бор, пакалечаны падсочкай... Яшчэ адзін знак чалавечай рукі...

«Каб яна каторая і адсохла! Не дай божа, калі рука без галавы!..»

Так думае цяпер, як здаецца Івану, яго няўрымслівы стары.

А ў Івана ўжо злосць адышла. Ён паволі, зладжана, з прыроджанай рыбацкай зграбнасцю працуе вёсламі і ўсміхаецца час ад часу, гледзячы на надзьмутага бацьку. Праўда, есці Івану вельмі хочацца, але што ж ты зробіш: стары — як малы!.. Вясляр сядзіць задам да месца, куды яны плывуць, і з-за спіны стырнавога — то злева, то справа — усё яшчэ добра відаць яму родная Падвалока. Шэрыя стрэхі. Рэдкія дрэвы. Ліпа — нібы цёмная хмара за іхнім гумном. Лявей — даўно стары вятрак, ужо толькі з двума абшарпанымі крыламі, вельмі падобны на страказу. Паміж ліпай і ветраком барадаўкай тырчыць бліндаж. Лодкі і людзі на светлым беразе. Людзі ўжо разыходзяцца... Эх, ідры яго айн, цвай, драй! Добра было б цяпер расцягнуцца на свежым сене пад прахалоднай страхой

гуменца! Нават каб Маня туды прынесла снедаць, га? Каб дзверы самі за ёй зачыніліся?.. Іван са старым былі ўжо зусім недалёка ад свайго месца. Ужо нават чуваць быў за ўсплёскамі вёслаў маркотны шум падсочаных пярэймаўскіх соснаў. А тут пачалося раптам нешта зусім нечаканае... Уся Падвалока паказалася Івану з-за спіны старога і паплыла, паплыла, паплыла ўправа...

— Куды ты вернеш, бацька?

— Куды трэба. Махай трохі лепш!..

Іван спачатку зазлаваў — зусім здзяцінеў стары! — а потым засмяяўся. Яны павярнулі дахаты... Ну што ж, пасля, як стары аддасца, даведаемся пра ўсе гэтыя яго выкрутасы. А тым часам як быццам нават запахла смажанай сілявай...

Выгібы хваль, разварушаных лодкай, паблісквають, адсвечваюць на пясчаным дне. Далей ад берага, на глыбіні чатырох-пяці метраў, відаць густая, высокая водарасць — нібы лес з-пад крыла самалёта. Спакваля пачынаецца «паглыб» — заўсёды таямнічае сіне-шэрае бяздонне. Там недзе нячутна шугаюць за спажываю вялізныя, як бярвенні, ненажэрныя шчупакі. Шугаюць, гады, а ў падвалоку не хочуць!..

Калі лодка прыстала да апусцелага берага, каля сетак, развешаных на дручках, не пахаджалі ўжо нават і кантралёры-каты.

Сілява смажыцца без усякага тлушчу. Можна нават, калі спяшаешся, і не чысціць яе, хопіць добра перамыць. Найлепш смажыць у печы, каб рыбу падрумяніла лёгкае полымя — з сухенькіх, як соль, сасновых паленняў.

Калі мужчыны зайшлі ў хату, Маня, якая праз акно ўбачыла, што яны набліжаюцца да берага, адразу і падала ім на стол вялікую, духмяную, гаманлівую скавараду. Іван накроіў тоўстымі лустамі свежага хлеба і нецярпліва паклікаў бацьку з сяней. Стары, ужо значна ніжэй ад носа трымаючы свой падбародак, увайшоў у хату з бутэлькай жоўценькай пярцоўкі.

— Жыў адзін дзівак,— сказаў ён, ставячы на стол паўлітроўку,— які ўсё з усякім дурнем чаркай дзяліўся. Дай, Маня, шклянку. Ды і сама прысядзь.

Далонню ў донца — ён легка выбіў з бутэлькі кардонны корак, наліў першую чарку. Урачыста пажадаў сыну з нявесткай добрага здароўя. Паволі, смакуючы, выпіў.

— А потым? — спытаўся Іван, з затоеным смехам гледзячы на амаль зусім распагоджаны бацькаў твар.

— А потым ён і тую порцыю, што раней падсоўваў усякаму, пачаў сам выпіваць. На добрае, сыне, здароўе!..

Смачна апёкшы рот і ўсё нутро пахучай, моцнай вадкасцю, Іван пачаў жаваць папоўніцы. Эх, і рыбка ж яна — сілява! Нават і костачкай не ўколешся!

— Я ж і кажу,— гаварыў стары, старанна дрыгаючы пакрытым сівой зарасцю падбародкам,— каб тая ручка адсохла, што галавы не слухае.

— Ты зноў пра падсочку?

— А што ж? Хіба ж гэта парадак? Увесь Пярэймаўскі бор падсочылі! Над самым возерам! Я яшчэ, шануючы вас, з голай с... бегаў, калі ён стаяў. Дзве вайны выстаяў, а цяпер вось знайшоўся дурань — на выруб яго!..

— Вы, тата, ешце,— ціха азвалася поўненькая чарнабровая Маня.— Стаяў ён і будзе стаяць...

— Паваляць, дачушка! Год-два, і паваляць! На тое ж і подсочку зрабілі... А ты чаго выскаляешся?

Іван, адрагатаўшыся, спытаўся:

— Дык ты яго пашкадаваць хацеў? З пілою?

Стары загарэўся, нават руку з кавалкам хлеба задзёр.

— Гатовае, што на двары ляжыць, кожны дурань можа ўзяць! Ты мне не тыцкай гэтым паленам пад нос! Сам здароў, ведаю, што раблю!..

— Ну і пярцоўка... Яна ў сваёй хаце п'ецца лепш...

— А ты бо сціхні! — накінулася на Івана жонка.— Еш ды ідзі, куды трэба! Я вам, тата, яшчэ вось... Знайшоў з каго выскаляцца!

Яна завінулася каля прыпека і падышла адтуль да стала з вялікай конаўкай чаю, заваранага на ліпавым цвеце. З той самай, як хмара, ліпы, што за гумном. Потым прынесла жоўты паліваны слоічак з мёдам і чыстую лыжку.

— А дзе ж гэта дзеці? — спытаўся дзед.

— Гэля пасе. А Ганначка памчалася недзе.

— А ты ім чаю давала?

— Няўжо ж.

— І Гэлі трэба было таксама. Яна нешта кашляла ноччу...

Канчаткова размораны ласкай ліпавага цвету і мёду, стары глядзеў на адзінага з жывых, наймалодшага, спраўнага і вясёлага сына, на ціхую рабацяшчую маладзічку, ад якое ў хаце ніхто яшчэ не чуў ліхога слова. Глядзеў і сёрбаў памалу. Падумаў нават, што няблага было б цяпер прылегчы на часіну адпачыць... Але, дапіўшы з конаўкі салодкую цеплыню, ён нечакана стукнуў посудам па стале і ўстаў.

— Хадзем, тым часам, возьмем сваю! Пакліч каго-небудзь яшчэ — Храпуна ці Сцяпанавых хлопцаў...

3

Найпрыгажэйшы бывае чалавек тады, калі ён не ведае пра гэта, калі ён не бачыць самога сябе. На жаль, нават часцей за ўсё тады, калі яго не бачыць ніхто.

Старога Вячэру ў лодцы бачыла цяпер толькі пяцігадовая Ганначка. Поўненькая, светленькая, любіміца сям'і, яна круцілася, як сініца, на сярэдняй лаўцы, перад сваім дзядулем, глядзела на яго, зусім не думаючы, што любуецца, і то сама шчабятала, то слухала, не бядуючы, што яшчэ няшмат разумее.

А дзед быў прыгожы.

Без шапкі, у шэрай, як ралля, расхрыстанай на сухіх, загарэлых грудзях кашулі. Упёршыся худымі і пругкімі, як смаляныя галіны, нагамі ў рабрыну вялікай лодкі, «кароль вугроў» паволі і няспынна разгойдваўся ўперад-назад, рытмічна ўзмахваючы цяжкімі вёсламі. З вельмі дакладнай і неабходнай для справы скупасцю заграбаў ён ціхую празрыстую ваду. Так лёгка і хораша, спраўна і спорна ідуць у пракосе сапраўдныя касцы. Белы маршчыністы лоб над загарэлымі скуламі шчодра акроплены потам. Сівыя валасы, хоць і прычасаныя перад ад'ездам у людзі, як толькі ён зняў кепку, зноў растрэсліся, прынялі свой звычайны, сціпла кучаравы беспарадак.

Прыгожая была гэта шэрая, вельмі жыццёвая, натуральная прастата, гэтая яшчэ ўсё не растрачаная сіла, якую і не высушылі, і не прыглушылі дзевяць дзесяткаў больш катаржных, чым радасных, гадоў. Прыгожы быў позірк светла-блакітных вачэй пад густымі, сівымі брывамі, вачэй адкрытых і чыстых, як само бясхмарнае неба, паўторанае ў крынічным люстры бяскрайняга возера. Прыгожы быў, урэшце, увесь гэты звычайны, будзённы малюнак: вялікая чорная лодка на вадзяной пустыні, у лодцы — шэры дзед і светленькая ўнучка, а за кармой, на буксіры,— доўгае сасновае бервяно і яшчэ даўжэйшы трохкутнік растрывожанай вады.

—...І скавалі яны, унучачка, дзеда ланцугамі і пагналі ажно ў Вільню. І пачалі яны там, у нейкім склепе, скабліць мяне бізунамі, ліць мне ў нос ваду з газай...

— А навошта?

— Каб балела, унучачка. «Ты, кажуць, камуніст пракляты, бязбожнік, бунтаўшчык!» Які камуніст? Увесь народ пакрыўджаны, усе нашы пабережане падняліся!.. Не хочам мы, каб вы ў нас возера пад казну адбіралі! «Мільч, кажуць, хаме! Мы ў цябе, кажуць, не толькі возера, мы ў цябе і здароўе можам адабраць!..» Але ж не адабралі, унучачка, хоць і я пабываў на тых самых Лукішках...

— А на якіх гэта лукішках?

— Смяешся, дурненькая. Гэта турма такая, куды паны замыкалі нашага брата.

— А навошта?

— Каб ён там гніў, унучачка. Каб ён супраць іх не ішоў. А як ты не пойдзеш? Бяда цябе сама падгоніць. Як той казаў: не для Пана Езуса, а для хлеба куса. Колькі людзей ішло за нашу мазольную праўду! І моладзь, і старыя. Нават і дзеўкі, і бабы. А ён мне кажа: «Ты камуніст!..» І ў турму цябе. Каб дома, унучачка, сям'я твая слязьмі крывавымі абліваласся.

— А бабуля твая абліваласся?

Ганначка ведае толькі *сваю бабулю* — маміну маму, якая сядытады прыязджае да іх з тае вёскі, дзе зусім няма возера. Другая бабуля, пра якую ёй часта расказвае дзед,— істота амаль казачная, бо была яна даўно, і была, відаць, толькі *дзедава.*

— Абліваласся, унучачка, яшчэ як!

— А тата абліваўся?

— Хапала і яму. І яму, і цётцы Надзі, і тым тваім дзядзькам, што на вайне пагінулі. Тата твой быў тады ўжо сапраўдны работнік.

— А мама?

— Яна, унучачка, жыла тады яшчэ ў свае мамы, у Вераб'ях.

— А яна абліваласся?

— Не ведаю, колькі ёй там прыйшлося. Бо было яно, унучачка, так: каму — па каму, а каму — дык адразу два.

— Дзядуля?!

— Ну?

— А я вазьму цяпер ды з лодкі — скок!

— Я табе скокну, дурненькая! Скокнеш, дык і не выскачыш.

— І выскачу! Выскачу на палена, што лодка яго валачэ, а тады пабягу, пабягу, пабягу па палене!.. А потым па вадзе і далёкадалёка-далёка! Вунь туды, дзе лес, або яшчэ далячэй — туды, дзе сонца. Залезу ў хмарку і — скок!

Дзед ужо не адказвае на гэта мілае, як жаўрукова ў небе, шчабятанне. Ён ціха, бязгучна рагоча, падняўшы вёслы, адкінуўшыся галавою назад. Вось тут і раскажы ёй!.. Людзі жылі, колькі страху, колькі бяды, колькі пакуты ўсякай было, а яно цяпер і слухаць не хоча. Як тую казку на печы: цікава — вочак не зводзіць, а не — не хачу. І няхай сабе! То ж дваццаць год прайшло з таго часу, як мы тут, беднякі, бунтаваліся...

Дзед і ўнучка маўчаць. І ўсё навокал маўчыць — і вада, і неба. Па дарозе з Нівішчаў у мястэчка — дзеду ўжо добра відаць — ідуць час

ад часу машыны. То з сенам, то са снапамі, то пустыя. Аднак ідуць яны моўчкі. Не чуваць таксама і цокату жняяркі, якая вунь дзе, на жоўтым полі, махае крыллямі... І чайкі амаль зусім не лётаюць. І рыба ўжо не жыруе. Адзін толькі белы матыль ляціць насустрач лодцы. О, мінае! З Нівішчаў у Падвалоку. Малое, а не баіцца. Сядзеў бы недзе, дурань, на сваёй капусце! Нябось намахаешся — блізкі свет... Маўчыць, не аказваецца і блясна на доўга адпушчанай дарожцы, дошчачку якое дзед падлажыў пад сябе. Сяды-тады ён патузвае жылку, правярае, хоць і не вельмі верыцца, што ў такую глухату які-небудзь вар'ят схопіць. Няхай сабе цягнецца... Пры немцах адзін партызан расказваў, што ў іхняй Арлоўскай губерні, ідучы калісьці ў царкву, мужык браў з сабою аброць: мо трапіцца каняжына якая па дарозе, дык пад'едзем!..

Потым стары ўспамінае пра сваё ранішняе здарэнне. Спазніўся вось толькі дарма, выбраўся з дому ў свіныя галасы... Ён доўга маўчыць. А Ганначка перагнулася тым часам цераз левы борт і пялёхтаецца ручкамі ў вадзе.

— Сядзь, дурненькая. Не дай божа чаго, дык я не вельмі нырну за табою. Такі шчупак з мяне, што абое — на дно. Сядзь хораша, як сядзела.

Кажучы гэта, дзед не спыняецца думаць пра сваё. Думаць — мала, трэба і падзяліцца думкай з добрым чалавекам.

— Жыве другі,— пачаў ён,— і сам не ведае, на якім ён свеце. Такі лес, унучачка, што душа радуецца. Над самым возерам, сасна ў сасну! А тут узялі ды зрабілі падсочку!..

— А што гэта?

— Смалу пускаюць з сасны.

— А навошта?

— Лес гэты думаюць секчы. Крапівою б каторага, каб ты сесці паўгода не мог!.. Хто дзе ўздумае, як уздумае, так і кладзе гэты лес... Хадзіў я днямі ў раён. А па дарозе зайшоў да Васіля Раманавіча, таму што мы з ім, унучачка, часта любім пагаварыць. Вунь туды!..

Ён кіўнуў барадою ў той бок, дзе — за шасцю-сямю кіламетрамі гладкай вады — віднелася новая дача. Ганначка вельмі пільна паглядзела ў той бок і, нічога, апроч светлай плямкі ў сіне-зялёнай смузе лесу, не ўбачыўшы, сказала:

— У іх ёсць хлопчык Ігар.

— Ёсць, унучачка. Я ж табе пра яго гаварыў. І сам Васіль Раманавіч таксама чалавек харошы. Акадэмік. «Мы, кажа ён мне, дабяромся да іх, Астап Іванавіч, да такіх лесарубаў!..» Вось, думаю, такога б нам начальніка ў раён!.. А ўчора гэта, унучачка, іду я зноў

каля дачы, заходжу, а той Васіль Раманавіч як не ехаў у Мінск, так і не едзе. Няўжо ж вы, кажу яму, чакаеце, пакуль замест Пярэймаўскага бору адны пеньчукі застануцца? А ён смяецца, седзячы ў цяньку, у такім, унучачка, крэсле, што ўсё гайдаецца сюды-туды. «Зробіцца, Астап Іванавіч. Не будзьце, кажа... пісімілістам». Хлопец ты, думаю я пра яго, таксама не маладзён — казаў, што шэсцьдзесят год,— але няўжо ж ты і праўда так ужо знябыўся ды здарожыўся?! Само ж яно не зробіцца. Сабе ты нябось не чакаў, пакуль яно зробіцца само — кубаметраў са сто на дачу спляжыў. Яшчэ і так лесу — гектараў са два — прыгарадзіў. Каб нават і па грыбок не выйсці з-за плота!..

Ганначка ўжо не перапытвае. Яна сядзіць зусім спакойна, глядзіць на дзеда і на ўсё зусім ціхенька... І дзед здагадваецца, у чым тут справа.

— Зараз, унучачка, даграбёмся. Каб не гэтая дзеравяка, дык мы б з табою... А во! Бачылі вы?..

Ён пусціў вёслы і выхапіў з-пад сябе дошчачку дарожкі.

— Ага! І добры, відаць! Ты толькі, унучачка, сядзі! А я яго... Каб яго Бог памножыў!..

Стары стаяў у лодцы на ўвесь свой высокі рост і, з тварам па-маладому радасна напружаным, туга наматваў дарожку на дошчачку.

— Пахадзі! Пазухуй! Калі ўжо ты, дурніца, учапіўся ў такую пару, дык я цябе... Ага!..

Над вадой паказалася раскрытая ў смяртэльным жаху зяпа драпежніка...

Убачыўшы такія чалеснікі, такую браму, пераважная большасць спінінгістаў крычыць звычайна: «Кілаграмаў, брат, з дзесяць!» — і перабольшваюць, вядома, разоў так у тры ці ў чатыры. Дзед Вячэра ўжо аж надта прывык да гэтай куплі на вока: ён памыляўся толькі на грамы. А ўсё ж і ён хваляваўся цяпер, як малады. Наструнены надзвычайнаю жылкай шчупак, як аўсяны жарэбчык на кордзе, казырыўся не вельмі доўга. Стары то папускаў яму, то зноў напінаў дарожку, а потым, адчуўшы момант, паводок без усякага лішняга спосабу. Прыгнуўшыся, ён узяў з-пад ног вялікі падсак, спрытна падвёў яго пад шчупака і папусціў дарожку. Насмерць перапалоханы дурань адчаянна, слепа нырнуў у вялікую сецістую торбу і вось ужо закалыхаўся ў ёй над паверхняй вады, вось ужо, вызвалены з падсака, пляснуўся на дно лодкі.

Стары ўчапіўся адной рукой у яго бярвеністы хрыбет, другою моцным рыўком націснуў лыч уніз і адчуў, як усярэдзіне, у каркавіне шчупака хруснула косць.

Бліскучая, слізкая рыбіна пакінула пругка і ліхаманкава змяіцца ў руках, абмякла і лягла на чорнае, смаляное днішча. Зеленавата-залацістая, у белы гарошак.

— Два з палавінаю, ад сілы — два шэсцьсот! — выдыхнуў, зверху гледзячы на здабычу, стары.

Трохі напалоханая ўсёй гэтай валтузнёй, светленькая Ганначка ўжо смяялася, падскокваючы на лаўцы, усплёскваючы поўнымі гагарэлымі ручкамі:

— Міхасю! Дзядуля любенькі, Міхасю! І шчупака, і торбу з сілявай — усё!..

— Усё, унучачка, усё яму,— гаварыў яшчэ задыхана дзед, ужо беручыся за вёслы.

4

Сілява вельмі смачная і ў юшцы. І мудрыць доўга не трэба: перамыў яе ды ў чыгун, чым больш, тым будзе тлусцей ды смачней. Солі туды, пару бульбін, калі ёсць пад рукою, хаця б з адну цыбуліну. Вядома, калі б перцу ды лаўровага лісту — яшчэ лепш. А то ёсць у каторых мускатны арэх... Ат, сіраце — прыкіпіць у жываце! Не дай божа горшай бяды, як юшка без таго арэха ці перцу...

На загуменні вёскі Нівішча, на сухенькім пяску, крокаў са тры ад возера, каля альховага куста варушыцца, патрэсквае невялікае вогнішча. У бледным полымі стаіць трыножка, на якой — вялікі чыгун. Юшка толькі што пастаўлена. Дачка дзеда Вячэры, яшчэ не старая, рухавая ўдава Надзя, толькі што прыбегла са жніва зварыць абед майстрам, што робяць хату. Паставіўшы юшку, Надзя чысціць шчупака: «Рыба з рыбай... Ну што ж! Гэта ж не тое, што свая печ...»

З двара зусім добра чуваць, як там цокаюць сякеры. Бацька недзе камандуе, дай яму Бог здароўя. Гэта ж такое бервяно прывалок! І не спыталася нават, дзе ўзяў: у лесе ці дома? Нешта яно ляжалае... Відаць, сваё. Пад вокны, кажа, вельмі добра. Бо хату ж не новую рубяць, а перасыпаюць старую. Пяць кубаметраў толькі і далі ў раёне. Начальнік малады яшчэ, але ўпарты. «З лесам,— кажа,— цётачка, цяпер у нас вялікі дыфінцыт. Будуйцеся з мясцовых матэрыялаў: з цэглы, з саману. Дык мы тады паможам вам і шыферу дастаць». Гаворыш ты, хлопча, можа, і добра, але дзе ж я тых мясцовых матэрыялаў вазьму, калі іх у нашым калгасе не робяць? Ды ці з маім ротам мышэй лавіць? Хай ужо як хлопцы падымуцца. Юрка вунь з сякерай на вугле сядзіць, як сапраўдны работнік. А Міхась... Яна ўзняла вочы ад шчупака і паглядзела на возера. Ад берага да глыбіні — ідзеш, ідзеш, ідзеш, ды і агоркне. Вось дзе хіба раскоша малым! Як

качаняты, плешчуцца на мелізне. Вунь як крычаць! І Міхась там, і Ганначка...

Стары Вячэра падышоў амаль зусім нячутна. Калі Надзя азірнулася на шоргат босых ног, бацька, па звычаі сваім, без шапкі, стаяў ужо за яе спіною, з-пад рукі гледзячы туды, дзе шумелі малыя.

— Ён нас сустрэў вунь там! — паказаў рукою стары.

— Цэленькі дзень з вады не вылазіць,— з усмешкай дадала дачка.— А вас дык не мог дачакацца. Галовы ўсім папрабіваў: «Дзед ды дзед!..»

— А яна гэта яшчэ ў лодцы сукеначку з сябе, портачкі з сябе, а сама — плясь у ваду. Панавучваліся! І не пазнаеш, каторае тваё: усе голыя, усе трапечуцца, усе крычаць!..

— Вы, тата, прылеглі б дзе ды адпачылі. Зробяць і без вас. А я вось зараз...

Стары, нічога не адказаўшы, пайшоў у ваду. Нават не падкасаўшы сваіх шэрых картовых калашын.

Свежыя людзі — скажам, дачнікі, якія прыязджаюць на рыбгасаўскі бераг,—вельмі здзіўляюцца, што многа рыбакоў зусім не ўмее плаваць. Хто не ўмее, а хто нават не любіць. Саўка Сякач з Падвалокі і спаў бы, здаецца, у лодцы, а ўжо гадоў з дваццаць — сам хваліцца — не купаўся ў возеры. Няхай сабе дзівяцца, хто хоча. І стары Вячэра, «кароль вугроў», таксама плавае, як калун. Аб гэтым страшна падумаць, калі бачыш, як ён спакойна стаіць у лодцы, выбіраючы перамёты, а лодку тую шыбае з хвалі на хвалю, як трэску!..

Каб лягчэй было згінаць натруджаны на зрубе крыж, стары спыніўся толькі тады, калі вада заняла яму па калені. Цяжка нагнуўся, зачэрпаў жылістымі зверху, каравымі з сярэдзіны рукамі чысценькай цёплай вады і з асалодай у ёй запырхаў. Яшчэ, яшчэ раз. Добра! Хацеў нават гукнуць на ўнукаў, але падумаў: «Няхай сабе! Ім цяпер не да дзеда...» І зноў пабрыў да берага.

— Жывуць каторыя,— пачаў ён, прысеўшы каля вогнішча,— жывуць ды глядзяць, каб толькі дзе-небудзь уварваць, адскубці, пацягнуць... Чужому не скажу, дачушка, бо брыдка... І я табе гэтае палена не сваё хацеў прывезці, а таксама крадзенае. Учора такое злосці набраўся за тую падсочку... Я гаварыў ужо табе. Ды і на Васіля Раманавіча, што марудзіць... Ужо з Іванам да самай Дзікай Бабы падплылі. Лесніку Буглацкаму, падумаў, залію тым часам вочы якою-небудзь пярцоўкай і — як камень у возера... Але ўсцярог мяне Бог на старасці год. Не наеўся ты, кажа, Вячэра, дык і не наліжашся. Няхай стаіць тая сасна ды Богу дзякуе, што я хацеў, ды мне хацень не даў...

Подых дыму, чортведама адкуль і як разгарнуўшыся, махнуўся па Надзіных вачах. Не выціраючы слязы, жанчына глядзела на бацьку, трымала за доўгую ручку скавараду і ніяк не магла прыдумаць, з чаго тут пачаць...

— Можа, тата, Івану гэта не падабаецца, што вы сваё гатовае з двара берацё? Івану ці Мані...

— Яно, вядома, дачушка, кожны дурань зможа гатовае ўзяць. Але ж я яшчэ ў сваёй хаце гаспадар. Каму не падабаецца, дык той і памаўчыць. Скажам, мае сонца ўжо нізенька, ужо я не магу, як раней, ноч апоўнач ці на вугра табе, ці на сіляву, ці на шчупака... Але ж і пенсія мая, мае пяцьсот рублёў, таксама на дарозе не валяюцца!.. Ды нешта мы з табою, дачушка, не пра тое. Іван табе брат ці не брат? Двое ж вас толькі — меншых — і засталося ў мяне. А такой Мані, як наша, днём з агнём пашукаць...

Да тае слязы, што ад дыму, далучылася раптам яшчэ адна. Надзя ніжэй схілілася над скаварадою.

— Нічога, дачушка... Каб жа яна, бяда, ды толькі па лесе хадзіла! Тут не падменішся: дай, можа, я за цябе памру. Колькі ўжо раз я лёг бы тым часам!.. Маці твая, нябожчыца...

Ды тут іх вельмі дарослую, сумную гаворку абарваў дзіцячы смех і крык:

— Ура! Здавайся!

Гэта крычаў Міхась, а з ім, не менш ваяўніча, і Ганначка. Абое — голыя, мокрыя, укачаныя ў пясок.

Яны падкраліся з-за куста. Усё было зроблена вельмі удала. Спачатку яны паўзлі — зусім-зусім так, як Міхась бачыў нядаўна ў кіно. Потым беглі прыгнуўшыся. Потым зноў паўзлі... Ды толькі вось дзед зусім не спалохаўся. Ён сядзіць, абняўшы худымі рукамі мокрыя калені, і, закінуўшы галаву, рагоча.

— Дзед! Ну, дзед! Ну, годзе!

— Годзе, унучак, годзе. Не буду.

— Ты на вайне быў?

— Хай яна спрахне — быў.

— Я ведаю! Ты быў і на японскай, і на мікалаеўскай, ты і з панамі за возера ваяваў!.. За тую вайну ў цябе Георгіеўскі крыж, а за гэтую — толькі партызанскі медаль. Бо ты ўжо быў стары і толькі так памагаў партызанам!..

— Годзе ўжо, ты! Завучыў, як малітву! — памкнулася перапыніць яго маці.

— А Ганначка кажа, што як мы падкрадзёмся ды крыкнем, дык дзед спалохаецца... А ты...

— І не казала! І не казала! — смяялася, намагаючыся закрыць яму рот, дзяўчынка.

— А я ёй кажу...

— Ды годзе ўжо ты, смала! — крыкнула маці.— Дзе ж ваша вопратка?

— Там!

— Ваяка! Раскрычаўся тут, галапупец! І з дзеўкай яшчэ стаіць. Ану, бягом апранацца! Будзем палуднаваць.

Апошняе было сказана не толькі без усякай злосці, а нават з ней-кай шматабяцаючай суровай пяшчотнасцю. Голыя, выпеставаныя сонцам і вадой, рыбацкія анёлачкі хоць без крылаў, ды летам ірвануліся з месца, пацешна пабеглі па светлым і пухкім пяску.

— Дзяўчынка, няўрокам кажучы, як бурбалка! — засмяяўся ўдагон стары.— І Міхась удалы хлопец.

Ёршык чысты, дый годзе! Радасць табе адна — і малы, і старэйшы. Спраўныя хлопцы, дачушка, а ты...

Неўзабаве ёршык і бурбалка, адзін у чорных кароценькіх штоніках, а другая ў светлай сукеначцы, ішлі абапал старога па дарожцы з берага да зруба, і вельмі ж хацелася ім узяць дзядулю за рукі. Аднак абедзве яны былі занятый: дзед нёс перад сабою вялікі чорны і гарачы чыгун з юшкай, абгарнуўшы яго анучай. Надзя хацела ўзяць чыгун сама, але стары не даў. І вось яна ідзе ззаду за ім і нясе толькі скавараду і місу з кавалкамі ўсмажанага шчупака.

— Дзед! — забягае наперад Міхась.

— Ну, што?

— А ты тое палена падняў бы?

— Якое?

— Ну, тое, што ты прывалок!

— А-а, тое. Відаць, падняў бы. Каб толькі вытрубіў усю гэтую юшку ды мо яшчэ каб умяў усяго шчупака. Ну, ды хлеба тым часам бохан, як добрае кола.

— А мы купаліся, і хлопцы кажуць, што ты не падняў бы.

— Ат, нічога яны не ведаюць.

— Глобышаў Лёнька, дык той не ведаў нават, за што ты называется «кароль вугроў»!..

— Вось бачыш! Які, унучак, кароль, такая і слава.

Каля зруба, пад бэзам яны абедалі: дзед, мама, іхні Юрка, два чужыя дзядзькі, што наняліся перасыпаць іхнюю хату, і Ганначка з Міхасём. Малыя сядзелі, вядома, абапал дзеда. Пасля мама зноў пайшла ў поле, а тыя дзядзькі, Юрка і дзед «прылеглі трохі адпачыць». Трохі, трохі... А самі ўжо і паснулі, ужо і храпуць!..

Міхась задумаўся, стоячы перад сваёй госцяй пасярод пустога, залітага сонцам двара, закіданага трэскамі і пацярушанага саломай са старой страхі. На вішні яны ўжо сёння былі двойчы. Яблыню трэслі таксама. Ажно не елася цяпер ад аскомы. Купацца, можа, пасля. На гасцінец ісці — неахвота. У поле, назіркам за мамай,— дарма, бо прагоніць назад...

— Давай у «класы» пагуляем! — сказала Ганначка.

Яны разграблі салому і трэскі, нарысавалі кіёчкам «класы». Паскакалі трохі на адной назе, а потым Міхась сказаў, што больш не хоча.

— Я пайду хутка ў школу,— паведаміў ён навіну, якую ўжо і Ганначка чула не раз.— Мне яшчэ два месяцы не хапае да сямі год, але настаўнік кажа: нічога. І я ўжо ўмею пісаць.

— Ну, напішы што-небудзь. Як наша Гэля.

— Якраз, вельмі твая Гэля напіша!..

Чым напісаць — Міхась ведаў. У старэйшага цеслі, дзядзькі Антося, які храпе вунь паміж дзедам і Юркам, ёсць за халявай чорны плоскі аловак. Ён вельмі вялікі і называецца сталярскім. Доўга не думаючы і не раячыся з Ганначкай, Міхась на пальчыках падкраўся да дзядзькавай нагі і асцярожненька, нават падпёршы языком шчаку, выцягнуў той сталярскі аловак. «На сценах пішуць толькі такімі. Напішам — і зноў яго дзядзьку ў халяву. А напісаць найлепш вось тут». Сасновае бервяно, якое дзед уранні прыцягнуў, было ўжо хораша аплазавана, узята ў вуглы і называлася цяпер «падваконнем». Яно легла ў сцяну якраз на вышыні Міхасёвага лба. Забыўшыся, што дзядзькаў аловак не хімічны, хлопчык паслініў яго і ўзяўся за работу. Пакуль ён мазольна, зноў падпёршы шчаку языком, выводзіў адну за адной сем літар, з якіх складаліся два яго запаветныя словы, Ганначка глядзела на Міхасёву руку і на таямнічае пятлянне тоўстага алоўка, як зачараваная. За сёмай літарай стала кропка. Каб напісаць яе, Міхась апошні раз паслініў сталярскі аловак і выкруціў гэтую кропку ямачкай у не зусім яшчэ зацвярдзелай смаліста-духмянай драўніне.

— О! — сказаў ён голасам пераможцы.

— А што гэта?

— Вось і не ведаеш!

— Мі-хась-ка, што-о?

Чарнявы, загарэлы ёршык, унук старога «караля вугроў», горда і радасна прачытаў:

— Мой дзед.

1958

## ДВАЦЦАЦЬ

Цеплаходзік «Глорыя» ідзе з Капры на поўнач. Цёмная восеньская ноч ахутала Неапалітанскі заліў.

Пасля спякотнага дня на верхняй палубе холадна. Не хочацца стаяць там — з няноваю думкай, што вось і ты, нарэшце, дыхаеш паветрам італьянскага поўдня; не хочацца слухаць усюды аднолькавы гоман хваль, любавацца зоркамі, тымі самымі, што і дома; не хочацца глядзець нават на зусім ужо экзатычны, косы пункцір агнёў канатнай дарогі на схіле далёкай, нябачнай піраміды Везувія...

Сяджу на ніжняй палубе, стуліўшыся каля акна, і, стомлены трыма суткамі турысцкай беганіны, то акунаюся ў лёгкую, салодкую дрымоту, то выплываю з глыбіняў наверх... Туды, дзе навокал нястомны шоргат ног і ненасытны гоман, дзе знізу чуецца аднастайны і, нібы ўнутры ў цябе, няўмольны стук матораў...

А ў думках-марах столькі сонца, блакіту і зеляніны! Там, як у люстры трох апошніх дзён, бачу залітае сонцам мора — і зблізку, пад намі, і здалёк — з акна вагона ці аўтобуса; там стракацяць-жаўцеюць лімоны ў густым лісці, раскошна высяцца вечназялёныя, агромністыя парасоны пініяў, чапляюцца за схілы гор крывыя ствалы аліўкавых дрэў; на роўнядзі далін брыдуць перад плугамі сівыя, рахманыя валы, стаяць шэрыя буданы з пампаснай травы і, не вельмі меншыя за іх, таксама шэрыя вуллі... На фоне марской яскравай сіні, велічна-грозных вулканічных вяршыняў і таксама, здаецца, спрадвечных руінаў мармуровай антыкі так проста, так па-сучаснаму, па-хатняму зелянеюць галоўкі капусты...

І чуецца смех над вадою — звонкі, нястрымны.

Яна прыгожая — твая радзіма, мой малады, сінявокі аміка![1]

Каб я ўмеў, дык сказаў бы табе пра гэта яшчэ пазаўчора, як толькі ўбачыў спавіты імглой Неапаль, як толькі таропка пайшоў па яго вуліцах, — то шырокіх, з пальмамі і зялёнымі жалюзі раскошных асабнякоў, то вузкіх, з развешанымі сцягамі галечы — мокрым і сухім рыззём... У Рыме я сёе-тое сказаў бы табе і пад зводамі Пантэона, дзе вечны агонь над грабніцаю Рафаэля, і ў ватыканскім музеі, каля вітрын з рукапісамі Галілея і Петраркі, у руінах таго славутага цырка, каменні якога яшчэ патыхаюць запечанай кроўю нявольнікаў, і ў касцеле «Святога Пятра ў ланцугах», дзе боязна ад думкі, што вось ён — ужо не біблейскай легендай, а геніем тваёй зямлі народжаны Майсей — узарве сваёй сілай не толькі цёмны касцёлік, але і ўвесь

[1] Аміка - друг (італьянск.).

стары квартал навокал гэтай вязніцы мастацтва!..

Яна цудоўная — твая Італія.

Дзіўна толькі і крыўдна, што за нашы тры дні і дзве ночы я не пачуў тут ніводнай песні...

Праўда, затое тут канчаткова развеялася маё наіўнае ўяўленне пра вечна бесклапотных спевакоў-мандалiністаў... Убачыўшы дымныя заводы, белыя палацы і магутныя караблі, я неяк зусім па-новаму зразумеў, што ўсё гэта зроблена вамі, вясёлымі людзьмі, у якіх можна і ў працы многаму павучыцца.

А песні так і не пачуў...

Затое сёння я чуў твой смех. Можа, і беспрычынны ён, і лішне маладым, — хто гэта здолее пэўна сказаць?.. Ты, капрыйскі лодачнік, не думаеш пра гэта, звонячы смехам над роднай вадою, таксама як не абдумвае прычыны сваёй радасці жаўранак над палямі маёй старанаы.

Слухай, аміка!

Калі наш цеплаходзік прычаліў да шумнага пірса ў тваім маляўнічым гарадку Марына Гранда, ты — як быццам невыпадкова — знайшоў нас, чатырох сяброў, у турысцкім растрывожаным мурашніку. Свецячы нам белазубай усмешкай, ты закрычаў і замахаў рукамі: «Сюды, сіньёры, сюды!» Мы павіталіся, і ты ледзь не подбегам павёў нас да свайго кацера.

За высокай, шэра-зялёнай сцяною Капры заходзіла сонца. Скалісты, ззаду асветлены праменнямі бераг быў стромы, як сцяна, высокі — больш за дзвесце метраў. І кацер твой, узняўшы над ціхай вадою гордае валлё, памчаў нас, як белая птушка, уздоўж гэтай цяністай сцяны ў той бок, дзе была яшчэ адна таямніца, яшчэ адно дзіва... А ты смяяўся, сінявокі прыгажун, паказваючы на ўсе іншыя кацеры, што засталіся далёка за намі!..

І мне хацелася разам з табою смяяцца. Толькі — з іншага... Усемагутны чалавек!.. А вось мы не можам як след зразумець адзін аднаго, не можам нават сяк-так выказаць адзін аднаму тое, чым поўніцца душа! Ёсць дзве мовы, з глыбокай, усеабдымнай красою, а мы — у сваім сучасным кацеры, — як першабытныя, толькі смяёмся, махаем рукамі, падміргваем, моршчымся!..

А я ж, здаецца, ведаў цябе даўно. Я сустрэў цябе ўпершыню як быццам не сёння. Я чуў твой голас і смех з кніжных старонак, з экрана... Ведаў цябе яшчэ ў той час, калі па-равесніцку шчыра здружыўся з маленькімі героямі Амічыса, калі на крылах хлапечай мары

хадзіў па гэтай зямлі ў атрадах Спартака і Гарыбальдзі!..

— Гротта адзурра![1] — крычыш ты, працягнуўшы руку ў той бок, дзе ля высокай сцяны берага, у затоцы, паказалася мноства лодак.

Калі аціхае матор твайго непераможнага летуна і белае валлё яго апускаецца на ваду, мы чуем густы кірмашны лямант. Лодачнікі атакуюць нас, яны, як цвікі да кавалка магніту, з усіх бакоў паўзуць насамі белых лодачак да першага і, відаць, чаканага тут пасланніка нашай «Глорыі». Мяне і сябра забірае ў лодку шустры, падчапісты, пажылы сіньёр у кепцы, па-сваяцку падобны да дзядзькі Тодара, старшага пастуха ў маім калгасе.

Кацеры з турыстамі прыбываюць адзін за адным. Шум нарастае. Арудуючы вёсламі, як падоўжанымі рукамі, сіньёр наш прабіраецца ў лодачным кірмашы да чорнай, як вялізныя чалеснікі, дзіркі ў скальным беразе над самай вадою. Потым, паклаўшы вёслы, ён хапаецца за тоўсты, іржавы трос, які, нацягнуты над нашымі галовамі, паўзе таксама туды. Ад крыку старога, а больш інстынктыўна, мы нагінаемся. У гэтым месцы вада паддаецца агульнай гарачцы: навокал ціхая — у нізкі тунель яна імчыцца ледзь не з пенным шумам. Уварваўшыся з белага свету ў падзямелле, лодка наша амаль замірае на супакоенай вадзе. Мы разгінаем спіны... Не, тут хочаш не проста разагнуцца, а ўзняць рукі, ускінуць іх над галавою ў захапленні... Якая прыгажосць! На стыку цемры — зверху, ад скальнага скляпення, — і святла, большасць якога ўліваецца сюды знізу, праз ваду, — як непаўторна ён нараджаецца, гэты блакітны колер радасці! Як зразумелы мне твой смех, малады сінявокі аміка!..

Але і ў гэтым паэтычным гроце мы не схаваліся ад турысцкіх законаў: і тут нас абавязвае рэгламент і чарга!.. Стары наш робіць круг каля сцен і выкіроўвае да выхаду, які ўжо не нагадвае чалеснікі, — так многа льецца адтуль святла.

— І Горкі быў тут, напэўна! — гукае хтосьці з іншай лодкі.

І тут наш сіньёр нечакана шырока ўсміхаецца, пускае адно весла і, узняўшы руку, ледзь не крычыць:

— Массіма Горкі — гранда![2]

Сказаўшы гэта, ён пусціў і другое весла, аберуч учапіўся за трос над галавой. Мы памагаем старому, бо вада не хоча нас адгэтуль выпускаць. А на сонцы, у мітуслівую хвіліну развітання, мы аддаём сіньёру «старшаму пастуху» ўсю нязвонкую луску худасочных манетак з надпісам «Рэпубліка Італіяна», частуем яго сваімі, айчыннымі папяро-

---

[1] Гротта адзурра - Блакітны грот (італьянск.).
[2] Гранда - вялікі (італьянск.).

самі. За тыя тры словы, за радасць, якою ён нас надзяліў, нават не думаючы пра сваю незвычайную шчодрасць!.. Шустры, падчапісты сіньёр нешта крычыць — ці то нам, ці ўжо нашаму вясёламу аміка, да кацера якога мы якраз прычалілі. І ў крыку ягоным, з яго шырокай усмешкі нараджаюцца тры ранейшыя словы.

— О! — падхоплівае іх наш сінявокі. — Массіма Горкі гранда, о!..

І мы імчымся зноў — зноў першыя ляцім над люстранай вадою, засяваючы след свой процьмай алмазаў. Калі ж канчаецца высачэнны, шэры абрыў, за які ўжо сонца зайшло, калі з-за павароткі паказваецца бела-чырвона-зялёны амфітэатр партовага гарадка, матарыст наш выкідае наперад руку — загарэлую, у белым, надзьмутым ветрам рукаве, — паказвае нешта і звонка крычыць:

— Массіма Горкі! Эркаляна!..

І зноў рагоча, свецячы белізною даборных зубоў, цёмна-блакітнай радасцю вачэй, відаць, узятай адтуль, з тое Гротта адзурра...

Слухай, аміка!

Добра, што ты нам напомніў!.. У нашым з табой бяссіллі зразумець адзін аднаго мы, твае госці, як быццам нават забыліся, што і ты не можаш не ведаць яшчэ адну цудоўную казку тваёй Італіі, твайго адзінага на свеце Капры... Не легенду, не казку, а казачна-чароўную праўду аб тым, што ў той вунь «Эркаляна» — чырванасценнай гасцініцы на вяршыні скалы — жыў калісьці стваральнік несмяротных казак жыцця.

Няўжо не толькі мы, савецкія людзі, думалі сёння тут пра гэтае імя?! Смейся, аміка, з маёй, яшчэ ўсё маладой наіўнасці, смехам сваім скажы мне, што не толькі мы!..

А я ўсё думаў у гэтыя дні пра тых, што былі тут раней, што сёння расказваюць нам пра Італію...

Чорныя, шумлівыя, як шпакі на раллі, дзеці неапалітанскай беднаты і побач з імі горы апельсінаў, што не для іх у латках выпраменьваюць сонца, напаміналі мне маладую, задушэўную ўсмешку Джані Радары — любімца і нашых дзяцей. Праз усё — крышку крыклівае і пышнае — багацце сваёй краіны і ён па-горкаўску востра бачыць яе не такое ўжо і вясёлае сёння, з нашай верай у перамогу святла глядзіць наперад, у заўтра.

Узнятыя для пралетарскага вітання кулакі, мова вачэй і ўсмешак — на ўсіх дарогах і вуліцах, дзе мы былі, — напаміналі пра гэтую веру.

І вельмі часта прыходзіла думка: як у такім багацці фарбаў і гукаў, як на такой раскошнай зямлі магла зарадзіцца такая, да жудасці і смеху дзікая, гніль — фашызм?!

Слухай, аміка!

Гледзячы на цябе, я не мог не думаць, што такія, як ты, веселуны і рабацягі былі не толькі ў Абісініі, але і на палях маёй радзімы. Можа, твой бацька або старэйшы брат? Можа, і той наш шустры сіньёр, хоць ён і памятае Горкага, хоць ён і падобны вельмі на нашага пастуха?.. Хто з іх вярнуўся, той гаварыў і табе пра суровыя зімы ў далёкай краіне гранда Массіма, пра палымяны гнеў яго землякоў...

Ды я тут сёння не хачу выказваць жаль і злосць. Я хачу расказаць табе нешта пра тых, што больш не вернуцца пад ласкавае неба Італіі.

...Іх было дваццаць.

На трэці год вайны, пасля Сталінграда, гэтыя землякі твае апынуліся ў Беларусі. На поўначы яе — там, дзе за полем, зялёным ад бульбы і лёну, — блакітнае возера, а за возерам — лес. Сасоннік дыхае парнай жывіцай, а белая грэчка — нагрэтым мёдам, водар якога раўніва збіраюць і рупна разносяць пчолы. У канюшыне, таксама звонкай ад пчол, па-дзіцячы палахліва хаваюцца шэрыя, цёпленькія зайчаняты, а ў рэдкім жыце цвіце шыпшына, пыліць духмянасцю ядловец, густым папасам вылежваюцца валуны, пакрытыя лішаямі сівага моху. Белыя чайкі лятаюць высока над стрэхамі хат, а над люстранай роўняддзю азёр планіруюць спрадвечныя сябры гэтых стрэх — буслы...

Я ўпершыню так далёка ад родных мясцін. І ты мне прабачыш, аміка, калі я раптам заплачу... Гэта — ад радасці, што ёсць на свеце мая пяшчотная, працавітая, мужная Беларусь!..

А ты ўяві цяпер — хоць на момант — воранёную сталь кінжальнага штыка перад грудзьмі тваёй старэнькай маці... Уяві галоўку твайго адзінага шчабетуна, якую нехта разбівае аб край твайго ж, яшчэ бацькоўскага, стала...

І ты зразумееш тады, як працавіты і лагодны чалавек ператвараецца ў чалавека страшнага, няўмольнага ў сваёй справядлівай суровасці.

Такіх людзей гісторыя назвала народнымі мсціўцамі, а нашу ціхую Беларусь — краінай класічнай партызанскай вайны.

Вораг ведае, што гэта значыць. І сёння старыя, недабітыя генералы Гітлера, начыненыя яшчэ кайзераўскай мярцвячынай, гавораць пра наш незразумелы для іх «фанатызм». Бачыш, аміка, яны нездаволены, ім выгадней было б іншае... Яны змаглі б пасля... ды і цяпер яшчэ могуць дапасаваць да любога параграфа любой міжнароднай умовы смерць нашых маці і нашых дзяцей — як стратэгічна неабходную, а нашу свяшчэнную помсту фашызму — як юрыдычна беспадстаўную...

Ёсць адна вёска ў нашым краі блакітных азёр. За гэтай вёскай

узвышаецца гара — зрэзаны конус з вянком маладых бяроз на вяршыні. Адтуль відаць адразу пяць азёр. Там ты, аміка, успомніў бы роднае мора, там ты смяяўся б, гледзячы ў прывольную далячынь. З-пад тых бярозак відаць не толькі азёры, але і поле, і шэрыя вёскі, і стужкі дарог, і дзве бліскучыя струны чыгункі.

Вясной сорак чацвертага, у адну з тых майскіх начэй, калі малым так добра спіцца ля адчыненага акна, а салаўіныя песні забіваюць шоргат партызанскіх ног, у тым месцы, дзе струны рэек успаўзлі на высокі насып, — пачуўся выбух!.. Адзін з бязлікіх выбухаў, якія мы прагна і стрымана бралі на ўлік, а вораг — аплочваў нервамі і крывёю

На жаль, не толькі сваёй...

Уранні вёску над возерам акружылі карнікі ў чорных і шэра-зялёных мундзірах. Былі там не толькі немцы. На бліжэйшай станцыі іх было многа, аднак на гэты раз, для большай аперацыі, іх аказалася малавата. Гітлераўцы раздалі вінтоўкі рабочай камандзе, — тваім землякам, якіх яны нядаўна, пасля выхаду Італіі з вайны,ператварылі ў бяззбройных нявольнікаў. З яшчэ большай пагардай, цяпер падмацаванай нянавісцю і адчаем, такіх, як ты, аміка, называлі яны «фарфлюхтэр музыкер». Аднак з афіцэрамі вашымі, са сваімі нядаўнімі партнёрамі па будаўніцтву «новай Эўропы», яны дамаўляліся яшчэ ўсё хутка і дружна...

Слухай, аміка, як перад строем катаў плача на руках у сівай бабулі светлавалосы хлопчык!.. У адной белай кашульцы, з цёплымі ножкамі, заўчасна ўзняты з пасцелі каля адчыненага акна. Слухай перадсмяротны гул над натоўпам безабаронных людзей, асуджаных на страшны адыход з жыцця!.. Слухай каманду: «Агонь!», на якую ўсе дваццаць вінтовак у руках тваіх суайчыннікаў адказалі маўчаннем!.. Слухай і невымоўную цішыню, якая хутка асядзе над яшчэ адной братняй магілай!..

Італьянцаў зноў абяззброілі. Яны паддаліся: не ведалі, што іх чакае. Загадалі ім стаць над заваленай цёплымі трупамі ямай. Яны паслухаліся: не верылі, што гэта можа стацца...

Цяпер над той магілай шумяць і іграюць у сонцы лісцём беларускія пальмы — бярозы; каля помніка з вечнага каменя надазёрных палёў цвітуць нашы кветкі — прыгожыя ў сваёй сардэчнай сціпласці. А ў вёсках, якія разам з пяццю азёрамі відаць з высокай гары, простыя, шчырыя людзі гавораць пра тых безымянных Дваццаць, што не змаглі страляць... не захацелі цаной нявіннай крыві вяртацца нават сюды, у сваю непаўторна прыгожую краіну...

Спыні свой кацер, аміка! Стой, пакуль і вада супакоіцца! Ушануем іх памяць маўчаннем. *1958 г.*

## АСТРАВОК

На хутары, дзе садок, і гарод, і навокал, як мора, калгаснае жыта, бачыў жывы прататып казачнага Іванькі-прастака.

Дужы, рахманы дзяцюк. З гонарам расказвае, што ён усё-ўсё ўмее рабіць. Хоць і робіць толькі тое, што не патрабуе трохі большай кемлівасці: не косіць, але падае на воз, не коле дроў, але валочыць вёдрамі ваду са студні, якая больш за кіламетр ад хутара, у вёсцы... Малодшы брат, гаспадар, вазіў летась яблыкі прадаваць — з Навaградчыны ў Маскву — і купіў яму шапку, якой вельмі ж хацелася — салдацкую, з чырвоным аколышкам. Яна вісіць на сцяне, любоўна загорнутая ў маміну хусту.

Увечары "дурань" зняў яе са сцяны, разгарнуў і надзеў аберуч — як карону.

— Куды ты, Іване? — пытаецца цярплівая і ціхая жанчына — маці.

— У кіно.

— Позна, сынок, яно там недзе ўжо канчаецца.

— А пад канец яшчэ цікавей.

Ды з такой жа дзіцячай усмешкай адказвае!..

— Малому дарогу саступіць,— кажуць пра хлопца сямейнікі.

І шкадуюць яго ўсе — і брат, і братавая, і сястра-школьніца, і дзед.

Дзед — цікавы і сам. Яму ўжо за дзевяноста. Накрыўшыся старой цыратай ад дажджу, пасе ў зялёным яры дзве каровы і жменьку авец. І вельмі рад, што вось ізноў, як людзі, бачыць. Бо толькі нядаўна яму знялі катаракту.

— Як на свет нарадзіўся, сынок! — расказвае ён мне, неяк надзіва молада смеючыся.— А тыя разы, сляпым быўшы, дзяржу дзве каровы на павадах, а малыя толькі камандуюць: "Дзеду, лявей! Дзеду, правей!.."

Дзед есць зацірку толькі з хлебам і злуецца на ўнукаву жонку, калі зацірка рэдкая:

— Сама, відаць, хадзіла па ваду!..

Увечары выпіў з намі — цэлую шклянку самагону — і пачаў успамінаць. Ну, спачатку — бліжэйшае. Як ён на ўнукавым вяселлі "ўзяў" трошкі не літар і нават яшчэ "барыню" паскакаў. Як сын яго, Лёўка, насіў у млыне на другі наверх па два шасціпудовыя мяхі зараз, узяўшы пад пахі, а потым — булава, царства яму нябеснае, напіўшыся п'яны, прастудзіўся за ноч у канаве і памёр... Пасля гэтых успамінаў, цікавых, але звычайных, ідуць такія, ад якіх ажно неяк трошкі вусцішна. Што памятае жывы чалавек!.. У другой палавіне

дваццатага веку — успамінае пра турэцкую вайну!.. Праўда, на Шыпцы сам ён не быў — па пашы бегаў яшчэ, але ж палонных туркаў бачыў многа. У графскім маёнтку.

— Шапкі высокія, чырвоныя. Снапоў накладуць у параконныя кары — толькі ў драбіны, не болей, палягуць туды шасцёх і паехалі!.. Яшчэ, кажуць, пазвальваемся! Ха-ха-ха!..— рагоча, аж хіхікае, як малы.

Уранні папрасіў мяне зняць яго на картачку — пад яблыняй, з маленькім праўнукам на каленях. Табурэтку паставілі ў бульбе, якая цвіце.

1958

## МОЙ ЧЭХАЎ

Ёсць і такая задума: напісаць гісторыю мае дружбы з кнігай. Не напісаўшы, цяжка пераканаць каго-небудзь, што гэта будзе цікава. А пісаць паку ль што не хочацца: яшчэ ўсё баюся, што не здолею адшалушыць ад значнага, патрэбнага для іншых, толькі сваё, асабістае, вузкапрыватнае.

Цяпер вось дакранаюся да той задумы з першым, можа, наймацнейшым хваляваннем. Хачу пісаць пра Чэхава. Пра пачатак нашай дружбы, пра маю сардэчную любоў. І не баюся, што я не першы, нават не тысячны,— да гэтай крыніцы з гаю чай вадою ніколі няма чаргі: усе падыходзяць адразу...

Успамінаю цень нарачанскай сасны, прымятую траву з затоенымі ў ёй ненадакучліва мулкімі шышкамі, ласкавы плёскат хвалі пад узгоркам берага, звонкі смех загарэлай малечы... Як тут добра прылегчы над кнігай! Наш польскі госць і друг Леан Кручкоўскі ляжыць у тым самым цяньку і таксама чытае. Я ведаю — што. Нават як быццам прадбачу і тыя ягоныя словы, якія праз пару месяцаў буду з прыемнасцю перакладаць:

«Шчаслівыя хвіліны! Яшчэ том Чэхава ў рукі — і чаго ж болей трэба, каб стаць багацейшым на пэў ную частку чалавечага вопыту, ведаў, мудрасці?..»

Мала бываў я на шырокім свеце, многае назіраў мімаходзь.

За нямецкім калючым дротам у бараку палонных фрайцузаў бачыў на дзвярах спіс кніжак іхняй бібліятэкі. І пастаяў перад ім, бо з невымоўна прыемным пачуццём заўважыў у тым французскім спісе родныя імёны: Гогаль і Чэхаў.

З іншым трохі, але таксама па-зямляцку радасным пачуццём давялося нядаўна, спыніўшыся перад адным з кніжных магазінаў Рыма, распазнаць на стэндзе, сярод залітых сонцам каляровых вокладак, «Вайну і мір» і зборнік чэхаўскіх навел.

Зрэшты, і не бачачы ўласнымі вачыма, не так ужо цяжка ўявіць шматтысячную, а то і шматмільённую армію жыхароў Зямлі, закаханых у творчасдь Чэха ва — кожны па-свойму.

Дык маю ж права на гэта і я?

Не, не тое пытанне — так яно не толькі не гучала, але і не ўзнікала ў душы. Я любіў і люблю яго, не пытаючы ні права, ні дазволу. Без рэўнасці да іншых, хто яго любіць таксама. І гэта — самая чыстая, самая высокая, самая нязрадная любоў, часціна той магутнай сілы, што яднае людзей добрай волі.

Мой Чэхаў.

Маю права сказаць так, не баючыся найбольш з'едлівага скептыка. Мой — у тым сэнсе, што і я знайшоў сцяжынку да гэтай крыніцы адзін, самастойна, што ад маёй юначай закаханасці з нершага позірку, ад самотнага захаплення яго першымі старонкамі — адтуль для мяне пачалося і сталае, мудрае — наш.

А раней было — мой.

Раскажу пра майго.

Не пажоўкла ад часу адна з першых старонак гісторыі мае дружбы з кнігай. Успамінаў яе днямі, гаворачы з дачкою-школьніцай, з непакоем — ці не зарана? — даючы ёй Дастаеўскага... Цяпер успомніў тую старонку яшчэ раз, ужо апошні раз перад тым, як замацаваць і гэты неадчэпны ўспамін на паперы.

Калі мне было пятнаццаць, увосені трыццаць другога года, пралез я даволі шчасліва ў адну бібліятэку. У мястэчку Турэц на Наваградчыне, дзе я год перад гэтым скончыў польскую сямігодку. Бібліятэка з пераважнай большасцю кніг на яўрэйскай мове. Плаціць за карыстанне кнігамі трэба было нямала. І заклад быў таксама вялікі. Аднак маці дазволіла мне гэтую раскошу — і не таму, што я быў меншы ў хаце і найбольш слухмяны, а з любасці яшчэ і да кніг, якія я часта чытаў ёй уголас. Словам, восень тую пражыў я шчасліва, аддаючы кожнай кнізе, звыш грашовай даніны, яшчэ і восем гразкіх або падмарожаных кіламетраў — чатыры туды і чатыры дахаты. Часта і многа — апавяданне ці пару раздзелаў рамана — прачытваў прыхваткам у дарозе...

Як жа не ўспомніш такое, калі цяпер дзяўчынка зойдзе ў твой кабінет, паглядзіць на паліцы з сотнямі жывых імён на любай стракатасці пераплётаў і скажа з наіўна-пацешным сумам чатырнаццацігадовай асобы: «Эх, пачытаць няма чаго!..»

У той бібліятэцы былі:

Горкі — раннія апавяданні і вершы, «Маці» без першых і апошніх старонак, чацвёртая частка «Жыцця Мацвея Кажамякіна»;

«Сон Макара», «Сакалінец», «Лес шуміць» і сёе-тое яшчэ Караленкі;

«Белыя ночы», «Нетачка Нязванава», «Сяло Сцяпанчыкава» Дастаеўскага;

паасобныя апавяданні Скітальца, Касаткіна, Маміна-Сібірака;

быў другі том «Анны Карэнінай»;

былі ўспаміны жонкі «славутага» Захер-Мазоха і іншыя не менш пікантныя кнігі, якія і я цяпер не дазволіў бы чытаць падлетку, аднак якія не зрабілі мне, здаецца, шкоды, бо я на ўсю душу зачараваны быў велічнай музыкай класікі.

Гэта не былі, безумоўна, мае першыя рускія кнігі. Калі мы ўлетку

дваццаць другога года вярталіся ў бацькава Загора з Адэсы (бацька там трыццаць год працаваў на чыгунцы), у нашым няхітрым багажы сямейным скарбам з савецкага горада ў глухую заходнебеларускую вёску ехалі ўслед за трыма хлапчукамі Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі, Крылоў і яшчэ некалькі кніг, якімі азначан выток мае лсыццядайнай сыноўняй любві да вялікай рускай літаратуры.

Бывалыя і пакалечаныя томікі з той местачковай бібліятэкі ўспамінаю са шчырай удзячнасцю. Не ў крыўдзе я, вядома, і на гаспадароў гэтай прыватнай асветніцкай установы — за тую дзелавітасць, з якой яны дралі з мяне матчыны залатоўкі, і за Талстога, і за Мазохаву жопку аднолькава.

У дні вайны ад рук фашыстаў загінулі ў нашым мястэчку ўсе адзінапляменнікі вясёлага мудраца Шолам-Алейхема, сярод якіх былі не толькі мае добрыя знаёмыя, але і сябры маленства. І няма ў каго сёння спытацпа, каб удакладніць: тыя два-тры дзесяткі і выпадковых, і характэрных па тэматыцы кніг — ці не маюць яны дачынення да бібліятэкі, якая на пачатку стагоддзя была заснавана ў недалёкім старадаўнім гарадку Міры самім Горкім?..

Не, гэта не легенда. Яшчэ жывуць прадстаўнікі той мірскай інтэлігенцыі, нерадавая група якой гйсала ў свой час Аляіссею Максімавічу з просьбай дапамагчы ў арганізацыі бібліятэкі, на што ён адгукнуўся пісьмом і пасылкамі кніг.

І пісьмо тое, і бібліятэка не захаваліся. А мне чамусьці здаедца, мне прыемна думаць, што імснна з той, з мірскай, з «горкаўскай» бібліятэкі маглі быць і былі тыя кнігі рускай класікі, з якімі я так своечасова, так удзячна сустрэўся на парозе сталасці.

Чаму я ўспомніў пра ўсё гэта?

Таму, што там, у той бібліятэцы без шыльды, у тым местачковым доміку з крывым, дзіравым ганкам быў сярод іншых кніг і томік Чэхава.

Блакнот, у якім я тады запісваў усё, «што ўражала розум і сэрца», захаваўся. У ім запісаны смешна і міла нязграбным, як само цыбатае юнацтва, хуткапісам тры назвы:

«Ведзьма», «Белалобы», «Ванька».

З гэтага ён і пачаўся — мой Чэхаў.

Не памятаю, якія яшчэ апавяданні былі ў тым томіку, апроч названых. Думаючы цяпер, чаму іменна толькі яны, гэтыя тры, пакінулі наймацнейшае ўражанне, спыняюся на трох, найбольш характэрных элементах: адчуванне красы прыроды, любасць да жшой істоты, дружба з чалавекам. Можа, не вельмі ўдалы ён, такі падзел, аднак за кожным з гэтых трох пунктаў, а яшчэ лепш — за ўсімі імі адразу,

стаіць ён — цудоўны свет непаўторных па сіле і чысціні перажыванняў маленства і юнацтва.

Значна пазней, у суровую восень сорак другога года, зроблен наступны запіс:

«Чытаў хлопцам «Ведзьму», асабліва захапляючыся класічнымі малюнкамі завірухі за вокнамі самотнай хаткі. Яскрава ўявіў самога Чэхава на бязмежжы аснежаных прастораў Расіі, пад словы песні «Извела меня кручина», і грудзі напоўніліся шчасцем творчых пакут...»

Я пакрывіў бы душою, каб сказаў, што ў пятнаццаць гадоў, чытаючы «Ведзьму» ўпершыню, захапляўся толькі апісаннямі прыроды.

Кудлатая рыжая галава і вялікія, даўно не мытыя дзякавы ногі, што не ўмяшчаліся пад зашмальцаванай коўдрай, здорава закранулі ў хлапечай душы тое самае, што разбудзіў і напаіў іскрыстай пеністай радасцю ні з кім не параўнаны ў сіле смеху Гогаль. Гогаль — з яго Наздровым, Манілавым, Шпонькам, з яго адпушчаным для пафарбоўкі даху міргарадскага суда пакостам, які канцылярысты з'елі з цыбуляй... А кіеўская бурса, а дзяк у гасцях у Салохі, а... Ды, божа мой, часта падумаеш цяпер: рэдкая птушка далядзіць да палавіны Гогаля!..

А тут жа да яго, ужо вядомага і так любімага, далучыўся з такім задушэўным, хоць ціхім і стрыманым, смехам яшчэ адзін — Чэхаў!..

А потым у Чэхава побач з дзячком — і такім, і не такім, як гогалеўскі,— была яшчэ і дзячыха-ведзьма, здаровая, прагная прыгажуня, што тамліва чакала здаровай сілы кахання, той сілы, дзеля якой можа забыцца «на цюкі, на паштовыя цягнікі... на ўсё ў свеце». Куды там Гогаль з яго ханначкай, што спакусіла Андрыя!..

Тут, у Чэхава, зусім інакш, чым ва ўсіх, каго я чытаў перад гэтым, была закранута тая слодыч «забароненага плода», што хвалюе нас у юнацтве непаўторна па сіле і свежасці ўспрымання.

Тым больш характэрным застаецца тое, што наймацнейшым у «Ведзьме» было для мяне адчуванне красы прыроды.

Невыпадкова ж і запомнілася з тых дзён такое моцнае, такое простае, такое чэхаўскае апісанне завірухі, што лютуе за акном:

«А ў полі ішла сапраўдная вайна. Цяжка было зразу мець, хто каго зжываў са свету і дзеля чыёй пагібелі заварылася ў прыродзе каша, але, мяркуючы па несціханым, злавесным гуле, камусьці даводзілася вельмі туга».

Гэта — далека не ўсё, што адбывалася за акном, ды мне здавалася і здаецца, што ў карціне завірухі іменна гэтыя штрыхі найбольш істотныя, найбольш чэхаўскія. Як Млечны Шлях, які «вырысоўваецца так ясна, нібы яго перад .вятам памылі і пацерлі снегам»; як тая

івалга, іm о спявала ў старым садзе нехаця, слабым голасам, «відаць, таксама старэнькая»; як тое шкельца, што... Ды, божа мой, хочацца ўсклікнуць зноў: рэдка каму ўдаецца даляцець да палавіны чэхаўскага стану!..

Так усклікнуць я мог бы пазней, калі ўжо далека-глыбока забраўся ў раскошны свет ягонай творчасці. А тады, хлапчуком, я толькі рот разявіў, толькі затрымцеў ад першага захаплення.

І невыпадкова, відадь, колькі б разоў ні перачытваў я Чэхава, у тых пачуццях, у той цудоўнай музыцы, што абуджаецца ў душы ад ягонага ўспрымайня прыроды, першай струной звініць пачуццё ўпершыню перажытай радасці — сустрэчы з чароўным чэхаўскім светам.

Цяпер — пра «Белалобага».

«Нарэшце шчашок змарыўся і ахрып: бачачы, што яго не баяцца і нават не звяртаюць на яго ўвагі, ён стаў нясмела, то прысядаючы, то падскакваючы, падыходзіць да ваўчанят. Цяпер, пры дзённым святле, легка ўжо было разгледзець яго. Белы лоб у яго быў вялікі, а на лбе бугор, які бывае ў вельмі дурных сабак; вочы былі маленькія, блакітныя, цьмяныя, а выраз усёй морды надзвычай дурны. Іадышоўшы да ваўчанят, ён выцягнуў наперад шырокія лапы, палажыў на іх морду і пачаў:

— Мня... мня... нга-нга нга!

Ваўчаняты нічога не разумелі, але замахалі хвастамі».

Відаць, таму, што мяне перавезлі з гора да ў вёску пяцігадовым хлопчыкам і пазнаваць прыроду я пачаў з некаторым спазненнем, паасобныя малюнкі яе адбіліся ў памяці з асаблівай сілай.

Рэчы для звыклага вока надзвычай простыя: рамонкі на чыгуначным адхоне, васількі, калоссе, а над усім гэтым белыя кубкі ізалятараў на слупах, што бягуць насустрач нашаму таварняку з рассунутымі дзвярыма... Яшчэ прасцей: чатыры курыцы, выпушчаныя з падпечка на хату. То сястра, то кума, то суседка — хго ні прыходзіў да нас, каб сустрэцца з маёй маці, што вось і вярнулася пасля стольхіх гадоў,— кожная што-небудзь прыносіла. Так яны і з'явіліся ў нашай хаце, чатыры курыцы, да якіх я прыг ляд аўся, для зручнасці прылёгшы на падлозе. Стракатая, белая, чорная, жоўтая... І ўсе з чырвонымі грабянцамі! А як яны стукаюць дзюбамі ў падлогу! А калі сонца засвеціць з акна,— якія ж яны ненаглядный ў сонцы!..

Потым былі галубы, аднаго з якіх, сірату, я выкарміў сам. Быў сабака, з якім я дружыў дзесяць год і пахаваў якога ўрачыста ўзрушаны. Былі каровы, якіх мы, праўда, білі попускам кіямі, але і напасвалі, нібы перапрашаючы за тыя здзекі, з асаблівай старанкасцю. Быў конь, з якім так добра было і маўчаць, і пагутарыць за

плугам або ў лесе. Значна пазней, калі ён вынес цябе, партызана, з-пад куль, хацелася прытуліцца шчакой да ягонай цвёрдай шчакі, заглянуць у глыбокае, сіняе, ціхае вока...

Гэта ўсё было — кожнае захапленне ў свой час, гэта і сёння жыве, як дома, у найбольш утульным куточку душы.

З асаблівай прыемнасцю прачытаў я днямі простыя, мудрыя і такія вясёлыя словы Астапа Вішні:

«Ездзілі на паляванне. Гэта — не ўпершыню і не апошні раз. Нічога!

І як радасна, што я нічога не забіў!

І як радасна, што я яшчэ паеду (абавязкова!), каб што-небудзь забіць!

І як радасна будзе, што я нічога не заб'ю».

Гэты дзённікавы запіс азначаны датай: 23 студзеня 1952 года.

На паўтара года пазней і я меў шчасце пазнаёміцца з гэтым цудоўным сынам любай Украіны, быць у яго кабінеце, здзіўляцца процьме карцін і малюнкаў, падараваных яму сябрамі, па-блазенску, глыбока ў душы пабойвацца яго сабакі, што лез, мармычучы, да рук, каб палажыць і мне на далоні цяжкую, шакаладнага колеру, галаву. Як супрацоўнік «Маладосці» дзён некалькі перад гэтым я папрасіў Вішню даць нашаму часопісу якую-небудзь гумарэску. А ў прызначаны тэрмін атрымаў з яго рук зусім не сатырычную, а проста сонечную замалёўку. І так здзівіўся гэтаму, і так расчуліўся, калі ён, як спачатку здавалася, сатырычна калючы стары ў парусінавым кіцелі, сівы, ссутулены, па-бацысоўску абняў мяне на развітанне.

Тады яму ішоў ужо сёмы дзесятак. А колькі ж па-дзіцячы пяшчотнага, чыстага было ў яго душы, добра знаёмай з бурамі і болем. Цяпер, калі ўжо і да мяне прыйшлі гады найбольш адказнай сталасці, і я з ціхай радасцю чую яго пасмяротны і несмяротны голас. І думаю, што вельмі добра таму, хто не растраціў пачуццяў, так шчодра адпушчаных нам пры ўступленні ў жыццё. І ў голасе Вішні мне чуецца нешта ад Чэхава, тое, чым падтрымаў ён нас у самым дарагім.

Таму і з'явілася гэта адступленне.

Ну, а да чаго тут сабачка, у якога на лбе — ад знака дурасці, белы бугор? Да чаго тут і тое: «Мня... мня... нга-нга-нга»?

Ды да таго, что ў неабдымным свеце, які я люблю, на які я прагна і нястомна гляджу вось ужо больш за сорак гадоў,— у гым невымоўна прыгожым свеце гэты, так небывала перақазаны шчанячы брэх звініць для мяне напамінкам пра тыя восеньскія вечары, калі я чыстай душою падлетка ўспрыняў яшчэ адно радаснае адкрыццё: у гэтым свеце ёсць цудоўны, родны чалавек, што ўмее так многа

бачыць і так весела любіць!..

Неўзабаве пасля гэтага ён прывёў мне сваю непараўнальную Каштанку з яе трывогай, што гаснадар можа знайсці і з'есці схаваную за шафай курыную лапку. Ён паказаў мне свайго Івана Іванавіча, цыркавога гусака, што так і не дажыў да вясны, не пахадзіў па сонейку, па траўцы. Нібы казачны маг-чараўнік, ён ціхенька прывёў мяне ў тую канюшню, дзе возчык Іона дзеліць няўцешную тугу з худой, таксама ўшчэнт падбітай памочніцай...

Цяжка ўстрымацца і не выпісаць яшчэ адзін абзац, які, як і ўсё чэхаўскае, не сцёрся і не сатрэцца ад бойкага абароту.

«Так вось, брат кабылачка... Няма Кузьмы Іоныча... Не захацеў з намі жыць... Узяў і памёр дарэмна. Цяперака, скажам, у цябе жарабятка, і ты гэтаму жарабятку родная маці... І раптам, скажам, гэта самае жарабятка памерла... Хіба ж не шкада?»

«Взял и помер зря...» У перакладзе гэта не гучыць так поўна і абаяльна. Гэтаму «зря» — проста няма цаны!

Не ацаніць яго, не ахапіць за раз, не нацешыцца ім — тым чароўным светам пачуццяў друясбы з жывымі істотамі, які адкрыўся мне ў творчасці Чэхава, пачынаючы іменна ад таго няўдалага шчанюка, што так па-новаму забрахаў у аснежаиым лесе, каля воўчай бярлогі, над якой пераляталі час ад часу смарагдавыя ў сакавіцкім сонцы пеўні-цецерукі...

Ванька Жукаў.

Калі я быў яго аднагодкам — пасвіў каровы. Увосені, пасля атавы, мы ганялі іх па-тагачаснаму вельмі далека: на сенажаці, пад самы лес, кіламетраў за пяць ад дому. На прыволлі заліўных лугоў цячэ ціхая, паўнаводная Буша, што паблізу ўпадае ў Нёман — недзе вунь там, на даляглядзе, дзе таксама сінее лес, што называецца Налібоцкай пушчай. Над Вушай у гэты час збіраліся статкі з шасці навакольных вёсак. Пастухі часта біліся, ішлі вайной веска на вёску. Наша веска легка пабівала дзве суседнія, Чыжыноўцы і Маласельцы, бо былі яны невялікія, не маглі выставіць больш-менш прыстойныя арміі, а аб'яднацца так і не здагадаліся. На роўных сілах былі мы з вёскамі Трошчыцы і Пясочная. Затое пабойваліся Скорыч. Бывала так, што правёўшы адпаведную дыпламатычную работу мы аб'ядноўваліся з песачлянамі і хмарай ішлі на скарычан, у той бок, дзе былі Нёман і Налібокі.

Цяпер, выступаючы ў ролі летапісца тых падзей, я бяру на сябе, шчыра кажучы, мнагавата. Мы аб'ядналіся, мы пайшлі... А сам хадзіў я тады толькі ў абозе: разам з іншымі жэўжыкамі падносіў каптаны і торбы старэйшых.

Не памятаю дакладна, як гэта здарылася, але ў тую восень было ў нас і перамір'е са Скорычамі, нават даволі доўгае. Іхні статак даходзіў, пасучыся, да нашага, і каровы з абедзвюх вёсак мірна абгрызалі няскошаныя надрэчныя ўзмежкі. А пастухі раскладвалі вогнішчы, гулялі ў самаробныя карты, курылі цыгаркі з махоркі, пераважна крадзенай у бацькоў і для эканоміі прыпраўленай сухім вішнёвым лістам, вудзілі рыбу. З моста, што крута горбіўся над бродам. І займаліся гэтым пераважна «абознікі».

Аднойчы я быў сярод іх героем дня. Апроч пячкурыкаў, што легка лезлі ў бутэльку ад малака, нейкім дудам злавіў і я — ды з моста, у такой неспакойнай кампаніі — самую сапраўдную плотку!.. Слоў не хапала, каб выказаць радаедь. Ды ўсё ж галоўйае — не ў плотцы.

Дзякуючы ёй, гэтай срабрыстай дуроніцы з чырвонымі вачыма і плаўнікамі, якая да вечара на трэску высахла ў пастушынай кішэні, я пасябраваў з адным датуль незнаемым скорыцкім хлапчуком.

Ён быў таксама «абознік», маіх гадоў, але заморана маленькі, вельмі бедна апрануты, нават без вудачкі, хоць для снасці гэтай намі купляўся толькі зазубень, кручок, дана якога вагалася тады ад аднаго да двух курыных яек. Хлопчык быў сірата, бязбацькавіч,— такіх мы бязлітасна звалі байструкамі,— пасвіў чужыя каровы. Не памятаю, як яна пачыналася, наша дружба, што і пра што мы гаварылі. Нават імя яго згубілася назаўсёды, аднак у памяці модна і ярка засел і тры акалічнасці: хлопчык усё дрыжаў ад холаду, мяне чамусьці клікаў «Вана», а плотку называў «плёткай», і трэцяе, найбольш істотнае,— увечары, калі я дома расказваў пра яго, узяў ды раптам разрумзаўся. За гэта мяне высмеялі, але маці назаўтра палажыла мне ў торбачку больш, чам заўсёды, нават не намякнуўшы навошта.

Потым зноў былі бітвы са скарычанамі, а тады — зіма, калі мы хадзілі ў розныя школы, вясна і лета, калі мы пасвілі паблізу ад родных вёсак. Наступнай восенню не сустракаліся, а выраслі — не пазналі адзін аднаго... Словам, ад гэтай кароткай дружбы застаўся толькі ўспамін.

Плотка, якую я злавіў з моста,— першая ў маім жыдцці «вялікая рыбіна», але радасць, якую я з-за яе перажыў, была мне ўжо знаёма па адной з прачытаных да таго часу кніг: «Дзіцячыя гады Багрова-ўнука».

А радасць дружбы, якую я адчуў тады ўпершыню так моцна, не ведала раўназначнага рэха ў любімых кнігах дату ль, паку ль я, праз цэлых шэсць год пазней, не прачытаў апавядання «Ванька».

Праўда, я ўжо тады, у тым жа трыццаць другім годзе, адчуў на сабе першы і вельмі моцны ўплыў Льва Талстога з яго мастацкай і

немастацкай пропаведдзю любві да брата-чалавека. Аднак у Чэхава было нешта якасна іншае — у яго была не проста любоў, без разбору: я палюбіў не якога-небудзь шаўца Аляхіна, што біў свайго маленькага вучня, і не шаўцову жонку, што «ўзяла селядца і ягонай мор дай пачала мне ў рыла тыцкаць», а іменна і толькі Ваньку Жукава. Ён, дарэчы, вельмі ярка нагадваў мне тады, пры першым чытанні, і нагадвае дагэтуль таго «абозніка» — пастушка, а пачуццё любві да пакрыўджанага, прыгнечанага чалавека — такое на-чэхаўску чыстае, без найменшага адцення фальшу пачуццё,— якое я так моцна перажыў над старонкамі гэтай навелы, шчасліва і непарыўна знітавана для мяне з тым здаровым і непасрэдным, высока чалавечым успрыняццем свету, з якім мы ўступаем у жыццё.

Чэхаву я абавязаны вельмі многім, але тут прыгадаю адно.

Антон Паўлавіч першы з найбольш любімых пісьменнікаў унёс папраўку ў маё юнацкае безагаворачнае захапленне Талстым — не толькі непараўнальным мастаком, але і філосафам. Праўда, папраўкі такія ўносіла перш за ўсё само жыццё з панскім прыгнётам і народным рэвалюцыйным адпорам, сама заходнебеларуская рэчаіснасць, у якой я жыў і шукаў сваю сцежку. А вось першай чэхаўскай папраўкай быў іменна «Ванька». Пазней, улетку трыццаць восьмага года, калі ў мае рукі ўпершыню трапілі «Дуэль», «Маё жыццё», «Печанег» і іншыя творы так званага другога перыяду чэхаўскай творчасці, пераацэнка вартасцей пайшла ў патрэбным кірунку значна хутчэй.

Чэхаў, вядома, не замяніў мне Талстога, а толькі цудоўна дагіоўніў яго, дапамог палюбіць той ачышчанай, сталай любоўю, якая і мне, як паветра і сонца, патрэбна для жыцця і барацьбы.

Не памятаю, дзе гэта ён, Чэхаў, гаварыў, што любоў да чалавека трэба насіць не толькі ў сэрцы, але і ў галаве.

Не ведаю... лепш будзе сказаць — не думаў ніколі над тым, скрозь сэрца ці скрозь розум прапушчана яго любоў, скажам, да Ліпы з мёртвым сыночкам на руках, калі яна ідзе пад зорным вясновым небам... Аднак такога глыбокага, чыстага, невымоўна паэтычнага выяўлення любві да простага, пакрыўджанага чалавека няма, здаецца, ні ў аднаго з пісьменнікаў.

Упершыню я адчуў гэта ў невялікім апавяданні пра долю шаўцовага вучня.

...«Чэхаў — непараўнальны мастак... Іменна так: непараўнальны... Мастак жыцця.

Ён — адзін з тых нямногіх пісьменнікаў, якіх можна многа, многа разоў перачытваць,— я гэта ведаю з уласнага вопыту».

Следам за Львом Талстым так гаварылі, гавораць і будуць

гаварыць мільёны ўдзячных чэхаўскіх чытачоў.

Міжвольна ўспамінаю знаёмага — даволі развязнага і пуставатага, як мне часта здавалася, чалавека. Куды там яму да ціхай, сардэчнай радасці, якую дае нам добрая песня!.. А ён аднойчы за сталом, нібы стаміўшыся ад свае пашлаватай балбатні, папрасіў: «Заспявайма». І, спяваючы, стаў зусім іншы, нават неяк па-людску прыгожы. Вярнуўся чалавек да самога сябе, атросся ад наноснага, нібы памыўся ды пачысціўся дзеля вялікага свята.

За гэтым — у цеснай сувязі — другі ўспамін, другі вобраз. Друг мой прыехаў рэдкім і чаканым госцем ажно з Урала. Ён хадзіў са мной па ўсіх тэатрах і музеях, аглядаў новы горад, быў задаволены, шчыра здзіўляўся. А потым гэты не літаратар, а інжынер, закаханы ў сваю энергетыку рабацяга, сказаў:

«Давай, брат, сёння нікуды не пойдзем, а сядзем ды пачытаем Чэхава».

І мы чыталі, удвух, пры настольнай лямпе, у вельмі ж нейкім утульным паўзмроку пустога пакоя. Узялі з паліцы першы, які трапіў пад руку, том, зачапіліся за першае апавяданне... І як жа нам было добра! Як ён пахарашэў, раскрыўся для мяне яшчэ адным кутком свае душы, мой малады далёкі друг!..

Чэхава нельга начытацца.

Я, напрыклад, чытаю-перачытваю яго вось ужо хутка трыццаць год. Тэрмін, здаецца, зусім дастатковы для самай грунтоўнай праверкі пачуццяў.

Спачатку, у давераснёўскіх умовах, пошукі ягоных кніг часта нагадвалі нялёгкі хлеб следапыта. Тройчы ўздымалася хваля вялікай удачы: у трыццаць другім годзе, на пачатку знаёмства, у трыццаць восьмым, пра што я ўжо таксама гаварыў, і трэці раз, у дні вайны, калі я ўпершыню сустрэўся з цудоўнымі пісьмамі Чэхава — брату Сашу і Горкаму.

Старажылы Мінска, сябры кнігі, памятаюць, як увосені сорак чацвёртага года на жудасных руінах вызваленага горада-партызана з'явіўся першы вішнёвы томік гюўнага падпіснога Збору твораў Чэхава — яшчэ адно прыгожае сведчанне нашай непераможнасці.

Вось тады я наіўна падумаў, што прачытаю нарэшце Антона Паўлавіча ўсяго...

На працягу васьмі наступных гадоў былі прачытаны, па часу іх выхаду, усе дваццаць тамоў. А яшчэ праз два гады я меў гонар рыхтаваць да выдання «Выбраныя творы» Чэхава на беларускай мове.

Дзве рэчы ўразілі мяне тады, здаецца, з новай сілай.

Аповесдь «У яры» — велічная карціна жыцця рускай вёскі ў эпоху

станаўлення капіталізму, рэдкаснай сілы згустак, за рад высокай паэзіі,— аповесць гэтая, калі я пераклаў і перапісаў яе на машынцы, заняла... толькі 49 старонак!..

І другое: рэдагуючы пераклады сяброў і двойчы на працягу паўгода чытаючы карэктуру, я канчаткова пераканаўся, што Чэхава начытацца — нельга. Ён вечна новы і новы, не разгаданы да канца.

Нельга тяксама і сказаць пра яго адразу ўсё, што хацеў бы і мог бы сказаць.

Гэтым разам мне радасна было расказаць пра пачатак мае закаханасці — з першага позірку і назаўсёды.

1959

## НА ЎСІХ МОВАХ

Ляцім над акіянам. Дзесяць тысяч метраў.

Уверсе — блакіт, унізе — цьмяна-попельныя хмары. Паміж блакітам і хмарамі — ззаду за намі — вячэрняя зара. Чорнае крыло самалёта. Успамінаецца Рэрых.

Ноч. Непраглядная бездань за акном. Толькі нашы адлюстраванні на шыбе.

Пасля — звястунка раніцы — адзінокая зорачка. Зноў рэрыхаўская зара, ужо з усходу. Зноў чорны меч — крыло. Унізе — зноў шэры насціл хмар, пад якімі яшчэ ўсё акіян. Меч, бліжэй ад акна, спакваля пачынае пабліскваць. Зару замурзваюць воблакі.

Светла-попельны колер хмар пад намі нагадвае то густы шарош на вадзе, то нядаўна астрыжаную аўчыну.

Зара разгараецца.

Стала ўтварацца вялізная ракавіна — з неба ўверсе і мармуровых хмар пад намі.

Сонца!

У падвясной калысцы прачнуўся чарнавокі французік і, з валасатай галоўкай на маміным плячы, паплыў па праходзе над галовамі пасажыраў. Чорныя вочкі ўсміхаюцца...

І хочацца на ўсіх мовах адразу сказаць яму:

— Добрай раніцы!

1960

## НЕ ЗНІКАЙ

Яны не могуць нацешыцца адна адной — дачка і маці.

Не бачыліся тры гады... Не — больш за тысячу дзён і начэй. Роўна столькі, колькі іх горад быў пад ворагам. Ваенны год на службе лічыцца за тры. Салдату. Дзецям і маці, якія ў той час былі разлучаны, трэба лічыць, прынамсі, яшчэ раз утрая. Час чакання, тугі, невядомасці...

І вось яны разам. Яшчэ ўсё худыя Зініны ручкі — на маміных плячах, а носік раз-поразу цёпла торкаецца то ў адну, то ў другую маміну шчаку.

Можа, залішне гэтых пястотаў, можа, маці дарэмна штодня адзявае малую сама? Бо Зіна ж вырасла за гэты час на першакласніцу.

— Ой, успомніла я, успомніла, мама!..

— Што? Ды не вісні ты, стой сабе хораша. Што ж ты ўспомніла?

— Яшчэ калі цябе не было, калі ты была ў э-ва-ку-а-цы-і... Бачыш, я ўжо гэтае слова адразу кажу! Кал і мы толькі з бабуляй жылі. Кал і яшчэ ў Мінску былі фашысты... Мама! Ну, мама!..

— Што? Што, золатка мае?

— А гэта ва ўсіх мам і ўсіх дачок вочы такія самыя?

— Ну, не заўсёды.

— Дык чаму ж у нас з табой такія самыя сінія?

— Гавары ты, дачушка, адно. Ісці ўжо трэба, а ты... І я цябе люблю. Ну добра, хопіць. Дык што ж ты сніла, калі мяне не было?

— Я цябе сніла, мама. Не адзін раз, а многа! Але адзін раз так: здаецца, я цябе бачу... Здалёк, не блізка бачу. Але ведаю, што гэта — ты. Як толькі ты ідзеш — і я іду. Як толькі я пабягу да цябе — і ты бяжыш. А потым я крыкну: "Ма-ма!.." І ты адразу знікаеш... Ой, а слёзы твае так казычуцца,— я зараз чыхну... А можа, я не адзін раз так сніла, а многа?.. Ну, мама!..

Яны не бачыліся многа-многа год.

*1960*

## ЗОРКА НА СПРАЖЦЫ

Двор абгароджаны высачэзнымі сценамі трох дамоў. Для дарослых яны — нроста пяціпавярховыя. А паспрабуйце зірнуць на іх знізу, ад саменькай зямлі!..

Для дарослых адкрыта дарога і ў той пад'езд, праз які выходзяць на адну вуліцу, і ў тыя вароты, праз якія сюды заходзяць з другой вуліцы машыны. А малым — ну, тым малым, што гуляюць ужо без бабулі ці мамы — адным на вуліцу з двара выходзіць забаронена.

Праўда, і тут, на іхнім двары, вельмі многа цікавага. І гаражы, і дрэвы, і гурбы пяску каля плота, і два сабакі: Лайка з чырвонага дома і Шарык — таго Алёшкі, што Гарыкаў старэйшы брат і называецца Другагоднік.

Ды што ж, калі час цяпер такі, што ўжо не лета, і ўжо не восень, і яшчэ не зіма. І ў пяску ўжо не пагуляеш, і лістоў, нават жоўтых, на дрэвах няма, і снег ніяк не ідзе.

А самае найгоршае... Не, гэта самае найлепшае!.. Словам — гэта музыка, што чуецца адтуль, дзе за высачэзнымі сценамі трох дамоў ёсць плошча і помнік, а на плошчы стаяць або ходзяць салдаты. Гэта — ваенны аркестр, і ён рыхтуецца да кастрычніцкага нарада.

Добра таму, каго ўжо аднаго пускаюць і на вуліцу, і на плошчу! Ен там убачыць не толькі салдатаў у шэрых шынялях і шэрых вушанках, не толькі іх бліскучыя, галасістыя трубы. Калі над плошчай грымне радасны марш, дык на скверы з дрэў гулліва цяру шыцца першы іней, а белы дзядок, што ледзь, здаецца, тэпас тратуарам, і той пачынае ў такт пастукваць кіёчкам.

Добра таму, хто ўжо вырас!

Зрэшты, вялікім лічыць сябе — прыемна кожнаму. Нават і хлопчык з чырвонага дома — у чорнай шубцы, з якой асабліва прыкметна выраслі яго тонкія ногі ў сініх абцісльх штоніках і рукі, што заўсёды без рукавіц,— нават і ёп лічыць сябе вялікім. Так і гаворыць часта: «Калі я быў яшчэ малы...» А самому чацвёрты месяц на пяты год.

Асабліва зручна яму лічыць сябе дарослым побач з кругленькім трохгадовым жэўжыкам у цёплым паліто і з румянымі шчочкамі, што не ўмяшчаюцца ў цыгейкавай шапцы, калі яна завязана пад падбародкам.

Гэта сябры. Яны заўсёды разам.

Той дзядзя Толя, што Святланін тата і жыве ў адным пад'ездзе з Шарыкам, калі ідзе дахаты ці на вуліцу, заўсёды спыніцца каля іх і скажа меншаму:

— Здароў, Саша!

— Я не Сася.

— А хто ж ты?

— Я Міся.

А большы, не чакаючы:

— Ён Міша, а я, дзядзя, Юрка.

— Ну? — здзіўляецца дзядзя Толя.— Харошыя вы хлопцы, калі аб'ектыўна сказаць. І абодва.

Яшчэ і руку падасць аднаму і другому. І такую вялізную, дужую, цёплую!..

На двор гэты з трох дамоў збіраецца, вядома, шмат і хлопчыкаў і дзяўчынак. Але сёння Юрка і Міша выйшлі чамусьці раней за ўсіх.

Па праву большага гульню і сёння прыдумаў Юрка.

— Ты будзеш кракадзілам,— сказаў ён Мішку.— Ты стань на ручкі і на ножкі і рабі роцікам так: хап! хан! гыр!.. А я буду цыклоп, як у кіно, і я буду на цябе нападаць...

Мішка згадзіўся. Але, стаўшы на карачкі, раптам уздумаў, што ён не кракадзіл, а конь... Нават заржаў тоненька — от дзівак!

Слова за слова, і дайшло да сваркі. А потым Юрка піхнуў Мішку, той упаў на жывот і заплакаў, а сам больш спалохаўся і — наўцёкі. Ды зачапіўся неяк і пляснуўся, не дабегшы да ганка. Рукі яшчэ нічога, пабаляць, ды ўсё, але калені — ох!.. Не толькі занылі, але і мокрыя... І што скажа мама, калі і ўчора яна сушыла яго порткі на радыятары, і ўчора, і пазаўчо-ра сварылася! І Юрка заплакаў таксама.

За сценамі недзе грымяць вясёлыя трубы, а два дзівакі равуць дуэтам — адзін стоячы, а другі яшчэ ўсё на жываце.

Ды тут на ганку з'явіўся нейкі незнаёмы дзядзька.

— А гэта што за энапея, га? — спытаўся ён гучна і грозна.

Малыя сціхлі і ўталопіліся на яго. Мішка нават устаў.

Яны яшчэ не ведалі, што гэта дзядзька Лапша, водаправодчык, які працуе ў кацельнай на другім двары. Загуляўшыся, яны не заўважылі, як ён прайшоў па двары, спусціўся ў кацельную іхняга дома і выйшаў зноў на ганак. І ім няясна было, адкуль такі з'явіўся — злосны і чужыі

А для дзядзькі Лапшы ўсё цяпер выглядала і ясна і проста. Ён толькі што выпіў. А не дабраўшы меры, замкнуў сваю «фабрыку» на завалу і прыйшоў сюды, да сябра і калегі, водаправодчыка Кіпеня. Пабалакаць думаў ці, можа, яшчэ што-небудзь... А тут і ў Кіпеня «фабрыка» на замку. Помпы толькі шумяць за дзвярыма. Сарвалася. А назад спяшацца няма чаго — можа, хутка надыдзе?..

Дзядзька гэты толькі адразу напалохаў хлопчыкаў. А потым аказалася, што ён вельмі добры. І ручкі ім абцёр, і слёзы Мішку выцер кіпцем і гаворыць:

— У вас, браткі, без паўлітра не разбярэшся, хто вінаваты, а хто не. Ну, ты не плач... Які ж з цябе пасля гэтага можа быць кракадзіл? А музыка, хлопцы, якая! Чуе-еце? О!

Ён нават заспяваў, размахваючы рукою:

Вьется, вьется знамя полковое,
Командиры впереди.
Солдаты, в путь!..

— Хар-рошая музыка, хлопцы! У нас, на парты занскім парадзе,— сказаў ён, сядаючы на асфальце каля сцяны,— марш ігралі, праўда, не такі. Трам-та-ра-ра, трам-та-рам!.. Такая, браткі мае, эпапея!.. Вось вы пабіліся, засмэркаліся, і толькі. А ў нас бывала — не дай і не прывядзі! Ты ведаеш, адзін з другім, што такое блакада?

Юрась і Мішка стаялі побач, глядзелі на дзядзьку як зачараваныя. І маўчалі.

— Ды адкуль вам, браточкі, ведаць пра тую блакаду!.. А мы ляжым напрадвесні. У сорак трэцім. Балота, лес. Холад, голад. Навокал немцы. Грошай — ні капейкі... Цьфу!

Ен памаўчаў.

— Там яшчэ нічога,— пачаў пасля.— Адтуль мы вырваліся. Не ўсе, праўда... Але мне на той раз пашанцавала. Затое другі раз мяне джыганула сюды вось. О, так я ляжаў...

Дзядзька прылёг на сухім каля сцяны асфальце і паказаў:

— Ляжу. А потым толькі хацеў ірвануцца ў перабежку, толькі, шануючы вас, казённую частку падняў, а куля — дзык! А другая ў руку! А трэцяя вось тут, у грудзі! Рэшата! Эпапея! Вось, браткі, што такое фашысты і што такое вайна!..

Дзядзька як лёг, так і астаўся ляжаць на сухім. Толькі на бок павярнуўся. І галаву рукою падпёр.

— А цяпер,— сказаў ён,— музыка табе іграе, кроў маладая кіпіць, і хоць бы хны... Тры разы ўрадам адзначаны. А сам папсаваўся ўшчэнт... Драмануць, пакуль той Кіпень прыйдзе, ці што?.. Ну, маладыя людзі, прашу хвілін пятнаццаць цішыні...

Дзядзька заплюшчыў вочы.

Хлопчыкі пастаялі трохі, а потым Юрка, зусім-зусім забыўшыся пра сварку, узяў Мішку за руку, адвёў да шчыта і шапнуў малому ў самую шчаку:

— Ты тут стой і глядзі... На вось гэтую палку! І стой ды глядзі. А я хутка вярнуся...

А сам пабег у той пад'езд, іпто на вуліцу.

...Цёця Зоя Пятроўна, тая, што Юркава мама! На гэты раз не карайце вы свайго дзецюка, што ён забыўся на ўсе забароны і абяцанні і сам пайшоў на вуліцу!.. Зрэшты, трэба, вядома, і паўшчуваць, бо да мэты яго — ажно два скрыжаванні, дзе мноства машын. Толькі ж за смеласць, за чулае сэрца...

Юрка ідзе на плошчу, на голас салдацкіх труб.

Шчасліва псрабраўшыся цераз адно скрыжаванне, ён пайшоў да другога. Дарослыя кажуць, што гэтай дарогі — адзін толькі квартал. А колькі ж тут цікава-га! І магазін, дзе прадаюцца кніжкі, кубікі, каляровыя алоўкі. І дзіцячае кіно, дзе ён глядзеў учора з Анькай пра цыклопа і кракадзіла. І сквер з фантанам, дзе вясною зялёныя каменныя жабы зноў будуць пырскацца з рота вадою. А вунь, на рагу, улетку цёця прадае марожанае...

А хутка будзе другое скрыжаванне, за якім — салдаты.

Але тут...

Ох, так, не ўсё ў жыцці збываецца!.. На тратуары перад Юркам стаяў Святланін тата, дзядзя Толя.

— А ты, браток, куды? — спытаўся ён.— Куды ж гэта ты адзін?

— Там... фашысты дзядзю пакрыўдзілі... Дзядзя харошы, а яны яго кулямі пастралялі! І ён ляжыць...

— Дзе ляжыць? Што ты выдумаў?

— Я не выдумаў. Ён — партызан. Ён праганяў іх, а яны...

— Э, браток, нічога мы з табою тут... Пайшлі на месца злачынства. Вядзі!

Юрка згадзіўся. Калі яго ручка, азяблая без рукавіцы, апынулася ў дужай, цёплай руцэ дзядзі Толі, ён канчаткова адчуў, што справядлівасць хутка пераможа. І без салдат. Дзядзя Толя сам вялікі!..

Аднак на двары іх чакала поўнае расчараванне.

Дзядзькі таго ўжо не было.

І Мішка ўжо не стаяў каля плота, а ішоў сабе па с.цежцы. Нават і без кіёчка.

— Ну? — спытаўся дзядзя Толя. пусціўшы Юркаву руку.— Як ты мне, браток, усё гэта растлумачыш? Дзе твой дзядзя і дзе фашысты?

Юрка стаяў разгублены.

А Міша стаіць і ўсміхаецца.

— Што, румяны? — спытаўся ў яго дзядзя Толя.— Як жа ты, браце-салдаце, на варце стаяў? Дзе ж ты падзеў таго дзядзьку?

І Мішка расказаў:

— Пгысёў дгугі дзядзя... дзядзя з кацельні і зябгаў дзядзю... Дзядзі пайсі туды!

Ён паказаў рукавіцай на дзверы ў падвал іхняга дома.

— Усё ясна,— сказаў дзядзя Толя.— У Кіпеня госць. А ты тут, Юрка, трывогу ўзняў.

Ды Юрка ўжо адышоў ад разгубленасці.

— А фашысты ж дзядзю пакрыўдзілі!

— Ды гэта, браток, было ўжо даўпо. І трэба думаць, што больш не паўторыцца.

— А дзядзя той харошы. Ён партызан! І ён герой!

— Ну, так ужо і герой?

— У яго, дзядзя Толя, зорка на спражцы! Во тут. І вялікая! І Мішка, дзядзя Толя, бачыў!

Дзядзя Толя дастаў з кішэні паліто папяросны карабок і запалкі.

Як гэта добра — быць вялікім!..

Пакуль ён вымаў з карабка папяросу, а потым запальваў запалку, прыкурваў, зацягваўся — за сценамі дома, далёка на плошчы, вясёлым маршам грымелі трубы, а тут за рухамі ягоных рук хадзілі дзве пары вочак. Цікаўных, зайздросных, захопленых!..

— Ну, арлы,— сказаў дзядзя Толя.— Як бы там ні было, а вы, беручы аб'ектыўна, таксама героі. Абараняць пакрыўджаных — гэта па-нашаму. Гуляйце далей. Нават — выходзіць — пад музыку. О, чуеце? Прывітанне!

А ён пайшоў і не ведае, дзядзя Толя, што Юрась і Мішка нават трохі пабіліся... Ну, і няхай не ведае ніхто.

— Я больш не буду, Мішка, цыклопам,— сказаў старэйшы.— А ты не будзь кракадзілам. Дай мне ручку! Хадзем пад гараж — я табе нештачка пакажу...

*1960*

## СЦЕЖКА-ДАРОЖКА

*Ц. Г. Дуднікаву*

Снег толькі што пайнюў, ціхі і спорны, калі яна пачыналася, белая сцежка. Пачаў яе слядамі сваіх ботаў гаспадар. Сляды тыя трымаліся нядоўга, іх зацярушвала дрыгатлівая густая мякката, што безупынна і ласкава асядала на зямлю. Зайшоўшы ад хлява ў гумно, гаспадар вяртаўся адтуль, нёс каню, зноў сцелючы на снезе след, Потым пайшоў яшчэ раз, прынесці карове, і зноў вяртаўся, а след яго ніяк не рабіўся сцежкаю.

Толькі пад вечар, калі той снег нарэшце нацешыўся, гаспадар зноў двойчы прашнураваў з хлява ў гумно і назад, і ўжо тады яна, сцежка, стала прыкметная.

Гаспадар быў малады. Калі ён ішоў з гумна, на гэта праз акно іх хаты глядзелі яго старая маці і маленькая дачка. Дзяўчынка ў ніцяных лапціках стаяла на лаве і, перавешваючыся цераз бабуліну руку, час ад часу ўпіралася лобікам у запацелую шыбу. І ўсё гудзела штосьці весела і заклапочана. Старая слухала, як пад рукой яе тукае маленькае сэрца, і га-варыла:

— А вунь, Любачка, наш бацька ідзе! А вунь!..

Нявестка сядзела на прасніцы, трохі воддаль ад таго акна. Але яна і так усё бачыла — што ў хаце, што і за акном. Бачыла, чула і ціха ўсміхалася. І ўсё, нягледзячы на прыцемак, завіхалася прасці, нібы толькі што ўсмак увайшла.

Калі сын старое, Шурка Іванішын, быў малады, дык нявестка Жэня — зусім маладзенькая. Яна прыйшла ў гэтую хату два гады таму назад, яшчэ, здаецца, па-дзіцячаму румянай дзяўчынкай. і вельмі саромелася свякрові...

Пра Іваніху нават і ў Жэнінай, няблізкай вёсцы гаварылі, што баба яна — суровая. Рана, яшчэ ў тую, «мікалаеўскую», вайну аўдавеўшы, сама і гаспадарыла баба, сама і дзяцсй гадавала, адмовіўшыся ад двух ці ажно трох прымакоў. І дачок тым часам абедзвюх па-людску выдала, і сына алсаніла, найменшага. А сама, глядзі, яшчэ і цяпер справілася б і не з адной, і не з адным — і за кроснамі, і за плугам. Толькі што здароўя не хапіла на ўвесь век — ужо гадоў некалькі накульгвала Іваніха ад расшырэння вен, і чым далей, тым горш. Ды цяпер ужо ёй што — хочаш, дык трохі тупай па хаце, а не, дык цёплай печы пільнуйся. Ды на табе, як усім добрым людзям, найлепшы падарунак на старасць — унучку.

Жэня спачатку так саромелася і сапраўды суровай з выгляду Іваніхі, што прынясе тыя разы вядро вады, паставіць, апусціць рукі ды пытаецца:

— А што цяпер рабіць?

— Сядзь, ткаля, ды пасядзі, што ж ты будзеш рабіць,— гаварыла старая.

І маладзічка, бывала, сапраўды паслухмяна прысядзе на лаве і пасядзіць. Нядоўга. Бо зноў работа нейкая знойдзецца. Зробіць і тое, і зноў пытаецца:

— А што цяпер рабіць?

Але патроху прывыкла Жэня да чужое хаты, дзе пачалося яе патаемнае, сарамлівае шчасце, дзе прыйшлі пасля салодкая трывога чакання, страшная ноч пакут і Любачка, без якое — ну, невядома проста, як яна раней і жыла!.. Прывыкла і да свякрові. Бо яна толькі так, пакуль яе добра не ведаеш, здаецца злоснаю. Рабілі яны ў хаце ўсё звычайна ўдзвюх, і свякроў паказвала нявестцы многае, чаго яе не паспела навучыць маці. Праўда, пакажа, а як не хутка пяроймеш, дык і пабурчыць, не без таго. Аднак, калі яна, Жэня, пачала хадзіць Любачкай, калі ёй многае пачало здавацца цяжэйшым, старая часцей і неяк іначай стала гаварыць ёй:

— Ціха, дзеткі мае, памалей. А гэта — і зусім улсо не для цябе.— І яна прыкрыквала на Шурку: — Эй ты, бацька! Вады пайдзі прынясі. Два вядры.

А выйдзе ён, дык яна нават і такое:

— Ты глядзі цяпер,— кажа,— асцерагайся. А яму, здаравілу такому, нічога не зробіцца. Ён і цабрамі вады той мог бы прынесці!.. Мужыку, дзеткі, не трэба лішне патураць, а то прывучыш, дык і будзе за цябе хавацца. Хопіць бабе і так — уга, як хопіць! За два вякі і то ўсяго не пераробіш.

Так спакваля ды непрыкметна пачалася іх дружба. Калі ж нарадзілася Любачка і свякроў узялася вучыць маладую матулю, як і спавіваць, і карміць, і купаць, і лячыць іх непадзельнае шчасце. Жэня ўжо не толісі па закону называла Іваніху найдаражэйшым словам — мама, а часам нават ледзь-ледзь не таксама шчыра, як і родную маці, што жыла, дарэчы, за сем кіламетраў і, абкідаўшыся дзетварой, прыходзіла не вельмі часта.

Яшчэ, здаецца, больш непрыкметна, чым дружба са свякроўю, прыйшло да Жэні другое — жаночая сталасць. Ды ўжо не спакваля, як тая дружба, а пасля пераломнай, вялікай у яе жыцці падзеі. З нараджэннем Любачкі ў душы маладзіцы адбылося нешта такое, што

назусім узаконіла яе пераход у мужаву хату, што дало ёй поўнае права лічыць сябе, нягледзячы на няпоўныя дваццаць гадоў, гаспадыняй.

Кахаць свайго Шурку яна і цяпер кахала не менш, вядома. чым раней, аднак — ужо трошкі інакш. Нітка ўжо не проста ішла за іголкай — яна адчула, што і іголка ад яе цяпер нідзе не дзенецца І ўжо часам мож-на было пачуць, як нітка патузвала:

— Ну і што ты там з гэтай кнігай рассеўся! Дроў сушэйшых пайдзі прынясі!

І чым далей, тым больш упэўнена.

Шурка, праўда, быў не з тых мужчын, што лёгка паддаюцца. Ен мог і паслухацца лішні раз, і пасмяяцца, пакуль гэта ў Жэні выглядала пацешна ды справядліва; аднак, калі яна, асмялеўшы, дазваляла сабе другі раз вякнуць зусім лішняе — ён напамінаў ёй пра розніцу ў правах і абавязках ніткі і іголкі. Разоў колькі яны ўжо і пасварыліся трохі, нават і не гаварылі па некалькі дзён. Затое мірыцца было вельмі добра!.. Словам, жылі пакуль што, як добрыя людзі.

Адчуўшы сталасць, Жэня зірнула трохі іншым вокам і на свякроў. Маладзіца ўбачыла, што яна амаль зусім не баіцца Іваніхі, толькі шануе яе і нават, здаецца, любіць. А ўсё ж хацелася б, з кожным днём больш, самой быць гаспадыняй печы, хаты, нават гаспадаркі.

Ды Іваніха, хоць і ў гадах ужо, і нямоглая, сама яшчэ трымала лейцы — коратка і моцна.

І Жэня адчувала гэта даволі часта, толькі ў далёкай мары бачачы сябе самую поўнай гаспадыняй... І ў думках нават, вядома, не носячы якога-небудзь ліха супроць бабулі свае Любачкі, Шуркавай мамы і добрай, хоць і суровай, збоку гледзячы, жанчыны.

Усё было б зрэшты — божа мой! — гэтак добра ў іх хаце, каб не гэтая праклятая вайна...

Праўда, яны яе яшчэ не бачылі, як другія. Шурку ўзяць у Чырвоную Армію не паспелі. Як толькі аб'явілі, што вайна, мужчыны і хлопцы з іх Кленіч пайшлі ў ваенкамат, адтуль — на станцыю. Але яе ўжо там разбамбілі, і немцы вось-вось, і парадку не было ніякага, і ўсе вярнуліся дахаты. Немцы ішлі алсно некалькі дзён, але Кленічы, хоць і блізенька ад гасцінца, уцалелі. І самі пакуль што жывыя.

Гора таму, чые пайшлі перад вайной у армію, неўзабаве пасля таго, як стала і тут савецкая ўлада. А некаторыя хлопцы яшчэ і з панскага войска назад не прыйшлі. Другія людзі і плачуць, не ведаючы пра сваіх: ці жывыя яшчэ, ці ўжо не — хто даўно, а хто толькі што?

У мястэчку, дзе быў сельсавет, і ў раённым горадзе — падумаць толькі страхоцце! — яшчэ з восені пастралялі ўсіх яўрэяў. І з Ганчароў, і з Горак, і з Капуснікаў пабралі тых, што былі пры панах падполь-

шчыкамі, а потым актывістамі. І мужчын ды хлопцаў пабралі, і дзяўчат, і жанчын ад маленькіх дзяцей. Пахапалі знячэўку і, кажуць, нават і не стралялі іх, а галовы іх шаблямі секлі. Вучыліся паліцаі, як гэта робіцца...

Многа ўжо іх развялося, сабак!.. Спачатку злыдні ўсякія самі да немцаў пайшлі, а пасля пачалі і іншых браць — сілаю.

І падумаць нават страшна, што і да Шуркі могуць прычапіцца...

...Учора толькі выпаў снег, а сёння ўжо мужчын з усіх Клёніч пагналі ў лес, па дровы для паліцэйскай камендатуры. Ііаляцелі, ліха на іх, цэлаю зграяй. Солтыс яшчэ звечара заказаў, і Шурка ўжо запрагаў каля хлява, калі іх двух зайшло ў расчыненыя вароты. Адзін нейкі чужы, незнаёмы. Мусіць, з байцоў, што тут пааставаліся пры адступленні, бо гаворыць ён чыста па-руску. А другі — з Капуснікаў, Тхорыкі на іх кажуць. Пустальга ды зладзюга. Сам першы ў тую паліцыю пабег, ды такі ж катарэзнік зрабіўся, што і знаёмыя ўжо баяцца стрэць яго, і ўсе навокал праклінаюць. Калі яны ўзышлі на двор, Шурка ўжо якраз запрог і ехаў насустрач.

— Тпру! — сустрэў яго Тхорык.— Гатоў?

— Гатоў,— кажа Шурка, спышіўшыся.

А той глядзіць і не ведае, да чаго прычапіцца. Знайшоў.

— Якая пуга ў яго, паглядзі,— калса свайму напарніку. І да Шуркі: — Ану, пакажы!

Той даў, вядома, а гэты — каб ён да вечара галоўкай налажыў! — лясь, лясь пугай па Шурку, пасля па кані. І з саней не даў злезці, у хату зайсці... З пугай у руцэ — так і пайшоў на іншыя двары, рагочучы з тым сваім памагатым, а можа, чорт іх ведае, і начальнікам.

Плакалі Жэня з мамай і гаварылі доўга, прадучы... Адна пацеха — Любачка шчабятала ім сваё «ня-ня-ня!» ды ўсміхалася, стоячы на лаве ў стойцы. Што ты хочаш — малое, нічога не ведае. А потым бабуля накарміла яе кашай і палажыла ў калыску. Дый сама прылегла на печы, бо нешта ёй зранку яшчэ недабрылася. Яна там адразу сціхла, а гэтая бяссогшіца яшчэ доўга букала з-пад хусцінкі. Заснула потым, і матуля перастала калыхаць.

Прадзе і думае — невясёлую думу...

А дзень за акном такі сёння ціхі ды чысты! Снег учарашні лялсаў на голлі яблыні, на штакетах гародчыка, на страсе хлява, на ўсімусенькім — колькі скінуць вокам. А сонца — ужо на поўдні — зацягнута лёгкімі хмаркамі, нібы той Любін тварык хусткай.

Яна падумала так і ўсміхнулася. Потым устала з прасніцы і схілілася над калыскай. Спіць сабе іхняя гаспадынька!.. Усе ёй служаць, як пані якой, уся хата. Не вытрымала Жэня — асцярожненька сцяг-

нула хустку і залюбавалася. Не падзяліць ім з Шуркам, што тут чыё: чые вочы, чый нос... Броўцы якія харошыя, як у самога!.. А губкамі як цмакае благоцце і праз сон... Жэня адчула сваё вялікае шчасце пад цёплай цяснотай яшчэ дзявочага станіка. «Хутка прачнецца, папросіць»,— падумала пра малую. А сонца, як на тое, выглянула з павалокі хмар і засвяціла ў хату праз яшчэ не замёрзлыя шыбы. Жэня нават спалохалася, што малое, чаго добрага, чхне ды прачнецца. Накрыла яе хусткай і гайданула калыску. Пастаяла трошкі, а тады павярнулася да акна.

Ды ўжо не села на прасніцу. Поўдзень. Сонца напомніла. Трэба пайсці даць карове.

Ціхенька апранулася і, не скрыпнуўшы дзвярыма, выйшла з хаты.

На зіхатлівай белі агарода сцежка была ўжо добра прыкметна. Бацька не толькі вытупаў яе за вечар ды за раніцу. але і сена трошкі нацерушыў, і саломін са тры згубілася. Адна вунь з коласам. Мусіць, зярняты ў ім асталіся, бо вераб'і шчапіліся сварыцца, хто з іх першы той колас знайшоў...

Жэня ўсміхнулася. Успомнілася ёй тое, што ўспамінаецца цяпер хутчэй за ўсё і наймілей — дачушка.

Баба спявае малой немаведама кольмі тых песень. Не раз падумаеш: дзе яны толькі ў яе, такой суровай з выгляду, і бяруцца?.. Сама Жэня таксама ж, здаецца, памятае іх многа. І свае спявае, і бабуліны, а ўсё ж здаецца — малавата іх. Не тое каб мала, а неяк хочацца спяваць яшчэ і сваё... Можа, не столькі таму, што хочацца, а хутчэй па той прычыне, што трэба. І дзіцяці трэба, каб спала ці забаўлялася ціха, дый сама ты ласкавае слова ў душы не ўтрымаеш. Вось і цяпер ужо яно просіцца — пра верабейку на снезе, пра залаты каласок ды пра сонца... Так пляцецца нешта і, як уток у аснову, кладзецца словамі ў любыя гукі якой-небудзь песні — то знаёмай, а то і не. Калі пяеш — не разбіраешся, тады яно выходзіць люба ўсё...

З такімі думкамі, з такою светлай радасцю ў душы ішла яна, румяная ды спраўная, па белай неглыбокай сцежцы.

Падышла да гуменных варот, выняла затычку са скабы і адчыніла скрыпучую, асеўшую вераю.

Спачатку па вачах яе жахнула цемрай, потым Жэня, яшчэ не ступіўшы на ток, разгледзелася збольшага, зірнула ўбок і, каб змагла, дык ахнула б ад страху...

Не крыкнула і не рванулася назад, і потым, калі акрыяла трохі ды раздумалася, вельмі рада была, што сталася іменна так. Ціха і непрыкметна, не падазрона, калі хто і бачыў, яна зноў зачыніла скрыпучую

— ліха ёй! — вераю гуменных варот, дрыжачымі рукамі заткнула паленцам скабу і пайшла, як толькі сіла мага стараючыся не спяшацца.

Колькі свету перавярнулася ў яе душы за гэтыя хвіліны! Колькі яна ўспомніла і колькі зразумела цяпер, убачыўшы яго!..

Гэта быў ён — той самы баец.

...Па-рознаму, хто як, ішлі яны ўлетку на ўсход. Немцы ўжо чорнаю хмарай прагрукаталі па гасцінцы — і матацыклы, і танкі, і аўтамашыны з салдатнёй,— а нашы ўсё яшчэ адступалі. І на машынах сям-там, палявымі дарогамі, а то ўсё больш пехатою, па збажыне. Адны ўжо з голымі рукамі, нават босыя ці пераапрануўшыся ў якоенебудзь лахмоцце, а іншыя — хоць таксама ж другі ледзь на нагах трымаецца — з вінтоўкай у руках і зубы, здаецца, сцяўшы ад злосці...

Не забудзецца Жэня ніколі пра тую палутарку з фікусам...

Ці сам той нейкі начальнічак ведаў, як уцякаць, ці шафёр яго быў хітры, але перлі яны не гасцінцам, а па клёніцкім загуменні. Не толькі сам ды дзеці ў кузаве, але і шафа з люстрам, і клункі, і фікус... Вось так, бывае, чалавек дурнее на пажары: гарыць усё, а ён імчыць з хаты, каб як найдалей ад агню, якія-небудзь, скажам, ходзікі, што ўжо і не цікаюць нават тры ці чатыры гады. Жонка яго ў кабіне, а сам ён — страшны чалавек — сядзеў пад сваім фікусам.

А за Тадорыным гумном ляжаў на траве баец. Падбіўся, відаць, і паранены, рука на перавязі. І маладзенькі ж яшчэ, вочы пад лоб паўпадалі, чорны-цёмны ад пылу і стомы, а вінтоўка ў руцэ. Убачыў машыну — устрапянуўся, але пазнаў, што свае. Адкуль тая сіла ўзялася — устаў, падняў руку з вінтоўкай: «Стой!» А тыя нібы і не чуюць. Тады баец вінтоўку цераз галаву, за плечы, і, як толькі машына параўнялася з ім, учапіўся рукою за борт...

І думаць не думала Жэня, што свой, што савецкі ды можа такое зрабіць... Начальнічак з-пад фікуса ўдарыў нечым па руцэ на канце борта, баец пусціўся, спатыкнуўся і ўпаў!.. А машына паперла далей.

Жэня была тады з Любачкай на руках, карову на прыгуменні прыпасвала. Ужо і не думала, што хлоппа таго калі ўбачыць. Бо ён устаў, пастаяў і паплёўся...

Адвячоркам тады неяк раптам аціхла трохі — ні машын не чуваць, ні самалётаў, ні гармат. Мужчыны выйшлі на вуліцу, і — Шурка пасля расказваў — Зміцер Несын пачаў перад усімі зноў па-свойму пасміхацца. Акрыяў! А то усё баяўся калгасаў, за поле сваё шырокае дрыжаў.

— Ну што, кажа, пайшлі бальшавічкі, адкуль прыйшлі. Толькі,— кажа,- дзякуй богу, трохі скарэй! Хэ-хэ-хэ!..

Маўчаць мужчыны. Чалавек іх з пяпь там, Шурка казаў, было. І нейкі баец яшчэ, у Несынавых неданосках, нібыта ён і не салдат. Заключоным, кажа, быў у лагеры, за нейкую сваю праўду пакутаваў. Новы пан, Зміцер, пасміхаецца, а новы парабак патакае — чорт яго ведае, так сабе ці папраўдзе...

А тут, Шурка кажа, ідзе з канца вёскі баец з рукой на перавязі. Адтуль, куды ўцякалі. І без вінтоўкі. Падышоў, павітаўся:

— Добры вечар, таварышы. Можна прысесці? Хто сядзеў, дык тыя рассунуліся на лаўцы, і ён прысеў.

Маўчаць усе. А потым той, пераапрануты, нібы яго хто за язык пацягнуў, пытаецца:

— Ну што, адваяваўся?

Баец, відаць, па мове здагадаўся, што той — не мясцовы. Але змаўчаў яму.

Зміцер Несын — ён стаяў — паглядзеў на байцову руку, на ўсяго яго, потым на боты і пасміхнуўся, разумненькі:

— Хэ-хэ-хэ!.. Цікава, браце, хто з вас кашы раней папросіць — ты ці яны?..

Маўчаць усе — і баец, і мужчыны. І нікому ж, вядома, такое не смешна.

А потым той, пераапрануты, пачаў:

— Вось так і драпаем, хто дзе — «на земле, в небесах и на море...». Хутчэй бы ўжо толькі канчалася, ды дахаты...

Баец паглядзеў на яго — доўга так — і спытаўся:

— Ты хто?

— Я не з тваіх, ты не бойся,— адказвае той.— Я, дружа, з тых, што дагэтуль маўчалі.

— Дык як жа ты,— кажа баец,— мог падумаць, сука, што нехта здолее верх над намі ўзяць, над савецкім? Можа, твой Гітлер?

Тут ужо і Зміцер умяшаўся са сваімі смешкамі.

— Цябе цяпер,— кажа,— таварышок агітатар, толькі на Гітлера і выпускаць. Ты б яму даў!..

Зноў ніхто не смяецца. Нават і той, пераапрануты.

Баец падняўся.

І толькі ён хацеў нешта сказаць ці проста пайсці адгэтуль, Шурка спытаўся:

— Вы, можа, есці хочаце, таварыш? Дык хадзем да нас.

Той паглядзеў на Шурку, і яны пайшлі.

І ён сядзеў у іх за сталом, гэты хлопец, прагна сёрбаў капусту, раз-пораз кладучы лыжку на стол, каб узяцца той самай рукою за лусту. Еў і расказваў, што сам ён ажно з Дона, што недзе там, у станіцы

ягонай, і хата, і родныя ёсць. Гаварыў ён — як свой са сваімі. І адно толькі слова, здаецца, было яму вымавіць найцяжэй. Ужо калі ён дзякаваў старой ды назваў яе тым словам, толькі неяк па-свойму — «маманя», нібы спатыкнуўся на ім...

Зайшоў чалавек, накармілі, пайшоў...

Не першы быў ён тады, ой, не першы ў іх хаце!..

Не толькі яны, Іванішыны, але многія, можа, нават — без таго Несына — усе ў Клёнічах двойчы ці тройчы за той страшны тыдзень пяклі хлеб, і зранку, і ўдзень варылі чыгунамі бульбу, даставалі з кубельцаў прыпасеную на касавіцу і жніво скараміну. Не лічыліся людзі ні з чым для сваіх, і кармілі, і на дарогу давалі.

Не дзіва было, што і гэтага накарміла старая Іваніха, што і яшчэ адзін нечы сын — не з Масквы, не з Урала, дык з Дона — назваў яе святым для ўсіх і ўсюды словам. Не дзіва, што і пашапталіся яны тады, баец і Шурка, пра нешта, выйшаўшы з хаты... Спытала пасля ў свайго начная зязюля: «Пра што вы там гаварылі?» А ён па-чужому неяк адсек: «Спі лепш, а то старою будзеш без пары...» Што ж, і пра гэтую крыўду забылася б, і не дзіва. І памятала б, можа, пра тую толькі палутарку з фікусам, пра руку, што сарвалася з борта, калі па ёй ударылі, пра худога смуглявага хлопца, якому цяжка было ўтрымаць у другой, здаровай руцэ нават лыжку з капустай...

Ды ён не стаў успамінам, ён — тут!..

Калі яна заўважыла яго, ён спаў у прыстаранку іхняга гумна, на саломе, каля акенца, што высякаюць нізка над зямлёю, для вала ад малатарні.

Спаў ён у Шуркавым доўгім кажусе, лежачы на левым баку і тварам да акенца. Галава яго ўбінтавана была, відаць, ручніком, і смуглы твар выглядаў з-пад белага, як з-пад хусткі, калі яе ў спякоту завяжаш нізка, да брывей. Рукамі — ужо абедзвюма і таксама ў Шуркавых, ёю звязаных, рукавіцах — баец абнімаў вінтоўку. Толькі валёнкі былі на ім не іхнія. І кніга, якую ён пакуль заснуў, чытаў,— таксама, здаецца, чужая...

Не прачнуўся ён ні ад скрыпу дзвярэй, ні ад святла, што хлынула сюды з аснежанага, сонечнага двара.

А яна не крыкнула — ні ад страху спачатку, ні ад здзіўлення і здагадкі — пасля.

Жэня не толькі пазнала байца — яна і зразумела адразу, хто ён цяпер. Больш таго — маладзіца адразу здагадалася пра многае, пра што апошнімі днямі ніяк не магла даўмецца. Яна зразумела, чаму і пра што свякроў з Шуркам шапталіся ўпотай ад яе; чаму старая пачала нядаўна варыць у большых гаршках і яны, тою самаю еям'ёй,

пачалі ўсё дазвання з'ядаць; чаму Шурка пачаў хадзіць па сена не з рэзгінамі, а з дзяругай.

Жэня ішла па сцежцы з пустымі рукамі, рэзгіны пакінуўшы ў гумне — для большай, як ёй здалося, асцярогі ад ліхога вока. Ішла, і ў душы яе варочаўся з месца на месца вялізны свет, у якім нішто ды ніяк не магло спыніцца, супакоіцца... Тут было і тое, іпто яна нечакана ўбачыла, і што ўспомніла, і што адчувала — і жах, і жаль, і крыўда!..

За думкай, што яны хаваюць партызана, сам паказаўся выскалены ў рогаце Тхорыкаў рот, і ў руках нелюдзя замест пугі была ўся ў крыві — шабля... Усе... Усе!.. І Любачка!.. Божа мой, тут разарвацца мала ад жалю і жаху!..

А потым з'явілася думка другая: не, не адны яны памагаюць такім, што пайшлі супроць нелюдзяў! Вось і валёнкі хтосьці даў... Дый не адзін жа ён такі, што ўжо і немцаў запыняе на дарогах, і паліцаяў трымае ў страху.

І ўсе ж яны па людзях хаваюцца, і нашы хлопцы з імі ходзяць...

Няхай, скажам, Шурка хавае яго, ён мужчына, а то ж і свякроў. І яна, відаць, нешта думае, калі не баіцца...

Тхорык з'явіўся перад вачыма зноў — ужо без шаблі, а з пугай... Няўжо ж усім такое трэба перамоўчваць? «А твой?..» — успомніла пра Шурку. Не, ён змаўчаў — цяпер ёй ясна,— каб вывесці іх, паліцаяў, з двара. А ён ім яшчэ не даруе!..

Загула, запыліла ў памяці тая палутарка... Хіхікнуў, усім пакуль што задаволены, Несын...

«Бо няўжо ж і нам быць з такімі заадно?.. Няўжо і табе было б не страшна, мамачка, як і ёй, маёй свякрові?.. Няўжо адна ты, Жэнька, такая палахлівая?.. Ой, не!..»

Яна ішла, звычайная наша вясковая маладзіца, па сцежцы, якую можна было б у той дзень убачыць на кожным гародзе, з хлява ды ў гумно, ішла, і нікому не відно было, што рабілася ў яіпчэ адной душы, бязлітасна ўдаранай жыццём.

Суровая, горкая, страшная, як ніколі дагэтуль і не бывала, да болю радасная, гордая сталасць сыхо-дзіла на душу маладзенькай маці. І разам з тым яна была яшчэ ў вялікім чалавечым утрапенні. Жэнька баялася, жудасна баялася нават думкі пра тое, да чаго ўсё гэта мояса іх давесці. Але яна ўжо ведала, што ўсё роўна будзе разам з мужам і свякроўю, разам з усімі добрымі людзьмі. І ўжо ёй крыўдна было, што і ён, яе Шурка, і маці — абое хаваліся ад яе, як ад малое ці, яшчэ горш, як ад чужое... Самім бы ім паспытаць, як гэта крыўдна!.. Але ж не, яна ім не скажа, што ўжо ведае ўсё! Не скажа, і выгляду нават не падасць. Няхай сабе шэпчуцца, няхай сабе думаюць, што яна. Ён, ён

— асабліва той, што «любіць яе больш за ўвесь свет», што «толькі з ёю хоча дружыць»!..

І тут уся яе крыўда і злосць — ці то па-жаночы толькі, ці і па-дзіцячы яшчэ — пачала набліжацца на вочы слязою. Яна не шіакала, не. Але ж хапіла б, здаецца, каб хто-небудзь з іх, муж ці свякроў, сустрэў яе, дакрануўся да яе не то што словам, а нават позіркам — і сэрца Жэньчына не стрывала б...

Ніхто, аднак, не сустрэў яе ні на сцежцы, ні на двары. І яна вярталася ў хату з адною думкай: «Няхай жа свякроў, калі гэтак, не ведае, што я хадзіла ў гумно, што я хацела даць карове... І з ім, з Шуркам, таксама паглядзім...»

Старая і Любачка спалі.

Жэня распранулася і, пакуль зноў сесці на прасніцу, стала каля грубкі.

Смяюцца толькі з Лустача, падумала, што п'яніца, а грубку ён зрабіў ім добрую. Паўкоўшыка торфу — і вось яшчэ з учарашняга цёплая. Добранька так пастаяць, залажыўшы рукі, грэючыся ўся — і целам, як той казаў, і душою. Хоць замурлыч вазьмі, як кошка на комінку...

Маладзіца, відаць, усміхнулася б нават, каб не тое, што ёй вось толькі што, за парогам, хацелася плакаць. Нават і губу прыкусвала, пакуль распранулася ў кухні, і, ужо стоячы каля грубкі, вочы заплюшчвала, каб супакоіцца.

Яшчэ больш па-ранейшаму ціхім ды любым, звычайным — амаль як у тую зіму да вайны — здалося ёй усё на нейкі момант, калі на печы старая заварушылася, асцярожна кашлянула і села.

— Ах, мая долечка! — сказала яна.— Знайшла хіба свята!.. А карове — каторая пара — не давана... Жэнька!

— Ну!

— Карове не давала?

— Не.

Больш, відаць, маладзіца не змагла б сказаць. Але ўжо ад дотыку чужога слова да яе душы — не заплакала. Проста ўзяла ды села прасці.

— І добра, дзеткі, што не давала... Пайду я, ткаля, сама ёй дам. А ты глядзі—малая ўстане ды цыцкі папросіць...

«Гавары, гавары сабе, хітранькая,— думала ня вестка.— Лічыце сабе, і ты, і ён...»

Яна зноў прыкусіла губу, перастала нават і думаць. Не, яна не заплача, на злосць!..

Пакуль старая тупала ў кухні, ужо з дарэмнай, нават смешнай для Жэні асцярогай дастаючы з печы гаршчок, адліваючы капусты ў гаршчочак, укручваю-чы яго, лусту хлеба і лыжку ў тую дзяружку — больш ад чужога вока, чым дзеля таго, каб не астыла яда,— пакуль яна апранула кажушок, прачнулася Любачка.

А пакуль старая ішла па двары ды па сцежцы, пакуль яна корпалася ў гумне, прычыніўшы за сабою дзверы (таксама нібы незнарок!), малая паспела і нацешыцца ля маміных грудзей, і папрасіцца на лаву, глядзець у акно.

І вось — па сцежцы на першым снезе ідзе яна, суровая і ўжо нямоглая Іваніха, ідзе, накульгвае, нясе дзяругу сена і стараецца, каб нават і не паду-маў хто-небудзь, што ёй цяжка...

І няўжо ж ты, дурная Жэнька, думаеш, што гэта так сабе, а не ад жаласці да цябе яна вось так горбіцца—нясе яе, сваю мацярынскую таямніцу?..

Свякроў ідзе, а нявестка з малою глядзіць у акно.

Дзяўчынка ў ніцяных лапцікаx стаіць на лаве і, перавешваючыся цераз маміну руку, час ад часу ўпіраецца лобікам у халаднаватую шыбу. І ўсё гудзе штосьці сваё, па-ранейшаму весела і заклапочана.

А мама слухае, як пад рукой яе квола тукае маленькае сэрца, і маме хочацца ёй сказаць: «А вунь дзе, бачыш, як яна, баба, ідзе?» І песня, просценькая, цёпленькая песня «са свае галавы», просіцца на язык. Там былі б словы пра белую сцежку, пра сонца і залаты каласок, за які пасварыліся два вераб'і, пра малую блакітнавокую Любачку, якую любяць усе — і мама, і тата, і наша бабуля...

Ды слоў не будзе, ніякіх, бо Жэня баіцца, што як толькі яна акажацца, дык і не вытрывае больш.

*1961*

## "НЕ ХАЧУ І ГЛЯДЗЕЦЬ..."

Да гэтай тэмы цяжка знайсці падыход, цяжка падняць і перадаць другім той жах і боль ад неймавернай нізасці, да якое даходзіць — і гэта найстрашнейшае — звычайны чалавек...

Сядзеў на працэсе над былымі карнікамі, тымі з нашых людзей, што ў пачатку вайны папераходзілі на службу да фашыстаў. Сядзеў я ў першым радзе, з самага краю ад загародкі для пад судных. Глядзеў у іхнія твары з адлегласці трох-чатырох метраў. Калі адзін з іх, стоячы за трыбунай, сведчыў супраць другіх, мне было відно, як пад яго старым пінжаком дрыжэлі са страху худыя лапаткі. Углядаючыся ў твары, я асабліва здзіўляўся з румянага, лысаватага, паўнаватага спакойнай сытасцю мужчыны, найбольш як быццам прыстойнага ды пачцівага на выгляд. Пятнаццаць год пасля вайны ён прадаваў недзе на Паволжы настаўнікам пачатковай школы, тысячы дзён, мільёны мінут углядаўся ў дзіцячыя вочы за партамі і не выбухнуў, не разарваўся ад успамінаў пра тых дзяцей, якіх забіваў — днём і ноччу, улетку і зімой, пра лямант іх матак, таксама перадсмяротны!..

Той, у якога дрыжэлі лапаткі, сведчыў пакуль што свабодны, яго адкапалі найпазней, дзесьці ў нетрах Палтаўшчыны. Як ён ні намагаўся выгарадзіць сябе і, для сябе ж, прыглушыць віну свае кампаніі, ён, аднак, сведчыў супраць тых, за перагародкай. А яны агрызаліся. І вось, калі ў гэтай, агіднай па-звярынаму грызні, абмежаванай толькі страхам і асцярожнасцю, пачулася адзін раз хлёсткая рэпліка — мне стала страшна...

Страшна і горка ад таго, што сёння, восенню шэсцьдзесят першага года, у перапоўненым клубе многія з тых, што прыйшлі сюды па запрашальных білетах,— раптам весела запляскалі ў далоні...

Чаго тут больш — ідыятызму ці бяздумнасці?

Вось дзе старонкі жаху, што не маюць права адысці ў нябыт, словы тых, што цудам выжылі:

— Немцы нейкія, ці, ліха іх душу ведае, хто яны, укінулі мяне ў агонь, калі хата гарэла. Засланіла я твар рукамі і перабегла...

Гаворыць гэта ўжо старая сёння жанчына, з тварам, абпаленым у тым агні.

— Дзеці малыя цалавалі гэтым немцам ці паліцаям ногі: "Дзядзечка, татачка, не страляйце мяне!" А яны стралялі.

На прапанову старшыні суда — паглядзець на пад судных: можа, каторы ёй прыпомніцца, жанчына не павярнула нават у той бок галавы:

— Хай яны на свет не глядзяць! Не хачу я на іх і глядзець!..

На трыбуне другая жанчына.

— Усе мы ляжым, пастраляныя, а я — жывая — ляжу з усімі і чую ўсё. Хлопчык мой з-паміж трупаў устаў ды гукае: "Мамка, ідзі, ужо немцы пайшлі!.." Яны яго адтуль, дзе ўжо былі адышліся, застрэлілі з аўтамата... Устала я пасля, дзетак сваіх пазбірала на дзяругу, параўняларoўненька, абцерла кроў... Потым ужо, калі нашы прыйшлі, напісаў мне мой чалавек: "Ці жывыя вы там?" А я яму напісала пра ўсё: "Ці патрэбна я табе цяпер — адна ды такая?" А ён піша: "Я яшчэ і не такое бачыў. Я і сам інвалід, без нагі". Вярнуўся ён, і дзетак трое мы нажылі...

У зале воплескі.

Падбадзёраная гэтым, цётка павярнулася да тых, што за сталом — вяршыцеляў народнай справядлівасці:

— Вот, можа, таварышы дарагія, помач якую далі б на дзяцей... Самі ж ведаеце, як яно ў калхозе...

У зале тое, што ў стэнаграмах ды ў справаздачах называецца ажыўленнем.

Цётку пацешыў пракурор:

— Ідзіце, жывіце здаровы. Усё будзе добра.

Цётка пайшла ад трыбуны.

Ёй абяцалі і ад нашага імя.

1961

## НАКІД ПАРТРЭТА

Школьніцай Ганя насіла пошту. З сельсавета, дзе была іх сямігодка, у родную вёску, за шэсць з палавінаю кіламетраў. Пісьмы, газеты, павесткі — часамі поўная торба. І ў мароз, і ў разводдзе — то адубелая наскрозь, то мокрая па калені.

Дома была яна гаспадыняй ледзь не з сямі гадоў: маці памерла, а бацька другі раз не ажаніўся. З-за яе і малодшай сястрычкі, каб не прывесці ў хату мачыху. Ганя пачула пра гэта рана, зразумела — таксама хутка.

Жыць было цяжка, вучыцца не вельмі лягчэй, аднак школу яна закончыла амаль з аднымі пяцёркамі.

Не быўшы ні разу ў сваім раённым палескім мястэчку, дзяўчына паехала адразу ў Мінск, дзе паступіла ў медыцынскі тэхнікум.

На пятнаццатым годзе была яна высокая, худзенькая і сарамлівая — аж занадта. Хадзіла ў брызентавых тапачках, у бумазеевай кофце і ў спадніцы, унізе абшытай істужкамі, а ў запасе была ў яе яшчэ адна даматканая кашуля, цётчынай работы, і ватоўка. Жыла ў інтэрнаце, харчавалася самастойна. Стыпендыі плацілі семдзесят рублёў, з чаго яна кожны месяц адну-дзве, а то і тры дзесяткі пасылала дахаты.

На другім курсе палепшала: знайшла работу, днём вучылася, увечары дзяжурыла ў вайсковай бальніцы пры тэлефоне; там і кармілі яе, і прыадзелася трохі. Але не змянілася Ганя,— памятала і тое, што трэба было памятаць пра самую сябе, і пра бацьку, і пра сястру ў далёкай, роднай і няшчодрай хаце.

Калі пачалася вайна — хто б мог падумаць пра гэта! — ціхая, непрыкметная студэнтачка... усцешылася ў душы, што вось і настаў ён, нарэшце, час подзвігаў. Аднак горад зусім нечакана, незразумела хутка занялі фашысты. А яна, таксама нечакана, пачала неўзабаве працаваць прыбіральшчыцай у адной з трох у горадзе клінік — якраз у той, дзе лячылі параненых немцаў.

І пачала рыхтавацца да подзвігу. Адна, без дружбы і кіраўніцтва. У сваю праходную каморку ў мяшчанскім драўляным асабняку на ўскраіне, у свой, зроблены татам, куфэрачак яна насіла медыкаменты, якія — у парадку барацьбы — крала ў ворагаў. Знайшла гранату, чатыры абоймы патронаў... Каб перайсці з усім гэтым туды, да партызан. І не вельмі хавалася ад гаспадыні: свае ж людзі, савецкія!..

Арыштавалі Ганю напрадвесні.

У гестапа яна як сказала спачатку, што ўсё рабіла адна, так і стаяла на гэтым. Яе катавалі, як многіх з іх перапоўненай камеры, а пасля, разам з многімі, павезлі на расстрэл.

Але, у выніку гаспадарчых меркаванняў, не расстралялі разам са старымі ды нямоглымі, а ў групе маладых адправілі ў Нямеччыну.

Тысяча дзён яе вясны прайшла ў канцлагеры, з рыдлёўкай і кіркай, у голадзе, холадзе, нялюдскіх здзеках, у штогадзінным чаканні смерці...

Улетку першага мірнага года Ганя вярнулася ў разбураны Мінск. Яна не помсціла той, гаспадыні, нават і не шукала яе. І ўжо не марыла пра подзвігі. Час быў такі, што пра пакуты ў няволі — лепш было памаўчаць. Нават пра дзёрзкія спробы ўцякаць, нават пра мужнасць тых, што і на самым дне фашысцкага пекла — перад сабой і для другіх — былі і заставаліся сапраўднымі людзьмі. І яна маўчала,— не таму толькі, што ўсё ж такі баялася той блізарука-цьмянай, зацапанай усёмагутна-бруднымі пальцамі лупы, якая не сыходзіла з акупацыйных ды замежных старонак яе біяграфіі,— маўчала Ганя больш па той прычыне, што не было, на думку яе, чым хваліцца... Хоць і ў мінскай турме, і ў цэлы тыдзень забітым таварным вагоне, і за лагерным дротам імя яе вымаўлялася многімі з нейкай палёгкай у сэрцы. Пайшлі гады, яна стала студэнткай медінстытута, пасля — урачом...

Мусіць, я мала ведаю пра яе, каб пісаць?

Можа, я мала люблю цябе, мілы наш чалавек?

Ды і не мне, мусіць, пісаць яе партрэт...

Ну што *ж*, запісваю, што бачыў сам, адзін, чаго ніхто за мяне не запіша. Няхай гэта будзе пакуль што... ну, проста першы накід да яе партрэта.

...Румяная дваццацігадовая рагатушка, праводзячы госцю, пазнавата і нявопытна саскочыла з вагоннай паднолскі. Вагон быў апошні, яна засталася жывая, толькі без ног і правай рукі.

Гэта страшна наогул, асабліва ж — калі яно здараецца з малым або з жанчынай.

І многа сілы патрэбна, каб пацяшаць такога пакутніка, паднімаць яго з самага краю магілы пе толькі па абавязку прафесіі.

Ганя, цяпер ужо доктар і Ганна Пятроўна, умее рабіць гэта наўздзіў нястомна і натуральна. Белы колер халата і шапачкі — колер пяшчоты, палёгкі, надзеі — вельмі ж неяк ідзе да яе вялікіх, чорных, часамі лішне сумных вачэй, да яе прастадушна шырокай усмешкі, да слоў — такіх сардэчных і такіх звычайных, нават казённых у вуснах каго-небудзь іншага:

«Ну, як лса мы, хворая, сёння?..»

Казалі, што Ганна Пятроўна — да ўсіх уважлівая ласкавая — найбольш усё ж такі прысядала каля ложка няшчаснай дзяўчыны і гаварыла з ёю найцішэй...

Ведаю я гэта — як хворы з суседняй, мужчынскай палаты.

Як хворы... А як мужчына, як чалавек і старэйшы таварыш я часта думаў пра яшчэ адну таямнічую недарэчнасць жыцця: ну, дзе ён ходзіць і што ён мару-дзіць — той, каму трэба было б назаўсёды, на ўсё жыццё падзяліцца шчасцем з гэтай харошай, яшчэ ўсё самотнай дзяўчынай?..

У палаце было нас дванаццаць. Нават больш, бо за месяц, пакуль я хварэў, людзі мяняліся, палата прапус ціла іх звыш дваццаці. Усе мы часта і, вядома, добра гаварылі пра Ганю. Ды я адчуваў, што ўсё гэта — далёка не тое... Не тымі, шэрымі былі і нашы, бясспрэчна шчырыя, падрыхтаваныя загадзя словы падзякі, якія мы гаварылі ёй пры выпадку кожны па-свойму.

І таму я, ужо выпісаны, ідучыдахаты, з асаблівым, шмат маладзейшым за мяне хваляваннем пастукаў у дзверы яе кабінета.

Ганя была адна, і я захваляваўся яшчэ больш... Здавалася — тут і скажу ёй штосьці сапраўднае, штосьці ад тых маіх думак...

— Вось бачыце, Павел Міхайлавіч, як ўсё добра? Як я рада за вас! — гаварыла яна, падаючы мне сваю вузкую моцную руку. І звычайныя словы яе былі, як заўсёды, сагрэты шчырасцю чорных, вялікіх вачэй і шырокай усмешкі.

Я ўжо гатовы быў пачаць... Ну, з самых простых слоў, як і яна, ды тут пачуўся стук у дзверы.

— Прашу!

Яны адчыніліся. Іх адчыгаіла цётка Лена, пажы лая нянька; па-свойму ціха і спрытна прапусціла на-перад каляску, сама адступіўшы за дзверы, на калідор.

На калясцы — адна, левай рукою калываючы рычажок — у кабінет уехала тая румяпая зноў, зноў рагатушка... без ног і правай рукі.

У бальніцу мяне прывезлі месяцы два ці больш пасля яе. Тады ўжо — бо і нашы і іхнія дзверы былі адчыгаены на калідор — мы часта чулі яе вясёлы, звонкі голас і сакавіты, здаецца, нават румяны смех. Гэтыя голас і смех прымалі самы звычайны, па-маладому бесклапотны ўдзел у дзявочых, не вельмі глыбокіх размовах. І гэта яшчэ больш, да немай і глыбокай жудасці падкрэслівала ўсю яе трагедыю.

— Ганна Пятроўна, добры вам дзянёк! — звонка прывіталася дляўчына. — Я на хвіліначку да вас. Каб толькі развітацца... і сказаць...

Левай рукою, яшчэ ўсё не вельмі спрытна, яна схапіла і сціснула правую Ганіну далонь — вузкую, моцную і бязлітасна добрую руку хірурга, вышэй, пад беллю халата памечаную пяцізначным лагерным

ну-марам. І ў той жа момант, і для самой сябе, відаць, нечакана прыпала да рукі губамі і слязьмі...

Тут была цэлая бездань маладога, няўцешнага гора; тут было шмат, адразу вельмі шмат пачуццяў — тых, з якімі адгэтуль выходзілі многія...

Усё — не так!.. Тут было тое, што я ўбачыў на вяку сваім унершышо... У нашым свеце так цалуюць толькі рукі маці.

Уражаная Ганя — наша высокая, строгая Ганна Пятроўна — прысела, прыкленчыла побач з каляскай і парывіста абняла рагатушку.

У гэты момант я якраз адварочваўся да акна.

— Галубка... любая... Доктар!.. Вы мне вярнулі жыццё... Каб не вы...

— Ну, не трэба... Ну, ціха... Ну, вось і не трэба... Потым зашамацелі шыны каляскі. Гэта — амаль

нячутна. Затое ў дзвярах каляска стукнула залінгае моцна. Зачыніліся, нібы ўздыхнуўшы, дзверы. Ганя лёгка зайшла за свой стол і прысела на крэсле.

А я не мог адразу адарвацца ад акна. Хоць за ім была проста восень, трохі дрэваў з апошнім лісцём і нізенькі зялёны плот, за якім — проста вуліца...

*1961*

## ПАД ГОМАН ВОГНІШЧА

## ЗВАНОЧКІ

Спачатку бывае разлука, сяды-тады намёкі ў пісьмах, асабліва бліжэй да вясны, ну, а потым нарэшце сустрэча. Вельмі грунтоўны, урачысты прагляд і ўсебаковае абмеркаванне блёснаў, жылак, кручкоў; нарыхтоўка прадуктаў і неабходных для юшкі спецыяў; перааблачэнне ў вопратку, што зробіць нас значна бліжэйшымі да прыроды... І вось — выходзім. З цэлымі калчанамі рознакаліберных, складных вудзільнаў, навярблюджаныя рукзакамі, з выгляду вельмі сур'ёзныя, нават важныя і заўсёды, вядома, з салодкай, амаль дзіцячай надзеяй у сэрцы...

Было ў маёй вёсцы калісьці такое, што самы, здаецца, неадпаведны для гэтай справы чалавек, падсухі і злосны бацька вялікай, беднай і працавітай сям'і, зусім нечакана, наўздзіў суседзям захапіўся вудамі. Хоць бы ўжо, на добры лад, шчупацкімі, а то возьме, як блазен, два дубцы, баначку чарвякоў, некалькі вараных бульбін ці лусту нячэрствага хлеба і — загуменнай дарогай — пашпарыў да рэчкі. Рыбы тае, вядома, мала хто бачыў, а вось як ён, дзядзька Ры-гор, апраўдваўся — старэйшыя памятаюць і сёння. Нават не толькі старэйшыя, але і ўсе рыбакі нашай вёскі гадоў ужо з трыццаць пацяшаюцца пры няўдачы:

— Не інцярэсна, як злапаеш, інцярэсна, як бяроцца!..

Так пацяшаюць сябе, зразумела, у канцы рыбалкі. Ну, а спачатку...

Ды, зрэшты, бліжэй да справы.

Пагодлівым чэрвеньскім адвячоркам, на старым рэйсавым кацеры «Партызан», прайшлі мы кіламетраў з трыццаць па Бярозе, уверх ад Бабруйска, і ка пітаны высадзілі нас на дзікім беразе — па нашай просьбе.

Тут яно, як казаў у дарозе Андрэй, і пачнецца.

Аднак сцямнела нам і напуста і вельмі хутка. Не толькі не злавіўшы нічога, але і не наляпаўшыся ў ахвоту блясной, мы ўспомнілі пра начлег. Усё — наперадзе!.. Пайшлі па росным лузе ў недалёкі лес. Неўзабаве весела гарэў сушняк, сквірчала і капала на ражончыках сала, была чарка і добрая гутарка, на ўзводзе той мужчынскай шчырасці, што бывае нячаста, хутчэй за ўсё — пад натхненнем... Потым Андрэй мой захроп, а я пачаў дзяжурыць.

Над лесам — поўны, таямнічы месяц. Смейцеся, калі смешна, а мне заўсёды хочацца спяваць, калі гляджу на месяц у самоце — я і ён... Цяпер я нават сігналю яму агнём. І вогнішча маё трашчыць

жывым сасновым трэскам. Падкінеш галіну, другую, полымя нападзе на ігліцу, і шум ягонай прагнасці адразу нагадвае грукат далёкага грому. За цэнтрам свету — за вогнішчам — чуваць навокал іншыя гукі жыцця. На дальніх подступах бездапаможна ныюць камары — амаль што не чутно. Аднастайна, па-графаманску назойліва торгае драч. Самаздаволена, перакормлена крэкчуць жабы. Звечара за ракою даволі доўга чуваць было натужлівае, з перапынкамі, рохканне аўтамабільнага матора: грузавік змагаўся недзе з гразкаю лагчынай. Пасля, апоўначы, па рацэ прайшоў апошні параход, нястомна, мерна працуючы пліцамі, над самым берагам ведучы вясёлы пункцір аконных агеньчыкаў, якім таксама не спіцца...

Не спалася мне, прызнацца, трохі і ад таго, што я неяк дзіўна, бескантрольна пабойваўся, што і лес, чаго добрага, можа загарэцца, калі пакінуць вогнішча адно, што і надысці хто-небудзь можа на сонных ды насмяяцца... А больш дык не спаў я таму, што думаў.

Не глыбока. Я і наогул не ведаю, калі гэта іменна думкі бываюць глыбокія. Проста ўспаміналася тое самае не ўпершыню. Як гэта некаторыя кажуць: «Давай пагуляем у карты або хоць да Алеся сходзім, пабалакаем — усё час пройдзе хутчэй...» Ая вось канчаю чацвёрты дзесятак і ўсё адчуваю, што час ідзе, што ён бяжыць бязлітасна хутка. І страшнавата ўжо бывае, і шкада, што ўбачана і зроблена так мала!.. І хочацца спяваць пад ціхім, чыстым небам, у самоце. Хутчэй за ўсё — тую простую і глыбокую, як і само жыццё, песню пра адзіноту на крамяністым шляху...

На Бярозу пайшлі мы, вядома, да сонца.

Над лесам — той самы месяц, толькі збялелы, Па роснай траве, ад лесу — цёмная сцежка нашага следу. Барвяны вялізны круг сонца за дрэвамі. Прыгожая, ласкавая — і верыцца, што пе скупая,— рэчка...

Ды тут, як кажуць, жыццё ўнесла папраўку ў наш паэтычны, амаль малітоўны настрой. Дзякую, вар варскую папраўку! Чортведама адкуль узяўшыся, спачатку пачулася тахканне матора, а потым глухія падводныя выбухі. Які там спінінг цяпер і які там настрой!.. Калі яны, гады,— шэсць чалавек на службовым кацеры з цынічнай тут назвай «Прагрэс»,— параўняліся з намі, мы пачалі гаворку... Ды што ж, у нас было адно толькі снравядлівае грамадзянскае абурэнне, а ў браканьераў — грубая сіла, сучасная тэхніка і поўная, вызваленая ад усякіх там маральных тонкасцей, недасягальнасць на шырокай, глыбокай вадзе. Гыркануўшы нам напаследак штосьці накшталт «вось стаіце, дык стойце!», яны тут жа, за паваротам, вухнулі новы зарад. І далей... І зноў... Хочаш цяпер — ідзі ўгору, хочаш — уніз па плыні: шчасце будзе адно.

Так мы і прахадзілі да паўдня, злавіўшы на двух адну рыбіну.

Юшка, аднак, была. Гарэла сапраўднае вогнішча, на гаку, ствараючы ўражанне ўдачы, пахла смажанай цыбуляй, гарачым салам і, калі добра прынюхацца, нават і рыбай. У салдацкім Андрэевым кацялку, адзін на прасторы, то ныраў, то ўсплываў у кіпені, разам з кавалкамі бульбы, бяльмасты акунёк. У адчаі і смутку мы дапілі сваю «Белавежскую горкую», павесялеўшы,— пакупаліся, і я заснуў. Пад дубам, на густой, халаднаватай і духмянай аўчыне мурагу.

І сніўся мне,— нібы за думкі начныя і сумную раніцу,— радасны сон.

Вось я — той самы, што быў у дваццаць год. Учора забраў з сенажаці апошняе сепа, вечарам здорава пакупаўся, спаў на сене, але не заспаў, хоць і нядзеля. Бо я ўставаў пісаць, і, божа мой, як мне пісалася ўсю раніцу, якое гэта будзе добрае — ад самай залатой зямлі да самых белых воблакаў — апавяданне!..

Спёка стаіць над епелым жытам, над пакошамі паплавоў, над палосамі цёмна-зялёнай, папярэшчанай белымі кветкамі бульбы. А я, па гладкай сцежцы ў трыпутніку, еду на ціхім, гонкім веласіпедзе і ўжо цалую, заплюшчыўшы вочы, у думках цалую гарачыя губы маёй нядаўна знойдзенай, ні з кім, ні з чым не параўнанай радасці. І ўсё навокал — маё, і ўсё яшчэ наперадзе, і я зраблю так многа добрага, цудоўнага — о, я зраблю напэўна!..

І хоць нікога навокал няма, хоць ніхто не ідзе, не стаіць на маёй дарожцы, я націскаю на лапку бліскучага званка, і ён, як жаваранак, прачнуўшыся, сярэбрана цвірынькае ў спакойным, каласістым жыце. Яшчэ, і яшчэ, І яшчэ раз!.. І ўжо іх многа, такіх званочкаў навокал, нібыта нават яны ліловa-сінія і пахнуць, як у казцы. І ўсё звіняць, шчасліва і настойліва звіняць!..

І я нарэшце расплюшчваю вочы.

Паварочваюся на спіну, гляджу на дубовае шэрае голле, у нерухомы лісцяны гушчар. Успамінаю, як маці мяне, яшчэ маладзейшага, чым у сне, пасылала на суседскі двор — папрасіць ды наабломваць з іхняга дуба лісту ў агуркі. Саліць іх будзем, дык трэба, каб былі аж да вясны крамяныя. Успамінаю Гогаля. Такога іменна, якім я жыў у тыя дні: з бясконцым, невычэршіым і, як спелыя яблыкі, сакавіта-смачным смехам.

«Прекрасные жита по дороге! восхитительные!.. Странно, что перепела до сих пор нейдут под дудочку...»

А потым успамінаецца і тое ў Гогаля, чаго я калісьці не мог зразумець так глыбока, так горка, як сёння, з дыстанцыі часу.

«О моя юность! О моя свежесть!..» — з уздыхам шапчу я, і словы гэтыя да самай глыбіні душы становяцца, як ніколі раней, маімі.

Ды што гэта — я ўжо не сплю, а званочкі яшчэ ўсё звіняць?

Саджуся. Заўважаю, што побач са мною спіць Андрэй; паходныя нашы манаткі ў поўным развале ляжаць на траве; сонца добра схіліла з паўдня; вогнішча на пяску даўно, відаць, асела попелам, а побач з ім — нямыты кацялок і костачкі ад марнага, па-брацку падзеленага ўлову...

Няхай жыве тым часам проза! Андрэй са смакам пахрапвае, лежачы на спіне. Кляплю яго па жываце і, разбудзіўшы, гавару:

— Ну што, «не інцярэсна, як злапаеш»? Уставай, брат, паслухай. І што за музыка! Андэрсенаўшчына наяве.

Мы закурваем, седзячы на траве, і смак духмянага, церпкага дыму вяртае нас яшчэ больш да сапраўднасці.

А яны ўсё звіняць!..

Ужо не толькі я, а і Андрэй іх чуе.

— Паііішлі на ўзгорак,— кажа ён.— Паглядзім. Узыходзім, і тут нам становіцца яснай уся тая музыка.

На цэлым табуне разнамасных конеіі, хто проста верхам, хто бокам, а хто і на мяшэчку з сенам — шырокім фронтам — едуць, едуць, едуць цыганы. Адны мужчыны. Кожны ў ботах, хоць сам усё роўна не паголены. А ў кожнага каня — пад шыяю званок...

Дык што ж гэта, калі падумаць, за праява?

Тут табе хутка сорак год пасля перамогі пралетарскай рэвалюцыі, тут табе навокал — «хоть трн года скачн» — калгасна-індустрыяльны сацыялізм, «хто не працуе — той не есць», а яны, лайдакі скалазубыя, нібы пазіруюць для самай шырокаэкраннай, самай каляровай і эпічнай кінакарціны з мінулага. На ўласных конях, добра-такі незаконна адпасвеных, топчуць сабе незаконна ды ў белы дзень грамадскую сенажаць і — хоць бы што! Чарнамазыя, барадатыя і безбародыя, кучаравыя і ў кепках, дай божа — кавалі, а то дык канакрады, карцёлснікі ці проста так сабе, свабодныя мастакі на ўтрыманні сваіх языкаста-рукастых варажбітак. Едуць вось, бесклапотна смяюцца і хмельна гамоняць. Сытыя коні то нагінаюцца раз-пораз да высокай травы, то туляць вушы, скаляць зубы і паіўкваюць адзін на аднаго, то проста ідуць кудысьці, рупліва, нават весела ідуць... І небывала, можа, зусім небывала ў гэтых мясцінах таленькаюць, шчасліва перазвоньваюцца, гутараць маленькія званочкі...

— Коней, мусіць, паіць,— азваўся нарэшце Андрэй.— Там жа вунь брод за вербамі.

Ен нечакана засмяяўся.

— Ты чаго?

— Ходзяць немцы і абіваюць бераг лесу.

— Ну?

— А гэта, брат, у блакаду... Немцы і іх, цыганоў, ганялі па пушчы. Хацелі вынішчыць, нібыта — як партызанскіх памочнікаў. Мы тады неяк на «жалезку» прабіраліся, выкручваліся ад карнікаў, і напаткалі цэлы цыганскі табар. «Адкуль ідзяце?» — «З-пад Рудні»,— кажа самы аброслы бэчка[1], важак. «А што там чуваць?» — «Ходзяць немцы і абіваюць бераг лесу». І стаў гэты выраз у нашым атрадзе крылатым. Не прынясе, скажам, разведка талковых звестак, так і смяюцца з яе: «Што, абіваюць немцы бераг лесу?..» І тол мы з тых дзён называлі цыганскім мылам.

— Чаму?

— Дзьмісяк яны былі да нас прыбіліся зноў. Абадраныя, галодныя — адно страхоцце! Барыс наш якраз баранчыка разбіраў, дык цыганяты накінуліся на трыбухі, давай ірваць рукамі ды глытаць. А рукі тыя, відаць, ад роду нямытыя. Барыс даў ім мяса. Кінуць кавалак у агонь ды, доўга не чакаючы, хапаюць — проста рукамі з прысаку — у рот!.. Накармілі мы іх і з сабою далі. А самі паехалі, здаецца, гарнізон у Тарычы граміць. Дык яны ў наш лагер падкраліся — там быў адзін вартавы, разявака,— ды ўсё пакралі. І тол. Бо думалі, што гэта мыла. Памочнікі! Недараслі яны, каб памагаць. Наогул, брат, каню цыганскаму пад хвост такая вольніца!..

— Ну, а цяпер — куды яны цяпер? Дзеля чаго ім гэты звон?..

Крыху пазней, ад сустрэчнага чалавека, мы даведаліся, што недалёка адгэтуль, на ўзлессі, другі ўжо дзень шумела цыганскае вяселле. І гэта мужчыны-вясельнікі проста ехалі да ракі.

Аднак і ад гэтага тлумачэння, і ад цвярозай Андрэевай праўды справа не стала звычайнай.

Вось ужо колькі гадоў мінула, і цыганы ўжо ні быта не валочацца, зноў прывыкаюць да аселага, пра-цоўнага жыцця,— а яно часамі возьме ды вернецца зноў...

Што — яно?

Ды луг у квецені, сыты табун і званочкі. Безліч маленькіх, сардэчных званочкаў!..

І такое табе (для скептыкаў — такі нават анахранізм) злагоджвае рыбацкую няўдачу.

---

[1] Бэчка — бацька ў цыганскім вымаўленні.

Зрэшты, рыбак з мяне, нават і мякка кажучы, не вельмі ўдалы. Мне таксама куды больш «інцярэсна, як бяроцца». А не бярэцца, дык ёсць уражанні, думкі, сустрэчы. Іх заўсёды хапае.

І яны, калі праўду казаць, даражэй мне за ўсё. Бо ў мяне часамі нібы і зайздрасці рыбацкай няма. Вось і цяпер — магу нават прызнацца, што таго бярозаўскага акунька злавіў, вядома ж, не я...

## ШЧОДРАЯ ЯСЕЛЬДА

Мясціна гэтая была заўважана яшчэ з акна аўтобуса.

Бясконцыя палескія лугі; шырокая, спакойная рака, аблямаваная алешнікам і лазняком; высокі, доўгі, няскончаны мост; хата дарожнага майстра, да якое з насыпу за мостам сыходзіць трэба па крутой сцяжыне, потырч, весела.

Была субота, вечарэла, рабочыя пайшлі ўжо з моста,— нікога нідзе ні душы. Толькі над хатай дарожніка, яшчэ больш падкрэсліваючы гаючую цішыню і пустыннасць, сціпла дыміўся комін.

Аднак тады спыніцца тут мы не маглі. Вогнішча наша загаманіла над велічна ціхай Ясельдай толькі на трэці дзень.

З зялёнага ляснога гарадка сюды прыехалі з намі два маладыя настаўнікі, Генадзь і Мікола.

Планавалася рыба і юшка. На рыбу была ў нас надзея, зранку — нават упэўненасць, два спінінгі і чатыры вуды. На юшку хлопцы ўзялі сваю халасцяцкую каструлю, скавараду і некалькі бульбін. Соль, цыбуля, перац і ліст ляжалі ў адным з нашых рукзакоў. Ну, а вада, вядома, там, дзе і рыба.

Чуў я аднойчы на Сажы, як пасажыры параходзіка, мінаючы плыты, гукалі плытнікам: «Дзядзь-ка-а, можа, вады даць?!» А тыя нават галавы не паварочвалі — такая сумота была, здаецца, на доўгіх, павольных «лавах» бярвенняў...

Нам таксама хапала вады. Вады, зеляніны і сонца. Спёка стаяла ўвесь дзень на саменькай мяжы вялікай навальніцы. Навокал, нізка над даляглядам, як быццам хмурылася, пагруквала, таямніча і насцярожана, а дождж усё не ішоў. І рыба не хацела брацца ні на блёсны, ні на нажыўку. Упэўненасць наша была растрачана хутчэй, надзея — больш павольна. І не было каму гукнуць з другога берага ці з лодкі:

— Дзядзька-а, а можа, рыбы даць?!

А юшка была нам вельмі патрэбна. Бо не маглі ж мы так сабе адправіць гэтых мілых, дружных юнакоў, што аддалі нам столькі ўвагі дома, правялі нас сёння ажно сюды... І вядома ж, як толькі з-за сітняку да нас падсунуліся на чоўне два мясцовыя рыбакі, што

правяралі гэты бераг трыгубіцай, мы, амаль не змаўляючыся, дружна пайшлі на ганьбу... Словам, абед быў рыбацкі.

Тады ўжо, добра-такі пад вечар, з адносна лёгкім сэрцам адпусцілі мы з Андрэем нашых гасцей на аўтобус, а самі заселі ў завоіне з вудамі.

І іменна тады, як на злосць, пачала брацца рыба. Плоткі. На хлеб.

Блаславёнае люстра спакойнай, глыбокай вады. Самаробны, з гусінага пяра, або блакітна-белы куплены паплавок. Яго трывожнае, хвалюючае торканне. Рашучы момант падсечкі і — вяршыня рыбацкай радасці — жывое супраціўленне!.. Як добра, што ўсё гэта так свежа і здорава хвалюе цябе ад самага пастушынага маленства, дае так многа ціхай радасці, нават і не пытаючы: сапраўдны ты рыбак ці проста пэцкаль?! І рэчка, і неба, і гуллівы, несціханы шчэбет птушак ці самавіты, высокі гул самалёта, ідылічны покліч пастушынай трубы ці голас заўсёды чамусьці няўпэўненага і хрыпатага піянерскага горна — усё цяпер наноўнена вялікім і глыбокім сэнсам, радасным рытмам вечна маладой бадзёрасці, зноў і бясконца свежай прыгажосцю.

Час ад часу з кручкоў у глыбокую траву лажыліся шалпатлівыя шюткі.

А штосыіі ўсё нам замінала... Пад вялікім лазовым кустам, справа ад нашай завоіны, штосьці ўсё плюхацела, булькала, фыркала... Што за чорт?! Андрэй асцярожна палез у куст, моўчкі панароў у той шолам сухой галінай, пацісну́ў плячыма, плюнуў. Тут пад узгоркам, на якім я сядзеў, пачулася шорганне. Нехта ноўз пада мною, шалпочучы нечым сухім. Потым той нехта аціх. І я чакаў яго амаль з кашэчай насцярожанасцю. Зноў шалпочацца!.. Ціха. Андрэй сядзіць зноў ля вуды. І вось пад кустам той самы нехта зноў пачынае сваю работу — нібы пялёнкі палошча, а нотым нібы купаецца, плавае ціха і весела, лішне не плёхаючы, намагаючыся не засмя-яцца з недаўмення насцярожаных рыбакоў.

— Выдра,— сказаў нарэшце Андрэй.

Не лічачы заапаркавых клетак, мне толькі раз давялося бачыць яе жывую і амаль што зблізку. Я ляжаў у траве, задумана гледзячы на раку; каля аеру стаяла на прывязі лодка; і вось на лодку яна выбегла, відаць, упэўненая, што нікога няма. Прабегла краем борта да самага носа і ціха, не па-бабрынаму ціха нырнула.

Ёсць нешта незвычайна прыемнае ў такім вось маўклівым сузіранні. Так падкрадаўся я калісьці, юнаком, да кулікоў на бродзе. Нават апавяданне пра гэтае шчасце пачаў. Яно прапала ў вайну, і я ўспамінаю яго, міжвольна і даволі часта, з нейкім салодкім сумам, нібыта штосьці беззваротна дарагое...

Паказацца — ну, гэтай раскошы выдра нам не дала. Дый нас яна, відаць, не бачыла. Бо не сціхла пад кустам да самай ночы. І здорава абрыдла нам, нягледзячы на ўсю яе экзотыку.

А плоткі браліся, не зважаючы на выдрынае плюханне. Да самага змяркання браліся, пакуль і гэтае шчасце нас не здаволіла. Выпатрашыўшы свой сёнпя зусім нечакана багаты ўлоў, мы разлалсылі яго на роснай траве і накрылі мокрым аерам — да раніцы.

З начлегам таксама пашанцавала. Недалёка ад нашай багатай завоіны мы яшчэ днём заўважылі месца нядаўняй, хутчэй за ўсё піянерскай, стаянкі — два логавішчы з сухога ўжо аеру ды галля і цэлая горба алешніку, не спаленая добрымі людзьмі за ноч. Адно логавішча мы пакінулі, а другое, расцерабіўшы, падцягнулі да горбы ламачча. Зашугала вясёлае, фантастычна прыгожае вогнішча.

Зноў была добрая гутарка. Зноў было непустое маўчанне. І радасць пазнавання — свету і людзей.

Амаль на кожным двары сохне бясконцае павуцінне рыбацкіх сетак. Амаль на кожным хляве ці на хаце — буслянка. Бусляняты, раскрыўшы яшчэ не чырвоныя дзюбы, разморана, бездапаможна хекаюць ад спёкі, а бусла, здаецца, можна, прыўстаўшы на пальчыкі, пагладзіць рукою: і гнёзды нізка, і бусел тут — ледзь не хатняя птушка.

У гэтай лясной, лугавой, балотна-пясчанай, як можна падумаць, патрыярхальшчыне радасным дзівам выглядае звычайнае: новая школа-адзінаццаці-годка.

Малады энергічны дырэктар паказвае нам класы, кабінеты і майстэрні. І мне здаецца, што яму і нялёгка і радасна змагацца з жаданнем хоць намякнуць як-небудзь, што ён не прыйшоў сюды з інстытута на гатовенькае... Але ён і намёку не робіць.

Выходзім на двор. Загарэлы, у блакітнай тэнісцы і ў саламяназалатым капелюшы гаспадар адчыняе гараж, з немалою затратай свае зайздроснай энергіі заводзіць стары грузавік, бярэ ў кабіну Андрэя, і вось — па шырокай пясчанай вясковай вуліцы — мы ўлятаем у лес.

Пасля ўчарашняга дажджу, прыгрэты руплівым з самага ранку сонцам, лес хмельна пахне прэласцю і жывіцай. Голле гарэзліва намагаецца сцябаць нас па тварах, але мы нагінаемся ў час і ахвотна — Генадзь, Мікола і я.

Цёплы духмяны вецер фурчыць у вушах, малодзіць шчокі і весела плюшчыць вочы.

Лес пераходзіць у поле, лясная духмянасць змяняецца хлебнай. Якое добрае жыта! Як роўна падняліся на тарфяніках канаплі! Паха-

дзіць бы ў іх гушчары так праз месяц, калі яны ўзнімуцца казачным лесам, падыхаць бы тады іх водарам... За тарфянікамі — лугі, перасечаныя ўпоперак нашай грэблі вадзяною стралой канала. Што тут за прагля была калісьці? Зноў пачынаецца лес. А вунь і вёска, таксама з бусламі ды сеткамі.

Тут мы спыняемся каля святочнай чарады мужчын, дырэктар наш па-свойму хутка дамаўляецца з матарыстам, той забягае ў хату, пасля лезе да нас у кузаў, і вось мы едзем зноў, да возера.

Бывалы грузавік сціпла становіцца ў цяньку — як быццам гэта не ён так хвацка прымчаў нас сюды. На беразе, каля доўгіх падмосткаў, прывязаны чатыры вялікія лодкі.

Матарыста завуць Раман. Гэта маладжавы, азёмкаватай дужасці мужчына ў гумавых ботах і ў скураной шапцы. Ён адмыкае свой «склад», проста будку з аполкаў, удвух з дырэктарам яны выносяць і прыладжваюць матор. Адпіхаем лодку на глыбейшае, сядаем. Капітан наш гаворыць нешта, узмахваючы рукой, але мы ўжо не чуем яго з-за грукату...

Маторы добра слухаюць палешукоў!.. Гэтая думка весела прыходзіць да мяне ўжо на поўным ходу, на люстраным і цёплым, здаецца, бязмежным прасторы.

Вогнішча наша раскошна гамоніць на лузе над ціхай і шчодрай Ясельдай. Не ціхнуць птушкі ў зарасніку. Настойліва лютуюць камары. У паднябесеі час ад часу прамармыча самалёт.

Холадна было б нам тут, у зялёнай і мокрай пустыні, пад касмічным бяздоннем,— холадна і журботна!.. Ды ў нас ёсць вогнішча, і мы — у гутарцы — не здзіўляемся, чаму гэта наш далёкі, ахутаны ў злубянелыя скуры продак мог пакланяцца, як першаму богу, агню. У нас ёсць дружба, і мы то грэемся словам, то дружна маўчым, кожны па-свойму, але не самотна. У нас ёсць родная зямля і роднае жыццё, і мы то гаворым пра гэта, то думаем, кожны сабе і канкрэтна,— успамінаючы новую, свежую прыгажосць і мясцін, і людзей.

Я ўспамінаю возера. Больш — вячэрняе і начное.

Раман вярнуўся па нас на востраў вечарам, калі ўжо заходзіла сонца і залацістая дарожка здавалася на даляглядзе выпуклай, нібы барвяны шар дацягнуў яе да сябе, як магнітам. Падбадзёраны чаркай і юшкай, не вельмі гаваркі дагэтуль матарыст ажыў. Павесялеў нават яго стары матор. А ўсё ж да статка на супрацьлеглым беразе, па даярак і малако, мы дабіраліся доўга.

Сонца зайшло, і дарожка на вадзе, як палатно на поплаве ў руках румянай дзяўчыны, згарнулася, сабралася ў зару. Зрэшты, ужо і чырвань зары пачала набірацца блакіту і блекнуць. А ўсё ж на фоне яе чым бліжэй мы падплывалі, тым выразней вырысоўваўся лагодны ўзгорак палявога берага, дрэвы, кусты, адзінокая хата з трыма агеньчыкамі-вокнамі і сілуэты кароў.

Да прычалу, па водмелі, мы ішлі на малых абаротах, а потым з шастом. Перш чым бразгат бітонаў, жаночыя галасы і звон тугіх струменяў у вёдры, пачуўся нам дзявочы смех і плёскат. Дзяўчаты купаліся зусім, здаецца, побач. Змрок, гусцейшы ў засені дрэў, замяняў ім купальнікі, пра што можна было здагадацца па смеху ды какетліваму вохканню над саменькай вадою.

Дырэктар і Андрэй затрымаліся каля хаты з гаспадаром. Генадзь, Мікола і я пайшлі за Раманам у хату, адкуль чуваць былі галасы і музыка.

Гэта маладзейшыя даяркі, хто справіўся раней і не пайшоў купацца, круцілі патэфон. Сустрэлі яны нас прыязна. Паставіўшы ў кут рукзакі і брызентавыя футаралы з вудзільнамі, не толькі без шапак, але і босыя, мы паселі паміж дзяўчат на лаве. Пачалася гутарка.

— Работа, кажытэ, цяжкая? То нам жэ ны прывыкаты. Толькі страшна бывае ўночы, як віцёр завывае, а гозыра — ой, мацёнько! — так разгайдаецца, а Раманаў маторчык, няма на яго лыха, закрэхча, запырхае і заглохнэ... Ну ты, пырыстань, Раман! Бо палучыш па руках. Нешта ты сённі расхрабрыўся... Хлопцаў у нашым сяле нэма. То ў арміі, то ў горад пораз'язжалыся, розумныкы... Там весялей, ого!..

Гаварыла гэта мая суседка па лаве, дзяўчына ўжо, нават па гутарцы пазнаў бы, сталая, якой куды зручней было б не скардзіцца разам з іншымі, а быць спакойнай і шчаслівай маладзіцай. Вось як гэтая, чарнавокая, што мяняе пласцінкі і толькі ціха глядзіць.

Самая маладзенькая з іхняй пяцёркі, Ганначка, днямі закончыла сем іслосаў. Тварык — амаль дзіцячы, а хустка, як у дарослых, завязана «пад бараду». Дый па ўсім поварацe гэтага падлетка відаць, што вельмі ж ёй не цярпіцца стаць дзеўкай. Гатовая спяваць, танцаваць ці проста так вось слухаць патэфон і час ад часу самой прыкінуць слова да гутаркі, яна ўрачыста сядзіць на лаве, мілая сваім учарашнім маленствам.

Гаспадынін сынок, распоены сырадоем, мардаты і шчабятлівы Сяромска амаль не сходзіць з дзявочых каленяў. Цёці гэтыя і казычуць яго, і цалуюць, і гушкаюць. З чаргі ён прыйшоўся і Ганначцы. І калі пестунок сеў у яе на каленях, ледзь не роўны з самою «цёцяй»,

Раману гэта здалося настолькі пацешным, што ён спытаўся, стоячы сярод хаты:

— А шчо, і ты ўжэ, Ганулё, хочыш маты люлі-люлі?

— От вы, дзядзько, якый!..— засаромелася малая. Яна тузанулася, босы Сярожка, як кот, гупнуў з каленяў на падлогу, а нянька абражана павярнулася бокам, капрызна падцяўшы румяныя губкі. Ды гэтага і не заўважыў, здаецца, ніхто, і сама яна хутка забы-лася і пра сорам, і пра злосць на смешнага сёння дзядзьку Рамана.

Бо ён прычапіўся ўжо да другое.

З цёмнай кухні ў хату ўвайшла высокая, бравая дзеўка гадоў дваццаці, задорна паўнагрудая, з харошай усмешкай на крыху запоў-ных губах. Мокрыя светлыя валасы пад стракатай хусцінкай; ватоўка расшпілена на сіняй, у белы буйны гарошак сукенцы; моцныя, стройныя ногі ў бліскучых, толькі што з вады, гумавых ботах.

— Купалысь, Наталачка? — пакланіўся наш ма-тарыст.

— А ўжэ ж, Раманачка! — адказала дзяўчына.

— А плэчыкы так без мяне і ны змылы?

— Вой, дывысь!.. Зараз унукы будуць, а він... Ану, куды лезеш з рукамы?

— Колы ж бо я, Наталачка, толькі пабачу вашу чудэсну маладу красу, так бедныя гочы мoi...

— Вой, дывысь, якія яны ў цябе пузырыстыі, гочы!

— То, можа, хоць полячку? После купання вам...

— А вы, дідусю, нэ ўпадэтэ?.. Падражніўшыся трохі, Раман і Наталка ўзяліся за рукі, далонямі пад локці, і, як толькі з пласцінкі пачулася полька, пайшлі.

Наш ахмялелы капітан тоўкся медзведзявата, хоць і відаць было, што калісьці, у свой час, ён мог. А Наталчыны светлыя вочы і поўныя губы ўсміхаліся так, нібы яна вось-вось і скажа: «Булы б кавалеры — сыдзіў бы ты, дзядычку, тыхо ў кутку дай ны рыпаўся б!..» Ні ватоўка, ні боты — нішто не магло перашкодзіць ёй быць маладой і прыгожаіі. Румянец выступіў на шчоках, вочы загарэліся. Яны, дзяўчына і дзя-дзька, не кружыліся ў польцы, а на мясцовы лад то наступалі адзін на аднаго, то адступалі, на змену выбіваючы зусім, на жаль, не гулкімі абцасамі чачотку, манерна, з выклікам ківаліся ў бакі, ускідвалі гало-вамі, пасля кружыліся, а тады наступалі зноў. Раман, як мага стараючыся не адставаць ад свае былое танцорскае славы, усё ж такі сутуліўся. Затое Наталка хадзіла — адна любата!.. У іхнім тупаце ды гомане мне зноў пачуўся ціхі плёскат вады на азёрнай водмелі, гарэз-лівы — цяпер я ведаю — яе смяшок у вячэрнім сутонні... Уяўляліся нават ласкавыя, з хададочкам, дотыкі кужэльнага ручніка да гара-

чых, апешчаных цёплымі хвалямі сарамлівых і гордых дзявочых грудзей...

— Вой, ныхай на цябе!.. Больш нэ можу...— нарэшце засмяялася Наталка. І так, здаецца, у час. Бо ўжо не толькі задыхаўся храбры на слове Раман, але і сам гаротнік патэфон стаміўся.

Полымя наша вурчыць на пэўнай, супрацьпажар най, адлегласці ад нас і грэе найбольш само сябе. Нават і на сухім аеры ды хлудзе, нават і ў ботах, адзе-таму ды пад плашчом — даволі-такі холадна. Ад камароў ты накрываешся з галавою, зларадна слухаючы ў цёмнай духаце, як яны ваяўніча гудуць, таўку-чыся над недаступнай спажывай.

А думкі, як растрывожаны рой, ніяк не хочуць угаманіцца...

Было бяскрайняе зорнае неба, а пад ім — спакойная і цёплая вада, таксама без канца і краю. Дзве вялікія лодкі, звязаныя насамі, цяжка нагружаныя людзьмі і бітонамі малака, ішлі, здавалася, проста кудысьці, у нейкі да лёгкай жудасці радасны, ахутаны сардэчнай журбою свет. Глухавата, але бадзёра тахкаў стары рабацяга-матор.

І песня была пад высокімі зорамі — песня таксама бяскрайняя!..

Была яна таму, пгіо без яе нам не хапала б чагосьці вялікага, вельмі істотнага ў нашым жыцці. Яна злівалася з тым, чым мы цяпер жылі, як зліваецца калыханка з гудзеннем малога ці з любым бляскам яго бяссонных вачэй, як зліваецца жніўная песня з гарачым шэптам калосся, а песня кахання — з тамлівай слодыччу і горкім сумам першых пачуццяў...

І словы былі ў гэтай песні, ды можна было і без іх. І не таму, што — невядомыя — іх цяжка лавіць на ляту і вязаць у адно: да гэтай дужай, крылатай, душэўнай мелодыі прасіліся новыя, непаўторна свежыя словы, якія голькі тут ды толькі сёння маглі і з'явіцца.

Генка і я адны сядзелі на карме той лодкі, што з бітонамі. А побач з намі, крыху наўскасяк, плыла, нібы на экране, другая лодка — з песняю. Зачараваныя, мы слухалі, і я, як блізкія, пазнаваў у хоры два галасы: грудное, мяккае кантральта і пяшчотны, нясмелы званочак. Гэта Наталка — і тут без намагання першая — і сумавала, і рада была, што жыве. Гэта Гагшачка з захапленнем у вялікіх дзіцячых вачах вітала радасць нялёгкай, хвалюючай сталасці. Гэта ўсе яны, вольна адчуўшы свае працавітыя рукі, песняй казалі цудоўнаму, роднаму свету, як яшчэ многа патрэбна ім чалавечага шчасця!..

Хацелася спяваць, і мы падхаплівалі іх запеў; хацелася маўчаць, і я маўчаў пад песню, у задуме...

Пакуль я любаваўся танцамі, гаспадар-хутаранец расказаў на двару Андрэю, што тут, дзе цяпер пасецца калгасны статак, на гэтай заазернай паўвыспе стаялі спрадвеку дзве людныя вёскі. Улетку сорак трэцяга года фашысты-карнікі спалілі іх разам з людзьмі.

Газета пісала, расказваў дзядзька, што два галоўныя вылюдкі былі нядаўна апазнаны ажно ў Латвіі і там асуджаны на смерць. І з гэтага калгаса ездзілі пяцёх туды, на суд, за сведак.

«Ды што, таварышу, з тое іх, нелюдзяў, сабачай смэрты!.. Хыба ж тут выйдзе однэ на однэ?..»

Чалавек гэты, япічэ як салдат польскай арміі, увосень трыццаць дзевятага года трапіў у нямецкі палон і толькі ўлетку сорак пятага вярнуўся. Пабудаваўся тут, на родным котлішчы, адзін за дзве вёскі, сям'ю нажыў, а ўсё ж душа крычыць часамі ноччу найбольш, як падбіты журавель,— па бацьку старым, па братах, па суседзях, па родным з маленства свеце...

«Такыі, товарышу, раны не хочуць гаіцца...»

З вясны да восені вы гамоніце тут, дзяўчаты і маладзіцы з трэцяй, без жыхароў калісьці спаленай фашыстамі, партызанскай вёскі. Працуюць нястомныя рукі, гудзе падлога пад гумавымі абцасамі, звініць апоўначы песня пад гул бяссоннага калгаснага матора. І весела вам, і нялёгка, і сумна бывае. На досвітку — ці дождж на возеры, ці вецер — едзеце сюды, днём — яшчэ раз, увечары вяртаецеся дахаты часцей за ўсё добра-такі прыцемкам, а праз дзве-тры гадзіны — ні свет ні зара — зноў у лодку... Калі мы памагалі вам насіць з берага поўныя бітоны малака, я рад быў, праўду кажучы, што гэта — уначы, што не відно было, як нават я, мужчына і няўломак, а хістаўся. А вы ж іх носіце, таксама на плячы, ды тройчы ў дзень, ды штодня!.. За выключэннем хіба толькі Ганначкі, якой вы пакуль што не даяце насіць адной. За партызанскае і франтавое ліхалецце, кры вавую працу і непаказную мужнасць вашых бацькоў, за ваша маленства са слёзным дымам зямлянак і нялюдскім голадам — вы вартыя не толькі таго, што маеце...

І сапраўды — няхай бы ўжо і сёння час не ішоў так хутка, і маладосць няхай бы не ўцякала пад хрыпатае вяканне затузанага патэфона ў самотнай хаце за возерам, з адным «кавалерам», што і сямейны даўно, і вясёлы толькі тады, калі вып'е...

Бачыў я старым вокам, як вы цікавалі на нашых Генадзя і Міколу. Ды адзін з іх тым часам жанаты, а ў другога ўжо ёсць дзяўчына.

Хто на каго цікаваў, а бялявая Наталка — на чарнявага Генку. І мне міжвольна, не зусім дарэчы, успаміналася адна някрасаўская

песня. Ды ты ж не такая, як тая, што ў песні, і ён — не карнет, гэты сціплы, задумёны прыгажун. Ён — свой, цяперашні, наш вясковы настаўнік, ваенны сірата, якога вывучыла куды больш дзяржава, чым маці, бальнічная санітарка. Ён яшчэ, Генка, і паэт, лепш кажучы — ён хоча і рыхтуецца ім стаць. Вось і цяпер ён думае, як гэта ўсё ахапіць — і гэтую ноч, і песню... А ты спяваеш, ты верхаводзіш, Наталка, і не думаеш нават, тпто твой голас і мілы дзявочы задор пойдуць за ім, што ён не зможа іх насіць адзін...

Зорнае неба плыве ды плыве, а возера наша, на жаль, упіраецца ў бераг. Каля Раманавага «склада» нас чакаюць два грузавікі —школьны воддаль, калгасны бліжэй. З асалодай бродзячы па цёплай вадзе, бадзёра гнучыся пад бітонамі, мы памагаем дзяўчатам перагрузіць удой у кузаў трохтонкі. І яны нам, дзівачкі мілыя, «шчыранька дзякуюць»...

Каб вы падохлі, рыбацкія камары!.. А ноч якая доўгая — нават і ў чэрвені — калі не спіцца!.. Ану, вазьму сябе ў рукі, захрапу, як Андрэй!.. Падцягаю калені ледзь не да самага носа, яшчэ раз папраўляю на сабе кітайскі лёгенькі плашч, намагаюся думаць пра штосьці цёплае, санлівае... Але дзе там! Лапаткі ажно ўздрыгваюць ад зябкасці, а зубы вось-вось увойдуць у зусім музычны, у цымбальны, чорт вазьмі, настрой. Цярпі, рыбак, уранні не пакаешся!..

Добрыя хлопцы — Генадзь і Мікола. Асабліва, як мне здаецца, Генка. А дружаць яны, паэт з матэматыкам, так, што, збоку гледзячы,— весела. Калі напрадвесні паэтава Зося нарадзіла першынца і неўзабаве паехала з ім да бабулі,— матэматык узяў свой халасцяцкі чамадан і прыйшоў з Інтэрната да «аўдавелага» Генкі. «Бо сумна...» Зрэшты, і гэтага, магчыма, не сказаў. З маўклівых ён, Мікола, з тых нават, што здаюцца сухаватымі,— хоць зрэдку і замармыча якуюнебудзь мелодыю, а то і ўсміхнецца, заўсёды разумна і шчыра.

Зосіна фота Генка нам паказваў. Гляджу, і здаецца, што здымалася яна — ужо мамай. Бачыш, як губы зведзены, колькі рашучасці ў вачах. «Я, сам ведаеш, і кахаю цябе, я і пакорная, але прабач, голубе,— ёсць у мяне ўжо і тое, за што, калі хочаш, мы зможам і пасварыцца, за што я і пабурчу, няхай сабе, па-твойму, і непаэтычна...»

— Маладзец,— кажу я Генку і шкадую, што няма яшчэ здымка сыка, што я іх з мамай на гэты раз не пабачу.

Мне і цяпер вось хочацца ўявіць Генкавага наследніка, параўнаць яго, скажам, з маім... Ты цяпер недзе спіш сабе, залатабровы мой ды чарнавокі!.. А Генку я люблю даўно, хоць ведаю толькі тры дні. Бо я калісьці, пішучы, уяўляў такога вось студэнта і паэта і думаў, баючыся,

што ён — маё ўяўленне. А ён вось жывы. Праўда, Генка ўжо стаў са студэнта настаўнікам, але затое ён куды лепшы за тое маё ўяўленне аб ім, хоць вершы яго і “навелы” яшчэ слабаватыя. Пакуль што. Учора ноччу, калі мы, раз-вітаўшыся з даяркамі, Раманам і дырэктарам, селі на калгасны грузавік з бітонамі і патрэсліся лесам ды полем у зялёны гарадок, мы з Генкам гаварылі пра нашу любімую справу. Між іншым, і пра такое:

— Чуў — да дзяўчат гэтых прыязджалі летась «пысьмэннықы з газэты»? Запісвалі многа, здымалі, абяцалі надрукаваць. Хлопцы, кажуць, яшчэ маладыя. І вось ужо год у газеце нічога няма. Наколькі я памятаю, няма, не было і ў часопісах. Падманулі «пысьмэннықы». А чаму, як ты думаеш?

— Надой нізкаваты. Хваліць няма за што, біць — пакуль што таксама. От сабе, проста жыццё «без характэрных рысаў сучаснасці». Калі тыя хлопцы і захапіліся чым, дык знайшоўся старэйшы, паправіў.

— Ну, а папраўдзе?

— Вы самі бачылі — людзі цудоўныя. Боязна робіцца: як напісаць пра іх дастойна?..

«Напішаш, Генка,— думаю я цяпер,— напішаш, чыстая душа, толькі самім сабою будзь, не палохайся нізкіх надояў, а заўважай перш за ўсё чалавека. І не вучыся цвёрдай сухасці ды слізкай гнуткасці ў таго, хто доўга лгаў і ўсё аддаў той баязлівай ці карыслівай мане. Усю душу сваю, нібы торбу пустую, дзіравую, выпетрыў, а пісаць яшчэ хоча І сёшгя. Ды не проста пісаць, а па прывычцы — вучыць...»

— Чорт бы вас нечага камарыны пабраў!..— Думкі мае абрывае Андрэеў рашучы бас.— Ты спіш? Світае. Давай будзем грэцца.

І праўда — днее. Зацягнула, як быццам па дождж. Суцэльная матавасць і халодная, нерухомая ртуць — і хмары, і вада, і раса, якою ўкрыта ўсё, за выключэннем хіба толькі вогнішча. Мы падмацоўваем яго з бясконцага запасу сухога аеру і галля. Агонь — няхай жывуць піянеры! — усцешана бухае ўгару і пачынае з азартнай прагнасцю трушчыць сушняк. А мы стаім і ўдзячна грэемся, як старыя, нямоглыя пілігрымы, працягваючы да полымя ледзь не дрыжачыя рукі.

Ды вось сігнал трывогі — пляхае першы шчупак.

— Але ж, брат, і вялікі!— зусім упэўнена здзіўляецца Андрэй.— Пайшлі.

І я ўжо чую, а потым яшчэ і яшчэ раз — усплёскі зусім незвычайнай, хвалюючай сілы. Бяром... дзе там!..— хапаем халодныя, рос-

ныя спінінгі і, пакінуўшы гаманлівую чырвань, спятпаемся туды, вышэй па плыні, дзе мясціна, як гаварылася ўчора, найлепшая...

Пэўна ж, за нейкім трэцім закідам Андрэй бярэ!.. Сяледчыка, праўда, а ўсё ж... Ну, а ў мяне, трасца ёй, «барада»!.. Белая жылка «нуль і сем» — знарок лса, зараза! — чортведама чаго заблыталася так, што і хочучы не зробіш... Ды, збоку гледзячы, я гарачуся не надта. Я ўспамінаю нават тую хітрую свякроў, якая так вось вывучала маладую нявестку — як яна ніткі разблытвае, што ў яе за натура. Што ж, калі ты ўжо, ціхмана-патайная Ясельда, такая свякроў для мяне... Цьфу! Не свякроў, а цешча... Мачыха нават. Але пачакай. Так. І вось так. Ну і ўсё! А цяпер мы не пойдзем следам за дзедам — няхай сабе ён адзін шаломіць раку ў той бок — мы рушым уніз, дзе таксама мясціна. Ану!..

Хлопчыкі, хто мне паверыць, што, дальбог жа, з першага закіду!.. Спачатку быў штуршок, які ашуквае амаль таксама, як ламачына ці доўгі зялёны хвост багавіння. Але за ім, за няпэўным штуршком, хвалюючым прадвеснікам перамогі, пачулася сунраціўленне!.. Ён — таямнічы і, напэўна ж, агромністы, ён — спачатку туга, упарта паводжваў у бакі, а потым нябось паказаўся. Павярнуўшыся бокам, сагнуўшыся дугой, светла-зялёны ў кропачку, а ўсё ж такі ішоў... І гупнуўся на бераг, у траву, акропленую ртуццю.

...Сустрэчы, уражанні, роздум... Цудоўна ўсё гэта, непараўнана.

Аднак нядрэнна таксама, калі яна, рыба, не толькі «бяроцца»... Сядзіш ты, скажам, каля вогнішча ды грэешся ўжо не адным агнём, але і думкай, што вось і ў цябе тым часам, які ты там ні рыбак, а ўсё ж у беразе, у той вунь, зусім звычайнай дагэтуль завоінцы пад лазовым кусцікам стаіць на прывязі, як жарабец, во такі во шчупак!..

## БЫСТРЫ НЁМАН

Калі ўжо чалавек узяўся за таптуху, дык надзене, вядома, і вопратку адпаведную: самую ні на што не патрэбную старызну — порткі, ватоўку, шапку, якія потым і сохнуць на плоце, і зімуюць недзе разам з сеткай.

А мы з Андрэем, як выпадковыя сёння таптушнікі, лазім парадскому — у трусах ды ў майках, з непакрытай галавою. І вада на нас цурчыць з паднятай сеткі не надта прыемна, і ногі мы даволі грунтоўна паабдзіралі ў асацэ ды карчэўі, і камары ўжо намі пачалі цікавіцца бліжэй...

На беразе, за аерам стаіць трэці наш кампаньён — трыццацігадовы, здаравенны Валодзя, прыгажун з амаль дзіцячай усмешкай

дабраты і нібы вінаватасці. У адной руцэ ў яго неразлучная папяроса, у другой — звычайная авоська з неспакойнай драбнарыбіцай.

— А ўсё-такі,— гаворыць ён,— хараство тут якое, хлопцы, у вас і рака, і луг, і лес...

Мы не спяшаемся з адказам, мы занятыя. Якраз Андрэй заходзіць, падводзіць свой бок таптухі да аеру, мы топчам ад зелля ў сетку, а тады — самы цудоўны момант! — паднімаем. І зноў хоць сціпла, але ўсё ж пацвярджаецца ўпартая народная праўда: «Рыба, браток, у Нёмане ёсць!» Гэтым разам у нас — не шалпатушкі-плоткі, не акунькі ці яршы, а сам ягомасць Шчупаковіч! Адцэджаны ў кулі, ён — зялёнай маланкай — замітусіўся па багавінні, па ніцяных клетачках, пакуль не квэкнуў у мокрай і прагнай руцэ. Толькі шпурнуўшы яго на бераг ды спусціўшы сетку ў ваду, Андрэй адказаў:

— Хараство, браце Валодзя. Зрэшты, так мы яго і рабілі, каб хораша... Сюды, сюды... Лявей. Пад гэты вось падазроны аерчык...

Нам ані крышку не холадна. І трэба было б гэтаму здзіўляцца,— позні вечар, палавіна жніўня,— але мы не здзіўляемся. Мы тут прымаем і цяпло і рыбу, як ад бацькі... Лезем па самыя ноздры ў ваду, здымаючы, між іншым, назол-камароў, падводзім, топчам, вымаем, кідаем на бераг — прагныя і шчаслівыя хоць цяпер, пасля няўдачлівага дня са спінінгам.

Не заўважаем, што і цямнее сёння не ў час, што і пагруквае з усіх бакоў... Ідзём мы ўздоўж другога ад прывалу берага, супраць вады, думаючы вось-вось вярнуцца на шырокі плёс, дзе ў водарасці нашаломім, вядома ж, нямала і плотак і шчупакоў... Гэта не толькі надзея, а нават упэўненасць.

Ды тут пачынаецца дажджавая прыстрэлка.

— Канец, відаць, ці яшчэ мо паходзім? — без ценю панікі ў голасе пытаецца з-за аеру наш суха іiутпы энтузіяст.

— Не, брат, усё ж такі канец!

І мы, тры Ермакі, плывём — адзін з узнятай авоськай, а двух, цягнучы сетку,— наўскасяк, на свой бераг, смеючыся пад буйнымі кроплямі, што ўжо малоцяць па вадзе і па нашых галовах зусім падажджа-вому густа, спорна.

«А ён і праўда — быстры Нёман»,— думаю весела і з міжвольнай трывогай...

Пад густым, напорыстым ліўнем далятаем да нашай палянкі.

Сядзім у «Пабедзе», закрыўшы вокны і ветракі, і гэты наш, з усіх бакоў ашклёны, домік грыбам пры-горбіўся пад несусветным патопам. Маланкі ўжо не проста бліскаюць, а бесперапынку зыбаюцца ды зыбаюцца — у вокнах, у лесе, над лесам — бясконцым, таямнічым,

ледзь не жудасным агнём. Бязлітасная, ураганная артпадрыхтоўка грому!..

Ну, пра гэтую ночку гаворка будзе, бясспрэчна, асобая! Як пра люты мароз і завею ў маім маленстве, калі суседскі конь прыйшоў ноччу з дровамі адзін, а самога дзядзьку Васіля толькі ўранні знайшлі на лузе ўдубянелага. Як пра тое жахлівае лета, калі збажына пасля граду была нібы пацягнута, з зямлёй змяшана вялізнай прулсыноўкай. Як пра тую, другую, грымотную ноч, калі пярун ударыў на лузе ў будан, забіўшы адной стралою дванаццаць касцоў...

Ды наш «будан» — мы ўспамінаем пра гэта ўголас — ізаляваны ад зямлі гумавымі скатамі, да таго ж ён не працякае, і мы яшчэ — хоць і не вельмі — маладыя. Мы, вядома, не толькі маўчым ды курым: і смеш-нае ўспамінаецца, і песня просіцца з душы... Хоць гром лютуе, ірвучы на кавалкі неба, хоць не гаснуць маланкі, а лівень лажыцца на нас непрадзьмутай сцяною імклівай і шумнай вады, якой не будзе ні канца ні краю...

Так, ні канца ні краю. Пра гэта бесстаронна цікае нам, направа ад руля, гадзіннік з асветленым цыферблатам. Гадзіну адлічыў, другую... Хутка поўнач.

Тады толькі лівень пачаў аціхаць.

— Нехта ходзіць...

— Ды што ты?

— Ну, браце Валодзя, слых у цябе — ідэальны.

— А вы прыслухайцеся самі... Во!

Адчыняю пярэднія дзверцы і, высунуўшы галаву пад дождж, гляджу назад, дзе паляна і, пад абрывам, рака.

У зіхаценні апошніх маланак на фоне неба чорным, мокрым рыцарам з'яўляецца закапюшонены коннік, а збоку, каля пярэдніх конскіх ног, купінаю чарнее куды больш празаічны і варты жалю «друг чалавека».

Гэта — Арцём, ляснік, і ягоны памочнік, калматы, маўклівы Званок.

— Э-гей! — крычу я, але «рыцар» ужо і сам пачынае злазіць з каня. Падыходзіць.

— Ну, як вас тут, не заліло? Лінуў дык лінуў, халерыя на яго! Дзірка прарвалася ў небе...

— Давай, Арцём, сюды ў церамок.

— Ды мне тут у маім балахоне сушэй, чым вам. А ўжо ж і дажджу во няма. Вылазьце.

І праўда — дажджу больш няма і, здаецца, не будзе.

Пацвярджаючы гэта, калматы Званок моўчкі прасунуўся ў наш кружок каля машыны і з асалодай, рыўком страсянуўся, сьшануўшы навокал процьмай халодных кропель.

— Пайшоў, халерыя!

— Вогнішча, хлопцы!

Паліва мы нарыхтавалі яшчэ ўдзень, ды вунь якую горбу. Але куды ты ткнешся да яго цяпер з запалкаю... Што ж, абліваем ламачча бензінам, і, насуперак усякай макрэчы, полымя выбухае радасцю перамогі.

Калі Андрэй адкаркоўваў бутэльку «сучка», Арцём, таксама прысеўшы каля раскладзенай на газеце закускі, сказаў:

— Ледва дастаў. Каб не Петрык, так і прыехаў бы я з пустымі рукамі. Усё падчысцілі — і соль, і мыла, і гарэлку. «Вайна!..» Ды што ты, браце, хочаш — людзі напалоханыя. Яно ўжо, скалсам, гадоў колькі? Семнаццаць ад партызанкі прайшло, а многія — хто і дзіцем быў тады — памятаюць.

— Ну, Арцёме, бяры, брат, ды цюкнемся.

— Будзьце, хлопцы, здаровыя! Як там яно ні было, а во сядзім ды выпіваем...

Ён тыцнуў белую пластмасавую чарачку пад свой шырокі нос і аддаў яе мне пустую.

— Каму гэта, вядома, хочацца,— зноў пачаў тое самае, жуючы.— Ды яшчэ каб праз каго, а то ж ізноў праз таго самага шалудзьку. Аданавар гэты — ён жа тая самая халерыя, што і Гітлер...

— Нічога, Арцёме,— усміхнуўся Андрэй.— Трэба будзе, дык пойдзем.

— Яно, вядома, пойдзем, куды ж дзенемся.

— Ведаеш, Валодзя,— сказаў я.— Арцём Сцяпанавіч — адзін з першых у нашай ваколіцы партызан.

— Ат, першы,— нібы адмахнуўся Арцём.— Разбярэшся там, хто з нас быў першы. Тут першы я, там першы ён. У многіх тады іншых думак не было. А калі ўжо гаварыць пра першых, дык во яны, камсамольцы! — Ён тыцнуў шчопцямі з кавалачкам агурка ў Андрэя.

Андрэю было васемнаццаць, калі яны, група вясковых камсамольцаў, выйшлі вясною сорак другога года ў пушчу. Туды вунь, у гэтую мокрую цемру за Нёманам. А праз тыдзень пачалася першая прачоска. Эсэсаўцы, рэгулярныя карнікі — супроць сяк-так узброеных, неабстраляных дзецюкоў. Смяртэль-ны жах і бясконцая — калі лічыць яе не на мірныя дні, а на безліч ваенных гадзін,— без сну, без яды і вады мітусяніна, уцяканне. Пажары лясных хутароў і першыя трупы: на

дрэвах, у прысаку родных хат... Тады быў і зацверджаны іх малады, паэтычна прыгожы патрыятызм, зацвердлсаны першымі стрэламі па ворагу, першымі пападаннямі, першымі ранамі і першай ахвярай...

Пра гэта я гаварыў Валодзю трохі раней. І мне цяпер двойчы прыемна... Наогул радасна — за Беларусь, за двух яе партызан-гвардзейцаў. Няхай любуецца мой сібірак, што там і нарадзіўся, што сюды прыязджае куды ахватней, чым у Сочы якія ці ў Ялту. Дык вось табе, хлопча, зямля тваіх бацькоў, вось яна — наша лясная ды палявая старонка, наш бацька Нёман і наша вясёлае вогнішча!.. І Валодзя, якому ў вайну было дзесяць — чатырнаццаць год, начытаны, з тонкаю душою Валодзя глядзіць і слухае з вельмі прыкметнай цікаўнасцю ў вачах.

— Таксама, браце, як цяпер падумаўшы, смеласці трзба было,— гаворыць Андрэй.— Вырашылі мы пусціць эшалон гэты якраз там, дзе яны менш за ўсё спадзяюцца: каля самага моста, каб з насыпу высокага кульнуўся. Паўзём. Авосень — цёмна, гразка! Іван Капуста — хлопец быў! — паўзе спераду, я за ім... Душа, браце, пяе на найвышэйшым напружанні асцярожнасці. А потым я дагнаў Івана ды цап за бот, каб спыніўся. А ён, браце, са страху, ад нечака-насці — шануючы вас — калі вухне!.. Я, браце, ну хоць ты ўдушыся ад рогату — не магу... Ен у злосць... А ўжо насып вось-вось, перад намі...

— Тады ж цябе там, мусіць, і ранілі, і пабілі вас там нешта многа. Ці не там?

Арцём з другой, суседняй брыгады: за даўнасцю можна і пераблытаць.

— Не, браце, тады мы справіліся чыста. І эшалон той пусцілі, і вярнуліся. Хоць дыхту нам трохі далі таксама.

Паўза. А потым не вельмі каб ахвотная даведка:

— Ранілі мяне, Арцёме, каля Войнавага хутара, на днёўцы... Можа, хлопцы, яшчэ па адной?

Зноў паўза, трэск агню і вялае закусванне.

— Было,— гаворыць пасля Арцём.— Было, як ты кажаш, і страшна, было і весела.— Ён хрыпавата смяецца.— Раскажу я вам, хлопцы, бо і самому, бачыце, смешна!.. Паехаў я са сваім аддзяленнем у Бабровічы, млын той багаты разбамбіць, што немцам меле, халерыя на яго. Заведуюшчы там зладзюга, падла, ажно вочы круцяцца. «Напішыце мне,— кажа,— таварыш начальнік, што вы ў мяне не дзве тоны мукі ўзялі, а тры. Мне — для адчотнасці». Узялі мы там усё, што змолана было,— вазоў, здаецца, з сем... Не, браце, восем! І паехалі. А хлопцы мае, гляджу ў дарозе, як цюцькі, п'яныя, амаль усе. І сам я не разбяруся, варона, як ён іх там напаіў? Той халерыя — «для адчот-

насці». Ну, браток, і намэнчыўся ж я з імі тады! Тут трэба ціха, а яны... Мала ім, што спяваюць, дык яшчэ дужацца шчапіліся на дарозе.

Сашку Тамашыку руку вывіхнулі. А ўжо сюды, да Нёмана пад'язджаючы, каля саменыш Вербалоза віч, Рэдзыса Хведар, гугніла, убачыў, што нейкі дзядзька-пагарэлец вязе настрамак нажабраванай саломы. «Ці пацэлю я,— кажа,— яму ў дугу ?.. Ну, тут ужо я яго прыпёр: «Такую тваю, растакую, застрэлю!..» Затвор ягоны ў кішэню сабе палажыў. А ён, халерыя, кажа: «Страляй! Я ракам на дарозе стану, а ты мне,— кажа,— пацэль!» От дзе мармоліна!.. «А не пацэліш,— кажа,— дык ты тады станавіся!..» Ну, я яму толькі па карку заехаў тады. Дзеці ж у цябе, дурыла ты, думаю, маці старая, жонка, дый сам ты хлопец як хлопец, калі не п'яны...

Мы смяёмся. Але мне і шкада адначасна, і крыўдна як быццам, што ўсё гэта сёння — так спрошчана, нават міжволі прыніжана, так не ў тон таму сапраўдна гераічнаму, пра што я нямала гаварыў Валодзю перад гэтай сустрэчай, сам-насам. Не такога хацелася б для яго — каб пачуў... Ну, хоць не толькі ўжо аднаго такога!

І таму я з прыемнасцю заўважаю, што і Андрэй таксама не вельмі здаволены нашай гаворкай. Бо вось ён звяртаецца да Арцёма:

— Ты, брацe, раскажы, як вы Баравічка з нямецкай бальніцы ўкралі.

— Ага, укралі,— згаджаецца Арцём.— Трох нас паслаў тады камбрыг: Гоцку, Мяжэвіча і мяне. «Не дазволю,— кажа,— каб мой найлепшы разведчык у фрыца смерць пакутную прыняў...» Яны яго пад-стрэлілі і ўзялі. А там у нас, у гарнізоне, быў сувязны. Нават у бальніцы той самай рабіў. Дык ён выйшаў ажно да першай хаты, чакаў нас. І ноч такая адпаведная была — хоць пальцам у вока. Прыйшлі мы, вартавога цюкнулі, сувязнога гэтага для адводу звязалі, нават хустачку ў рот яму ўперлі. А самі — за Баравічка, да саней яго вынеслі ціхенька і — алёп!.. Халерыю ты зловіш, а не нас! Дый з кулямётам мы былі. Гоцка Косцік насіў тады «Дзегцярова».

Як гэта проста ўсё, як звычайна, Арцём!.. Штосьці сёння не клеіцца ў нас. Намякнуць, каб ты расказаў, як тут твой «кляты» ўзвод (ужо не аддзяленне, а конны ўзвод, якім ты пасля камандаваў) тры дні недалёка адгэтуль трымаў на Нёмане абарону, як немцы не прайшлі, нягледзячы на мінамёты і танкеткі? Што ж, ты і з гэтым таксама згодзішся: «Ага, не прайшлі... Мы іх тры дні трымалі і не пусцілі...»

Ёсць чалавеку пра што расказаць, ёсць што ўспомніць і чым, не прыхарошваючы, пахваліцца. А ён вось зусім празаічна гаворыць, прыўзнімаючыся на калені:

— Давайце, хлопцы, мо трохі паспім? А то будзем заўтра носам, халерыя на яго, кляваць увесь дзень. Галля насцелем, ды ля агню... Ляжаць усё ж такі лепш, чым сядзець у машыне...

І мы рыхтуемся да сну. Бо ўжо навокал вогнішча сырая цемра пачынае так прыкметна шарэць, што заўважаюцца не толькі блізкія дрэвы, але і цярплівы леснікоў верхавік, які тым часам спіць пасвойму, на нагах, сяды-тады гайдаючы страмёны партызанскага, даўно старэнькага сядла.

Ляжым на лісцяной, раней падсушанай каля агню пасцелі. Рэбры прыходзянца напоперак галін. Мулка, вядома, але ляжым. Гамоніць роўным, пругкім гулам полымя, часамі трэсне, нібы раскалоўшыся, сучок. Зверху — не-не дый ападзе з ліста якая-небудзь зусім лішняя кропля, лузгануўшы па плашчы або да злосці спалохаўшы тваё вуха.

«Ужо гэты дык мог бы,— нібы нават капрызна думаю я пра Андрэя.— У яго ж не толькі ёсць аб чым расказаць, але і можа ён, калі ў часіну ціхай шчырасці, удвох, утрох... А зрэшты, чаму яна, тая часіна, павінна была прыйсці да нас іменна сёння, цяпер? Таму, што я хацеў бы вельмі, каб Валодзя пачуў?.. Я раскажу табе многае сам. Бо мне наогул трэба вельмі многае і вельмі добра расказаць пра такіх вось, як гэтыя, шчырых работнікаў нашай вялікай справы. Каб не пайшло ў нябыт, каб не развеялася, пашумеўшы мясцовай легендай, каб не зацерлася ў памяці пакаленняў тое, я к і тут, над нашым Нёманам, палымнела чырвонай стужкаю на аўчыннай кубанцы, грымела помстаю і маладым, пераможным смехам беларуская партызанская слава...

Не трэба толькі шумных слоў, не трэба імі абражаць непаказную, народную сціпласць сапраўдных людзей...»

Успамінаю, што было днём, як ён ляжыць на высокім абрывістым беразе — разам з н а м і, ды трохі наводшыбе — наш малады яшчэ Андрэй. Задуманы.

Усе мы маўчым, хто курачы, хто таіс. Глядзім на ціхую ў гэтай глыбокай завадзі ваду, у якой хвалююча, успамінам маленства адбіваецца нагрувашчанне белых аблокаў і мяккая, сакавітая просінь. Глядзім на луг за ракою, дзе стагі ўжо шарэюць, выгараючы на сонцы, а пакоша пацягнулася вясё-ленькай атавай. Глядзім час ад часу і на аблокі ўгары, на іхнім, як і належыцца, месцы... На фоне гэтай бела-лілова-блакітнай прыгажосці, лена плануючы, пераваль-

ваюцца з крыла на крыло чатыры буслы. Не, больш. Далей яшчэ вунь. І лічыць не хочацца,— так многа. Пленум нейкі ці манеўры перад адлётам... У нас тут, за лесам, цянёк. А за ракою, на лузе,— яшчэ ўсё сонечна: недзе далёка за намі сонца толькі што пачынае ісці на пасадку. У велічным спа-коі працавітых дзён, у плённай жнівеньскай спеласці.

«Пра што ён думае?» — гляджу я на Андрэя спадылба, падпёршы падбародак пастаўленымі адзін на адзін кулакамі.

На тым баку стаіць над самай вадою бярозка. Адна, нібыта выбегла з дзявочай чарады, каб паглядзецца ў такое вялікае, чыстае люстра. Маладая, а колькі на ёй залатога лісця!..

«Пра што ж ён думае?.. А, ведаю!»

Пытанне гэтае і мой адказ — цяпер ужо не поўнасцю такія, як былі тады, удзень. Я гавару фактычна: «Пра што ён думаў?» І да ранейшых здагадак, неразрыўна сплятаючыся з імі, далучаюітца новыя.

Успамінаю словы, сказаныя тут, пры вогнішчы: «Ранілі мяне, Арцёме, каля Войнавага хутара, на днёўцы».

За звычайным, нібы і сапраўды толькі даведачным гучаннем гэтых слоў мне цяпер уяўляецца не тое, як яны, хлопцы, прарываліся з варожага агнявога кальца, як чатыры жыцці абарваліся, кожнае жудасна і прыгожа па-свойму... Бачу чамусьці другое,— ужо агалены лістападам бярозава-пярэсценькі гушчар і дол, нібыта для прыхільнай цішыні, багата высцелены жоўтым лістам. Тры буданы, у адным з якіх ляжыць паранены ў нагу дзяцюк. Два іншыя буданы — пустыя: атрад пайшоў на заданне. А з Андрэем астаўся кульгавы Петрык. І цяпер толькі ясна зрабілася, які гэта добры хлопец. І даглядае цябе, нібы маці, і ў душу не лезе. Шбыта вы тут удвох і нібыта адзін ты ляжыш на саломе, накрыты нядаўна чужым, а цянер ужо толькі народным, ласкавым кажухом. І непрывычны боль першай, няўмелымі рукамі перавязанай раны не такі для цябе невыцерпны, як боль па сябрах...

На змярканні параненаму чуваць было, як недзе — то бліжэй, то зноў далей — шамацела лісце пад на-гамі ў кагосьці... Можа, Петрык кульгае, так цяпер жаласна для цябе, а ўжо ж даўно, ад роду заграбаючы правай нагой? А можа, нават дзік, за ветрам не чуючы, падышоў?..

Ды вось шамаценне тое пачулася бліжэіі. І Петрык, якога дагэтуль нідзе не было, мужчынскім голасам крыкнуў: «Стой! Хто ідзе?»

Андрэева рука сама знайшла на саломе пакарбаваную ручку нагана. Дарэмна — галасы свае: Петрыка і яшчэ нечы, так трывожна знаёмы...

Вось зноў шамаціць лісце. У светлым трохкутніку выхаду з'яўляецца цёмны, гледзячы знізу, магутны сілуэт.

— Сынок, ты тут?

Эх, бацька, бацька!.. Няўжо гэта той самы ты, што, пілуючы на прыгуменні дошкі, стаяў на сталюгах і зверху пасмейваўся з сыноў? А потым, як Бульба, дужаўся з імі і рад быў, як сам казаў, у дзве столкі: што і хлопцы выраслі, дый ты яшчэ не ўломак, нават большага гэпнуў... А цяпер вось маўчыш, пазіраючы ў змроку на меншага. Што маўчыш — каб не плакаць?..

— Пайду я ўжо, мусіць,— глуха азваўся ён, пасядзеўшы побач.— А ты папраўляйся. Я мацеры так і скажу, што ўсё добра. А ты папраўляйся...— Пашамацеў саломай, устаў.— Прымаразкі бяруцца...

— Вы, можа, боты мае абуйце,— сказаў няпэўна сын.— У кутку вунь там. І анучы, здаецца, у ботах.

— Хэ, тожа мне салдат!.. Пайду. Ну, будзь здароў!..

Пайшоў. У чужую вёску, у чужую хату. Яшчэ ўсё босы, па пякучай шэрані. І без шапкі. Такі, як выбег з пажару...

І хада яго доўга, бясконца доўга шамацела ў бярэзніку насцілам лісту.

І сёння вось шамаціць — праз дзевятнаццаць год...

...Тады ж, калі мы ляжалі на беразе, Арцём спытаўся ў Валодзі:

— Дык вы з Сібіры? Ад белых, можа, мядзве-дзяў?

Той засмяяўся.

— Ну, ад мядзведзяў — не, а вось алені дык ад нас ужо недалёка, адзін чыгуначны перагон.

— Алені — яны, відаць, такія, як ласі? Спытаўся Арцём не таму, што нібыта не ведае, а хочучы нешта сваё расказаць. І расказаў, як летась увосені сустрэўся на сцеясцы з ласём. Сахаты пары шукаў якраз і быў, вядома, вельмі злосны...

— Гэты во выручыў,— паказаў Арцём на Званка.— Каб не ён, дык невядома, што і было б. То маў-чыць усё, а то дык калі кінецца на гэтага ладя!.. А лось — такая вунь, хлопчыкі, звярына! — унурыўся ды на яго! А конь мой — дарма, што ціхі — на дыбы, крутнуўся на месцы, халерыя, ды ў гушчар. Як я там толькі рук ды галавы не адарваў, уцякаю-чы?.. І партызанку — хлопцы лс ведаюць — і фронт прайшоў, а дальбог лса ж, ніколі, здаецца, так не спалохаўся!..

Успамінаю, як быў забіты над Нёманам храбры нямецкі маёр. Трохі вышэй ад гэтага месца, на лузе.

Перад пачаткам блакады нейкі тройчы ардэнаносны франтавік яшчэ загадзя, напярэдадні падскочыў на матацыкле да той «фарфлюхтэр флюс»[1], з намерам паглядзець, чаго тут і каго тут так баяцца тылавыя пацукі, адкормленыя зондэрфюрэры і розны неарыйскі паліцэйскі зброд. Пад'ехаў на матацыкле з каляскай, сам за ручным кулямётам, а фрыц у касцы — за рулём. Спыніўся на высокім беразе, глядзіць цераз бінокль на някошаны луг за ракою, заліты нізенысім сонцам, на котлішчы і зямлянкі двойчы ўжо спаленай партызанскай «Масквы»... «Фарфлюхтэ вюстэ!»[2] Заўтра мы пройдзем у вашы бандыцкія логавы!..

Бінокль яшчэ быў ля вачэй, калі па абодвух ваяках паласнула аўтаматная чарга.

З кустоў на тым баку, толькі праз момант, патрэбны, каб распрануцца, выйшаў голы мужчына і, з пісталетам у зубах, сажонкамі пайшоў напоперак быстрай плыні... Жывы быў толькі матацыкл: ён усё тырчаў, гатовы зноў сарвацца з месца.

А ўжо адтуль, дзе маёра чакалі, у адказ на чаргу прыйшла першая міна — на выручку. Яна разарвалася, праўда, далёка на лузе, аднак і марудзіць нельга было. Упяўшыся, чалавек крануў з месца нагружаны шэра-зялёнай падлай матацыкл, дакаціў яго да абрыву: ныра́й!.. А сам — з трафейным кулямётам у левай руцэ, над сабою, і з пісталетам зноў у зубах — паплыў назад.

Другая міна разарвалася ў вадзе. Ды ён ужо вылез на бераг. Адтуль — з іх боку — пачуўся трэск матацыклаў... Трэці выбух узрыў лугавую макрэчу якраз на ягонай дарозе ў лес. Чацвёрты ахнуў правей... Ды чалавек ішоў — не бег. Нават і апрануцца збольшага паспеў — трохі адразу, у кустах, а то дык на хаду, пакуль схаваўся ў першым бярэзніку...

Так, гэта быў Арцём.

У тыя дні душа яго была ахоплена страшэнным болем...

Ціха ўстаю. Не разбудзіў нікога. Толькі Званок, не паднімаючыся, спакойна глядзіць на мяне і прыязна матлошыць па траве хвастом. Вогнішча хоча галля. Праношу з горбы абярэмак і кладу. Праз нейкі момант, сабраўшыся з духам, полымя прабівае яго, уздымаецца са здаволеным гоманам.

Днее. Нібы добрыя вочы з-пад злосных брывей, з-пад хмарнай навісі цёпла глядзіць зара. Хмары паднімуцца, сонца ўстане. Будзе

---

[1] Праклятае ракі *(ням.)*.
[2] Праклятая пустыня! *(ням.)*

яшчэ адзін ціхі, пагодлі-вы дзень. Як гэта проста ўсё — дзень пасля ночы — і як гэта радасна.

Дзень пасля ночы. А ноч перад днём? Тая ваенная, навальнічная ноч...

Успамінаюцца словы: «Было і страшна, было і весела...» Гэта, Арцём, гучала ў цябе... ну, проста як адгавор. Бо страшнае тваё нямож-на часта згадваць уголас.

Новая хата ў адной з наднёманскіх вёсак. Садок на градах, у агародчыку кветкі. І часта тварык дзіцячы за чыстай, вялікай шыбі-най,— як толькі хто стукне брамкай. У хаце на сцяне — выцвілы здымак пад шклом — партызанская конніца, цэлы ўзвод, і камандзір у кепачцы, Арцём Маляўка. Побач — тры ружы з лісцем — дзіцячая вышыўка, «ланцужком». А над усім гэтым — восем фотапартрэтаў. Цьмяных, з бязлітаснай рэтушшу, перазнятых ды павялічаных з маленькіх, пяцімінутных здымкаў мясцовага аматара ці валачашчага партача. Бацька і маці, таксама, як яны, старая цётка, малодшыя Арцёма-вы сястра і брат, першая жонка з дзвюма дзяўчынкамі.

Усе яны загінулі тут, у роднай вёсцы.

Дзевятага фотапартрэта няма. Мішку яшчэ не здымалі, здаецца, ці, можа, прапаў яго здымак. Пяць год было сыну. Казалі, ён уцякаў. Таму і магіла яго была за гумнамі.

Была. Бо летась іх з чатырох магілаў перанеслі ў адну, над якою паставілі помнік. Дзвесце шаснаццаць чалавек. Так падлічылі раней, па памяці, кожны сваіх. А Мішку адкапалі аднаго.

Бацька сам яго пераносіў. І сам расказваў мне, што ў той магіле наводшыбе разам з астанкамі сына быў яго мячык.

«Чырвона-сіні, вялікі. Нібы сягоння помню, як я яго купляў... Палажыў яму мячык той зноў...»

Бачу самотную хату над возерам, безыменнага дзядзьку-палешука. «Такыі, таварышу, раны нэ хочуць гаіцца...»

Адны не хочуць, а другія і зусім не гояцца. Колькі іх прынесла нам вайна?.. А ўсё ж: «Як трэба будзе, дык пойдзем, нікуды не дзенемся». Гэта — шэра, ды гэта затое не фраза. За ёю — вера, якую ўжо гартавалі...

Зноў Арцёмава дабрадушная ўсмешка: «Разбярэшся там, хто з нас быў першы...»

І сапраўды — што назваць пачаткам яго, Арцёмавай, партызанскай біяграфіі? Ці майскі вечар у сорак другім годзе, калі ён, пакінуўшы сям'ю, пайшоў з групай аднавяскоўцаў у гэты вось лес — улсо не з сякерай, без воза, а на вялікія гістарычныя справы? Ці тую восеньскую ноч сорак першага, калі ў акенца яго хаты пастукаў самы

першы ў нашых ваколіцах партызан? Ці той чэрвеньскі дзень жахлівага, незразумела ганебнага адступлення, калі ён, шэры ды ціхі бядняк, падняў на дарозе і, азірнуўшыся вакол сябе, панёс у зараснік першыя тры вінтоўкі?..

«У многіх тады іншых думак — не было».

Якія словы патрэбны, каб як след расказаць пра цябе, пра ўсіх такіх герояў — радавых і сапраўды незамянімых?

«У мяне ёсць таксама медалі,— казаў ён учора, зусім прастадушна здаволены.— Адзін «За адвагу», а другі партызанскі, жоўценькі. А ўжо за фронт нічога не далі. Я там шафёрам быў. На міну раз, халерыя, наскочыў. У Германіі. Толькі пыл і дым, слупам ахнула ўверх,— больш нічога не помню. І галава цяпер часта баліць...»

І ў параўнанні з суседзямі трохі больш сена карове — прывілегія лесніка.

Больш ты як быццам нічога не хочаш. А пра мінулае нават расказваць не любіш. «Што я — адзін такі?» Гэта — не словы твае, я такога не чуў, гэта — думка, і думка глыбока народная. Гордасць і боль прыкрываючы, ты нават смяешся і цягнеш наверх, каб весялей было, тую, не вельмі часам і прыгожую партызанскую будзёншчыну, якое яшчэ ўсё баяцца і тыя, што пішуць, і тыя, што вучаць пісаць...

— Сонца ўсходзіць.

— А, гэта ты, Арцём. Здароў!

Стаім на беразе, глядзім на ўсход, дзе — перад сонцам — учарашняя, «Андрэева», бярозка... Адалей пушча, думаю, дзе на лядах — рады сасонак. Толькі адну чамусьці бачу, буйным планам, з кроплямі серабрыстай расы, што вось-вось зазвоняць, як тыя мае, над Бярозай... У гушчары, над зараслаю рэчкай — цыбатае, бурае ласяня цягне губамі і плямкае, нібы жуе, аерыну, пакуль што толькі гуляючы. Хопіць яму і матчынага малака. А ласіха стаіць па чэрава ў вадзе. Напілася і, не спяшаючыся, угматвае, смачна жуе вялікія плывучыя лісты ліліі, разам з якімі да пысы яе асуджана гайдаецца-плыве пяшчотна белая, з сонечным «сэрцам» кветка. Хутка сонца паднімецца, і Нёмнава быстрая вада, у якую глядзіцца бярозка, заблішчыць, ажыве, зайграе...

Хораша, Валодзя, у нас — учора ты нездарма захапляўся!..

Арцём закурвае.

— Ну, што? — пытаецца з падморгам і прыцішана.- Будзіць іх будзем, рыбу чысціць ды есці варыць, ці пойдзем, можа, закінем, пакуль яны спяць?

Паэтычная, родная проза!..

*1961*

## ТУГА

*Андрэю*

1

Калі праўду сказаць, дык і тут было часам нядрэнна.

Перш за ўсё, тут было вельмі многа вады, і яна называлася мора. Глядзіш з самага берага, седзячы на пяску, глядзіш з высокага абрыву, са сцежкі ў шорсткай траве — а яно ўсё бясконца мора ды мора!..

Пясок гарачы, і мама сцеле для Юркі шырокі, калматы ручнік. Горача вельмі і зверху, бо сонца тут пячэ ўвесь дзень. Тата знайшоў чатыры кіёчкі, прыносіць іх сюды, утыкае ў пясок і зверху нацягвае прасціну, якая тады называецца тэнт.

Спачатку Юрка баяўся мора і не лез у яго. Ён то ляжаў пад тэнтам, то ішоў на самы бераг і шпурляў у мора каменьчыкі. А іх тут таксама вельмі многа. І яны называюцца галька. У тое, другое лета, калі Юрка з мамай і татам жылі ў лесе над рэчкай, каменьчыкаў было куды менш. Там іх тата збіраў для Юркі і ўсё знаходзіў мала. А цяпер — кідай, кідай, ажно рука забаліць!.. І так — то пад тэнтам ляжы, то гальку кідай. І сёння, і ўчора, і ўжо даўно, даўно!.. І тата смяяўся:

— Эх ты, курыца! Трэці дзень на курорце, а ўсё сядзіш ды глядзіш.

Ды вось тата ўзяў Юрку на рукі, занёс у мора і, колькі малы ні прасіўся, паставіў яго ў ваду па саменькія грудзі. Юрка яшчэ ўсё то крычаў, то дрыжаў, то пачынаў смяяцца, а вада як плюхне на яго — і ў рот, і ў вочы, і на валасы!.. Ды такая ж салёная, страшная!..

Ну, так было раней, калі Юрка баяўся мора. А цяпер ужо мама баіцца, каб ён не лез. І аднаму купацца Юрку не даюць, — і тады, калі ціха, і тады, калі на бераг коціцца з шумам адна за адною вада, якая ў той час называецца хваля.

— Сёння, сынок, хваля вялікая, ты купацца не будзеш. Ты — харошы, і ты не будзеш нават прасіцца.

Праўда, харошым тут быць вельмі сумна, але ж і з мамай трэба дружыць. Тату добра — ён купаецца і тады, калі тая хваля аж надта шуміць і хвошча па беразе, нават тады, калі мама і яго — такога вялікага! — просіць, каб не купаўся.

У той дзень Юрка прыдумаў нештачка вельмі вясёлае. Ён браў сваё блакітнае вядро з намаляваным на баку вялізным жоўтым яблыкам і ішоў да самага берага. Берага, зрэшты, цяпер не было. Хваля за хваляй так шумна і так злосна каціліся на гальку і пясок, што бераг усё ўцякаў — быў то бліжэй, то далёка... Хваля адкоціцца, і толькі пена, як з мыла, усмоктваецца ў гальку і пясок. А ты бяжыш

следам за берагам, каб чарпануць вады. І толькі ты сагнешся — хваля зноў як плясне, і бераг твой пабег, пабег, а ты ўжо стаіш у вадзе. І ты з вады ўцякай, бо хваля другая таксама — як плясне!.. Мама ўсё яшчэ баіцца, а то і крычыць нешта, хоць што яна крычыць — не чутно, бо відаць толькі, як яе рот раскрываецца. Затое тата не крычыць. Ён нават так сядзіць ды так павернецца бокам, што нібы цябе і не бачыць... У гэтым іменна ўвесь смак гульні. Юрка падкрадаўся да таты з вядзерцам вады ды знячэўку на спіну як плюхне! — тата ажно падскочыць і закрычыць. Як жа гэта прыемна Юрку і як жа тут нарагочашся! І можна яшчэ і яшчэ раз, бо тата будзе кожны раз так сядзець, што нібыта ён нічога і не бачыць... Вось і ўсё, што вясёлае.

Праўда, было аднойчы вельмі весела ў кіно.

Першы раз, калі Юрку ўзялі туды, ён спачатку глядзеў, потым драмаў, а тады і зусім заснуў у таты на каленях. І мама сказала, што лепш ужо яна сама не пойдзе ў кіно, але ж і дзіцяці марнаваць не будзе. Але і назаўтра пайшла, бо карціна, казалі, вельмі ж цікавая.

Кіно тут не такое, як у іх, у Менску, а проста на дварэ. Цёця ўпушчае туды праз брамку. І за брамкай лаўкі стаяць, навокал высокі плот, а столі няма. На сцяне расцягнута палатно, якое і тут называецца экран. Дзе левая ручка — там плот і дрэвы, а дзе правая ручка — там плот і пад абрывам мора. Яно так далёка ўнізе, што адгэтуль нават і не чутно, як шуміць. Толькі месяц высока над морам, а на моры доўгая, бліскучая дарожка. Пакуль пачнецца кіно, навокал сакочуць конікі, якія тут называюцца цыкады. А ўжо калі залапоча рухавік, калі на экране пакажуцца людзі і зайграе музыка — тады чуваць толькі кіно. Але яно зусім невясёлае, бо гэта ж не Бураціна і не Беласнежка, а толькі ўсё для вялікіх. Усё нешта гавораць, гавораць... І сумна.

Ды вось раз на экране паказаўся сабака... Вялікі, вялікі! І чорны. І ён як загаўкае!.. А тады за плотам, з таго боку, дзе пад абрывам мора, — таксама нешта як загаўкае!.. Ужо не з экрана, а нейкі жывы сабака, што, відаць, сядзеў дагэтуль ціхенька ды глядзеў кіно. І ўсе дзядзі і цёці зарагаталі. І Юрка так рагатаў, і так хацелася пра гэта гаварыць, што мама ажно зазлавала...

І Юрку ўжо не бяруць у кіно. Кладуць яго спаць, а самі ідуць. І ён калі адразу засне, а калі дык ляжыць і думае.

Сёння, напрыклад, думае.

2

У слоўніку трохгадовага чалавека слова «туга» пакуль што не значылася. Аднак душу яго — хоць неназваная яшчэ і неўсвядомленая

— яна ўжо наведвала.

Адчуванне гэтае, лепш сказаць — цэлы комплекс вобразаў і звязаных з імі пачуццяў пачаўся ад брэху — таго, з экрана і на экран.

Здаравенны, чорны кіно-сабака і той, з-за плота, яшчэ невядомы, брэхам сваім напомнілі Юрку далёкага, добрага друга, ад якога хлопчык спачатку доўга ехаў машынай, а потым высока-высока ляцеў самалетам...

Юрка забраўся ажно сюды, дзе мора, а Шарык застаўся там, у цёцінай вёсцы, на ланцугу.

Цёці Верын сабака быў вельмі добры, але нецікавы і нават смешны з выгляду: пярэсты, палавіна галавы белая, палавіна чорная наўскасяк, як быццам ён завязаў нейкай лапінай падбітае вока і ўсё падвільвае хвастом ад сораму. І зусім не кругленькі, хоць і называецца Шарык.

Можа, каб Юрка баяўся яго, як ён баяўся спачатку мора, дык самі б яны і не пасябравалі. Але ж Юрка не вельмі баіцца! Ён не баяўся яшчэ і ў тое, другое лета, калі яны жылі ў лесе над рэчкай і калі там было многа-многа індыкоў, а ён аднойчы сам зайшоў да іх, у загарадзь, і ўсе крычаў, як паравоз, каб яны балбаталі... І Шарыка ён не пабаяўся, а назаўтра пасля таго, як да цёці прыехаў, сам падышоў да цюцькі і пагладзіў. Цюцька ляжаў у будцы, палажыўшы сваю пярэстую галаву на парожак, і ціха пазіраў на двор, дзе быў якраз поўны парадак. Калі маленькі чалавек, што спаў і еў сёння ў іхняй хаце, павёў рукой па яго лабаціне, Шарык заплюшчыў вочы і ціха зашастаў хвастом па саломе.

А быў ён, Шарык, не з ціхіх. Брахаў вельмі многа і вельмі ахвотна, то злосна, то весела несучы службу, на думку самога — зусім неабходную ў гаспадарцы.

Брахаў ён нават на жоўтага карнавухага ката Базыля, абы той трапіў яму на вока. Хоць Базыль і сам быў не лайдак які-небудзь, а сур'ёзны работнік, стары ўжо і, можа, больш за Шарыка паважаны ў хаце, — ён добра ловіць мышэй і вось ужо адзінаццаць год мармыча казкі цёцінай Іры, з якой яны, цёця Вера казала, і нарадзіліся ў адну зіму. Так што Базыль не вельмі баяўся Шарыкавага брэху, хоць само сабою блізка каля будкі не хадзіў.

Найбольш і наймацней брахаў Шарык тады, калі Іра выганяла з хлява свінню і трое парасят, каб удваіх з Юркам гнаць іх на пасту.

А трэба сказаць, што цёці Верына Ірачка вельмі вясёлая, і Юрка любіць яе. Яна і гуляе з ім, і свіней яны разам пасуць, і казкі яму вечарамі расказвае. У Іры балела вока, і цяпер яна носіць акуляры, як старая бабка. І ўсё бегае, шмыгае ды смяецца. А сама малая ды

худзенькая. Дык Юркаў тата выдумаў, што яна — мыш на пенсіі.

— Ты, мыш на пенсіі, што ты ўсё толькі маўчыш ды гыкаеш? Ну, скажы: мама, тата, карыта... А што, і не ўмееш гаварыць! Смяешся толькі: гы ды гы.

У адказ Ірачка не толькі рабіла сваё «гы», але і смяялася ціхім ды такім жа смяшлівым смехам, што ты глядзіш на яе дый сам засмяешся.

Маўчала Ірачка толькі з вялікімі. А так яна вельмі добра ездзіла верхам на іхняй свінні. Разбяжыцца, падскочыць, крыкне «эп!», перавесіцца жыватом, перакіне нагу і сядзе. «Ану, — крычыць, — садзіся, Юрка, на прэчып!..» Вялізная белая свіння, якая — мама пяці падсвінкаў і называецца Каруля — бяжыць, трасе вушамі, рохкае — аж за брамку, на вуліцу. За ёю следам — парсючкі і Юрка.

А Шарык ажно ланцуг са сцяны вырывае — так ірвецца і брэша ім наўздагон.

Мілы, хорошы цюцька! І лапа твая, відаць, яшчэ не паправілася...

Захварэлі Шарык з Юркам у адзін дзень. Але Юрка паправіўся першы. Калі цёця Вера сказала, што сёння ўжо можна ісці гуляць, ён узяў з шафкі ў кухні лустачку хлеба і пабег у будку. Бо нехта дрэнным кіем ці каменем перабіў іхняму Шарыку пярэднюю правую лапу. І Шарык ужо не гаўкаў, як раней, а толькі хныкаў, гледзячы на госця, і ціха, памалу шастаў хвастом па саломе. А Юрка ўжо не тузаў яго аберуч за вушы і не абнімаў, не ціснуў за шыю, а ціха залез у будку і таксама лёг.

І лапы хворай не чапаў, нават пагладзіць яе баяўся.

— Еш хлеб, — гаварыў ён. — Еш. Ён смачны.

І цюцька, хоць не галодны, узяў у зубы лустачку і не па-свойму, не прагна, як раней, а проста ветліва пачаў жаваць...

Таксама, як той брэх з-за плота напомніў Юрку Шарыка, лустачка хлеба прывяла, адкрыла ў памяці другі малюнак.

Старая Шутка, цёці Верына авечка з крывым, смешна сагнутым рогам...

Трэба сказаць таксама, што ў цёці Веры ўсе працавалі. Цёця і дома рабіла, і ў поле хадзіла штодня. Іра і свіней пасвіла, і двор падмятала, і мыла падлогу, і Юрку карміла, калі яны толькі ўдваіх былі дома. Шарык гаўкаў і днём і ноччу, пільнуючы хату і сад. А кот Базыль лавіў мышэй, толькі зрэдку лежачы на «кашэчай гары». Так цёця Вера называла іх вялікую, заўсёды цёплую печ.

Працаваў і Юрка. З цёцяй Верай ён хадзіў часамі «ў калгас» — лён палоць, сушыць сена, куды яны ездзілі з другімі цёцямі на грузавой машыне. З Ірай ён пасвіў свіней. Але галоўнай Юркавай работай

лічылася ў хаце адно — заганяць увечары авец.

Калі яны, авечкі з усёй вёскі, узняўшы пыл, бэкаючы, вярталіся з пашы, трэба было паспець адчыніць брамку, выбегчы на вуліцу, адлучыць ад чарады свае і загнаць іх у двор. Гэта, зрэшты, было няцяжка. Шутка ішла дахаты сама, ведучы за сабою сям'ю: барана Шмэрку, авечку Дусю і маленькіх, яшчэ безыменных блізнят. Апроч таго, што яна была авечая мама і сама пазнавала свой двор, старая Шутка ведала яшчэ і тое, што Юрка сустрэне яе не так сабе. Як змоўшчыкі, яны амаль штовечара заходзілі з ім за вугал хаты, ён даставаў з кішэні лустачку хлеба, моцна трымаў яе ў працягнутай руцэ, а авечка адкусвала і старанна, ціха жавала, ах, як пацешна варушачы чорнай, наздратай і казытлівай, калі дакранешся, мызачкай!..

У Шуткі дык малая мызачка, а вось у Кветкі, цёцінай каровы, — вялікая, халаднавата-вільготная пыса...

Бо мы забыліся сказаць пра яшчэ адну Юркаву з цёцяй работу, — яны штовечара разам даілі карову.

Пакуль цёця Вера, прысеўшы на маленькім зэдліку, даіла сваю бакастую ды вымістую Кветку, пакуль малако ўсё дзюрчала ў даёнку, Юрка стаяў перад каровай і то правай, то левай ручкай гладзіў яе па пысе. А Кветка то ўсё жавала сваю жвайку, то пакідала жаваць і ўздыхала, і з вялікіх ноздраў яе на Юркаву руку цёпла дыхаў шырокі, ласкавы струмень паветра. Ручка міжвольна ўздрыгвала, і хлопец ціхенька, удзячна смяяўся. Мілая, добрая Кветка!..

Кот Базыль быў гарушчы, ён еў што папала, не перабіраючы, хлеб — хлеб, бульба — бульба... Аднак і ён любіў пагрэць сваю старасць тым цёплым Кветчыным малаком, што называецца — сырадой. Базыль хлябтаў са свайго чарапка пад лаваю, а Юрка і Ірачка сядзелі за сталом. І сырадой з хлебам быў такі смачны! Яны яго пілі ды закусвалі папоўніцы, і над губою то ў аднаго, то ў другога рабіліся белыя вусы. І гэта было так смешна! Над цёці Верыным сталом гарэла ў вялікім белым шары электрычная лямпа. Акно было адчынена, і на шырокім падаконніку маленькі радыёрэпрадуктар так весела граў, што ажно сам падскакваў. Ажно лісце за акном, на яблыні, варушылася!..

А цёця Вера казала:

— Ну, я яшчэ падлію. Колькі ж ты з'еў — менш за ката.

І Юрка еў «больш за ўсіх» — поўную шклянку, і яшчэ амаль поўную шклянку, і цэлую лусту, як Шутка!..

А пасля яны з Ірай лажыліся спаць. Бралі з сабою Базыля, і ён ім мармытаў сваю казку — адну і тую ж, аднак такую цікавую, цёплую,

сонную... Але адразу ім не спалася, і яны рабілі свой «схованы домік» — накрываліся прасцінай з галавою і там ужо або шапталіся, або хіхікалі. Пакуль цёця Вера не скажа:

— Ну, спаць, рагатуны. А то людзі ўсю ноч разбяруць. Чуеце, вунь як ціха?..

І праўда, ціха было. Толькі чуваць, як у трэцяй за імі хаце, — а Юрка ведае: гэта ў Ласёвага Ванькі, — яшчэ ўсё гаворыць радыё. Або яшчэ, вясною, як толькі Юрка прыехаў сюды, жабы кумкалі на балоце, за цёці Верынай капустай. Часамі загудзе на вёсцы ці на дарозе машына. І гэтак хочацца крыкнуць, што гэта — дзядзі Алёшава, таго, што Юрка з ім ездзіў на сенажаць!.. Часамі з клуба на тым канцы вёскі доўга чуваць былі песні і музыка. А то гудзеў у полі трактар, блізка ці недзе далей. І конікі ўсё сакаталі. Ды часам Шарык гаўкне на некага ці на нешта, ці так сабе, прабягаючы ціхенька вакол хаты.

Любы сон неўзаметку залазіў у іхні з Ірачкай «схованы домік».

«А лапка яго, відаць, ужо не баліць», — думае Юрка, адзін у далёкім-далёкім пакоі. Там, каля мора, куды трэба высока, высока ляцець самалётам.

Але нарэшце ён засынае.

3

І сон прыходзіць з вясёлымі, поўнымі сонца і шчасця карцінамі.

Вось яны едуць у цёці Верыну вёску. Тата сядзіць за рулём, побач мама, а на каленях у мамы — Юрка. І ён глядзіць ды глядзіць у акно. Але ўжо змяркаецца, і тата ўключыў фары. Як гэта добра! Спачатку мігціць калоссе абапал вузкай дарогі, а тады пачынаецца грэбля і паша, дзе ўжо нікога няма: ні дзяцей, ні свіней, ні гусей...

А потым з мосціка нешта белае — як шыбане! — і пабегла, пабегла да гумнаў...

— Ага, твой Базыль, — кажа тата.

І Юрка крычыць:

— Гэта ён сустракаў мяне! Ён сустракаў!..

І вось яны павярнулі нарэшце ў вуліцу, вось ужо цёціна хата, і брамка, і яблыні. Вось ужо Юрка бяжыць туды, — сам, адзін, без машыны, і таты, і мамы! — бяжыць і бачыць, што цёця Вера ідзе і смяецца, што Ірачка бяжыць і таксама смяецца. Гэта ён, гэта Базыль наказаў!..

— Я прыехаў!! Я зноў прыехаў да вас! — крычыць Юрка. І ён смяецца і плача ад радасці...

Тата і мама яшчэ ўсё не прыйшлі з кіно. Ніхто не бачыў, як Юрка

прачнуўся, шчасліва заплаканы. Але і сам ён яшчэ не вярнуўся ў свой белы, пусты пакой, з цыкадамі за адкрытым акном, — ён толькі паплямкаў губамі, падкурчыў ножкі і зноў паляцеў у краіну духмяных рамонкаў, сасновых сцен ды бясконцай і цёплай, басанож абтупанай зеляніны...

У цёці Верыным хляве жывуць сабе карова Кветка, старая Шутка са сваёй сям'ёй і свіння Каруля з падсвінкамі.

Думаеце, што гэта і ўсё?

А другая палавіна хлява называецца адрынай. Там ляжыць сена і салома. Там, уверсе, пад лацінамі, гнёзды ластавак. І ластавяняткі ўсё пішчаць, а іхнія мамы і таты носяць ім мошак.

А часамі там, недзе ў куточку, знясецца курыца, і тады ўжо на ўвесь свет кудахкае.

І ўсё?

Ого!.. Юрка таксама думаў спачатку, што ўсё.

А тут з-пад цёці Верынай адрынкі на траву выйшла — глядзіце! — вожыкава мама, а з ёю тры маленькіяважанятка. Па вялікім для іх, па сапраўдным рамонкавым лесе яны — адно за адным, а мама спераду — прабіраюцца да жоўценькага збаночнага чарапка, у якім — малако. І малако такое смачнае, такое сырадоістае, што ў Юркі ажно язык засвярбеў. Зараз во, зараз будзеце хлябтаць!..

А Юрка — паглядзіць.

— Ну, ну, хутчэй! Хутчэй! — нагінаецца ён над імі, падышоўшы зусім блізенька.

І вожычыха скручваецца клубком. А за ёю скручваюцца клубочкамі і малыя.

«Ну што ж, я пачакаю», — думае Юрка і лажыцца ў цёплым ад сонца, духмяным рамонку.

Падпёр шчокі загарэлымі кулачкамі і маўчыць, чакае.

Ах, як добра, што Шарык дрэмле ў будцы і нічога не бачыць! А то пачаў бы брахаць і напалохаў бы вожыкаў. Добра, што і Базыля тут няма, а то ён выхлебтаў бы малако. Добра, што і нікога пакуль што няма, што так ціхенька, светла. Яны вось-вось раскрыюцца. Важаняткава мама расшчэпіць трохі свой вельмі калючы клубок, цікне праз шчыліну і ўбачыць, што гэта толькі хлопчык Юрка ляжыць. А ён жа хоча толькі паглядзець...

«Ідзіце, ідзіце, — думае Юрка, — не бойцеся, тут жа нікога няма...»

Ды раптам чуецца Ірaччын голас:

— Юрка-а! Ідзі свіней пагонім! Юрачка-а!..

Ён хоча адмахнуцца ад яе, але нешта дужае-дужае, цёплае-цёплае абнімае яго і — ніяк не махнеш. Ён хоча крыкнуць: «Ну цябе, гані

адна!», ён намагаецца, і крык ягоны вылятае з вуснаў ужо не там...

Гэта мама яго абнімае, гаворачы:

— Юра, Юрачка, уставай! Што ж гэта сёння ты так заспаўся?

А ён крычыць:

— Сама гані сваіх свіней! Сама!..

— Сама пагоніць! — смяецца мама. — Глядзі — разышоўся...

І Юрка прачынаецца канчаткова.

— Трэба снедаць ісці, сынок. Усе ўжо даўно пайшлі. А мы з табой спазняемся.

Памытага, адзетага, але яшчэ ўсё надзьмутага Юрку за ручку вядуць у сталовую. Там з яго бесцырымонна здымаюць цюбецейку, садзяць за стол і пачынаюць карміць.

Цёця Паліна Іванаўна, якая называецца сястра-гаспадыня, спачатку то ідзе, то спыняецца каля другіх сталоў, а потым падыходзіць і да іх.

— Добрай ранічкі, — кажа яна. — Ну, і чаго ж мы такія сумненькія? Як жа мы спалі? У гэтым заездзе, разумееце, амаль зусім няма дзяцей. Вось толькі ваш ды прафесара Маркава, Аляксандра Паўлавіча, Вова. Ды Вовачка, разумееце, прыхварэў ангінкай і пакуль што на пасцельным рэжыме. А так бы яны гулялі разам. Вовачка таксама, як і Юра, вельмі прыстойны хлопчык...

Цёця сястра-гаспадыня і сама вельмі прыстойная. У чысценькім, хрумсткім халаце, поўная, ходзіць салідна, нібы плыве, і гаворыць ласкава, роўненька.

І ўсё тут вельмі прыстойна — пальмы ў кадках, сталы пад беласнежнымі накрухмаленымі абрусамі, дзядзі і цёці, што вітаюцца па пяць разоў на дзень. І мама не крычыць на Юрку, як дома, а толькі ўсё шэпча ціхенька, прыстойна:

— Еш! Божа мой, еш ты!..

І ў тую раніцу ўсе тут, вядома, вельмі здзівіліся, калі такі мілы ды ціхі хлопчык, седзячы з мамай і татам, раптам крыкнуў на ўсю сталовую:

— Я тут ждохну ў вас! Я хачу да цёці Веры!

1961

# СІМВАЛ

У Находцы, аглядаючы порт, суднарамонтны завод і горад, я адчуваў яшчэ раз — да захаплення выразна, маштабна — магутнасць роднай краіны.

Была пасля багатая прыгажосць нашых двухсот кіламетраў — паміж зелянінаю сопак, на арліных перавалах, у далінах, прастрэленых вячэрнім сонцам.

Быў шум у паўцемры — шумела Японскае мора.

Была цішыня — у тайзе, калі мы спыняліся і ўражана глядзелі на бясконцыя пабліскі ў цемры казачных светлячкоў...

А я вось, прачнуўшыся ў нумары ўладзівастоцкай гасцініцы, успомніў — як найлепшае з усяго, перажытага ўчора, — смяшлівага, замурзанага, босага хлопчыка-карэйца, што ў вёсцы, дзе мы спыняліся, разам з рускімі сябрукамі гуляў у "хавачкі". І рагатаў сардэчна, і сарамліва маўчаў, і вельмі ж смешна яму было, ну проста не стрываць, калі адказваў на мае пытанні...

Чаму — падумалася цяпер — за сімвал міру ўзяты голуб, а не дзіця? Замурзанае, рассмяянае дзіця!..

## УСТУПЛЕННЕ Ў РЭКВІЕМ

Верасень шасцідзесятага года.

...Колькі можа перацярпець чалавек?..

Пяць год панскай турмы, уцёкі ў СССР, дзе яму, чыстаму сэрцам хлопцу, даюць дваццаць пяць без права перапіскі, як... польскаму шпіёну!..

А цяпер, калі чалавек вярнуўся, пасля дзевятнаццаці год зняволення, зрубіў хату, ажаніўся, сына нажыў, цяпер ён на хаду паміpae ад рака...

І ўвесь акіян яго незаслужанай крыўды, і ўся яго, нягледзячы на гэтую крыўду, светлая вера ў родную савецкую справу, увесь свет яго перажыванняў, дум — "не тыповая з'ява", пра гэта мы будзем маўчаць,— "дзеля агульнага дабра". І непрыемнае для нас само яго жыццё, як напамінак, прыкры напамінак пра вялікую крыўду, вялікі боль, незаслужана прычынены добраму, нявіннаму чалавеку, як напамінак пра вялікую "памылку" — не сотую, і не тысячную долю той жахлівай з'явы, што зашыфроўваецца лічбай "1937" або словамі "культ асобы".

Праўда, суровая, горкая праўда, пра тое ўжо сказана.

Прыйдзе таксама вялікі мастак, які паўторыць гэтую праўду мовай вобразаў — зноў жа, па-сапраўднаму — *дзеля агульнага дабра.*

А тым часам, калі б мая воля, дык я гэтым хлопцам і дзяўчатам. што без пары сталі дзядамі і бабамі, надломленымі жыццём, я ім даваў бы вялікія ордэны, як героям — за іх веру, не страчаную ў нялюдскіх выпрабаваннях.

Так думалася не раз за апошнія гады, так думалася ў мінулую нядзелю дома, у вёсцы, калі ён, Мікола,— прыцемкам, пасля не першай нашай гутаркі на лаўцы перад гародчыкам,— паехаў дахаты веласіпедам, павёз на раме свайго сарамлівага хлопчыка.

Там, дома, хлопчык гэты, напіўшыся сырадою, засне; маладая жонка пойдзе ў клуб або будзе ціхенька хліпаць пад коўдрай; а сам ён, Мікола, будзе далей памалу — у бяссонніцы, у горкіх думках — паміраць...

Чэрвень шэсцьдзесят першага.

...Гарачы, парны поўдзень. Ішоў каля новай Міколавай хаты і, як ні страшна, зайшоў.

Прасядзеў з ім, пры ложку ягоным, гадзіны дзве. Відаць, апошні раз...

Яго расказы пра перажытае.

Думы "о тайнах вечности и гроба...".

Жахлівая трагедия, горкі скепсіс і светлы розум — усё гэта хутка знікне. На дзікіх моталках на ўзгорку гэтыя косці, абцягнутыя скурай, ператворацца ў зямлю. Назаўсёды. І не страшна мне, мусіць, таму, што не вельмі ўяўляю сябе на ягоным месцы. А ён гаворыць, што ад болю, ад страшэнных пакут гэтага года страціў ужо ўсялякі смак да ўсяго, і хочацца смерці, хацеў бы нават кончыць сябе, абы толькі не ў пятлі...

А ў чыстай, новай хаце — сонца, смалістыя сцены, заплаканая маладзіца і румяны, замурзаны хлопчык, які усе ные кал я таты, трэцца, як коцік, і... не плача.

А на двары пахне толькі што скошанай канюшынай, пыляць на загуменні грузавікі з торфам, раскашуецца ў спёцы маладое жыта...

Ліпень шэсцьдзесят другога.

...З сынам і жонкай сядзім на зялёнай, духмянай абочыне палявой дарогі, паміж пшаніцай і жытам.

Шчаслівае шчабятанне жаўранкаў, першае для мяне ў гэтым годзе "піць-палоць!", ідылічнае рыканне каровы, людскія галасы з недалёкага лугу і неахвочы брэх сабакі з вёскі...

Зноў думаю, аберагаючы гэтыя думкі, не дзелячыся імі ні з кім, пра Міколу, які памёр тут, пакуль я ездзіў па Далёкім Усходзе, пра тое, як мне напісаць яму дастойны рэквіем.

1960-1962

## ЦВІЦЕ ЧАРЭШНЯ

Міхайлаўскае я наведаў пазалетась, у канцы жніўня мокрым і яшчэ бязлюдным раннем.

Лена перачырыкваліся вераб'і. Голле яблыняў, каб не безліч падпорак, так і палегла б на траву. Пах флоксаў, якіх на сядзібе, абапал дарожак, было ненатуральна шмат, упіраўся ў пахмурнае неба. Густы, прытарны, нават нейкі нахабны...

Гэты бязлітасна шчодры, не вельмі прадуманы флёксавы пах успомніўся мне ў Пяцігорску, сёлета вясной, каля дома, у якім прайшлі апошнія дні нашай другой любві, другога друга, мудрага і сардэчнага.

Чаму ж успомніўся?

Бо там, каля белага нізкага доміка, у сонцы поўдня цвіла чарэшня.

Сціпла і вельмі патрэбна.

Шчаслівa, ненаіўна верыцца, што яна — тая самая, адна з тых самых, пра якія калісьці тут, у гэтым доміку, было напісана:

"Галіны кветнеючых чарэшань глядзяць мне ў вокны, і вецер засыпае часамі мой пісьмовы стол іх белымі пялёсткамі".

Зноў дакранаешся душой да тых пачуццяў, якія ўздымалі і ачышчалі яе ў родным доме Тал стога, каля хаты, у якой нарадзіўся Купала, на тары, дзе магіла Шаўчэнкі, у лесе, нячутна напоўненым песняй Міцкевіча...

Пісьмовы стол, на зялёным сукне якога, як на траве, адпачывалі быстрыя і нястомныя рукі, што тут вось, пры дапамозе гусінага пяра, увекавечылі на паперы "Тамань" і "Выхожу один я на дорогу...".

Тут, каля гэтага стала, я задрыжаў душой, жыва, да слёз адчувальна ўспомніў аслонены мокрымі дрэвамі шэры домік Радзівонаўны і словы — золатам на мармуры:

Подруга дней моих суровых,
Голубка дряхлая моя!..

Словы — поўныя той высокай пяшчотнасці, на якую здольныя толькі сапраўдная сіла і мужнасць. Тая сіла і мужнасць, тая радасць жыцця і змагання за Чалавека, тая крыніца несмяротнасці, з якое непераможна струменіць і разліваецца морам сапраўды руская, сапраўды народная і сапраўды агульналюдская паэзія двух геніяў.

Пушкін і Лермантаў. Лермантаў і Пушкін. Толькі падумаеш пра аднаго — у памяці ўстае другі... Так яно і ідзе, бясконца паўтараецца з тых дзён, калі ты ўпершыню зазірнуў у казачна-дзівоснае царства іх слова.

Асабліва моцна і непаўторна адчуваецца гэта — і я нарэшце ведаю

— на Каўказе. На тым Каўказе, што быў іх карай, іх натхненнем, што стаў для аднаго з іх магілай.

З вяршыні Машука, куды нас з сябрам узвіў на "Волзе" вясёлы таксіст,— проста арліны агляд. На маляўнічы Пяцігорск, што сотнямі белых дамоў і садзікаў разбегся па нізіне. На паасобныя горы — Змейку, Вярблюд, пяцігаловы Бештаў, Кінжал і іншыя,— што акружаюць горад зялёнымі пірамідамі. На горны хрыбет, што снежна бялее на прываблівым, радасным даляглядзе. Відаць і месца пад гарой, дзе варожая куля так дзіка, недаравальна абарвала жыццё таго мілага крываногага Мішанькі, што са слязьмі на вачах, з нажом у дзіцячай руцэ кідаўся абараняць дваровага мужыка, якога білі па гаспадарскаму загаду любай бабулі-прыгонніцы. Таго бясконца абаяльнага Міхаіла Юр'евіча, якому было дваццаць шэсць, калі і на ягоныя вусны лягла халодная пячаць.

Часта гаворыцца, што справу, пачатую Пушкіным, прадоўжыў Лермантаў. Адзін пісаў, што страту Лермантава лёс кампенсіраваў Расіі Львом Талстым, маладосць якога і пачатак творчага шляху таксама звязаны з Каўказам.

Гэта — перш за ўсё — слова пра несмяротнасць паэзіі, пра веліч народа, што нараджае паэтаў, пра хараство зямлі, што іх натхняе.

У Пяцігорску — і гэта зусім натуральна — найбольш і думаеш, і чуеш пра аднаго, пра наймалодшага з вялікай тройкі.

У Пяцігорску пачыналася вясна.

Я ўпэўнены, што не была б яна, мая першая каўказская вясна, такой раскошна сонечнай і прывольнай, не прымушала б яна так шчасліва, глыбока задумвацца, каб не Пячорын, не Бэла, не Максім Максімавіч, не паслушнік Мцыры, каб не песні пра тое, як плывуць па блакіце белыя хмаркі-выгнанніцы, як гавораць высокія зоры...

І яшчэ — каб не звычайны казацкі домік у белым гушчары другіх нізкіх, утульных дамоў, домік, праз вокны якога відаць і Машук, і Бештаў, і старая чарэшня.

Сціплая, вельмі патрэбная. З пяшчотнымі белымі кветкамі.

1964

## СКРЫПКА ПЯЕ

Дзіва, шчаслівае дзіва бярэ — колькі яе, прыгажосці, і як я мог жыць, не бачыўшы да сарака пяці... ну, скажам, возера Лукаўскога, з векавымі дубамі і шэрымі крыжамі на касе, або магутнай, ласкавай Гарыні?..

Прыгажосць назіралі мы спачатку з акон "кукурузніка", які нас, трох следапытаў народнага слова, нёс над астраўкамі палёў, над лясамі і шчодра залітымі сёлета балотамі Піншчыны. Нізка ляцелі — адно любуйся. Але нядоўга. Толькі што ўзняўся, здаецца, наш "По-2", а ўжо і садзіцца на прылясную паляну траскучаю птушкай. Уяўляю, што нават і "ногі" наставіў насустрач зямлі, нібы грак. Селі. Ідзіце, нюхайце добра жыта ды бульбу ў белай, густой квецені. Хоць ты з дарогі збоч ды паляжы ў іх ніцма!..

Давыд-Гарадок.

Можна злятаць на Марс, вярнуцца адтуль і застаць над Гарынню ўсё тую ж бабку з вудай. Стаіць старая, як і стаяла сотні гадоў, спакойна і абыякава. Закідае па-бабску смешна, цераз галаву, паплёўвае на чарвяка, зрэдку здымае ў вядро краснапёрку... Многа іх тут, рыбакоў жаночага полу, відаць, ад пяці і да ста, і нікому такое не дзіўна.

Светлая хата над самай ракой. У гародзе растуць толькі кветкі, якія тут здавён сеюць на насенне. І вельмі любяць, здаецца,— не проста гандлююць. "Анюціны вочачкі",— расчульвалася цётка над сітам з мікраскапічным россыпам насення. Гаспадар, талковы і ветлівы дзядзька, ахвотна даў нам за сходную плату маторнай лодкі, паслаў з намі хлопца, загарэлага дзевяцікласніка.

Так мы глядзелі Гарынь, а потым Прыпяць. Трохі вудзілі, прыпыніўшыся ў спакуслівай мясціне, а больш любаваліся, з бадзёрым грукатам летучы па празрыстай і ціхай вадзе.

Усё прыгожа, аднак жа белыя "гускі" ў Воўчым возеры, у якое мы неўзабаве ўвайшлі з чарнаводнай, спакойнай і крыху не цераз верх перапоўненай Прыпяці,— прыгожыя асабліва. На суцэльным зялёным насціле іхніх лістоў самі "гускі" — ну, проста гусіная ферма, вялізная, толькі без гогату. І мы пайшлі тут без грукату, на вёслах, марудна разганяючы лодкай зялёна-белы цягучы насціл. Зблізку кветкі напаміналі мне жывое яшчэ з маленства ўяўленне: разрэзанае крутое яйка... Не, гэтым разам,— можа, ад думак пра бомбы і дзяцей, ад цяжкіх думак, якімі закончыўся мой учарашні дзень,— "гускі" здаваліся мне складзенымі далонькамі ручанятак з гулліва настаўленымі, як пялёсткі, пальцамі...

А зверху — раскошнае сонца і белыя воб: лакі. Плывуць паволі, амаль не плывуць. І высока, высока!..

Потым, пад вечар, нас калаціў на калдобах аўтобус. Нібы спецыяльна наняты, каб так калаціць. Але ўсё роўна мы любаваліся. І полем абапал дарогі, і хатамі пад цяжарам буслянак, і сонечным лесам...

Душою нашай пасажырскай кампаніі была разбітная, яшчэ не старая цыганка. Расказвала, добра па-беларуску, пра найбольшае шчасце свае валачашчае маладосці — як яна, седзячы побач з бацькам на возе, праехала з цэлым табарам, дарагія начальнічкі, цераз усю Варшаву!.. Пасля ўспамінаў яна пусцілася ў тэорыю — пачала нам тлумачыць іх цягу да вандравання. Гаворачы, час ад часу пакрыквала на Гарасіма, свайго басаногага хлапчука, што ўсё лез, выхіляўся з акна.

Пасля ў аўтобусе спявала скрыпка.

Іграў стары цыган. Без шапкі, лысы, у салдацкіх галіфэ і цяжкіх з выгляду кірзавых ботах. Мы дагналі яго на выездзе з чарговай вёскі, шафёр сам спыніўся, а "бэцька" адразу, толькі ўмасціўшыся на заднім сядзенні, сам пачаў іграць. За праезд. Па прывычцы.

Яна і спявала, і плакала, і рассыпалася смехам — ягоная скрыпка. І гэта было незвычайна да самай сапраўднай радасці — там, у глухім палескім лесе, на турботнай і пыльнай дарозе!..

Ды тут адзін з нас памыліўся... Проста не ведаў, што выйдзе з гэтага,— узяў свой фотаапарат і зняў музыку. Раз, пасля, для пэўнасці, яшчэ раз.

І скрыпка змоўкла.

Цыган і цыганка загаманілі па-свойму, гучна і незразумела. Пасля стары палажыў скрыпку ў футарал, узяў мяшок, падышоў да шафера, азірнуўся на нас і пакратаў яго за плячо. Аўтобус спыніўся. Музыка выйшаў, проста ў лесе, і, выходзячы, зноў азірнуўся.

Цыганка расказала нам, што жонку гэтага чалавека ў вайну расстралялі фашысты. Сам ён хаваўся з маленькім сынам. Пасля вайны малога забралі ў дзіцячы дом. А бацька ходзіць. Не проста ходзіць, а вось ужо васемнаццаць гадоў уцякае ад тых, што забілі жонку, што і яго шукаюць, каб забіць... Па фотаапараце ён "здагадаўся", што і мы — таксама ад тых, што шукаюць яго, і таму вось уцёк...

— Няшчасны чалавек, начальнічкі... Ачулі, як ён іграе?.. А як ён танцуе нашы цыганскія танцы! Піша!.. Гарасім, не выхіляйся, дурніца,— зачэпіць галаву ды выцягне!..

У лесе — сонца і цені. Малы аўтобус трасецца па карэнні і па калдобінах.

А скрыпка спявае. Сардэчна і сумна. Хоць весела як быццам, але вельмі сумна!..

Хоць музыка, з мяшком за плячыма і з футаралам пад пахай, ідзе цяпер недзе далека за намі.

Такі беспрытульны ў сонечным свеце!..

1964

## АПОЎНАЧЫ

За дваццаць пасляваенных гадоў я гэты хутар бачыў і вясной, і ўлетку, і ўвосені...

Вясной — калі трава асцярожненькай зелянінай пацягне даўно не араныя ўзгоркі, стракатыя ад сумных валуноў і рэдкіх кусцікаў ядлоўцу; калі ў лагчыне перад старою хатай зацвітуць вішні, а шматок зямлі разварушыцца шэрай свежасцю — на грады нейкія і трохі бульбы.

Улетку — калі бліжэй да гасцінца, па якім я іду або еду, амаль крынічна цурчыць сабе звілістая рачулка, супроць плыні якое трымаецца мужны мясцовы пячкур; калі дарогу пешаходу ці машыне перабягае, свідруючы пыл, па-інтэлігенцку сыценькі і па-хлапечы легкадумны суслік; калі я, не ўпершыню гледзячы на гэтыя запусцелыя, выпражаныя сонцам узгоркі, такія недарэчныя ў нашай, наогул хлебнай, мясцовасці, не ўпершыню чамусьці ўспамінаю палесцінскія пейзажы Паленава. Без Хрыста, без людзей, толькі з дзікай, спякотнай сумотай прыроды.

Увосені — калі на кірмашных вазах, зусім як быццам неасуджана, спакойна і сыта парохкваюць сальныя парсюкі, а ў кошыках дробнымі кветкамі чырванеюць грабеньчыкі курыных навабранцаў пеўнікаў; калі наш любы свет наскрозь прапахне антонаўкай, а маладзенькая, стрункая рабіна каля сцежкі стаіць, цнатліва абцяжараная першымі, румянымі ад шчасця гронкамі. Толькі зімой, у белай, лютай бездані, я памятаю яго, гэты хутар, з вайны. Нібыта я яго больш ніколі не бачыў — ні з саней, ні з машыны, ні з рыплівай сцежкі. Не з дзён вайны памятаю, а з начэй, яшчэ больш дакладна — з адной завірушнай поўначы...

Цяпер толькі адзін гэты ўпарты небарака ліпіць у лагчыне паміж узгоркамі, якім, на добры лад, найлепш было б зноў, як даўней, парасці сасоннікам. Усе іншыя хутары спакваля вярнуліся ў свой родны гарадок, адкуль іх калісьці, з цянсноты вуліц ды завулкаў, выпрасілі каморнікі буржуазнай Польшчы.

У вайну ў гарадку былі нямецкі зондэрфюрэр і беларускі бургамістр, прыезджыя жандары і мясцовыя паліцаі. Апорны пункт фашызму, своеасаблівы маленькі гарнізон. Пад канец акупацыі, як гэта рабілася ў такіх гарнізонах, рэшце мужчын гітлераўцы, не пытаючыся згоды, выдалі зброю і назвалі іх самаахоўай. З адборных катарэзнікаў-паліцаяў арганізаваны быў карны эскадрон. На вышках, што тырчалі над дратамі ды бункерамі гарнізона, стаялі вартавыя з кулямётамі. Бліжэйшыя хутары былі, такім чынам, заўсёды на вачах

ва ўлады, у арбіце амаль прыцэльнага агню.

Па-рознаму мы, партызаны, любілі іх, гэтыя хутары...

На адным з іх трох нашых хлопцаў, што асталіся перадняваць у знаёмага, хтосьці выдаў. Яны адстрэльваліся і згарэлі разам з гумном. А хутаранца з сям'ёю чамусьці не расстралялі, а толькі вывезлі ў Нямеччыну, адкуль ён, дарэчы, і не вярнуўся...

На другім хутары мяне з таварышам карміла неяк ноччу — небагата, але цёпла — ціхая, спрацаваная жанчына. Маці іншых дзяцей (у хаце былі яе муж, дарослая дачка і сын-падлетак), яна, вядома, і баялася за іх, і нас шкадавала — і самым звычайным, і самым святым шкадаваннем, якога мы бачылі многа ад нашых людзей.

На трэцім хутары, ледзь не найбліжэйшым да гарнізона, у нас быў сувязны. Такі сабе з выгляду малапрыкметны дзядзька Журавель, якому якраз больш пасавала быць незаможным хутаранцам, чым мешчанінам, бо тым і ў гэтым гарадку, згодна з нейкай дурной местачковай традыцыяй, належыцца лічыць вясковых хамамі. Дзядзькавы вока і вуха служылі нам штосьці з паўгода, а потым ён раз не з'явіўся на ўмоўленае месца, другі раз, трэці... І мы паехалі праверыць.

Ноч выбралі на гэта адпаведную, калі, як кажуць, добры гаспадар і сабаку на двор не выжане. Завея пачала пашкрэбваць ды пасвістваць звечара.

Пры конях, якіх мы паставілі ў зацішку за гумном, застаўся Ермакоў. Туды Журавель паслаў свайго сына, падкінуць «беднай скацінцы» сена. Самога дзядзьку Коля Шчэрба затрымаў для гутаркі ў сенцах. А я зайшоў у хату. Я быў усё-такі прастуджаны, у чым зусім упэўніўся ў дарозе. Цяжкая галава гула, то горача рабілася, то холадна. Сёння мне, дурню, не ехаць было, а выпіць чаго ды прапацець пад кажухом...

Вокны былі знадворку, для цяпла, пазавешваны саламянымі матамі. У хаце душна. Гаспадыня, мы ведалі гэта з даўніх скаргаў Жураўля, была нямоглая; яна ляжала на печы і толькі час ад часу шамацела за комінам — ці ад нямогласці сваёй, ці ў непакоі. Цьмяная, нібы таксама спалоханая, лямпа прымасцілася на століку каля шырокага нікеляванага ложка. На ложку, амаль прыціснуўшыся бокам да сцяны, ляжала чарнявая маладзічка, да самага рота накрыўшыся чырвонай ватняй коўдрай. Адгэтуль, з другое падушкі, устаў нядаўна, па зусім нечаканай трывозе, гаспадарскі сын.

Дзве думкі прамільгнулі ў маёй галаве, калі я першы раз зірнуў на гэты ложак. Адна — маладая, раўнівая — пра гэтых, што тут сабе

папоцемку туляцца ды шэпчуцца ў цяпле, пакуль на свеце сцюжа і вайна; другая думка, прыкрая, — пра ложак: відаць, гэты нікель двухспальны, такі шыкарны ў беднай цясноце, з пасагу; відаць, яго тата нявесткі — мы ведалі ўжо, што яна з гарадка, — прыдбаў пасля ліквідацыі гета...

Я стаяў сярод хаты, даволі зблізку глядзеў на маладзічку, трохі любаваўся ёю, нават і праз грыпознае ачмурэнне, што бачачы, а што ўяўляючы, і ўжо ненавідзеў яе зусім непатрэбны, хоць, зрэшты, і зразумелы мне страх.

Яна не проста была высока, да самага рота, накрытая коўдрай, але за край яе, абапал пухкіх лялечных шчок, трымалася аберуч. Рукі («аголеныя, точаныя, цёплыя», — падумаў я) былі схаваныя, а наверсе — толькі сціснутыя пальчыкі, двойчы па чатыры, з нейкім дзіцячым і непрыемным адчаем трымалі адзіны ратунак — пасажную коўдру.

— Што ж вы такая бледная? Чаго?

Яна прыкметна сабралася з духам, каўтнула сліну і ціха, яшчэ не плачучы, спыталася:

— А куды павялі майго мужа?

Сюды, у такое блізкае суседства з гарнізонам, наш брат заглядваў вельмі рэдка. Можна думаць, што я быў першы партызан, якога ўбачыла гэтае дзяўчо, што прыйшло на хутар, як мы даведаліся сёння, тры тыдні таму назад. Там, дзе яна жыла раней, гітлераўцы для многіх мяшчан, — якіх, як і ўсю Заходнюю Беларусь, дваццаты век прызвычаіў да частых зменаў улады, — былі проста немцамі, яшчэ раз новымі панамі, страшнымі для «васточнікаў», для «жыдкоў» і для тых, хто не слухаўся. А такія цяпер, пасля расправы з камуністамі і савецкім актывам, каго ўдалося злавіць, пасля масавага знішчэння жыдоў, жылі далёка, у вёсках, або паўцякалі ў лясы. Для гэтай, відаць, вясёлай балбатункі і скакухі паліцаі былі не здраднікамі радзімы і нікчэмнымі паслугачамі ворага, не забойцамі і падпальшчыкамі, а перш за ўсё хлопцамі, кавалерамі, што ўвіхаліся ў клубе і каля яе.

А тут, за нейкі кіламетр ад таго клуба, — партызан!..

Зрэшты, у тым асяроддзі, дзе яна вырастала на дзеўку, пра нас не гаварылася «партызаны». Я не быў для яе адным з тых, каго па радыё, якое мы слухалі з Масквы, і ў газетах, якія нам дастаўлялі самалёты з Вялікай зямлі, ужо на ўвесь свет называлі народнымі мсціўцамі. Не лічыла яна мяне і салдатам шматмільённай, не толькі савецкай, але і міжнароднай арміі змагароў з найбольшай бядой чалавецтва — фашызмам. Я быў для яе... мала, што проста вясковы хам, але ж і бандыт, адзін з тых «сталінскіх бандытаў», пра якіх яна чула і, магчыма, чытала неверагодную процьму жахаў і агіднасцей...

І вось я, бандыт, стаю над ёю і ўжо, відаць, як ёй здаецца, гатовы... добра, калі толькі насмяяцца, а то дык потым і замардаваць... А мужа павялі!.. Куды?..

— Не бойцеся, ён зараз прыйдзе... Чуеце, вось ён ідзе.

Мне і самому стала як быццам прыемна, што ён нарэшце ўвайшоў з двара. Разгублены, не вельмі ўпэўнены, што зноў апынецца пад коўдрай...

— Вашы прасілі, таварыш, каб вы ўжо ішлі...

Я развітаўся і выйшаў з хаты не столькі злосны, як пакрыўджаны. Так, у маім абурэнні балюча ныла перш за ўсё крыўда. Можа, я трохі раскіс ад прастуды? Ды не, не тое!.. Я ж быў таксама малады, ненамнога старэйшы за таго... ледзь не «з душком» са страху мужа; я не адседжваўся, як ён, пад цёплым крылом гарнізона, мне было чым ганарыцца, і мне было горка, што на нас, на мяне... Ды ну іх к чорту! «Крывыя вочы крыва бачаць».

Крыўду і злосць прарвала лаянкай толькі тады, як мы ад'ехаліся ў завірушны змрок і Шчэрба расказаў, што Журавель наш напрамілы бог адпрошваецца, каб не быць сувязным. Нявесткі, кажа, баіцца: «У хаце, хлопцы, чужы чалавек». Можа, і праўду здрэйфіў, а можа, проста віляе — нейтральным быць захацелася, чыстым, як гаварылі, і для нямецкіх і для савецкіх...

Хто ездзіў верхам у завіруху, ды яшчэ ноччу, калі ні конь, ні сам дарогі не бачыш, той ведае, што гэта за смак. Ты прыўзняты над зямлёй, а тысяча тысяч вятроў, адзін за адным, з невычарпальным запасам з'едлівай весялосці пранізваюць цябе, безабароннага, наскрозь. І зноў, і зноў, і бясконца наскрозь!.. У твар сячэ, калені аж звіняць. А мала табе гэтага, мала яшчэ і прастуды, дык на і паганы настрой...

Хутарскою дарогай нам трэба было выбрацца на гасцінец, значна правей ад гарадка, каб па гасцінцы праскочыць да вёскі Мокрае, а там ужо дахаты павярнуць, у лес. Дарогі, уласна кажучы, не было, была замеценая, злосна раскудзеленая чыстаполіца. Чэрці дзяругамі б'юцца. Ды Шчэрбаў конь знаходзіў неяк дарогу. Коля прабіраўся першы, я за ім, а ззаду Ермакоў. Трымаліся адзін за адным бліжэй, чым звычайна, і, як заўсёды ў дарозе, маўчалі. Сёння нават і думаць холадна.

Я думаў пра адно. Гэта ўжо і не думка была, не жаданне такое, а нейкая фата маргана, прывід цяпла, утульнасці, — гарачага ў нутро і з галавою пад кажух! — у што я верыў, не верыў, зноў нібы верыў... Але яно вяло мяне, і, абапёршыся на каня, на двух таварышаў, я ехаў, плыў наперад, у сцюжу і шолам.

Конь мой наткнуўся на пярэдняга. Я тарганууў яго повадам улева і, параўняўшыся са Шчэрбам, наблізіўся тварам да яго твару, нібы заглянуў, каб убачыць, чаго ён хоча.

— Ну, як ты? — гукнуў мне Коля, нібы з-пад падушкі.

— Хранова, — адказаў я з тэлеграфнай скупасцю, прыкрыўшы рот ад ветру.

— Га-ла-ма-ла-ба-ла! — зноў гукнуў ён.

— Што? Не чуваць ні...

— Хутар, кажу! Во, направа!..

Я зразумеў: да Мокрага яшчэ далёка, трэба зайсці сюды.

Праўда, нам і Журавель намякаў — перакусіць, ды там не захацелася: і не настрой быў, і не рассядацца ж пад самым бокам у паліцаяў. Ды і прасіў ён... Іменна — толькі намякаў.

Так мы заехалі тады на гэты, цяпер ужо самотны, хутар у лагчыне.

Цяпер — самотны... Тады ж, калі мы пад'язджалі да яго, ён быў адзін ва ўсім свеце. Як астравок, да якога мы падплылі, каб узабрацца нарэшце на коўзкі абрывісты бераг, адчуць нарэшце зямлю пад нагамі, уздыхнуць, азірнуцца, падумаць, што ж далей...

Так думаў я. А хлопцам, відаць, проста пагрэцца хацелася, перакусіць. Ды і мяне, вядома, было ім шкада.

Хоць я не настолькі раскіс. Злезшы з каня, я першы падышоў да цёмнага акна і пастукаў у шыбу.

Ні гуку, ні шолаху.

Можа, я не чую?..

Пастукаў зноў. Тут і Шчэрба мне дапамог, скалануўшы ўсю раму сваім кулачышчам.

— Ідзе! — гукнуў ён, нахіліўшыся да мяне. Гукнуў замоцна, бо тут, ад ветру, было зацішней.

Мы жылі ў сваім часе, думкі пра ветлівасць-няветлівасць вось так калаціць сярод ночы ў чужое акно — не было. Мы былі нават злосныя і мелі права на гэтую злосць. Можа, таксама адлежваецца тут які-небудзь цёпленькі, непалоханы муж або нейтральны, чысценькі свёкар... Падумаеш, парушылі яго спакой!.. Яшчэ і прыкідваецца, капцюх, што не чуе.

Я стаяў першы ад дзвярэй, чуў ужо, што за імі нехта шоргае рукой па дошках, шукаючы заскак. Я трымаў перад сабой... ды не, не аўтамат, а ліхтарык, яшчэ не ўключаны.

Заскак нарэшце лузгануў, ляснула клямка, і дзверы адчыніліся.

Ліхтарык засвяціў.

У гэтым моманце я прадбачыў, бо мне, па настроі, найбольш адпаведна было прадбачыць ужо не заспаны, ужо спалоханы твар

хутаранца, які вось і аддасць тым часам сваю даніну, свой вялікі ўклад ва ўсёнароднае змаганне — адпусціць нам на нейкія паўгадзіны хатняга цяпла, чаго-небудзь пад'есці і, аднаму, чым-небудзь палячыцца. Прабачце, што мы палюбуемся вамі вось так, па-віднаму!..

Але ў святле ліхтарыка стаяла за парогам белая, у адной кашулі, дзяўчынка гадоў дзесяці. Ударана святлом, яна закрылася левай рукой, прылажыўшы яе запясцем да лба, і з-пад рукі глядзела, міргала на нас.

— Хто яшчэ ў хаце?

— Я і Толік. Мама да цёткі Ганны пайшла, бо яна хворая.

— Чаму не адчыняла?.. Бацька дзе?

Дзяўчынка адняла з ілба левую руку, адкрыла ўвесь твар, а правай, з дзіўнай на гэты ўзрост — не тое каб ад бабулі завучанай, але старэчай неяк самахоць — з найбольшай, можа, апошняй у жыцці сур'ёзнасцю перахрысцілася на ўвесь мах:

— Ваймяца і сына, і святога духа, амінь. Дзядзечкі, дальбог жа, не чула. А таты ў нас даўно няма. Яшчэ з польскай вайны.

Гэта было так страшна... не, так незвычайна і нечакана, і гэта так распранула мяне, што я... ледзь не ўсхліпнуў.

— Ты зачыняйся. Ну! Бяжы на печ. Да Толіка.

Ліхтарык згас.

Дзверы зачыніліся. Зноў лузгануў нарэзамі заскак.

Мы моўчкі селі і паехалі.

...Ужо неаднойчы за дваццаць гадоў мне можна было б збочыць з гасцінца на гэты хутар — зірнуць, што вырасла з яе, той маленькай жанчыны. Няўжо гэта яна, стаўшы жонкай ды гаспадыняй, так укаранілася тут, што аніяк не хоча выбрацца ці ў гарадок, ці ў Мокрае?

А можа, хтосьці даўно ўжо звёз яе, настаўніцу ці доктарку, у далёкі замуж — далёкі па-сучаснаму, не ў трэцюю вёску, а за тры тысячы кіламетраў...

Я мог бы, вядома, зайсці, паглядзець, а то і ўспомніць разам.

Ды не зайшоў. І не зайду. Бо не хачу.

Няхай яна стаіць у маёй памяці такою, як была, — у белай лютай бездані, у яркім крузе святла, у кароткай кужэльнай кашульцы...

Толькі няхай не баіцца нас, тых, што і ў завею не спім з-за яе, дзеля такіх, як яна.

Я не паспеў ёй гэтага сказаць: дзіцяці было холадна.

*1966*

## ГЛЯДЗІЦЕ НА ТРАВУ

На сонечна-іскрыстай гурбе снегу сядзіць і час ад часу гаўкае шчанюк. Ззаду за ім, воддаль і нібы ў яме, відаць шэры трохкутны перад самотнага на пустой сядзібе пагрэбніка. Над пагрэбнікам — сонца. Тое, што толькі свеціць і ходзіць нізка.

Снежань. Год сорак трэці.

Якая даўніна — амаль чвэртка стагоддзя мінула.

І дробязь якая — на гурбе снегу шчанюк...

...Яго блазенскі, радасны брэх я чую праз гул і бразганне вялікага, бывалага аўтобуса, што паўзе па гравійцы, з маруднай, упартай стараннасцю лічачы ямы і ямкі.

Побач са мной галаганіць сусед па сядзенні. Ён падвыпіў, смелы і ветлівы, сліна так і ляціць ад нябрытае морды. Яшчэ румянай. Відаць, не толькі ад перакускі ў райцэнтры. Хоць і ў гадах ён, мне здаецца, вельмі даўно, гэты кульгавы грукач, — з таго часу, як я хадзіў у іхнюю вёску ў школу.

Чаму ж так груба пра чалавека: «нябрытая морда»?..

Мы толькі што сустрэліся з ім у рэстаране і там жа толькі што рассталіся з яго аднавяскоўцамі. Нядзеля, яны засталіся: дабраць. Утрох. Мае знаёмыя яшчэ з-за парты, а чужыя ўжо цэлую вечнасць.

Калі я зайшоў у рэстаран, яны мяне збянтэжылі гасцінным п'яным вэрхалам:

— Чаго табе да буфета — што ў нас, не тая самая?

— Браток, дабавім! Дзевушка, сюды!

— Ну, ты не сядзеш, вядома, ого!..

Адзін з іх — Смятана, што мог калісьці, у школе, хадзіць і бегаць на руках, — нават сказаў, кіўнуўшы на мой карэспандэнцкі апарат:

— Зняў бы нас, Васька Андрэевіч! Хоць атрыцацельных!

Ад нечаканай сустрэчы было так прыкра, што я і піва не выпіў каля буфета, а толькі ўзяў не вельмі патрэбныя мне цыгарэты, каб найхутчэй, і вылузаўся з душнай, цеснай гаманы на двор.

— Яно, канешне, таварыш Зянько, гэта вам не кампанія. Хаця, як вы і самі не горш за мяне ведаеце, і ў паліцыі былі ўсякія. Каторы з іх...

Кульгавы сеў каля мяне як быццам проста на вольнае месца. І гутарку пачаў са мною сам. Як і тыя трох, пасмялеўшы ад чаркі. З ім я ўжо сустракаўся разоў некалькі пасля вайны, аднак ён толькі здароўкаўся са мной, нават шапку здымаў, з нейкай няшчырай, падкрэсленай і прыбітай ветлівасцю, але ніколі не загаворваў.

— Хоць бы і гэты Міцька Смятана. Скажам, ён тожа паліцай. Але

ж не першы ён туды пайшоў! Сілай аружжыя ўзялі. І гэтыя абодва: Вечар і Максімук. Проці вады, таварыш Зянько, не дыхнеш. Кожная ўласць...

З суседам мне непрыемна. Лепш ён маўчаў бы, а я глядзеў бы ў акно. Жыта красуе, ходзіць хвалямі. Столькі зялёнага ўсюды! «Глядзіце на траву — няхай на зеляніне адпачынуць вочы». Успамінаецца далёкае, з перадваеннай службы ў арміі: словы сяржанта на стрэльбішчы. Вочы ўжо трохі прытаміліся за гэты час. І сэрцу добра супачыць ды супакоіцца. Пасля трывог, перад трывогамі. Дарога супакойвае. Вось толькі ён, чортведама навошта і чаму, гародзіць мне даўно вядомае...

У іх вялікай вёсцы, якая з-за царквы і дзвюх-трох крам здаўна прывыкла лічыць сябе мястэчкам, пры акупацыі стаяў фашысцкі гарнізон. «Сіла аружжыя» была спачатку ў тых двух нямецкіх жандараў, што прыехалі ў гэтае... няхай сабе мястэчка, з раённага гарадка. Штосьці адразу, у ліпені сорак першага. Яны ўжо, аднак, былі не адны, акупанты, а з памагатымі. Два паліцаі і перакладчык. Паліцаі былі яшчэ ў сваёй вопратцы, толькі нехлямяжа падпяразаныя па пінжаках патранташамі, і з белымі павязкамі на рукавах, а называліся «службай парадку». Аднаго з іх мястэчка ведала: шафёр Нашора, што вазіў старшыню райсавета. Перакладчыка таксама пазналі: Шлёмы-цялятніка сын, што вучыўся на адваката. Ён быў, вядома, без вінтоўкі, з жоўтымі латкамі на грудзях і спіне, і ўсё нібыта чакаў, з якога боку ўдараць, хоць азірнуццца баяўся. І гаворачы, і як маўчаў.

— Хто ў нас пайшоў тады, адразу, у паліцыю? Першы — Басалай, Алены Конашавай байстручок. Самі, таварыш Зянько, не горш за мяне ведаеце — галадранец і зладзяйчук на ўсё мястэчка. Яму забіць, забраць, падпаліць — што нам з вамі ў спёку напіцца вады. А Гусаковіч, той жа ў савецкай міліцыі служыў, дык спалохаўся, што актывіст — прычэпяцца немцы, таксама тады запісаўся. Яно, калі падумаўшы, хто ж гэта мог спадзявацца, што будзе столькі крыві. А парадак...

Гусаковіча ўлетку сорак трэцяга, тады ён быў ужо камендантам, нашы хлопцы знялі з веласіпеда ў белы дзень, за два кіламетры ад гарнізона. Без шапкі ехаў, кучаравы, з аўтаматам на грудзях. За ім — пятнаццаць падначаленых. Вясёлыя, смелыя ўсе, пераможцы. Днямі закончылася блакада пушчы, а партызанскія вёскі на подступах яе былі да крыві растаптаныя ботамі, капытамі, гусеніцамі танкетак, змоўклі і пачарнелі ад агню. І партызаны заціхлі, нарэшце, — каго ж тут баяцца?.. Гусаковічу, як самаму заслужанаму, нават з медалём на

чорным мундзіры, прыйшлася першая, сігнальная чарга. Хапіла там на ўсіх пятнаццаць...

— А потым першыя пачалі браць другіх, для кампаніі. Каго ўгаворваць, а каго дык і сілай. Як і майго Сярожку. Вы ж самі, таварыш Зянько, не горш за мяне ведаеце — ён жа яшчэ дзіця быў горкае. Старэйшыя і то...

...Іменна тут з глыбіні мае памяці ўпершыню выплывае снежная гурба пад нізкім сонцам і звонкі брэх шчанюка, што неўзабаве стане дарослым сабакам. Пярэсты, чорнае з белым. Адно вуха ад фанабэрыі закасалася. А ён сабе, блазнота, гаўкае. Рад, што жыве...

Гурбу надзьмула ў тым месцы, дзе яшчэ ўвосені стаяла хата. Яна згарэла ад дурное кулі. Гасцінцам ехала паліцыя, аднаму захацелася стрэліць, куля аказалася трасірная. Ну, загарэлася, падумаеш. Усё парадак — больш будуць баяцца!..

Дзядзьку Петрусю, гаспадару тае хаты, гэта было не першае гора. Улетку ягонага зяця, што жыў на хутары, за выганам, нехта выдаў як партызанскага сувязнога. Прыехалі не толькі бобікі, але і немцы, не з мястэчка, а з гарадка, забралі ўсю сям'ю, як хто стаяў, і павязлі. Хату і ўсе будынкі, як заўсёды па-іхняму, спалілі. Адно толькі і пачуў дзядзька Пятрусь, што зяцевых старых, свата Рамана і свацею Тэклю, каб не везці нямоглых дарма ў Нямеччыну, застрэлілі адразу, у гарадку. А Ліды з малымі і Мікалая — няма...

Нешта за год перад гэтым адзіны сын у дзядзькі Петруся, ціхі шавец Аркадзік, памёр. Ён і шаўцом сядзеў у хаце, бо цяжкай работы рабіць не мог, хварэючы ледзь не змалку. А ціхі быў не толькі з-за сухотаў, а характарам — ціхі, разумны хлопец і нават трохі, па бацьку, вясёлы. Ціха вясёлы, па кволасці, з дабрадушнай усмешкай.

Дзядзька Пятрусь быў жартаўнік. Колькі я яго памятаю, — з самага малку, — столькі ён гараваў і жартаваў.

Перад ваенным пажарам ён пагарэў быў яшчэ чысцей, нават і пагрэбніка тады не засталося. Перад Аркадзікам памерла жонка, а перад ёю — старэйшы сын, Міхаль, таксама ўжо дарослым дзецюком. Ну, а нястачу вечную ды цяжкую працу, што на сябе, што на другіх, — гэта ўжо і не лічы. А ён быў як быццам заўсёды вясёлы, усё выдумляў.

Мы жылі па суседству, і калі яны пагарэлі, дык зімавалі ў нас. Пайшоў ён у першае ранне пасля пажару на сваё горкае котлішча, пастаяў перад печчу, што адна ацалела, прыйшоў і кажа жонцы:

— А куры нашы ў падпечку сакочуць! Пайдзі ты, Алена, пасып ім чаго. Каторая пара!..

Памерла цётка Алена, дык ён сам адвозіў пасля пахавання папа.

Быў у нас такі поп, здаравіла і грубіян, любіў выпіць, а на ранейшым прыходзе і да бабы нейкай, казалі, хадзіў, дык у нас яго называлі Распуцін. Павёз яго дзядзька Пятрусь, і гора — горам, а не вытрываў-такі: нібыта незнарок, абярнуўся з бацюшкам у сумёт.

— Даў мне Распуцін малебен, ну даў!..

Нават калі памёр Аркадзік і дзядзька застаўся ў хаце адзін, бо Ліда была ўжо замужам, стары натуры свае не змяніў. Сустрэў я яго неяк на загуменнай сцежцы і не паспеў спытацца адкуль — ён расказаў мне сам:

— Да Аркадзея хадзіў. Што ні спытаю — нічога, шэльма, не хоча казаць!..

А бачылі дзядзьку, што плакаў ён на магіле часта, аднойчы так і заснуў, ашчарэпіўшы тую зялёную градку рукамі.

Чым больш ліхая доля цііснула чалавека, тым цяжэй было яму падрабляцца пад весялосць. Калі забралі немцы дачку з малымі і зяця, стары змоўк і падбіўся, здаецца, зусім.

У Ліды быў сынок, які яшчэ, на радасць дзеду, не выгаворваў правільна свайго імя — шыракароты смяхунчык Уван. Была і ўнучка Соня, піскля ў пялёнках, не многа пацехі. А ўнука дзядзька Пятрусь ад свае адзіноты вельмі любіў. Дзед то туды, на хутар, тупае — ці па прычыне якой, ці больш так сабе, то ён Увана ў вёску нясе, па выгане, сцежкай у куп'і, то ён з ім гаворыць, як са сталым, ходзячы па сваім двары, то яны ў хаце пастануць адзін перад адным на карачкі і гаўкаюць і рагочуць — хоць ты абодвух гані ў куток, на калені.

Пасля ў іх знайшоўся для весялосці добры памочнік — пярэстае, пузата-цёпленькае сучаня. З сабой, калі ішоў на хутар, дзед яго не браў: казаў, што сам ён, Цюлік, не дабяжыць, а несці яго, падлу, на руках — не хочацца. Гэты была не праўда, а хітрасць такая: каб Увану яшчэ больш хацелася ў вёску, да дзеда.

Ад лета, у сорак трэцім, Цюлік застаўся ў дзядзькі Петруся адзін.

— Усяго, браце Васіль, і радні, — нібы яшчэ ўсё жартаваў стары, калі я неяк ноччу, увосені, зайшоў з хлопцамі ў нашу вёску і заглянуў да яго на пагрэбнік.

Сучаня тым часам, да зімы, падрасло, і гаспадар пачаў яго на дзень, дзеля парадку, навязваць. Шчанюк скавытаў і выцяленькваў каля будкі, напяўшы ланцуг, такую слёзную літанію, што цесна было на вельмі прасторным пасля пажару двары. Калі стары праходзіў міма, шчанюк наструньваў прывязь і быў бясконца шчаслівы, што яму ўдавалася вернападдана, абелап ашчарэпіць дзедава тоўстае калена з вялікай, разморськанай дзіркай у брудным шарачку. Слуга паскавытаў, а пан услых перакладаў з сабачай мовы яго малёканне:

— А гаспадарык мой, а родненькі! А колькі хочаш вазьмі — ці грашыма, ці жытам — адно спусці!..

Так было, праўда, толькі аднойчы. Смеючыся з Цюліка, гладзячы яго па галаве ды па спіне, дзядзька Пятрусь нешта такое раптам успомніў. Кашкануў малога вялізным хадаком з аўтамабільнай пакрышкі, а сам адышоўся да непатрэбнага плота, які чамусьці не згарэў, і адвярнуўся, каб нават сабака не бачыў, чаго ён маўчыць...

Цюлік быў яшчэ дурны. Усе сабакі ў вёсцы ўжо даўно прывыклі заціхаць ды зашывацца ў будкі, абы пачулі стрэл. Удзень — фашысцкі, ноччу — наш. А ён не разбіраўся, гаўкаў. Весела! Днём ды яшчэ не на прывязі — асабліва...

...Успамін гэты цёпла і горка махнуўся ў маёй памяці, пад гул ды бразгаценне аўтобуса, пад гаману пасажыраў, пад неадчэпнае вяканне суседа па сядзенні.

— А дзе ваш сын цяпер? — спытаўся я ў яго, каб хоць гэтым заткнуць яго п'янае плявузганне.

Ды не заткнуў.

— Дзякуй богу, работая ў шахтах, таварыш Зянько. Ужо два разы ў госці прыязджаў. Можа, і сёлета, калі водпуск дадуць, прыедзе. Жонка расейка, нічога сабе маладзіца, хоць і васточная. Недзе адтуляка, з Сібіры. Двойка дзетак, пакуль што дзяўчаткі...

— Відаць, і пад шляпњ?

— Не, ён у кепцы. Касцюм-то добры, новенькі. Пад гальштукам, а вось...

— І сала ёсць?

— Ці гладкі, кажаце? А што ж, зарабляе ён, Сярожка, добра, не п'е. Самі не горш за мяне ведаеце, таварыш Зянько, калі капейку шанаваць...

...На вуліцы мае вёскі, перад шчанюком на гурбе, гэты старанны сённяшні шахцёр стаяў тады без гальштука. І не ў чорных шуцманаўскіх неданосках. Ім, паліцаям, на тую зіму выдалі белыя, з лёгкім блакітным адценнем, бушлаты. З капюшонамі, што ў ціхі час адкладваліся на спіну. Стаяў ён, глядзеў на сонца, на сабаку, што брэша і не баіцца... Хлопец яшчэ маладзенькі, па-зімоваму румяны. Чорнае кепі трохі набакір. Нават прыгожы.

Ён быў, вядома, не адзін.

Побач стаялі сам гер вахтмайстар і сам спадар камендант.

Пажылы, азызлы Трайбэр, жандар, што пацяжэў, апіўшыся людской крыві. Ён ужо трэці год выконвае за светам волю сваіх шматлікіх фюрэраў, з адным, найбольшым, у недасягальнай вышыні. Выконвае, можа, калі ўжо не вельмі свядома, дык яшчэ ўсё ахвотна, а

то дык думаючы ўжо толькі пра тое, як бы гэта хутчэй адгэтуль выбрацца. Што ж да магчымай адказнасці, калі ўжо маўчаць пра чалавечае сумленне, — на гэта ёсць начальства, фюрэры. Так спрадвеку прывыклі думаць салдаты, а Трайбэр лічыў сябе толькі нямецкім салдатам, яшчэ з першай сусветнай вайны.

Высокі і мажны Нашора, ажно сутулаваты ад бязлітаснай дужасці, адзін з самых першых у нашай мясцовасці паліцаяў, які пасля смерці Гусаковіча прыйшоў з гарадка ў мястэчка камендантам. Нельга сказаць, што ў яго не было ніякага светапогляду. Той, каго ён калісьці вазіў, старшыня райсавета, стаў камандзірам брыгады. Двойчы таварыш камбрыг спрабаваў дакапацца да сэрца ці розуму свайго былога вадзіцеля (напісаў яму праз разведку два вялікія пісьмы), проста па-чалавечы і з папулярнай, пераканаўчай палітграматай. На адно пісьмо камендант не адказаў, другому пашанцавала. Адказ, трэба думаць, быў напісаны, тоячыся ад Трайбэра: ні «новай Еўропы», ні «вызваленай Вайсрутэніі» там не было. Пісьмо і пачыналася і канчалася каравай лаянкай, у якую былі тоўста загорнуты шэсць слоў Нашоравай жыццёвай філасофіі: «Раней ты панаваў, цяпер я папаную». З яго боку гэта была ўжо і смеласць і самастойнасць. Праўда, пасля Сталінграда, Курскай дугі, прарыву на Ўкраіне, і асабліва вызвалення Гомеля — найбліжэй! — у Нашоры, калі і да яго ў цішыні адзіноты дабіраўся сякі-такі одум, пачыналі часамі паходжваць па скуры мурашкі. У гэтай жывёліны спіна была не аслонена поўсцю. Немцы яго хвалілі, узнагародзілі двума медалямі, але ў душы (калі ўжо гаварыць пра фашысцкую душу) пагарджалі ім, як і ўсімі «недачалавекамі», і карысталіся гэтай анучай па неабходнасці і да часу. А сам Нашора, які спачатку захапляўся і немцамі і ўсім нямецкім — сіла, парадак! — цяпер, у моманты пэўнай свабоды ад ап'янення алкаголем і крывёй, падумваў, што і ім, відаць, не справіцца з бальшавікамі. Але тое «не справіцца» было яшчэ, здавалася, далёка.

Для гэтых двух, вахтмайстра і каменданта, дзень той быў самы звычайны, будзённы. Проста праветрыцца выехалі з-за калючага дроту ў адну з бліжэйшых вёсак, ну, і ўзяць пару падсвінкаў. Навокал вёскі стаяць пасты, каманда ходзіць па хлявах, а штаб тым часам сумуе. Ішлі сабе па вуліцы, цяпер спыніліся перад сабакам.

Трайбэр нібыта дрэмле, гледзячы на сонца; Нашора цярпліва састаіць пры ім — яшчэ, здаецца, трохі — і пазяхне, аж да вывіху сківіц, нават і без загаду. Маўчаць.

Вясёлы толькі іх маладзенькі навічок. Ці ён ахова, ці сувязны, ці любімец абодвух або аднаго каторага — гэта няважна. Важней за ўсё

тое, што ён вельмі рады. Жыццю, маладосці, свайму, такому чыстаму яшчэ, бушлату, іхняй «сіле аружжыя». Яшчэ так нядаўна ён быў проста падшыванец, сын калекі, — яго і самога ў школе аднагодкі бяздумна і балюча лаялі: Кульгач, — а цяпер ён — «як усе» ў іх мястэчку, «як людзі». Хоць за паўтара месяца яго службы і не было пакуль што сур'ёзных аперацый супроць бандытаў і іх памочнікаў, ён ужо двойчы піў ром з кантовай нямецкай пляшкі, які ім, паліцыі, выдаюць час ад часу, які ён бачыў раней толькі здалёк. Адураны хлапчук, ён быў перш за ўсё п'яны ад першай чаркі поўнай улады над жыццём і смерцю людзей, што думаюць інакш, чым ён, п'яны сваёй вышэйшасцю над імі, свабодай, нават загадам рабіць што хочаш, абы толькі разам з усімі, з кім служыш, — п'яны сваім неўсвядомленым, пачатковым, яшчэ салодкім і хмельным фашызмам.

Хлопец ажно патупвае, пераступае з нагі на нагу, ледзь-ледзь не паскавытвае...

Шчанюк на гурбе сядзіць перад імі, з закасаным фанабэрыста вухам, глядзіць на людзей — для яго яны людзі — і час ад часу весела гаўкае.

Хлопцу ў белым бушлаце таксама хочацца штосьці сказаць ці зрабіць...

— Мой Сярожка, — праз гул і бразгаценне аўтобуса плявузгае побач са мной п'янаваты сусед, — ён хлопец быў недурны. Ён, таварыш Зянько, людзям урада ніякага не рабіў. Ён тыя разы...

Сонны вахгмайстар нарэшце загаварыў.

— Der Hund ist noch ganz jung und dumm[1], — буркнуў ён вяла, без усякага падабенства ўсмешкі.

З усёй гэтай прамудрасці Нашора найлепш зразумеў слова «гунд».

— Ё, ё, — згадзіўся ён. — Гунд. Яшчэ і гаўкае, бандыцкая парода.

І засмяяўся, коратка і басавіта гыкнуў: трохі па службе, трошкі па дружбе, больш — ад удалага адказу.

— А можа, я яго?..- спытаўся хлопец, асмелены гэтым начальніцкім жартам.

— Сярожа, шысан[2], гут? — падаў вышэй яго просьбу, надзею, нясмелую радасць спадар камендант.

— Scheissegal[3].

Гэтае слова Нашора даўно прывык разумець.

— Давай, — пераклаў ён дазвол. — Паглядзім, што ты за стралок. Ды ўжо і дахаты збірацца пара. Сігналь.

---

[1] Сабака яшчэ зусім малады і дурны.
[2] Schissen - страляць.
[3] Напляваць.

Якое гэта шчасце — вось так, адчуваючы ў жменях вясёлую сілу, злажыцца, падвесці знізу... так... уладна ўзяць правым вокам па мушку, націснуць і...

— Яго, каб гэта цяпер, — чуецца голас кульгавага бацькі, — дык, можа, і не судзілі б, таварыш Зянько. А тады адразу, вядома, на злосную руку, далі дзесяць год. Як і Смятане, як і Вечару, як...

...Стрэл тузануў цішыню нечакана.

Хоць я і чакаў яго...

Так, я ляжаў на гарышчы найбліжэйшай да гэтага стрэлу хаты. Не адзін, з таварышам. І мы глядзелі на іх праз шчыліны ў шчыце, праз голле бэзу ў агародчыку. Яны былі так блізка, што толькі ўстаць да акенца, раз чарпануць аўтаматам — маеш і вахтмайстара, і каменданта, і гэтага смаркача. Думцы такой, вядома, ходу не было. Мы тады ў вёсцы днявалі ўдвух, яны сабраліся цэлай ганнёй. Каб мы рызыкнулі сабою, вёска загінула б. Ды і сабою... з-за тых?.. Мы глядзелі.

Пярэсты, мілы шчанюк, не даканчыўшы новага прыступу брэху, мякка асеў.

Пазней, калі жандар і бобікі пайшлі, дзядзька Пятрусь — ён выйшаў са свайго пагрэбніка раней, на стрэл — падышоў да Цюліка, цяпло якога ўжо выйшла крывёю ў снег, падняў яго за каршэнь і панёс.

Стары не ведаў, што я гэта бачыў...

...Можа, цяпер, праз столькі гадоў, і я не судзіў бы вельмі сурова таго «Сярожку, што не рабіў урада». Ён, я ведаў гэта, сапраўды і сілай узяты быў, і не паспеў або не здолеў развіцца ў якога-небудзь Гусаковіча ці ў Нашору. Аднак я доўга, яшчэ і па вайне, насіў у руках да свербу неспакойнае жаданне... Вось так бы іх аберуч падняць над чырвоным снегам за белы, з блакіткым адценнем, бушлатны каршэнь — і тых, што здалёк прыйшлі, і што самі за імі пайшлі, і што ківаюць на «сілу аружыя»...

Я адвярнуўся да акна. І, гледзячы на зеляніну дружнай ярыны, пасля на луг, а далей, за лугам, на малады вясёлы ў сонцы бярэзнік, зноў успомніў, хоць і з горкай усмешкай:

«Глядзіце на траву...»

*1966*

## ЗНІЧКА

Вялікія мусульманскія могілкі. Старыя, нават старадаўнія, з грабніцай святога, пабудаванай у пятнаццатым стагоддзі. Грабніца на рамонце. А святы? Відаць, яшчэ добра трымаецца. Драўляная мячэць, наводшыбе, пры ўваходзе на могілкі, трохі падобная да нейкага вясёлага, а то і раскошнага павільёна, зроблена на грамадскіх пачатках, нядаўна. Збой мужчын, пераважна старых, у добраахвотнай пакоры пакідае абутак на сходках. Праўда, у многіх рытуал разування заключаецца ў тым, што прававерны здымае толькі галёшы, ідзе на алахавы грозныя вочы ў ботах. Затое шмат цюбецеек — чорных, зялёных — дзеля душы абмотаных белай чалмой.

Абапал асфальтавых і гліняных убітых дарожак густа стаяць высозныя таполі, нібы адмытыя, адшараваныя Вясной да светласалатавай сарамлівасці.

Паміж помнікаў і адзетых у камень магіл вось-вось распусцяцца ружы, сінеюць касачы, тонка і квола каласіцца ячмень, пунсавеюць агеньчыкі маку, буяе цветам бэз, ціха і радасна бялеюць вішні.

Б'юць перапёлкі. У палавіне красавіка?.. Проста рванула падскочыць ад нечаканасці, калі пачулася, нібыта лузганула сакавітае і хлёсткае «піць-палоць!» Наш праваднік, талковы ўзбекскі калега, расказаў, што перапёлак тут, па традыцыі, трымаюць у клетках, гадуючы для самцовых баёў. Некалькі клетак, завешаных палатном, ён паказаў нам здалёк, у падстрэшшы доміка і на дрэве ў садочку, ужо за плотам могілак. Гэта адтуль, як пругкія, настойлівыя бурбалкі са дна цёмнай стаячай вады, білі наверх звонкія галасы стракатых, цёпленькіх нявольнікаў. Павеяла водгуллем родных мясцін, — прыйшоў спакойны, пагодлівы вечар над шчодрым, стомленым полем, «піць-палоць» пульсуе, як маладое, вясёлае сэрца.

Кукарэкаюць пеўні. На эсперанта, якое нікому і нідзе няма патрэбы вывучаць.

А вось і чыстая экзотыка: ад мячэці пачуўся адчайны, жаласны выкрык мулы. Яшчэ, яшчэ раз...

Наш праваднік сказаў, што гэта — канец паніхіды. З натоўпу прававерных выплыла ў наш бок чародка мужчын, першы з якіх, стары ў падзоліста-шэрым плашчы і зялёнай цюбецейцы, нёс на руках перад сабой штосьці накрытае чырвоным, узорыстым.

— Дарослых нясуць на плячах, у труне, хоць закопваюць без яе. А дзіця — яно такое мяккае, чыстае... Іх толькі на руках. Гэта дзяўчынку нясуць: пад пакрывалам.

— Тры ці чатыры гады, — дадаў да слоў нашага праваднiка магутны, чараваты дзед, пенсіянер у «адказным» кіцелі. Ён толькі што падышоў да нас, прывітаўся і пазнаёміўся з саліднасцю загадчыка ўсёй гэтай сумна-лірычнай гаспадаркі.

— Можна і нам за імі прайсці?

І вось мы ідзём у канцы небагатага пахавальнага шэсця — за расцягнутай чародкай мужчын, за інвалідамі на мыліцах, што сігаюць, спяшаюцца, нібыта ў тое месца, куды найлепш паспець раней. І мы спяшаемся, моўчкі паддаўшыся агульнаму настрою.

А ўсё ж спазняемся трохі.

Каля свежае ямы з рук старога ў шэрым плашчы малую ўзяў малады рухавы магільшчык. Ён стаяў ужо ў круглай яме і, прыгнуўшыся, асцярожна і спрытна ўкладваў выняты з чырвонага пакрывала, белы, у саване, кокан маленькай нябожчыцы ў гарызантальную яму-падкоп. Тады падкоп залажылі каменнем, кінулі ў круглую яму па жмені пяску. Вялікі кетмень — спрадвечная матыка, лапата, а то і плуг гэтых спякотных, з упартым груntам мясцін — хутка і спраўна захадзіў у руках рабацягі, засыпаў яму і ўзняў над ёю копчык гліністай зямлі.

Наш узбекскі калега асцярожна паказаў мне бацьку малое.

З залысінамі з-пад чорнай цюбецейкі, з завязаным анучкай пальцам, ён нязграбна і, як здавалася яму, непрыкметна выціраў грубай рукой слязу і штосьці — па губах было відно — шаптаў...

Усе прыселі на кукішкі. І мы, незнаёмыя, разам з усімі. Стары мула ў белай чалме прысеў на сіняй посцілцы паміж двух сваіх асістэнтаў, таксама дзядоў. Пачаў маліцца, мармытаць з непераможнай перакананасцю на абліччы.

Пяклі мае цесныя туфлі, хацелася па-нашаму, для зручнасці, стаць на калені, хацелася, як малому, азірацца навокал... Ды я бачыў перш за ўсё галоўнае — як варушыліся тоўстыя губы бацькі, таксама як і раней, значыцца — не ад малітвы. Калі ж і маліўся ён — думаў, відаць, пра адно...

Слова наша лятае сёння далёка, далёка ўе сабе гнёзды. Нічога дзіўнага, калі і гэта, што цяпер пішу, калі-небудзь заўважыць узбекскі чытач. Няхай жа ён тады не здзіўляецца маёй наіўнасці, дзе яна ёсць, — я ўпершыню гэта бачыў і чуў. Няхай ён ведае адно: у той вельмі звычайны і такі ўрачысты момант, зразумелы і мне, бацьку малога сына, чалавеку, які пахаваў нядаўна найбліжэйшага друга, хацелася як-небудзь выказаць спачуванне прыбітаму горам, але баяўся, што гэтым, можа, парушу нейкі звычай яго старонкі. Таксама наіўнасць? Ну, што ж...

Мы перад гэтым глядзелі горад. Хадзілі вакол казачнага медрэсэ. Пазіралі на велічны помнік Наваі — знізу ўгару, насупраць сонца за павалокаю хмар, што ратавала нас ад спёкі. Стаялі, разуўшыся, у бібліятэцы мусульманскага духоўнага кіраўніцтва, над агромністым фаліянтам карана, перадрукаванага фотаспосабам з куфічнага арыгінала. Аглядалі — з акна аўтобуса і выйшаўшы з яго — раскошную зеляніну праспектаў і паркаў, панылы строй «ташкенцкіх Чаромушкаў», бязвокныя ад вуліцы дамы і дувалы старых кварталаў, па-сучаснаму размашыстае будаўніцтва акадэмічнага гарадка...

Пазней, пасля могілак, мы глядзелі, як робяцца шматфарбна-яркія, вострай рукой разузораныя, часамі нібы гарачыя навобмацак узбекскія тканіны, глядзелі, як мноства маладых і пажылых ткалляў, на сонцы і з-пад дрэў, зачаравана слухае беларускую народную песню, смяецца ад нашага трапнага слова, што гучыць на фабрычным двары з кузаваў, засланых дыванамі, грузавых аўтамашын. Потым мы бачылі яшчэ...

Многа мы бачылі ў той дзень.

Але ўсё яно засталося толькі фонам да таго настрою, да тых адчуванняў, якія дакрануліся да мяне, дакранулі мяне да вечнасці, да Азіі, да чалавечых дум каля самай звычайнай магілкі, у якой пагасла ў белым саване знічка чужое радасці.

Быццам я і ляцеў сюды дзеля гэтага. Высока над аблокамі. За тысячы кіламетраў ад дому.

1966

## ДАКОР

Слон быў бедны і сумны.

Пра волю ды пра гарачыя джунглі лепш проста не гаварыць: ён іх нават і ўспамінаць не можа, бо нарадзіўся ў звярыным канцлагеры.

Хапае і таго, што вось ён стаіць паміж аблезлых фанерных будак, цесных смярдзючых клетак, перад натоўпам людзей, тырчыць над іх святочным безладам вострым, згорбленым хрыбтом і толькі што не трасецца ад холаду. Скура яго, шэрая, як вясковы, добра-такі зацяганы шарачак, сям-там ажно папраціралася, а ў двух месцах раздзерлася закарэлымі, непрыкрытымі струпамі. Вушы звісаюць абдрыпана, а маленькія вочкі глядзяць на ўсё сумна — да безнадзейнасці...

Чалавек быў шчаслівы і трохі сентыментальны.

Па-свойму, па-чалавечы здаравенны, ён узвышаўся над натоўпам больш чым на галаву. Шэрай салдацкай вушанкай, маладым румянцам шчок, шырокімі плячыма даўгаполага, нядаўна і нарэшце набытага паліто. У вялікіх руках чалавека было па цёплай дзіцячай руцэ. Пацешныя, як важаняты, дзве маленькія кабеціны ў шэрых шубках тэпалі побач з высозным бацькам па мокрым, раскоўзаным снезе, а час ад часу, то на змену, то разам, прасіліся на рукі.

Бяда, дый годзе! І весці малых, і паднімаць іх было нязручна. Перашкаджаў пакунак...

Заапарк прыехаў у горад на гастролі больш за тыдзень таму назад. Увесь гэты час тата збіраўся сюды з дзяўчынкамі, на сон расказваў ім усялякія цуды пра тое, што будзе. І толькі тут, калі падышлі да білетнай касы, ён успомніў, што нічога не ўзяў — ні для мішкі, які за так, вядома, не патанцуе, ні для малпаў, што таксама прывучаны да ласункаў.

Што ж тут рабіць?

Заапарк размясціўся на пустыры, у гэтую восень расчышчаным ад ваенных руін. Паблізу быў толькі адзін ларок. А ў ларку не было цяпер нават якіх-небудзь марных, пазліпаных падушачак. Ашуканая прадаўшчыца параіла смешнаму тату купіць у яе сухафруктаў. Знайшлася газета, мяшэчак быў зроблены з цэлага нумара і ўвесь напоўнены ўшчэнт засушанымі, нават, здаецца, пыльнымі грушкамі і скрылікамі яблыкаў:

Не ўся бяда! Мала таго, што з пакункам і з дзецьмі хадзіць нязручна, дык яшчэ і частавацца з яго ніхто не хоча.

Самы вясёлы мішка, што ажно пысу ўшчэмлівае паміж жалезнымі прэнтамі, просячы цукру, што тупае-танцуе за яго і загадзя і пасля, тыя грушкі ды скрылікі толькі панюхаў.

Не захацелі іх есці і малпы. І малыя, што скрэкаюць ды гойсаюць, бессаромна паблісквающчы круглымі вясёлкамі нібы апараных азадкаў. І тая найбольшая, страшная, зусім падобная на чорнага, валасатага дзядзьку, які вось трымаецца ніколі не мытай рукой за прэнт і нешта ўсё злосна жуе ды сплёўвае, жуе ды сплёўвае, а потым адсоўваецца ў самы куток і, адвярнуўшыся, лаецца шэптам...

Так і дайшлі яны, тата з дзяўчынкамі, да слана. Шчаслівы бацька адчуў яшчэ большае шчасце. Вось ён пачне карміць гэтага здаравілу на радасць сваім «смачненькім». Нібы вялізнага каня з маленькага вядра.

— Тата, а дзе яго роцік?

Бацька смяецца.

І праўда — рот у слана такі, што ні зверху, ні знізу не ўбачыш.

— Затое, дачка, нос які!

— Гэта не нос, гэта хобат, — паправіла, зноў жа на радасць бацьку, яго другая, старэйшая разумніца.

Вясёлы чалавек падставіў мяшэчак слану.

Бацька ведаў, чаго не ведалі дочкі, — што сланоў нос не толькі называецца хобат. На канцы яго ёсць вельмі хітры і спрытны адростак-палец. Адзін, калі слон індыйскі, а два — калі афрыканскі. У гэтага, афрыканскага, два. Гэтымі пальцамі ён можа, кажуць, пакалупацца паміж плітамі тратуара і пліты гэтыя развярнуць, нібы ломікам. А што да спрыту пальцаў, дык, мусіць, і нітку ў іголку зацягне.

Ну, а цяпер ён пачне, на пацеху дзяўчаткам, браць з газеты па грушцы, па скрыліку. Хай бярэ, найдаўжэй, каб радасць расцягнулася.

Маленькія слановыя вочы глядзелі на чалавека не тое каб толькі з пагардай — у іх была яшчэ і паблажлівасць, і трохі здзеку сур'ёзнага над сентыментальным, а найбольш дык бяздоннага і нязбыўнага суму, пакуты, народжаных беспрасветнай няволяй...

Слон працягнуў хобат, цапнуў пальцамі за край газетнага мяшэчка і механічна-спрытным рухам кінуў яго сабе пад нос — туды, дзе быў яго малы, нібы запухлы, рот. Нават і сківіцы, здаецца, не паварушыліся, — проста паехаў пакунак, як па канвееры, у бяздонны рэзервуар невясёлага жывата.

І не маргнуў, не мармытнуў. Як быццам ён табе ласку зрабіў, памог пазбавіцца ад лішняй рэчы, ад няёмкага становішча. Стаіць, маўчыць. Нібыта не з яго гэта смяецца ўвесь натоўп.

...Тыя дзяўчаткі ў шубках сталі тым часам дарослымі. Глядзі, што неўзабаве і ім трэба будзе весці сваіх «смачненькіх» да замкнутых у

клеткі звяроў. Тады, вядома, яны зноў успомняць пра той далёкі пасляваенны мяшэчак з нікчэмнымі сухафруктамі. Успомняць — трохі па-іншаму, чым дагэтуль.

Яны выраслі, а бацька адпаведна пастарэў і стаў, здаецца, менш сентыментальны. Можа, да ўнукаў, пакуль што.

Чалавеку ўспамінаюцца часамі маленькія слановыя вочы...

1966

## ШЭРАНЬ

Іду — і хочацца сказаць: якая маладосць! Якое хараство!.. Хоць гэта проста першыя лістападаўскія прымаразісі, хоць гэта толькі парк у ранішняй шэрані.

Голыя ліпы і клёны, грабы і вязы; амаль што голыя лістоўніцы; касатыя бярозы. У дробную, густую сетку іх белага голля сям-там праціснуліся і красуюцца, нібы па-навагодняму прыбраныя ў бель, стройныя, кудлатыя яліны, серабрыстыя лапы соснаў, нешматлікіх тут, у нізіне, паблізу ад вялікіх сажалак і балот з нечапаным трыснягом.

За гушчаром, на блізкім даляглядзе,— яшчэ гушчар, далейшы, праз які прадзіраецца з бляскам чырвонае вогнішча ўсходу.

Вавёрка ўжо на прады. Здалёк заўважыў, як яна цыгае па зямлі, паміж рэдкімі стваламі ліп, і не спяшаецца ўцякаць. Здалёк нясу ёй нябрыдкую, несентиментальную пяшчотнасць зноў абуджанага ў душы маленства.

Зноў успамінаю адну з іх, што была маёй госцяй праз некалькі дзён. На акне перад пісьмовым сталом для яе была заўсёды насыпана горбачка сланечнікавых семак, ляжаў драбок цукру і цвёрды, знарок засушаны, пернік. Ужо на трэці дзень нашай знаёмасці яна садзілася на акне, брала ў лапкі чорную семечку, лушчыла яе, брала другую, трэцюю,— не спяшаючыся,— потым спынялася, аціхала, мы глядзелі адно на аднаго, і мне шчасліва, казачна здавалася, што вось яна — са складзенымі лапкамі — спытаецца: "А што вы, дзядзька, пішаце?.." Цукру яна не чапала. Пернікі знікалі з акна, калі я гэтага не бачыў; сядытады яна грымела імі за кніжнай шафай. Потым адзін з гэтых пернікаў я знайшоў паміж кніг. Ен быў пагрызены — упрыкуску з польска-беларускім слоўнікам. Відаць, на пробу толькі, бо і пернік і слоўнік былі не даедзены. Аднак сяброўства нашага гэта не разладзіла. Калі яна аднойчы шуснула з гардзіны ў фортачку і адтуль, па карнізе, на дах,— гэтага мы не бачылі, пра гэта мы здагадаліся па часе,— я бедаваў па ёй не вельмі менш за свайго хлапчука.

Тут іх, вавёрак, многа. Яны падпускаюць людзей так блізка, што мне самым сур'ёзным чынам здаецца: будзь мы яшчэ трохі лепшымі, культурнейшымі,— яны прыйшлі б на нашы працягнутыя далоні, пацерліся б рыжаю мордачкай аб нашы шорсткія шчокі.

Іду па асфальце дарожкі. Вавёрка бяжыць па прымазанай шэранню траве, шархаціць па жоўта-карычневым, ужо не залатым, насціле, прасмажанай марозікам лістоты, у якой вылучаюцца вялікія лапы кляновых лістоў. Мы, як быццам знарок, з двух бакоў

набліжаемся трохкутнікам да адной з чорных ліп. Да гэтай? Тут яна, вавёрка, сігане ўгару? Не, яна падыгала далей. Тут, на гэтую? Не. І вось нарэшце гульня канчаецца,— вавёрка пабегла па тоўстым, шурпатым ствале, а я спыніўся за два крокі ад яго. Яна не вельмі спяшаецца, перабірае лапкамі — вышэй, вышэй, вышэй,— тады спыняецца на нейкі момант на галіне. У профіль мне добра відно, што рот яе заткнуты шышкай. Інакш яна, мусіць, зацокала б ад радасці:

"Ану, дастань мяне! Ану!.."

Зноў іду па асфальце вузкай алеі, пад высокім, на фоне яснага неба, срэбрам багатай шэрані. А навокал, па серабрыстай траве, па насціле нядаўна пагаслага золата гулліва шархаціць ужо цэлае мноства вавёрак. І тут, і там, і вунь дзе... Ашуканы — спыняюся, гляджу. Няма вавёрак. Ніводнай. Гэта з голля паціху, нібы спадцішка, асцярожна асыпаецца лішняе срэбра. Вось табе доказ — замёрзлая кропелька ўпала на край блекла-жоўтага, тонка-бляшанага ад марозіку кляновага ліста, і ён загойдаўся на тых травінах, дзе асеў ужо даволі многа дзён таму назад.

Чым бліжэй да балота і сажалак, тым гусцейшая шэрань на голлі, тым больш яе на траве, на асфальце дарожкі. Пахрустваючы гэтым першым, зноў новым, радасным сняжком, узыходжу на штучны ўзгорак, з якога так добра глядзець на ваду і трыснёг.

Вада яшчэ пазаўчора была сцягнута першым лядком. На тым баку, за вялікай сажалкай, сонца прабілася праз гушчар другой палавіны старога парку і — румянае, поўнае, маладое — спынілася над самым вершняком, нават падзіцячы падперла далонямі шчокі і глядзіць, любуецца. І я любуюся. Срэбрам на вербах, на трыснягу. Адценнямі срэбра на новенькім лёдзе. Учора яго цэлы дзень правяраў на мацунак "мальчишек радостный народ" — радасны і бясстрашны. Яны шумелі тут, ганялі каменныя "шайбы", а я стаяў на беразе, баяўся бояззю іхніх бацькоў, што тонкі лёд праломіцца і я не дабягу вунь да таго, найдурнейшага, які забег найдалей, дзе ўжо глыбока, і лёд пад нагамі або пад пушчаным каменем — чуваць — спявае, у падскоках, найзванчэй. Учора было свята. Сёння тыя цудоўныя неслухі сядзяць ужо недзе за партамі, і на возеры — цішыня. Воддаль, на быстрыні, дзе яшчэ не замерзла, плаваюць тры качкі. І не шманаюць на мой крык,— не верыцца, што дзікія...

Гляджу назад, адкуль прыйшоў,— на парк. Ад сонца, якое абліло ўсё шчодрым, роўным святлом, дробная сетка голага голля і бахматыя лапы хваін выглядаюць зноў інакш, зноў у іншай, невычарпальна багатай адменнасці вечнай красы.

На захадзе, за краем парку, хаваецца замак. Радзівілаўскі, што

ганарыўся калісьці візітамі многіх манархаў. Учора ўвечары за яго вялікімі вокнамі, у багатым святле, пад плафонам! работы італьянскіх маэстра, задорна грымеў у медныя трубы кракавяк. Па паркеце чачоткамі шчабяталі модныя "шпількі" ткачых, машыністак, настаўніц, то лёгка, то цвёрда хадзілі туфлі экскаватаршчыкаў, аграномаў, бухгалтараў, асцярожна спраўлялі вялікую радасць ярасна наваксаваныя, а ўсё ж сарамлівыя кірзачы маладзенькіх ваякаў, мясцовых адпускнікоў. На мяккіх крэслах каля сцен, у якасці дабрадушнай камісіі, сядзелі пенсіянеры.

Вясёлы, хоць і нямоглы пасля інфаркту, прафесар-фізік, які ахвотна стамляецца штодня, молада ловячы на каляровую фотаплёнку сціплае хараство нізіннага наваколля.

Сівая маці двойчы героя, лётчыка, сын якой — хлопчык, юнак, мужчына, вечна і горка жывы для яе — даўно ўжо стыне ў бронзе і мармуры на плошчах многіх гарадоў, а тут мала хто ведае, што гэта яна яго нарадзіла.

Кульгавы дзед у самаробных бурках, халявы якіх дзеля форсу схаваны пад калошынамі штаноў,— заслужаны калгаснік, зназаўсёды карэлай жмені якога столькі калосся шумела хлебным хараством...

Добра, што ўжо не трэба паўтараць надзіва простых і не менш глыбокіх ісцін,— дом адпачынку працоўных у княжацкіх палацах,— што ісціны гэтыя ўжо і тут сталі самай звычайнай сапраўднасцю. Я іх проста прымаю да ведама, проста ўчарашні вечар махнуўся ў памяці светлым, звонкім, а ўсё ж... не вельмі звычайным успамінам.

Сонца, трохі палюбаваўшыся, узнялося над грэбенем парку за сажалкай. Аберуч адштурхнуўшыся ад гэтага грэбеня ўгару. Нават сказала: "Ну што ж, пачнём новы дзень".

І я пачну яго неўзабаве, у адным са шматлікіх пакояў высокага замка,— словам пра гэты заінелы ранак.

1966

## СУМНЕЙШАЯ ЗА ЎСІХ

Дзяўчынка-сірата пасля вайны гадавалася ў дзіцячым доме, потым стала ткачыхай на камбінаце, дапрацавалася да добрай славы, выйшла замуж за таго, каго палюбіла, нарадзіла двух хлопцаў, і тут... па нейкаму няўмольнаму ды таямнічаму закону — цяжка захварэла... Сэрца. Не мода, а няшчасце нашага часу. Маладзіцы зрабілі аперацыю. А потым дадалося яшчэ і пашырэнне лёгкіх...

У светлым санаторыі яна, відаць, сумнейшая за ўсіх. Нават і плача пры людзях, у сталовай.

Усе шкадуюць яе.

За сталом, куды мяне прывялі на мой першы абед, сядзела трох — нізенькі сталявар, экскаватаршчык з новенькім ордэнам Леніна і прараб з будаўніцтва, які праз некалькі дзён, у свята, прыемна здзівіў мяне франтавою Зоркай Героя.

Калі да суседняга стала трошкі пазней за ўсіх прыйшла і прысела бялявая стройная маладзіца ў вясёла-зялёным плацці, мае суседзі заварушыліся. Перш азваўся найбольш гаваркі, сталявар:

— Валя, ты што!

Яму дапамаглі — і прасцецкі, востры на слова ардэнаносец, і ціхі, нават крыху пануры Герой:

— Біць няма каму!

— Ай, Валянціна, дарма...

Тады я ўпершыню заўважыў, што яна заплаканая, што яна, як малое, усміхаецца усім праз слёзы.

А пазаўчора — ужо на трэцім тыдні майго тут прабывання — я чуў, напрыклад, як моцна пажылы майстар з аўтамабільнага завода, амаль зусім па-бацькоўску натуральна не даў ёй устаць і пайсці да суседняга стала па чайнік:

— Сядзі, мамачка, сядзі. Я сам.

Сёння ў абед "мамачка" падышла да нашага стала і пачала развітвацца. Едзе дахаты. Падала ўсім руку, а мне сказала, пачырванеўшы:

— Я хачу з вамі трошкі пагаварыць.

Каля карычневай, пакрытай лакам радзівілаўскай сцяны яна пачырванела яшчэ больш, як дзяўчо — не вельмі прыгожае, проста прыемнае з выгляду трыццацігадовае дзяўчо — папрасіла нумар тэлефона, каб пазваніць мне ў Мінску, калі атрымае нарэшце кватэру. І яшчэ гаварыла, яшчэ чырванелася, а потым праз слёзы, што паслухмяна з'явіліся зноў, сказала:

— Я вас пацалавала б, каб тут не столькі людзей...

Ашаломлены гэтым, я, як юнец, шчаслівы і разгублены, пачаў адмармытваццa нейкімі словамі.

Мы вярнуліся да стала, яна яшчэ раз развіталася з усімі, яшчэ пагаварылі з ёю, і вось — пайшла.

Можа, надоўга, можа, і...Што ж, бывалі ў мяне падобныя развітанні: не думалася, што апошні раз.

Не, я не думаў пра гэта. Не.

А я ж быў з ёю толькі самім сабой — ні асаблівай увагі, ні асаблівых пачуццяў. Прайшліся некалькі разоў па парку, утрох з вясёлым сябрам маіх пасляабедзенных праходах па ваколіцы, пагаварылі з Валяй, паразважалі яе, пасмяяліся. Нешта з тыдзень таму назад, калі спатрэбілася тэрмінова, з-за непаладкаў з атрыманнем кватэры, паехаць у Мінск, мы чатырох, усім нашым сталом, хадзілі даставаць ёй білет на аўтобус.

А тут... Я ахвотна схаваўся б за некага, напісаў бы пра гэта ад трэцяй асобы. Можа, гэта было б і зручней, і глыбей. Ды мне чамусьці хочацца проста цяпер, неадкладна, расказаць камусьці добраму, разумнаму пра некалькі гэтых цудоўных хвілін...

## ТЫ ЖЫВЕШ

...За вагонным акном залаціліся ў ранішнім чэрвеньскім сонцы тонкія, рэдкія сосны. Яны не стаялі на месцы, а беглі назад, туды, адкуль я вяртаўся,— беглі і яны, і іх доўгія цені.

Нашча мне добра спявалася — ціха, журботна. Штосьці блізкае да тых соснаў, да ранняга сонца, да найраднейшага вобраза на парозе старое хаты. Штосьці блізкае да малітвы ўсёй гэтай мудрай, неразгаданай прыгажосці.

Нашы мамы маліліся нашча.

Трыццаць гадоў — гэта была яшчэ маладосць. Яшчэ жыла мая маці, было каму назваць мяне сынам, ува мне яшчэ заставалася штосьці ад пачатку жыцця, я яшчэ не зусім адшурхнуўся ад берага — назаўсёды.

І я не ведаў, што гэта была яе апошняя раніца.

Потым мне расказалі, што і ў той дзень яна звычайна ўстала на свой пост, нямоглая бабуля, расчыніла ў цёрле і пачала пячы аладачкі для дзвюх мілых распусніц, трохгадовых унучат-блізнят. І раптам ёй зрабілася дрэнна.

Дрэнна бывала ёй апошнім часам даволі часта, а ўсё ж немач яшчэ адпускала, а тут — зусім. Яна прылегла і ўжо не ўстала больш, пачала паміраць.

Яна была — як быццам — даўно ўжо гатова да гэтага. Даўно была пашыта апошняя вопратка, і ў малітвах старая не раз ужо ціхім ды шчырым шэптам сведчыла сваю гатоўнасць да боскае вол і. А ўсё ж я не так сабе застрахаваўся словамі «як быццам».

Тры месяцы перад гэтым, калі яна жыла ў мяне, у горадзе, маці была ўжо на краечку. Стары прафесар, свяціла медыцыны, якому я даверыў яе самым шчырым, гранічным давер'ем, паглядзеў на хворую бабу, мацнуў за кончык вострага носа, махнуў рукой і адышоўся да іншага ложка. Я не дарую яму... не даравāў і дагэтуль, за васемнаццаць год, гэтага ўзмаху вялай рукі перад тварам найдаражэйшага мне чалавека. Няхай сабе нават і проста чалавека, які вельмі хоча жыць.

Яна хацела жыць. Яна глядзела на яго, прафесара, амаль зусім дзіцячымі вачыма, а потым, кал і ён махнуў перад носам, ціха, ужо не думаючы пра мяне, пра абавязак маці — быць заўсёды на вышыні,— заплакала. Слёзы самі, відаць, пакаціліся з вачэй па маршчынах.

Мне расказалі, што, паміраючы, яна хацела аднаго... Я не магу ні думаць, ні пісаць пра гэта спакойна. І мне не брыдка за слёзы ні перад тымі, хто будзе гэта чытаць, ні перад самім сабою, ужо таксама немаладым. Яна хацела, каб толькі паспеў прыехаць я, яе найменшае,

дзесятае дзіця. Гаварыла пра гэта, усё правярала, ці паслалі ж хадя тэлеграму, а потым, калі адняло мову, толькі глядзела, і ёй паўтаралі, пазнаючы па вачах, што я прыеду, што хутка вось буду.

У горадзе, куды я прыехаў з сонечнага сасонніку, мне далі тэлеграму.

Горка хітрую, як і тая, якую я, тры месяцы перад гэтым, даваў з горада ў вёску: «Маме няможацца, прыязджай».

На тую маю тэлеграму яны, браты і сестры, з'явіліся да мяне, як салдаты па баявой трывозе. Зайшлі ў бальнічную палату, не ведаючы — ні малодшыя, ні старыя,— з чаго тут і як тут пачаць...

А яна нечакана ўсміхнулася і сказала:

— Рана, дзеткі, сабраліся.

І я цяпер учапіўся за гэта.

З надзеяй ляцеў у санітарным «кукурузніку», упершыню ў жыцці над палямі, лясамі ды рэкамі блізкіх, знаёмых мясцін, палахліва падскакваў на паветраных ямах, нават падумаў з хлапечай усмешкай, седзячы пад шкляным каўпаком, што вось лячу — як на сабаку верхам.

З надзеяй ішоў — спачатку па зялёным пералогу часовага аэрадрома каля нашага райцэнтра, потым — узбочынай гасцінца.

І толькі за два кіламетры ад свае вёскі — паверыў...

Наш могільнік прычапіўся на схіле гары, па другім, паўночным схіле якое спускалася ў даліну вёска.

З могілак у вёску ішло некалькі чалавек — невялікія сілуэты на зялёнай пукатасці гары. Зрабіўшы тую работу, што адабрала ў мяне — хоць я рыдлёвак здалёк не заўважыў — ужо апошнюю надзею.

...Яна вельмі любіла чай. Клала ў яго адну-дзве лыжачкі вішнёвага варэння або падлівала трошкі кагору, «царкоўнага віна». Я ўжо мог зарабіць і на гэта. Аднак не хацела доўга заседжвацца ў маім «скварэшніку»,— у цеснай кватэры на пятым паверсе,— асабліва вясною, калі недзе дома, у вёсцы, зазелянеліся грады.

Вельмі ёй не хацелася памерці зімою. Часта — сама вясёлы, толькі з выгляду суровы чалавек — гаварыла пра мёрзлыя груды, што грукацяць па веку труны. Гаварыла і, жартам — не жартам, уздрыгвала.

Жаданне гэтае збылося: лета толькі што пачыналася, сама што ўсё цвіло.

Усё жыццё яна, як нейкая падзвіжніца, многа і цяжка працавала. Збіралі з мужам для дзяцей, куплялі зямлю. Усё было строга і ясна падпарадкавана адной вялікай мэце. І з мужам, і пасля, як аўдавела. А потым у свеце пачалася такая ламаніна, што мэта яе перастала быць вялікай. Сыны пайшлі ў партызанскі лес, яна — з імі, усё

пакінуўшы ворагу на разрыў. Толькі і засталося дабра, што самі яны, яе хлопцы, нявесткі ды ўнукі, ды тое з набытку, што пад табою, на возе, дзе яна сядзела з унукамі, едучы ў цёмную ды сцюдзёную невядомасць, вельмі мала прыстасаваную для хворай старасці і маленства. Ды яна ўжо ва ўсім згаджалася з сынамі,— трохі ад разумення, што цяпер да чаго, а трохі ад стомы.

Потым, кал і закончылася ліхалеццe, было ў старой не толькі тое жаданне — памерці ўлетку, але і яшчэ адно. І было яно, гэтае жаданне, такое шчырае ды цвёрдае, што яна не пабаялася б, відаць, выказаць яго самаму старшаму з усіх старшых у нашым пасляваенным жыцці. Калі ўжо трэба, як кажуць сыны, каб рухнула ўся работа яе жыцця, каб набытае горкім потам поле пайшло ў калгас — няхай ідзе, няхай будзе тое, што павінна быць, але... Але — «дай, божа, каб я памерла трохі раней».

І гэтае яе жаданне таксама збылося: калгас у нашай вёсцы пачаўся праз год.

Ніколі — ні ў думках, ні словам, перад другімі — я не апраўдваў яе і не судзіў. І не таму, што яна — мая маці.

Для аднаго жыцця нагрузкі ў яе было аж залішне, а да такога рашэння — «няхай будзе тое, што павінна быць» — таксама трэба падняцца.

На долю яе прыйшлося чатыры вайны, тры рэвалюцыі, дзесятак перамен улады, семдзесят шэсць год прасніцы, сярпа і цэпа, трохі песняў ды смеху, куды больш думак, чакання і слёз. Абедзве дачісі аўдавелі амаль услед за ёю. З пяці сыноў, што выжылі да сталага ўзросту, усе пяць былі, кожны у свой час, салдатамі, чатыры ваявалі ў трох войнах, двух былі ў варожым палоне, двух — праз памылку — сядзелі ў роднай турме, трэці, за праўду, у панскай, аднаго, найстарэйшага, з'еў трыццаць сёмы год...

Я ведаю — гэта яшчэ далека не найгорш. Я мог бы расказачь і, можа, раскажу пра пакуты іншых, знаёмых мне маці,— непараўнана большыя, чым выпалі на долю маёй.

Аднак жа хто такі мудры вымераў, хто бярэцца акрэсліць усю глыбіню мацярынскіх пакут наогул, і нават тых, што зведала за век мая?..

У сівай драўлянай капліцы, дзе на другім стагоддзі свайго самотнага вісення да нудоты пастарэлі цёмна-бяздарныя іконы, пад сцішнавата-ўзнёслую песню пра вечны спакой найбольш плакалі два чалавекі.

Адзін — малодшы брат мае мамы — старэнькі калека-кравец, «залатая іголачка», як казалі суседзі, і залатое сэрца, поўнае народнай

мудрасці, свежасці, аптымізму, якімі ад яго не раз жывіўся і я. Яна, старэйшая на дзесяць год сястра, вывела яго, рана асірацелага, у людзі, дала яму ў рукі тую іголачку, калі ажаніўся — часта хадзіла мірыць са сварлівай жонкай, і нават старога яго лічыла нібы малым, якога кожны можа пакрыўдзіць.

Адвярнуўшыся ад людзей у куток, дзе стаяла зацягнутая павуціннем старая пратэса, малы мой дзядзька, з вялікай, пад сівым «вожыкам» галавою, ціха, на ўсю душу — як ён умеў і смяяцца — заходзіўся плачам.

Я быў куды больш самастойны, і ўжо даўно, гадоў з пятнаццаці, кал і перастаў яе слухаць у самым, як мне здавалася, галоўным для чалавека. Мне было вельмі шкада, што я ўжо не змагу, і іменна цяпер, калі магу, акружыць яе старасць належнай апекай, зрабіць для маці тое, чаго не паспеў, не паспелі мы ўсе...

...Трыццаць гадоў — гэта была яшчэ маладосць. Наша жанатая пасляваенная маладосць.

Вясковаму хлопцу, які нядаўна, ужо не часткова, урыўкамі, спадцішка, а поўнасцю і адкрыта стаў пісьменнікам, няцяжка, нават прыемна было, па жартаўліваму загаду жонкі, устаць з-за рабочага стала, узяць мяшок і пайсці разам з ёю на рынак. У якасці проста насільшчыка. Бо ўжо ёсць бочка, трэба засаліць гуркі.

Гэта было, здаецца, у той жа год, калі памерла мая маці.

Гэта іменна там, у ранішняй мітусні Камароўскага рынку, я яшчэ раз адчуў «несказанную» сілу і веліч паэзіі.

Сляпы, пажылы інвалід. У заношанай пілотцы, што ніколі, відаць, не служыла яму дзеля форсу, а толькі скупа прыкрывала галаву. У вельмі бывалым і шэра-шурпатым, як няшчодрая ралля, шынялі, сцягнутым, без усякага маладзецтва, вузкай брызентавай папругай. У абмотках і зношаных грукачах-чаравіках. Ен спяваў, трымаючы каля боку далонь з манеткамі белай і жоўтай дробязі, а невідушчыя вочы яго гаварылі пра процьму салдацкага гора, якім нікога не здзівіш. Песня яго — і хрыплаватым, з гора пявучым голасам, і поўнай журботы душой — гаварыла пра найпрасцейшую, найвялікшую радасць жыцця, пра скарб, які не падлягае ніякім пераацэнкам. І для песні гэтай, для ацэнкі гэтага скарбу яму, сляпому, былі дадзены іменна тыя патрэбныя, неабходныя словы, якіх вельмі многія людзі шукаюць і вельмі часта не могуць знайсці.

Пишут мне, что ты, тая тревогу,
загрустила шибко обо мне...

Шэры, чыста вымыты мяшок. Прышчатыя, веселазялёныя гуркі. Шумны, шматфарбны, заклапочаны натоўп. Вялае, добрае сонца

жніўеньскай раніцы. Без звароту мінулая маладосць... І песня! — словы, што так шчасліва знойдзены адным на мільёны, што так неперамальна проста і ўзнёсла, так па-зямному, па-чалавечы, па-сыноўняму тужаць:

...и выходишь часто на дорогу
в старомодном ветхом шушуне.

Вось ужо хутка будзе дзевятнаццаць год, амаль што цэлае жыццё з той раніцы, калі я, заварожаны, стаяў перад аслепленым вайною чалавекам. На даўжыню ўсёй песні заварожаны, на паўзу пасля яе, зноў на пачатак, на палавіну... Не! — на ўсё жыццё.

І не таму толькі, што мой уласны боль быў яшчэ вельмі свежы.

І недакладна, няправільна гэта,— што я тады, іменна ў тую раніцу адчуў усю сілу і веліч гэтай простай песні. Калі? Ды як — якія нудныя і непатрэбныя пытанні!.. Высокае, прыгожае — яно заўсёды з намі.

За гэты час я неаднойчы схіляўся над рукамі маці маіх сяброў, пазнаў іх многа — і розных, і вельмі, як адна, падобных на маю.

Перад парогам белай мазанкі, што прымасцілася на бурым стэпавым узгорку, над ціхай рэчкай, аслоненай высокім трыснягом, мяне, як роднага, вітала старая, нямоглая маці-ўкраінка. Спатканне з ёю было, амаль чвэртку стагоддзя перад гэтым, падрыхтавана маёй дружбай з яе сынам. Больш! У той суровы ваенны час, калі яна знемагла ў няведанні пра свайго Тышу, жыла толькі надзеяй, што лес паспагадае ёй больш, чым іншым гарапашніцам,— тады яе сына, параненага ў партызанскім баі, лячыла, даглядала другая маці — мая.

За акіянам, за незлічонай армадай белых аблокаў, над якімі я ляцеў на Захад, у зялёным канадскім гарадку, за сталом у багатай, культурнай сям'і, я сядзеў побач са старэнькай лэдзі, важнай гаспадыняй дома. Сын яе, што прывёў мяне ў гэты дом, таленавіта ставіў спектаклі ў экзатычным шэкспіраўскім тэатры, дзе выступалі лепшыя акцёры з трох кантынентаў. Мы з ім абодва былі салдатамі, з двух бакоў пачыналі вайну з тым самым фашызмам. Ен быў таксама ў нямецкім палоне, дзе сустракаўся з нашымі. Ен прасіў нас, савецкіх гасцей, спяваць у яго доме нашы песні. А маці — цераз перакладчыка — сказала мне, што ёсць у яе яшчэ адзін сын, што ён цяпер якраз у Савецкім Саюзе. Яму, ён піша, добра там. Яна вельмі хоча, каб і мне, сыну другое маці, было добра тут, у іх доме. І мне, і ўсім іншым, каго запрасіў яе сын, і ўсім наогул сынам — каб усім было добра. Яна не была такой простай і грубавата ды сардэчна непасрэднай як маці майго данскога друга, а ўсё ж усміхалася мне мацярынскай усмешкай і міжволі, відаць, з бяды, па старасці парушаючы высокі, чапурысты этыкет, трэсла маршчыністай, белавалосай галавой. І хоць я адчуваў

сябе ў іхняй раскошы трохі скавана, хоць прыкра было, што свае пачуцці я вымушаны быў перадаваць цераз рассеяна-стомленага грамацея,— мне было добра. А ўспамінаецца гэта — яшчэ лепш.

Так, гэта — праўда, і назаўсёды, і радасна, і праўда, што «ты жива еще, моя старушка»,— я цябе часта і весела бачу, часта сумую па табе сумам маіх блізкіх і далёкіх сяброў, часта вяртаюся да слоў, да няхітрай мелодыі, упершыню пачутай калісьці на рынку, да гераіні той песні — ціхай разанскай матулі, да светлага, несмяротнага вобраза, што нарадзіўся ў душы бесшабашнага рускага хлопца — паэта, блізкага ўсім.

...Нядаўна ў адным польскім журнальчыку, папулярным і ў нас, я ўбачыў, нібы ясную прасветліну ў дробненькай моднай мітусні, некалькі шчырых слоў пра яго, таго рускага хлопца. Гэта быў рэпартаж пра сям'ю Ясеніных. Партрэт прыгажуна і ўдалы загаловак — проста «Siergiej» і радкі тае самае песні:

Żyjesz jeszcze, biedna stara matko?
I ja żyję
Pozdrowienia ślę...

Мне зноў захацелася плакаць ад шчасця і суму, мне зноў захацелася жыць.

Я ўдзячны той мілай польцы, што памагла мне злавіць маю думку, падштурхнула сказаць нарэшце слова, якое доўга нашу.

Слова пра тое, што многае ў нашым жыцці пераходзіць, многае мінаецца, а сапраўднасць пачуццяў, сапраўднасць паэзіі — застаюцца.

1966

## «ДУМКІ ЗВЫЧАЙНЫЯ...»

Учора і я быў, нарэшце, у падзямеллі радзівілаўскага касцёла. Бачыў вялізныя, цёмныя, тоўста запыленыя скрыні з былымі трупамі магнатаў і магнацянят. Здзіўляўся дробна-стракатай працьме камароў на калісьці белых сценах і скляпенні — відаць, усіх камароў з азёрнага ды балотнага наваколля, якія праз пабітыя вокны пахаваліся тут ад зімы. Трымаў і я цёплы, з ацёкамі недагарак касцельнай свечкі і слухаў тлумачэнні мясцовага чалавека, больш за чвэртку стагоддзя таму назад апранутага ў ксяндзоўскую сутану.

Апраўдаць такія могілкі можна толькі радавым эгаізмам, вялікапанскай традыцыяй. Вельмі, тым часам, няшмат каб усю гэтую кансервацыю лічыць натуральнай.

Успомніўся Талстой яго просьба да блізкіх: «Мёртвае цела маё закапайце як найхутчэй, як закопваюць кожную агідную, непатрэбную рэч, каб яна не замінала жывым...»

Вось так.

Цяпер, у ціхай палаце санаторыя, што размясціўся ў княжацкім замку, чытаю Олдрыджа, ахвотна хаджу з яго паляўнічым ад пасткі да пасткі па сакавітай і духмянай канадскай глухамані... Чытаю і — раптам у памяці ярка з'явіўся ўчарашні ксёндз.

Румяны, лёгкі на хаду таўсцюшок, відаць, вельмі падобны да бацькі, братоў або маці. Гаворыць ён на мясцовай беларуска-руска-польскай трасянцы, і ад гэтага падабенства яго са сваякамі ўяўляецца мне яшчэ большым. Яго вясковасці не можа цалкам закрыць ні чорная сутана, ні ўрачыстая латынь, якую ён чытаў-тлумачыў нам з надпісаў над дамавінамі.

Бачыў я настаўнікаў, што апрашчаліся ў вёсцы да падабенства са сваімі бацькамі-сялянамі; лавіў такое падабенства, такую прастату ў абліках пажылых афіцэраў, пісьменнікаў, урачоў... Даўно знаёмых параўноўваў у памяці з іх роднымі, таксама знаёмымі мне, а іншых — убачыўшы з іх бацькамі, якіх я раней не ведаў. Ну, а ксяндза з беларускай вёскі ўбачыў так блізка ды выразна ўпершыню. І неяк весела стала... І наша веска, наш край — пасечаная на кавалкі, затупаная гісторыяй, цяпер уваскрэслая Беларусь са сваім мінулым і сучасным павярнулася да мяне яшчэ адным краечкам.

Ажно чытаць цікавае пакінуў, каб запісаць гэта. Ажно ўспомнілася крамка сувеніраў у французскім гарадку Версалі, дзе я калісьці здуру не купіў маленькі кухаль. Вясёлы кухаль, калабруньёнаўскі. Румяная, лысая поўня кюрэ, прыходскага ксяндза, з шырачэзнай, дабрадушнай усмешкай. А лысіна — хай мне даруе ветлы ксёндз-зямляк —

паднімаецца націскам пальца ззаду, над каўняром, як покрыўка піўнога кухля.

На запыленай скрыні стаіць не менш запылены, пад пылам чорны капялюш-трохвуголка. Сямейная рэліквія па тым з Радзівілаў, што быў ад'ютантам у Аляксандра І. (Дарэчы, іншыя сваякі служылі ад'ютантамі ў іншых валадароў: хто ў Напалеона, хто ў Вільгельма, хто ў Пілсудскага...)

Беларускі кюрэ з недагаркам у левай руцэ падняў гэтую рэліквію, сказаў пра яе, зноў паставіў і сцепануў правую ручку ад пылу. З дабрадушна шырокай, гасціннай усмешкай.

Пасля ён спыніўся побач з нейкім металічным кубельцам у кутку, паміж трунамі. Можна было б свабодна абмінуць яго, нават і блізка не падумаўшы, што ў ім. Адзін з князёў захаваў у гэтай пасудзіне... сэрца і вантробы любімай жонкі... Ад жалю і навек. Наш праваднік расказаў, што была тут нядаўна камісія з Масквы, дык і яго ў камісію запісалі. З пэўнаю навуковай мэтай адчынялі некалькі трунаў, кубелец — таксама.

— Усё, ведаеце, вельмі добжэ сахранілася. Але ж якімсь лякарствам стонд, ведаеце, як дыхне!.. Моцнае!..

Моднае было і жаданне магнатаў — хоць так вось, хоць трохі пафараонаўску застацца пасля смерці.

З падзямелля па крутых усходках мы падняліся ў касцёл. Старадаўні. Багаты. Пабудаваны італьянцам, распісаны польскай, ужо забытай славутасцю. (Ксёндз і мрозвішча ўспомніць не змог.) І, як усюды, ні слона пра спрытныя рукі ды горкія плечы мясцовага нявольніка-ўмельца.

Касцёл быў пусты, зябкая пустэча ахвотна паўтарала нашы скупыя словы і шорганне ног.

Ад вядомых ужо скульптур і фрэсак, ад надпісаў на фамільных табліцах мяне яшчэ раз пацягнула да некрыклівага партрэта на сцяне, недалёка ад выхаду.

Малады Уладзіслаў Сыракомля.

...Невялікі, але старадаўні Нясвіж хоча мець свой музей. Адным з найбольш цікавых экспанатаў будзе ў ім, па-мойму, рэдкая кніга — Сыракомлевы «Вандроўкі». Мне іх далі пачытаць. У светлым, утульным пакойчыку на замкавым вале «Вандроўкі» чыталіся здорава. Уздзеянне, абаяльнасць зямляцтва. Тут, у Нясвіжы, паэт спачатку не змог закончыць сярэднюю адукадыю, а гіотым, ужо ў замку — можа, у адным з такіх шматлікіх пакояў і пакойчыкаў, міма якіх я штодзень хаджу,— ён працаваў малым чыноўнічкам у кіраўніцтве радзівілаўскімі маёнткамі. У княжацкай бібліятэцы і архіве (усё гэта векавое

багацце зжэрла вайна) бедны юнак-недавучка абагачаўся культурай, тут ён пачаў сваю сціплую, шчырую песню «вясковага лірніка».

Таму і вісіць у касцёле ягоны партрэт.

Ну што ж, сярод кардін, якія ўпрыгожвалі раскошныя замкавыя залы (назвы самі гавораць: «гетманская», «мармуровая», «каралеўская», «залатая»), вісеў і партрэт мясцовага кмётка, мужычка, з недалёкай вёскі Чучавічы, які пражыў сто сорак гадоў.

Перад партрэтам Сыракомлі я спыніўся не ўпершыню.

Ен зноў нагадаў мне яшчэ адзін партрэт у касцёле, куды бяднейшым, вясковым,— партрэт мілага вусача, падзвіжніка нашага літаратурнага адраджэння Багушэвіча. Есць нешта вельмі блізкае ў іх, хаця адзін аддаўся роднай справе поўнасцю, а другі, Сыракомля, толькі любіў бяздольнага беларускага рабацягу, толькі часамі ад мовы ягоных паноў пераходзіў да мовы «мужыцкай», з натуральнай свабодай пішучы па-народнаму:

І нашто ж вясна нам, божа?<br>Мы адвыклі ад вясны...<br>Елкі ў лесе, мох на стрэсе<br>Зелянеюць заўсягды...

Невялікае поле было ў паэта для вандровак. Ад наднёманскага фальварка Залучча, які ён марна арандаваў, не сто, не пяцьдзесят, нават не дваццаць вёрст на паўднёвы захад — мястэчка Мір, раней цыганская, пасля толькі старцоўская сталіца. Мястэчка і замак з буслянкамі на зруйнаваных войнамі вежах. Ад карчмы да карчмы — вёрст пяток, перагон, памяркоўны нават для нецярплівага нешахода. ГІясчаны гасцінец паўзе сабе ў бярозах з хлебнага Міра на поўдзень, у Нясвіж. Ужо не мястэчка, а гарадок. І зноў жа замак. Магутны ён не баявою сдавай, а магнацкай раскошай. Адтуль дарога ідзе на ўсход, цераз віцінныя Стоўбцы, першую прыстань у вярхоўі Немана, цераз сасоннік, пясчанае поле, зноў сасоннік — у яшчэ адно старадаўняе мястэчка, Койданава, дзе быў калісьці разгромлены паплечнік Батыя хан Койдан. Адгэтуль — зноў у Залучча.

Замкнуўшыся, кола вандроўкі не дасягае двухсот кіламетраў.

І гаворкі найбольш пра адно — пра Нясвіж, пра князёў.

У дробнага арандатара і набожнага каталіка, праз яго захапленне шляхецтвам, больш знізу ўгару, чым па сваёй шарачковай гарызанталі — праз захапленне, якое нам цяпер і нуднае, і смешнае, сям-там прарываецца несмяротная чалавечнасць.

Вось як ён піша пра ўсемагутных тады Радзівілаў:

«Большая палавіна Літвы, Валыні, Русі і амаль усё Палессе складалі тут даніну за сваё збожжа, за свае лясы, за рыбу, што ў вадзе, за пчол,

што ў паветры, і хто ведае — можа, за само паветра. Цяжкая праца хлебаробаў, замененая ў золата, напаўняла тутэйшыя скарбніцы каштоўнасцямі, тутэйшыя скляпы выдатнымі напіткамі, свет здзіўленнем, а «сенатарскую» і «пасольскую» залы гонарам і гразою».

Або пра сялян:

«Дастаткова быць чалавекам і хрысціянінам, каб бачыць, колькі мы вінаваты мужыкам: сэрца — як братам, удзячнасці — як карміцелям».

Праўда, долю беднага брата паэт спадзяваўся палепшыць панскай ласкай.

Але ж праўда таксама і тое, што ён шчыра хацеў, каб абяздоленым палепшала. Ён жыў і працаваў для гэтага.

...Калі пра такое напішаш — яно здаецца наіўным, знарокавым, ганным прыёмам, калі ж яно здараецца ў жыцці — заўсёды хочацца весела ўскрыкнуць: раскажы, напішы — не паверыць, што так і было!

Гэта — пра дзіўныя супадзенні.

У адзін з тых нясвіжскіх дзён, калі я з найбольшай у маім жыцці ўвагай думаў пра свет Сыракомлі, радыё падарыла мне песню. Вярнуўшыся з гарадка, я — от сабе, перад тым як сесці за працу,— уключыў рэпрадуктар. І палілося задушэўнае, раздольнае:

Когда я на почте служил ямщиком...

Гэтую песню я люблю даўно. З тых дзён, калі яшчэ не толькі не ведаў, але нават і блізка думаць не думаў пра тое, што яна дзіўна-шчаслівым шляхам — ад беларускага жыцця, падказаная сапраўдным здарэннем у ваколіцах Міра, нраз польскае слова, праз трэфалеўскі пераклад стала рускай народнай песняй. Цяпер я здзіўляюся гэтаму простаму цуду, цяпер мне здаюцца вельмі рускімі, вельмі народнымі словы:

Сначала не чуял я в девке беду.
Потом задурил не на шутку...

Цяпер мне сіла іх рускай народнасці ўяўляецца ў шчаслівым спалучэнні з дудоўнай і вельмі рускай мелодыяй. Цяпер... Ну так, цяпер мы любім разважаць, дакопвацца. Гэта нам, зрэшты, і паложана. А першы раз...

Калі я пачуў гэтую песню першы раз, мне было шэсць гадоў. Нават не поўнасцю. Гэта немалаважна на тым этапе жыцця, калі нам дні давал і больш, чым потым тыдні, а то часамі і месяцы.

На маленства мае — маленства гарадскога хлопчыка, нядаўна перавезенага з поўдня на поўнач, у вёску,— упершыню тады абрынулася шчодрым снегам беларуская зіма. Ці гэта мы ўжо старэем ды па гадах любім прыкрашваць былое, ці зімы тады, на пачатку дваццатых

гадоў, і сапраўды былі больш снежныя?.. Адзін дзядзька расказваў: яго карову пад паветкай аднойчы так засыпала, што «выйшаў уранні, гляджу — адны, браток, рогі з-пад снегу тырчаць...». Многа снегу, усё пад ім тоне, а ён усё ідзе. Бацька да позняга снедання капае ў ім сцежкі-траншэі — каб з хаты вылезці, дайсці да студні, да хлява, на вёску выбрацца... Столькі лішняй работы, а бацьку весела: такая гэта работа чыстая, белая, нават іскрыстая, калі ўзыдзе сонца. За малымі, замураванымі марозам вокнамі процьма казачнай прыгажосці. Чырвоныя, нібы пузатыя агеньчыкі, гілі. Пякучыя, балючыя, калі лізнеш па шыне, палазы новенькіх санак. Каля парога вераб'і, якім і холадна, і есці хочацца. На агародзе шчыглы і чачоткі, дзе для іх паўтыканы ў снег канопліны з валасянымі сілкамі. На прыгуменне прылятаюць курапаты, і там кладуцца абручы з сілкамі, а зверху гэта пасыпаецца пацярухай. За гумнамі бегаюць зайцы, якія ноччу падыходзяць аж у сад, абгрызаць яблынькі. Недзе яшчэ далей, у лесе — ваўкі, пра якіх вечарамі расказваюць страшнае...

Толькі і гора, што на двор калі-небудзь не пусцяць; толькі і ганьбы, што раптам рыбы ў ложку наловіш; толькі і болю, што маці часамі ляпне па портках, калі нашкодзіш трохі ці лішне вякаеш!..

У адзін з такіх дзён, вельмі звычайна белых, будзённых, вароты нашы адчыніліся для нечаканых гасцей, хата напоўнілася гоманам, а потым песнямі — па-святочнаму.

У празаічным тлумачэнні гэтай справы ўсё выглядае проста: з трэцяй вёскі, за сем кіламетраў, да дзядзькі і цёткі прыехалі пяць маладзіц-сваячак — у госці, з кудзеляй.

Маё ўяўленне ўспрымала гэта інакш. У той дзень я быў і на двары, і ў хаце, і за сталом — я ўсё бачыў і чуў.

Пад дугою — і гэта перш за ўсё — трэнькаў вясёлы званочак. Цётак з прасніцамі было не проста пяць, а поўныя сані-развалы. У хаце цёткі распраналіся, цалаваліся з мамай, хто распрануўшыся, а хто яшчэ і не, шмат гаварылі, смяяліся, а потым паселі прасці.

Смыкалі нітку з кудзелі, кожная слінячы тую нітку ў румяных, вільготных губах, кожная хораша ведучы яе доўга, на ўвесь адмах правай рукі, несучы на той нітцы вясёлае, нібы ваўчок, верацяно. І ніхто з іх не думаў, відаць, што хлопчык глядзіць, вачэй не зводзіць таму, што ў нейкай зачараванасці, неяк па-свойму шчасліва бачыць іх жаночую маладосць. Які ён быў бы шчаслівы пасядзець у гэтай цёці на каленях; гэтую, мусіць, абняў бы, абняў бы за шыю; а гэтая... яіс цалуе лянок, хай бы пацалавала так яго...

Тата кудысьці пайшоў і прыйшоў. Мама заслала стол. Тата паставіў бутэльку — адну на белым стале, нібы царкву на роўненькім

далёкім снезе. Потым на край кужэльнага снегу лёг рыжаватай гарою вялізны, халодны з каморкі, бохан хлеба. Тата пачаў яго кроіць і лусты класці па краях стала. А потым мама каля лустаў палажыла лыжкі. Раз, два, тры... восем... адзінаццаць штук. Як гэта добра, божачка, што ўсе гэтыя цёці будуць у нас абедаць!.. І мы ўсе з імі. І дзядзька Аляксандр, наш сусед, які зайшоў і застаўся. І сястра Віліта, што ўжо таксама, як цётка, замужам, у нашай вёсцы, і яе адразу пайшлі паклікаць. Усе будуць. І я!..

Чарачак было толькі тры. Пілі па чарзе. Цёткі ўсё моршчыліся, бо гарэлка, мусіць, пячэцца, як тыя намёрзлыя палазы; і пырхалі смехам, выпіўшы, бо ад яе, відаць, робіцца весела. Потым усе заспявалі.

Найлепш — сястра і дзядзька Аляксандр.

Цяпер сястра ўжо старая, цяжка ходзіць, гадуе ўнукаў, збірае зёлкі і лечыць людзей. Тады ж яна была чырванашчокая, вясёлая, як усе тыя цёткі, тады яе голас звінеў, выбіваўся наверх праз усе галасы. Сусед Аляксандр зусім ужо тым часам дзед. Нядаўна, быўшы ў Мінску, ён начаваў у мяне. Вельмі хацелася пачуць яшчэ раз яго тэнар, ды я не ведаў, як падысці да старога, як папрасіць. Потым успомніў пра сваіх шчыглоў...

Я іх купляў кожную зіму, на радасць нібы толькі дзецям. Увечары, кал і шчыглы аціхалі на ноч, я іх часамі ашукваў — уключаў у другім пакоі святло, яно даходзіла сюды цераз калідор, праз шкло дваіх дзвярэй, вельмі, відаць, падобна на світанне. Бо птушкі абуджаліся і ціха пачыналі песню — яе як быццам уступнае, трохі гуллівае, трохі сардэчнае цурчанне. Часамі я іх ашукваў і так, што ставіў у другім пакоі пласцінку з прыцiхлай музыкай, і яны, у задоры, ці што, пачыналі спяваць — не ў пару.

Так я... ну, не скажу, што ашукаў, а падзадорыў свайго госця песняй. Паставіў не Шаляпіна, а некага са слабейшых. Знарок. Стары паслухаў і ціха пачаў... На жаль, ужо зусім, зусім не так, як раней... Нават не так, як нядаўна, гадоў некалькі перад гэтым. І сам ён гэта адчуў, відаць, ужо не ўпершыню. Бо толькі рукою махнуў і змоўк. А памаўчаўшы — пачаў гаварыць. Пра мінулае.

Тады, у далёкім мінулым, больш за сорак гадоў таму назад, ён быў спявак па ўсю ваколіцу. Я, праўда, гэтага не ведаў, не ўсведамляў. Значна пазней прыйшла горкая думка, што вось і яшчэ адзін талент, праз беднасць і цемру, не стаў вядомы мільёнам людзей. Тады ж, за стадом, на каленях у бацькі, я быў толькі зачараваны. Прыгажосцю і сілай песні — яшчэ адной з'явай жыцця, такога добрага, вялікага, незразумелага, невытлумачальна любага і таямнічага.

Можа, нават я і не так ужо выдзяляў у той застольнай песні два

галасы — можа, я сёння нават міжволі прыпісваю сабе, маламу, пазнейшае? Сотні разоў пасля — падлеткам, дзецюком, сталым чалавекам — я чуў Аляксандраў голас, які сваёй ласкавай, ціхай сілай вылучаўся вечарамі ў кожным, хоць самым шматлюдна-грымучым, вясковым хоры. Можа, праз прызму гадоў, як праз тоўшчу няхай сабе і празрыстай вады, проста нялёгка акрэсліць грані падзей і адчуванняў? Можа, гэта ўжо мне цяпер, калі я неўпрыцям дажыў да таго веку, у якім быў тады мой тата, больш уяўляецца, чым помніцца, як ён, бацька, які пакінуў мяне сіратою праз год, каб стаць ва ўспамінах амаль легендарна вясёлым і добрым,— як ён тады і сам спяваў, і дачкой любаваўся, і заціхаў са слязамі ў вачах, глядзеў на Аляксандра і, крутануўшы галавой, нарэшце гаварыў: «Галубчык! Саша!..» «Галубчык» — гэта было першае слова для пахвалы і пяшчоты, прывезенае ім у родную вёску з бяскрайніх шляхоў расійскай чыгункі. Гэтым словам мне, з далечыні мінулага, перадаецца бацькава, а з ім і маё, захапленне.

Захапленне—найбольш такі самою песняй.

Цяпер, у княжым замку, гэтая песня пра земляка-паштальёна гучыць для мяне ў спалучэнні з цудоўным малюнкам снежнай зімы, убачанай вачыма гарадскога хлопчыка, у спалучэнні з румянай, пышнагрудай і звонкагалосай радасцю маладзіц, што спявалі з такою сардэчнасцю, у спалучэнні з той, няхай няясна, але светла ўсвядомленай, а больш адчутай мною тады прыгажосцю высокага, найвышэйшага ў нашым жыцці,— нельга праходзіць міма чужое бя ды,— што зрабіла, відаць, гэтую песню народнай, любімай, хвалюючай.

У чароўнасць гэтай песні, у абаяльнасць яе ўваходзіць нечым неаддзельным другая мая сустрэча з яе аўтарам, ужо трошкі мне вядомым. Успамінаю верш пра задуманага перад выраем бусла, што, перакладзены на нашу мову, так люба лунаў над роднымі старонкамі заходнебеларускай чытанкі.

Ажывае ў памяці і пагодлівы летні вечар, калі мне, стомленаму на жніве юнаку, што вось паставіў апошнія мэндлі і моўчкі, памалу ідзе па ржышчы, хацелася сваю радасць, сваё адчуванне вячэрняй красы, красы і мудрасці працоўнага жыцця перадаць другою Сыракомлевай песняй, акрыленай музыкаю Манюшкі.

Po nocnej rosie
Płyń, drwięczny glosie —
Nich się twe echo rozszerzy...

Гэта ўсё было так блізка — і начная раса, і звонкі голас, і рэха, і недалёкая вёска, дзе ў нашай хаце старая матуля рыхтуе вячэру...

Таксама блізка, і ро дна, і радасна, як і гэтая песня, што вось

гучыць з рэпрадуктара, што хвалюе мяне зноў і зноў...

Каб толькі тое, што ён, Сыракомля — мой зямляк, што яшчэ бліжэйшым земляком быў апеты ім на вякі паштальён, што я так добра ведаю наднёманскі, пясчана-сасновы край яго, паэтавага свету, што я хадзіў па ягоных шляхах і сцяжынках, больш як праз сотню гадоў па-сяброўску сумнавата, з бацькоўскім разуменнем думаў пра ягоных дзяцей, без пары пахаваных на тых стаўбцоўскіх могілках, міма якіх я столькі разоў праязджаў... каб толькі тое — было б далека не ўсё, чым ён здаецца мне блізкім...

Слухаючы яго песню, у думках зноў стоячы перад яго касцельным партрэтам, гледзячы ў яго шчырыя вочы, хацелася сказаць:

Прабач, браток, што я, па прыкладу верхаглядаў, намякаў на тваю шляхецка-каталіцкую абмежаванасць, нібы па звычаю свайго часу хацеў павесіць на цябе ярлык.

З часовага ты вылузаўся даўно. Яно, як і належыцца шкарлупіне, дзесьці там засталося — што ў нябыце, а што ў гісторыі. Ты вылецеў, ты жывеш сваім несмяротным, хвалюеш і радуеш.

Пра магнацкія могілкі пад касцёлам ты стрымана пісаў, як быццам стоячы ў тым нудным падзямеллі:

«Думкі звычайныя, але тут яны ідуць з-пад самага сэрца — думкі пра гордасць чалавечую пры жыцці, пра марноту па смерці...»

Гэта, дружа, цябе не датычыцца.

1966

## З КУПАЛІХАЙ

Калі б я аднойчы ўранні прачнуўся і раптам паверыў, што яна жывая,— я пагаліўся б чыста, надзеў бы беленькую кашулю і, адклаўшы ўсякія працы ды справы, пайшоў бы сказаць:

"Добрай раніцы, мілая цётка Уладзя!.."

Высакародны быў чалавек. Мітуслівая, гаваркая, вясёлая, часам цяжкая, як гаворыцца характарам, але асабліва з дыстанцыі часу — харошая.

Часта мне ўспамінаецца адна паездка з ёю. У кал гас імя Купалы, каля Маладзечна.

Быў чэрвень у самым сонечным росквіце. У дарозе мы — тры літаратары, тады яшчэ маладыя, наша цудоўная гаспадыня і шафер — перакусвалі ў буйнай траве пад бярозкамі, смачна і весела. Потым, у вёсцы, прыехаўшы ранавата, чакалі, каб звечарэла.

Купаліха пайшла кудысьці, шафёр прыдрамнуў у зацішку, а мы прыпыніліся ўтрох на ганку клуба, у цяньку. Ці то гаворачы пра штосьці блізкае, ці так сабе, у приемным маўчанні,— помніцца толькі добры, ціхі настрой.

Ды вось аднекуль, нібыта з неба, з'явіўся ўпаўнаважаны. Рыжы і трохі чырванаваты — ад "мухі"

— Чыя машына? — спытаўся ён грозна, нават не павітаўшыся.

Двух нас было, можна сказаць, здаравенных — адзін сядзеў на прыступку, а другі ўзвышаўся амаль да самага капяжу. Трэці таварыш быў маленькі, даволі мізэрны, але з таямнічым, сурова засяроджаным выразам твару.

— Мне патрэбна машына! Гэта чыя?

— Наша,— сказаў я.

— Вы што — па выбарах?

Якраз выбіраліся суддзі і засядацелі.

— Не.

— Па дзяржаўнай пазыцы?

Быў пяцьдзесят чацвёрты год.

— Таксама не.

— Хто ж вы тады? Чыя машына, я пытаюся?

Зусім спакойна, як гэты вечар вясковы, я растлумачыў:

— Гэта машына ўдавы Яыкі Купалы.

— Ну, добра,— яна ўдава, а вы хто?

Тады я, нібы па натхненню, шапнуў яму — з належнай таямнічасцю, на паўгубы:

— Мы — а-са-бі-ста-я а-хо-ва.

Упаўнаважаны імгненна лузгануўся ўгару, на "смірна", казырнуў і гаркнуў:

— Здраўя жалаю!

Мы прынялі яго пашану моўчкі, з належным спакоем і годнасцю.

Грозны таварыш стушаваўся, як мне помніцца, хутка, нават адразу.

Пазней, на прыцемку, у душным перапоўненым клубе быў літаратурны вечар. Мы выступалі ахвотна, нас добра слухалі, асабліва, вядома, Купаліху. Потым, у школе, настаўнікі частавалі нас шумнай вячэрай. Пасля застолля мы ўсе вялікай кампаніяй вярнуліся ў клуб на танцы.

Ох, як нястомна танцуюць нашы дзяўчаты! Выбегуць да студні, панапіваюцца з вядра халодненькай, пасяпваюць ці парагочуць на зоркі, трохі прасохнуць ад начной свежасці і — зноў пайшлі, полька ці кракавяк — відаць, на цэлыя паўгадзіны!..

Мы, як баяры, сядзелі на лаве, сумнавата адчуваючы, што ўжо не для нас такая нястомнасць. Цётка Уладзя то любавалася танцамі, то зноў сарамаціла нас:

— Сядзіце, таўкачы!..

Потым — нібыта з яснага неба — зноў з'явіўся ўпаўнаважаны. Чырвань яго была ўжо куды гусцейшая.

Ён падышоў да шаноўнае госці, галантна казырнуў, нахіліўся і гаркнуў:

— Факстроцік не жалаеце?

Бачу і сёння, як яна дабрадушна смяецца — паўнатварая, у сваім нязменным чорным берэце. Смяецца мол ада. Рукой, па праву старасці, махнула перад ім: ды што ты, чалавеча,— нездароў?..

Танцы змяняліся танцамі. Перапынкі шумел! смехам ды песнямі.

Упаўнаважаны то прападаў, то з'яўляўся.

З'явіўшыся, ён зноў падыходзіў і казыраў:

— Факстроцік не жалаеце?

За трэцім разам цётка Уладзя, як толькі кавалер зноў павярнуўся, каб знікнуць, сказала — па-свойму непасрэдна, голасна, праз малады, сардэчны смех:

— Ой, хлопчыкі... Калі мы з Янкам у Вільні жылі, быў там... ой, такі ж такусенькі дурны акалодачны надзірацель!..

## ДОБРА БЫЦЬ МАЛАДЫМ

Стары канчае свой восьмы дзесятак. Не якінебудзь цяжкі, нямоглы, занудлівы дзед, а няpослы рухавы, вясёлы і па-народнаму мудры дзядок. Толькі нядаўна ён адпусціў сабе доўгія валасы і бараду, жаўтлява-сівыя, настолькі ўжо "благочестивые", што да іх зусім такі пацешна не пасуе старая шырпатрэбаўская кепачка з маленькім казырком. Зрэшты, кепачка сваё робіць: пад ёю вельмі надзейна схаваны німб яго крыху сектанцкага высакародства, саліднасці, і астаецца чалавек, які многа шукаў, не раз памыляўся, многа чытаў самых сур'ёзных кніг, многае ўмеў рабіць залатымі рукамі, зрабіў людзям нямала дабра — і "во спасение души", і проста па дабраце яе, гэтай душы, яшчэ ўсё неспакойнай і нястомнай.

І мне ён дапамог сім-тым за нашы трыццаць год нямала. Скажам цяпер — сваім адчуваннем вясёлага, вострага слова. Таго, што з самых народных глыбіняў, ад той гаючай свежасці, якая пахне і першай баразной, і разварушаным гноем, і бела-ружовай пяшчотнасцю яблыневага цвету, і вострым палыном узмежкаў.

Неяк ён зноў заходзіў да мяне і зноў пакінуў на ўспамін, на добры смех ды падмацунак ёмкае, смачнае слова.

— Уставай — коні ў аўсе! — Так мы калісьці смехам будзілі адзін ад наго на начлезе. Чым не заклік да працы, да пільнасці? А крыху пазней, развітваючыся: — Будзь, Іване, здароў. Шукай, працуй, а коней у авёс — не трэба.

Пошукі ісціны, што хвалявалі яго ад ранняй, вельмі далёкай ужо маладосці, заўсёды праходзілі недзе паміж Талстым і Леніным. У 1919-м трыццацігадовы чыгуначны тэхнік, вегетарыянец і абстынент, ён быў у родным гарадку членам рэўкама. Загадваў зямельным аддзелам. Чатыры папы на чале з благачынным — дрыход быў багаты — у жніво звярнуліся ў рэўкам з прашэннем выдзеліць панскага жыта і ім. Загземаддзела выдзеліў ім на чатыры сям'і дзве дзесяціны, налажыўшы на прашэнні такую рэзалюцыю:

"Згодна са словамі апостала Паўла — "Не работающий да не ест" — жыта прыбраць самім".

Днямі я выпадкова сустрэў яго на аўтобусным вакзале: дзед сабраўся ў родны гарадок агледзець бацькоўскія магілы. З кашолкай у руцэ, накрыты несмяротнай кепачкай, з усмешкай, што не прапала і ў свяшчэннай барадзе. Пастаялі мы, чакаючы яго аўтобуса, пагаварылі. Да стаянкі адзін за адным падыходзілі аўтобусы: набярэ пасажыраў — пайшоў, праз нейкі час падыходзіць наступны. І ўсё не наш. То Клецк, то Наваградак, то Нясвіж... Хоць вонкава і

непрыкметна, а хвалюемся — і ён, і я. Во ўжо і сутуняецца. Яшчэ адзін аўтобус!.. А каб цябе — зноў не наш: івянецкі!..

Дзядок засмяяўся. Без найменшай сувязі з вельмі сур'ёзнаю тэмай нашай размовы.

— Калі-та на ўскраіне гэтага самага Івянца,— пачаў ён,— стаяў святы на горачцы. Фігура з дрэва, унізе насаджаная на шпень. Гэта яшчэ да той, да царскай вайны. Студэнты... Можа, і з маладзечанскай настаўніцкай семінарыі? Маладыя людзі заўсёды былі вясёлыя. І думалі некаторыя. Словам, узялі яны ноччу ды пакруцілі таго святога на шпяні, адвярнулі яго ад горада і напісалі на гэтай самай: "С... я на ваш Івянец! Пайду ў Валожын". Ха-ха-ха!..

Дзед канчае восьмы дзесятак. Добра і ў старасці быць маладым!

## ГУРТАВОЕ

Каля нашай вёскі, там, дзе цяпер проста крайні ад загумення куток вялікай калгаснай пашы, калісьці быў лужок. Са сваёй асобнай назвай, са сваёй маленькай гісторыяй, якая штогоду папаўнялася новымі фактамі.

Гэта бывала звычайна ў другой палавіне жніўня.

Харошая пара. Адкалываліся ды адрыпелі на калдобінах духмяныя вазы мурагу, жыта, ячменю, лёну. Безліч мядзведжых ахапкаў казытлівага сена і ладных — добра, калі нялёгкіх! — снапоў падняты ды пакладзены на воз, пасля на торп, у халадок і зацішак гумна. На полі застаўся толькі авёс — у мэндліках або сям-там, дзе надзелень, яшчэ няскошаны. Грэчка, лубін, канюшынная атава, насенная канюшына, бульба, што пачынае ўжо добра жаўцець і смачна, дамавіта пахне. Пара адноснай сытасці, першахлебнай ды бульбянай, укропна-агурочнай, яблычнай. Нейкая паўза, кароткі адпачын перад імглісцай задумліва-ласкавых верасnёўскіх раніц, перад мудрай і сумнаватай паэзіяй свежай раллі, радасным россыпам новага насення, журботна-сонечнай паэзіяй залатога лісця і амаль пажаночы пяшчотных дотыкаў ціхага, светлага, лёгкага павуціння...

Тады, у дні перадыху на стыку лета і восені, наша вёска, сказаў бы, раптам успамінала пра той лужок за крайнімі гумнамі, які, як быццам забыты, чакаў свае чаргі. За тыдні касавіцы і жніва, раз'яднаная, расцярушаная па бліжэйшых і далёкіх надзелах лугоў і палявой распалосіцы, вёска збіралася каля таго лужка. Адны мужчыны ды зрэдку цётка ці маладзіца з той хаты, дзе часова або надоўга не было каму выйсці на гаспадарскую справу. Бясформенны абшар лужка дзялілі спачатку палосамі ўдоўж, потым тое, што заставалася, палоскамі ўпоперак, і заўсёды яшчэ заставаўся трохкутнік паміж полем і выганам, кавалак, які ўжо нельга было падзяліць і які называўся, мусіць, вельмі здаўна, Гуртавое.

Дзялілі лужок найчасцей у нядзелю пад вечар. А назаўтра ўранку выбягалі сюды, адзін перад адным, як найраней. Яшчэ і тычак добра не відно, граніцу цяжка адбрысці, яшчэ і косіш нібы навобмацак. І спех такі — не столькі ад жадання ўхапіць гэтую жменю сена, пакуль стаіць пагода, як ад жадання пакрасавацца перад суседзямі спраўнасцю.

Гуртавое касілі пасля абеду, калі ўжо на падоўжных ды папярэчных палосах жанчыны пачыналі зграбаць у валкі, а то, хто гарачэйшы, і капіць сяк-так падсушаную траву. І касіць гэты шматок хвашчу, які, дарэчы, елі толькі коні, пачыналі не адразу ды не так сабе, а

пасля штогадовага традыцыйнага веча.

Косы ўтыкалі канцамі касільнаў у мяккую пакошу, а самі адыходзіліся трохі і залягалі або рассядаліся на сушэйшым, падгрэбеным узмежку.

Трэба сказаць, што збіралася сюды, касіць лужок, а потым дзяліць Гуртавое, не ўся наша вёска.

Нядаўна мне давялося паглядзець у бібліятэцы польска-французскі атлас з другой палавіны XVIII стагоддзя і з прыемнасцю знайсці на карце Наваградскага ваяводства свае Загора, — Sagora, як яно значыцца там у французскай транскрыпцыі. Трэба думаць, што вёска стаяла сабе і задоўга да таго атласа, што назву сваю яна вядзе здалёк, здаўна, упарта і самавіта не згаджаючыся стаць ні Zagorzem якім яна бывала, ні Загор'ем, якім цяпер значыцца афіцыйна. Яшчэ адно: у старым «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін» у пераліку мноства вёсак з такою ж няхітраю назвай, ёсць паведамленне, што наша Загора сто год таму назад мела трыццаць сем камінОў, мясцовасць вакол яго была таксама бязлесная, а землі ўзгоркаватыя, пшанічныя.

Рэшта гісторыі — у вясковых паданнях.

Адно адчувае пасляваеннае пакаленне загорцаў, — тыя студэнты, салдаты, настаўнікі, інжынеры, урачы, якія, пад'язджаючы ў наш час да роднай, больш чым на сотню хат вялікай вёскі на ўсходнім схіле гары, бачаць шыфер і бляху, светлыя вокны ў садах, белыя сцены школы, клуба, сельмага, спраўныя будынкі брыгаднай фермы наводшыбе.

Другое адчуваю я, калі за ўсім гэтым, ужо звычайным, бачу і тое, што было, — суцэльную саламяную шэрасць значна меншай, непараўнана бяднейшай і цёмнай заходнебеларускай вёскі, што ўжо не будзе такою, якой была, якой яна, як часамі здавалася, будзе заўсёды...

Зрэшты, і тое, што жыло ў памяці нашых бацькоў і дзядоў, што мы пачулі ад іх, як казку, здавалася ім калісьці беспрасветным ды бясконцым.

Па тых паданнях, па той няпісанай гісторыі наша малое ў гады прыгону Загора належала ажно пяці панам. Хто з іх быў лепшы, хто горшы — уся гэтая разнавіднасць няволі і здзеку пайшла ў нябыт. Да дзён майго юнацтва, за сем дзесяткаў год ад ліквідацыі паншчыны, дайшлі толькі назвы «схедаў»[1], частак вёскі — па некалькі хат — ад колішняй прыналежнасці да памешчыкаў: «свідзінскія», «судзёўскія», «гнаінскія», «лісіцкія», «ёдчыны». Відаць, памыляюся нават у назвах, бо і тады ўжо гэта было мне, майму пакаленню зусім нецікава. Тады ўжо

[1] Scheda - спадчына (польск.).

вёска дзялілася толькі на дзве часткі: вышэйшая палавіна, што размясцілася на гары — «нагорскія», а наша, усходняя частка, у даліне — «ёдчыны». Яшчэ ўсё як на ўспамін пра нейкага, ледзь не міфічнага, пана Ёдку.

Гуртавое належала «ёдчыным». Аднак, пакуль ішла падрыхтоўка да веча, пакуль тое веча цягнулася, тут збіралася многа людзей з усёй вёскі. Той завёў кабылу на пашу — падышоў сюды з аброццю. Другі ішоў па кабылу — таксама спыніўся, а потым прысеў. Хто з поля, хто з вёскі падышлі на гоман і засталіся, як на цікавым, вельмі нячастым відовішчы — на хвілінку — да самай касьбы.

— Дык што мы будзем, мужчыны, рабіць з Гуртавым?

Пытанне гэтае, здаўна і штогоду, ставіў звычайна хто-небудзь са старэйшых гаспадароў. Не дамаўляючыся пра чаргу, не забягаючы наперад, але ж з прыкметнай ахвотай і амаль з дзяржаўнай важнасцю.

Адказвалі яму, як і заўсёды, тое самае, як быццам у гэтай справе не было ўжо вопыту, пэўнага стандарту вырашэння. Зноў выстаўляліся на суд, даўно вядомыя, тры варыянты:

1. Разбіць на палосы і скасіць ды прыбраць кожны сваё.

2. Прадаць траву і купіць пажарную бочку.

3. Скасіць, згрэбці, скапіць гуртам і ў копах, па жэрабю, падзяліць.

Пачынаючы з пастушковага ўзросту, больш за дзесяць разоў я быў на гэтым вечы назіральнікам і слухачом, без права голасу. Спачатку па малалецтву, а потым, хоць і грабец і, нарэшце, касец, пры двух старэйшых братах — не гаспадар.

Зрэшты, так мне было зусім добра. Да гэтага ў мяне, гадоў ужо з пятнаццаці, былі свае адносіны.

Штогадовыя веча помняцца мне перш за ўсё як вясёлы перабрэх. На розныя тэмы — ад найбліжэйшага, штодзённага аж да самага грэхападзення Адама і Евы, пра якое, як і пра шмат чаго іншага, расказваў — у сваім варыянце — вядомы на ўвесь наш свет рыбак, паляўнічы, гультай, канавал, бабнік, байдун і песеннік Самусь. Дарэчы, з «нагорскіх», незацікаўленых, але заўсёды, помніцца, прысутны.

Сяды-тады тэматыка набірала класавай вастрыні:

«З горла лезе, маць тваю перамаць, а на чужое ўсё роўна гонішся!..»

«Ты каміны не лічы, ты лічы дзесяціны: колькі іх на чый комін прыходзіцца!..»

«Пачакай, пачакай, ці не скончыцца ваша царства, ці не паглядзім мы, як ты тады заквохчаш!..»

Сварыліся, выгаворвалі адзін аднаму сабранае за цэлы год нездавальненне і варажнечу, у пошуках аргументаў залазячы і ў папярэднія, нават далёкія гады. У якасці халоднае вады на галовы гарачых ішло што-небудзь такое:

«Ды што вы, хлопцы, як бабы, счапіліся?..»

«Паможаш хіба, калі памолішся?..»

«От дзе каб нашых баб і праўда сюды — от дзе б сечкі насеклі!..»

Часцей, аднак, сварку перабіваў, глушыў яе выбухам рогату нейкі новы расказ, Самусёў ці каго-небудзь іншага. Часамі ад сварак ды жартаў нехта хацеў перавесці цікавасць на песню. Дарма. Не выходзіла. Для песні патрэбен быў вечар, патрэбна была цішыня, хоць часовае забыццё на ўсе беды і клопаты. Калі ж і пачыналася песня на пакошы, дык ненадоўга, як не доўгія былі і сваркі.

Больш было жартаў і смеху.

Што ж да маіх «сваіх адносін» да ўсяго, што адбывалася на гэтым лужку і ў вёсцы, і наогул на свеце, дык я не быў тады староннім назіральнікам, бесклапотным падлеткам ды дзецюком з нябеднай хаты, якога яшчэ не ўкусіла свая ўласная вош, аматарам абы з чаго пасмяяцца каля вясёлых. У мяне ўжо была свая таямніца, сваё запаветнае — я ўжо вучыўся, рыхтаваўся на пісьменніка. І таямніца мая, сяму-таму ў пэўнай меры вядомая, не адгароджвала мяне ад людзей. Наадварот — ад кніг, ад паперы яна вяла мяне да іх лепшым, глыбейшым і — мне хацелася гэтага — яшчэ больш іхнім. Кожны мой дзень быў вучобай: я не толькі чытаў і пісаў у вольны ад работы час, — я прагна слухаў, глядзеў, запамінаў. Шчаслівае маўчанне няспыннай карпатлівай падрыхтоўкі да тае працы, якая, я верыў, чакае мяне, якая будзе патрэбна простаму чалавеку, карміцелю і бедняку, — патрэбна маёю шчырасцю, нашай праўдай, якая сваімі фарбамі і гукамі сальецца з красою роднай прыроды, роднай мовы і песні, роднага суму і смеху.

Пажарнай бочцы не шанцавала. Клапаціцца пра тое, каб нарэшце-такі набыць яе, другую да нашай помпы, павінна была ўся вёска, не адны толькі ўладальнікі Гуртавога «ёдчыны». «Ёдчыны» не хацелі ў гэтай справе перадаць і мелі сваю пашахонскую рацыю.

Здаецца, толькі раз ці два разы на маёй памяці Гуртавое хтосьці купіў «на скос». Адзін раз тыя лічаныя злоты пайшлі, здаецца, на першую бочку, а другі раз так і ляжалі да самага Верасня ў скарбніка добраахвотнай пажарнай каманды, дарма чакаючы, калі да іх «нагорскія» збяруць сваю палавіну.

Не памятаю, каб калі-небудзь Гуртавое разбівалі на палоскі ды палосачкі, — не даходзіла да вяршыняў такой геаметрыі.

Часцей за ўсё, стаміўшыся ад спрэчак, што рабіць, касілі гуртам, тым больш што сонца не чакала. І касьба гэтая помніцца, як самае характэрнае, нібы так толькі яно заўсёды і было.

Касцы ўставалі.

І зноў жа хтосьці першы — не па чыне ды не па выбару, а хто быў найбліжэй — станавіўся ў крайні ад пашы пракос, ці то гарэзліва, ці абыякава, ці нават урачыста пачынаў мянціць касу.

Пайшоў. Пакуль пайсці другому, трэцяму — усе пачыналі мянціць, да апошняга ў постаці. Вясёлы маладзецкі перазвон.

А публіка рознага веку, ад смаркатых да сівавусых, усе, хто сабраўся тут дзеля веча, стаялі збоку, на пашы, як на нейкае дзіва гледзячы на справу звычайную — касьбу, і незвычайную, бо раз на год калектыўную, гуртавую.

Тут набліжаецца галоўнае...

Тут я павінен зрабіць яшчэ адно, не апошняе, адступленне.

Вёска наша, як правільна сведчыць вышэйуспомнены «Геаграфічны слоўнік», спрадвеку палявая. Ляскоў, гаёў якіх-небудзь ці проста зарасніку каля яе няма. У лес мы, пастухамі быўшы, траплялі толькі ўвосені, калі кароў пускалі на лугі, пасля атавы. А падраслі — па дровы ездзілі зімой.

Салаўя, такім чынам, я змалку не чуў, гадоў, здаецца, да семнаццаці, пакуль не паехаў аднойчы ажно за чацвёртую вёску рэзаць на балоцістым надрэчным лузе лазу для крыцця.

Красу птушынага голасу я ведаў, перш за ўсё, ад жаваранка і шпака. Не лічачы, вядома, спевакоў ледзь не хатніх — пеўня ці ластаўку, або выпадковых — шчыгла ці чачотку, што не табе дык суседнім хлапчукам траплялі часамі ў клетку.

Жаваранак і шпак, спяваючы, не хаваліся.

Першага мы змалку бачылі не раз. На зямлі, калі ён — недасягальна мілы, шэранькі — уподбежку шмыгаў па руні, яшчэ не могучы ў ёй схавацца; над зямлёй, калі ён уздымаўся над красуючым або ўжо налітым калоссем — адразу з сярэбраным звонам; у небе, дзе ён бясконца вісеў над табою, жанцом ці касцом, бясконца званіў, як вясёлая ручаіна, усё адно і тое ж, і ўсё такое новае, такое шчырае!..

Другі спявак — бліскуча-чорны, гарэзлівы шпачок, наогул нікуды як быццам не адлучаўся. Калі не на кіёчку перад акенцам шпакоўні, дык на галінцы дае свой штодзённы, з ранняга ранку да позняга вечара, таксама як і жаваранкаў, канцэрт. І з перапевамі, і сваё, і з кепікамі ўсякімі, з зачэпным посвістам, і ад сапраўднай радасці, з поўнай сардэчнай аддачай.

Загадкава прывабнымі, проста-такі чароўна таямнічымі былі мне

з маленства галасы яшчэ дзвюх птушак нашага свету — драча і перапёлкі. Іх галасы ўзрушліва спалучаліся з красой у аднаго — вясняных, а ў другое — летніх вечароў, з таямнічасцю роснага, прыімглёнага лугу і духмянага хлебнага поля.

Перапёлка бывала далей ад нашай хаты, сакавіта-хлёсткі і шчымліва-журботны покліч яе даходзіў здалёк, прыцішаны адлегласцю. Драч дадзіраўся настойлівым, поўным адчування абавязку і годнасці дзёрам — да самых акон.

Часамі, калі ты, зачараваны імі, выходзіў з хаты, ішоў па двары, пасля па цёплай баразёнцы паміж бліскучага ад месяца гічання буракоў ажно на роснае прыгуменне — яны, перапёлка і драч, служылі сваю службу, здавалася, зусім на пару, дуэтам, пад адным вялікім, нізкім месяцам, налітым спеласцю, нібыта казачна-агромністае яблыка, вось-вось гатовае апасці на мяжу паміж полем і лугам.

«Свежасць дзіцячага ўспрымання...»

Ды вось і іншае.

Сяджу над паплаўком, задуманы і засяроджаны. А пасля да мяне пачынае даходзіць музыка ціхага, ціхага шуму. Спачатку я падсвядома цешуся гэтай радасцю, а потым спакваля пачынаю ўсведамляць, што цуду тут ніякага няма. Узнімаю вочы. Гэта ж на тым баку ракі, хоць і даволі-такі шырокай, спакойныя, даўно ўжо не галодныя каровы падышлі нячутна па траве да берага, грызуць яе — нібы адною шырачэннай пысаю: ш-шам, ш-шам, ш-шам... Ёсць несулад у гэтым шаманні, ды ён усё ж зліваецца ў адно.

Мне ўжо тым часам за пяцьдзесят. І я ўспрымаю гэтую музыку надрэчнай раніцы не як дзіця, аднак не менш, здаецца, свежа і яшчэ глыбей.

Чаму? Як хто?

Як чалавек, які ў свой час быў па неабходнасці нават і стыхійным ветэрынарам — дапамагаў карове цяліцца, лячыў яе тым, што ведаў ад векавое мудрасці народнага лекавання, а то і стаяў над ёю, хворай, балюча глытаючы сваю бездапаможнасць.

Як чалавек, які не толькі замілавана гладзіў сытае, даверлівае цялятка, але і сам яго выкарміў, і быў аднойчы пастаўлены перад горкім абавязкам падысці да яго з нажом.

Як чалавек, які не толькі ахвотна піў сырадой ці задаволена пакрэктваў над місай крамянага ды халоднага з пограба кіслага малака, але ж і сена карове касіў, і салому на подсціл ёй вымалочваў, і гной вярнуў з-пад яе, да трэску ў жылах і ў дзяржальні сахара.

Каму ж, як не такому чалавеку адчуць па-сапраўднаму музыку яе, каровінай, задаволенай, сытай яды на калгасным прыволлі?..

Красу прыроды хлебароб адчувае інакш, паўней, чым яе староннi назіральнік, няхай сабе нават найлепш эстэтычна падрыхтаваны ці па натуры вельмі чулы. Хлебароб успрымае яе не збоку, не зверху, а з самай сярэдзіны, свядома ці падсвядома адчуваючы сябе саўдзельнікам стварэння гэтай красы, — гордае і шчаслівае адчуванне. Яно было маім у дні маёй сялянскай маладосці, у пэўнай меры маім засталося яно і дагэтуль. І дома, і ў кожнай іншай краіне, дзе я гляджу на новую красу палёў, павага да яе стваральнікаў жыве, ціха, непераможна спявае ў маім захапленні.

Гэтага мала, аднак.

Мне часта ўспамінаецца пара той непаўторнай свежасці пачуццяў, подыхамі якое цяпер, у гарадской ды кабінетнай мітусні і адзіноце, даводзіцца падмацоўваць сябе толькі час ад часу, успаміны пра якую вяртаюцца, непакояць душу ўсё часцей ды ўсё больш неадчэпна, з новым сумам і новай чароўнасцю...

Косы шаркаюць у траве і — другія — звіняць над травой.

Хто лепш за самога касца адчувае красу гэтай працы? Нагамі ў весела-роснай або ласкава-мяккай траве. Грудзьмі, што дыхаюць сілай і воляй. Вачыма, што бачаць зялёны прастор, які хутка пад ногі мне ляжа пакорнай травою...

Летняя «пільніца», гарачая пара, пачыналася з сенавання, нялёгкай, аднак самай чыстай і самай вясёлай, амаль святочнай работы. Цяжэй там бывала мужчынам, касцам. Асабліва калі не ў гурце, а сам пілуеш, без маладзецкага спаборніцтва, без гоману, смеху ды пераэвону мянташак. На жніве, з сярпом, шчыравалі ды петавалі больш жанчыны. Таму, відаць, і песні жніўныя — жаночыя, і гучаць яны такою журбой, ледзь-ледзь не на мяжы апошняга адчаю. Серп і рукі, спёка і поле, сваё ці не сваё, якое трэба было апоўзаць, сагнуўшыся, з тою ж цярплівасцю, з тою ж непаказнаю мужнасцю, з якою яны і раджалі спакон вякоў, і гадавалі ў нястачы, і аплаквалі, з якою яны валачылі горкую долю ўдавы ці салдаткі, ці вечнае наймічкі. Мужчыны тут сваю жніўную гаркоту, сваю нібы казацкую ленасць апраўдвалі тым, што бабская сярэдзіна куды, браток, гнутчэйшая за нашу. У пачатку трыццатых гадоў пачалі ў нас, на Міршчыне, касіць і збожжа. Калі ўлічыць, з якім нараканнем ды вохканнем, а то дык з добрым гвалтам сустрэлі гэтае «гультайства», гэты «рэспуст» старэйшыя, асабліва жанчыны, можна сказаць, што каса ды ў жыта, пракос ды на загоне — гэта была рэвалюцыя. Мужчына выпрастаўся. Яму і зноў жа нялёгка было, асабліва ў густой ці палеглай пшаніцы, але ж і добра пазіралася наперад, без паклонаў. Жанчына гнулася па-ранейшаму, падбіраючы пракос ды вяжучы

снапы, аднак ёй стала трохі лягчэй. Касцовы ж рукі пад вечар гулі, як тэлеграфныя слупы, спаць чалавек валіўся, як сноп, а пасля сну, абы ты зноў упрогся ў касу, гудзенне паўтаралася і набірала стомы больш ды больш — патрошку, спакваля, на загартоўку і ў запас.

Дык хто ж тады лепш за самога касца адчувае красу гэтай працы?..

Яшчэ ўсё любуецца ёю босая публіка, стоячы збоку, на пашы. Мужчыны з «нагорскіх», што пасыходзіліся на веча, і пастухі, амаль адны толькі хлопчыкі, адпушчаныя сюды дзяўчатамі ад далёкага статка. Нібыта ўпершыню глядзяць малыя, сталыя і старыя на гэтую касьбу — звычайную і незвычайную, бо разам, дружнай талакою.

І не падумаеш, што хутка тут адбудзецца яшчэ больш незвычайнае — такое штосьці, чаго як быццам ніколі не было.

Дык што ж такое?

А тое, што праз увесь гэты дзень, ад роснага, імглістага досвітку, калі так здорава было гнаць росны пракос, дыхаючы вострым, кіславатым пахам хвошчу, да сонечнага адвячорка, калі мы, мужчыны, выходзілі на сваё веча ў лёгкай стоме і ў мласнаватай пасляабедзеннай сытасці, — праз увесь гэты час у траве на лужку, як пад вадой, зверху нікому непрыкметна ды нячутна адбывалася сваё...

Пакуль касіліся палосы падоўжныя, галоўныя ды законныя жыхары лужка, смешна-настырлівыя скрыпачы, што не скрыпелі ўжо цяпер, у другой палавіне жніўня, — драчы з драчыхамі і драчанятамі абодвух вывадкаў нябачна ды нячутна перабягалі на той участак травы, які быў падзелены палоскамі ўпоперак. А ўжо адтуль яны пасля, яшчэ больш устрывожана перабіраліся ў клін нечапанага Гуртавога. Пакуль было ціха ў абед і потым, пакуль зусім побач шумела крыкам ды рогатам веча, бедныя скрыпачы сядзелі, прытаіўшыся ўжо ў невялікім для ўсіх іх трохкутніку травы, паміж свежай пакошай, вытаўчаным каровамі ржышчам і голай, як зялёны бубен, пашай. Абдумвалі, абмяркоўвалі, бедавалі...

— Хлопцы, драчэ!

Крыкнуў хтосьці з касцоў. Голас трывогі, радасці і каманды.

Усе касцы, уся басаногая публіка розных узростаў як быццам толькі цяпер зразумелі, успомнілі, што ж такое павінна адбыцца, што тут у гэткі дзень бывала штогоду.

Драчы, відаць, таксама па нейкай сваёй камандзе, дружна высыпалі з апошняга кліна травы на голую роўнядзь пашы.

Людзі — за імі. Першыя сыпанулі пастушкі. Тады касцы, пакінуўшы косы ў траве, рэдка каторы ўваткнуўшы яе касільнам у зямлю. Рушылі нават і пажылыя з аброцямі, нават і той біблейскі каментатар,

ужо тым часам сівы і прыгорблены гультай Самусь.

З гікам, свістам і смехам ляцелі яны па маленькай, выгрызенай траве, так ласкавай для ног, за пільніцу папораных іржышчам і ў малога, і ў дарослага. Ляцелі ва ўсе бакі і, адначасна, усе ў адзін бок — наўздагон за юркімі, шэра-бурымі скрыпачамі, што нейкаю сутулай ды імклівай пехатой і смешным подлетам, не падцягнуўшы ног, сыпаліся ў недалёкую бульбу за пашай.

Як і заўсёды, кожнага года, ніхто нічога не дагнаў, ніхто нічога не злавіў. Бо нездарма ж гаворыцца, што яны, драчы, і ў вырай бегаюць пехатою. Ніхто нічога не забіў, хоць пастушкі каторыя і кідалі здуру кіямі. Затое смеху было, радасці — усім. Не толькі чарнаногай малечы, якая спачатку, на вечa, цярпліва сядзела, а потым стаяла каля касцоў, добра ведаючы, чаго яна тут чакае. Не толькі нам, маладым ды нястомным. Не толькі мне, «паклонніку красы жыцця». Але і тым, хто, на думку маю і маіх аднагодкаў, тады ўжо быў стары, у каго ўжо для хатняй і надворнай лаянкі, для ўшчування ды вохкання былі не толькі бацькі, але ж і жонкі, і маладыя яшчэ і ўжо не вельмі.

Раскрыццё таямніцы ўражвае па-рознаму.

Быў у маім пастушыным маленстве такі незвычайны выпадак. На пашы. Нечы конь, відаць, адмахваючыся ад заядзі, учапіўся хвастом за калючы дрот агароджы ад поля, ірвануўся і пабег, пакінуўшы на дроце, каля самага слупка, жменю заблытанага валосся. І вось шпаку чамусьці собіла сесці іменна там. Ён ублытаўся лапкай, і як жа, бедны, ірваўся, як верашчаў, калі я, адзін са свіных пастушкоў, найбліжэй падбягаў да яго, браў яго, трапыхлівага, ваяўнічага, ў руку, выблытваў з валосся яго лапку, а потым яшчэ трохі трымаў у дрыготкай жмені і глядзеў, угаворваў яго не баяцца. Майго першага і, як дагэтуль, адзінага шпака — так блізка, у руцэ. Я выпусціў яго, упершыню адчуўшы шчасце даць камусьці волю, упершыню як быццам зразумеўшы, што так яно, калі ён на дрэве, а я на зямлі, калі ён шчабеча, а я любуюся, — што так яно найлепш.

Потым я разумеў, што калі ў супакоеным жыце, калоссе якога яшчэ не хіліцца долу ад маладога, салодкага цяжару зярнят, а ледзь не да болю ў сэрцы, ледзь не да слёз прыгожа ружавее ды мігціць у неспакотна-ласкавых промнях вячэрняга сонца, калі ў духмяным і таямнічым бязмежжы гэтай красы, недзе з самага дна, ад самай зямлі пачынае падаваць свой голас перапёлка, — я разумеў, што гэта найлепш, калі яна там, а я тут, дзе я стаю або іду і раз-поразу спыняюся, каб паслухаць.

Я разумеў, гэта праўда. Але праўда і тое, што мне заўсёды хацелася, а калі дык і вельмі хацелася ўбачыць яе зусім блізка. Ужо не

патрымаць у руцэ, як хацелася гэта раней, а толькі зблізку-зблізку паглядзець.

Таксама і з драчом.

Таксама і трохі інакш.

Перапёлка жыла для мяне не толькі ў збожжы, — я ведаў песні пра яе, яны мне падабаліся, яны мяне хвалявалі, і гэта паэтычна аддаляла яе ад мае жмені і ад вачэй, што хацелі б наблізіцца да яе... ну зусім.

А пра драча ніякіх песняў не было. Былі адны кепікі, хлёсткія, рыфмаваныя, але такія, што мы пры бацьках не асмельваліся іх паўтараць, хоць і бацькі нашы таксама ж былі ў свой час пастушкамі і ўсе такое ведалі. «Драч, драч, сеў с...!..» Дзярыся, браток, толькі не пападайся. Хоць і вельмі хацелася б паглядзець, як гэта ты там стаіўся ў роснай траве, і як прыўстаеш ды дзярэшся, рупліва паварочваешся ва ўсе бакі начнога свету, столькі ўжо часу думаючы, што гэта ў цябе сапраўдная песня, што ўсе павінны чуць яе, што гэта не смешна, а вельмі хораша.

І вось тут раптам — колькі іх, лугавых скрыпачоў! Якое вясёлае раскрыццё травяной таямніцы! Колькі людзей — малых, дарослых і нават старых — бяжыць за вамі, смеючыся, хочучы злавіць і ведаючы, што не надта зловіш, і не кідаючы нічым наўздагон, каб не забіць з блазенскага дуру!..

Ведаю, ведаю я, што не гэтым смехам, не гэтай радасцю жылі тады людзі, што і наогул яны не гэтым, перш за ўсё, жывуць.

І самі яны, мае землякі, яшчэ лепш, гарбом ды нутром, ведалі, што іх трымае на вадзе.

Аднак чаму ж яны так радасна смяяліся, ледзь не дзіцячым, чыстым смехам, чаму так доўга і так светла помніцца мне гэты смех? Не гаснучы ў памяці, не зацёршыся ў безлічы іншых, куды значнейшых падзей. Як момант чыстай чалавечай блізкасці, глыток высокай радасці жыцця, хоць часовага забыцця пра клопаты, беды і сваркі будзёншчыны.

...З тых, што смяяліся тады, многіх ужо няма. Па трох, па двух, па адным-адзіным з хаты — многія не вярнуліся з вайны. З тых, што вярнуліся, адны ўжо спакваля за столькі год паперабіраліся з вёскі на ўзгорак за гасцінцам, дзе ім шумяць маладыя бярозкі і велічны, несмяротны дуб. Жывыя неўпрыцям і даволі растрэсена пастарэлі, хто з выгляду цэлы, а хто без рукі, без нагі.

Я не пытаўся ў нікога з іх, але здаецца мне, верыцца нават, што той наш далёкі перадваенны смех, той наш блазенскі крос за драчамі па шашы, не толькі мне аднаму ўспамінаўся ў сумную або нялёгкую часіну, дома ці недзе далёка ад родных мясцін. 1969

## ВЕРАСЕНЬ

Дубовыя бочкі — звонкія, літыя — моцна стаяць на зямлі. Кошыкі зялёныя, лазовыя, і белыя, з карэння. Рашоты напамінаюць духмянасць свежай мукі, ражкі — гарачы, масляны пах аладак. Вазы, скрынкі, мяхі, у якіх парасяты. Несціханы, няўмольны парасячы віск. Неабходны смурод. Грузавыя машыны стаяць асобна, легкавыя і матацыклы — таксама. Сельпоўскія грузавікі з каляровай стракатасцю шырпатрэба — ад газавай хусцінкі да чорных, непераможных ботаў. Вязкі і "ніткі" сухіх грыбоў. Колькі працы і радасці, красы роднай прыроды ў гэтым моцным, здаровым, хвалюючым водары! Сала апалкамі. Буйныя светла-карычневыя яйкі. Жоўценькае масла.

— Яно ў вас смачнае?

— Не-а.

— Я на нюх пазнаю.

— А я дык яго ні на нюх, ні на слух не ведаю. От, ем сабе, колькі жыву, ад аднае каровы.

Хітрая, спраўная, стрымана вясёлая жанчына. Амаль маладзіца, а ўжо чырвоныя боцікі хоча купіць не сабе, а дачцэ.

Яблыкі, грушы, слівы!.. Кладучы на вагу, цётка (другая ўжо, старэйшая) не вельмі каб спрытна стараецца выбіраць драбнейшыя. Дый важыць па-аптэчнаму. А ў дзядзькі — менш дамавітага, больш бывалага — больш паэтычных адносін да жыцця.

— Я што — за яблыка ці за грушу буду дрыжаць? На табе, браце, і перавес.

Ясны і цёплы верасень. Дзень, што пачаўся туманам, а потым — калі нам з дарогі, з дубовага гаю адкрыўся горад з чырванадахім касцёлам і бура-цаглянымі агрызкам руінаў на замчышчы — стаў неяк раптам сонечны. Ажно стары, маўклівы шафёр не вытрымаў:

— Навагрудак у аб'яціях сонца!

Апоўдні, калі мы вярталіся ў Мінск, туманец яшчэ слаўся, поўз над свежай раллёю, каля маладога густога ельнічку прыдарожнай ахоўнай паласы. Радасны сум асенняга, небезнадзейнага завядання, пра які яшчэ трэба бясконца пісаць.

Любуючыся красой палёў, думаў пра нейкага дзядзьку з вунь таго хутара ці з гэтай вёскі: як жа ён успрымае ўсё гэтае хараство? Проста жыве ў ім, у спакоі шчаслівага спажыўца? Як птушка?..

А хто ж тады песні складаў народныя?

А мы адкуль узяліся — тыя, што пішам?..

1970

## ТРОХІ ПРА ВЕЧНАЕ

Над Нёманам — тры векавыя дубы. Пад першым я ляжу, гляджу на другі і на трэці. Стаіць іх тут, магутных ды прыгожых, больш, аднак мне хапае і трох. Нават і двух — таго, пад якім я прылёг у цяньку, дарагім пасля пыльнай, спякотнай дарогі, і бліжэйшага, на які я гляджу значна больш. На буслянку. Ёсць яна і на трэцім, далейшым дубе, нават і бусел там стаіць, нерухомы, як помнічак, але на гэтую, бліжэйшую, буслянку, хоць і схаваную ў густой цёмна-зялёнай кроне, глядзіцца, лежачы, проста чамусьці лепш — нібы чакаючы чагосьці большага, чагосьці незвычайнага.

Канчаецца ліпень. Бусляняты гэтай парой амаль зусім дарослыя, толькі зблізку адрозніш іх ад бацькоў.

На дубе маім, заслоненыя лістотай, дарослыя буслы ці бусляняты стаялі нябачныя, моўчкі,— я толькі здагадваўся, што яны там ёсць.

Потым здагадка спраўдзілася. Нечаканым, велікакрылым шах-мах. Буслы ўзняліся з-за лісцяной маскіроўкі і вось — з'явіліся на блакіце. Блізка, ледзь не рукамі іх дастаць. Даўно прывычны і такі заўсёды новы цуд.

Тут я іх пазнаў, маладых. Па дзюбах, па нагах — яшчэ не чырвоных, па тым, як яны, пакружыўшыся для размінкі над родным дубам, пачалі садзіцца на гняздо. Павіселі над ім, перабіраючы цыбамі, няўдала цэлячыся імі, каб хаця ж не міма.

А потым прыляцеў надубны гаспадар. Чырвананосы, чырвананогі, з жабай у дзюбе — ну, проста для малюнка ў дзіцячую кніжку. На гняздо ён сеў упэўнена, адразу. І тады — апошні доказ, што першыя два маладыя,— пачулася іх нецярплівае, нават яшчэ ўсё пястотнае сіпенне.

А мне ізноў успомніўся сёлетні сакавік.

...Мы яе неслі спачатку з крутога, коўзкага ўзгорка, а потым доўга па вуліцы, над глыбокай сцюдзёнай гразёю, над бруднай наледдзю, над раўчукамі, што мутна і весела булькалі насустрач нашаму сумнаму шэсцю.

Ёй ужо было знойдзена месца ў цясноце спрадвечных магіл. Яе там засыпалі жвірам. Маю старэнькую пакутніцу-сястру.

І ўвесь гэты час, пакуль мы ішлі і стаялі, звінеў у небе жаўранак. Здавалася, адзін усё, той самы ранні, што здуру прыляцеў ужо, не самому сабе, а камусьці на радасць.

Пасля быў вечар, нудота і гоман п'яных памінак, а потым — ноч і раніца. Я зноў прыйшоў у гэтую хату на ўзгорку, да якое прывык за жыццё, у якой упершыню мяне не сустрэла яна, старая гаспадыня.

Прыйшоў з нечаканым і дзіўным у гэты дзень праблiскам радасці ў сэрцы і ў першым слове на парозе...

Чаго ж такая неадпаведная радасць?

Узыходзячы на круты, коўзкі ўзгорак, я — нібы хтосьці мяне штурхануў — зірнуў угару, туды, дзе побач з хатай, на агародзе пад самыя хмары ўздымаецца змалку знаёмая, старая ліпа.

На ліпу выкінуты быў — на самую вяршыню — белы сцяг вясны: там сядзеў першы сёлетні бусел. Вельмі ранні, яшчэ нечаканы.

Я пастаяў каля плота, шчасліва намагаючыся ўявіць ягоны шлях ад пірамідаў да нашых надрэчных лугоў.

Сашка, наймeншы ўнучак мае сястры, ужо адчуў гэты вялікі цуд. Ён забаўляўся цяпер каля будкі з сабакам, натуральна шукаючы новай пацехі.

«Хлопчык, відаць, не ўявіць бусліны вырайны шлях, як я. Куды яму з яго веданнем свету! А свежасць радасці жыцця ў мяне амаль такая ж, мусіць, як і ў яго...»

Так думалася мне, пакуль на ліпе бялела, адпачываючы, мая зусім неспадзяваная радасць.

Белы сцяг вясны...

Тады ж адразу, адчуўшы гэта, я ўспомніў, што з'яву такую першы назваў так Міцкевіч, што, панашаму, па-пісьменніцку кажучы, гэта чужое.

У яго толькі трохі інакш:

> Bo już bocian przyleciał do rodzinnej sosny
> I rozpiął skrzydła białe, wczesny sztandar wiosny.

Не белы сцяг, а ранні. І не складзены так, як у гэтага, што на ліпе, а распасцёрты ў палёце.

Прыйшла вясна, а потым пачалося лета. Тыдзень за тыднем мяне непакоіў той сцяг. Ездзячы па многіх вёсках і палях, бачачы іх, буслоў, я ўспамінаў таго, на голай ліпе, і дакараў сябе, што вось жа ніяк не магу адчапіцца ад думкі, дзе тут, у радасці гэтай, мае, дзе чужое.

Гэтая думка, гэты шчымлівы клопат вярнуўся і цяпер, ліпеньскім сонечным адвячоркам.

Чаму гэта — «літаратуршчына», «кніжнасць», калі я, гледзячы на буслоў, зноў вось успамінаю Міцкевіча? Цяпер ужо не аднаго, а з Рыльскім. Яшчэ вясной ад неспакою свайго я перачытваў ягоны пераклад «Пана Тадэвуша»: толькі тую мясціну, дзе даецца малюнак надзвычай ранняга вяртання з выраю.

...Дочасно чорногуз на сосну прилетів,

Де вже не рік, не два гніздо його чорніло,

І крилы розіп'яв, неначе прапор білий...

Акадэмік, які і ў сівай старасці мог па-малечы хвалявацца, злавіўшы от сабе акунька (я гэта бачыў тут, над Нёманам), Максім Тадэевіч любіў навуковую дакладнасць. Да «білого прапору» ім зроблена заўвага перакладчыка:

«Паэтычная вольнасць: у сапраўднасці бусел, маючы белае тулава і шыю, крылы мае чорныя.— М. Р.».

Ха, ха!.. Прыемна ўсё-такі і ў акадэміка знайсці пралік!.. Гледзячы з-пад дуба на буслоў у палёце, знізу над крылы, бачу: яны не белыя, як у Міцкевіча, але ж і не чорныя, як у Рыльскага. Яны чорнабелыя. Во!

Але і гэта не ўсё. І тут я не зусім арыгінальны. Станіслаў Пігань, яшчэ адзін акадэмік, польскі, у заўвагах да «Пана Тадэвуша», апраўдваючы паэта, піша: «Крылы ў яго «распрасцёртыя», г. зн. бачныя знізу, робяць уражанне белых».

Але не ў гэтым для мяне галоўнае. Далей ён піша:

«Падобнае акрэсленне бусла з распасцёртымі крыламі як белакрылага знаходзім мы яшчэ ў Авідзія».

Вунь ажно дзе ды калі!.. Усе яны — украінец, пал як, старажытны рымлянін — ішлі ад жыцця, вялікая паэзія звязана з ім непарыўна, яна сама — жыццё, увекавечанае ў слове.

І нежыццёвым, непраўдзівым было б замоўчваць, як, гледзячы на тое, што я бачу сам, я і ўспамінаю сказанае — ад перажытага — іншымі, перажываючы яго па-свойму, зноў.

Клекачыце, буслы! Няхай жыве, як сонца, вечная паэзія! І тут, над нашай ракою.

1971

## ЯШЧЭ РАЗ ПЕРШЫ СНЕГ

Раніца.

Шэрае, нізкае неба. Шэрае, ціхае мора. І свежы, зноў непераможна белы снег.

У шэрасці, што за рэзкай мяжою снегу, у волкай глыбіні яе, здаецца, вельмі далёка, з тужлівым прыплачам пераклікаюцца непрыкметныя чайкі.

Пад нагамі, на ўчарашняй сцежцы, яшчэ не пратупанай сёння, мякка, сыра і туга парыпвае.

Над абрывам, на высокім, пагорбленым беразе — сосны. Стаю пад імі, узышоўшы сюды з шырокай, управа і ўлева бела-бясконцай роўнядзі мёртвага пляжа. Зноў снег пайшоў. Нават вецер узняўся. Сосны ад гэтага ветру амаль зусім не варушацца голлем — можа, таму, што мокрыя. І снег не пакрывае іхнія лапы беллю, — можа, таму, што мокры.

Чайкі з далёкай шэрасці праявіліся блізка — ужо над снегам, не над вадою. Лятаюць-пералётваюць, нібы прабіваючыся крылламі з шэра-густой, падрапяшчанай мітуснёю мокрых сняжынак, безнадзейна адліжнай імглы. І пераклік іх здаецца мне зблізку тужлівым пажураўлінаму. Без адчаю. Бо не такія ўжо яны тут і пакутніцы. І пакідаць ім нічога не трэба.

«Ну ж і люты!.. Ну ж і зіма!..»

У нараканні я вам сёння не таварыш.

Сёння ў мяне свая, вельмі свая цішыня.

Учора ўвечары, пад высокім скляпеннем Домскага сабора, такіх цішынь было больш за тысячу. Сядзячае мноства не знаёмых паміж сабою людзей, што сышліся сюды з адным для ўсіх жаданнем. Кожны сабе, па-свойму маўчаў, і з безлічы гэтых маўчанняў складалася адна ўрачыстая цішыня.

Над гэтай цішынёй, у гэтай цішыні грымеў арган... Грымеў не громам зямной, будзённай мітусні, а мяккімі, груднымі перакатамі, магутна-стрыманым, вышынным рокатам навальнічнай хмары, адкуль даўно ўжо адышлі ў людскі ўспамін свяшчэнны жах і трывога, а засталася толькі паэзія. З бязмежжам сумна і прагна чаканай свежасці, з агнявымі ўскрыкамі, захапленнем маланак, з мноствам спакойных, ясных вясёлак.

Арган быў высока над намі, усе мы глядзелі туды, аднак усім, відаць, здавалася, што музыка жыла не тут, не пад гэтым скляпеннем. І нерыклівы гром, і стрыманая радасць ціхай паводкі гукаў, і песня скрыпак, што захоплена ішла па гэтым громе і сардэчным рокаце

мноства зачараваных арганных труб — усё здавалася незямным, незвычайным.

Маладая арганістка, фота якой, разам з праграмай канцэрта, зайздросна купіла некалькі сот жанчын, ва ўсмешку якое, звычайную ў іншых абставінах, закахалася некалькі сот мужчын адразу, — маладая славутасць, закончыўшы нябесны гром і цішыню, выходзіла з-за гатычнай, пазалочанай пышнасці балкона і кланялася над парапетам уніз, мноству прыўзнятых твараў. З усмешкай, якую мы знізу толькі ўгадвалі, ведаючы на фота. І мне здавалася, што я люблю яе вельмі даўно, што я яе ведаю найбліжэй. Хоць я ніколі яшчэ не бачыў яе не ўгары, а на нізе, хоць я пачуў яе зямное, афішнае імя — толькі цяпер.

Я любіў яе — амаль зусім уяўную, толькі ў раскошным, зачараваным свеце тых гукаў, якімі яна напоўніла ўсё навокал, пачынаючы, як здавалася кожнаму з нас, ад мяне, у свеце гукаў, якіх я так доўга, так сумна і прагна чакаў, з якімі мне так лёгка пойдзецца цяпер далей, у бязмежжа хвалюючай вечнасці — чыстай і для мяне, і мне, разам з усімі, даступнай...

Мой друг, латыш, які па тэлефоне запрасіў мяне з-за горада на канцэрт, сам быў у Домскім саборы ўжо неаднойчы. Ды ён — паэт, і больш яшчэ: добры і шчыры чалавек, і ён па-гаспадарску, па-святочнаму рады нашай сустрэчы і маёй радасці. Па ягонай просьбе мяне прывёў сюды яго знаёмы, а сам мой друг па ўважлівай прычыне трохі прыпазніўся. Мы сустрэліся перад самым пачаткам канцэрта, ужо на нашых месцах. Сказаць што-небудзь больш за словы першай радасці не было ўжо калі. Вось-вось набліжалася цішыня, прыход якое настройваў і абавязваў маўчаць. А потым яно пачалося — высока над намі і ў нас...

Толькі на першым перапынку мы разгаварыліся.

Пасля трох год разлукі і нячастай перапіскі. Дзіўна, а збоку гледзячы, можа, і недарэчна яно выглядала, — як я пачаў нашу гутарку. З усіх назваў тых узбярэжных гарадкоў, у адным з якіх я часова жыву, з усіх тых частых прыпынкаў электрычкі, за месяц пералічаных мною то з аднаго, то з другога канца, толькі адна назва была незразумелая і нібы надта ж, іменна цяпер спатрэбілася мне даведацца, што яна азначае.

— Слухай, што гэта — Слока? Юрмала, Дзінтара — ведаю: Узбярэжжа, Янтарнае. А што, па-вашаму, Слока?

Ён усміхаецца, нібы і сам чакаў, што я задам яму іменна гэтае, такое важнае пытанне, а ён, на радасць нам, адкажа — лёгка, проста і шматзначна.

— Слока — па-расейску вальдшнэп.

І мы як быццам здзіўляемся гэтаму цуду слова, які прыйшоў да нас так дарэчы іменна сёння і тут. Я раскашуюся ў гэтым цудзе, узмацняю яго яшчэ адным адкрыццём.

— Па-вашаму sloka, па-нашаму слонка. І па-польску таксама slonka або ў Міцкевіча — slomka. Паслухай, ты зразумееш мяне.

Мне ўспамінаецца наймілейшая ў свеце краса маіх родных мясцін і той, хто апісаў тую красу найлепш.

— Я буду гаварыць паволі і выразна.

І я чытаю яму, яшчэ ў маленстве назаўсёды паложаны ў памяць радок, адзін з вечна свежых — на кожны покліч і дотык:

W wieczor slychac w zaroslach szept ciagnacej slomki...*

* Увечары чуваць у зарасніку шамаценне — цягне слонка...

— Ну, зразумеў? — пытаюся, ад шчасця нетактоўна.

Ды ён не крыўдзіцца. І я нарэшце схамянуўся — успамінаю, што ён і нашу мову вывучыў, і польскую не толькі адчувае... А можа, тут, у гэтай святыні высокіх пачуццяў, па-маладому хмельна-паэтычнага настрою — можа, тут хопіць і аднаго адчування музыкі слова?..

Вось яна, песня аргана, зноў пачалася. Зноў я гляджу туды, угару...

...Сёння не першы снег, сёння не першая шэрань.

Сёння ўжо на дварэ канчаецца люты. Кіслы, хлюпотны, занудлівы люты. Сёння за тоўста-каменнымі сценамі, за стралістымі скляпеннямі гэтай старадаўняй святыні ідзе звычайны снег — вельмі няпэўны, мокры, не першы...

А мне — пад музыку нашай нябачнай багіні — ціха, шчасліва і вельмі чыста, беленька ўспамінаецца сёлетні першы снег.

Ён, як заўсёды, прыйшоў нечакана. Перад гэтым мы, чатыры сябры, проста ўзялі білеты на рэйсавы аўтобус, каб паехаць нарэшце ў тую гарадзенскую глыбінку, куды нас прасілі вясковыя чытачы. Узялі білеты і, яшчэ прасцей, дамовіліся сустрэцца ўранні на вакзале. Нават і блізка не думаючы пра тое, што гэта быў апошні шэры адвячорак золкай восені.

А снег тым часам ноччу пайшоў, і ўранні мы глядзелі на яго праз вокны аўтобуса не так сабе, а па-святочнаму прыўзнята.

На цэлым свеце — белы снег, на ўсіх палях і дахах. На ўсіх на свеце дрэвах і дратах — першая шэрань. У вялікім, хуткім аўтобусе многа людзей. І ўсе яны — унучка, бабуля, студэнтка, адпускнік-салдат, заклапочаны бацька-калгаснік і валасата-бяздумны з выгляду юнак, — усе вельмі рады гэтаму беламу шчасцю, аднаму для ўсіх, і толькі не зразумела, чаму не спяваюць пра гэта, не смяюцца звонка,

хоць бы, нарэшце, чаму не гавораць.

І недзе там... Грымі, мой нябесны арган, спявайце, сардэчныя скрыпкі!.. Недзе — у белым полі, святочным і безыменным — стаяў сабе шэры, трохі гудлівы тэлеграфны слуп. Не адзін, вядома, а ў рэдкай чарзе такіх самых слупоў, пад ацяжэлымі ад шэрані дратамі, але адзін толькі патрэбны мне і незвычайны. Каля слупа таго сядзеў... Так, не стаяў, а іменна сядзеў пянёчкам шэры заяц. Да зайца полем, па белай нерушы памалу, задаволена брыў чалавек са стрэльбай. Ён святкаваў сваю радасць, бо ведаў, што заяц, падбіты, нікуды не дзенецца, дапусціць яго на яшчэ адзін, найбліжэйшы стрэл. І шэры ведаў гэта і моўчкі чакаў, упершыню, адзіны раз у жыцці адчуваючы, як з яго выплывае чырвоная цеплыня.

І мы адчулі гэта, усе пасажыры аўтобуса. Заварушыліся, загаманілі. Раптам, нібы абурана, адны памкнуліся да акон гэтага боку, а другія прыўсталі. Але аўтобус махнуўся каля той безыменнай мясціны — стрэлу мы не пачулі.

Што — незвычайны аўтобус? Напоўнены толькі паэтамі, па-дарожнаму трохі сентыментальнымі? Ніхто са стрэльбай не хадзіў? Ніхто не ведае радасці першай парошы, удалага стрэлу?

Усё — не так. Я зусім не пра тое...

Той першы снег, з яго шчаслівай, чыстай маладосцю, тут нагадала мне задушэўная, урачыстая песня аргана, а кажучы не так узрушана і дакладней — яшчэ і снегапад, які праводзіў нас да самага парога Домскага сабора.

Ад чаго ж тады — апроч першага снегу ў дарозе — мне цяпер так жыва, так выразна нагадалася яшчэ і маладая, духмяная, як сырадой, салодкая канюшына? Круты, але не рэзкі і не дзіўны пераход: ад снежнай неабсяжнасці — да зялёна-нізенькага гушчару. Так робіцца толькі ў казках, у музыцы. Ну, а калі прасцей, дык мне і шэрае нагадала пра шэрае — заяц пра зайчыка.

Шэры, абсіveраны слуп — гэта, па колеры, не шэры, бывалы, таксама абветраны заяц. А заяц, каторы бывалы, гэта не шэранькае зайчаня. Нават і коцікі на вербах не такія шэрыя і цёплыя, як поўсць на знойдзеным у канюшыннай кашы зайчаняці. На ім яна як пух на жаўранку, які яшчэ малы, не ўздымаецца ў вышыню ды не звоніць, а толькі ціхенька дрыжыць у гняздзе, пад рукой чалавека, якая зверху апускаецца над яго безабаронным жахам. На зайчаняці поўсць драпяста-шэрая, мякка-варсістая і цёплая — так і хочацца, так і боязна да яе дакрануцца.

Хлопчык ведаў, што зайца так, як птушаня ў гняздзе, не накрыеш. Тут ужо трэба маладзецтва, небывалае здарэнне, — каб ён, такі

імклівы, няўлоўны, ды апынуўся ў тваіх руках. Але аднойчы такі цуд адбыўся. А што не з зайцам, а з маленькім зайчыкам, дык цуд ад гэтага быў ані крышку не меншы. Іх тады, цэлы вывадак зайчанят, не проста знайшлі ў канюшыне, а выкасілі. Як жа добра, што не падрэзалі касою! Вялікія, хто касіў, кінулі косы і пачалі лавіць зайчанят, што сыпанулі ва ўсе бакі. І смешна так, як завадныя, і не вельмі хутка. Цяжка сказаць, як гэта ён сам, той хлопчык, не дагнаў ніводнага. Можа, таму, што хацеў палавіць усіх адразу. А аднаго яму далі. Рука дарослага трымала зайчаня за вушкі, толькі пальцамі. А шарачок па-немаўлячы пацешна дрыгаў заднімі лапкамі, нібы ад радасці, нібы з усмешкай. Хлопчыку сказалі, што зайца няможна браць за спіну, а толькі за вушы, і малы чалавек, з вялікай асцярожнасцю і трывогай, узяў малога зайца так, як трэба браць, адчуў у пальцах і цёплыя лапінкі вушэй, і дрыганне ножак, а потым, ужо без парады дарослых, палажыў яго ў шапку і, нібы ў гняздзе, панёс трушком ды подбегам дахаты.

Так была знойдзена ў зялёным полі казка, ледзь не разгадана таямніца вельмі блізкай і далёкай радасці жыцця, нібы зразумелай, нібы і не, а так жа любай, пажаданай і вялікай — на ўвесь свет.

Казка не захацела далей раскрывацца. Зайчык не толькі не захацеў гаварыць, усміхацца, падміргваць, а нават і малака не хлябтаў, не еў свежай травіцы. Сядзеў на дне пустое бочкі... І не сядзеў, а ляжаў, калі зверху глядзець, як вялікая, шэрая рукавіца.

Хлопчыка выхоўвала маці. Часцей за ўсё без лішняга далікацтва, бо і сама яна была часамі ледзь не па-мужчынску грубаватая, заваленая клопатам, пажылая, з выгляду суровая ўдава. Гадавала хлопца тым розумам, што ўзяла ад бацькоў, ад людзей, ад народнае мудрасці, ды ад добрага сэрца. А яшчэ былі кнігі, у хаце і ў школе. Нямнога ды няхітрыя, бо чытачу таму толькі што споўнілася восем гадоў. Якраз неўзабаве пасля таго, калі ў бочцы з'явілася зайчаня. У сялянскіх сем'ях таго часу дзень нараджэння не быў ні святам, ні падзеяй. Добра яшчэ, калі хто ўспомніць. Маці не забывалася. Колькі тае работы не было, — якраз жніво, — яна знаходзіла час, каб спячы малому піражок. Сын зрабіў тады сваё свята яшчэ весялейшым — вызваліў зайчаня. Занёс за гумно, яшчэ трохі далей, і пусціў у авёс.

Дзеці сентыментальнымі не бываюць. Вельмі проста можна падумаць, што рашэнне тое хлопчыку падказала маці. Хутчэй за ўсё па-свойму грубавата: «Будзеш цацкацца з ім, а ён возьме ды здохне!» Можна ўспомніць і мудрыя казкі, якіх ён за некалькі зім свайго жыцця чуў ад яе нямала. Можна і кнігі згадаць добрым словам, — скажам, той вершык з чытанкі, дзе добрыя дзеці паслухалі маму і

выпусцілі на волю вынятую з сіла сініцу.

Сентыментальным хутчэй магу быць я, не па гадах, не па доўгім вопыце літаратара, наіўна прыкрываючы свой уласны ўспамін нейкім іншым, уяўным хлопчыкам. Калі на чалавечы век глядзець як на большую ці меншую траекторыю, дык мая, апісаўшы сваю, даволі ладную дугу, ужо тым часам прыгнулася да першай унучкі, набліжаецца зноў да вытоку жыцця, да чароўнага свету маленства, з асэнсаваным разуменнем яго, з развітальнай тугой.

Можа, тут і не дзіва быць трохі сентыментальным?..

* * *

Схіліла з поўдня.

Рэзкі, сцюдзёны вецер, які, пасля імглістай, мокраснежнай раніцы, здаецца мне, сухапутнаму, нечаканым, ірвецца сюды з поўначы, ад мора. На охрыста-жоўтай сцяне драўлянага доміка, у якім я пісаў ад рання, вісіць тэрмометр. Сівер і з-за высокага берага, з-за частаколу сасновых ствалоў абнізіў ртуць з ранішняга нуля да сямі.

На моры шторм.

Хвалі, калі іх слухаць за берагам, у адносным зацішку двара, зноў грымяць, амаль таксама, як нядаўняй цёмнай ноччу, — нібы шырозны, усемагутны вадаспад, нібы бясконцыя саставы цяжкіх цягнікоў.

Выходжу на абрыў і, сцяўшы сэрца ад сцюжы, нахіліўшыся насустрач ёй, праз шчыліны вачэй нібы любуюся, а лепш сказаць — упарта гляджу на хвалі. Белапенны, грымуча-абураны накат за накатам — яны ідуць ды ідуць на бераг, адрываючы ад яго ледзянога намыву кавалкі белых крыгаў.

Ну зіма! Ну пагодка!.. Сёння, калі па звычаю прайсціся пасля абеду, дык хіба толькі па вуліцы пасёлка, у сякім-такім зацішку.

Ну, а настрой? Куды падзеўся мой ранішні снежна-арганны хмель, маё, чаго добрага, нават натхненне?

Тое, што я пачаў пісаць пад уражаннем учарашняга канцэрта, ужо цяпер пачынае здавацца не тым, што трэба...

Што ж, і я ўжо тым часам даволі абстраляны верабей, ведаю, што і нездавальненне — таксама паўнапраўны кампанент творчага працэсу (Божа, якая вучонасць!..), бачу, што з ходу, пад адзін настрой, не заўсёды і не ўсё можна схапіць. Тым больш калі адчуеш нейкі перакос.

Уранні я, яшчэ ўсё растрывожаны музыкай, здаецца, трохі перачуліў... А ці так гэта?

Давай праверым на іншых. Возьмем з запасу ўспамінаў яшчэ два выпадкі, якія мне ўчора, на канцэрце, таксама былі — відаць, дарэчы — прыгадаліся.

Адзін з маіх знаёмых, паляўнічы не проста заядлы, а нават прыкра азартны, проста драпежны, расказваў, як ён прынёс калісьці свайму малому першага ўпаляванага зайца. І хлопчык расплакаўся, раскрычаўся, доўга не мог супакоіцца ад таго падарунка. Удар быў балючы, — забіты, акрываўлены, ашчэраны быў той, каго ён палюбіў даўно, каго так многа крыўдзілі ў свеце дзіцячых казак. І гэтым найбольшым, найстрашнейшым крыўдзіцелем, забойцам аказаўся той, каму малы так верыў дагэтуль, у кім бачыў найбольшы розум і найцяплейшую, пасля мамінай, дабрату.

Знаёмы расказваў мне пра гэта нібы нават весела. Але праз смех праглядвала і штосьці іншае — няёмкасць нейкая, ці што. А як яму было адразу?

Што ж, паляўнічы таксама можа быць сентыментальным? Можна, аказваецца, і забіваючы — шкадаваць?

Зноў жа я не зусім пра тое... Другі мой знаёмы, ужо не інтэлігент, а рабочы, калгасны шафёр, мужчына даволі-такі цвярозы, зусім, здаецца, не здольны на лішнюю чуласць, расказваў мне такую вось баладу пра тугу па волі.

У хаце ў шафёра вырас заяц, прынесены з восені — дзецям на радасць. Ноччу, калі ўсе спалі, ён сабе ціхенька кіцаў па хаце. «Сказаў бы, ведаеце, для трэніроўкі, для гімнастыкі». А потым неяк, зімовай ноччу, у хату заглянуў маладзічок. Гаспадару не спалася, і ён убачыў, як заяц іхні пабегаў, пакіцаў па хаце, а потым ускочыў на лаву. З лавы — на падаконне. Заціх, заглядзеўся. «А потым, ведаеце, лапкамі па шыбе як замалоціць! Зноў пасядзіць — і зноў!.. Паб'еш яшчэ, ліха тваёй галаве!»

Ён мне расказваў гэта не ў кабіне, а цераз стол.

— Заяц. Скаціна. Дзіч. Няўжо ж і той пра свабоду так разумее? Хоць ты бяры ды выпусці яго...

Відаць, не выпусціў. Я не спытаўся пра гэта. Можа, малых сваіх пашкадаваў, што плачу наробяць. А можа, і плачу таго не збаяўся ды ўпотай або калі дзяцей у хаце не было прыдушыў шарака, зрабіўшы смачнае мяса і добрае футра на аблавушку.

Але чаму расказваў? Чаму памятае? Чаму і мяне заразіў белым сумам начной прасторы, ціхай тугой маладзенькага месяца над палямі? Чаму і мне амаль па-дзіцячы бясхітрасна, шчасліва захацелася казачна-песеннай дабраты, некаторыя кажуць, што лішняй у наш час, абстрактнай? Чаму ж і мне ў гэтым бачыцца найбольшая паэзія і найчысцейшая краса, усім патрэбныя, як паветра і хлеб?

Няўжо настрой гэты ад музыкі? Няўжо ад снегу, што недзе сыпаўся тады, праз музыку, за сценамі, у святле ліхтароў. Не першы

сёлета, не першы і ў маім жыцці...

Няўжо ад сустрэчы з другам? Успамінаецца яшчэ адно, што ўспаміналася і на канцэрце, з'явіўшыся тады разам з іншымі абрыўкамі ўспамінаў, нібы разрозненых, а нечым звязаных у невыразнае яшчэ, ды ўжо, здаецца, неабходнае адно, злучанае, як магнітам, адзіным, радасным, пявучым пачуццём.

Успамінаецца асенні вечар у Маскве, светлы, застаўлены кнігамі пакой у кватэры майго другога сябра, расейца. Мы гаварылі пра штосьці неабавязкова значнае, — скажам, як з другам-латышом пра Слоку. Мы і маўчалі тым асаблівым сяброўскім маўчаннем, калі, як гаворыцца, ёсць пра што памаўчаць. І музыкі высокай не было, не светлы снег быў за акном, а нудная кастрычніцкая шэрасць, ажурна заслоненая ад нашай утульнасці гардзінай. Тым нечым вельмі важным, што хораша дапаўняла мой паэтычны настрой, рабіла яго ўзвышаным, ясным і цёплым на самай мяжы непатрэбнан расчуленасці, была — вісела на сцяне — звычайная рэпрадукцыя з даўным-даўно знаёмай мне карціны Рэпіна «Л. М. Талстой на ворыве»'. Даўным-даўно...

Вясковае хлапчаня, я ведаў тады Талстога толькі, здаецца, па замалёўцы пра зайца-русака, прачытанай мне бацькам, — толькі краёчкам душы дакрануўся да таго цудоўнага свету, які ўжо гэтулькі разоў за паўвека шчасліва здаваўся неабдымным і бяздонным. Белую шапку, мужыцкі картуз Талстога, наогул чалавечы выгляд генія я ўпершыню ўбачыў тады ў чужой хаце, у чужой растрапанай кнізе, убачыў і з таго моманту назаўсёды запомніў у непарыўным спалучэнні з вершам Кальцова «Ну, тащися, сивка!». Верш быў надрукаваны побач, я ўжо сам яго прачытаў, а на малюнку, дарэчы, былі ажно дзве такія сіўкі. І яшчэ адно, вельмі істотнае, — і незвычайны малюнак, і верш цудоўна спалучаліся з вобразам майго старога, як мне тады здавалася, бацькі, які месяцаў некалькі перад тым асіраціў нашу хату.

Бацьку я ў першую пару свайго сіроцтва памятаў па-featurerознаму, мноствам жывых карцін, у розных праявах яго вобраза. Адзін вобраз, калісьці востра ўспомнены над кнігай з малюнкам сівабародага аратага, над радкамі верша, такога блізкага і неразгадана прыгожага ў сваёй прастаце, зноў вось ажыў у сэрцы маім — амаль праз пяцьдзесят гадоў. У той маскоўскі вечар, калі я даволі стомленым вокам даўно-такі сталага чалавека глядзеў на рэпрадукцыю пад шклом, і ўчора, калі я, у чароўным свеце музыкі, па нейкай прычыне, трохі загадкавай і трохі зразумелай, зноў прыгадаў той сум і тую радасць. Сум, вядома, даўно не мой, не сірочы, а радасць, здаецца, амаль зусім тую самую.

Бацька быў не такі ўжо і стары, якім ён здаваўся мне ў той час, аднак і сёння ён бачыцца стомленым вельмі. Высокі, без шапкі, з вялікімі, спацелымі залысінамі і кароткай, з проседдзю, барадой, ён паволі, задыхана зносіў у горбы доўгія жытнія снапы, ад стомы недазволена шастаючы каласамі на пожні. А потым, не пачынаючы ставіць мэндлі, ён лёг на гэтым духмяным навале і, усміхнуўшыся свайму «памочніку», з палёгкай выдыхнуў:

Сладок будет отдых
на снопах тяжелых...

Добра, што ты мне з'явіўся яшчэ раз, і ўчора, і тады, у хаце майго расейскага друга, майго частага і сардэчнага субяседніка! І яшчэ раз пляваць я хацеў на ўсё «цвярозае», «разумнае» хіхіканне вакол таго, бачыце, «графскага ворыва». Геній-араты — гэта таксама высокая, задушэўная музыка, глыбокі сэнс, непераможная мудрасць прастаты. І мне, пад гэтую, знешне нячутную, музыку так добра ісці далей па жыцці, глыбей у жыццё, стараючыся паводзіць сябе ў сугучнай адпаведнасці з той чысцінёй, што адкрываецца нам ужо на самым пачатку свядомасці.

...Яшчэ раз першы снег. Арган. Усмешка багіні. Раманс Шастаковіча. Шэрыя зайцы — адзін за адным. Латышская песня «Бярозавік». «Ave Maria» вялікага Вердзі. Вялікі Талстой — за сахою...

Можа, усё гэта — звычайнае спляценне выпадковасцей? Як выпадковасць і тое, што я прыехаў сюды, на Рыжскае ўзбярэжжа, упершыню ў жыцці і іменна цяпер, у лютым? Як выпадковасць і тое, што ў мяне ёсць друг-латыш, харошы чалавек, культурны літаратар, нястомны вандроўнік і паляўнічы, мой перакладчык на мову народа, які я люблю, паважаю за многае? Як выпадковасць, нарэшце, і тое, што ён здагадаўся наладзіць нашу першую пасля доўгай разлукі сустрэчу іменна там, пад арганным хвалюючым небам?..

Ну што ж, — калі і выпадковасці гэта, дык з іх жа і складаецца маё жыццё, маё жаданне, мая магчымасць хоць як-небудзь прыблізна сказаць пра наш прызыўны, неўтаймаваны сум, пра жаданне замалаціць аднойчы лапкамі ў празрыстую сцяну, пра нашу белую тугу па чыстым, велічным, чалавечым. Бо і сёння, і заўтра, і да канца ў душы застанецца куды больш недасказанага, з чым ужо не адзін наш блізкі пайшоў у нябыт, што, відаць, не паўторыцца зусім-зусім таксама ў тым іншым, хто прыйдзе пасля і таксама затужыць — той самай светлай, сардэчнай тугой...

* * *

Зноў раніца.

На тэрмометры мінус трынаццаць. І сонечна. Бадзёры, паэтычны

дзень.

Мора, яшчэ не зусім супакоенае, лагодна пакарабачанае шырокімі хвалямі, дыхае парай... Не, так не скажаш. Пара ходзіць па ім, як пазёмка па тоненькім лёдзе. Бо спачатку, як толькі мора паказалася мне з-за абрыву, здалося нават, што яно замерзла.

Сосны стаяць яшчэ ўсё недаверліва адвярнуўшыся ад вялікай вады, прыгорблена, упяўшыся вельмі даўно, ад першага шторму ў іх нялёгкім, прыгожым жыцці. Сосны ўжо не шумяць. А перад соснамі, калі глядзець на іх ад мора, неяк па-новаму бялее ў сонцы бярозка. Адна паміж хлыстамі голае чаромхі і вярбы.

Хутка прыйдзе машына, і я з маім другам паеду далёка-далёка. І скрозь яго «зялёная зямля», яго «янтарная Латвія» будзе пакрыта чысценькім, сонечным снегам, зноў — пад гутарку нашу і пад маўчанне — у душы маёй будзе спяваць навальнічна-вясёлкавы домскі арган. А побач з вялікім, значным, сучасным сустрэнуцца сямтам маленькія елачкі ў снезе, і пад кожнай мне будзе так несур'ёзна, сентыментальна бачыцца цёпла-шэрая ды вушатая, быстраногая казка маленства.

1971

# ТРОЙЧЫ ПРА АДЗІНОТУ

1

Старая прыдарожная сасна. Ствол яшчэ медны, яшчэ гаворыць пра даўгалецце, а частка голля ўжо дазвання абшалушаная і без лап.

Часта, калі я сцежкай праходжу міма яе, з сасны гэтай, з яшчэ не бачнай вышыні мяне... абстуквае, як пальцы доктара, дробнае, энергічнае, гулкае «тук-тук! тук-тук!..».

Раней чым усвядоміць, што за стук, пачынаю шукаць яго на сасне. І, яшчэ не ўбачыўшы, ужо ведаю, хто гэта. А потым — вунь і ён!..

Адзін раз, нібы сувязіст ці электрык на слупе, ён трымаецца на ствале кіпцюрамі, па-свойму, па-дзятлінаму падпёршыся хвастом; другі раз бачыш яго на папярэчнай галіне, як ён апрацоўвае яе ўжо не збоку, а зверху.

Дзяўбе, — нават адразу здасца, што ён забаўляецца. Табе тут спачатку — музыка, фарбы, проста пацеха, і толькі потым, спакваля даходзіць, што ён — працуе, што і яму трэба есці. І галава яго не малаток, і дзюба не долата, але не скажаш, што ён, як іншыя птушкі клюе. Яе не паклюеш — сухую, цвёрдую, глянцава-шэрую, звонкую галіну.

Ды іменна тады, калі ў табе дзелавая павага штораз, то больш выразна перасільвае шпацырна-паэтычнае любаванне, калі табе хочацца бачыць яго яшчэ і яшчэ, цесля гэты раптам успамінае, што ён да таго ж і птушка, ды не абы-абы, а бела-чорна-чырвона-стракатая. Дзяцел успырхвае і, у гуллівым пагойдванні лёту, шыбуе на іншыя дрэвы. Часамі, нібы знарок, уздоўж твае сцежкі каля старых сасновых прысадаў, каб вам пабачыцца зноў.

Амаль заўсёды хочацца, каб ён так і сеў, каб не ляцеў цераз поле ў лясок, хоць у птушкі, вядома, дарогі свае.

Ну што ж, другі раз, заўтра ці потым, пабачыш яго, зноў спачатку пачуеш неспадзяванае, хоць і чаканае «тук-тук! тук-тук!..», а тады ўжо і спынішся, задраўшы галаву.

Калі б мяне часта, а то дык, можна сказаць, і заўсёды не праследавала другая, паралельная лінія: калі б у душы маёй, побач з адчуваннямі толькі чалавека, не ішлі яшчэ і адчуванні літаратара, якому, як дзятлу, усюды і заўсёды хочацца, неабходна выдзёўбваць спажыву, — я быў бы проста рад, проста палюбаваўся б на хаду, паміж уласнымі клопатамі, а то і спакайней, адпачываючы, між іншым, адразу ці потым, падзяліўся б з некім сваім уражаннем ад гэтай нязначнай, хоць і прыемнай сустрэчы.

Дык жа не! — табе яшчэ трэба і ныць, лавіць самога сябе на

«дробным збіральніцтве», на непатрэбнай чуллівасці, на прыдумванні тэм. Замест таго каб проста аддавацца пачуццю і проста гаварыць тады, калі хочацца, і пра тое, што варта, на думку тваю, увагі чытача.

І добра, калі цябе часамі на пэўным раздарожжы, у сумненнях падтрымае слова другога такога ж... носьбіта дзвюх паралельных ліній.

Ёсць жа такая светлая традыцыя, як шум лясны ці шчэбет птушыны, бясспрэчная традыцыя ціхай пяшчотнасці слова, якое — з рыфмай ці ў поўнай раскаванасці — адгукаецца голасам чалавечага сэрца на галасы жыцця? Ёсць яна, і шчасце наша, калі мы чуем яе, і гора, калі мы глушым яе грукатам будзённай мітусні...

І калі мяне прыхільнік такой традыцыі... ну, не натхніць, як песня жаўранка ці сонейкі рамонкаў, а падтрымае словам, сэрцам друга і паплечніка, — мне тады хочацца і добра быць самім сабою, аберагаць ва ўсім «гордасць свабоднай думкі», так неабходную для шчырай песні.

Слова друга пра асцярожненькую кроплю, што серабрыцца на самым дзюбіку яшчэ бязлістай галінкі, пра яго недасказаную радасць ад надрэчнай сустрэчы з усходам сонца, — слова з чужое кнігі дапамагло мне прызнацца, чаму я нават пра дзятла і то нібы сур'ёзна, чаму сустрэча з ім заўсёды выклікае з далёкіх, найменшых закуткаў памяці адзін успамін, адно харошае пачуццё...

Голас дзятла (бо стуканне — гэта ж не голас) я чуў толькі раз. Дзяцел той верашчаў, як парасятка, якое паднялі за заднюю нагу, толькі ж па-своему верашчаў, пакуль мы пачулі яго крык, а тады беглі, а потым меркавалі, як тут памагчы...

У ствале старой яліны, на чалавечы рост ад зямлі, было дупло. І ён залез туды, па справе ці ад дурасці, ну, а назад — ніяк. Дзірка з двара ўсярэдзіну звужалася, дупло было цеснае — не павярнуцца, не то што раздзёўбваць выхад адтуль. І ён, стракаты цесля, забыўся пра ўсю сваю самавітасць — заверашчаў.

Калі аднойчы тапіўся наш друг і нас на вадзе было многа, а ён закрычаў да мяне, я быў потым да слёз удзячны яму і нашу з ім дружбу адчуў зусім небывала...

Параўнанне як быццам не тое, «не тыя маштабы», але ж і мне, як і другім, хто бег на дзятлаў крык, было прыемна бегчы ратаваць, і мне здавалася, што кліча ён — мяне.

Ніводная рука не лезла ў тую яловую пастку. Хоць ты бяры ды раздзірай яе або да машыны бяжы, па сякеру якую... Мы былі калектыўна ў грыбах, і невялікаю групай далёка забрылі ад усіх астатніх і аўтобуса. Дзяцел крычаў. Яшчэ, відаць, з большага страху,

— убачыўшы нас. І мы як быццам схамянуліся, — убачылі, што з намі ёсць маленькі чалавек, які і бег не вельмі ззаду. Як ні напружваю памяць, праз нейкіх дваццаць год ніяк не ўспомню — быў гэта хлопчык ці была дзяўчынка. Хацелася б ведаць, як яна вырасла, тая дзіцячая ручка, і што яна робіць цяпер... Ды гэта, можа, і не важна, бо найважней — яна была, тая маленькая рука, і я выразна бачу, як яна працягнулася да дупла, як дрыжала ад страху ды радасці, пакуль дзіця трымалі пад пахі, узняўшы на патрэбную вышыню, як яна, ручка, усё-такі пралезла ў дупло, як ён там матлашыўся, дзяцел, і пішчаў і як яго тая ручка, заўзятая і дастаткова моцная, выцягнула на свет без стратаў у апярэнні, як ёй хацелася птушку патрымаць, а можа, і забраць з сабою...

Ды дзяцел вырваўся і паляцеў.

Каб зноў ніколі не верашчаць, не клікаць нас, людзей, на дапамогу.

Каб толькі як быццам гуллівa, але ж дзеля хлеба, упарта і майстравіта, абстукваць ствалы і галіны.

Нібы прасіцца гэтым сяброўскім, сваяцкім пастукваннем у дзверы нашай лясной або дарожнай адзіноты.

2

Сяды-тады ўспамінаюцца пахі маленства.

Для ўсіх, хто з вёскі, агульнае:

як пахне дым асенніх пырнікавых вогнішчаў, у прыску якіх пячэцца, па-свойму хвалюючa духавітая, бульба;

як пахне сырасцю адліжны, раскоўзаны нагамі снег, калі ты, стомлены, брыдзеш па ім са школы, адчуваючы яго сырасць, зябка і казытліва, прамоклымі нагамі;

як пахнуць пляцёнкі цыбулі, што вісяць над табою на печы, дзе ты вось-вось салодка заснеш ад стомы, ад цёплай яды і ад шчасця, якое так жа добра бачыцца цяпер, здалёк;

як пахне агарод: кропам, макам, морквай, капустай, сланечнікам — усім, што ты ведаеш і на смак;

як пахне гарачае сена — яшчэ над свежай, толькі ўчора ўранні аголенай пакошай, ужо ў валках ці ў копах, а то і на возе;

як пахне першая ралля, калі ты — ужо не толькі свавольны, але на гэты час і ціха руплівы, паэтычна задуманы пастушок — удосыт пройдзешся па баразне не да канца адмытымі надоечы нагамі, а потым сядзеш на пругкія скібы і добра вымасціш сабе месца, каб пасядзець, пакуль ажно не стане знізу халадна;

ну, і яшчэ, і яшчэ...

Апроч пахаў агульнавядомых у кожнага ёсць і свае, спалучаныя з пэўнымі, толькі сваімі ўспамінамі.

Трэба ж, напрыклад, такому здарыцца, каб у далёкім замежным горадзе, у старадаўнім касцёле, адкуль павыходзілі ўсе, з кім ты сюды зайшоў як турыст, а ты застаўся з другам, які таксама маўчыць і не спяшаецца, — трэба ж каб тут, у пустой, растрывожанай музыкай святыні, што аціхае разам з тваёю душой, а ў вышыні спявае ў сонцы вітраж з вялікім блакітным крыжам на свабодным, неперагружаным шкле, — каб іменна тут табе ажно зашчымела ў сэрцы ад такога вось просценькага ўспаміну.

У памяці ўсплыла камора старэйшай, замужняй сястры, вялікая і змрочная камора з шафамі, скрынямі і кубламі, з кажухамі на сцяне і пучкамі сушаных зёлкаў пад бэлькай, з рэшткамі ўгужавелых, не з'едзеных за гарачае лета каўбас на вешале, з вузенькім папярочным акенцам, таксама, як і вітраж, прастрэленым промнямі вячэрняга сонца, — і самае галоўнае — з моцным, мядовым, неперамажным пахам воску... Сястра была настолькі старэйшая за мяне, што з сынам яе, маім пляменнікам, я хадзіў у адзін клас, разам патрохі сталеючы і вырабляючы сяды-тады, на думку сталых, чортведама што. У камору ў той адвячорак, прыйшоўшы са школы і не заставшы нікога дома, мы — праз замкі ды забароны — убіліся па мёд. Прыкрае слова «крадзены» ў гэтым выпадку не падыходзіць; скажам — не крадзены, а самахоць узяты мёд — куды смачнейшы. Мала з'ясі, а доўга помніцца.

З Адэсы часоў грамадзянскай вайны, дзе пачыналася маё маленства, помніцца прэсны пах гарачай рысавай кашы і салодкі, тут ужо разам з колерам, пах какавы. Гэта былі не дамашнія пахі: трохі старэйшыя браты бралі мяне з сабой у нейкую дзіцячую сталоўку. Для мяне яна доўга была проста нейкай, пакуль не ўведаў, хоць і даволі невыразна, што сталоўка тая трымалася тады, у страшныя дні засухі і галадоўлі, на дапамозе амерыканскіх квакераў. Пах какавы і рысавай кашы я адчуў пасля, на працягу гадоў, асабліва востра двойчы. Першы раз — у дні мае вясковае маладосці, калі сярод іншых кніг, што выпадкова траплялі ў рукі і не выпускаліся непрачытанымі, трапіла і квакерская, з салодзенькім і прэсным тлумачэннем запаведзі пра любоў да бліжняга. Другі раз, ужо ў грунтоўна сталым веку, я ўспомніў тыя пахі ў цягніку Вашынгтон — Нью-Йорк, калі задумана глядзеў праз акно на прыгарадную нераскошу рабочых кварталаў Філадэльфіі, квакерскай няпісанай сталіцы.

Яшчэ адзін пах гарадскога маленства, пазнейшы і дамашні. Водар гарачага, запечанага цеста, ці то праслоенага нечым салодкім, ці то

абмокнутага ў той невядомы, а можа, і нерэальны смак, што хваляваў мяне час ад часу, як нейкі прывід з іншага свету, больш за сорак гадоў, пакуль не прыйшло адкрыццё. Імя таму паху, пшанічна-гарбузнае ўвасабленне яго я знайшоў на старонках Іона Друцэ, у яго шматфарбнай і духмянай песні пра Малдавію. Пахла мне столькі год плачынтэ, слаёны пірог, які маці мая, за восем сваіх адэскіх гадоў сяк-так знаёмая з малдаўскай кухняй, успамінала як нейкую, ледзь не міфічную «плацынду», усё толькі абяцаючы калі-небудзь спячы яе.

А вось нарэшце і той пах маленства, які і выклікаў усе іншыя, сёння стаўшы між імі на першае месца.

Вы калі-небудзь нюхалі канапліну над снегам? Яе прысохлую мяцёлку з зярняткамі насення, з вострым водарам?

Моцную, калмаценькую канапліну, зрэзаўшы яе каля самай зямлі, хавалі на зіму — лавіць шчыглоў, у петлі з конскіх валасінак. Адну, дзве, а то і некалькі такіх канаплін.

Петлі мне помняцца, зрэшты, і на каноплях, і ў абручах. Драўляны абруч з вялізнай «пасы», бочкі на збожжа, перапляталі ў клетку вяровачкамі, на кожным скрыжаванні прымацоўваючы валасяную пятлю. Сіло такое клалі на прыгуменні, шчодра замаскіраваўшы пацярухай з току. Аднойчы, калі я быў яшчэ сам на гэткае паляванне не здольны, у хаце нашай раннім ранкам з'явілася некалькі малых, стракатых, дзіка палахлівых курачак з барвовымі плямамі на воллі. Як я быў рад! Нібы яны не ад голаду, не ад снегу глыбокага ды крутога марозу прыйшлі да мяне праз сіло, а ў госці, такой небывалай, цудоўнай казкай...

Такія ж... ну, можа, трохі іншыя, але таксама барвовыя, абавязкова, радасна патрэбныя агеньчыкі, што былі ў курапатак на воллі, шчыглы насілі на галоўцы.

Не помніцца, як я ўспрыняў курапачы пераход з той казачнай паэзіі ў гаршковую чорную прозу. А вось трагедыю галоўкі з агеньчыкам на цемені я памятаю і дагэтуль...

Загадка фарбаў, іх прызначэнне хвалююць нас і ў сталасці. Вельмі звычайнае — жоўты лубін цвіце паміж цёмна-зялёнымі пералескамі, а зверху, скажам, яшчэ і блакіт, і белыя, ціхія аблачынкі. Не навіна, а ўсё ж у душы міжволі ўзнікае радаснае пытанне: «Навошта яна, такая краса?..» І ніхто, відаць, не адкажа як след, на ўсю глыбіню. Тысячагоддзямі стараемся. Каму ўдаецца гэта менш, каму трохі ці значна больш, а таямніцы, мноства шматфарбных таямніц навокал нас, — застаюцца.

Колькі ж іх бачыць дзіця, чалавек у тым узросце, калі ён пазнае, абагачаецца непараўнана хутчэй, чым у сталасці!.. Колькі гэтай красы

ў курапаткі! А ўжо ў шчыгла… Тут і дагэтуль нельга налюбавацца. Тады ж, у маленстве, краса тая прыходзіла з усёю сілай першага азарэння.

Старэйшы брат, падлетак, уваткнуў у гурбы на агародзе некалькі канаплін. Як ён рабіў гэта — не памятаю. Помніцца проста яшчэ адзін казачны ранак, калі ў нашай хаце — так мне здалося, разбуджанаму — стала адразу поўна шчыглоў, вельмі многа шматфарбнай, шумнай стракатасці. У клетцы яны не змясціліся, і два ці тры шчыглы брат упусціў у шуфляду стала. Ён быў, вядома, вельмі рады ў тую раніцу, горды і шчодры, толькі і гаварыў, каму іх дасць, па аднаму, па два… А потым — ці ніяк не могучы нацешыцца сваім падлікам, ці хочучы шчыгла для кагосьці дастаць са стала — аднаму з іх ён прышчаміў шуфлядай галоўку. Адзін агеньчык пагас.

Смутак і жах мой былі неўзабаве развеяны мноствам іншых — зялёных, чорных, жоўценькіх і чырвоных — мітуслівых пабліскаў. І ахвота лавіць іх самому ад смутку таго не пагасла.

За гэта я самастойна ўзяўся трохі пазней. І памятаю толькі адну ўдачу, — з пятлі я выняў сініцу.

Я не хацеў быць страшным, аднак яна мяне вельмі баялася. Пішчала, трапяталася і там, дзе вісела на канапліне, учэпленая лапкай, і ў жмені маёй яе маленечкае сэрца білася вельмі моцна, і ў хаце, калі я пусціў яе, маю першую здабычу, на акно, яна адчайна, з піскам білася ў шыбу.

…Я не хацеў быць страшным…

Прамінула многае мноства белых, зялёных, сонечных, шэрых і чорных дзён. Пачатак іх успамінаецца мне цяпер у асеннім расейскім лесе, дзе многа магутных, пяшчотных бяроз, дзе за акном маім зрэдку пачуецца самалёт, яшчэ радзей лена брахне сабака, а то чырыкне недзе верабей ці зацісікае зусім блізка сінічка.

Ціха і светла над сталом.

А часамі самотна і сумна…

Ну і што, калі праца мая патрабуе цішыні, адзіноты, паглыблення ў самога сябе, калі мы, літаратары, прызвычаены да гэтага больш за многіх?.. Горкі марыў, што ён дачакаецца дня, калі адчыняцца дзверы яго самотнай лабараторыі і нарэшце ўвойдзе геній!.. І мы чакаем. Не толькі генія. Усе мы чакаем друга.

Таго, што не здрадзіць, не кіне ў бядзе, зразумее цябе не толькі ў празрыстым шчасці. Іх было многа спачатку, пачаўшы ад найбольшага, — ад той, што разумела і любіла як ніхто. Адны пайшлі з жыцця па яго пастаянных або часовых законах, другія жывуць для сябе і існуюць для нас, і калі іх спасцігне якая бяда, ты, магчыма,

найпершы працягнеш ім руку звычайнай чалавечай дапамогі, але працягваць гэтую руку, як калісьці было, па-сяброўску, ты ўжо не хочаш, не можаш. На сцежках, якія не абмінуць, адны сустракаюцца з табой кісла або каменна абыякава, другім чамусьці трэба ўсміхацца, і яны ўсміхаюцца, хто менш, хто больш прыблізна... А тых, што сапраўдныя, — тых з кожным годам менш.

Нармальна гэта. А ўсё ж...

Мы чакаем яшчэ аднаго.

І кожнага прыблізнага, пакуль не расчаруешся ці не ашляхнеш, супакоішся, вітаеш шчыра, з даўняй гатоўнасцю.

І ціхая, патаемная прага на тыя пачуцці робіць нас часамі, калі на позірк збоку, залішне чулымі на іхняе падабенства.

Учора пад вечар, калі я вярнуўся з праходкі, мой вялікі і светлы пакой быў не пусты.

На белай раме акна, каля самага падаконня, сядзела сініца.

Я не хацеў быць страшным. Можа, больш, чым калі-небудзь раней. Хацелася і павітацца, і пагаварыць. Аднак яна з адчайным піскам затрапяталася аб шкло, а потым закружыла пад столлю, пакуль не знайшла сабе месца — над шафай, на несхаванай праводцы. Нібы прыліпла да сцяны, аціхлая. І я стаяў каля парога, таксама стаіўшыся, чакаў, што вось яна — як жа проста! — шыбане адтуль у вялікую фортку, цераз якую і ўляцела.

Яны ж такія хітрыя, зладзеяватыя. У іншых пакоях, у іншых лясах яны таксама вось залятаі. Сініцы беларускія, латышскія, башкірскія... Хлеба госці такой паложыш — не дакранецца, а ў каўбасе, калі дзе пакінута непрыкрытая, выдзяўбе толькі драбочкі сала.

Няўжо ж табе цяжка дарогу знайсці, адрозніць шкло ад паветра?

Насцярожаны момант закончыўся прыкра: яна нырнула з-пад шафы проста ў акно, цялася галоўкай у шыбу і ўпала на стол...

Як часта ўжо я быў такі разгублены і няўдала бездапаможны! Ну што, узяў у прыгаршчы яе, яшчэ цёплую, з сутаргава расстаўленымі ў пагоне лапкамі, з раскрытай па-мярцвяцку дзюбай. Каб быў малы, дык, можа, і заплакаў бы. Цяпер панёс яе на двор, у сад і пасадзіў на кусце, у густых галінках. Проста так, без надзеі на цуд і... як быццам з надзеяй.

Позна ўвечары, вяртаючыся з цёмнай лясной алеі дахаты, падышоў да таго куста і госці свае не знайшоў. Уранні, на траве — таксама. Ну што ж, апроч сабак, тут яшчэ ходзяць, напэўна, сваімі ціхімі дарожкамі і каты...

Цяпер, калі я сяджу за сталом, адтуль, дзе голыя, нерухомыя лес і сад, бліжэй да нашага зялёнага драўлянага катэджа, — адтуль, удала

выбраўшы адну з незлічоных хвілін мае цішыні, прыляцела і села на раму адчыненай форткі сініца. Ага, добры дзень!..

Нейкі момант мы пазіралі адзін на аднаго так блізка, што варта б мне толькі руку працягнуць... За гэты момант я паспеў падумаць, можа, наіўна, а можа, проста шчасліва, — што гэта мая ўчарашняя госця, паспеў яшчэ раз паўтарыць у стоенай душы сваё даўнейшае і ўчарашняе «я не хачу быць страшным», паспеў заўважыць, як яна крутанула галоўкай, цісікнула: «Ведаем вашых!..» — і пырхнула ў сад.

Салодкай дурнап'янасцю канаплянай мяцёлкі над снегам мне зноў запахла — ужо без яе.

...А можа, усё-такі цуд і адбыўся — можа, сініца і адышла?

3

У шырокім трохстворчатым акне, перад якім стаіць мой рабочы стол, — як у вялікай раме, — светлая, глыбокая карціна.

Позірк на свет з вышыні другога паверха.

Спачатку — сад. Проста нібы паляна з рэдкімі радамі карлікавых вішань. Куст ядлоўцу. Дзве абяссілена-разгалістыя яблыні. Сасоначка. Мноства белых галін расставіла маладая бяроза.

Далей — цёмны хваёвы лес. Над лесам сёння ясны блакіт і злёгку папялістыя хмаркі, знарок наскубленыя так, каб іх хапіла на ўсё неба.

А на зямлі сёння — доўгачаканы снег, пакуль што рэдзенькі, з травянымі пралысінамі і злёгку прымарожаны. Пасля такое кіслай непагадзі, як учора, пазаўчора і некалькі дзён яшчэ, сонца, снег і марозік настройваюць па-святочнаму. Добра працуецца, з ціхай урачыстасцю ў душы.

Ад паперы, якая сёння бялейшая, чым заўсёды, так і карціць зірнуць за акно, у маю «карціну», на сонечны снег паміж маленькімі вішнямі.

Сняжок пакрыў і тое месца, дзе яшчэ пазаўчора ляжала старое, паламанае крэсла, якое хтосьці нядбалы так і пакінуў на самай сцяжыне.

Крэсла нарэшце няма...

...Хворы, замучаны бяссонніцай сусед асцярожна пастукаў у мае дзверы. Гэта не сёння, а пазаўчора, калі замест снегу і сонца ў карціне маёй было хмарна і слотна. Зранку пастукаў, калі ў дамах, якія называюцца «дамамі творчасці», не прынята непакоіць другога сваёю прыязнасцю...

Сусед мой не зрабіў бы гэтага, каб дзень яго быў звычайны, рабочы. Тры тыдні таму назад, калі мяне тут яшчэ не было, яго забрала адгэтуль «хуткая дапамога». Вярнуўся ён з бальніцы днямі.

Думаў перамагчы і нізкі ціск, і боль галавы, і лютую бяссонніцу, і трывогу пра жонку, што ляжыць недзе ў іншай бальніцы. Не перамог. І вырашыў вярнуцца ў сваю клініку, на гэты раз палячыцца як след і стаць нарэшце чалавекам.

Ці ён у гэта верыў таксама ўпэўнена, як гаварыў, мне сумна думаць...

Далікатны, тактоўны, з прыязнай усмешкай, ён увайшоў, як аказалася, не без прычыны.

— Прабачце. Кнігу вашу прынёс. Каб не забыцца. Бібліятэчная.

Я зразумеў яго. Зрэшты, і мне ў той дзень не працавалася, з самага ранку чытаў.

Мы стаялі каля стала, перад вялікай карцінай акна, і гаварылі — абы лягчэй было, каб не маўчаць.

— А від адгэтуль нішто сабе, — сказаў сусед.- Вось толькі непагадзь... Паршывы лістапад.

— Крэсла вунь тое. Проста бяльмо на воку. Усё збіраюся, каторы дзень, пайсці прыняць.

— Перад маім акном — вялізная горба вугалля. Чорнае...

Калі ён зноў папрасіў прабачэння і асцярожна пайшоў, я зноў пачаў чытаць, сеўшы спіной да акна. Палавіна пісьменніцкай працы — чытанне, аднак, папрацаваўшы над сваім, чытаецца лепш, спакайней. Уранні, адчуўшы, што сёння работа не пойдзе, я ўзяў пачатую напярэдадні кнігу. І неўзабаве нездавальненне самім сабою прайшло.

Чытаў я шчырыя і простыя апавяданні былога франтавіка, чалавека, што многа бачыў і перажыў, аддаўшы роднай справе ледзь не ўсё, што мог. З павагай, з зайздрасцю думалася пра аўтара, пра цэльнасць і красу яго характару, яго жыцця. Не ўпершыню, але радасна, нібы па-новаму, думалася таксама пра «цуд кнігі», якая можа часамі змяшчаць у сабе так многа...

Дзень той, пазаўчарашні, пачаўся нудна, але без дажджу. Пасля таго як выйшаў мой сусед, я хутка зачытаўся зноў. І раптам — лівень, летні лівень! Падкраўшыся да нашага двара, ён з нізкай хмары абрынуўся на яго густым, гвалтоўным шумам. Не касячком хвастаў, а проста зверху цабаніў, спяшаючыся выліць з хмары процьму нікому ўжо не патрэбнай вады.

Калі зусім праяснілася яго шэрасць, я ўбачыў, зноў стоячы перад акном, што на бурай, неданылай траве — паламанага крэсла ўжо не было... Некалькі праўдаў адразу:

Першая праўда: сусед мой — хлапчына з найлепшымі рысамі расейскага чалавека: добры, праўдзівы, высакародна сардэчны, — а

гэта — вельмі нямала і не так ужо часта трапляецца.

Другая праўда — трохі прасцейшая, нават са шчылінкамі для розных падтэкстаў ды скепсісаў: сусед заўважыў, што я чытаў яго новую кнігу...

І трэцяя, горкая праўда, — як мала мы, хто піша сам, чытаем адзін аднаго, як рэдка, як неахвотна гаворым другому пра шчасце, адчутае над яго старонкамі! І як такая абыякавасць яшчэ больш ледзяніць і хмарыць нашу адзіноту!..

Маё ўражанне ад суседавай кнігі я яму перадаў. Мы робім так узаемна і ўжо даволі даўно.

Думка, што пра старое крэсла на сцяжыне варта было б запісаць, спачатку прыпалохала мяне... немужчынскай сентыментальнасцю.

Падзякаваць за такую... ну, вельмі прыемную дробязь проста вось так, непасрэдна — я не змог.

Калі мы развіталіся на золкім аўтобусным прыпынку, я пажадаў яму як найхутчэй вярнуцца ў наш ціхі драўляны дом.

— Тады ўжо я прыму ваша вуголле.

Ён усміхнуўся.

Навошта толькі, дружа мой, так сумна?..

1971

## ХЛОПЧЫК

Ліпень сорак чацвёртага года.

Перадавыя часці 1-га і 3-га Беларускіх франтоў былі ўжо далёка наперадзе, а паміж гэтымі двумя клінамі некалькі дзён валокся па Навагрудчыне густы невад 2-га Беларускага, падбіраючы большыя і меншыя рэшткі разгромленых варожых часцей, што прабіраліся на захад не толькі пешшу і на абозных фургонах, але і на машынах, нават баявых.

У вёсачцы спыніўся на ноч узвод нашай пяхоты і супрацьтанкавы разлік з саракапяткай, і ўранні на гэтую групу стомленых, але пільных хлопцаў напароліся тры бронетранспарцёры з немцамі ў лётнай форме. Дзве машыны загарэліся на выгане, а трэцяй удалося рвануць лагчынай міма вёсачкі і прагурчэць да наступнай затрымкі — таксама апошняй.

Самога бою я не бачыў. Калі мы, чатыры партызаны, праязджалі там, транспарцёры ўжо дагаралі, немцаў, пакошаных аўтаматчыкамі амаль на месцы, каля машын і абгарэлых на машынах, дзядзькі ўжо закапалі ў прыдарожным раўку, у вузкай, доўгай магіле, нашы салдаты пайшлі ўжо з вёсачкі сваёй дарогай, куды і ўсе тады ішлі.

Засталося толькі адно...

Засталася толькі жанчына, — у глыбокім па-летняму пыле шырокай дарогі, у лужыне крыві, жывая, з адарванай снарадам нагой.

І людзі з гэтай вёсачкі, і мы не ведалі, хто яна. Яна была для нас толькі тая, што ўцякала з фашыстамі, якой неабходна было ўцякаць ад народнага гневу. Жаласці да яе не было.

Нагу ёй адарвала ўсю. У лужыне крыві, аселай у пяску, — чырвоны, тоўсты абрубак, якім яна патузвала час ад часу, як быццам толькі хочучы абагнацца ад заедзі. Залатыя, пышныя валасы яе былі растрэсена ўкалмачаны ў пясок. Вялікія, светлыя вочы натужна глядзелі на нас цераз лоб — назад і ўгару (мы сядзелі на конях), а чорныя вусны горача паўтаралі:

— Не убивайте меня! Я и сама умру! Не убивайте!..

А потым — дзіўнае:

— Граждане, хоть кусочек воды!..

Я ўжо сказаў, што жаласці ў нас не было. Магу і паўтарыць, шчыра і... трохі не зусім. Калі мне сказаць пра самога сябе. Я быў то менш, то больш блізкі да жадання выняць з самаробнага кабура наган і даканчыць яе пакуты, аднак, было ў маіх думках і іншае. З нас чатырох я адзін быў мясцовы, і вельмі ясна ўявілася, як мною будуць пасля палохаць дзяцей. З гэтай вёскі была мая маці, тут я любіў

дзяўчыну.

Вёска — бабы, мужчыны, малыя — амаль уся стаяла тут. Ніхто нічога не пачынаў, усе як быццам чакалі, што мы, хто са зброяй, — тыя, што ўсё цяпер вырашаюць, — мы павінны і гэта, з недабітаю, вырашыць як належыцца.

А мы таксама маўчалі, з коней сваіх патомленых слухалі недарэчнае, што паўтаралася, як у трызненні:

— Граждане, хоть кусочек воды!..

І тут з-за ўзгорка, з усходу, паказалася, а потым і пачулася машына, поўная нашых салдатаў.

Неўзабаве яна спынілася каля нас. Частка байцоў пасаскаквала цераз борт на дарогу, з кабіны выйшаў старшына. Высокі, мажны, вусаты, з медалямі — хоць на плакат ці ў кіно.

Тады, у дні вялікага разгрому і вялікай радасці, і самі немцы, і ўсе іх паслугачы найбольш баяліся партызан. Каму найбольш былі вінаваты: як непасрэдным сведкам людскіх нявінных пакут і першым мсціўцам за іх.

Тая — у крыві, у пяску, пад нагамі, — трэба думаць, таксама ведала гэта. Ужо салдатам, як быццам шукаючы ў іх абароны ад нас, яна паўтарыла сваё пра «кусочек воды».

Ды старшына ўжо ведаў, што тут да чаго, — што ўбачыўшы, а што пачуўшы.

— Лежи, лежи! — адказаў ён.- Тебе еще Гитлер шнапса пришлет!..- І пасля паўзы: — Сергеев!

— Я! — тузануўся на «смірна» цыбаты, маладзенькі баец, не вельмі ваяўніча падцягнуўшы за рэмень вінтоўку.

Выказаць свой загад нейкім словам, хоць бы якім, старшына не выказаў. Ён кіўнуў галавой на ляжачую.

Баец, які недзе дома быў, відаць, зусім яшчэ нядаўна для кагосьці хлопчыкам, без пары і гарушчым, і пасталелым, разгублена, не пасалдацку выдушыў:

— Товарищ старшина... ведь женщина...

Зноў была паўза, якую недакладна будзе назваць толькі разгубленасцю. Паміж суровым вусачом і хлопчыкам былі салдаты розных узростаў, рознага вопыту вайны, аднак старшына не кіўнуў больш нікому.

— Ну что же...- сказаў ён, таксама нібы разгублена, ці што, і адразу, ужо зусім звычайна, скамандаваў: — Поехали!

Але з падножкі, — усё-такі армія, усё-такі старшы па званні, — ён кінуў нам:

— Вы, партизаны, ею займитесь!

Мы, вядома, не заняліся. У нас таксама было куды ехаць па справе, якая была тады найважнейшай. Мы таксама спяшаліся.

Зрэшты, да недабітай ужо ішла, амаль подбегам, босая цётка ад вёскі, — з вядром у руцэ і з нечым белым пад пахай...

1971

## ІДЫЛІЯ

Ен быў каваль, адзін на тры вёскі, чалавек патрэбны і паважаны. А жонку прывёз сабе аднекуль здалёк. Танклявую, віскліва-галасістую і дзікаватую неахайніцу. Яго за радзімую пляму на шчацэ празвалі Лапай, а на яе адразу прыдумалі Магдалена, — нібы без сэнсу, але нечым для ўсіх зразумела і смешна.

Кузня звінела ў вёсцы, а жылі яны на хутары за вёскай. І Магдалена, як толькі ўбачыць праз акно, што нехта ідзе, на ўсякі выпадак хавалася ў каморку. Ужо і дзеці ў іх пайшлі, ужо тым часам і пастушкамі на пашу павыбягалі, а маці ўсё ніяк не магла асвойтацца.

Адзін з вясёлых мужчын, Паўлюк Калоша, дык той, праходзячы каля Лапавага хутарка, адразу ў хату не заходзіў,— ішоў у каморку і заглядаў за бочку ці за скрыню:

— Ага, ты сёння тут! Здарова, Магдаленіца!

А яна — сарамліва, збянтэжана:

— Гы-гы-гы! Я думала, дзядзька, што гэта не ты...

Неахайнасцю яна, як Лапа работай, славілася далека.

Даўно гэта было, аднак я добра бачу той колішні хутарок на ўзгорачку пры дарозе, а побач з ім, у лагчыне, круглую сажалку, аброслую аерам і зацягнутую раскай. У сажал цы бокам, да палавіны ў вадзе, застыла ражачка, у якой рашчыняюцца аладкі. На ражцы сядзіць ды час ад часу, у паэтычнай журбоце, кумкае жаба. Вялізная, надзьмутая. Спудзіш яе каменьчыкам — боўтнецца зелянуха ў твань, а ражачка нават не скалыхнецца. Так яна адмакала ад былой да наступнай нядзелі, калі ў нас, па даўняму звычаю, абавязкова пякліся аладкі.

Калі ж Магдалена, для раснастайнасці, варыла галушкі з цёртай бульбы, дык адціскала іх... у падоле спадніцы.

— Што ты робіш? — зжахнуўся аднойчы хтосьці з жанчын. А яна:

— Гы-гы-гы! Мой сажроць!.. Крылатым стала ў нас тое "сажроць", ім карысталіся, гаворачы не толькі пра Магдалену.

І я згадаў тую даўніцу не так сабе. Не раз, не два разы, калі чытаеш сякія-такія мастацкія творы, і рыфмаваныя, і не, успамінаюцца тая ідылія з ражкай і тыя галушкі.

Прасцяк і добрая душа, Лапа — той хоць пад чаркай, хоць зрэдку ганяў сваю палавіну — вучыў.

Наш чытач, як часамі здаецца, куды ласкавейшы,— сажроць!..

1972

## ДАРОЖНЫ РЭКВІЕМ

Спачатку грэбля ў балоцістым лесе. Зусім нечаканы і пералётны сонечны дождж. Потым лясное возера.

Спыняемся і выходзім з "газіка".

З нізкай хмарай вялікая роўнядзь вады цёпла павязана леным, рэдкім церушэннем. Сітнёг. Лазняк. Шчэбет птушак і зумканне камароў.

Гром пракаціўся па небе. Як заўсёды, з нейкім трывожным, палахліва-радасным абяцаннем чагосьці лепшага. Знаёмая, з маленства любімая музыка.

Няўжо тут было таксама і тады, у дні вялікай фашысцкай блакады?

Такая краса — і забойства дзяцей?..

* * *

Старая студня з выпетраным жураўлём. Адна на зялёным прасторы. Не менш сіратлівая груша. Сівы палын на котлішчах.

І яшчэ адзін помнік: Дзвесце семдзесят чалавек. У студзені сорак трэцяга года.

Бярозавы хмызняк на месцы хаты, у якой палілі вёску.

Цяпер тут калгасны выпас, цялятнік з двума грамаадводамі і хатка.

Дзеда-вартаўніка, былога партызана, у якога тут забілі жонку і двое дзяцей, засталі мы на выпражаным возе. Спаў на сонцы, а каля кола стаяла пустая бутэлька з імпартнай этыкеткай. Зайшлі з ім у хату, паставілі на стале магнітафон. Але сабака, які дагэтуль брахаў на нас з-пад падрубы, цяпер уядаўся пад звонкай падлогай... Прыйшлося пайсці ў машыну, нават ад'ехацца далей ад брэху.

Дзед у той дзень прыбег з лесу пасля. Работа была "чыстая": усе пабіты, усе пагарэлі.

А навокал пажарышча ляжалі акрываўленыя вілы. Адзінаццаць штук. Віламі трупы, а каго і жывога яшчэ, падкідалі ў агонь...

Едзем.

Дзе было поле — цяпер вялізная паляна цімафееўкі. Жывому трэба жыць. І клопат адчуваецца: парнасць, зноў будзе непатрэбны дождж.

Вялікія лужыны на сонечнай дарозе. Адна за адной. І вясёлая плісачка. Садзіцца каля вады, зноў уцякае ад машыны, зноў садзіцца... Як дзіцячая гульня.

* * *

Зялёны востраў у няспелым жытнім моры. Бярозы.

З дарогі туды, у жыце, дарожка. Густая, нетаптаная трава. Абапал дэкаратыўныя кусты. То васілёк, то маладзенькі колас у траве.

Пад бярозамі помнік. Тут пахаваны адразу дзве невялікія вёскі. Сто сорак чалавек. У ліпені сорак другога.

Навокал — ціхая песня вячэрняга сонца, пяшчотнага калосся, непрыкметных жаўранкаў.

У душы паўтараецца:

Жыта мае маладое!

Укрый мяне з галавою...

Пра ўсё пра гэта можна хіба толькі музыкай сказаць. Што было, і што ёсць, і што будзе...

* * *

На невысокім Кургане Бессмяротнасці — скульптура жанчыны з лаўровай галінкай у правай руцэ, з жывымі, нядаўна ўкладзенымі некім кветкамі — у левай.

Былая вясковая вуліца стала шырокай і зялёнай палявой дарогай. У колішніх агародчыках цвітуць даўно адзічэлыя ружы. На траве, якою ўсё парасло, стаяць самотныя вербы. Бярозы маладой, нявіннай легкадумнасцю ўпрыгожваюць, а векавыя, магутныя ліпы вартуюць гэты спакой.

На кожнай былой сядзібе — сваяцкі помнічак у металічнай ці драўлянай агароджы. Нізкі драўляны крыж, ужо касматы ад моху, зусім утапіўся ў лістоце бэзавай падсады.

А што пад ім?

Старшыня сельсавета, які суправаджае нас, у дні вайны быў маладзенькім партызанам. Інтэлігентны, друлсны хлапчына расказвае:

— Трохі касцей недагараных у чыгунок або ў што і — закопвалі. Пасля таго.

Гэта — пад помнічкам. Адным, другім, дзесятым...

А што не *пад ім*, а *за ім* — што было не *пасля*, а *тады*?

Успамінаюцца пачутыя сёння словы старэнькай жанчыны, якая адна засталася з усёй вёскі, адна ўратавалася цудам і дажывае ў вёсцы суседняй, што згарэла не ўся:

— Добра пра тое расказваць таму, у каго няма жалю... Хто можа, дзеткі, гаварыць...

1973

## ВЯЧЭРНІ ЗВОН

У размножаным на ратапрынце пацешна "рускім" апісанні Гамбурга, якое нам, туристам, прыязна раздал і мясцовыя актывісты камітэта абароны міру, пра гэтую частку горада сказана так:

"Реепербан — "Хребет" много воспетого района, увеселения Святога Павла, "пристань радости", "святой распущенный". Развлекательный док для матросов всякого цвета кожи. Сотни ресторанов — с китайского подвала до баварского пивного дворца. Они предлагают разнейшие заманивания, не только для нёба..."

Мы, чатыры мужчыны, зайшлі туды ясным чэрвеньскім адвячоркам.

Калі адкрытая, яркая шчодрасць вулічных рэклам з красунямі ў розных позах, калі таямнічасць зусім неабмежаваных у сваёй "свабодзе" кінатэатрыкаў яшчэ абуджаюць міжвольнае хваляванне, дык у завулках, куды ўваход дазволены толькі мужчынам ад шаснаццаці гадоў,— прыходзяць адчуванні іншыя.

Недаўменне: няўжо гэтаява? І агіда, пануры цяжар на душы.

У першым завулку, крыху багацейшым, не вельмі шмат людным, на нізкіх падаконніках адчыненых вялікіх вокан сядзеў жывы тавар. Пакурваючы, перагаворваючыся, жанчыны гэтыя рэкламавалі сваю галізну неназойліва, з нейкай як быццам упэўненасцю ў сваім значэнні і неабходнасці. Нават нейкае адчуванне ўласнай годнасці, ці што. Гэта пачулася мне ў абражаным выкрыку адной з іх на турыста, на жываце ў якога вісеў фотаапарат у незашпіленым футарале: "Мах цу!" — зашпілі.

У другім завулку, вузкім, цёмным, а потым яшчэ і крытым, і значна шырэйшым, падобным на брудны падземны гараж, голыя жанчыны стаялі кожная каля свае кабіны. Густа валэндаўся п'яны збой мужчын, чуўся крык, рогат, лаянка. Яны ж стаялі моўчкі, нерухома. Памалу ираходзячы каля іх, я прыглядаўся, наколькі гэта прыстойна было, да вачэй, да выразу твараў гэтых... усё ж такі не манекенаў.

Абыякавасць, стома, як у салдатаў на варце, адсутнасць хоць бы якой сарамлівасці ці какецтва, у некаторых нават прыкметны цынізм.

Голыя целы жанчын — у такой масавасці, у такім здзеку, сярод натоўпу апранутых мужчын — гэта балюча напомніла мне архіўныя фотаздымкі гітлераўскіх карнікаў: чэргі жанчын, распранутых перад расстрэлам...

А побач з гэтым, на вуліцах светлых, у нахабстве рэклам салідна

шпацыруюць бюргерскія пары, часта з малымі ўнукамі; на ганку сексмагазіна забаўляюцца дзеці гэтых прагрэсіўных крамнікаў; у неба ўздымаецца велькапышная кірха...

Гучыць вячэрні звон. На малітву.

На захадзе сонца цудоўнае неба.

За дамамі, на бруднай Эльбе, бялеецца наш цеплаход.

І сум... І жаданне на ўсю глыбіню зразумець, што ж яно ў чалавечым жыцці да чаго...

1973

## БЕЛЫ ГОЛУБ

Заходзіла сонца. Вялікае, барвовае, спакойнае. Пасля была зара, незвычайная, як пажар доўгай вёскі, які разгараўся, тады спакваля цераспалосваўся сінечай і, нарэшце, пачаў атухаць.

Наш турысцкі аўтобус ішоў па 'асфальце, паначному адасобіўшы ў сабе невялікую групу людзей, што за два тыдні на чужыне паспелі як быццам уведаць адзін аднаго, а некаторыя нават пасябраваць.

Іспанія. Дарога з поўдня на Таледа.

Праз вокны ўжо не відно было бясконцых аліўкавых садоў на ўзгорках і ў далінах, рэдкіх пасёлкаў з насілкамі чырвонага перцу на белых сценах, не відно было геаметрычна рэзка акрэсленых, падобных на сопкі гор, а тым больш — дзівосна розных колераў восеньскай раллі, ад карычневага, цераз жоўтае, шэрае розных адценняў і да салатава-светлага.

Мы спявалі. То хорам, то на змену, з гідавым мікрафонам. Песні рускія, украінскія, малдаўскія, армянскія — кожны сваю.

Калі прыйшла мая чарга, я прысеў на толькі што вызваленае месца на першым сядзенні. Побач са сціплай з выгляду і ад гэтага сімпатычнай пажылой масквічкай. Прафесар, адна з медыцынскіх славутасцей. Яна падпявала мне ціха і неяк па-вясковаму сардэчна. Не ад разу, пакуль увайшла ў незнаемую мелодыю, і без слоў, бо песня была беларуская. А потым, у рускай народнай песні, былі ў нас і словы, але мілая ціхасць у спеве яе засталася.

І я тады раптам, як радасць якую, што даецца ў жыцці не так часта, успомніў восень сорак першага года. Перадапошні перагон майго патаемнага марша з палону, хату сястры, дзе я, толькі пачуўшы, што дома, за дваццаць кіламетраў адтуль, усе жывыя, зваліўся ледзь не на цэлыя суткі.

Калі я прачнуўся, сястра, удвая старэйшая за мяне, карміла беднага валацугу, як маці, і зноў расказвала. А потым — праз боль і сум, праз горыч і недаўменне ад таго, што нарабілася навокал і на свеце — да мяне прыйшла незнаемая песня.

Яна была па-народнаму простая, ад светласці яе — ледзь не заплакаць. Пасля я гэтую песню чуў вельмі часта, можа, нават зачаста, у самым розным выкананні, ад салдацкага крыку на маршы да мілай непасрэднасці маладое салісткі. Сястра спявала не богведома як, з удовінай вясковай прастадушнасцю, таксама ціха і сардэчна, як і суседка ў іспанскім аўтобусе. Я падпяваў сястры няпэўна і шчасліва, як быццам, нарэшце, злавіўшы ў варожым шоламе ледзь чутную, вельмі патрэбную хвалю. Песня тая, сёння сусветна вядомая,

упершыню прыйшоўшы да мяне, салдата польскага верасня 1939 года, потым ваеннапалоннага, адкрыўшыся мне ў такі трагічны час, ідзе са мною па жыцці, як і ў кожнага, са сваім успамінам.

Гэта — "Кацюша".

У краіне змрочна загадкавай і так доўга закрытай для нас, на сонечнай зямлі пяшчотнасуровай красы, на радзіме Сервантэса, Гойі і Лоркі, у дзяржаве, што так пачварна засядзелася ў сваім затхлым фашызме — песня яшчэ раз паўтарылася ў маёй душы. Нібы махнул ася мне белым голубам у цемры.

1974

## ІВАНЫ

### 1

«...Ён ужо, мусіць, ведаў, што яны па яго прыйдуць. А можа, толькі думаў так. Я не скажу вам, я тады зусім малая была, не разбіралася. Назапіхаў ён у чорную, вялікую бутэльку... Я ўжо не помню, ад чаго яна... Назапіхаў сваіх паперак, паскручваўшы іх трубачкамі, і закапаў у хаце пад палком. Тады ж падлогі не было, а ток. Ён гліну пад палком раскалупаў, ямку выграб, бутэльку туды загроб і гліну закляпаў пранікам.

Ні мамы нашай, ні таты нешта дома не было. А мне ён нічога не кажа. Толькі паклікаў, каб глядзела... Не, ведаеце, трохі ілгу,— ён мне сказаў, каб я нікому, бронь божа, нічога нікому не гаварыла.

А ўранку яны прыйшлі і павялі яго. Тыя немцы і паліцаі. А потым і павесілі ў Гарадзішчы.

Тата наш быў там тады. Стаяў між людзей і маўчаў. А людзей назганялі многа.

Івана вешалі з воза. Івану было васемнаццаць гадоў. І ён яшчэ нешта з воза крычаў. Ці толькі адзін раз крыкнуў. Тата наш добра здалёк не пачуў...»

Жанчына гэтая, ужо даўно не дзіця, сведчыла разам з іншымі супраць таго, хто выслужваўся перад тымі немцамі, камандаваў такімі, як сам, паліцаямі, а потым дваццаць год хаваўся, змяніўшы прозвішча і з'ехаўшы далёка ад мясцін, дзе здрадзіў.

На следстве і на судзе ён, вядома ж, не памятаў ні Івана, ні бацькі, ні маці яго, а малое сястры — тым больш. І не таму, што нявыгадна было іх памятаць. Такіх, як той Іван, многа было сярод павешаных, закатаваных, спаленых і ім самім і па яго загаду. Ну, а бацьку тады ён каб толькі ўбачыў на плошчы, каб толькі пазнаў у натоўпе... Дый гэтую, каб спадзяваўся суда, лепш было б загадзя... Спачатку, у сорак першым, у сорак другім, яны рабілі такое не вельмі спраўна, не да канца, як рабілася потым.

Іванаў бацька пайшоў пасля на фронт і не вярнуўся. Маці, яшчэ і ад гэтага, другога ўдару, заплакалася зусім, «памерла не ў сваім розуме». З ваеннага маленства і да сведчання на судзе Іванава адзіная сястра так і прыйшла амаль непісьменнай ціхоняй, якая «больш нічога добра не памятае».

Хата іхняя згарэла. Бутэлькі з паперамі не знайшлі. «Здаецца, і не шукалі. Можа, я нават сказаць пра яе забылася...»

Можна толькі прыблізна ўяўляць, які ён быў, той Іван. Што ён крыкнуў на возе, над віселькай? Што ён пісаў, што загінула ў чорнай

бутэльцы?..

Успамінаю самога сябе, свае васемнаццаць гадоў. І мне хацелася пісаць, і мне было б што хаваць... Але мае юнацтва прайшло не тады.

Стаўлю на тое Іванава месца свайго юнака. І той — далёкі, незнаемы — робіцца ад гэтага балюча блізкім.

А ён жа, той Іван, быў і не я, і не мой сын, і не адзін з тых маладых, каго я навокал бачу і чую, кім часамі любуюся. Ён быў толькі адзін, толькі самім сабою. І ён больш не паўторыцца.

Як многія, многія, многія...

## 2

У вялікай палескай вёсцы асфальт. Дзеці гуляюць на трохкалёсных веласіпедзіках. Гудуць грузавікі, грукоча трактар. У лужынах узбоч асфальту спрадвечным ладам кумкаюць жабы. Здалёк і зблізку бялеюць на дубах буслы.

І сонца, столькі сёння сонца! Пасля дажджлівых дзён — як быццам новае, яшчэ раз лета.

На ўскраіне вёскі, побач з вялікім помнікам па жыхарах, памардаваных фашыстамі — чатырыста дваццаць шэсць чалавек! —прытуліўся маленькі, прымітыўны помнічак з такою эпітафіяй на шэрым, ужо састарэлым цэменце:

*з. п.*

*Грыцевич Сямён Димитравич род 1908 и ево дети Марыя Ева Ганна Апанас Вера Иван Апанасав 1940 г пагибли ат немцав в 1943 г.*

*Пам. мужу и детям, ат жаны.*

Вакол двух помнікаў стаяць пасляваенныя бярозы. Яны даўно ўжо тоўстыя і гладкія, з багатай, цёмнай лістотай. Невінаватыя, што ім так сыта раслося тут на крыві.

Бабулю, што паставіла той помнічак, мы засталі ў кухні, за вялікім акном якое лілова-бела і радасна-густа цвіла ў агародзе бульба. Бабуля ўжо зусім нямоглая, семдзесят сем гадоў. Столькі работы ўсякай пераároблена. А колькі ўсяго пражыта... Распытваць — страшна, балюча дакранацца горкай памяццю.

Яна паверыла, што трэба расказаць, і расказала.

«...Па сем'ях стралялі. Дык я ўжо ішла сваёю сям'ёю. Гаспадар з дачкою з аднаго боку, а са мною другія. Дык яны як застрачылі, дык мае ўпалі нежывыя, а я яшчэ раз ступіла і ўпала. І мяне прывалілі людзі. Во пасюль, па грудзі...»

З-пад трупаў, з адрыны, у якой забівалі і спальвалі, жанчына тады

вылезла і, разам з вельмі нямногімі, пайшла-пабегла ў лес. «Маладая была, трывушчая. Не тое, што цяпер...»

Сёння бабе зусім ужо няможацца, а жыць яшчэ ўсё трэба. Не проста жыць, заслужана адпачываць, а памагаць у хаце. Пасля вайны яна сышлася з другім чалавекам. Ён пазалетась памёр, а яна вось гаворыць: «Сілы няма, а памагаць трэба». Хоць ты цытуй гэтую прастату, як афарызм, аплочаны нягодамі, пакутамі жыцця.

Яна якраз карміла «вельмі распусную» ўнучку, якой не сядзелася ў бабулі на каленях. Удзвюх яны нагадалі мне і маю, таксама калісьці нямоглую ды з унучкай. І стала добра, гаркавата на душы... Усе яны і ўсюды так падобныя.

Светлая трохгадовая дзяўчынка пішчала, тузалася з калень, ад місачкі з малочнай кашай. Вырасце — будзе бабу сваю, магчыма, памятаць. Але ці так, каб зразумець, адчуць, якая яна сама была цяжкая для гэтых сухіх, дрыготкіх рук, для каленяў, для сэрца, што жыло, сяк-так трымалася яшчэ ўсё абавязкам мацярынства?..

А хто ж такі «Иван Апанасав 1940 г»?

Мы спыталіся, і бабуля растлумачыла. Пра ўсю сям'ю. Сямён — гэта яе першы чалавек. Марыя, Ева, Ганна — гэта іх дзеці. Апанас і Вера — дзевер з жонкаю. А Іван Апанасаў — іхні малы. «Якраз такі во быў, як гэтая». Што на каленях.

Расказаць пра той страшны дзень мы бабулю не так угаварылі, як спакваля разварушылі пытаннямі. А зняцца з унучкай — ледзь упрасілі. Можа, і не згадзілася б, але прыйшла з фермы нявестка, румянаўвішная маладзіца. Узяўшы малую ў пакой, яна завіхнулася там, і хвілін праз некалькі адтуль у кухню пачулася:

— Дзядзь-ка, а во!

Гэта — мне, бліжэйшаму, каго яна заўважыла праз шчыліну ў вясёленькай шырме.

Малая стаяла ўжо ў новай сукеначцы. І прычасаная. З усмешкай, за якую ім даруецца ўсё. Яе «а во!» якраз і значыла: «Глядзі, якая я, любуйся!»

Спачатку мне прыгадалася народнае, мужчынскае: «Во, браце, бабскае насенне!» А потым я гэтую ўсмешку малое — ад мамы, ад бабулі — міжволі, жудасна перанёс туды, пад бярозы.

Дзе такі самы, як яна, Іван.

*1975*

## ПОЛЫМЯ

Над рэчкай на лясной паляне — вогнішча. Рыбацкае, у летнім прыцемку.

Хлопчык, які не хоча спаць, сваёю радасцю напамінае мне маю былую чысціню дзіцячага захаплення агнём — такім раскошным відовішчам, такою таямнічай з'явай.

Туды, у тыя даўнія адчуванні, мне ўжо цяпер свабодна не прайсці: свабодзе перашкаджае нядаўні ўспамін.

...Дзяўчына выкручвае з калодзежа ваду. Калодзеж прытаіўся пад буйным вішняком. Ад белых пялёсткаў вясною і пажаўцелага лісту ўвосень ваду ў сцюдзёным прадонні ахоўвае круглая драўляная будачка з дзверцамі. Дзяўчына круціць спраўную корбу лёгка. Толькі ледзь-ледзь, рытмічна падрыгваюць пад квяцістай кофтачкай яе пяшчотныя плечы і грудзі ды прынапружваецца поўная, высока загарэлая рука. Дзяўчына маладзенькая, румяная і незвычайна, "не па-сучаснаму" сарамлівая.

— Тата і мама ў хаце.

І больш ні слова. Што ж, нам толькі бацька яе і трэба.

Немалады мужчына расказвае.

Звычайнае: кал і прыйшлі яны — ён не мог не пайсці. Яны — гэта фашисты, а ён — савецкі партызан. Па-салдацку, не на жыццё, а на смерць. А ў іх было многа зусім не салдацкай подласці. Яны спалілі яго дом, а жонку і дзяцей нават не ў хаце спалілі, а ў хлеўчуку.

— Меншы, дванаццаць гадоў, быў тады з камандзірскім рэменем,— расказвае бацька.— І рэмень той не дагарэў. Так ён, мой хлопец, і ляжаў... з гэтым сваім гулянием у руцэ... А ў большага, на два гады старэйшага, у роце было поўна саломы. Душыўся ад агню, ад дыму... Я яе павыцягваў...

Бацька змаўкае, відаць, успомніўшы, што і ў чатырнаццаць гадоў — чалавек яшчэ ўсё дзіця.

— Ён не хацеў крычаць.

Гэта ўжо сказана як пра дарослага...

Мы заціхаем у горкім маўчанні.

На сцяне — партрэт жанчыны, былое жонкі гаспадара. Я пазнаю гэта па тым, што яна не адна на партрэце, а побач з ім, гаспадаром, у свой час маладым.

Пад гэтым парным партрэтам, на канапе сядзіць мажная, мілавідная жанчына, вельмі прыкметна маладзейшая за гаспадара. І не пытаючыся, можна здагадацца, што гэта яна нарадзіла яму дужую, сарамлівую дачку-красуню.

Іншых партрэтаў на сцяне няма. Хлопцы былі малыя, да Слуцка далекавата... А можа, проста згарэлі іх фота, не захаваліся, як маміна і татава, у сваякоў.

Мужчына доўга маўчыць. Па той, па тых. А гэтая, другая жонка, можа думаць... Не, гэта не яна — я за яе падумаў, што рэўнасці тут — няма. Ёсць толькі боль сястры і маці. І разуменне, хоць і нялёгкае яно, што тое і тых не заступіш сабой і дачкой, якая яна ні харошая...

Хлопчык каля начнога рыбацкага вогнішча рад і не хоча лажыцца. Шчабеча, падкідае ламачча і, зноў заварожаны, моўчкі глядзіць, як весялее полымя.

Я сам пакуль што не гару ў тым полымі,— я не магу такога да канца ўявіць. Гарыць той хлопец, з саломай у роце... Не, і другога я не забыўся, таго, які гарэў з "гуляннем" у руцэ. Якраз яго і нагадаў мне наш, што радуецца каля вогнішча. Ды толькі ж той, з саломаю, што "не хацеў крычаць", як дарослы, ці проста душыўся ад дыму і агню, яшчэ ўсё як дзіця,— той мне здаўся цяпер, на момант, не толькі сынам,— і нейчым, і маім адразу,— але і мною самім...

Мне засталося толькі нема закрычаць у полым!. Не ў гэтым, каля якога мы цяпер стаім, а ў тым, з якога нельга было вырвацца — хоць пад кулі.

## КАЛЫСКА

Старая маці сказала б: "Наўда якая — унучка ў яго. Няхай здарова гадуецца". Але і рада была б, вядома, хоць у яе гэта ўжо, як і праўнучка, не наўда, а дзесятая, палічыўшы ва ўсім нашым родзе. Была б...

...Прадвесне з апошнім, няшчодрым сёлета снегам. Сонца ўзыходзіць. У яркім святле за акном вагона — густая, вечная зеляніна ельніку ахоўнай паласы. А ў зеляніне гэтай — голенькія, стракатыя бярозкі. Нібы ў чарзе па таксама залёнае, толькі святлейшае.

А мне чамусьці ўспамінаецца стол на вялікім, ярка квяцістым дыване і светленькая, толькі што з цёплай калыскі, у кароткай кашульцы наша наўда. Яна смяецца і крычыць. Так жа нядаўна авалодала першай паўсотняй слоў, а ўжо загадвае:

— Дзед, па-ба-зя-лі!

Мы бегаем вакол стала, я не магу яе дагнаць, і гэта вельмі весела.

А хіба ж ёсць што-небудзь прыгажэйшае, чым галоўка соннага дзіцяці на белай падушцы нармальнага чалавечага маленства?..

...З дома, што на гары, з акна чацвёртага паверха відаць чыстае крымскае неба, пад небам — ціхае мора, а яшчэ ніжэй, пад акном, вострыя кіпарысныя верхавіны.

Выходжу і іду з гары па свежым ранішнім парку.

Малым уранні спіцца асабліва соладка. Ажно шкада часамі, калі такую ці такога нясуць або вядуць, цягнуць за ручку няшчасна-соннага ў яслі ці ў садок. Але ж і хораша гэта, што вось так рана, а яны ўжо тут, пад кіпарысамі ды кедрамі, каля кветак, на шорсткай і рэдкай паўднёвай траве. Малеча ўжо не сонная, у шчэбеце, што весела пераклікаецца з тым шчабятаннем ды ціньканнем, якога так шмат навокал, у духмянай зеляніне.

Адна працягнула да мяне маленькую далонь, на якой малюсенькі слімак.

— Во што знайшла! — паведаміла з радаснага дзіцячага сусвету.

Другая — яшчэ смялейшая. Распасцерла перада мною ручкі і праспявала са смехам, які пакуль што ў вачах:

— А не пуш-чу, не пуш-чу!..

Прыйшлося падняць. Высока, вы-со-ка!

І яшчэ раз. Гэта, вядома ж, спадабалася. Іншым — за ёю — таксама. Пасля дзевятай прыйшлося проста ўцякаць.

І прыгадалася... Ну, тое самае, што і цяпер, у вагоне, гледзячы на стракатыя бярозкі ў першай чарзе па зялёнае.

...Чалавеку было тады толькі трынаццаць. У горадзе, прыгнечаным

варожай акупацыяй, быў голад, і маці паслала яго ў вёску, да свае сястры. Кал і стралялі ўсіх, ён цудам уцалеў пад трупамі, толькі паранены. Потым гітлераўцы паехалі, а ён вылез з-пад забітых у цётчынай хаце і, акрываўлены, пайшоў — адзін на бязлюднай вуліцы.

Чалавеку сёння ўжо сорак чатыры. Сем год таму назад ён сведчыў на судзе супраць тых карнікаў, што не ўсе паўцякалі на Захад, доўга хаваліся на неабсяжных прасторах нашай краіны. Расказ чалавека запісаны ў пратаколе так:

"...Падлога ў доме была шчыльная, пафарбаваная, і калі я зайшоў у дом, то на падлозе было столькі крыві, што не было куды ступіць нагою. Забілі чалавек пятнаццаць-дваццаць у гэтым доме. У другі дом я не заходзіў, я толькі праз акно туды паглядзеў. Там, над трупамі на падлозе, яшчэ ўсё гайдалася калыска".

Я дадаю:

Калыска не пустая, хоць маўклівая.

І калыхалася — як звон без языка.

## АКРАЕЦ І ЗБАНОК

Ноччу паехалі да сувязной.

Было крыху трывожна, бо ўчора нас там абстралялі. На гэты раз у вёску мы не ўязджалі, збочылі ўправа і спешыліся ў канцы поля, на пашы. Удвух з пяці, мы з Шурам пайшлі баразнамі ў жыце, якое ўжо красавала.

Бліжэй да гумнаў, хоць так жа ціха было навокал, мы прыпыніліся і трошкі пашапталі. Далей трэба паўзці. Чаму паўзці? Я ўжо служыў у арміі, быў на фронце, і Шура, на шэсць гадоў маладзейшы, даверыўся мне, ці што... Дый не змаўляліся мы асабліва, а проста, відаць, па адчуванні ды прадчуванні, а то і са страху нейкага не пайшлі, а папаўзлі да Валінага гумна. Дарогу загуменную перабеглі па адным, прыгнуўшыся, а тады, тулячыся да сцяны, пасля пад вішняком, зноў каля сцяны — дабраліся да хаты.

Шура спыніўся каля акна. Па маўкліваму праву на гэта, бо з Валяй у яго была не толькі сувязь партызанская. Я падышоў да брамкі і з-за шула яе, наставіўшы над нізкім плоцікам аўтамат, заціх у назіранні.

Шура падзюбаў чучкамі ў шыбу...

І іменна тады, нібы пачуўшы гэты асцярожны стук, у тым канцы вёскі, куды я глядзеў, чэркнула аўтамат ная чарга.

Мы шыбанулі назад.

За гумном, па полі, ужо не беглі, пайшлі баразнамі, прыгнуўшыся на ўзровень жыта.

Стрэлаў больш не чуваць. Што за чорт?..

Задание было не вельмі пільнае, другі раз да Валі мы не пайшлі.

Едзем. Усход над лесам азорваецца хараша, пяшчотна. А на сэрцы яшчэ ўсё трывожна. Кожнаму па сабе.

А можа, гэта мне праз тое ўжо, што здарылася пазней, успамінаецца яна — тая звычайная зара?..

Мы гужам, моўчкі ехалі па дарозе, потым па выгане, пераплюхалі брод і апынуліся ў сваёй цвярдыні.

Адсюль, з гэтай надрэчнай, прылясной вёсачкі, у пушчу, да лагера нашай брыгады было кіламетраў з пятнаццаць. Тут мы стаялі, сем чалавек брыгаднай разведкі. Перад двума гарнізонамі. Да аднаго, калі па дарозе, шэсць кіламетраў, а да другога, што лявей, калі па лузе ды палямі, чатыры.

Нешырокая рэчка не была такім вадзяным рубяжом, а хата бабы Кастусіхі такім апорным пунктам, каб нам тут адчуваць сябе спакойна. Але мы адчувалі. Проста бяздумнасці больш, чым можна і трэба было. Наймаладзейшаму з нас, Шуру, было васемнаццаць, але ж

камандзіру, Уладзіку Касачу, нядаўняму настаўніку, пад сорак. Ён быў добры і недурны, але найменш у нашай сямёрцы падобны на ваяку. За вочы мы называлі яго Паўлам Іванавічам, маючы на ўвазе душаньку Чычыкава з яго «ловкостью почти военного человека». Ён і ў пілотцы, і ў шынялі, і з аўтаматам, але ў сядле сядзіць, асабліва як ззаду паглядзіш, капа капою, нібы ў сярмязе едзе на начлег. Уладзік нам раз ці два разы гаварыў, спасылаючыся на камбрыга, што трэба было б і праўда ставіць каля хаты пост, устанавіць начное дзяжурства. Гаварыў — не загадваў, а мы былі такая вольніца, што так і не сабраліся паразумнець.

Баба Кастусіха жыла адна ў вялікай хаце на ўскраіне вёсачкі. У большым хляве мы парабілі канавязі, Красулю бабіну выселіўшы ў хлявок. У гумно прывозілі сена, саломы, нават аўса. А хату, пасля таго як з недалёкага фальварка ўцяклі ноччу ў бліжэйшы гарнізон апошнія ў нашай зоне паўпанкі, прыбралі трафеямі. Прывезлі з двара канапу, гітару і мандаліну, чатыры мяккія крэслы і люстра-трумо. Вясною ўкапалі перад хатай два слупы і нацягнулі трафейную валейбольную сетку. Разоў са два, у вольны час, паляпалі тым мячом, а тады ўжо яго пазычалі ў нас суседнія падшыванцы.

— Культурнікі, ё-маё, анархісты! Дачакаецеся, што вас калі-небудзь як міленькіх тут накрыюць. Дзе пост? Касач, загадваю ставіць пасты!

Так гаварыў нядаўна, заехаўшы да нас, новы кам брыг.

Але мы, пры такім камандзіры, як «Павел Іванавіч», лішне праймацца і не думалі.

Тады, на досвітку, вярнуўшыся з няўдалае разведкі, мы далучылі сваіх пяць коней да тых двух, што хадзілі па гюплаве за хатай, абцягнутым калючаю драцінай, а самі, толькі разуўшыся, палеглі ў хаце, дзе ўжо храплі Касач і Толя Грыб.

З таго свету на гэты мяне вярнула баба Кастусіха. Чамусьці іменна мяне яна катурхала і гаварыла:

— Хлопцы, зірніце ў акно!

Я ніяк не мог ушалопаць, чаго яна хоча.

— А хлопчыкі, а зірніце ж вы ў акно!..

Тут ужо я зірнуў і, убачыўшы тое, што ўбачыў, усхапіўся.

— Немцы!

Варожы ланцуг. Яшчэ далёка — за агародамі, за ракой, за выганам, каля жыта. Яны ішлі сюды. У шэрым, у чорным. Не страляючы.

Мы выбеглі да коней. Адразу пад кулі. Не ад таго ланцуга, а з могілак каля другое вёскі, збоку, з-за ракі. Біў станкач, адразаючы

доступ да коней. Не разлічыўшы ў гарачцы, што ў лес нам бегчы лепш па суседнім двары, за будынкамі ды за плотам, мы кінулся напрасткі.

Шура бег задні. Я — перад ім. Ён дзіка закрычаў:

— Я ранены! Ран-не-ны!!

І я вярнуўся.

Ён бег, пакуль быў адзін, а абапёршыся на мае плячо, потым павіснуўшы на ім, пачаў слабець, асядаць. Я крыкнуў Касачу, які бег перад намі. Ён не пачуў, і я пусціў над ім чаргу. Тады ўжо ён азірнуўся, пад бег да нас, і з ім мы патралявалі Шуру далей. Ужо не пад кулямі — па загуменні, балотам, да лесу.

Шуру папала па нагах, пад каленьмі. Мы неслі яго на ягонай вінтоўцы, а ён вісеў рукамі на нашых плячах, то мацней, то слабей абдымаючы кожнага далонню за шыю. Подбегам, як адразу, мы ўжо ісці не маглі: паранены цяжкі, цяжэйшы сам за сябе. Ды ён і так быў здаровы хлапчына. А на балоце, хоць і не надта гразкім,— высокае куп'е.

Што гэта — проста напад ці пачатак новай блакады — мы, разумеепца, не ведалі. Тое ці іншае, але ж вось яно — пачалося. За намі, за нашай вёсачкай, у іншых вёсках, што за ракою, чуваць былі чэргі, вінтовачныя стрэлы, выбухі...

Мы накіраваліся да грэблі. І тут на ёй, з-за ўзлеску паказалася конніца на рысях. «Раманаўцы» са сваёй «кацюшай»!

Чатырох нашых, што адступалі ўлегцы, былі ўжо з «раманаўцамі», з іхняй пяхотай.

Першым стрэлам саракапятка спалохала станкач на могілках. Потым людзі казалі, што той снарад упаў вельмі блізка ад кулямёта і бобікі як быццам нават закрычалі: «Раман!» Яго ўжо добра ведалі. Нібы сігнал трывогі, каманда адступаць. Раманаў кінуў сваю конніцу лявей, цераз раку, у абход. Правей, як нам неўзабаве стала вядома, націснулі нашы, і конны ўзвод, і «Трэці камсамольскі», які, на шчасце, быў блізка. Напад адбілі.

А мы? Здаўшы Шуру на «раманаўскі» воз, пад апеку іхняга фельчара, мы далучыліся да пяхоты, якая ішла напрасткі, цераз нашу цвярдыню...

Ды справа не ў гэтым.

Наша бабуля таксама ў той дзень адступала. Аднак яна спачатку пахавала ў жыце нашы сёдлы, а тады ўжо адкроіла ад бохана акраец, наліла ў збанок малака, перахрысцілася на покуць і — што ўжо будзе, то будзе, не прывыкаць — патэпала на загуменне, у лес. Мы яе там, на балоце, і сустрэлі. Там яна нам і сказала, як маці дзецям, што бягуць дахаты з пашы ці ад ракі, а сама яна ў поле ідзе:

— Сёдлы, хлопчыкі, у жыце. Каля Марылінай сцяны. А коні дзе хадзілі, там і ходзяць. А чаму ж гэта Шуркі няма?..

Колькі б разоў ні сустракаліся,— калі і помнік адкрывалі, і ў дваццаць пятую гадавіну, і ў тридцатую,— заўсёды хлопцы, нарэшце, пасварацца. Хоць трохі. Не ўсе, вядома, а некаторыя. І не адразу, а ўжо за ста лом ці пасля. Хто раней прыйшоў у атрад, хто больш зрабіў, а менш узяў... А то і не за самога сябе, а «за праўду» крычыць... Наогул мне часамі здаецца, што партызаны хваляцца больш, чым тыя, што ваявалі на франтах. Нібы ў адных быў абавязак, а ў другіх — толькі геройства. Можна сказаць таксама, што як хвалько, дык хвалько — і партызан, і франтавік. Ды ўсё ж я бываю з гэтым нязгодны. Дый сам не лепшы: забудзешся іншы раз і таксама пачнеш.

А потым возьме ды ўспомніцца...

Шуру тады адправілі самалётам на Вялікую зямлю. Вярнуўся ён толькі пад восень сорак пятага. Яшчэ раз, трохі лягчэй паранены, і з Чырвонаю Зоркаю. Толя Грыб загінуў пад Кёнігсбергам. Добры наш «Павел Іванавіч» узяў ды памёр, ледзь не адразу пасля вайны. І тады стала ясна, што ён пра сэрца сваё перад намі маўчаў. Іншых хлопцаў — Раджаба, Шынкарэнку і Нікіціна — раскідала па ўсёй краіне: у Харог, на Палтаўшчыну, за Урал. Ні разу яшчэ не сабраліся разам.

А так жа хацелася б, слухаючы найгарчэйшую хвальбу, падміргнуць каму-небудзь з нашай разведкі з намёкам, а потым і выпіць за светлую памяць бабы Кастусіхі, за той акраец і збанок.

Бабуля таксама памерла. Даўно. Што ж, трыццаць год — гэта, бывае, цэлы чалавечы век. А яна ўжо і тады была старэнькая.

1975

## КОСЮ, МОЙ КОСЮ...

Спачатку была Садоха. Не наша, бо мы тады тольгі што вярнуліся з бежанства і свайго каня яшчэ не купілі. Прыехаў паарать сваяк з другое вёскі. Ён называет майго тату дзядзькам, а сам называўся дзядзька Сцяпан.

Садоха — белая, вялізная, як слон у кнізе, большая за ўсіх коней, якіх я перад ёю бачыў. Гэта, відаць, таму, што яна была першая, да якое я падышоў так блізка, на якую потым і сеў — са Сцяпанавых рук.

Калі аралі агарод, кабыла цяжка дыхала, а мне было так цікава глядзець — на яе, на дзядзьку Сцяпана і на зямлю, што за плугам рабілася новай, чарнейшай.

Другі конь быў ужо наш. Дэраш, сібірачок, які тут застаўся з царскай вайны. Калі ён што цягнуў, дык гэтак жа бедніўся, што хоць ты з літасці бяры яго адразу выпрагай. А выпрагуць, дык ён падбрыкнуў ды пабег. Яшчэ і пакачаецца, на снезе або на раллі, пафыркае, патрасецца.

Да той далёкай вёскі, куды мы часамі ездзілі ў госці, лічылася ажно семнаццаць вёрст. Па дарозе былі яшчэ дзве вёскі з нашымі сваякамі. Дэраш ведаў, што мы туды заязджаем, ведаў нават, у якую браму паварочваць. У першай вёсцы, датупаўшы да сваяцкай хаты, ён, нібы так тут і трэба, паварочваў з вуліцы ў двор. Яго тузалі ляйчынай: «А ты гэта куды?» Нават і растлумачвалі: «Заедзем вечарам». Дэраш круціў галавою і тупаў далей. У другой вёсцы, яшчэ праз тры вярсты, ён паварочваў у двор наступнага сваяка. Аднак яго тузалі зноў, а то і папраўлялі пугай. Дэраш не толькі круціў галавой, але і ўздыхаў, а то і лаяўся ў душы, па ваеннай, абознай прывычцы. Ясна, цяпер ужо ўсё — заставаўся найбольшы кавалак дарогі.

Трэцяй была магутная, з чорнай грывай на два бакі, злосная Машка, якую нашай маме, тады ўжо ўдаве, і прадалі, хутчэй за ўсё таму, што кабыліца злосная. Заказырыцца нечага — у хлеў ніхто не зойдзе. Пугаю выганялі, зверху, з бэлькі. Яе хвошчуць адтуль, а яна то на дыбы, то іўкае — калі не зубамі, дык капытамі хоча дастаць. Найбольш не любіла жанчын. Не заўсёды, часамі, калі занаровіцца. А то бывае і доўга спакойная. Асабліва паспакайнела жарэбная.

Тады яе трэба было што дня праводзіць, і гэта часцей за ўсё даручалася мне, пасля школы. Маці спачатку баялася за мяне, а потым неяк, калі старэйшы брат падсадзіў смаркатага казака і я ўжо меўся рушыць з двара, яна сказала:

— Стары сабака ніколі дзіцяці не ўкусіць. І гэтая, бачыш, таксама.

Адзін з такіх маіх выездаў быў не так сабе па дарозе, а з невялікай нагрузкай. Трэба было заехаць у суседнюю вёску, да цёткі, узяць «трохі воўны». Там я з кабылы не злазіў, цётка вынесла воўну, дала яе дзядзьку, і дзядзька падаў мне той лёгкі клуначак... А мне было зверху смешна, што цётка ведае Машку, блізка не падыходзіць.

Адчуванне вышэйнасці на гэтым не закончылася. Мне было мала спяваць на пустой, з раз'езджаным снегам дарозе, уяўляць сябе рыцарам з прачытаных кніг, нават рыцарам, закаханым у Соньку з пярэдняй парты. Я палажыў свой клуначак на шырокім Машчыным крыжы і прылёг на яго галавою. І тут ужо Машка іўкнула так, што я і клуначак шчасліва зваліліся ў снежную гразь, кожны ў свой бок, а яна, ужо зусім не па-жарэбнаму, ірванула галопам.

Мяне сустрэлі. Перапалоханы брат і маці, якая не паспявала за ім. І я, вядома ж, расказаў ім не ўсё.

Зрэшты, я хачу не пра тое.

Трохі раней, у тую самую зіму, Машка здзівіла нас сваім розумам. Брат паехаў у лес, купіў сажань дроў, зараз іх не забраў і цераз дзень меўся ехаць па рэшту. У лес тады нашы ездзілі вельмі далека, выязджалі добра такі зацемна. У тую ноч я прачнуўся, відаць, не толькі ад лямпы і прыцішанай гутаркі. Я пачуў, як Мікола, увайшоўшы з двара, папрасіўся:

— Мамо, можа, я лепш не паеду? Вельмі ж круціць. Свету не відно.

Мусіць, таму, што я ўжо тым часам у гадах, а брат без пары памёр, мне яго стала цяпер, калі пішу гэта, па-бацькоўску шкада. Хоць ён і быў тады на сем гадоў старэйшы за мяне.

Маці сказала:

— Пайдзі да Паўлюка ды паглядзіце. Дзе тыя дровы дзенуцца.

Паехалі яны ажно праз тыдзень, бо ўсе тыя дні была завіруха. І брат, смаркаты гаспадар, збіраючыся, бедаваў, што дровы недзе занясло — не знойдзеш. А мама пацяшала, што «кабыла знойдзе».

Так і было.

Як сёння, помню — Мікола вячэрае і, румяны, крыклівы ад радасці, ужо не першы раз расказвае камусьці новаму, хто зайшоў, як гэта Машка падышла да дроў сама. Па глыбокім цаліку, да зусім занесеных дроў, па чэрава ў снезе, дабралася і — стала. Адкопвай, бяры.

...Дзіўна і сумна ад таго, дзе, па якой прычыне я гэта ўспомніў. Амаль праз цэлага паўстагоддзя. У замежным архіве, у яшчэ больш замежнай кнізе, наткнуўшыся на такое:

«Захопленыя коні могуць зрабіць вельмі добрую паслугу пры разведцы дарогі да партызан, бо, як паказалі апошнія выпадкі, коні

беспамылкова прыводзяць у партызанскія лагеры, якія мы даўно шукаем».

Цытую са «Справаздачы пра баявы вопыт», падпісаны оберфельдфебелем Шрадэ, з 283-й ахоўнай дывізіі фашысцкіх карнікаў. Надрукавана гэта ў тоўстым томе гісторыі савецкай партызанскай вайны, які раскошна выдадзены ў акадэмічным Гетынгене пяць гадоў таму назад.

Я не адразу, чытаючы гэта, успомніў белую, вялізную і добрую Садоху, хітраватага Дэраша, ветэрана першай сусветнай вайны, нораў і кемнасць красуні Машкі...

Адразу мне прыгадалася адчыненае акно нашай нізкай хаты, а ў ім — галоўка малой Буланкі, пяшчотнае жарабячае ржанне.

— Ах, мая долечка! Жабянятка маё, а я ж пра цябе і забылася!

Гэта — мама. У тую раніцу яна і сапраўды забылася наліць у місу сырадою і сказаць мне:

— Занясі ўжо таму ягняці.

Машка прывяла не па сабе, а па кані. Танканогае, буланае кабылянятка. «Будзеш на ёй скакаць цераз плот! Гаспадар! Трэба ж было выбраць такога жарабца...» Вадзіў Мікола Машку ў князеў двор. Маці то наракала, то пакеплівала, але ж ніколі не забывалася пра сырадой для малое. Тры разы ў дзень. Адразу, яшчэ пеністы. А тая і сама прывыкла так, што прыходзіла ў сенцы ці ў кухню.

А тут, як на тое, дзверы былі зачынены. І Буланка заржала пра крыўду сваю ў акно.

Мама і на мяне панаракала, што вось ён, бачыце, надта ж любіць яе, а ўзяў ды забыўся, у кнігу ўталопіўся. І я, вядома ж, выйшаў з місай на двор. Наша пястунка апусціла светла-ружовую храпку ў салодкую бель, а мне хацелася перапрашаць, што сырадой ужо астыў.

І яшчэ адна храпа, ужо не маленькая.

Мы адышлі з перадавой у кашубскую вёску не ноччу, як трэба было б, а раніцай, завідна.

Іхні карэкціроўшчык гэта заўважыў...

Мы — гэта тое, што засталося ад нашага ўзвода марской пяхоты. Карэкціроўшчык — нямецкі. Час дзеяння — верасень трыццаць дзевятага года, на польскім Прымор'і.

Мы былі вельмі галодныя. Кінуліся да першага, што ўбачылі — да яблыкаў у мокрым садзе.

Але іх артылерыя не чакала...

Першы снарад разарваўся далей ад саду, на раллі. Другі — правей і бліжэй. Трэці дагнаў мяне каля доўгай цаглянай сцяны. Упасці я не паспеў. Толькі закрыўся рукамі, кінуўся спіной да цэглы...

Майго асколка яшчэ не было. Хоць многа іх секанула па муры вакол мяне.

Як толькі я зноў убачыў зялёнае — па садзе, бокам да мяне, бегла — нібы я зноў па-дзіцячы ўбачыў яе — вялізная белая кабыла. Чыясьці, з нечага маленства, польская работніца Садоха. Бегла і моўчкі, матаючы галавой, палівала траву крывёю з адбітай асколкам храпы...

Коею мой, коею!..

У партызанах я ездзіў спачатку на сваім, прыведзеным з дому. Гэта быў сын тое, выпаенай сырадоем, Буланкі, унук злоснай Машкі, па матцы стрункі і лёгкі Каштан. Але малы, няpraслы. Ён быў настолькі не па мне, што вясёлы Пятрэнка, у першай разведцы, калі мяне ўзялі туды, гукаў на лузе, спераду: — Дядя Ваня, кочки! Ноги поднимай! І смяяўся, як добры блазен, у цемры. Праз тыдзень Пятрэнку забілі. Мне аддалі яго высокага каня. А мой пайшоў ва ўзвод, ніжэйшаму.

Коею мой, безымянны і не адзін, няўжо ты, перажыўшы ездака, павёў бы ворагаў туды, дзе хаваліся нашы старыя бацькі і маленькія дзеці? Косіо невінаваты, як дзіця...

1975

# НА РАЗДАРОЖЖЫ

Напярэдадні было хмарна, ноччу ішоў дождж, а познім райкам распагодзілася вельмі светла. З акна машыны я любаваўся спелай жнівеньскай радасцю родных мясцін, потым спыніўся на ўзгорку і выйшаў, каб нават ціха не ехаць, а пастаяць.

З узгорка, дзе я стаю, відаць тры вёскі, у розных напрамках, бліжай і далей. У той вунь, далейшай, я ніколі не быў. Бывае так: ездзіш паблізу, нават і думаеш, каб заехаць, а ўсё не збярэшся. І цяпер не заеду. І не толькі таму, што я не сам еду, а мяне вязуць, што дарога наша не туды,— з гэтай вёскай звязаны ў мяне ўспамін, ужо тым часам і даўні, а яшчэ ўсё сумны...

Семнаццаць год таму назад мы ехалі аўтобусам з Мінска ў родную вёску. Мы — гэта я з сястрой, старэнькай вясковай бабуляй, што пагасціла ў мяне, пахадзіла па дактарах і сказала: «Ат, паеду дахаты, усе яны пра адно...» У апошнім аўтобусе было ўжо цемнавата, мы з сястрою сядзелі на розных месцах, яна спераду, а я далей, стары аўтобус дрыгацеў, і я больш бачыў, чым чуў, што сястра, жанчына даволі-такі гаваркая, прыязная да людзей, разгаманілася са сваёю выпадковай суседкай. Спачатку яны разоў колькі азірнуліся ў мой бок, а потым сястра кіўнула мне, паклікала туды, да іх. Я такога не вельмі люблю, ды што ты зробіш — яна настолькі старэйшая за мяне, што я прывык з маленства слухацца яе, амаль як маці. І цяпер вось, я здагадаўся: яна не вытрывала — пахвалілася незнаёмай жанчыне, што той вунь высокі, што ззаду сядзіць яе найменшы брат і ён у Мінску пісацель. «Ты сабе, калі ўжо такі далікатны, злуй, а мне прыемна» — такое адчуў я ў голасе сястры, калі нездаволена надыходзіў да іх.

Тая жанчына ехала дахаты з хлопцам, якога зноў дарма прывозіла да мінскіх дактароў. У хлопца яшчэ па дзесятым годзе адняліся ногі, не служаць зусім, і колькі дзе з ім не былі — нічога не памагае. Ужо ў восьмым класе, і вучыцца добра, а ў школу носіць яго то старэйшы брат, то сама яна — штогод, штомесяц то цяжэйшы крыж яе бясконцай Галгофы... Старэйшы брат — трактарыст, хлопец з рукамі, і ён зрабіў меншаму адмысловае сядзенне каля стала, і той сядзіць там, бедны, цэлымі днямі, чытае і піша. І вершыкі розныя састаўляе, сам, са свае галавы. З-за гэтых вершыкаў сястра і пахвалілася мною, паклікала.

У аўтобусе было ўжо ўключана святло. Не яркае. І я ў ім не вельмі разгледзеў хлопца, які сядзеў далей і цераз праход, займаючы наўпоперак два месцы. Я пастаяў пад ім, пагаварылі, а нешта праз месяц атрымаў пісьмо.

«...Вы мяне, мабыць, успомніце, гэта пішу я, каторы ехаў разам з Вамі з Мінска на аўтобусе. Гэта ў мяне Вы па вачах пазналі, што я пішу вершы. Хоць трохі са спазненнем сваё абяцанне выконваю. Пасылаю Вам свае вершы і буду прасіць, каб Вы мне растлумачылі, дзе, што нядобра, чаму нядобра і як палепшыць...»

Пісьмо цытую цяпер не па памяці: я яго захаваў. А тады, на дарозе, калі я ўбачыў здалёк яго вёску, пісьмо мне толькі прыгадаліся сваім нясмелым алоўкам і словамі: «Вы па вачах пазналі...»

Не трэба было так маніць: пра вершы я толькі ад маці пачуў, з вачэй іх не ўбачыў. Але спадзяваўся, хацеў, каб яны былі добрыя. Ён іх прыслаў. Яны былі зусім выразна дрэнныя, адчулася, што безнадзейныя. Аднак жа за імі стаяў не халтуршчык які, а бедны хлопец, з рук якога мне трэба было... няхай сабе не вырваць, дык асцярожна выцягнуць апошні матузок ягонай сувязі з жыццём, з надзеяй мець у ім сваё месца. Страшна было намыліцца, не адгадаць у ім гэтай здольнасці, але ж брыдка і маніць, упэўніваць у тым, чаго няма. Я паслаў хлопцу кнігу, напісаў яму, як толькі змог асцярожна, што ўсё яшчэ наперадзе, што трэба верыць, вучыцца, працаваць... Штосьці такое, балюча банальнае. І хлопец мне не адказаў. Ён такое пацелі паслухаўся ўжо — пра здароўе сваё...

Той, з кім я ехаў і з кім стаяў на дарозе, любуючыся роднымі мясцінамі, расказаў мне, што бедны хлопец жыве і нічога ў яго не змянілася. Толькі ўжо маці зусім пастарэла, не можа яго насіць, а брат па-ранейшаму дружны, добры, уважлівы, хоць ужо і жанаты, і дзеці ў яго свае. Можа, нават і вершы ён, той былы падлетак, піша ўсё яшчэ, нікуды іх не пасылаючы, нават у раённую газету.

Дык што ж мне заходзіць да яго? Па-свойму, чым мог бы, не дапаможаш, а іншай дапамогі ад цябе не патрабуюць: беднасці ў той хаце няма, а на здароўе ты не медык...

А можа, усе гэтыя разважанні — такая, больш-менш зручная, форма ўмывання рук?

Застаюся на раздарожжы. Як і тады, на сонечным узгорку.

...Інакш бывае яно, калі, прачытаўшы чужое, мояша сказаць зусім па шчырасці, што нешта ёсць, што нешта будзе!..

*1976*

## ПОЗНІ АГЕНЬЧЫК

Вяселле ад маладое пераехала да маладога — гасцінцам, у суседнюю вёску, за два кіламетры. Адзін з гулякаў забавіўся дома, адстаў і пайшоў пехатою. Зіма, ноч, а ён, вядома, пад чаркай. Брыў насустрач ветру з макраватым снегам у твар. Вецер сарваў з яго шапку. Дзяцюк дагнаў яе, насунуў мацней, угрунтаваўся на нагах, пайшоў. Доўга ішоў, бясконца доўга — спачатку ўсё на сваю дарогу, на насып гасцінца выходзіў, а потым адчуў, што дарогі няма, што ў завірусе ён — проста кудысьці ідзе... Барозны, раўкі, зноў роўнае, зноў барозны...

Потым, нарэшце, у снежнай, шчымліва-сякучай муці яму паказаўся далёкі агеньчык. Яшчэ адзін роў... Не, тут ён, ужо амаль зусім не п'яны, зразумеў, што гэта не роў, а нізкае рэчышча... Праз нізкі ў снезе дрот агароджы, потым цераз штыкеты ён пералез і, нарэшце, пастукаў у жывое акно!..

Ён быў страшэнна стомлены, мокры, аднак ужо не спалоханы, без прыкметнай на твары няёмкасці — па праву чалавека, якому патрэбен ратунак. Мой брат, братавая і дзеці спалі, адзін я, месячны госць, чытаў у кухні за сталом. На нашу нягучную гаману, спачатку ў сенях, потым у кухні, ніхто не прачнуўся. Я прымусіў яго распрануцца, надзець сухое, паслаў яму на тапчане, знайшоў і наліў ад прастуды чарку, хлеба, сала, цыбуліну даў. І ён мне расказаў сяк-так, што здарылася. Я сказаў яму спаць, дый сам ужо больш не чытаў, лёг у хаце. Добра за поўнач.

Ен пайшоў, калі ўсе яшчэ спалі, адна толькі гаспадыня ўстала. Надзеў свае даспехі, якія мы ўчора развесілі каля гарачай грубы, і пайшоў, ужо зусім у цвярозай няёмкасці.

Калі б не мой позні агеньчык, хлопцу было б вельмі дрэнна. У сваёй упартай упэўненасці знайсці спачатку дарогу, а потым якое жыллё, ён брыў наслепа — якраз туды, у той бок, дзе за вёскай (братава хата наводшыбе) пачыналіся крутыя ўзгоркі, сярод якіх, наўпоперак — глыбокія, "воўчыя" яры...

Я не запомніў, чый ён у сваёй вёсцы, за шэсць кіламетраў ад нашай, а ён ні ў мяне, ні ў братавай не спытаўся, хто мы, хто тут жыве. І гэта яшчэ лепш. Проста помніцца. Вось ужо і шаснаццаць гадоў.

1977

## РЭЧКІ

У любым месцы на Зямлі і на карце яе можа спыніцца пані Гісторыя, любую рэчку зробіць надоўга ці на нейкі час гістарычнай.

У адной з іх быў ахрышчаны Ісус, Ешуа бен Марыям, для адных сын божы і сам бог, для другіх — легенда. А ўсё ж імя гэтае, то верай, то мастацтвам звязана з невялікай палесцінскай рэчкай вось ужо хутка два тысячагоддзі.

На берагах другой, яшчэ меншай, дзевяць стагоддзяў таму назад, як сведчыць магутны ўсходнеславянскі эпас, адшумела адна з крывавай безлічы чалавечых бітваў, дзе галовы, як снапы па таку, малаціліся сталёвымі цапамі, а душу ад цела адвейвалі, як мякіну.

Першая рэчка жыве і цяпер. Іардан. Над ёю цяпер неспакойна...

Другая, Няміга, пайшла пад зямлю, жыць засталася толькі ў слове ды ў назве адной з мінскіх вуліц.

Рэчка, якую я ў маленстве пазнаваў ад саменькага нізу, ад самай яе сутнасці, ад той красы, якую можа, здольная бачыць толькі дзіцячая душа, рэчка гэтая — Буша — тады здавалася ракой, шырокай ды глыбокай.

Недзе далей быў, тады яшчэ не вядомы мне, Нёман, у які наша мілая Вуша ўпадала. А ў Вушу ўпадала зусім ужо маленькая, звілістая і аброслая кустамі Міранка, да якое я, уброд цераз Вушу, зрабіў калісьці вялікае, незабыўнае падарожжа. З братам, ужо дзецюком, старэйшым за мяне на цэлых сем гадоў. Ён там, пад берагамі, у падрэзах ды ў норах, лавіў рукамі плотак і нават ментузоў, выкідаў мне на бераг, у высокую траву, а я захоплена падбіраў іх у торбу.

Трэцяй рэчкай майго маленства была Сервач, якую я бачыў некалькі разоў толькі зверху, з воза, калі мы ехалі ў госці да маёй сястры, амаль неверагоднай, бо старэйшай ажно на дваццаць тры гады.

На гэтай рэчцы, таксама прытоку Нёмана, у першую сусветную вайну пані Гісторыя спынілася была больш як на два гады. Быстрая, звілістая Сервач цякла тады — у зеляніне заліўных лугоў або пад лёдам — паміж двух магутных франтоў, нямецкім і рускім, з іх артылерыяй, кулямётамі і штыхамі, з іх акопамі, бліндажамі, калючым дротам...

Сервач не стала для ўсяго свету Іарданам. Нават Нямігай не стала ў літаратуры. Вядомасць яе была часовай і засталася мясцовай. Але ж «у кроплі расы»... Многа можна і пра яе расказаць. Нават не быўшы там тады, у яе гістарычны час, з таго ці з іншага берага дурной

чалавечай нянавісці. А колькі ж пайшло ў нябыт!.. Як і з-над іншых рэчак.

Вось я якраз прачытаў у газеце пра аднаго з герояў Вялікай Айчыннай вайны — генерала Яна Фогеля, латыша з чырвоных стралкоў, які ў незабыўным, і для мяне незабыўным ліпені сорак чацвёртага года кіраваў «над Серваччу ў Карэліцкім раёне» боем, выйграў яго, але сам быў смяротна паранены і пахаваны яшчэ далей на захад, у раённым Дзятлаве, дзе ўжо ягонай памяццю заняўся дырэктар добрага краязнаўчага музея, мой друг, заслужаны настаўнік Міхась Петрыкевіч.

Па-за тэмаю гэтага роздуму над газетнай старонкай хочацца яшчэ сказаць, што проста ў маім жыцці, у маёй працы пісьменніка Сервач была яшчэ і «Быстранкай» — паміж крынскім старым млыном і калядзінскім сонечным Нёманам...

1978

## НАЦЮРМОРТ

Вясковыя суседзі. Былыя падпольшчыкі, пасля партызаны, якім было тады па дваццаць з нечым. Цяпер адзін з іх падпалкоўнік на пенсіі, а другі, пасля адыходных заробкаў, дома гаспадар, маладзейшы па стажы пенсіянер.

Сусед прынёс суседу кошык яблыкаў. Падпалкоўнік здзіўлена смяецца:

— А я занясу табе кошык сваіх!

Процьма сёлета гэтага дабра, людзі не ведаюць, што з імі рабіць. І ніхто ў гэтым не памагае.

Утрох мы гаворым пра такую безгаспадарчасць, а кошык стаіць на чыстай, охрыстай, асветленай сонцам падлозе. Звычайны кошык сваёй работы, з недалёкай надрэчнай л азы. Ужо спрацаваны, бо многа папанасіў, перш за ўсё бульбы, у розную пагоду-непагадзь. А яблыкі — я ем адно — такія свежыя, вялікія, чырванабокія, салодкія. І хочацца сказаць пра гэты кошык, повен яблыкаў. З увагі на таго, хто вырасціў іх, хто кошык сплёў, я гавару як найпрасцей:

— І паглядзець на такое добра.

А ён, сусед, з выгляду прасцецкі, малазнаёмы мне чалавек, дадае нечакана:

— Ага. Нацюрморт!

Гэта гучыць не як акрэсленне — як пахвала. Толькі ж не хочацца згадзіцца з тым, што гэта "натура мёртвая". Хай сабе рабачай-кошык — ён стары, безліч разоў то мокры, то сухі, хай сабе дошкі падлогі таксама сухія, а яшчэ і прыглушаныя фарбай. Але ж сонца, што свеціць так шчодра і весела, але ж яблыкі, што румяняцца ў сонцы — ну, як жывыя!

Пасля, кал і сусед пайшоў, гаспадар расказаў:

— Які цудоўны быў хлопец! Ыапрадвесні сорак другога, дома яшчэ седзячы, майстраваў міну, а яна ўзяла ды ўзарвалася. Сабе пакалечыў нагу, маці крыху пакалечыў. Як ні страшна было, павезлі ў раён, у бальніцу. Зондэрфюрэр пачуў і так зацікавіўся, што сам прыходзіў хлопца паглядзець. Валодзя быў непрытомны, дык немец маці яго дапытваў, цераз перакладчыцу. Маці прыдумала, што разбівалі па полі гной і нешта, ліха яму, узарвалася. "Больш нічога, паночак, не памятаю..." Медсястра, калі паранены апрытомнеў, сказала яму гаварыць толькі так, як гаварыла маці. Калі ж ён трохі акрыяў, яна параіла лепш уцякаць дахаты. Ён і ўцёк, да лесу, два кіламетры, сяк-так дакульгаў, а там з падводай пашанцавала... У партизанах таварыш здорава міны рабіў. І з самалётных бомбаў толь выплаўляць

сам прыдумаў, і такую міну змайстраваў, што ўзрывалася не пад платформай, якая ішла спераду, а пад самім паравозам.. А сталі яны дзве платформы спераду пускаць — ён і на гэта міну прыдумаў!.. Цяпер мы ведаем, што не адзін ён быў такі вынаходнік, што так, рабілі і ў іншых брыгадах, што потым міны нам прысылалі, прыносілі з-за фронту, з Вялікай зямлі. Ведаем. Але ж спачатку былі мы толькі самі па сабе, ад самага глухога нізу, ад самай беднай беднасці пачыналі. І вось такія ўмельцы...

Падпалкоўнік расказвае, захапіўся.

А поўны кошык, асветлены сонцам, стаіць сярод хаты. Натура жывая.

1981

## ПРАБЛІСКІ

У незвычайным, на першы позірк драўляным, як мне здалося з дарогі, бараку — добрыя, сучасныя кватэры саўгасных рабочых. Унізе вялікая кухня, сталовая, веранда, а ўверсе яшчэ чатыры пакоі.

Гаспадара, трактарыста, дома мы не засталі. Жонка яго — маці траіх дзяцей, найменшае з якіх, аднагадовы хлопчык, безнадзейна хварэе. Мы яго не бачылі, ён там недзе наверсе ляжыць, як заўсёды, а бедная мама сустрэла нас з другім, двухгадовым хлопчыкам на руках. Па вачах малога відаць, што і ён хворы (паіхняму, пачэшску, немоцны), а жанчына сказала, што гэта ў яе суседчын Вашычак: той кудысьці спатрэбілася паехаць, "а я ўсё роўна ж дома сяджу".

Калі мы прыселі да стала, а гаспадыня пайшла рыхтаваць нам каву, хлопчык вяла гуляў на падлозе з вялізным, калярова-пярэстым мячом. Гаспадыня прынесла Вашычку малака. Каб піць яго,— больш, відаць, па абавязку, чым з патрэбы,— малому надта ж захацелася, проста такі зусім неабходна было сесці на тым мячы. Сяк-так угрунтаваўшыся на ім, ён зрабіў цёці ласку — яна з усмешкай чакала — дакрануўся губамі да нахіленага кубачка. Раз, а потым і яшчэ раз.

Гэта адно, з пазаўчарашняй паездкі ў Судэты, дзе мы з сябрам-чэхам заехалі да яго сваякоў.

Другое ўбачыў я ўчора тут, у Карлавых Варах, на бойкай, толькі пешаходнай вуліцы. Дзяўчынка, па-бабску кажучы,— зусім яшчэ маладзенечкая, аднак ужо нібы гатовая на ўсё: і дрэннае і добрае, ідзе сабе паміж рознакалёрных магазінаў, у яшчэ раннім, таксама стракатым патоку людзей мясцовых і разнамоўных курортнікаў, ідзе па вуліцы зверху ўніз, калываецца тонка ды стройна, уся ў раннім сонейку, з выглядам весела-незалежным, а на калене ў яе, на паношаных джынсавых штоніках, — як нейкі выклік — нашыта вялікая, белая, прымітыўная кветка.

"Малое — усюды малое. А маладому ўсё хараша",— скажам таксама па-бабску.

Малы і дзяўчо, два, выпадкова заўважаныя, пробліскі, жыва і паасобна, і разам, яны прыгадаліся мне, як толькі прачнуўся. І тут жа, амаль адразу прыйшоў і стаў паміж імі, чэшскімі, трэці і свой, з майго вяртання з Масквы дахаты.

У нашым купэ — глуханямая дзяўчынка гадоў дванаццаці. Едзе з бабуляй на канікулы, з-пад Урала ў Брэст.

Раней чым уведаць, што з малой такая бяда і куды яны едуць, я ўбачыў на выцерта-сівых, зноў жа джынсавых штоніках дзяўчынкі незвычайнае: два сэрцы, відаць, ёю самой вышытыя, адно чорнымі, а

другое чырвонымі ніткамі, і змацаваныя англійскай шпількай. Не вышытай, металічнай.

Прыгожае дзеўчаня міла ўсміхнулася на мой зацікаўлены позірк і неяк дзіўна, нібы з замежным акцэнтам, сказала адно толькі слова:

— Маль-тшык!

І тут якраз бабуля растлумачыла, што ўнучку ў спецыяльнай школе вучаць гаварыць і што гаворыць яна вельмі, вельмі мала.

А ўсё ж запаветнае — хоць і так яшчэ рана — сказала.

1980

## ПРОЗА

Вызваленне мы, партызаны і нашы сем'і, чакалі тады, улетку сорак чацвёртага, з вялікім, адным такім на ўсё жыццё хваляваннем. Асабліва ў апошнія дні, на стыку чэрвеня і ліпеня.

Спачатку — дзень за днём, ноч за ноччу — чуўся далёкі гул кананады, і ўсё мацнеў ён, усё быў бліжэй ды бліжэй...

Пасля нямецкае адступленне за трое трывожных сутак грукатліва і пыльна схлынула па шырокай лясной дарозе на захад.

Пушча з доўгачаканай палёгкай уздыхнула.

Бо тут былі цяпер не толькі сем'і партызанскія, але амаль усё прылясное насельніцтва, — поўыа старых, жанчын, дзяцей, з вазам! ды з каровамі,— і партызанам было сурова загадана не зачапацца з ворагам, толькі стаяць на ўзлессі, ад дарогі, і чакаць. Тут і затоенасць, і трывога, і радасць, што хутка ўжо, што вось-вось...

Ужо і пачута было: недзе далей на паўночным усходзе нашы, з суседняй брыгады, сустрэліся з армейскай разведкай.

Усе два тыдні ад пачатку наступлення ў міжраённай падпольнай друкарні, дзе я выконваў абавязкі рэдактара адной з газет, часу рабіць тыя газеты не было. На старонках і паўстаронках са сшыткаў мы паспявалі выпускаць толькі лістоўкі — са зводкамі Саўінфармбюро і загадамі Вярхоўнага.

Уранні сёмага ліпеня я выпусціў сваю, апошнюю ў лесе, лістоўку, прынёс яе камісару, і ён, нарэшце, сказаў: "Ну, добра, валяй! Не напарыся толькі дзе-небудзь". Нібы сурова, аднак і ўсміхнуўся сваёй таўстагубай, прыязнай усмешкай.

Рэдактарам я працаваў па сумяшчальніцтву. Еалі здаралася зноў выехаць у раён, да разведчыкаў, адкуль я быў узяты ў рэдакцыю, каня прыходзілася браць, які трапляўся. Цяпер пад павеццю канюшні стаяў знаёмы гняды жарабец, адпачываў, заезджаны, у самоце і без усякай ужо фанабэрыі. Прыйшлося ўзяць яго. Сядло ў мяне, як і ў кожнага з коннікаў, было сваё, зробленае адным вясковым умельцам.

Спачатку Гнеды трохі нават рысіў, а потым зноў прачнулася ўся яго, грунтоўна назапашаная, стома, бядак прыстаў, і не было ўжо сэнсу ні злавацца, ні сядзець на ім. І мы пайшлі па лугавой дарозе, я спераду, а ён на повадзе. Смех і бяда, хоць і спяшацца ўжо лішне няма асабліва куды.

Мы браліся левым берагам рэчкі, супраць вады, да тае вёсачкі, дзе ўсю зіму стаяла наша разведка. Там іх, вядома, сёння не будзе. А можа, і будуць. Ці хоць пачую, можа, дзе яны.

І вось яно, наша Зарэчча.

Моста на рэчцы не было. На папярэчынах паляў ляжала кладка з акораных бярвенняў. Дзе два танчэйшыя, дзе тоўстае адно. Кладка доўгая, шэра-бліскучая, абутаму можна і паслізнуцца.

Па кладцы з майго берага на вясковы ішоў, нарэшце, ён — той першы для мяне баец. Наогул першы ў маім жыцці чырвонаармеец, бо іх жа мне перад вайной, у дні ўз'яднання, калі я быў з польскага войска ў нямецкім палоне, пабачыць не давялося.

Спалавелая гімнасцёрка, пілотка, абмоткі.

І доўгая, ад штыха — яшчэ даўжэйшая вінтоўка на рамяні.

— Эй, товарищ! — гукнуў я.

Ён азірнуўся з поўабарота, з павольнай асцярожнасцю, каб не зваліцца, і я ўбачыў, што гэта — пажылы, папрасцецку вусаты дзядзька.

— Здравствуйте, товарищ! — паўтарыў я свае прывітанне.

Ён павярнуўся поўнасцю, памалу пайшоў да мяне і ўжо зусім каля травы адхоннага берага сказаў з уздыхам:

— Братец, если бы ты знал, как я испугался!..

Мы павіталіся за руку. І тут да мяне дайшло, чаму ён спалохаўся. Дый сам стары растлумачыў:

— Подумал сразу, что фриц.

На мне была трафейная кашуля, з закасанымі рукавамі, я быў без шапкі, з нямецкім карабінам за плячыма, з іхняй даўбешкай-гранатай за поясам.

Мы пасмяяліся, закурылі.

А пра радасць спаткання не толькі крычаць, нават і гаварыць патрэбы не было. Хоць і здавалася, што мы даўно, даўно знаёмыя.

1981

## ПОП

Маладзенькая жонка камандзіра заставы, забітага ў першым баі на граніцы, уцякала на ўсход. Палямі, лесам і далей ад людных дарог, зрэдку заходзячы ў вёску, а то лепш на хутар які. Ішла то з кім-небудзь, то больш сама. Адно дзіця, дзяўчынку, па бацьку светлую беларусачку, несла на руках, другім дзіцем была на пятым месяцы.

Не дайшоўшы да роднага Мінска сто кіламетраў, прыпынілася ў заходнебеларускай вёсцы. Мноства разоў знясіленая, перапалоханая наскрозь, яна ўжо ведала, што робяць усюды з яе аднапляменнікамі, таму і гаварыла ўсім, і ў дарозе, і тут, што яна — армянка. І далей не пайшла. Засталася ў той людскай сям'і. Самі прапанавалі пабыць, перачакаць.

За ўсіх яна старалася, усіх баялася, і так жа нялёгка было прывыкаць да сялянскай суровай працы і беднасці.

Зімой нарадзіла другую дзяўчынку.

Пойдзе на рэчку за гумнамі, пялёнкі памыць, стане над той палонкай і гукае ў белы, сцюдзёны свет, у жахлівую невядомасць:

— Ма-ма-а!..

Цяпер, амаль праз сорак гадоў, успамінае пра тое і плача, а як жа было тады?..

Вясковая цемра, хоць і далека не кожны варожа, пачала цікавіцца, што ж гэта за армянка такая, ці не жыдоўка яна, трохі за іншых хітрэйшая?..

І тады гаспадар, які, відаць, пра ўсё здагадваўся, параіў ёй пайсці ў райцэнтр, да папа, і ахрысціць дзяцей. Поп іхні, кажуць, добры чалавек.

Апроч папа, у гарадку былі яшчэ два немцы і некалькі мясцовых паліцаяў, аднак выбару не было. Яна ўзяла малых, адно ка руку, другое за руку, пайшла.

Ужо вясна была, свяціла сонца і спявалі жаўранкі. Загаласіць хацелася, калі ніхто не ішоў насустрач, а з кожным сустрэчным віталася, нібы і весела:

— Добры дзянёк!

А то і пагаворыць, прыпыніўшыся...

— Дитя мое, ты по вере или безопасности ради?

Так спытаўся той поп, сам-насам у ягоным доме.

І яна адказала яму прастадушна:

— Безопасности... батюшка...

— Умница,— сказаў ён, пажылы ўжо, трохі пасівелы чалавек, у чорнай расе, з вялікім крыжам на грудзях. Такі далёкі і смешны,

нават агідны ў яе... зусім яшчэ йедалёкім па часе, а так жа далёкім па горы, па вопыце школьным ды камсамольскім мінулым.

Ён ахрысціў яе дзяўчатак, і гэта дапамагло ёй адкрыта хавацца далей, пакуль не забралі ў лес партызаны. Той, з акружэнцаў, з кім яна спачатку пазнаёмілася, каму дапамагала як сувязная, а потым паверыла ў шчырасць яго, палюбіла і стала жонкай.

Гадоў з дванадцаць пасля вайны, калі ўжо дзяўчат і сына пакідалі дома адных, наехала з мужам у той гарадок і ў тую вёску, дзе ратавалася.

У гарадку якраз быў фэст, прастольнае свята Спас, у царкве званілі, а па вуліцы ішоў і тут ужо нешматлюдны хрэсны ход. Іконы, пратэсы, сякі-такі жаночы спеў. А спераду, ва ўсім бліскучым аблачэнні і з крыжам у руцэ ішоў той самы поп. Ужо зусім пасівеў і ссутуліўся. Асцярожна ступае па выбітым бруку і песню святую нібы вядзе.

Яна стаяла з мужам на тратуары. Абое ўжо таксама пажылыя і святочныя. Яна глядзела і дзівілася, што гэта ж ён яшчэ — той самы, што «дитя мое»...

І ён пазнаў яе. Хоць не ў лахмоцці ўжо, не маладзенькая і не ў вялікім страху. Ён, парушаючы важнасць моманту і сану, усміхнуўся ёй, павярнуўшыся ў ледзь прыкметным паклоне, і павітаўся:

— Здравствуйте!

— Добры дзянёк! — па-свойму, па-даўнейшаму адказала яна.

Таксама з усмешкай. Але ж і вымаючы з сумкі ху стачку...

1981

## ЭЛЕГІЯ

За шырокай градою гасцінца, які я перайшоў, за нявыкашаным раўком, у першых, нахіленых над высокай травою, жытніх сцяблінах, ніжэй калосся сціпла шарэла фанерная таблічка на кійку. З карандашным надпісам, які і мне паведамляў, як называецца наш калгас, які нумар участка, колькі тут гектараў жыта і які яго гатунак.

Правей, не вельмі далека ад месца, дзе я на момант спыніўся, і дзе даволі шырокая, травяная дарога з вёскі на могілкі, а лявей і бліжэй ад мяне — яшчэ і сцежка ў жыце. Таксама адзнака сучаснасці: поле народнае, нічыё, хадзі, тапчыся, дзе каму ўздумаецца...

А ўсё ж і я пайшоў па сцежцы. З узвышша ў даліну.

Жыта сёлета добрае. І прыгінацца, нават рosламу, не вельмі трэба, каб люба, удзячна пайсці вачыма па каласістай паверхні, якая яшчэ і шчацініцца трохі вусікамі ўгару, а больш дык хіліцца долу пад цяжарам шчодра налітых, пакуль што не цвёрдых, салодкіх зярнят. Абапал сцежкі, у не зусім спалавелым саламяным гушчары, сям-там праглядвае рамонак, большыя сонейкі якога наіўна пнуцца ўгару, некаторыя нават даволі высока, а дробязь цвіце, адцвітае ды пахне понізу. Васількі стракацяць дружней, месцамі нават густа,— блакітная пяшчота, што таксама цяг нецца дастаць, дацягнуцца да каласоў. Для паўнаты дзіцячай памяці няма чамусьці ярка-ліловых званочкаў куколю. Затое трапляецца бярозка з грамафоннымі трубкамі белых і злёгку ружовых кветак, кволае плецiва вікі з дробненькай бурачковасцю цвету, а гледзячы на сонечна-хлебнае бязмежжа зверху, зрэдку бачыш, як над калоссем выкусціўся непераможна расквітнелы асот. На сцежцы — натапч сцяблін з пустым! ці поўнымі каласамі; яна шамаціць пад нагамі, злёгку блытае іх ды рвецца, калі адной наступіш, а другой на хаду шмарганеш. Ды такое — зусім ужо як між іншым, бо ты глядзіш наперад, час ад часу ўлева ці ўправа, табе, даўно ўжо гараджаніну, здаецца, што так вось ішоў бы ды ішоў,— далёка, можа, і бясконца...

А сцежка канчаецца.

Нашы старыя могілкі, і ў даўнім, у прыкрым сваім запусценні цяпер, у зеляніне ды ў сонцы нібы нават прыгожыя, сумна прыгожыя. Магутны, разложысты цёмна-зялёны дуб. Таксама, як і ён, спрадвечная, але ж змарнелая капліца. У шэрых лушпаях не да канца датлелай шалёўкі з блекла-ліловым купалам, які здалёк, у кудзерцы вышэйшых і ніжэйшых дрэў, бачыцца весялей. Тры сасны, як самотны дазор, прысланы сюды з далёкага лесу. І дзікі нізавы гушчар.

Нікога за яго не папракаючы, і самога сябе таксама, прывычна

знаходжу ў бэзавай ды шыпшынавай, зноў ацвіцелай дзікасдці два найраднейшыя помнікі. Надпіс на левым зацёрся больш, на правым менш. Пастаяўшы і адышоўшыся, я чамусьці вымаю блакнот і ледзь не з дзіцячай, тады, даўным-даўно адпаведнай узросту, сёння і трохі няёмкай, і гаркавата-шчымлівай пяшчотай запісваю па дзве даты з абодвух помнікаў. Як быццам не ведаю гэтага і ніколі не ведаў... А тады ўжо іду далей сярод рэдкіх, пахіла-шэрых драўляных крыжоў, абымшэ л а каменн ых старчакоў з загладжанымі часам надпісамі, сярод помнікаў навейшых, ужо ад большага пасляваеннага дастатку, і зусім новых, нядаўна дастаўленых удзячнымі гарадскімі нашчадкамі, стандартна бетонных стэлаў з таннай пазалотай надпісаў ды ў вастрапікіх агароджах, найчасцей блакітненькіх. Зноў здзіўляюся, якімі ж нестарымі памерлі той ці тая, якія ў маёй маладосці, не толькі ў маленстве, здаваліся дзядамі ды бабулямі. Заўважаю імёны тых, пра чый адыход пачуў з роднай мясціны сёлета, летась ці пазалетась...

І раптам — зусім нечаканае сутыкненне.

Я аж сумеўся ціха, ледзь не спалохаўся, спыніўшыся каля яшчэ цішэйшага. Адразу — толькі заўважыў светла-шэрую пляму на рагу прасторнай і змрочнай агароджы, а ў наступны момант — пазнаў у гэтай пляме жывую істоту.

Нейкая бабуля стаяла на каленях і, нікога, нічога не бачачы, не чуючы, уся занятая сваёй справай, фарбавала адзін з жалезных прутоў. Пруты былі яшчэ новыя, чорныя, аднак старая з няспешным, сказаў бы — з эпічным спакоем давала ім поўнае абнаўленне. Раз-поразу няспешна абмачала квачык у бляшанку і памаленьку, старанна квэцала чорным тоўсты прут, ад цэментавай падмуровачкі да ўзроўню сваіх вачэй. За гэтым прутам,— я моўчкі глядзеў,— пайшоў такі самы другі. Злева, пачаўшы ад рога агароджы, некалькі іх ужо тлуста чарнелася. Далей бабуля, вядома, падсунецца на каленях направа, будзе мазаць усю гэтую сценку спачатку знізу. Потым цяжка паднімецца, пагоніць даверху... А іх жа так многа, гэтых прутоў, агароджа зроблена з запасам, не на адзін толькі помнік, з разлікам і на сябе. А да вёскі ж няблізка, з даліны ўгару, на нямоглых нагах, настаяўшыся на каленях...

Ды вось пайшоў ужо і трэці прут пры мне. Памаленьку, спакойна, няспешна.

Яна кленчыла да мяне бокам, хустка нізка насунута ад гарачыні, і я не пазнаваў бабулі, а ў твар не заглянеш. Можна і не палохаць, не ўмешвацца ў яе малітвенна-ўрачыстую, грунтоўную работу. Але як жа і адысціся, не ўведаўшы, хто гэта?

Ступіўшы трохі наперад, я — з-над вострых прутоў — заглянуў за

каменна-шырокія плечы помнікастэлы, прачытаў, па кім ён, і тады, здагадаўшыся, аказаўся:

— Добры дзень, цётка Аксеня!

Яна зірнула на мяне, узняўшы твар на голас зверху, неспалохана прыгледзелася і сказала:

— А я не ведаю, хто вы.

Я назваўся — і хто я, і чый — па-дарослаdensity.

— А, гэта ты...— яна назвала мяне так, як гаварылася ў маім маленстве.— Тады здрастуй! Да таты, да мамы прыйшоў?

І ў імені маім, неадпаведна дзіцячым, і ў пытанні, да каго я прыйшоў, было штосьці адтуль жа, адкуль і мой запіс дзвюх па двойных дат з двух помнікаў. І на душы пацяплела. Нейкім сваяцтвам з бабуляй, ці што.

Пагаварылі мы няшмат. І як толькі я развітаўся — яна адразу ўзняла з бляшанкі свой нетаропкі квач і пачала, нібы навобмацак, паводзіць ім па пруце то ўніз, то ўверх, то ўкругаля. Быццам пайшла, патэпала ў бясконцы свет па лабірынце чорных сцежачакпрутоў...

А я пастаяў, паглядзеў, для яе ўжо нібы непрысутны.

З далечыні амаль шасці дзесяцігоддзяў сюды, у летнюю спёку сённяшняга дня, на мяне дыхнула адліжнай зімой, грымнула маршам (скрыпка, гармонік, бубен), затэленькала званочкамі з-пад дугаў, ажыло і цвярозым, дзіцячым, і хмельным, дарослым гоманам вясковае вяселле.

Кожнае з іх было падзеяй, а гэтае — тым больш. Цупронава Аксеня, дзеўка з багатай хаты, выходзіла за Лебяду, амаль за батрака. «Па любові», як гаварылася і ў чым была незвычайнасць падзеі.

Тады бабуля была маладою красуняй. З варотаў іхняга двара выязджалі, пазвоньвалі першыя санківазок — з маладою. І маладая — высокая, чарнявая, у фаце — стаяла ў вазку сама, ні за што не трымаючыся, і не плакала, а ўсміхалася, нават рукой з узмахам павяла. Вясельны звычай такі: маладая едзе стоячы — пажаданне сяброўкам яе не заседжвацца дзеўкамі.

З-за гэтага няроўнага замужжа сварка ў бацькавай хаце, вядома, была, і немалая, нават і да лупцоўкі, казалі, дайшло. Аднак не яе, не Аксеню было перастравіць. А праклінаць яе ніхто не праклінаў,— няшчасці пачаліся не ад гэтага. Калі ехал і ад вянца, ужо на Лебядовым коніку, той,—на роўнай дарозе, у спраўнага хлопца — узяў ды распрогся. Гэта лічылася вельмі нядобрым знакам. І спраўдзілася. Беднасць — беднасцю, на гэта дзеўка ішла сама, але ж прыйшло і горшае: паміралі дзеці. Адно, другое, а пасля ўжо і зусім іх не было. Жылі Аксеня з Тодарам адны, спачатку яшчэ ўсё спадзяваліся, а

потым пачалі і падумваць, ці не ўзяць якую сірату. Але не выйшла гэта ў іх, бо звалілася і другая бяда. Тодар падаваў у цапы малатарні (чужое, вядома ж), і хапанула, уцягнула ў барабан руку, добра хоць, што не правую.

Гэта я памятаю таксама жыва, як той Аксенін выезд, стоячы, з бацькоўскай брамы. На дзікі крык з суседняга прыгумення пачалі збягацца людзі, пабег і я, тады ўжо дзяцюк. Малатарня спынілася. І раней, праз гул яе, і цяпер крычаў не Тодар, крычалі іншыя. Галасіла, прыбегшы, двароў цераз дзесяць, Аксеня. А ён стаяў, як прывязаны сваёй раструшчана падаўжэлай, крывавай рукой да аціхлых цапоў, збялелы, але ж і сам яшчэ камандаваў, як раскручваць, развінчваць барабан, і толькі гютым ужо, як садзіўся на воз — у мястэчка, да доктара — самлеў.

Нехта — не памятаю, хто — першы падгледзеў, як ён пасля бальніцы, ужо толькі з адной правай, пакутліва прымяркоўваўся, намагаўся засупоніць хамут. Сусед хацеў дапамагчы, але Тодар ажно ўзлаваўся. Крычаў, што сам павінен, сам навучыцца — і запрагаць, і ўсё!..

У самога была ж і сама. І не для бабскай каманды ці звягі,— сяброўка, памочніца.

Так яны ўжо і векавалі ўдваіх, доўга жылі — доўга пры мне, яшчэ даўжэй без мяне ў нашай вёсцы,— спачатку бедна, а потым і ў новай хаце, на нейкай пенсіі, з чатырма вуллямі ў садочку.

Ды вось яго ўжо няма, а яна ўсё жыве, як быццам непрыкметны, ціхі і нязбыўны подзвіг яе жыцця яшчэ ўсё чамусьці трэба працягваць.

Сумна?

А можа, якраз і лягчэй ад такога вось клопату — пра магілу?..

Зноў жа па сцежцы ў жыце я выйшаў з даліны на самы верх нашай «гары» — узвышша з сонечна-ясным, раскошна летнім аглядам на ўсе бакі свайго свету. Спыніўся на абочыне нядаўна заасфальтаванага гасцінца, пастаяў.

Хораша. І далёка відно.

А якая ж тут, можна сказаць, адбылася вялікая змена дэкарацый. Не адна.

Што тут «ігралася» ў папярэдніх дзеях даваеннай, ваеннай і пасляваеннай гісторыі — відно ўжо нямногім. У тым ліку і мне. І я магу нямала расказаць, якімі былі навакольныя вёскі раней, дзе тут навокал віднеліся, куды і як падзеліся тыя маёнткі ды маёнтачкі, замест якіх распасцерлася хлебная чыстаполіца, хто тут, па нашым гасцінцы, па нашых дарогах ды сцежках ездзіў, хадзіў, якія значыў, пакідаў сляды. І я ўжо магу... ох, як нямала налічыць тых, каго ў

розны час рад быў вітаць, па кім сумую, то свяжэйшым, то адбалелым сумам, каго часамі згадваю, пазнаўшы яго рысы ў сыне ці ў дачцэ...

Маруся?

Не, па бацьках яе, шчыра кажучы, я не сумую, бо з імі, значна старэйшымі, не дружыў. Яна для мяне — сама па сабе. Вось прыгадалася і тут, зноў, як на могілках, у падвойным успаміне — свежым, сённяш нім і ўжо таксама даўнім, нават і ў дачыненні да яе, яшчэ так нядаўна дзяўчынкі, пасляваеннай сіраты, бацька якое загінуў на фронце, а маці адна паднімала трое малых.

А ўжо тым часам і дваццаць гадоў з той раніцы, калі я, трохі пабыўшы ў сваёй вёсцы, вяртаўся аугобусам у горад, які ўжо таксама стаў мне сваім.

Маруся сядзела побач са мной, ад акна. Дзве яе сяброўкі, не з нашай вёскі, але таксама выпускніцы мястэчковай дзесяцігодкі, сядзелі далей, за намі. Тыя і на прыпынку, да аўтобуса, больш за яе маўчалі, а цяпер мы з ёю і зусім былі як адны. Спачатку яна шчабятала пра свае няхітрыя ранне-дзявочыя навіны, час ад часу вярталася да трывогі — ці ўдасца ж паступіць у тое медвучылішча, а потым пачала драмаць. Летняя ночка — па песні — і так маленькая, а паненка ж і з вечарынкі вярнулася, бадай, на світанку. На сваім пажылым і ўжо тым часам натруджаным плячы я неўзабаве адчуў яе галаву. Румянашчокую ды сінявокую, з просценькай русай прычоскай.

І ў гэтым столькі было ўжо хвалюючага цяпла і яшчэ ўсё дзяцінага даверу, што я і тады быў шчаслівы, і цяпер яно ўспамінаецца — з удзячнасцю і нібы са свяяцтвам.

Потым прыемна было пачуць, што Маруся і паступіла, куды ёй хацелася, а закончыўшы медвучылішча, была размеркавана ў свой раён, дзе неўзабаве ды вельмі ўдала — па школьнай дружбе, якая стала каханнем,— выйшла за аднакласніка, дужага і маўкліва-талковага Віктара. Ён пасля школы застаўся ў вёсцы, пры сваіх «старых», тым больш што бацька вярнуўся з вайны інвалідам, закончыў хлопец курсы ў райцэнтры,— механізатар шырокага профілю. А яна працавала ў бальніцы, куды, за шэсць кіламетраў, то ездзіла ўлетку на веласіпедзе, то пад'язджала ў непагадзь і зімой на рэйсавым аўтобусе, а то дык і Віктар часамі на матацыкле падвозіў, асабліва на першым го дзе,— хоць і рахманы, а з горда стрыманай усмешкай.

Многія хаты ў сённяшняй вёсцы больш адпаведна называць дамамі. Нямала, праўда, і такіх, дзе або ўжо няма каму жыць, або заўтра-пазаўтра не будзе каму. Сумна, трывожна... Калі ж хата яшчэ жывая, а да таго і спраўная,— міма такое добра і прайсці, і, чаго

добрага, спыніцца.

Механізатараў ды медсястрын дамок стаіць бокам да вуліцы, у гародчыку. Вялікія вокны, на падваконні кветкі. Іх так багата — белых, ружовых, чырвоных, ліловых,— што, здаецца, і шыбы хутка павыдушваюць навонкі. Адна цераз адну, запоўніўшы яркай строкатасцю чыстыя шыбы, усе гэтыя жаніхі і нявесты, герань і вогнікі пруцца да тых, што ў гародчыку, куды большых і на прасторы,— да мальваў, флоксаў, вяргіняў, гладыёлусаў... Сцены сонечна-вохрыстыя, ліштвы і рамы вокан, рамкі ды рамачкі шырокага ашклёнага ганка чысценька белыя.

А гаспадыні ўсё гэтай вясёлай белі—мала!..

Ідучы на могілкі, я прыпыніўся каля «Марусінага дома» (для мяне гэта так), яшчэ зводдаль заўважыўшы яе з дачкой у гародчыку. Яны падбельвалі белыя рамачкі ганка, у якіх паблісквалі сонцам разнаформенныя шыбкі і шыбачкі.

— Добры день! Што мы робім?

— Добры дзень вам! Прыехалі? А мы тут наводзім красу.

— Яе ж і так хапае. Не разабрацца, якая лепшая.

Яна смяецца, прыняўшы намёк, але адводзіць на іншае:

— От, будзе трохі чысцей. Я выхадная сёння, а сена ўжо няма. Пагаварыце з намі, пабудзьце. Мой недзе ў полі. Дома не заганяецца. А гэта во наша Таня. У дзесяты перайшла.

Таня — ужо не нашмат маладзейшая за тую, чыю галоўку я нібы зноў адчуў на плячы, а Маруся — у загарэлай і пышнаватай красе шчаслівай маці, якой толькі пад сорак. Дзяўчына моўчкі, нібы сарамліва павярнуўшыся ад мяне, працуе белым пэндзлікам, час ад часу тыцкаючы яго ў бляшанку на табурэце. А мама яе... ну, не сказаць ужо, што шчабеча, як тады, у ранішнім аўтобусе,— яна гаворыць ахвотна, усё дарэчы, з гаспадарлівай заклапочанасцю: пра сенакос, на які так добра падпагодзіла, пра жніво, што вось-вось і пачнецца, пра тое, што робіцца ў вёсцы, пра бальніцу сваю, пра Таню, што памагае і ў хаце, і ў полі... Хоць і чытае многа, і ў клуб, вядома ж, хочацца: маладое. Яна гаворыць з выразнай прыемнасцю, я слухаю — таксама. А мне ж яшчэ добра глядзець, як спрытна ходзіць пэндзлік у яе руцэ, як акуратна бель кладзецца на тоненькія рамачкі, нідзе не крануўшы чыстага шкла.

Таня робіць тое самае не менш акуратна, але павальней, з большай асцярогай.

Процьма яшчэ не пражытага часу, нязведанай прасторы, не адчутага сонца аддзяляе іх, маці і дачку, ад тых строга панурых прутоў, што недзе там з чорных памаленьку робяцца яшчэ чарней-

шымі...

Ім, маладой і маладзенькай, і не думаецца пра такое,— гэта я цяпер думаю, стоячы на ўзбоччы гасцінца, гэта мне яно ярка прыгадалася там, за жытам, у зеляніне, каля прасторнай на запас агароджы.

Не ў спалучэнні з ёю, яшчэ не бачыўшы той чарнаты, гадзіны паўтары таму назад, калі я любаваўся белай работай-забавай у сонцы ды ў кветках, па праву ўзросту благаслаўляючы нейчае шчасце, непераможнасць жыцця.

1981

## СЯРГЕЙ

Перад школай на рыначнай плошчы мястэчка быў зялёны, прасторны ўзгорак, што ў вераснёвым сонцы мякка, калі прылегчы, і соладка пахнуў ацвіцелым, нізенькім, густым рамонкам.

Там мы на перамене часамі рабілі «слана».

Пяць дужэйшых старшакласнікаў станавіліся адзін за адным, паклаўшы рукі адзін аднаму на плечы. На гэтыя рукі сядалі чатыры лягчэйшыя, таксама рукі на плечы адзін аднаму, тады тры яшчэ лягчэйшыя, а ўжо на руках двух апошніх, зусім вераб'ёў, важна садзіўся пагоншчык.

У тым вясёлым, пагодлівым верасні, калі я пачаў хадзідь з вёскі ў чацвёрты клас местачковай сямігодкі, пагоншчыкам заўсёды быў той самы Сяргей. Не па гадах малы, гарбаты, з залішне доўгімі рукамі і нагамі, ён трохі сам, а больш пры дапамозе збоку, але ж і спрытна, як павук, узбіраўся на «слана». Не так сабе, а са сваім «мечам». Звычайнае трапло, якім бабы трэплюць лён, пацешна вялізнае ў Сяргеевай руцэ, старое ўжо, тонкае, добра адшліфаванае ў рабоце.

«Слон» пад каманду, пад мноства камандаў, кранаўся з месца, памаленьку, урачыста ішоў па траве, а воін-пагоншчык размахваў «мечам» і ваяўніча крычаў. Навокал была ўся шматгалосая школа, усе сем класаў «паўшэхнай» на розныя галасы галаганілі, смяяліся і свісталі. Спыняліся і людзі паглядзець, і некаторыя таксама не маўчалі. Крычалі, вядома, і тыя, з каго на гэты раз складаўся «слон». Мне было тады дзесяць гадоў, разоў колькі і мне здаралася сядзець з тымі, што ўтваралі «трэці паверх», і я таксама галёкаў ды пішчаў ад радасці. А праз увесь гэты шолам верхнім было чутно, як над намі, над усім «сланом» раз-поразу, яшчэ вышэй пяўся голас пагоншчыка:

— Грунвальд, халера ясна!..

І «меч» Сяргееў быў узняты так, як у руцэ вялікага князя Вітаўта на вядомай карціне Матэйкі.

Пасля ўсёй гэтай радасці прыходзіў прадбачаны, але заўсёды як нечаканы канец. Тыя пяць найдужэйшых, што неслі ўсіх, раптам, пад каманду аднаго з іх, пускалі рукі з плячэй, і ўвесь жывы, рухомы, крыклівы трохкутнік рушыўся, ападаў, распаўзаўся ў яшчэ большым віску ды рогаце. Калі ты і ўдарыўся — не прызнаешся, а то і сказаў бы, каб хто спытаўся, што — далібог жа! — ані не баліць.

Найгорш было нашаму мечаносцу. Ён ляцеў з самага верху, падаў ці на кагосьці, ці гарбузом на цвёрды пад травою дол. А ўсё ж і «меча» свайго не кідаў і, разам з усімі, штосьці крычаў ды смяяўся, выбіраючыся з кучкі-невялічкі.

Для мяне Сяргей быў першым жывым гарбуном. Літаратурных, вычытаных неўзабаве прыйшло ажно тры. Вадзім у Лермантава, Нэлі ў Амічысавым «Сэрцы» і Юзя ў Прусавых «Грахах маленства». Рускі, італьянец і паляк. Вадзім, «Чырвоная шапка», пачварны жабрак і крывавы мсцівец, пра якога я чытаў найраней, дома, у старым патрапаным аднатомніку, успрымаўся даволі адчужана, гістарычна. Зрэшты, для мяне ён быў вельмі дарослы, і ўсё там дарослае, а Нэлі і Юзя — героі школьных аповесцей, мае равеснікі, зразумелыя, блізкія нашаму брату пад шыванцу.

Нядаўна я, сабраўшыся, нарэшце, разлічыцца з яшчэ адным неспакойным успамінам, перачытаў абедзве тыя аповесці, праверыў сваё дзіцячае захапленне. Яно ў асноўным паўтарылася, а да таго, колішняга захаплення і падсвядомай удзячнасці аўтарам дадалося яшчэ і дарослае: павага да двух высакародных сыноў сваіх народаў і свайго часу — гарыбальдзійца Эдмонда дэ Амічыса і паўстанца 1863 года Баляслава Пруса. Амаль аднагодкі, яны і ў рэвалю цыю, кожны ў сваю, пайшлі аднолькава зялёнымі юнакамі, і кнігі свае напісалі амаль у адзін час, у тым мужным узросце, пра які гаворыцца: сорак — ужо разумны і яшчэ малады. І супадзенні гэтыя ўспрымаюцца не проста як штосьці цікавае,— чысціня маладых парываў спалучылася з мудрасцю сталага ўзросту і ў выніку — дзве кнігі, што ўжо тым часам цэлае стагоддзе хвалююць і вучаць дабру дзяцей многіх народаў.

Тады, калі я быў часткай «слана», і пазней, над старонкамі названых кніг, такіх разваг ды вывадаў у мяне не было. Адтуль, з тых дзён, і дагэтуль шчымяць у душы два святыя адчуванні — спагада пакрыўджанаму і жаданне быць яго абаронцам.

Мужны Гаронэ абараніў пакрыўджанага Нэлі, гарбуна, калеку, а Нэлева маці, прыгожая італьянская сіньёра, прыйшла ў школу і ў кабінеце дырэктара абняла таго чатырнаццацігадовага абаронцу, са слязьмі цалавала яго нагала астрыжаную галаву, зняла з шыі свой крыжык на залатым ланцужку і павесіла яго хлопцу пад школьны гальштук.

У небагатага і вечна п'янага бацькі польскага калекі Юзя падарунак яго школьнаму абаронцу Казіку быў іншы: куфэрак з кнігамі, уся спадчына пасля Мілага гарбуна, які памёр, прыдушаны возам на вуліцы.

Аднак і ў італьянскім, і ў польскім выпадках гэта да слёз хвалявала яшчэ і мяне, заходнебеларускага хлапчука, аднаго з тых, да каго гэты высокі агульналюдскі змест дайшоў... няхай сабе і не на роднай мове.

Сяргей жаласці ў сэрцы не выклікаў. Нават тады, калі ён падаў сваім гарбом са «слана» і, не трэснуўшы, як трэснуў бы, так упаўшы,

вялікі гарбуз, усхопліваўся з крыкам і разам з усімі смяяўся, зноў узняўшы свой «меч».

У школах тады, пасля амаль сямі гадоў так званай «мікалаеўскай» і грамадзянскай войнаў, пасля некалькіх «пераваротаў» — зменаў улады, шмат было пераросткаў. Сяргей, хоць і вучыўся толькі ў пятым, старэйшы быў за мяне на тры гады. А ў шостым ды ў сёмым класах, побач з меншымі, былі ўжо і сапраўдныя дзецюкі ды дзеўкі. Сяргей трымаўся са старэйшымі. З хлопцамі шаптаўся, хіхікаў з нечага, пра што не гаворыцца ўголас, курыў на школьным гарышчы, а дзяўчат, ужо добра грудастых, услед за іншымі гуляючы ў кавалера, абдымаў па-свойму — вышэй каленяў, дакуль даставаў.

Аднак ён і з намі, меншымі, умеў падзяцініцца.

Ён вельмі ўдала гаўкаў, мяўкаў, кукарэкаў, буркаваў голубам, шчабятаў ластаўкай. З Паўлам, маім аднакласнікам, якога за кволасць празывалі Кісяе Маляко, Сяргей часамі наладжваў, так сказаць, лялечны спектакль. Звязаўшы з кіёчкаў дзве крыжавіны, яны надзявалі на іх свае курткі і шапкі і, схаваўшыся пад тыя пудзілы, трымаючы іх над сабой, пачыналі паказваць бойку. Спачатку наскокі, адскокі, зачэпны перабрэх, першыя куксаны, а тады — узаемная малацьба рукавамі, да поўнай знямогі, калі ўжо іх «двайнікі» павісалі адзін на адным і толькі хэкалі, пад смех і крык гледачоў, наадварот нястомны.

І з «мечам» справа не абмяжоўвалася адным «сланом». Напрадвесні, калі кашэчае марцаванне не абмінала і гарышча нашай школы, Сяргей затойваўся там у цямнейшым кутку і пачынаў клікаць, на ўсе лады выводзячы то кошчына, то катова тамленне. Ці ўдалося яму калі прывабіць марцавальніка ці мардавальніцу бліжэй, пад удар свайго «меча», не памятаю, а наша — унізе, на двары — нясцерпнае хіхіканне і, нарэшце, смех, што выбухаў, зрываючы апера цыю, і сёння для мяне жывы.

Былі і іншыя «выхілкі», былі і вясковыя жарты і прыпеўкі, амаль заўсёды скаромныя. Праўда, разлічаныя ўжо не на нас, малечу, намі, здалёк ці зблізку, пачутыя ў гурце старэйшых.

Сярод пераросткаў найцікавейшы быў Сашка-Кі, якога празывалі так за пацешнае заіканне ў маленстве. Заіканне даўно прайшло, мянушіса засталася, але далека не кожны мог асмеліцца сказаць яе хоць здалёк, уцякаючы. Тады, у той першы слановы сезон, Сашка-Кі быў вучнем апошняга, сёмага класа, умеў выдатна бегаць на руках, да самых пят пранозліва свістаў і ў пальцы, і ротам, зусім неперамальна падцяўшы губу ды прыткнуўшы язык, камандаваў «сланом», валейболам, лаптой, хадзіў найбольш з Валяй з іхняга класа,

казалі, і вечарамі з ёю сядзеў, аднак і вучыўся таксама добра, нават выдатна. І хораша спяваў у нашым школьным хоры. А гадоў яму было ўжо ажно пятнаццаць, і гэта для мяне, чатырохкласніка, аднаго з тых, хто ў школу пайшоў нармальна, сямігадовым, было недасягальным, выклікала пашану ^зайздрасць, а то часамі і страх.

І вось ён, Сашка-Кі, дружыў з Сяргеем. Як і большасць у нашай школе, яны былі не местачковыя, а з вёскі, да таго ж з адной, а сябравалі, відаць, даўно. Паспрабуй тут хто-небудзь Сяргея пакрыўдзіць!

Зрэшты, і потым, калі ўжо Сашка ў нас не вучыўся, Сяргея ніхто ніколі не крыўдзіў,— не памятаю такога выпадку.

Сашка-Кі паступіў у беларускую гімназію, на той гужавы ды пешаходны час, на мой малечы ўзрост пайшоў у вельмі далёкі, пакуль што недасягальны свет — у ваяводскі Навагрaдак.

Сяргей закончыў школу на год раней за мяне, далей вучыцца не пайшоў. Зрэшты, і Сашка тады ўжо не быў гімназістам: яго адтуль, як гаварылася, «прагналі за палітыку», а неўзабаве і пасадзілі ў турму.

Пра ўсё гэта я толькі чуў, яно было па-тагачаснаму далека, у пятай вёсцы ад нас, за цэлых трынаццаць кіламетраў.

Праўда, за нашымі лугамі ды за рэчкай, далей каля лесу, былі сенакосы Сашкавай ды Сяргеевай вёскі, а ўсё ж і няблізка ад нас, і ехалі іхнія касцы ды грабцы туды не цераз нашу вёску, а па гасцінцы. І яшчэ адна праўда,— у святы моладзь з навакольных вёсак сядытады, вясной ці летам, сыходзілася ў мястэчку, каля прыгожай царквы на ўзгорку. Не маліцца, вядома, з бабамі, а з дзеўкамі пажартаваць на цвінтары, кавалерскай кампаніяй пахадзіць, пасядзець, паляжаць на траве пад вялікімі ліпамі. Ды гэта ўсё старэйшыя. А для мяне, падлетка, што, дарэчы, як маці казала, «за кнігамі свету не бачыў», усё іншае было яшчэ ўсё наперадзе.

Словам, з Сяргеем і з Сашкам-Кі я не бачыўся доўга. Пакуль мы выпадкова не сустрэліся на сенажаці, над рэчкай. Яны вярталіся са свайго, заўсёды пазнейшага, сенавання, а мы, некалькі хлопцаў з нашай вёскі, ужо свабодныя, прыйшлі пакупацца.

Тая сустрэча, праз сем гадоў пасля «слана», часта апошнім часам вяртаецца.

Наша рэчка — не з тых, што апяяны ў вядомых песнях, яна — сціплы прыток, да мора сама не даходзіць, плыве сабе ціха па лузе, а мы яе любім, змалку і назаўсёды. Цяпер, здалёк, светла ўспамінаецца і смех, і плёскат купальшчыкаў, і шарканне касы, і грукат колаў на пукатым сезонным мосце з плашак і круглякоў, і боўтанне шаста пры «чайцы», і пoбліск рыбы ў таптусе, і цярплівасць над паплаўком, і страшнае на ўсю аколіцу,— хтосьці стары ці малы, нейкі хлопец ці

дзеўка, незнарок ці знарок утапіўся!.. Усё прыходзіць, праходзіць, а рэчка плыве сабе, рэчка плыве...

І вось над рэчкай — у маёй удзячнай памяці, упершыню ў маім, тады зусім юначым жыцці — гучаць словы глыбокага зместу, музыка невыказнай красы:

Умирает отец на дубовой скамье,
Завещая родимому сыну:
«Ты пойди-ка, сын, в лес да дубину сруби
На проклятую барскую спину...»

Мне яшчэ вельмі далека было да свайго радыё, да патэфоннай пласцінкі з голасам Шаляпіна, да поўнага ды нравільнага тэксту гэтай песні, надрукаванага ў якой-небудзь кнізе, для мяне ў той час больш за ўсё выпадковай. А ўсё ж мне і так было вельмі нямала, я быў захоплены і так, ды настолькі, што вось і сёння, амаль праз паўстагоддзя, ураджанне тое яшчэ ўсё хвалюе сваёй першароднай і незацёртай свежасцю.

Спяваў наш Сашка-Кі.

Пакуль нырнуць у ціхую, прахалодную глыбіню, ён стаяў на зноў ужо зялёненькай пакошы высокага берага, голы толькі яшчэ да пояса. Загарэлы і дужы,— нягледзячы на тое, што сілу і волю яго ўжо намагаліся адабраць і ў паліцэйскіх катоўнях, і за турэмнымі кратамі. Глядзеў на лес за ракою ды за прасторам лугоў і густым барытонам, з грудзей і ад сэрца спяваў.

Каля яго стаяў С яр гей.

Спяваць не памагаў. Слухаў разам з усімі. Чалавек было нас больш за дзесяць, з іхняй і з нашай вёсак. Але глядзеў і ўсміхаўся ён так, быццам гэтая песня па нейкаму таямнічаму праву належыць і яму, разам з яго — такім магутным і прыгожым — сябрам.

Яго калецтва, ужо таксама да пояса аголенае, не было шчымліва-прыкрым у параўнанні з маладой нармальнасцю ўсіх іншых, а перш за ўсё з Сашкавай, не выклікала яно і жаласці.

...Яшчэ праз сем гадоў, улетку сорак першага, фашысты і ў нашым мястэчку, дзе стаяў іх паліцэйскі гарнізон, расстрэльвалі былых заходнебеларускіх падпольшчыкаў і малады савецкі актыў. З самога мястэчка і з навакольных вёсак,— хто быў сваімі здраджаны, каго ўдалося накрыць.

Разам з Сашкам-Кі, разам з іншымі дужымі загінуў тады і Сярожа.

1981

## «А-Я-Я-Я!..»

Пад абрывам, бліжэй да ракі, высяцца старыя, дзябёла ўпасвеныя алешыны, шырока і нізка аплываюць косамі вербы, страката бялеюць зелянеюць тры смялейшыя бярозы, цямнеецца, паблісваючы шышкамі, адна яліна. Далей, вышэй ад вады, бярозаў больш, пракідваюцца нават сухапутныя красуні сосны. Пад дрэвамі густа, пякуча тоіцца крапіва, буяе чырванню гронак каліна, стаядь сабе па-малечы пацешныя рабінка з нясмелымі ягадамі і стромкі кусцік ялаўцу. На самым краі высокага абрыву соснаў больш. Гаспадаром рассеўся добра-такі сталы дуб. Зялёным воблакам узвышаюцца пад блакітам ліпы, звесіўшы голле, ужо без цвету, над гладкай сцежкай у траве.

Там, наверсе,— платы, садочкі з вуллямі, светлыя вокны, грады, лагодная прастора яшчэ зусім зялёнага бульбяніку, за якім дарога, у спёку пыльная, а за дарогай — лес.

Стаўшы на сцежцы плячыма да лесу, добра глядзіцца зверху, з-паміж дрэў, на Неман, які, хоць недарма завецца быстрым, люструецца вельмі спакойна, нібы зусім не плыве. За ракой — лугі, за якімі, на даляглядзе, пушча. Лугі пакошаны ў пару, месяц таму назад, і ўжо добра тым часам падмалёваны атавай, на якой застылі ў спакойным чаканні пары жэлыя ўжо стагі, што будуць перавезены адтуль на фермы зімой. Сям-там відаць цёмна-зялёныя астраўкі яшчэ нярослага дубняку і дубы-адзінцы. Каля стагоў і дрэў рака, то ў лазняку, то голая, пятляе нібы знарок так гулліва — каб зверху гэта выглядала весела.

Роена і сонечна. Над найкруцейшай, найбольш капрызнай пятлёй ракі ўздымаецца варухлівы туманец — пара не пара, дымок не дымок,— як быццам недзе там ціхенька варыцца ранняе снеданне.

Дрэвы з абрыву і бліжэйшыя дрэвы на лузе заціхлі ў заспакоена ўрачыстым сузіранні, глядзяць адны на адных і маўчаць. Моўчкі стаяць багатыя стагі. А на адным з іх, найбліжэй да Немана, бела чорначырвона значыцца сціплы бывалец бусел. Яшчэ два стаяць на атавіста светла-зялёнай пакошы, кожны сабе. Таксама проста стаяць ды глядзяць. Той, што на стозе, дык і крылы склаў неяк наперакос, апусціўшы іх, расслабіўшыся ў поўным адпачыне. Пасля ён не вытрымаў такой раскошы моўчкі — задзёр працавітую дзюбу і радасна заклекатаў. І тут жа яму адказалі сябры на траве — бліжэйшы, а за ім і той, што далей.

Ах, колькі радасці!..

А потым зноў урачыстая, сонечна-росная цішыня і прастора. І ў вышыню, і навокал.

...Гарадскі рыбак, якога адразу, яшчэ здалёк пазнаеш па адпаведнай вопратцы і грунтоўным рыштунку, разлічаным на тую вялікую рыбіну, што павінна ж, нарэшце, злавіцца,— ён стаяў на высокім беразе, сышоўшы са сцежкі на саменькі зялёны край абрыву, дзе сядытады спыняюся і я. Чалавек кіраваўся кудысьці далей, тут ён проста спыніўся, застыў, залюбаваўся шчаслівай жнівеньскай раніцай. Падыходзячы да яго, я ўжо хацеў павітацца, але ён апярэдзіў мяне «добрым днём». Здалося, што і начэкваў з адкрыта-прыязнай усмешкай, зусім незнаемы, што і ва ўсмешцы гэтай было здзіўленне: «Хараша тут у вас!..»

Пагаварылі. Таксама мінчанін. Рабочы-электразваршчык. Праз год і восем месяцаў на пенсію. «Па-бабску, у пяцьдзесят пяць гадоў», бо ў іх жа, электразваршчыкаў, шкодная прафесія. Будзе сто трыццаць два рублі. І падлічыў ужо, відаць, даўно, нібы салдат, што пад канец бясконцай службы ведае, колькі яму засталося гадзін ды мінут. Цяпер ён на бальнічным. Астма. Спытаўся ў доктара, ці можна хоць на рыбалку паехаць, бо ўсё роўна ж, дзе тыя таблеткі глытаць, і доктар сказаў, што можна. «Пахаджу, падыхаю, пераначую дзе пад стогам. А заўтра зяць прыедзе, забярэ». Я памагаю яго радасці, пытаюся: «На «Жыгулях»?» — «Ага, увосень купіў».— «І цесць, вядома, трохі далажыўся?» Ён усміхаецца: «Хлопец харошы. Няхай здаровы жывуць. Тут не шкада, калі ўсё ладам, калі не ахламон які ці не алкаш».

Астма ў таварыша пачалася не ўчора, не пазаўчора, і ўсё ён ведае ўжо — і пра Місхор, і пра Вялічку. Больш таго — нават і пра славутую спявачку, якая была ўжо і ў той польскай Вялічцы, у саляным, алергалагічным санаторыі глыбока пад зямлёй, а што да Місхора, дык яна ж і на гастролі лётае найбольш з таго Крыма, хоць сама і не тамашняя. Гаворыць ён пра гэтую, яшчэ ўсё свежую славутасць як пра знаёмую ці нават блізкую, спачатку называе толькі прозвішча, а потым яна ўжо і проста Соня. Гляджу на яго працоўную, не так гарадскую, як яшчэ ўсё вясковую шчырую ўсмешку і нібы гадаю: колькі ж тут вшавата іх агульная астма, а колькі голас яе, добра знаёмы і мне, яе маладая, непераможная радасць?.. Нават пытаюся:

— Вы што, знаёмыя?

— Па тэлевізары,— зноў усміхаецца ён.— Люблю паслухаць, паглядзець.

— І я люблю. Калі народныя.

Мы маўчым, заглядзеўшыся на раку і зарэчча. А потым я — нечакана, але не дзіўна — напаўголаса паўтараю далёкі песенны ўзлёт, што светла махнуўся ў памяці:

Ветерочек парус гонит,

От разлуки сердце стонет...

Бачу той белы вегразь на хвалістым бязмежжы вясновай, шырока разлітай Волгі. Сваяк таго, што і ў маёй душы сяды-тады самотна і ясна бялееецца ў марскім блакітным тумане.

— Спяваць любіце? — усміхаецца рыбак.— Мо і ў ансамблі якім?

— Не. Прыгадалася адно...

Што прыгадалася, я не расказваю, бо не раскажаш так, як яно хутка і ярка з'явілася ў памяці. Амаль праз паўвека, з тых дзён, калі я толькі-толькі ўваходзіў у юнацтва.

Гэты самы Неман, але не сонечным жнівеньскім ранкам, а насцярожана і ўрачыста белым, марозным досвіткам. Рака пад лёдам, на лёдзе тоўста снегу, дарога добра ўезджана. Коні дружна бягуць адзін за адным — улегцы весела, дый грэюцца бегма. Я мякка сяджу на мяху з сенам, знізу няхоладна, кажух, шапка, боты надзейныя. А да таго ж і маладосць, што пачынаецца, патаемная радасць ці гордасць заучасна сталага работніка, гаспадара, ну і паэта глыбока ў душы, якому заўсёды ўсё нова ды незвычайна. І белае рэчышча, што віляе паміж кустамі, не зусім схаванымі пад снегам, і дрэвы, што знізу, ад снегу, цёмна лезуць ажно пад неба над табой. І першы знак новага дня — агнявая палоска зары над далёкім грэбенем лесу, зары нясмелай яшчэ, якая ці то ўжо бачыцца табе, ці то ўспамінаецца з пазаўчарашняе паездкі. Такой самай, у пушчу па дровы. З адчуваннем таксама хвалюючым, насцярожаным. Так і здаецца: вось, вось яно прыйдзе — штосьці даўно чаканае, добрае! Нават і капыты так выстукваюць: вось, вось, вось!..

Коні — як былі легка ўзняліся на рысь, так і ашляхлі, спакваля перайшлі на ступу,— спачатку першы ці першая (чый там сённячы конь ці кабыла чыя?), а потым і ўсе, увесь маўклівы парожні абоз. Хай падыдуць. Яшчэ не позна, хоць і не блізка яшчэ.

І тут за мною, ззаду і збоку, мякка і хутка пачулася рыпенне снегу пад хадакамі. Дзядзька Міхаль, сусед, які ехаў следам, дагнаў мае сані і гупнуў-сеў перада мною ў нагах. Чалавек ён маўклівы, калі не пануры, і цягавіты, поўная хата дзяцей — маўчы ды думай, як іх на ногі падняць. А тут яму закарцела чагосьці, як блазну да блазна,— прыбег. Не закурыць, не пакурыць, пацягнуць разоў колькі, бо мы абодва не курым. Пагаварыць пра што пільнае? Не, ён сядзіць і маўчыць.

Маўчаў нядоўга. А памаўчаўшы не гаварыць пачаў, а раптам, як і я цяпер, пры выпадковым сустрэчным, заспяваў. Глуха, прыцішана, можна сказаць, безгалоса. І не песня была гэта, а толькі ўрывачак яе, адзін узлёт — з тым самым белым ветразем на Волзе.

Што за дзіва, чаму?

Вельмі проста — калі яно проста,— учора дзядзька Міхаль заходзіў да нас увечары, і я, разняўшы навушнікі дэтэктарнага радыёпрыёмнічка на двух, пачаставаў яго песняй. Ажно з Масквы, цераз граніцу...

— Соня, здаецца, гэтую не спявае,— гаворыць рыбак.

— Не, гэта даўняе. Была такая Вольга Кавалёва. Збірала і выконвала рускія народныя песні. І сама нават трохі песні пісала. І гэтую, што я пачаў, яна напісала сама.

Пра белы ветразь на Волзе я ўспомніў яшчэ і таму, што днямі, у радыёперадачы, ён прыйшоў да мяне вельмі патрэбна паглыбленым у народнасць расказам пра тую слаўную спявачку, што была спачатку, задоўга да Кастрычніка, маленькай рускай Ольгушкай, якая з печы, тварыкам на хату, зачаравана слухала, як спяваў, працуючы каля акна, яе дзядзька Якаў, вясковы ўмелец-кушнер. Дзяўчынка слухала і, нібы ў прадчуванні свайго вялікага лёсу, заплакала ад любасці да людзей — упершыню, ад усёй чысціні дзіцячага сэрца. Так яна потым успамінала.

— І я люблю, калі Соня не моднае нешта, а паўкраінску што ці па-малдаўску. Слухалі?

— Ну,— адказваю я.

— Пра што там, калі па-малдаўску, я не ведаю. Але ж вельмі яно неяк весела. Як ад якое радасці. З эстрады тое сыдзе ў залу, тупае лёгенька па праходзе і шнур той вядзе за сабою, паміж людзей. Мікрафон у руцэ, а ўсё роўна — рукі раз-пораз узняўшы. У ладкі плешча, ды ўжо не песню, а толькі адзін прыпеў. Чулі? «А-я-я-я! А-я-я-я!..» Так не паўторыш, не. Голыя рукі тонкія, і з твару благая, а вочы свецяцца, гараць. І так смяецца, усміхаецца, што і самому... І людзі ўсе, што ў зале той, усе за ёю ў лад тое «а-я-я-я!» — так апладзіруюць. Аж хочацца самому заспяваць, каб мог. Як гэта добра, калі чалавек вясёлы! Вы гэта чулі?

Ен не пытае, а перапытвае. І так па-свойску, павясковаму ўсміхаецца. І я яшчэ раз гавару, што чуў, што весела было і мне.

Не дадаю адно, што добра не толькі тады, калі чалавек, які можа спяваць, вясёлы. Добра, калі ён мужны, кал і ты ведаеш, што такое да лося яму не так сабе, а праз пакуты. Мне здаецца, што гэта нам зразумела абодвум і так.

Мы маўчым і глядзім.

І я чакаю — даўнім, юнацкім чаканнем,— што за ракою, на стозе і на пакошы, за нас і нашай радасцю вось-вось запляскаюць-заклякочуць у яснае неба буслы.

1982

## КАСАТАЧКА

Касатка — ластаўка, птушка Hirundo domestica.

І тое самае, што мілая, галубка, золатка.

*З тлумачальных слоўнікаў*

Удовін дарослы сын паміраў пры памяці і доўга.

— От, мама,— ціха і цяжка сказаў ён неяк, ужо бліжэй да канца,— я цяпер думаю... як гэта рыба... калі яе... на бераг... выкінеш... як яна... дыхае... тады....

На пахаванне з горада прыехала з сям'ёй дачка. Яшчэ на вуліцы, толькі з машыны вылезла, а ўжо... не пачала, вядома, плакаць — зноў заплакала. Зяць нешта тоўкся каля сваіх шафёрскіх дзвярэй, а дачка, з унучкай на руках, штурханула нагою брамку, а тады пусціла з рук малую. Нібы прасветлы прамень з-паміж цёмных хмараў — на чыстую сцежку ў веснавой траве, да новай хаты ад журботна-новых варот, зробленых таксама ім.

На двары было многа людзей. Яны ўсе стаялі, ішла адна бабуля. Унучка — быстранькая, румяная, з дзвюма чорнымі коскамі — бегла насустрач старой, ручаняты ўзняўшы здалёк, у шчаслівай гатоўнасці зноў апынуцца высока, на яшчэ адных родных руках. Штосьці яна крычала радасна, у святым сваім няведанні, далека над усім дарослым смуткам...

Сын — спраўны работнік, дужы, спакойны дзяцюк — з вайсковай службы вярнуўся з нейкай таямніцай. Ніяк жаніцца не хацеў, і ў без нечага трыццаць усё ўсміхаўся, што паспее. Працуючы экскаватаршчыкам на меліярацыі, недзе там, на халодным асеннім балоце, ударыў і, звыш таго, застудзіў нагу. Неўзабаве хвароба з яшчэ адной вучонай, нават мілагучнай назвай — саркома — папаўзла з нагі вышэй. Лічачы збоку, для знаёмых і нават сваякоў, хто з іх жыве далей, паўзла яна паволі, больш за паўгода. А для самога, для маці як ён ішоў, чым быў напоўнены той час?.. Спачатку дома, пасля ў бальніцах, бліжэй і далей, тады зноў дома, на адыходзе. Час невымерна доўгі і безнадзейна хуткі, калі яно ўсё скончыцца...

Унучка дробненька бегла, радасна штосьці крычала. Нібы яна з бабуляй былі на поўным людзей панадворку толькі адны.

І старая, як быццам таксама тут адна, як быццам яна хоць на момант адышлася ад самага краечку чорнай бездані свайго маўклівага мацярынскага гора, хутка ішла насустрач госцейцы,

здалёк прыгнулася з працягнутымі спрацаванымі рукамі. Падхапіла, нарэшце, малую, прыпала сухімі, бяссоннымі вуснамі да цёпленькай, пругкай, салодкай шчакі і прашаптала горача, нібы толькі сабе:

— Касатачка... шчабятушка мая!..

...Пра рыбу на пяску, якая задыхаецца,— гэта пасля ўжо, дзён праз некалькі, у яе знайшлася сіла расказаць уголас.

1982

## ДЗВЕ З ЛЕГЕНДЫ

«Усім добрым ва мне я абавязаны кнігам». Услед за Горкім так могуць сказаць дый кажуць многія, кожны па-свойму. І я ўжо нямала пра гэта пісаў, аднак сказаў, здаецца часамі, далека не ўсё. Бо і пра кнігу, як пра маці — зноў жа згадаем Горкага,— можна расказваць бясконца.

Мае маленства прыйшлося на складаны час пасля першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, пачатак яго прайшоў у савецкім горадзе, а больш свядомы працяг у заходнебеларускай вёсцы. Чытаць мяне навучылі па-руску, да школы. А школа ў нашым Загоры была тады польская, з рэдкімі беларускімі ўрокамі. Такім чынам — тры мовы, на якіх я пачынаў знаёмства з мастацкім словам.

Польскія кнігі дзецям давалі ў школе. Беларускія былі там для нас як буквары ды чытанкі; іншыя кнігі на роднай мове зрэдку трапляліся па хатах. Рускіх у вёсцы было найбольш. У нашай хаце — частка на лаве за сталом, цэлы іх стосік на покуці, а на гарышчы — яшчэ і ў вялікай чамаданістай карзіне. Той скарб, што бацька, дзякуй яму, прывёз з Адэсы.

І было яшчэ ў нас шкадаванне, сямейная легенда пра дзве надзвычайныя кнігі, якіх мы не здолелі ў вёску давезці. Пры пераездзе граніцы трэба было плаціць,— адтуль мне помнілася грозна-незразумелае слова кантрыбуцыя,— а грошай не хапіла, і ў Мінску, дзе мы адбывалі некалькі дзён каранцін — другое грознае слова,— прыйшлося сёе-тое прадаць, у тым ліку дзве кнігі.

Адна з іх — аднатомнік Гогаля.

На шчасце, такі самы аднатомнік быў, як неўзабаве аказалася, у суседа, застаўся з тых гадоў, калі ў нашай мясцовасці доўга трымалася лінія русканямецкага фронту і ў хаце дзядзькі Ёсіпа «стаялі» царскія афіцэры.

Мы пазычалі Гогаля і тады, калі я, найменшы ў хаце, толькі гартаў тую вялікую, тоўстую кнігу, бясконца гледзячы цацкі-малюнкі, тлумачэнні да якіх сяды-тады давалі старэйшыя. Адно па-малечы ўчэпіста, ліпка запаміналася, другое ж трэба было дадумваць у адзіноце, да якое, дарэчы, з самага малку і мяне спакваля прывучыла кніга. Тарас Бульба і дзе на кулачкі з сынам; свіння ўсадзіла лыч і вушы, усю сваю лабэціну ў маленькае акно, з двара ў хату, і вельмі здзівілася; таўшчэзны Сабакевіч, падвязаўшыся сурвэткай, аберуч узброіўшыся, жарэ сваю вялізную рыбіну... І яшчэ, і яшчэ. Усё ў тым Гогалі ўспрымалася тады на смак, як у галоднага, на дотык, як у сляпога, на зрок, як у азоранага ўпершыню. Успрымалася з тым нечымневы-

моўна блізкім і вельмі патрэбным, ужо сяк-так адчувальным у малюнках і яшчэ ўсё бясконца загадкавым, панадна таямнічым і ў дробненькай стракатасці, і ў белі старонак тэксту. Адна за адной, адна за адной — за адзін раз ніколі да канца не дагартаешся. І гэта добра так, з тым адчуваннем ціхай, самотнай бясконцасці. Поле бе лае — снег, якому няма канца, поле шэрае — ралля, якая таксама навокал, куды ні зірнеш. І прадчуванне, незразумела шчаслівае прадчуванне красы і сілы слова.

Пазычалі мы той аднатомнік і тады, калі ўжо і я пачаў чытаць, патроху ўваходзіць у цудоўны гогалеўскі свет.

Здарыўся быў з тою кнігай вялікі канфуз. Калі яна была пазычана богведама які ўжо раз, я не толькі сам вельмі доўга не аддаваў яе, але, каб падзяліцца шчасцем смеху, яшчэ і ў школу ўпотай панёс, ужо ў мястэчка, даў яе пачытаць, узяць дахаты аднаму з найбліжэйшых сяброў. Сусед наш не ведаў пра гэта, яму проста апрыкрала доўга чакаць, і ён у нядзелю зайшоў па Гогаля сам. Салідны, нават суровы, як здавалася, дзядзька Есіп, вельмі старанны, працавіты і зборлівы гаспадар. Спачатку мне, нягледзячы на ўсю дарослассць сямікласніка, які ўжо і чуб адмысловы адгадаваў, і вершы пісаў, у якога ўжо, як гаворыцца, кнігі ў сумцы, а дзеўкі ў думцы, прыйшлося ганебна схавацца на гарышчы, сёе-тое там перажыць, пасля адчайна спусціцца адтуль на голас хатніх і — прызнацца. А ўжо назаўтра прынесці кнігу са школы і — наша маці, тады ўжо восьмы год удава, была жанчына строгая — ісці з пазыкай і просьбай яшчэ раз прабачыць.

Найгоршае было, аднак, у тым, што больш пазычаць гэты зачараваны аднатомнік я ўжо не асмельваўся, а Гогаля свайго займець прыйшлося гадоў праз пятнаццаць.

Другую кнігу з сямейнай легенды, «Русскую христоматию» А. Д. Галахава, убачыў я толькі днямі, праз шэсцьдзесят гадоў пасля таго, калі мог бачыць яе несвядома, вачыма дзіцяці, чаго не памятаю.

У адзін з тых чэрвеньскіх дзён 1922 года, калі тыя кнігі, Гогаля і Галахава... Бог мой, у той легендзе пасля адны імёны так хораша, так недасяжна гучалі!.. Калі наш бацька вырашыў іх прадаць і, узяўшы старэйшага з нашай хлапчукоўскай тройкі, дванаццацігадовага Колю, некуды з кнігамі пайшоў, мы ўдвух з сярэднім братам Мішам, яму восьмы, мне пяты год, залезлі ў чужыя слівы. На той паляне на паўднёвай, козыраўскай ускраіне Мінска, дзе гурбамі ляжалі бежанскія манаткі, выгружаныя з таварнякоў, і ад дажджу ды начное зябкасці паўставалі сякія-такія, з коўдраў ды посцілак, буданчыкі. Гаспадар саду накрыў двух нявопытных шкоднікаў у белых адэскіх панамках і прывёў нас туды, куды мы, румзаючы, паказалі. Тут падышоў і тата

(на гарадскі лад — папа), хоць для расправы хапіла б і мамы адной. Аднак ніхто нас, помніцца, не караў, ні па-чужому, ні па-свойму, толькі, відаць, яны ўшчувалі, а мы хімкалі, са страху там ці ад сораму. Найбольш запомнілася, проста-такі да шчымоты на языку, прыкрая кіслата тых цвёрда-зялёных, аскомістых сліў. І яшчэ адно — як мы, мама і я, раней за тыя слівы ці пасля іх, пайшлі купляць хлеб і як, купіўшы, вярталіся. Два незабыўныя адчуванні — сіла і цеплыня матчынай рукі і смак свежага, таксама цёплага сітнага хлеба, кавалачак якога я еў на хаду, можа, і ўпершыню такім спосабам: з шурпаценька-духмянаю мукой з-пад ніжняй скарынкі на ніжняй губе.

Праз шэсцьдзесят гадоў... Чаму ж так зацягнулася мая сустрэча з другою кнігай з далёкай, светлай легенды?.. Проста раней, больш ды менш маладому, не думалася пра пачатак жыцця так часта, як цяпер, калі да ўсяго, што калісьці было, цягне прыгледзецца найбліжэй, ва ўсё пранікнуць, усё сабраць у адно, як перад нейкім, найбольш адказным паходам.

У кнігасховішчах найбольшай мінскай бібліятэкі знайсці Галахава было не цяжка. І вось яна ляжыць перада мной — «Русская христоматия» (іменна так: христоматия) — з усімі яе «описаниями», «рассуждениями», «антологическими пиесами», з усёй абаяльнасцю «яцяў» і цвёрдых знакаў, што ледзь не казачна пераносяць цябе ў больш за стагадовую даўніну і пакідаюць на нейкі час сам-насам з любімымі, зноў нібы пасля доўгай разлукі. Гэта быў, аднак, не па-гогалеўску тоўсты, важкі аднатомнік, як мне здалёк неаднойчы ўяўлялася, а тры, розных гадоў выдання, паасобныя тамы двухтомніка, кнігі вялікага фармату, але не лішне тоўстыя, бо на тонкай, моцнай паперы. Дзве калонкі, густа запоўненыя тэкстам упадборку.

Каб жа такія два гамы ды ў вёсцы мець — у той далёкі, цёмны час,— гэта ж багацце якое, цэлая бібліятэка вершаў і прозы, і рускіх, і перакладных, прычым падабраных, пададзеных так культурна, з любоўю і веданнем!..

Аднак прызнаюся, што легенда, як толькі яна прыйшла на мой стол, амаль адразу неяк паблекла, ці што, нават ледзь не расчаравала мяне... У гэтай хрэстаматыі, што, як сведчыць энцыклапедыя, «складалася пад уплывам педагагічных і літаратурных поглядаў Бялінскага», з якім Галахаў сябраваў, што папаўнялася і дасканалілася ад выдання да выдання на працягу многіх дзесяцігоддзяў, я не знайшоў амаль нічога, чаго б мне не здаралася, з цікавасцю і захапленнем, сустракаць на іншых старонках — і ў малалецтве, і ў маладосці... А разам з гэтым як быццам расчараваннем было і прыемна, што ўсё значнейшае ў рускай і часткова ў сусветнай літаратуры не абмінула

мяне і без Галахава, хоць, паўтараю, я быў бы шчаслівы сустрэцца з ім тады, калі так добра ведаў тугу па кнізе, так прагна шукаў і так няпроста знаходзіў патрэбнае не ў бібліятэках, а ў выпадковых кнігах маёй небагатай і цеснай жыццёвай прасторы.

Было і яшчэ адно адчуванне, з якім я ў сонечнай бібліятэчнай цішыні няспешна гартаў вялікія і тонкахрумставатыя старонкі даўняй, класічнай хрэстаматыі,— інтымная, бо ў кожнага свая, радасць яшчэ адной сустрэчы з тым ці іншым, што цікавіла, што захапляла калісьці. Абрыўкі, промні, прасторы вялікай паэзіі зноў ажывалі, паўтараліся ў душы, як паўтараюцца шчаслівa паасобныя, найярчэйшыя ўсплёскі, абрыўкі найбліжэйшай сэрцу музыкі, што захаваліся ў запасніках нашай памяці і час ад часу выходзяць адтуль, з меншай ці з большай глыбіні, каб пасвяціць ды пагрэць у часамі нялёгкай дарозе жыцця.

Так зноў вярнулася да мяне тая касмічна высокая, казачна неабсяжная, да светлай сцішнаты прыгожая зімовая ноч, такая чароўная ў Фета, у яго гранічнай скупасці, у сіле прастаты:

Чудная картина,
Как ты мне родна:
Белая равнина,
Полная луна,
Свет небес высоких,
И блестящий снег,
И саней далеких
Одинокий бег.

Гэтыя санг ажио падкрэсліць захацелася — так яны бачыліся мне калісьці, і заўсёды, і сёння, так яны многа гавораць...

І такая яшчэ неразгадана абаяльная краса і сіла прастаты, жыццёвасці, ужо ў Нікіціна — ужо не ноч зімовая, з яе таямнічай, урачыста бязмежнай беллю і цішынёй, а росквіт летняй раніцы, з яе сакавіташматфарбным, сонечным рознагалоссем і стрыманай, па-маладому прытоенай цішынёй:

...Дремлет чуткий камыш. Тишь — безлюдье вокруг.
Чуть приметна тропинка росистая.
Куст заденешь плечом,— на лицо тебе вдруг
С листьев брызнет роса серебристая...

Як хвалявала такое, як глыбока расчульвала і ўздымала ў той час, калі ты ўваходзіў у жыццё, калі ты чыстым позіркам бачыў так многа і так ясна ў звычайным, што цябе акружала!..

Зрэшты, чаму «хвалявала», «уздымала», «было»? Было і засталося. Скажам, ніколі я не мог і сёння не магу спакойна прачытаць уголас такое простае, скупое, стрыманае ў Пушкіна:

...Сейчас отдать я рада
Всю эту ветошь маскарада,
Весь этот блеск, и шум, и чад
За стопку книг, за дикий сад,
За наше бедное жилище,
За те места, где в первый раз,
Онегин, видела я вас...

Тут — заўсёды глыбокая, хай сабе мімалётная паўза, каб толькі глыток паветра прыняць, каб дачытаць спакойна да канца:

*...Да за смиренное кладбище,*
*Где нынче крест и тень ветвей*
*Над бедной нянею моей...*

На два апошнія, зноў жа мною падкрэсленыя, радкі спакою таго ніколі не хапала.

На старонках галахаўскай «христоматии» — у вершы Жукоўскага — я нечакана сустрэўся і з тым, у чым, як падлетак, а потым і юнак, толькі прадчуваў найглыбейшую глыбіню, непазбежную мудрасць, якія цяпер, пасля многіх неадхільных удараў і незваротных страт разумею інакш. Настолькі інакш, што да горкага, незагойнага вопыту, да стольніх ужо варыян таў яго нават і дакранацца памяццю балюча. Пакуль не пройдзе на гэты раз, пакуль зноў не супакоішся на галоўным.

Вось ён, той верш, увесь у чатырох радках, пад назвай «Воспоминание»:

О милых спутниках, которые наш свет
Своим сопутствием для нас животворили,
Не говори с тоской: их нет,
Но с благодарностию: были.

Цяпер разумееш, тады прадчуваў... І добра, што прадчуваў. А можа, і ўбачыў, адчуў тады, чаго добрага, наймацней, каб потым вяртацца да тое глыбіні, да таго пранікнення, удзячна асвяжаць душу, з гадамі ды нягодамі ў нечым прытомленую, а ў нечым і апашлелую ад грузу ды мітусні ўсялякай абыдзёншчыны.

Адчуўшы нешта падобнае яшчэ раз, у іншым «Воспоминании», у вершы, якому, здаецца, няма параўнання па глыбіні, да сцішнаты і ўрачыстай, і горкай, і гаю чай, я ўспомніў адзін свой запіс паўвекавой даўнасці, з лістапада 1933 года, калі мне было шаснаццаць, калі здавалася, што ты ўжо грунтоўна сталы, бо за табою столькі ўжо ды такога ўсяго перажытага... Дома, вярнуўшыся з бібліятэкі, я знайшоў той юнацкі сшытак і вось цытую самога сябе, і нібы не самога сябе, бо ўжо такога далёкага, цытую трохі з няёмкасцю, больш са стрыманым хваляваннем, ці што:

«Як я люблю адлучацца ад дому! Неяк адпачнеш, асвяжышся. Сёння ездзілі з Мішам у Стоўбцы. Выехалі ноччу. Прыгожая была раніца. Пустыя, узараныя палі, скошаныя і збітыя жывёлай лугі, стог сена і ціхая рэчка. Над лесам займаецца зара. А мне ўсё ўспамінаюцца цудоўныя, задушэўныя і журботныя словы Пушкіна:

И, с отвращением читая жизнь мою,
Я трепещу и проклинаю,
И горько жалуюсь, и горько слезы лью,
Но строк печальных не смываю».

У запісе, зробленым для самога сябе, позна ўвечары, калі мы з братам вярнуліся з незвычайнага на той час падарожжа (у павятовы гарадок, на возе, дваццаць восем туды і столькі ж назад), стаіць толькі першы радок заключнай страфы геніяльнага верша. Тры далейшыя радкі я дапісаў цяпер для цэльнасці ўражання. А ёсць жа і чарнавы працяг «Воспоминания», які я не толькі ведаў, але ж і часта, для душы, на адзіноце, паўтараў уголас. Асабліва ўражвалі дзве апошнія страфы:

И нет отрады мне — и тихо предо мной
Встают два призрака младые,
Две тени милые,— два данные судьбой
Мне ангела во дни былые.
Но оба с крыльями, и с пламенным мечом,
И стерегут,— и мстят мне оба.
И оба говорят мне мертвым языком
О тайнах счастия и гроба.

Цытуючы гэта, я спачатку праверыў сябе на кнізе. А памяць — і трохі здзіўлена, збянтэжана, і яшчэ ўсё ўпарта — трымаецца за іншае слова ў апошнім радку: не счастия, а вечности —«о тайнах вечности и гроба». Можа, так мне здаўна здавалася больш адпаведным, а можа, я яго, той чарнавы працяг,— што вельмі мала верагодна,— так і чытаў калісьці ў старых, дарэвалюцыйных выданнях? Чытаў жа я ў Пушкіна і іншае ў «папраўленым» выглядзе: «что прелестью живой стихов я был полезен» — замест «что в мой жестокий век восславил я свободу». Не папраўляць жа я такога аўтара асмельваўся, хоць пры юначай дзёрзкасці і такое часамі бывае. Ад глыбіннага зместу «Воспоминания», я, прынамсі, так мне здавалася, не адхіляўся, а ў чароўнай яго красе быў заўсёды на ўсю душу.

Промахі памяці. Большыя, меншыя. Яны мне, бывала, дарагавата каштавалі. І асмяяным бываў, паспрачаўшыся, і заклады прайграваў. Часамі, праўда, перамагаў і я. Справа не ў гэтым. У нядаўна прачытанай кнізе сяброўскіх успамінаў пра аднаго з нашых значнейшых літаратурных сучаснікаў прыемна было і раз, і два разы

сустрэць расказ пра знаёмую і мне прывычку таго таварыша, якога ўжо даўнавата з намі няма. Паэт не быў яшчэ і кампазітарам — ён проста сам складаў мелодыі да ўласных вершаў, любіў іх так спяваць, нават і не самому сабе, а з сябрамі, пры іх дапамозе. Было такое і са мной, з той розніцай, што вершы я мармытаў не толькі свае, а перш за ўсё чужыя, любімыя, і толькі на адзіноце, бо ўжо, калі пры некім ці ў кампаніі, дык толькі ў душы. Памылкі ў словах, промахі нават і маладое памяці былі, але ж было і іншае — шчырая закаханасць.

Адной з такіх, найбольш любімых, песняў было якраз «Воспоминание» — «Когда для смертного умолкнет шумный день...».

На сённяшні вопыт, дык якія ўжо там, у падлетка, маглі быць асабліва «печальные строки» ды «тайны гроба», якія пакуты самааналізу, якое бездапаможнае шкадаванне? Хутчэй проста краса і сіла слова, пачуцця і думкі захаплялі так — з пранікненнем наперад, у тое, што яшчэ будзе перажывацца. Аднак былі, былі яны, пакуты, ужо і тады... Калі памылкі меншыя, дык успрыманне, магчыма, вастрэйшае.

Штосьці такое ж можна сказаць і пра «милых спутников», якіх, на жаль, няма.

Тады, калі я ўпершыню прачытаў гэта ў Жукоўскага, з маіх найбліжэйшых не было ўжо толькі бацькі. Смерць яго была яшчэ зусім свежым успамінам — я назіраў яе зблізку. І як ён нас, трох сваіх найменшых, благаслаўляў апошнім знакам крыжа, які рука яго, цяжка, вяла ўзняўшыся, неяк змагла над намі намахнуць; як галасіла мама, кідаючыся па хаце, пакуль што пустой, у дзве жмені, раз-пораз тузаючы на сабе валасы; як тату мылі, ужо бездапаможна страшнага...

Адыходы іншых блізкіх і найбліжэйшых прыйшлі, адзін за адным, пазней, кожны ў свой час, заўсёды нечакана і балюча, а «тайна гроба» і вечнасці, у маім успрыняцці, як пачаліся тады, так дагэтуль і застаюцца. І з безвыходным «их нет», і з удзячным «были»...

І застаецца таксама здзіўленне перад красой і сілай слова, загадка — таксама на ўсё жыццё.

...Мне было добра над старымі, хрусткімі старонкамі вялікай хрэстаматыі, я светла помню і буду помніць тыя гадзіны ціхай самотнасці за бібліятэчным, а потым яшчэ і за хатнім сталом. Няхай сабе легенда майго маладецтва і раскрылася не зусім так, як чакалася. І ў такім — больш спакойным, калі не сказаць, амаль празаічным — раскрыцці яе я адчуў так нямала мінулых радасцей сустрэч з сапраўднай паэзіяй.

Ды не мінулых, а толькі колішніх. Бо вечнае, аднойчы нам адкрыўшыся, застаецца ўжо назаўсёды.

1982

## НА ШАСНАЦЦАТЫМ

1

У нашай мясцовасці здаўна ў пашане былі коні. Спрадвечнае, «пры панах» гміннае мястэчка Мір, да якога ад нас дванаццаць кіламетраў, славілася не толькі недаразбураным княжацкім замкам, былою вядомасцю двойчы няпісанай сталіцы — цыганскай, на ўсю Еўропу, і старцоўскай, ді не на ўсю Беларусь,— але яшчэ і конскімі кірмашамі. Па панядзелках былі кірмашы звычайныя, а двойчы, на веснавога і на зімовага Міколу, гадавыя, вельмі шматлюдныя, з далёкімі купцамі. Тады жартавалася так: «Ну і кірмаш быў, браток,— што ні пан, то сабака, што ні мужык, то свіння!» Хапала, вядома, і паноў, і свіней, аднак найбольш было коней. Цяпер, праз далеч гадоў і кіламетраў, бачу і чую тыя «Міколавы» кірмашы, На ўсіх шасці гасцінцах, што сыходзіліся ў мястэчка, бачу калёсную ці санную паўзучую чаргу фурманак, з сялянскім таварам, з прадажнымі коньмі ўпрыпрэжку, а ў «агародзе», як называлася месца, дзе тыя фурманкі тоўпіліся пасля, пазадзіраўшы безліч аглабель, чую як па-марскому нястомную, няспынную людскую гаману, бездапаможны віск ды вераск узважваных ді правяраных на «круп» свіней, а больш і галасней за ўсё — залівіста-прызыўное ржанне жарабцоў, неспакойных, вядома, на Міколу першага, вясной.

Коней у сялян куплялі не толькі іншыя сяляне, не толькі гандляры далейшыя, гуртаўшчыкі,— таксама і купцы вайсковыя, раманцёры. Цэны ў гэтых былі шалёныя: здатныя ў кавалерыю кабыліца ці конь каштавалі ў тры разы даражэй за гаспадарскіх, артылерыйск'ія — у два разы, нават абозныя і то разоў у паўтара. Ад бор быў вельмі строгі, аднак рызыкавалі многія і некаторым шанцавала. А князь, у якога быў не толькі гістарычны замак, але і некалькі буйных маёнткаў, бліжэй і далей навокал Міра, у цэнтральным маёнтку, побач з замкам, трымаў конны завод. Жарабцы былі розных парод, ад арабскага ці англійскага «панічоў» да дзябёлых ардэнаў, «шведаў» і краевых цягачоў, якіх найбольш паважалі сталыя, нялёпсія на рызыку гаспадары. Калі ўжо той прыплод і не пройдзе ў высокія цэны, для войска, дык ці сабе, ці на продаж выгадуецца нешта надзейнае ў плузе ды ў возе. Князь князем, а яшчэ ж трымалі жарабдоў і багацейшыя сяляне, і слава пра таго ці іншага стаенніка ішла далёка, руплівыя дзядзькі не ленаваліся весці кабылу кіламетраў за дзесяць, пятнаццадь, а то і больш, з начлегам у той вёсцы.

Я гатоў папрасіць прабачэння ў журботнай памяці мноства бядняцкіх або нядбальскіх коней ды каняжын — заезджаных,

недакормленых, абхвастаных вузлаватымі пугамі, абабітых па сухарэбрыцы, па кантовым крыжы кіямі, клышаногіх ад заўчаснай працы, з дыхавіцай, з макрацом, напаўсляпых і сляпых пакутніц ды пакутнікаў, але... Але і спраўных, дагледжаных коней было тады шмат. І не толькі ў маёнтках, маёнтачках і ў багацейшых сялян. Каторы і небагаты гаспадар, а кабылу сваю так «пяленгуе», што аж равок у яе на спіне, і пугай над ёю ні разу не лясне, а толькі ўсё ласкай ды памаленьку.

Я быў падлеткам, а наш Васіль добра ўжо браўся на гаспадара. Маці яшчэ толькі сеяць яму не давала, святую гэтую работу з урачыстай важнасцю робячы сама. Я ж быў у гаспадарцы яшчэ ўсё «на падхопе», больш каля дому, маме памагаў, і толькі як вазілі гной, у касавіцу, на жніве, на бульбе і мяне выводзілі ў поле. Тады ўжо і я авалодваў канём па-сталаму, амаль як паўнапраўны гаспадар,— ва ўсякім выпадку, так мне, падлетку, здавалася.

У нас тады быў не які-небудзь конь, а гладкая, быстрая кабыліца.

І ў сувязі з ёю помняцца два выпадкі.

Завёз я ў поле воз гною і вяртаўся праз суседаў двор, насупраць нашага. І не сядзеў, як трэба, на возе, адклаўшы адну, збітую з дошак, вусланку сухім, знешнім бокам наверх, спусціўшы босыя ногі паміж пярэднім і заднім левымі коламі. Я фанабэрыста кленчыў ззаду, нават пасвістваў весела і не заўважыў, што ніжняя вусланка пад маімі каленьмі на ямісах пасоўваецца наперад і вось-вось дастане кабыле па задніх нагах. Так і сталася, калі я з нашага поля, праз лагчыну-выбоіну загумешіай дарогі сігануў возам на суседава прыгуменне. Кабыла ўпудзілася. Такое тады здаралася часта — коні пудзіліся найбольш ад вельмі рэдкіх аўтамашын на гасцінцы, дый так сабе ад якога страху, і гэта было так цікава, так страшна для нас, вясковых дзяцей. Я быў ужо не дзіця, я намагаўся стрымаць яе лейцамі, упяўшыся назад, ад чаго тая ніжняя вусланка яшчэ больш даставала кабыле да ног. Мы ляцелі па прыгуменні, па агародняй дарозе і па двары так шалёна, што я не паспеў і спалохацца. Убачыў толькі, як сусед, бравы дзядзька Раман, то махаў перад сабою нейкай ламачынай, то кінуўся да варот, паспеў зачыніць адну палавіну, а сам махнуўся ўбок, да сцяны. Кабыла шухнула ў вузкую, палавінную пройму варот, прарвалася з перад ком, зад воза зачапіўся правым колам за шула, адарваўся і паляцеў налева, а я — направа. Потырч упаў на цвёрды дол ужо не гразкай вуліцы і — першы раз у жыцці — як быццам самлеў.

«Як быццам» — таму, што я памятаў і яшчэ памятаю — тады непасрэдна, а сёння з даўно па-бацькоўску ста лай адлегласці,— як я

ляжаў на зямлі, як мяне прытомніла наша суровая, сухаватая маці. Яна кленчыла побач, паднімала мяне аберуч пад галаву і плечы, цалавала і плакала:

— Міша, сыночак, не трэба! Не трэ-ба!

А я, здаецца, усміхаўся, пачынаў усё разумець, мне было добра, я быў шчаслівы ад такой, яшчэ дзіцячай, радасці.

Тады было так, а сёння гэта бачыцца мне не проста расчулена пастарэчы — я цяпер тое «не трэба» чую і разумею інакш...

Такім было развітанне з маленствам.

Другі выпадак.

Васіль наш захварэў, не ўставаў ужо чацвёрты дзень. І вось я сам ужо, як гаспадар, вадзіў кабылу да жарабца. У князеў двор.

Мы ўжо адтуль вяртаемся. Я сяджу на возе, перада мною, збоку ляжыць непатрэбная пуга. А кабыліца, прыкметна паспакайнелая, то тупае спраўнай, спорнай ступою, то легка, імкліва рысіць, толькі крані ляйчынай ці цмокні, а то і самахоць, асабліва як з горачкі. Яшчэ і папырхвае весела.

А я ўспамінам перажываю сваё зусім нядаўняе, толькі тры кіламетры назад, хваляванне.

Калі я пасля ўсяго зайшоў у Князеву канцылярыю, каб выпісаць пасведчанне, мяне накіравалі да століка, за якім сядзела маладзенькая паненка. У той час кожны, хто чыста апрануты ў будзень, здаваўся і называўся панам. Тая паненка — чарнявая, у бе лай кофтачцы, нізка адкрытай над грудзьмі.

А мне — пятнаццаты. Я многа працаваў, але ж і чытаў нямала. Сярод выпадкова знойдзеных кніг траплялiся і такія, дзе мне не ўсё было зразумела, хоць і цягнула ў тую панадную, таямнічую незразумеласць. Жанчына таксама была яшчэ недзе далека — тая, што будзе маёй, аднак уяўляць тое наша, што калісьці прыйдзе, было то нясцерпна, хвалюючa соладка, то ад пэўнай прыблізнасці прыкра, то зноў паэтычна, і таямніча, і радасна. Шчасце расло ў маёй душы, паўнапраўная маладосць спакваля падкрадалася мужнаю сілай, а збоку гледзячы — я быў і сарамлівы трохі, і вуграваты, і ніштаваты з выгляду хлопец.

А чарнявай ды паўнагрудай паненачцы гэта было як быццам зусім нецікава. Яна пісала, запаўняла бланк, на якім я, праз нечаканую тут гарачыню хвалявання і нейкага сораму, бачыў буйныя польскія літары друкаванага загалоўка: Świadectwo pokrycia. У маім уяўленні яшчэ так свежа і неспакойна жыло зусім нядаўняе відовішча красы і сілы, а цяпер на тое, што было, гарачай хваляй ішло ўяўленне новае. Я стаяў над сталом, маладое, цыбатае, расхваляванае боўдзіла, і, калі

яна, узняўшы позірк ад паперыны, спыталася, як маё прозвішча і як завуць маю «кляч», ледзь прыпомніў другое, ледзь вымавіў такое простае, ніколі яшчэ не пісанае: Каштанка...

Наступнай вясной у Каштанкі ўжо быў жарэбчык, па бацьках каштанавай масці, бо і яго панічык тата, англічанін «огер Джон», як стаяла ў пасведчанні, быў такі самы.

Шэсцьдзесят пяць гадоў — гэта многа. Прасцей акінуць іх вокам з канца да пачатку, непараўнана цяжэй, складаней было жыць дзень за днём, калі не лічачы іх, а калі дык і дробячы на мінуты, секунды. Пад снарадамі ў акопе, у бяссоннай трывозе за жыццё кагосьці з найбліжэйшых... Я многіх блізкіх перажыў, нямала пахадзіў ды паездзіў, паплаваў ды палятаў, пабачыў многа featuring рознага, у тым ліку, вядома, і добрага, прыгожага. І сярод гэтага ўсяго мне іншы раз светла і цёпла згадваюцца нашы бяскрайнія лугі ў раскошнай квецені, ціхая, чыстая рэчка майго пачатку. А ў гэтай рэчды, у павольнай, ласкавай у паўдзённую спёку вадзе плыве наша быстрая красуня, наша работніца Каштанка. Шчаслiва, вольна плыве, толькі папырхвае над вадой, выцягнуўшы крутую шыю, храпай нібы п'ючы тую ваду, нібы гулліва цмокаючы асцярожным пацалункам. А побач з ёю плыве яе першы сынок. Такі яшчэ нясмелы, што мне прыйшлося піхнуць яго з берага ў ваду, такі яшчэ безабаронна трапяткі, а ўжо так хораша, адразу так свабодна, сам па сабе ўмеючы тое, чаму мы, людзі, змалку і часамі доўга вучымся.

З павадамі ў руцэ я плыву побач з маткай і сынам. Таксама шчаслівы.

2

У тыя дні, калі я сам даўно ўжо быў не дзіця, аднак мне яшчэ вельмі далека было да шчасця бацькоўства, любіў я сябраваць з суседскімі малымі. Яны гэта адчувал!, і ад іх было, як часамі казала наша маці, не абагнацца, каб і хацеў. А я, вядома, не хацеў. Яны дапамагалі мне і працаваць, і есці, ахвотна і спалі б са мною, асабліва ўлетку, на сене, кал і б іх не клікалі ды не гналі дахаты.

Іх было трое. Валодзя, найменшы сынок бравага дзядзькі Рамана, асірацелы яшчэ тады, калі ён гэтага не разумеў. Маму яму сяк-так замяняла сястра, гультаяватая Люба, і ён, як збоку здавалася, быў недагледжаны, з нямытай, нястрыжанай галавой, нейкі заўсёды галаднаваты, спадцішка вясёлы, разумны пяцігадовы хлапчук. Другая была Валя, таксама сірата, ужо без бацькі. Чатыры гады і худзенькая, але гэта ўжо не ад нядогляду, а па такой прыродзе. Светлыя валасы і вялікія сінія вочы. Добра запамінала ўсё і, па маме сваёй, была

галасістая. Папросіш, і яна пачне спяваць. З усёй дзіцячай шчырасцю ды сур'ёзнасдю, і голасна, як птушка, якой гэта трэба, як быццам і не звяртаючы ўвагі на тое, слухаюць яе ці не. Песні былі дарослыя, маміны, і гэта неяк расчульвала сваёй неадпаведнасцю, заўчаснасцю для такога благоцця. А трэці быў Толя, першы, шчаслівы сынок Пронь'кавай Зосі, нашай маладой суседкі. Шчаслівы не проста таму, што ў яго былі і мама, і тата, і бабуля, але таму, што мама такая, як у нікога іншага...

Ды гэта ўжо думкі не ягоныя — мае.

Толю было два з нечым гады, у тройцы маіх сяброў ды памочнікаў ён быў малым і для Валодзі з Валяй, і так мы ўсе глядзелі на яго, на нашага найменшага, вясёленькага, шустрага, чарнавокага пестуна. 1 Валодзя, і Валя, як ім зусім сур'ёзна думалася, былі ўжо далека ад таго, чым быў мілы наш найменшы, і яны разам са мной, а часамі і з Васілём, і з мамай паблажліва і прыемна смяяліся з яго ўсё новай ды новай пацешнасці. То ён ката возьме аберуч за вушы, і смачна раз і два, а то і тры разы, калі паспее, цмокне ў самую сонна-муркатлівую, нездаволеную гэтай ласкай пысачку. То ён, абедаючы ў кампаніі са мною, Валодзем і Валяй, з адной місы дружна чэрпаючы бульбяны забелены «булён», раптам кідае лыжку на стол і — тыц у місу зноў жа аберуч. Бо там мільгануў, перавярнуўся і знік, у белым — чырвоны, салодкі скрылік морквы, і нельга ж не схапіць яго самым надзейным спосабам, хоць скрылік той і не адзін. А колькі пытанняў у яго, бясконцых і мілых, дакучлівых і зноў пацешных: «А хэта што, ха? А чаму хэта, ха?» І свая, непаўторная словатворчасць. «Толя, чаму ж ты болей не ясі?» Ён тады зноў за лыжку і радасна: «Я ясю!» На цвік казаў ён ціка, а на мала ток — цюка, што так дасціпна, дакладна іiпло ад цюкання тым малатком. Замест люблю — любум, замест не магу — мугугу. І зноў якое-небудзь: «Міся, ха? Ты зловіш мне верабея?..»

Я ўжо быў на шаснаддатым годзе, аднак любаваўся жыццём разам з гэтаю тройкай, многае бачачы нібы іхнімі вачыма, а каб выказаць радасць, карыстаўся і тым, што ўжо даўно адчута і прыдумана, што мне вядома было з кніг і ад людзей, карыстаўся і тым таксама, што хацелася зрабіць самому. Дзе не хапала да вершаў мелодыі, «падбіраў» сам. І сам складаў для малых, а потым для сябе запісваў, вершыкі пра кумавераб'я, пра шпака на бярозе, яшчэ пра нейкую радасць. Няхай сабе тыя «творы» мае і непрыгодаыя, каб тут іх паўтараць, але тады яны і слухачам, і аўтару падабаліся. Дзеці запаміналі іх, лепш Валя, горш Валодзя, і гэтай славы ці проста радасці мне хапала. Дзецям гульні — таксама. Як хапае кіёчка замест каня — і таму, хго так едзе і хто гэтым любуецца.

Толя да нашай самадзейнасці яшчэ не дарос, яму заўсёды было цікава ды весела і з гэтым, і без гэтага. А я, зверху любуючыся ім ці беручы яго на рукі, часта лавіў сябе на тым, што любуюся не проста мілым хлапчуком, але сынам яе, нават цераз яго — ёю самой...

Тым больш і люба, і пакутліва, і сорамна, і зноў — найбольш! — хвалююча гэта бывала для мяне пасля аднаго здарэння. Нават і не са мной здарэння, а з Васілём.

Ён ужо быў дзецюком, кавалерам, хадзіў да дзяўчыны ў суседнюю вёску. Са мной, па нашай даўняй прывычцы, ён дзяліўся ўсім патаемным, якое, зрэшты, дайшло ў яго тады толькі яшчэ да пацалункаў. І ён не разумеў, відаць, што гэтымі расказамі не выводзіў мяне ў сталасць, а дадаваў маёй адзіноце трывогі, пакуты, зайздрасці, спякотна-тужлівага чакання. Я не ведаў, як у яго, а ў мяне, у маім патаемным, было і такое, Што заставалася толькі маім, і падзяліцца гэтым нават з ім, не проста братам, але і другам з маленства, было нялёгка. Скажам, пасля той леташняй збянтэжанасці ў князевай канцылярыі я расказаў Васілю пра паненачку і мае хваляванне, аднак не ўсё расказаў. Без таго, што за ёю, чарнявай ды паўнагрудай, у тым складаным, і чыстым, і брыдкім хваляван7 ні стаяла для мяне другая, непараўнана мілейшая — мая яна, суседка Зося, што потым яна яшчэ больш ярка і шчасліва мучыла мае ўяўленне... І такога не скажаш, нават яму, Васілю, што мне часамі, узяўшы маленькага, шчабятлівага Толю на рукі, хацелася пацалаваць... Ну, не проста яго, не так, як цалуюць малых, як я, дарэчы, ніколі не цалаваў ні Валодзю, ні Валю, а праз яго, Толіка,— яе, зноў жа яе, яго маму.

Яна прыйшла за Проньку з далёкай вёскі. Тады маладзенькая, сарамлівая, цяпер і памажнелая і пасмялелая ў хаце і з людзьмі. Пасля Толі пагодкам нарадзілася дзяўчынка, а Зося зноў была прыгожай, маладой, як і раней, і ў новай сталасці са сваёй, назаўсёды дадзенай, мілай, як быццам дзіцячай усмешкай, якую ўзяў ад яе, і так хацелася, каб назаўсёды захаваў яе Толік.

У панядзелак, пасля чарговага паходу да свае Зіны, Васіль не пра яе расказаў мне яшчэ што-небудзь, а расказаў... пра маю... пра Зосю... Не думаючы, што вось ён яшчэ раз залез у мае патаемнае.

Васіль ішоў Раманавым дваром, потым па агароднай дарозе, а тады, штосьці заўважыўшы, спыніўся пад вішняй.

Што ж ён заўважыў? Ды нічога незвычайнага. Быў ранні пагодлівы адвячорак, нядзеля, прыемная пара, пярэдых паміж сенаваннем, якое закончылася, і жнівом, якое вось-вось пачнецца. Стараваты, як мне здавалася, Пронька па-свойму спакойна і важна ішоў са свайго двара ў прыгуменную адрыну. Не бачачы Васіля,

адчыніў палавіну дзвярэй, увайшоў туды, знік, а дзверы засталіся прыадчыненыя.

Сюды ж, аказваецца, ішла і Зося. Нібы чагосьці там, у хаце, не закончыўшы, а то і знарок не надта спяшаючыся («Вытрывае, вельмі ўжо загарэлася»,— як за яе падумаўшы, сказаў мне Васіль), яна ішла за мужам зводдаль. На свежае сена, у вольную волю, бо дзе ж там — у людной хаце ды ў белы дзень...

Адрынку з сярэдзіны зачыніла яна. А пакуль зачыніць, пакуль зусім не звузілася шчыліна паміж дзвюма палавінкамі шырокіх, шэрых дзвярэй, Зося ўсміхнулася. Заўважыла пад вішняй Васіля і ўсміхнулася. Ужо як сталаму, які ведае, што да чаго, аднак і маладзейшаму не толькі за Проньку, але і за самую яе: хоць ты ўжо і дзяцюк, ды шчасце такое, як наша, звычайнае, спакойнае, табе яшчэ недаступна...

«На трэцяе былі, відаць, закладзіны»,— закончыў свой расказ Васіль. І гэта не здалося мне, калі пасённяшняму ўспамінаю, грубаватым, але вельмі змястоўным — было. Зайздросным, раўніва пакутлівым — таксама.

І вось тады, у тыя дні са мною адбылося страшнае, дзеля чаго я наогул усё гэта ўспамінаю.

3

Ад рання я быў у полі, даворваў папар пад жыта, на восень, вярнуўся ў самы пачатак спёкі, выпрагаў з плуга (на санках) Каштанку, а мой найменшы сябрук круціўся каля мяне адзін, без Валодзі і Валі. Прыбег, бо быў якраз на вуліцы. Толя не «памагаў» у чымнебудзь, са сваімі бясконцымі «што хэта, ха?», а вельмі ж нешта раздурэўся. Спачатку ён, смеючыся, бегаў вакол жарабяці, якое таксама стамілася на ворыве, то гойсаючы там, то поўзаючы побач з маткай за плугам, і было вялаватае, нават і потнае. Потым Толя забегаў вакол Каштанкі і мяне. Я быў штосьці задуманы і не заўважыў, як ён, збочыўшы з круга, скокнуў кабыле пад жывот і, выскачыўшы на другі бок, радасна, пераможна крыкнуў:

— Міся, глядзі!

Я вінаваты быў, што не спыніў, не паўшчуваў яго, і ён, нібыта разгуляўшыся паміж ножкамі стала, шмыгануў пад Каштанку зноў. І ўжо не проста пад жывот, а з-пад жывата паміж задніх ног. Стомленая, злосная ад мух кабыліца капрызна трэпнула нагой, і Толя паляцеў ад яе — збоку ад плуга. Я рвануўся да яго, а Каштанка, з яшчэ нязнятым хамутом,— ад нас. Як быццам са страху: чаго нарабіла!.. Малы — на зямлі, пад нагамі — зайшоўся ад плачу, заліўся

крывёю... На мой страшэнны крык прыбег сам Пронька, бо дома ў нас нікога не было. Ён моўчкі схапіў Толіка з маіх рук і подбегам панёс дамоў.

А я, ужо не памятаючы не толькі пра кабылу з жарэбем ды пра плуг сярод двара,— нічога не памятаючы, пайшоў чамусьці да гумна.

У пустым, падрыхтаваным для новых снапоў прыстаранку, ад мышэй засланым церпка-духмяным палыном, я вяла лёг вачыма ў той палын і, нічога не бачачы, не чуючы, паўтараў:

— Я за-біў ча-ла-ве-ка... Я за-біў ча-ла-ве-ка...

Паўтараў і трымаўся за гэтыя бездапаможныя доўгія словы, як быццам нацягнутыя вяровачкай, сям-там перацёртай, нацягнутыя назаўсёды над чорнай ужо прорвай, паўтараў і нібы ў іх, у слоў гэтых, прасіў паратунку.

Павінна была прыйсці Толева бабуля, жміндлівая «мая каманда», і праклясці мяне самым апошнім праклёнам. І я нават не варухнуўся б у сваім палыне.

Павінен быў прыйсці важны Пронька і, як бацька, забіць мяне тут. І я не падумаў бы абараняцца або крычаць.

Павінна была прыйсці сама яна, Зося, і ў мяне не знайшлося б ні духу, ні сілы, каб устаць і зноў упасці — да ног яе, ногі ёй цалаваць...

Ніхто не ішоў.

Хоць бы ўжо маці наша прыйшла напаследак, але ж яна яшчэ там усё недзе, у цёткі Агаты, сваёй сястры, што захварэла цяжка ў сваіх Несутычах.

І прыйшоў мой Васіль, што ездзіў з дзядзькам Раманам у Мір, прадаваць вішні, і вось якраз — як жа дарэчы! — вярнуўся.

Васіль таксама многа чытаў. Днямі ён з нейкай, як заўсёды, выпадковай кнігі (цяпер не памятаю ўжо, з якой) вычытаў мянушку для мяне, яшчэ ад ну, нязлосную і толькі нашу, смешную для нас двух.

— Ганс-бублік,— сказаў ён,— не плач! Толя жыь вы. Адно па лобе трошкі шкрабанула. Уставай!

Толькі тады я заплакаў.

...Якое шчасце! — я не забіў, ён і сёння жыве, толькі з ледзь-ледзь прыкметным рубчыкам на разумным ілбе матэматыка. Мы сустракаемся рэдка, але прыемна. Толькі ні разу за сорак гадоў не сустрэліся ў нашай вёсцы, дзе ўжо нікога ў нас абодвух не засталося, а ўсё тут, у горадзе, дый то больш па тэлефоне. Адносіны ў нас сталыя, бо і яму ўжо за пяцьдзесят, але ж і сёння ў мяне, нібы калісьці з Васілём, ёсць, і толькі сваё, патаемнае. Не сказаць жа яму, што падлеткам я быў закаханы ў ягоную маці, цяпер даўно ўжо бабулю, што дажывае недзе пры адной з вясковых дачок.

«Быў закаханы...» А ці ж яно — усё тое — зусімзусім прайшло?..

Вось жа і сёння я не той свой жах успомніў адразу, а ці не раней за яго — тую ўсмешку, хоць і не мне, праз дзверы, што зачыняліся з сярэдзіны.

Чаму ён, гэты ўспамін, які мне зрэдку пабліскваў калісьці ў маладзейшай памяці, цяпер паўтарыўся, нібы зусім не пабляклы ад часу?

Учора бачыў я хлопчыка на руцэ ў маладзенькай і маладосцю сваёй сімпатычнай мамы. Мы стаялі ў магазіне самаабслугоўвання, у чарзе да касы. У правай руцэ маладой гаспадынькі, што стаяла перада мною, быў металічны кошык з хлебам, маслам і пакетам малака, а на левай яна трымала малога. Яго чарнявая галоўка была, над маміным плячом, навернута тварыкам да мяне, а мама не азіралася, і твару яе я не бачыў. Толькі профіль мільгнуў разы два.

Малы, які пакуль што ведае, відаць, адно-два-тры першыя словы, так пільна прыглядаўся да мяне, і смех так міла хадзіў па ягоных губах і вачах, што я, ледзь не міжволі, падміргнуў яму. І ён, нарэшце, усміхнуўся. А мне прыгадалася раптам яшчэ падлеткам сустрэтае ў Лермантава: «Воздух чист и свеж, как поцелуй ребенка». І любоў да дзяцей, асабліва бацькоўская, непасрэдна найшчаслівейшая, быццам уся адразу, як сонечны, буйнакраплісты дождж на траву і лістоту, вярнулася да мяне.

Маладзенькая маці малога мне, вядома ж, не ўсміхнулася. Мне гэта ўчора як быццам і не патрэбна было. Зрэшты, твару яе я так і не ўбачыў, а ўсмешку хлопчыка, адрасаваную мне, не бачыла яна.

Затое праз усмешку, чыстую і свежую, як пацалунак дзіцёнка,— як ні дзіўна, а то і недарэчна, няскромна здасца каму-небудзь,— я зноў убачыў усмешку тое матулі, нашай вясковай суседачкі Зосі, убачыў амаль па-юнацку хвалююча, сёння здаецца — усё-такі чыста.

*1983*

## СУМЛЕННІЦА

Новая хата, у якой мы часова жывём, чыстая і абстаўлена, як і ў многіх у гэтым пасёлку, «па-гарадскому»: з сервантам, канапай, тэлевізарам. На вялікіх вокнах — крухмальная пругкасць і снегавая бель гардзінаў, за якімі высока чырванеюць вяргіні, а далей відаць зялёнае — грады, яблыні, лес.

Туды, па чабор, пайшлі мае жанчыны, жонка з малою ўнучкай. А я сяджу, нарэшце, за сталом. Як быццам пішацца, нешта жывое пачаў... І не пачуў, як хтосьці за сцяною ўвайшоў, двойчы легка рыпнуўшы дзвярыма, з двара на ганак, а з ганка ў кухню. Пачуў я ўжо толькі го лас адтуль, жаночы:

— Ёсць тут хто ці нікога няма?

З прыкрасцю адарваўшыся ад работы, выходжу насустрач. Незнаемая цётка, хутчэй бабуля, з кошыкам яек. Вітаемся.

— Ваша хадзяйка да мяне, на мой хутар, заходзі ла. Заплаціла за чатыры дзесяткі, а толькі два ўзяла, бо якраз не было. Курачкі зноў наняслі, а яна не ідзе колькі дзён. Дык я во свежанькіх, яшчэ два дзесяткі.

Па цётцы відаць, што ёй не толькі трэба доўг аддаць, але ж і пагаварыць — і ёсць пра што, і хочацца. І праўда, не паспеў я запрасіць яе прысесці на белай табурэтцы каля кухоннага стала, накрытага вясёленькай цыратай, як цётка прысела сама і мне сказала, нібы гаспадыня:

— Сядзь, мой родны, ды паслухайце мяне.

Адразу так — і на «ты», і на «вы».

— Цяпер яно во як — вы чулі, відаць,— калі ў каго на фронце нехта загінуў, дык да пенсіі пяць рублёў дадаюць. Я са сваім жыла за польскім часам тры гады нявенчаная. Тыя разы казалі пра мяне: «Вунь пайшла сумленніца». Мы з Іванам нейкія трохі сваякі былі, ужо далёкія, можна было павянчаць. А поп то вянчае, то не вянчае. Мы з дзедам жылі Іванавым, так! ўжо стары, што хоць запалкі ад яго хавай. Павязем таго дзеда да бацюшкі, а дзед усё лічыць і далічыцца не можа, трэцяя мы стрэча ці другая. І ўжо толькі тады... Не, перад гэтым яшчэ, як Саветы прыйшлі першы раз, улетку мы павянчаліся.

Гаворыць цётка — як сабе самой, пра сёе-тое трэба здагадвацца. І я, тутэйшы, здагадваюся. «Прыйшлі першы раз» — гэта верасень трыццаць дзевятага, другі раз — ліпень сорак чацвёртага, другое вызваленне.

Значыцца, павянчаліся.

— Дык на табе,— вядзе цётка далей, як загадзя падрыхтаваўшыся

да гутаркі са мной,— цяпер тое кнігі царкоўнае ў загсе няма! Няма во, не знайшлі. Майго забілі не там, дзе на той Берлін ішлі, а збоку. Ён са шваграм Яўхімам быў, кулямётчыкі. Швагра пад вечар ранілі, сем месяцаў у госпіталі праляжаў. А мой яшчэ зранку крыкнуў яму: «Я ўжо гатоў!..» А звяшчэння я ніякага, мой родны, не палучыла. Сяджу ў таго ваянкома. Маёр такі. Харошы, відаць, чалавек. Колькі ж гэта во, кажу, пасля вайны ўжо? Трыццаць пяць гадоў, кажа ён. А божачка, кажу, я за гэты час зарабіла сабе пенсію, дваццаць восем рублёў, а ён колькі там зарабіў, мой Іван? Пяць рублёў мне прыслаў. Дый тыя я, тую дабаўку, паку ль палучаць буду, колькі яшчэ валакіты! А ён жа ў мяне во і ў грудку калісьці быў...

Тлумачэнне патрэбна зноў. «Быў у грудку» — значыцца, у гуртку стотысячнай Сялянска-работніцкай грамады. Дый потым, відаць, калі пілсудчыкі разграмілі яе, чалавек усё волі хацеў, жыцця чалавечага.

— Ён усе кнігі чытаў. І тоненькія, і таўсцейшыя. Араць паедзе, ляжа пад возам ды чытае. Або ноччу слепіцца, газоўку на акне паставіўшы. Колькі яго, мой родны, у тым пастарунку біла паліцыя! А цяпер я сказала б яму: «Во заслужыў, Іванка,— пяць рублёў. Ды яшчэ і хадзіць колькі трэба!..»

Дзве няўвязкі з гэтай дабаўкай: двух дакументаў няма. Аднаго — што не толькі яна жыла з мужам, як гаварылася ў той далёкі ўжо час «напавер», але ж і ўзаконіла потым сваю любоў, сваю дружбу вянцом. Пра такую ўзвышанасць — любоў ды дружба — яна не гаворыць. Не называв, не можа назваць і тую паперку, што так звычайна, калі яна ёсць, называецца: «Пасведчанне аб шлюбе». А тую страшную паперыну, якую цётка з фронту чамусьці не атрымала, як іншыя салдаткі, яна называв «звяшчэннем». Таксама не можа яе прад'явіць — няма і гэтага дакумента.

— Дурная баба, што вы хочаце,— з крывой усмешкай прыплачу кажа яна. Нават і торкае сябе пальцам у лоб, ужо ў баразёнках, пад белай хусцінай, завязанай «пад бараду».— Кажу во я таму суддзі: я ж у Карэлічах, колькі жыву, ні разочку раней не была. Хай сабе сорак кіламетраў, але ж аўтобусы цяпер. А тады ж, за польскім часам, толькі на возе ці пехам. Тыя разы не пра Карэлічы, а пра наш Мір, дзесяць тых кіламетраў, і то маломy табе кажуць: «Чаго ты прэшся, чаго кавэнчышся на той кірмаш? Там жа, хто першы раз прыедзе, трэба, гэта ж во, пацалаваць старую, замурзаную Гнэсю, што каламазь прадае...» Кажу я так, а ён смяеццадой суддзя. Харошы, відаць, чалавек. А на дзевак тых накрычаў: «Чаго вы бабу гэтую валнуеце! Дайце ёй спраўку!» І далі, нябось. А то ж не давалі! Кожная ж хоча цяпер, каб ёй што даў, ці цукерак якіх, ці грошай сунуў...

Цётка змоўкла, як быццам сказаўшы ўсё. Здаецца, пойдзе ўжо. А яна памаўчала, сама сабе ўсміхнулася:

— Сяджу. І ты сабе думаеш: а чаго яна, гэтая баба, расселася? Там жа ж карова з ранак прыйдзе, на веснікі будзе раўці. І свінчо галоднае заскавычацца.

— А вы што — адна жывяце?

— Адна, мой родны.

Зноў памаўчала. А потым:

— Дачка ў мяне... Ужо ж і пра гэта вам раскажу. Гэта калі вайна пачалася, дык той дзіцячы дом, што быў тут у нас, дзе раней панаў маёнтак быў, увесь разбегся. Дзеткі сабе, і тыя, што іх даглядалі, сабе. А малая дзевачка адбілася ад усіх, адна хадзіла па хатах. Хто што дасць. І не просіць, а стане, беднае, і глядзіць, і маўчыць... Летам дык яно ж кожны кусцік начаваць пусціць, а пачалася восень — ніхто малую ўзяць не хоча. У каго і сваіх хапае, а хто і баіцца, каб немцы не прычапіліся. Яны ж, і самі вы, мой родны, можа, ведаеце, чапляліся да ўсяго. Ні за што ні пра што чалавека застрэляць або здароўе адбяруць. І яны, і тыя іхнія паліцаі. Мой таксама ж баяўся, можа, больш за каго. Усё праз тыя свае грудкі ды праз кнігі — што камуніст. Але ж ён будзе мне так казаць: «Як гэта — каб дзіця, ды так пакутавала!..» А я, не буду вам ілгаць, я браць чужое не хацела. Яшчэ ўсё думала, што будуць і свае. Бо колькі ж мы былі пражыўшы — толькі два гады.

А потым узялі. І ён наважыў, і я ўжо згадзілася. Стаіць бедная ўся ў лахманах, і вошы з яе капаюць... Божачка ж мой, пакуль я яе ад той нечысці, ад той каросты адмыла, адмазала!.. А такое ж, мой родны, дзіцятка было! «Папка» ды «мамка»... Усё паможа табе. Сама ніколі нічога не возьме. Маруся...

Цётка змаўкае, як не ўсё сказаўшы. То нібы ледзь не заплакала, то зноў вось усміхаецца. І я пытаюся:

— А дзе ж яна цяпер?

— Дзе, кажаце, цяпер? Дзе усе. Мая ж не горшая за ўсіх — у Мінску. Медсястрою! У той бальніцы робіць, што адразу, як з аўтобуса. Грэх, мой родны, сказаць што на яе. У каго дык і роднае не такое. Калі дома, са мною была, дык і ў хаце ўсё, і ў агародзе, і ў калхоз, калі трэба, хадзіла. Прыеду цяперака да іх, дык не ведае, дзе мяне пасадзіць, чым мяне частаваць. Целавізяр гляджу, дык яна мне талерку нясе або чай, каб я ўжо не адрывалася. І дзеткі да мяне, і Лёня, і Жаначка, і сам яе чалавек вельмі добры. Валодзя. Слесарам ён. Самастаяцельны такі, спакойны, і чарцы не жадзён, як гэта сённячы другія. Хараша жывуць.

— Вас да сябе не клічуць?

— Каб раз! Але сама я не хачу. Чаго мне там, у той скварэшні іхняй, пад саменькім небам? Ці ў вочарадзі той таўчыся? Не ведаю, можа, калі і паеду. А то ж, пакуль яшчэ трохі здаровіцца, я сама сабе пані.

— А да ўнукаў не хочацца?

— Яны ж да мяне прыязджаюць. Гэта во ўжо цяпер, як выраслі, дык Жаначка недзе ў той Крым. Студэнтка ўжо яна, дык разам з усімі, у нейкі там саўхоз. Вінаград, будзем ірваць, ды ў моры хоць накупаюся. А Лёнік на афіцэра ж вучыцца, курсант. Ён — калі пусцяць. Аж у Сібіры недзе. А як малыя былі, дык жа кожнае лецечка ў бабы. І поле тут, і лес, і па траўцы, і малако. Дый у вёску ж недалёка, і да Немана...

— А Маруся з Валодзем?

— Бываюць. Бываюць...

Памаўчала сумленніца. А тады:

— Маглі б і часцей прыязджаць. Не толькі ўлетку або раз ці два зімой. Але ж яно, мой родны, кожнаму сваё, свой клопат... Ну, я такі пайшла. Не шніце, дык я й сама. Напляла тут табе кашалёў. Бывайце здаровенькі!

*1983*

## ЧЫТАЮЧЫ...

У жыцці — то звычайныя будні, то нейкае свята. Будняў непараўнана больш. Чалавек бывае то ў будзённым, рабочым адзенні, то зрэдку ў святочным.

Што да салдатаў, дык яны бываюць святочнымі не ў вайну. І толькі наіўна-недаросламу або даросла-недалёкаму чалавеку салдацкі шык можа здавацца выглядам заўсёдным, абавязковым. Непарадныя будні вайны непрыгожыя, рэчаіснасць вайны агідна-жахлівая.

Тую вайну, што канчалася ў маім маленстве, першую сусветную, я ўяўляю па расказах і апісаннях.

Расказаў былых удзельнікаў паслухаўся я раней, чым начытацца апісанняў той вайны, мастацкіх і немастацкіх, раней, чым убачыць адлюстраванне яе ў фатаграфіях і малюнках, у дакументальным і мастацкім кіно.

З апісанняў, найпазнейшых па часе іх прачытання і наймацнейшых па нявыяўленым, падтэкставым, і выяўленым, адкрыта значным змесце кнігі двух, у ідэйным сэнсе полюсна супрацьлеглых, аўтараў. Поршы — Эрых фон Людэндорф, славуты генерал, што быў адной з наймацнейшых апораў кайзера Вільгельма, а потым яшчэ і падпоркай дэбютанта Гітлера. Другі — Яўген Віктаравіч Тарле, савецкі вучоны сусветнай вядомасці, гісторык і публіцыст з глыбокай эрудыцыяй і бліскучым літаратурным стылем. У першага аўтара — «Мои воспоминания о войне 1914-1918 гг.», у другога — «Европа в эпоху империализма. 1871-1919».

Фотасведчанні, зноў жа апошнія па часе майго з імі знаёмства,— у тагачасных часопісах, розныя па сваёй свядомай ці больш несвядомай адноснай аб'ектыўнасці. На пажаўцелых старонках — будні рускіх і саюзных салдатаў: французскіх, англійскіх, амерыканскіх, а таксама, хоць і ў меншай колькасці, салдатаў варожых: нямецкіх, аўстра-венгерскіх, турэцкіх. Тыя, каго прымушалі забіваць адны адных масава і адзін аднаго паасобку, чорнарабочыя вайны, людзі працоўных нізоў, раней ці пазней узятыя на вайну, усюды і ўсе, нягледзячы на намаганні фотакарэспандэнтаў прыгладзіць, упрыгожыць іх ненатуральны побыт, усюды і ўсе яны, дзеці розных народаў, выглядаюць па сваіх пазіцыях зусім непарадна, будзёпна, а ўсё ж не на ўсю сілу праўдзівасці рэальна.

Найбольш будзённасці ў параненых, інвалідах, палонных,— у людзей, вызваленых ад дурману дысцыпліны.

Як гэта лёгка было з кожнага будзённага салдата рабіць карыкатуру, нашым мастакам з варожых, а варожым з нашых!..

Рэальнасць іхніх цяжкасцей і пакут цяжка ўявіць, не паспытаўшы гэтага ў той ці іншай меры самому. Хіба толькі маці адчуе іх сэрцам. Згадаем міжнароднае, спрадвечнае: «І мой жа там...» Хіба толькі сапраўдны мастак, адораны сілай сардэчнага пранікнення ў глыбінную сутнасць жыцця, зможа ўявіць ці сваіх найбліжэйшых, ці самога сябе ў гразкіх, халодных, галодных, вашывых акопах, пад артагнём, пад кулямі ў чыстаполіцы, у пакутах раненняў, на подступах да смерці... І ў мастакоў слова зачаста бывае не поўнасцю тое, што трэба, каб па-сапраўднаму ўявіць жахлівую праўду вайны, далёка не кожны з іх мае права сказаць пра сябе, як у Міцкевіча: «Завуць мяне мільён, бо я за мільёны цярпець катаванні мушу». Аднак жа пра гэта трэба думаць і дбаць кожнаму з нас, бо інакш наша слова будзе і пустацветам і пустаколасам.

Нават калі вайна мае разумную мэту, калі яна справядлівая, салдату, простаму чалавеку, трэба гэта разумець. А дурная вайна? «Чаму я павінен пакутаваць, гінуць чортведама дзе і за што?!» Якое мужнасці молена тут ад яго, нявіннага, патрабаваць?..

...Людэндорф — пра турэцкі генацыд у Арменіі:

«Сваімі недаравальнымі адносінамі да армян Турцыя сама ў сябе адняла рабочыя сілы, так неабходныя ёй цяпер для пабудовы чыгунак і апрацоўкі зямлі».

Якая безгаспадарчасць! Так і ўспамінаюцца асвенцімы другой сусветнай.

Тады ўжо іншы фельдмаршал, іншы Эрых і фон — Манштэйн — гаварыў:

«У варожых гарадах значнай частцы насельніцтва даводзіцца галадаць. Не трэба, кіруючыся лжывым пачуццем гуманнасці, што-небудзь даваць ваеннапалонным або насельніцтву, калі яны не на службе нямецкага вермахта».

Толькі і розніцы, што гуманныя пачуцці Людэндорф называў фальшывымі, а Манштэйн ілжывымі.

Зноў Людэндорф:

«Рэйхстаг змякчыў дысцыплінарныя спагнанні. У адказных начальнікаў такім чынам быў адабраны самы дзейсны спосаб дысцыплінарнага спагнання, а іменна — замена строгага арышту падвешваннем. Гэтае пакаранне было, вядома, надзвычай цяжкім... аднак поўная адмена яго была згубнай».

Чытаючы гэта, я ўспомніў такі расказ пра катаванні ў польскай дэфензіве:

«Адзін чалавек падвешаны, а два, якія яго падвесілі, стаяць і глядзяць. І лічаць, што яны робяць святую справу. І калі гэта кончыцца?

Відаць, ніколі: у чалавеку столькі зверства!..»

Гаварыў гэта адзін з маіх незабыўных сяброў, журналіст Якуб Міско, якога і білі рознымі спосабамі, і падвешвалі, падпольнчык-камуніст, шматгадовы санацыйны вязень, чалавек, які потым быў добрым салдатам, абараняў Сталінград, браў Берлін.

Успомніўся мне таксама выпадак у Княжаводцах каля Мастоў, калі гэтую вялікую, прыгонную вёску пад Нёманам расстрэльвалі і палілі сонечным чэрвеньскім днём сорак трэцяга года. Толькі за тое, што гэтая вёска была найбліжай ад таго месца на чыгунцы, дзе партызаны падарвалі гітлераўскі цягнік. Ціхі стары, што цудам ацалеў тады, расказваў нам — для кнігі «Я з вогненнай вёскі...» — усё, што жыло ў яго памяці. Міне іншым, і такое, што ў кнігу не ўвайшло:

«Адзін немец, малады салдат, не захацеў страляць людзей, дык нейкі іхні старшы падвёў яго да сасны і паставіў ілбом у дрэва — стой так. І той стаяў да канца, пакуль яны ўсе не сабраліся ехаць. Я ляжаў у кустах і сам гэтага не бачыў, гэта мне потым падводчык з Луннай расказваў. Людзей жа гналі ў падводы, дабро пабітых забіраць».

У старога тады забілі жонку і дзяцей. З другою жонкай дзяцей няма. І душа яго поўніцца толькі ўспамінамі, горам па тых, што калісьці, ужо так даўно, былі. Мы не наводзілі чалавека на тэму міжнародную, агульналюдскую,— ён сам успомніў пра таго маладога немца, гаворачы пра жахлівае гора, сваё і чужое.

Нялёгка пранікнуць у душу таго салдата, юнака каля сасны, хоць я і ведаю трохі Германію 1939-1941 гг. Гэта павінны, перш за ўсё, зрабіць самі немцы, пісьменнікі, каму з іх дорага называцца сапраўднымі дзецьмі свайго народа.

А я тут думаю больш за ўсё пра адно: як гэта цяжка — дыхаць супраць вялікай, бруднай вады, як гэта страшна — быць самотным у чорнай ночы вялікага, ледзь не агульнага азвярэння. Пра што ён думаў, той юнак, упёрты лбом у сасну?..

У Людэндорфа яшчэ і такое: «за ўхіленне ад работ» прывязвалі да дрэў, ці так сабе, ці ўніз галавою.

...Кайзер Вільгельм і цар Мікалай называлі адзін аднаго братам, зусім па-сямейнаму падпісваліся ў пісьмах «Вілі» і «Нікі». Якімі ж нікчэмнасцямі аказаліся гэтыя «браты», калі іх турнулі з вышак!.. Тарле, грунтуючыся на сведчаннях відавочцаў і дакументах, расказвае пра смярдзюча-баязлівыя ўцёкі ў Галандыю надзьмутага жэстыкулятара «Вілі», які пасля апраўдваўся кнігаю мемуараў — «непатрэбнай і нуднай, ілжывай ад першага да апошняга радка». А пра «Нікі» дастаткова пераканальна сведчыць ён сам, у сваім екацерынбургскім штодзённіку: «Адстаяў абедню... калоў дровы... у Петраградзе яшчэ

ўсё непарадкі...»

Як гэта смачна — пасмяяцца з таго, хто ўчора быў богам, а сёння значыцца звычайнай шэрасцю ці нават поганню! І як гэта дрэнна, шкодна, што людзі смяюцца з гэтага потым і так, як быццам яны, хто смяецца, тут ні пры чым, што для іх усё роўна,— што было і што ёсць, і што будзе!..

...Дарэчы,— заўвага праз шэсць гадоў,— кнігу Людэндорфа (вялікафарматны таміна выдання дваццатых гадоў) прыслаў мне, «толькі прачытаць», Павел Нілін, з якім мы нямала пахадзілі ў гутарках па летнім юрмальскім узбярэжжы. Я адаслаў яе, з цікавасцю і карысцю прачытаўшы на подступах да аповесці «Золак, убачаны здалёк». А потым, калі ўжо Ніліна не стала, яго блізкія прыслалі мне гэтую кнігу на добры ўспамін пра Паўла Піліпавіча, выдатнага пісьменніка і душэўнага рускага чалавека.

У дакументальным тэлефільме «Формула гуманізму» Нілін выступіў публічна ці не апошні раз у жыцці, ужо безнадзейна хворы. Пасвойму проста, з усмешкай болю і мудрасці гаварыў ён пра тое, што і адыходзіць у нябыт не хочацца, і вельмі цяжка думаць пра тое, што не вядома, ці будзе пасля цябе «младая жизнь играть у гробового входа», ці дадуць ёй арганізатары новай вайны... Дэманстраваўся тэлефільм напрадвесні восемдзесят трэцяга, запісвалі Паўла Піліпавіча амаль на два гады раней. І ціхі голас яго, і жывая, мілая ўсмешка прыйшлі да нас, хто яго ведаў і ведае, ужо здалёк — з нейкім журботна-ўзвышаным дакрананнем да вечнасці...

1977; 1983

## ДЫРЭКТАРКА

У кожнай вёсцы, у кожным куточку нашай зямлі, дзе ты быў ці не быў, возьме ды зноў, яшчэ і яшчэ раз вырасце падобнае да іншых і да нікога не падобнае дзяўчо.

Ірынка вырасла ў сваім Доўгім Сяле, там і школу закончыла, і не паехала адтуль нікуды. Старшыня калгаса ўгаварыў яе стаць дырэістаркай іхняга дома адпачынку, пабудаванага на раздольным узлессі над ПІчарай.

Смяяліся са старшыні яго калегі, што фантазёр ён з гэтай сваёй «Шчарынкай», і нерэнтабельнай, і непатрэбнай, а ён спакойна, з прыязнай усмешкай адказваў, што кожны з яго калгаснікаў, які там заслужана адпачыў два тыдні, можа спакойна назначацца хоць нампалітам палка. І растлумачваў: «Па садыяльнай і палітычнай свядомасці». Сам ён з вайны вярнуўся капітанам з двума ордэнамі і трыма раненнямі, з роднай Віцебшчыны быў пасланы сюды, у адзін з заходніх раёнаў, на партыйную работу. На старшыню калгаса прыйшоў з райкома, дзе працаваў другім сакратаром. Знячэўку гэта атрымалася. Кал гас быў слабенькі, і, калі ён, сакратар, прывёз сюды выбіраць чарговага старшыню, людзі пажартавалі: «Нам каб, таварыш, такога, як вы!» — «А што вы думаеце — і пайду!» Яго адпусцілі, бо гэта было ў той час, калі на дапамогу сельскай гаспадарцы ішлі «трыццацітысячнікі». Пакуль да той «Шчарынкі», папрацаваць давялося многа, і людзі ад жарту «нам каб такога» дайшлі спакваля да пашаны, якое гэты, яшчэ раз новы, старшыня, та л ковы ў працы і прыемны ў абыходжанні, аказаўся вартым. Была яму пашана і ад кіраўніцтва. Сам сакратар абкома параіў мне паехаць з сям'ёй у «Шчарынку», назнаёміцца з тым калгасам і «са станоўчым,— як ён сказаў,— героем нашай сучаснасці».

«Шчарынка» нам спадабалася, на другое лета мы сагітавалі туды дзве пары сваіх сяброў, якіх на трэцяе лета агітаваць ужо не трэба было.

Улетку калгаснікам не да адпачынку, і туды прыязджалі бліжэйшыя і далейшыя гараджане. Інтэлігенцыя не ўся і не заўсёды бывае інтэлігентнай. Капрызы, гонар, неахайнасць, хамства,— калі не сам інтэлігент, дык жонка, дзеці, а то і ўсёю сям'ёй.

Дзяўчо-дырэктарка неяк прызналася мне:

— Калі ўжо што зусім-зусім не так, не вытрываць, дык я пайду сабе ў лес, там паплачу-паплачу, а потым зноў...

Я расказаў пра гэта старшыні, і ён сабраў адпачываючых на «невялічкі агульны сход». Спакойна, тактоўна, з гаспадарскай

годнасцю ён папрасіў нас захоўваць парадак, паважаць персанал і дырэктара дома або, калі каму не даспадобы тут, «дык мы не будзем настойваць на тым, каб нам рабілі вялікую ласку...».

Пасля сходу,— а было гэта на першым годзе майго там з сям'ёй адпачынку,— Ірынка, здаецца, больш не хадзіла ў лес супакойвацца.

Пасмялела яна спакваля, пасталела.

Тады ж, на першым годзе, адзін з інтэлігентаў, з выгляду чалавек прыстойны, як аказалася, патаемна ўсё думаў пра хуткую пенсію. Не так сабе, а ў сувязі са «Шчарынкай». «От дзе каб стаць дырэктарам! Паветра, рыбка, грыбы, малачко... Перавесці б толькі дом на прафсаюзны, зняць гэтае дзяўчо!» Ажыццяўленне задумы пачаў ён з таго, што кожны дзень запісваў пра ўсе непаладкі ды непаладачкі, а потым, на развітанне, сшытак свой даў старшыні.

— Паглядзіце, падумайце, ці такі вам патрэбен дырэктар.

Старшыня пагартаў той сшытак, прачытаў дватры запісы, і як заўсёды стрымана, сказаў:

— Дзякую вам за пільнасць. У нас праўленне ёсць. Мы абмяркуем.

А сшытак потым паказаў Ірынцы.

Паісолькі першы спосаб «не спрацаваў», на другое лета пільны таварыш, яшчэ на год паразумнеўшы, пачаў капацца пад самога старшыню.

— Ты камсамолка? — неяк сам-насам спытаўся ён у Ірынкі.

— Ну, камсамолка.

— Дык давай пагаворым пра недахопы вашага старшыні.

— А вы што, ужо і на яго сшытачак завялі?

Бачу яе маладзенькі, усмешлівы твар. Бачу раз-

гублена-злосную губу таго барацьбіта... Ірынка расказала мне пра тую іх размову.

Даўно гэта было, пятнаццаць год таму назад. Шаноўны Павел Фёдаравіч, старшыня, памёр. Пасля яго там ужо другі ці, можа, і трэці прыйшоў. Калі ў мяне летась узнікла пільная патрэба зноў звярнуцца ў «Шчарынку», я не падумаў, што дырэктарка там тая самая. Пазваніў як незнаемы, пачаў прадстаўляцца, тлумачыцца, паку ль у міжгароднім хрыпе ды трэску не распазнаў па-даўняму вясёлы гол ас. Яна адразу пазнала мяне, адразу назвалася тым даўнім, звычным імем, потым зрабіла ўсё, пра што я папрасіў, аднак, здаецца, найбольш прыемна было проста пачуць яе, нібы ўбачыць — праз столькі гадоў тую самую.

Днямі, яшчэ праз год, перабіраючы старыя запісы, я, ледзь не як штосьці чужое, перачытаў чарнавыя накіды да напісанага ў «Шчарынцы» апавядання-эсэ «Дажджлівы, сонечны жнівень». Я гавару

там пра старшыню безымянна, а гэта быў ён, Павел Фёдаравіч. Ён прыехаў па мяне пахмурным ранкам і, моўчкі павітаўшыся, рука ў руку, ціха з усмешкай захаплення расказаў ажно пра трох ласёў, што запынілі яно на лясной дарозе.

— Яны стаяць, і я стаю. Проста цуд!..

А для мяне гэта, у тую раніцу, цуд быў не першы, а другі. Так і запісана было, што першы цуд — Ірынка.

Устаў я вельмі рана, выйшаў на двор, у хмарную, ледзь ледзь не зноў шапатліва мокрую ціхасць асцярожна, бо вокны на першым і другім паверхах былі яшчэ зусім сонна прыадчынены. Нідзе нікога, ні каля дома, ні трохі далей. І раптам з-за шаляванага вугла выйшла яна, гаспадыня. Павіталася, як заўсёды, з непрытворна прыязнай усмешкай.

— Толю да рэчкі правяла,— сказала прыцішана.— Можа, што-небудзь і возьме. Гароху наварыла вечарам. Такі ўжо рыбак,— усміхнулася, як пра малога, роднага.— Сёння ж во свята ў яго з учарашняга вечара: дождж.

У самое таксама ж свята. Толя прыехаў увечары на матацыкле і заначаваў. Яны пажаніліся гэтай вясной, да іхняй вёскі дзевяць кіламетраў, а ён жа механізатар — часамі па тыдню і болей не бачацца.

— А вам пісьмо,— успомніла яна.— Прабачце ўжо, што вечарам не аддала. Забылася. Я вынесу.

Я пайшоў следам за ёю, у пакойчык на другім паверсе, і спыніўся там на парозе.

На стале ў дырэктаркі — кветкі ў збанку, а на чысценькім, ужо засланым ложку стаіць вялікая лялька. Не вясельны галыш з аўтамабільнага капота, а светлая беларусачка ў народным, што і летась яшчэ стаяла каля падбітай, пухкай падушкі. Тады, калі ў гаспадыні пакоя была, відаць, толькі мара, надзея, загадка: хто ж сюды прыйдзе гаспадаром?..

Чарнявая, блакітнавокая, з вяснушкамі на загары, ад чаго яе... ну, зусім маладая, шчасцем адораная краса — цяпер, здалёк — бачыцца яшчэ больш сумнавата-соладка-прывабнай. У светла-стракатай сукенцы, з фігуркай яшчэ ўсё дзявочай.

Дзякуй, Ірынка, за мілы ўспамін.

1983

# ДВА СЛОВЫ

У чэрвені трыццаць першага года я быў у вялікім падарожных — ехаў аўтобусам у Наваградак, ажно за трыццаць дзевяць кіламетраў, здаваць экзамены ў гімназію. У Карэлічах пажылы, салідны шафёр (якая гэта была тады рэдкая прафесія, якая фігура — шафёр!), перакусваючы па прыпынку, гаварыў камусьці з дзвярэй адчыненай кабіны:

— Бочек — объядение...

Ён еў «бочэк» — сёння мы кажам: карэйка — з сітніцай; я гэта бачыў, стоячы за тым, каму гаварылася. Смачна!..

Позняй дажджлівай восенню ў тым самым годзе шафёрскі вучань Міша, таксама фігура ў нашай зачуханай вёсцы, прынёс з Баранавіч страшную вестку. Па прыгавору «даравanага», палявога суда пазаўчора там павесілі дзевяць падпольшчыкаў-камуністаў. Сярод іх — Шурку, таго пажылога, шаноўна-саліднага шафёра з чырвона-белага аўтобуса «Крэсавяпка».

Шурку я памятаю толькі праз тое, што бачыў і чуў. Аднак — памятаю.

Нядаўна ў аўтобусе Мінск — Вільнюс мне яго жыва нагадаў таксама пажылы і маўклівa салідны, культурны шафёр-літовец. Нагадаў і незвычайна ў тым далёкім заходнебеларускім асяроддзі «бочек — объядение», и жудасную вестку пра павешанне, прынесеную ў вёску з горада. Нагадаў і словы яго, Шуркавай, маленькай дачкі: «І сонейка будзе свяціць, і месячык, а татуся майго не будзе...» Гаварылася гэта па-польску,— і малая так гаварыла, і Міша так паўтараў, а ўсе мы слухалі і разумелі моўчкі. І суседзі, і маці Мішава, ціхая працавітая цётка Таццяна.

Яна вельмі доўга дамагалася пенсіі за мужа, забітага на «мікалаеўскай» вайне, а атрымаўшы яе ажно за ўсе чатырнаццаць гадоў адразу, паслала свайго сірату вучыцца ў Стоўбцах па шафёра.

Міша быў старэйшы за мяне на тры гады, але мы сябравалі і дома, і ў школе, і на пашы, пакуль ён не пайшоў у людзі, а з маёй гімназіі нічога не атрымалася. Празывалі Мішу Хвальком, з самага малку, і гэта праўда была,— ён і наручны гадзіннік усё правяраў, то да вачэй, то да вуха, і руку, танцуючы, так задзіраў, каб відаць быў гадзіннік. І пра вучобу сваю хваліўся нямала. Але тады, расказваючы, ён быў зусім не такі, як заўсёды, бо Шурку таго ён ведаў, пад кіраўніцтвам яго і вучыўся. Ён расказваў, а цётка Таццяна глядзела па хлопца свайго, слухала моўчкі і плакала...

Праз чвэртку веку пасля таго жахлівага вечара, светлым летнім

адвячоркам Рафаіл Сяржант, мужны і светлы чалавек, расказваў мне ў нумары баранавіцкай гасцініцы аповесць свайго бурнага і цяжкага жыцця, што стала ў мяне нарысам «Партрэт старэйшага таварыша». Расказваў ён часцей за ўсё паасобнымі фрагментамі, як яно ўспаміналася яму, па пэўнай унутранай сувязі. А я запісваў тыя фрагменты, уважліва, а то і ўсхвалявана ідучы за плынню яго расказу. Польскія гарады называліся толькі як турмы, бо так ён іх бачыў, назвы іх значылі этапы яго пакутніцкага шляху.

— У Равічы сядзеў я з Паўлам Валошыным, членам ЦК стотысячнай Грамады, паслом польскага сейма ад рэвалюцыйна-дэмакратычнага крыла беларускай нацыянальнай фракцыі...— Гэта не я цяпер, а ён, расказчык, так гаварыў, няспешна чаканячы сваю дакладнасць.— Любіў я гэтага чалавека, мы сябравалі. Класічны тып беларуса. Гаварылі пра Тарашкевіча. Тарашкевічаў бацька, шкадуючы сына, пытаўся: «Броня, як ты думаеш, народ наш ужо дарос да таго, каб за яго галаву аддаваць?» А сып яму: «За яго заўсёды можна было і трэба было аддаваць галаву».

Другі фрагмент, пасля хвілін маўчання:

— Кожнага падпольшчыка пілсудчыкі намагаліся зрабіць шпіёнам, шпегам, паставіць яго па-за законам. «Нема венкшэго ўрога, ніж шпег». «Сонд доразьны», сто адзінаццаты артыкул яшчэ царскага кодэкса з тысяча дзевяцьсот трэцяга года. На гміне, на тэлеграфных слупах вывешваліся адозвы: хто выдасць шпіёна — тысяча злотых. А гектар зямлі быў тады дзвесце-трыста-чатырыста злотых. Увосень трыццаць першага года тут, у Баранавічах, было павешана дзевяць чалавек — за шпіянаж. Кат Мацееўскі атрымліваў чатырыста злотых у месяц і па сто злотых ад галавы. У Польшчы было тады дванаццаць чыноўных разрадаў, у ката — дзевяты разрад. Белыя пальчаткі, новыя для кожнага. Занятак па цэлы дзень. І фраза, што была крылатай: «Справедлівосці стало сень задосць» — справядлівасць задаволена.

Пра гэтае павешанне было ў газеце ІКЦ, «Ілюстраваны кур'ер цодзенны», адной з самых санацыйных. Чытаў я пра павешанне ва Ўронках.

Зноў паўза і роздум на высокім ілбе чалавека, якому так многа давялося думаць за чатырнаццаць гадоў турмы, з якіх дзесяць у адзіночцы. А пасля паўзы — зноў, як з Валошыным і Тарашкевічам, грунтоўна ўзважанае слова пра блізкага чалавека:

— Сярод тых дзевяці быў Аляксандр Скачко. Шафёр з аўтобуса «Крэсавянка», на трасе Стоўбцы — Навагрудак.

Запісваў я гэта ўлетку пяцьдзесят восьмага,— з таго часу прайшла

другая чвэртка стагоддзя. Запісы тыя, не ўсе выкарыстаныя ў маім нарысе, днямі я перачытваў: чытаюцца як штосьці новае, бо сёе-тое ўжо і забылася.

Аднак успамін пра шафёра, Мішаў расказ пра павешанне вярнуўся да мяне не ад запісаў,— ад незвычайнага польскага «бочек», які ў рускім акрэсленні, «объядение»...

1983

## НЯСТОМНАСЦЬ

"Схіляю галаву перад сваёю вуліцай",— гаворыць стары чалавек, былы падпольшчык.

У гады акупацыі ён, у гэты бок вырваўшыся з акружэння,— маскоўскі апалчэнец, а перад гэтым даволі высокі адказны работнік,— дзеля легальнага існавання працаваў шаўцом, якім раней ніколі не быў. У бацькоўскім драўляным доміку, на ўскраіннай драўлянай мінскай вуліцы. Латку якую там прышываў, набойку набіваў, а як што больш, дык сувязная адносіла да сапраўднага шаўца, таксама свайго чалавека.

І людзі-суседзі не выдалі — амаль за тры гады. Можна і пакланіцца.

Расказвае таварыш і смяецца, што і сёння яшчэ, праз трыццаць шэсць год пасля вызвалення, калі яго часамі спыніць на пераездзе цягнік, ён, па прывычцы падпольшчыка, пачынае лічыць вагоны. Пасажырскія, таварныя, платформы... Нібы яшчэ ўсё трэба яму перадаваць звесткі пра варожы рух на гэтым чыгуначным вузле.

Юрыст на пенсіі, ён многа піша ва ўсе інстанцыі, да найвышэйшых уключна, сігналіць, стары камуніст, пра непаладкі і пагрозы нашаму ладу. Не ананімкі — адкрыта і смела. Яму найчасцей не адказваюць, а то адказваюць з вет; лівым вывертам і ўдзячнасцю, а ён усё піша. І кажа, што як толькі спыніць сваё змаганне — адразу памрэ. Бо ўжо і восьмы дзесятак канчаецца.

Сухаваты ад свае гарачыні, ён раней, як адвакат, напорыста і нястомна змагаўся за тых, каго лічыў несправядліва або залішне сурова пакаранымі. І цяпер яшчэ да яго звяртаюцца, просячы дапамогі, парады.

Неяк ён расказаў мне пра яшчэ адну сваю перамогу.

Хлопцу ў сорак чацвёртым годзе было шаснаццаць. Маці, баючыся, каб і яго не вывезлі ў Нямеччыну, "на работы", за два месяцы да вызвалення Беларусі ўладзіла сына працаваць у радыёкамітэце, нейкім там вучнем пры тэхніцы. Пасля яго судзілі за... супрацоўніцтва з ворагам. Колькі там маці ні даводзіла, колькі добрыя людзі ні сведчылі, што і за ім столькі тое віны, што і яна дапамагала падпольшчыкам. Пасля турмы сына не рэабілітавалі, проста выпусцілі дачасна. А потым, у канцы пяцідзесятых, ужо інжынера, чалавека сямейнага, раптам знялі з работы — усё з-за таго самага.

Стары адвакат узяўся за гэтую справу. Дамогся справядлівасці,— чалавека рэабілітавалі, вярнулі на працу.

— Адказ прыйшоў на яго імя, але на мой адрас,— расказваў ён

мне пасля.— Так робіцца: каб я, абаронца, перадаў яму. Панёс я ім гэтую залатую паперку. Якраз было Восьмае сакавіка, як з падарункам пайшоў у сям'ю. І ён расплакаўся, хацеў мне руку пацалаваць. І я з ім таксама расплакаўся. З усімі імі. Так вось, мой дарагі...

Ён гаварыў гэта, зноў выціраючы слёзы. Першыя для мяне — за тры з палавінай дзесяцігоддзі нашага знаёмства.

1983

## ГІПНОЗ

Каржакавата-тоўсценькі, сыта-загарэлы пад выцвілай ад сонца кепачкай, ён сядзіць на лаўцы каля зялёнага плоціка. На асфальце, побач з яго кірзачамі, стаіць пустое вядро, прымурзана-чырвонае ўсярэдзіне. Парэчкі толькі што прададзены недалёчка адгэтуль, на доўгім стале пад павеццю, дзе прадаецца сёе-тое з агарода, з саду, з лесу. Схіліла з паўдня, нягорача. Людзей тут, на пасялковай аўтобуснай станцыі, нямнога, і яго, і майго аўтобусаў яшчэ няма. Ёсць час пагаварыць, дый хочацца, бо бачыліся мы нячаста.

— Здароўя пытаеш. Якога ты хочаш, браце, у маіх гадах здароўя? Семдзесят шосты. Калі дзе трохі скокам, дык потым і бокам. Але ж не возьмеш, ліха яму, з капліцы старую пратэсу ды не пойдзеш, сам па сабе жывы галосячы. Трымаюся, пакуль трымаецца. Да доктара, можна сказаць, і зусім не хаджу. От, павітаемся на вуліцы. А да Чмута не пойдзеш — памёр. Які, кажаш, Чмут? Я і сам, брацэ, мог бы быць такім чмутам, як ён. Мой дзядзька быў у Амерыцы, у Канадзе. Яшчэ пры цару паехаў, лепшага хлеба шукаць. А пры Польшчы быў прыслаў мне кнігу пра гіпноз. Па-руску напячатана. Я яшчэ ў войску тады не служыў, толькі-толькі на кавалера браўся. Усю зіму тую кнігу чытаў. І сам пачаў практыкавацца. Тры пальцы во так настаўлю, ці так сабе, ці ў твар каму-небудзь, вочы натарапачу — гляджу, як ён міргае. А ўжо далей мне і самому смешна — засмяюся! І сарваў сеанс. Не ў кожнага яно і палучаецца.

А Чмут наш без кнігі, а нейкім таксама гіпнозам лячыў. Сам, можа, класаў са два і прайшоў, але разумных слоў нахапаецца і гаворыць, брацэ, так, што людзі і верацЬ, асобенна бабы. Часаслоў чытаў у царкве. Я кажу: «Ты ж тых цітлаў не ведаеш, як жа ты іх чытаеш?» — «Па памяці». Памяць у яго была. І ўсюды ён лез. «На ванне,— казаў,— і афіцэры мяне баяліся. Як гэта можна,— выступіў я раз у Германіі, ужо Берлін было ўзяўшы,— як гэта можна, каб нашы доблесныя воіны, не толькі радавыя славяне, але і камандны састаў, лібзалі вуста фашысцкім медхенам ды фравам? Што гэта за разурат!..» Во, брацэ, як.

А то прыходзіць раз да яго адна маладзіца. За дваццаць пяць, падлічыўшы, вёрст. Во куды погалас дайшоў! І гэта ж ужо не даўней, не пры папах, і не ў акупацыю, а гадоў нешта з дзесяць таму назад. Наша баба, калхозна-саўхозная. Просіць, каб даў ёй чаго такога, каб свякроў памерла. Чмут спачатку ўзяў яе на гіпноз, у вочы ёй паталопіўся, ці не правакацыя якая. А потым гэта бярэ канапель, шчопці зярнятак са свайго ўсялякага прыпасу. Расцёр тыя каноплі,

вады імі ў бутэлечцы закрасіў і кажа: «Тры разы на дзень папырскай старой па пасцель — праз тры дні памрэ. Але глядзі, каб у дарозе ані разочку не азірнулася!» А дзе ж ты, браце, бачыў, каб гэта баба за дваццаць пяць вёрст ні разу не азірнулася? Ці машына якая ззаду, ці сабака, ліха яму, ці проста так, таму што няможна. Прыходзіць яна потым зноў. Лякарства — усё, а свякроў жыве. Чмут уталопіўся зноў ды як гаркне сваім гіпнозам: «Што, азіралася?!» Баба — у дрыжыкі. «Дзядзечка, толькі разочак адзін. Дайце лякарства, дзядзечка, што ні скажаце — не пашкадую».— «Маё срэдствія,— кажа ён,— за другім разам не дзействуя. Ідзі». Так яна і патэпала.

А то яшчэ раз было...

...Слухаць чужое, а думаць сваё — гэта можна. А запісаць такое адразу, падвойным цягам, нельга. А думаў я так... ці, лепш — успомнілася мне, слухаючы, такое.

Малога мяне маці наслала ў суседнюю вёску да бабы, што памагае. Нашай карове стала нядобра. А мама сама пайсці не магла. І брат старэйшы некуды паехаў. Ці, можа, і трэба было, каб пайшоў не сталы хто, а малы, так сказаць, з поўным даверам. Гэта ўжо сёння я так думаю. А помніцца яно прыемна, з пажылым цеплаватым сумам,— тое маё хлапечае адчуванне важнасці такога даручэння. Што гэта дрэнна нашай Кухарцы, і што гэта мама паслала мяне. А яшчэ ж і навіна, нечаканасць такая — не па пашу іду, як штораніцы, не па іржышчы, не па траве, а па гладкай сцежцы ўзбоччам гасцінца, у іншую вёску, у людзі!..

Была ў мяне з Кухаркаю віна... Праўда, і кара ды пакаянне адразу яе былі. Першага красавіка трэба было ашукаць каго-небудзь, з самай раніцы, а дома была адна мама. Яна паліла ў печы, а я ўбег з двара ды з парога, як найбольш спалохана: «Кухарка паша павалілася каля хлява, раве!..» Мама — на двор. Кухарка стаіць сабе, жвайку жуе, на першае сонейка жмурыцца. Мама яшчэ на хаду расперазала фартух, давай мяне ў хаце махрамі шалёстаць. Крычаў я, што гэта звычай такі і што болей пе буду, але сваё атрымаў. Махры не толькі пякліся, асабліва калі па вушах, па руках, але і няўмольна сведчылі, што ты яшчэ ўсё малы і дурны, хоць і перайшоў ужо ў пяты клас і кніжкі ўсякія дарослыя чытаеш.

Кухарка, калі яна добра наесца, калі яе так папасеш, што і клубоў не відно, ужо здалёк, да брамы падыходзячы, стане і зараве. Маму кліча з даёнкай. А мама, калі яна дома і чуе, адгукаецца: «Іду ўжо, іду!..» Сырадой быў, вядома, смачны і сам па сабе. Калі ж яго не з конаўкі, а ў міску наліць, накрышыць туды чорствага хлеба або палажыць тварагу, дык гэта ўжо будзе — ну!.. Біць масла ў бойцы-

стаўбуне — работа была нудная і найчасцей мая. Толькі смятана, што выступае з бойкі, добра ліжацца з пальца. Спачатку густая, потым усё радчэйшая і, нарэшце, з крупінкамі масла. І смачна, і перамога — збілася! Добрая луста хлеба са свежым кіславаценька-мяккім па смак, зверху пасоленым маслам, які-небудзь Рабінзон або Чычыкаў — дачытваць іх жуючы,— плата па месцы і такая шчодрая!..

І вось Кухарцы нашай нядобра...

Прыйшоў я да тое бабы, пра хату яе дапытаўшыся, а баба стаіць каля печы. Я павітаўся і расказаў, як мне было загадана, што да чаго. У печы гарыць, а баба, старая ўяео, босая, ногі чарнейшыя, чым у мяне, аберуч абаперлася па гаршчэшпііе, рожкамі ўніз, і глядзіць мне ў самыя вочы. І пакуль гаварыў, і калі ўжо кончыў. Відаць, таксама гіпноз. Глядзела, глядзела, а потым правай рукой пацягнула-зачэрпала з носа і ляпнула перад сабой, на няроўны, нямецены ток. Ледзь не пад ногі мне — цэлым курыным зліўкам.

— Добра,— сказала пасля такое кропкі.— Я солі дам. Паможа.

Ці памагло або як памагло — не памятаю. Бо толькі тым ляпам мой паход у памяці і канчаецца.

І другое.

Тады я ўжо быў дзецюком, калі да старэйшага брата зноў прычапілася рожа і мне прыйшлося везці яго да шаптухі, у іншую вёску.

Там ужо баба была не старая, даволі гладкая. Вёскі нашы амаль суседнія, можна сказаць, што ведалі ўсе пра ўсіх калі не ўсё, дык вельмі многа. На мужыку сваім яна ездзіла, казалі, уссеўшы адразу пасля вяселля. У вочы яму, як быццам і не злуючы: «Усё ж сяло, усенечкія людзі ведаюць, што ты дурны!..» А то і пры некім: «Усё ж сяло пра яго...» А ў чалавека толькі і граху, што рахманы, маўчун. І работнік на ўсё, пры пані сваёй — і на бабскае. Натура ў бабы — не жыве, а толькі прыглядаецца, тапырыцца, чакаючы нападу немаведама ад каго, ад чаго, абараняецца, забягаючы без прычыны ды без патрэбы наперад.

Але гіпноз у яе быў лісліва-ласкавенькі. Шаптала, загаворвала яна не талопячыся, а з заплюшчанымі вачыма. І так, як заяц можа спаць з раскрытымі, яна з заплюшчанымі бачыла ўсё. Не толькі тое, як ты ўсміхаешся, але і што ты думаеш, і што ты будзеш думаць заўтра.

Спачатку яна пашаптала над хворым, тады пад кавалкам кужалю, які я прывёз, пасыпала кужаль жытняй мукой, знізу абвязала братаў чырвоны, распухлы твар тым палатном, зноў расчулена ды ўрачыста пашаптала, заплюшчыўшы вочы, і з той самай лісліва-хітранькай усмешкай, з якой сустрэла нас, не вытрымала, сказала мне па «вы»:

— Што ж вы прыехалі да мяне? Вы не у гэта не верыце.

— А я не прыехаў, я брата прывёз.

Ці толькі так я сказаў, ці яшчэ што — добра не помніцца. Бо ў памяці найлепш лато галоўнае, як я, малодшы, дома захутваў на сом год старэйшага ў доўгі кажух, як памагаў яму, амаль зусім бездапаможнаму, сесці, прылегчы ў санях-вазку, як спяшаўся па белай, ціхай дарозе, як рады быў, што дрэвы тады стаялі ў нейкай святочна-чысценькай шэрані...

Адно было вельмі даўно, другое таксама даўно.

А зусім нядаўна, не ў колішняй вёсцы, а ў сённяшнім горадзе, з «гіпнозам» трапілася і. такое.

Добры хлопец, замучаны яшчэ студэнцкай язвай, перабраўшы ўсялякі ратунак, апытаў подзе «дзіва-жанчыну», што таксама памагае. Прыляцела яна ажно з поўдня, ледзь не адтуль, дзе з'явілася легендарная Зора, што лечыць як быццам толькі па вельмі высокаму класу. Гэтая Зора, другая, нічога за лячэнне не бярэ. Нават мжна пакрыўдзіцца, калі памкнешся плаціць. Так папярэдзіў добры хлопец, спачатку па тэлефоне, а потым і пры сустрэчы.

Па дабраце сваёй ён запрасіў не толькі мяне. Калі я прыйшоў да яго, там ужо людзі былі. Хто знаёмы, з кім ён мяне цішком пазнаёміў, а каму я толькі кіўнуў, павітаўшыся, як у царкве якой, святочна-ўрачыста. У бакавым пакоі, за дзвярыма, лячэнне ўжо ішло.

Неўзабаве і я дачакаўся чаргі.

Жанчына тая была ўжо крыху ў гадах, аднак узяць гіпнозам, чаго добрага, яшчэ магла б. Чарнявая, паўнаватая, як гаворыцца, «аб сабе», з адкрытым дабрадушным тварам і чорнымі, вялікімі вачыма. Здалося, што цыганка, а потым яна пра сябе тое-сёе сказала. І што «зусім не цыганка», і што лячэнне яе — па дзеду, які многім дапамог, і што вучонаму брату не падабаецца яе новы занятак. А ў яе гэта — радасць, калі чалавеку паможа.

— І вам памагу. Пройдзе ўсё. Нават тут жа, адразу адчуеце, як палягчэе.

Гаварылася гэта ва ўтульным пакойчыку, з паліцаю кніг, пісьмовым сталом і вялікім светлым акном, за якім далёка ўнізе і яшчэ далей у тры бакі распасціралася стракатая панарама гарадской ускраіны.

Жанчына пачала лячыць. Я быў ласкава пасаджаны на крэсле, мне было сказана пра нічога не думаць. Яна стала перада мной, лёгкімі, плаўнымі жэстамі малых далоней з рухавымі пальцамі без манікюра зводдаль сілуэціла мяне ўсяго ад галавы да ног, ад ног да галавы, то адну хворую нагу, то зноў усяго, і шаптала, шаптала... Гледзячы сваімі чорнымі, вялікімі зусім упэўнена і вельмі ж неяк прастадушна ды прыязна.

Ад гэтай прыязнасці, да таго ж, як запэўніў мой малады сябар, поўнасцю шчырай, бескарыслівай, мне было... проста прыемна. І не шкада, што прыехаў сюды, згадзіўся на тэлефонную прапанову без веры, што гэта паможа, толькі з цікавасці і таму, што здалося няёмкім добраму хлопцу адмовіць.

Гэта — не ўсё, што я адчуў, успомніў за тыя хвіліны, калі я павінен быў пра нічога не думаць.

Згадаўся жнівень сорак чацвёртага, камандзіроўка ў Мінск, наогул першая ў маім жыцці службовая камандзіроўка. Прыехаў я са свайго гарадка не адзін, а з таварышам, я — часовы рэдактар, ён — сакратар раённай газеты. Час быў, пахадзілі па горадзе, зайшлі ў цырульню, што прытулілася ў нейкім бараку каля цагляных руінаў. Таварыш сеў першы і здзівіў мяне сваёю просьбай да маладой жанчыны: «Перш за ўсё, дарагая, памыем галаву». Ён быў старэйшы, гарадскі, бывалы, з акружэнцаў, а мне, вясковаму, галаву мылі толькі ў маленстве, маці, а то ўсё сам. Таварыша потым галілі, рабілі яму масаж. А я тым часам рыхтаваўся ў думках да такое ж поўнае раскошы. Гэта цяпер паняцце «камандзіроўка» звязана з другім паняццем — аўтобус, цягнік, самалёт. А тады мы доўга чапалі пешкі ў той бок, дзе сталіца, пакуль з пас не злітаваўся нейкі выпадковы: грузавік. Спачатку поту было па спёцы, потым пылу ў кузаве, і памыцца вельмі хацелася. Да таго ж яшчэ я быў малады, клопат жаночых рук, спрытных, пакуль яна мыла ды паласкала маю чупрыну, і пяшчотных, калі рабіла масаж, успрымаўся з затоеным хваляваннем.

Цяпер, у сябравым пакойчыку, рукі «дзіва-жанчыны» не дакраналіся да мяне, аднак яны і здалёк хвалявалі, наводзілі на ўспаміны. Не толькі інтымныя — больш, адпаведна ўзросту, бывала-мудрыя, ці што.

Згадалася маленькая, асобная палата ў далёкім чар паморскім санаторыі, скручаны радыкулітам... зноў жа друг, даўні, надзейны, нашмат старэйшы за мяне.

Два месяцы перад гэтым ён аўдавеў, цяжка, замкнута перажываў сваю адзіноту, і мы, бліжэйшыя сябры, угаварылі яго паехаць са мной. Бо і яму палячыцца таксама трэба было, хоць ён пра гэта спачатку і гаварыць не даваўся. Восем год панскай турмы, уся вайна ў пяхоце, разведчыкам, жонка доўга хварэла, самому ўжо зусім пад семдзесят, а ён: «Клін клінам трэба выбіваць». Пакупаўся халодным ранкам (хай сабе поўдзень, але ж канец кастрычніка), і аблажыў яго востры радыкуліт.

Санаторныя медсёстры — таксама ў белым, як і бальнічныя, аднак на курорце людзі менш лечацца, больш адпачываюць, да таго ж яшчэ не заўсёды па ўзросту молада. І сёстры гэтыя не вельмі ўмеюць і не

надта любяць даглядаць таго, каму раптам заняможацца па-сапраўднаму. Мой друг быў чалавек вясёлы, любіў прыязна жартаваць, знаёміцца, пра гэта ўжо ведаў і медперсанал. А як скруціла яго, дык толькі сёй-той са знаёмых заходзіў, асабліва калі непагодлівы дзень. Сёстры мяняліся, аднак іх клопат пра хворага быў аднолькава лёгка-казённы, яны ўсё больш з паперкамі ды ледзь не з пазяханнем каля тэлефона. Разоў колькі заходзіў доктар, таксама па-дзяжурнаму канстатаваў наяўнае, пра сёе-тое пытаўся, сяк-так абнадзейваў. А чалавек ляжаў ды курчыўся ў старым спартыўным касцюме, ноччу адзін у сваёй адзіночцы, а перад усімі, хто заходзіў, паказваючы свой аптымізм, штодня ўсё з меншым падабенствам.

Неяк уранні, калі я, як звычайна, пастукаўся да яго, з палаты пачулася жаночае: «Няможна. Трохі пачакайце». Чакаць прыйшлося даўгавата. Пасля адтуль выйшлі дзве ў белым. Адна, з пасудзінай і ахапкам бялізны, шмыганула па калідоры, другая спынілася перада мною. Павіталася з цёплым святлом спакою на прыемным аблічччы, усёй паставай здалася мне чысценька белай.

— Вы з трыццаць пятай? Друг ваш цяжкі, але памаленьку ўсё будзе добра.

Пасля гэтых чыстых слоў пайшлі «нячыстыя», што зусім не здаліся такімі:

— Страўнік трэба было ачысціць. Столькі дзён...— Яна з дакорам пакруціла галавой.— Памыць яго трэба было, пасцель змяніць. Заходзьце.

З сябрам цуду, вядома, адразу не адбылося. Перада мною ён звычайна не лічыў патрэбным усміхацца, калі горка. А тут усміхнуўся сяк-так — чысты, у чыстай пасцелі — і скупа, але без натугі сказаў:

— Во чалавек... Прысядзь.

Можа, так яно і не вельмі тактоўна было, але праз тыдзень, калі мы ўжо збіраліся ад'язджаць, сябар, яшчэ ўсё лежачы, намогся, а я не змог не паслухаць, і — ад яго — прапанаваў ёй грошай... У вестыбюлі, сам-насам. Сказаць, што жанчына надта здзівілася, не скажу: відаць, такое бывала ўжо неаднойчы. Сказала, праўда, «навошта гэта?», а я сказаў, што ён вельмі прасіў не пакрыўдзіць яго, прыняць. «Што ж...» Яна ўзяла тыя ружовыя купюрынкі, палажыла ў кішэню халата, і мы пастаялі, пагаварылі.

Я не памыліўся — яна тут новая, не толькі ў гэтым корпусе, а наогул у санаторыі. Дагэтуль працавала ў анкалагічнай бальніцы, за дваццаць год наглядзелася ўсяго. Муж на адказнай рабоце, сын ужо кандыдат. А пра сябе: «Ну, як сказаць? Проста сваю работу я люблю».

На развітанне я працягнуў руку. Яна падала сваю — малую,

цёплую і чыстую пасля ўсяго «нячыстага» і цяжкага, што ёй так часта, многа даводзілася і яшчэ давядзецца рабіць. Пацалаваўшы гэтую руку, я, каб схаваць шчаслівую збянтэжанасць, зманіў:

— І гэта па ягонай просьбе.

...Штосьці падобнае, трошкі падобнае я адчуваў і цяпер, седзячы перад «дзіва-жанчынай».

Калі яна перастала шаптаць ды чараваць рукамі і пыталася: «Што, адчуваеце палёгку?» — я, затаіўшы ўсмешку як найглыбей, гаварыў: «Ага, адчуваю». Так паўтаралася разоў са тры. А потым мы з гэтай светлай дзівачкай ціха, прыязна рассталіся. Я і падзякаваў, сказаўшы, што гэта — за дабрату.

Нешта такое ж сказалася пасля і добраму хлопцу, гаспадару.

Я выйшаў у прыхожую, а з другога пакоя ў той, дзе засталася жанчына, быў запрошаны паступіш. Яшчэ адзін паважны таварыш, якога, дарэчы, раней не было. Наш агульны з гаспадаром знаёмы, ужо не толькі літаратар, але і вучоны, доктар ажно філасофскіх навук. З выгляду — дай бог кожнаму, але ж таксама з нейкай бядой ды з усмешкай, заўсёды ў яго поўнай веры ў бясхмарную бясконцасць, а цяпер — нібы крыху вінаватай, ці што, а больш дык такой, што і ён, разумеецца, трапіў сюды толькі з чыста прафесійнай цікаўнасці...

Успамінаю ўсё гэта, а маналог на лаўцы каля зялёнага плоціка яшчэ ўсё ідзе. І тэма тая самая — пра Чмута.

— ...Сустрэў я раз яго,— расказвае таварыш весела,— гадоў са тры таму назад, дык ён гэта, браце, ледзьве ўжо хвост валачэ. «А дзе ж гіпноз? — пытаюся.— Што ж ты сам сябе не палечыш?..» Толькі рукою махнуў. Толькі пратэсу, ліха яму, бяры ды ідзі... Стой, браце, гэта ўжо мой аўтобус!

Маналог абарваўся. Расказчык амаль усхапіўся, узяў вядро, яшчэ ўсё моцна пацінуў маю руку, спешна падаўся да аўтобуса. Хоць ён толькі што спыніўся і як быццам адразу дваімі дзвярмі ўздыхнуў, адчыніўся з духаты ўсярэдзіне — па свежасць на двары. Пасажыры выходзяць, хто назусім, а хто праветрыцца ды размяцца. Новых сабралася няшмат. Нам яшчэ можна было б і пастаяць, бо і аўтобус жа пастаіць. Аднак таварыш ведае, што і пра месца трэба загадзя... Сеў ды махае мне рукой. І па развітанне, і каб я ўжо ішоў сабе, на лавачку, чакаць свайго.

Ну што ж, бывай! Мо і сустрэнемся яшчэ. Без пратэзаў, на самагіпнозе, не стогнучы.

1983

# МАНАРХІ І КУДЛАЧ

На іншыя кантыненты мне дагэтуль не пашанцавала, а з афрыканскага і азіяцкага двух манархаў меў гонар бачыць.

Абісінскага негуса — выпадкова. У Ленінградзе. З сябрам, які праводзіў мяне, мы ехалі на таксі ў аэрапорт, спяшаліся, аднак нас затрымалі. Пакінуўшы таксі на бакавой вуліцы, мы — хочаш не хочаш — далучыліся да тых, што павінны былі вітаць высокага госця.

Ці гэта праспект быў залішне шырокі, ці людзей прыйшло малавата, але — помніцца — аблямоўка асфальту выглядала з абодвух бакоў даволі вузкай, нават вузенькай.

Тым не менш, яго вялікасць, няраслы, чорненькі барадачок, стаяў у чорнай адкрытай машыне з усёй адпаведнай важнасцю, руку трымаючы пад казырок вайсковай шапкі з чырвоным аколышам.

Пакуль я бачыў яго анфас, пасля, адпаведна руху машыны, у профіль, паспела згадацца даўняе, з трыццаць пятага года. Як гэтае слова, "негус", упершыню тады пачутае, спалучалася з іншымі, таксама экзатычнымі: Эрытрэя, Адыграт, Адыс-Абеба і, як вянец усяму, Абісінія. Бедная Абісінія, першая ахвяра фашызму, першы намёк пра набліжэнне сусветнай бяды. Аднак і гэтая краіна, і сама вайна, як вайна для ўсіх, здаваліся тады вельмі і вельмі далёкімі ад нас...

Калі машына з негусам мінула нас, яго няраслая вялікасць ззаду ўбачылася мне... толькі шапкай. Вялікай шапкай з нейчай галавы, як у меншага брата, якому яе прыйшлося даношваць. Яна трымалася на вушах. Так і змалеў ён, імператар, на вачах, зацёрся ў перспектыве — толькі вушы і завялікая шапка...

Іранскага шаха бачыў я дома, у Мінску. І, як ні дзіўна, аніяк не магу прыгадаць ні праезду гэтай вялікасці, ні выгляду яго, хоць і стаяў я вельмі зручна, на самым краёчку панелі. Усё для мяне абарвалася ў памяці на адным непрадбачаным, незвычайным здарэнні.

Праспект наш, відаць, не вузейшы за той, ленінградскі. Шырокай паласой ён віднеўся далёка ў абодва канцы,— туды, адкуль мы чакалі высокага госця, і туды, дзе ён знікне, куды яго гасцінна павязуць. Мусіць, таму, што мы ўсё-такі правінцыя і манархі з іншых краін нас абмінаюць, на тую сустрэчу народу сабралася процьма. Панелі былі забіты людзьмі, балконы, вокны, нават дахі — у людзях, усюды яны, як быццам іх і сапраўды чакае нейкая радасць.

Яна прыйшла. Раней за высокага госця.

Яшчэ брынела нячутна, у многіх сотнях душ, струной нацягнутая напружанасць чакання. Шырокі і даўжэзны, чысценькі ў летнім

сонцы асфальт гатовы быў вось-вось прыняць і гладзенька панесці многія колы ўрачыстага картэжа... Але адтуль, адкуль чакаўся госць, паказаўся і стаў набліжацца да месца, дзе я стаяў, здаравенны рыжы кудлач, аблавухі, крывавата разлапісты, наланцужны гаўкала, прасцецкі рабачай. Адкуль узяўся? Дзе, з чаго сарваўся?.. З бакоў і зверху, ззаду і спераду яго падганяў тысячагалосы крык, смех і свіст,— уся напружанасць чакання вылілася на яго. І не было куды падзецца. Бедны дварняга лупіў наперад, як сіла мага, а натоўп, умомант стаўшы адным, агромністым, бяздумным блазнам, галёкаў і рагатаў!..

Ды тут якраз недзе далека там, адкуль Кудлач той вырваўся, паказаўся пачатак урачыстага картэжа. А перад Кудлачом, адрэзаўшы громам бліскучай медзі дарогу далей, грымнуў маршам ваенны аркестр... Сабака рэзка тармазнуў, як перад прорвай, ушчэнт спалохана-разгубленанявінна сеў і моўчкі, мудра апрастаўся. На самым чыстым урачыстым месцы.

І толькі гэта мне апалітычна помніцца праз гром і рогат.

1984

## ВЕЧАР І РАНІЦА

Канец кастрычніка, цямнее рана. А тут яшчэ абапал лес.

Ад машын, што спыніліся на асфальце, мы моўчкі рушылі па вузкай, каменнай дарозе ў чорны, затоена глухі гушчар, яшчэ не бязлісты, да самага нізкахмарнага неба высокі.

Мы ішлі на агонь, каля помніка, ён быў проста далей ад шашы, а здавалася — вельмі далека. Бо ішлі мы паволі, нібы несучы штосьці цяжкае, доўгае, адно на ўсіх.

А яшчэ нас прытрымліваў голас, адзін чалавечы голас, што гучаў над цемрай і цішынёй. Гэта адзін з мясцовых ветэранаў расказваў, як тут было...

Былыя салдаты, ішлі мы не строем, а хто як, і ногі нашы шоргалі ў прыцішаным разнабоі, і цемра глуха маўчала. А чалавек той хацеў, каб мы чулі яго, ён гаварыў, амаль крычаў па-старэчы надрыўна, і польска-яўрэйскі голас яго гучаў як рэха вельмі далёкіх, нават для нас неверагодных па сваёй жахлівасці падзеяў...

Сабібор. Да мая сорак другога года — веска на польскім беразе Буга. Потым — лагер масавага знішчэння людзей яўрэйскага паходжання. Ваеннапалонных і проста забраных, зблізку прыгнаных, здалёк прывезеных. З Аўстрыі, Бельгіі, Чэхаславакіі, Францыі, Галандыі, з самой Германіі, з Савецкага Саюза. А перш за ўсё і пераважна з Польшчы.

Загазавана, спалена больш за чвэртку мільёна.

Без персанальнага ўліку, цяпер — з адным на ўсіх помнікам, сказаў бы: Невядомаму пакутніку.

Надрыўна-прарочы голас гучыць...

Я ўжо бачыў Асвенцім, Бухенвальд, Саласпілс, Лідзіцэ, Трасцянец, Хатынь, мноства нашых Хатыняў па ўсёй Беларусі. Тут мне, чуючы, бачыцца тое самае, ды зноў жа ў іншай кашмарнай будзённасці.

У кастрычніку сорак трэцяга тут было паўстанне. Пад кіраўніцтвам савецкіх яўрэяў-ваеннапалонных. Загінула дванаццадь вахманаў, трыста вязняў, шэсцьсот іх уцякло. Пасля паўстання лагер закрылі, на месцы яго пасадзілі лес. Вось гэты, хоць ён і здаецца спрадвечна даўнім, прыродным...

Нас больш за дваццаць чалавек, польска-савецкіх ветэранаў другой сусветнай вайны. Кожны бачыў яе па-свойму, у кожнага свае ўспаміны.

Тут, у гэтых мясцінах, яны ў мяне яшчэ даваенныя.

Наступны наш прыпынак — горад Хэлм.

Ранняй вясной трыццаць дзевятага года туды нас, марскіх

пехацінцаў на трэцім тыдні службы, перавезлі з Гдыні ў закрытых таварняках, салдатаў, але пераапранутых у сваё, цывільнае, вясёлае жабрацтва. (У войска кожны браў найгоршае, чаго не шкада змарнавадь, а тут яно было яшчэ на дадатак вымятае ды злубянелае ад дэзінфекцыі.) Пасля захопу Чэхаславакіі, затым Клайпеды Гітлер зноў, як і мюнхенскай восенню, аб'явіў сваё «законнае жаданне» далучыць да рэйха Гданьск і пралажыць аўтастраду цераз «польскі калідор» ва Усходнюю Прусію. Польшча адкінула гэты ультыматум, ад кала ла на яго частковай мабілізацыяй, з мэтай умацавання сваёй заходняй граніцы. У такіх умовах трымаць на ўзбярэжжы неабвучаных рэкрутаў было неадпаведна.

Тады мы, некалькі сот нядаўна астрыжаных юнакоў з розных раёнаў Польшчы, у тым ліку і з «усходніх крэсаў», не ведалі, што да чаго. Нам, беларусам, было нібы нават лягчэй ад думкі, што вось ад сунемся ад самага агню далей, у тыл, бліжэй да роднага,— бо ехалі мы ад мора на паўднёвы ўсход. Хоць дакладней будзе нашы гдыньскія адчуванні назваць не страхам блізкага агню, а холадам на душы, хола дам маладога і наогул чалавечага страху перад восьвось магчымай вайной.

Да Любліна нас везлі проста кудысьці, а там батальён падзялілі на тры гарнізоны акругі, і тая частка, у якой апынуўся я, ужо, нарэшце, ведала, куды мы елзем.

Калі нас увечары гналі з вакзала ў казармы, Хэлм пасля сучасна-элегантнай, статысячнай Гдыні здаўся не толькі меншым, старым, але і зацішным ды цёплым, бо тут ужо была зусім вясна. І яшчэ адно, што жыва, ярка згадалася ў змрочна начным Сабіборы. Абапал доўгай вуліцы, па якой мы нейкім строем, але ўразнабой ішлі, на тратуарах было вельмі многа яўрэяў, як быццам толькі яны адны. Шпацыравалі, стаялі. Шабас, субота. І ўсе не такія, да якіх я прывык у нашых мястэчках Турцы ды Міры, якіх бачыў у Наваградку, Баранавічах, Гродне. Тут яны былі з пейсамі, у ярмолках, у чорных сурдутах. Нібы з вясёлых, пранізаных чалавечным сумам старонак Шолам-Алейхема, якога я ўжо даволі многа і з жывой цікавасцю чытаў.

Значна пазней я ўведаю, што ў гэтых мясцінах былі яўрэі — *хасіды*, адрозныя ад беларуска-літоўскіх *міснагдаў* большым жыццялюбствам, што старадаўні Хэлм, яго яўрэйскае насельніцтва славіцца назвай «хэлмскіх разумнікаў» («хёлемер хохім»), пра пацешную някемлівасць якіх прыдумана мноства анекдотаў. Ну, а тады ён, так нечакана і так цікава новы горад-гарадок, ад небывала вялікага зборышча жывых шолам-алейхемскіх герояў здаўся нечым сярэднім паміж яго местачковай Касрылаўкай і славутым Ягупецам.

У нашым маладым страі былі весе луны, было бяз думнае пацвельванне і смех, а з тратуараў выкрыкі, жэсты і смех — таксама маладыя. Аднак старэйшая большасць сурдутаў, ярмолак і пейсаў не звяртала на нас увагі. Людзі ішлі, стаялі, людзі жылі сваім жыццём.

Цяпер яны, а разам з імі многія тысячы іншых, з розных краін, аселі тут, пад гэтым, на крыві ўзбуялым сабіборскім лесам, цераз нялюдскія пакуты сталі попелам і зямлёй безымяннай і міжнароднай памяццю.

...У дзяцей бясконцыя «чаму?», а ў старых — ус паміны, асацыяцыі. У малых гэта бывае часамі надакучлівым, аднак часцей пацешным, а ў нас — трэба баяцца, каб не было проста нудным і смешна лішнім. Бывае і адчуванне, што ўспаміны твае добра такі надакучылі і самому. Але ж нічога не зробіш,— іншых у цябе няма, а толькі тыя, што з перажытага, і лезуць яны, паўтараюцца — самі...

Назаўтра пасля ляснога вечара, раненька на праходку мы выйшлі з хэлмскага гатэля ўдвух з польскім калегам, вядомым пісьменнікам.

Сонца ўзышло нам на гары, у векавым прыкасцельным парку, з якога, праз рэдкія дрэвы, відаць амаль увесь горад. Пад нагамі хораша шамацела нам золата лістоты, яшчэ не звялай, не прытаптанай дажджамі. Гаварылася добра, пра блізкае, з адным агульным клопатам нашага часу, з адной трывогай і надзеяй...

Мы бачымся з Войцехам рэдка, пішам адзін аднаму вельмі мала, але даўно ўжо чытаем адзін адна го. Я яго нават перакладаў, а ён і пра маю асабіста кнігу, і пра нашу «Я з вогненнай вёскі...» у польскім выданні пісаў з належным разуменнем. А яшчэ мы з ім равеснікі, абодва салдаты трагічнага верасня трыццаць дзевятага года. Праўда, на год старэйшы, з адукацыяй, ён тады быў афіцэрам, пан падпаручнік Жукроўскі,— вялікі бар'ер паміж намі, якога даўно ўжо няма.

Цяпер тое, што мы гаворым пра Хэлм, перад вайною от сабе гарадок, якому суджана было ўлетку сорак чацвёртага стаць першым вызваленым польскім горадам, першай часовай сталіцай Народнай Поль шчы, цераз іншае штосьці, неабавязкова гістарычнае, у мяне ўвесь час прабіваецца толькі сваё...

Чырвонацагляныя, яшчэ з царскага часу, казармы, знешне нават прыгожыя, а ўсярэдзіне прасмярдзелыя дапатопнай санітарыяй. Жорсткая муштра, не ведаю, ці горшая, чым у якім-небудзь іншым войску, але ж так часта агідлая сваёй тупой аднастайнасцю, бруднакрыклівым прыгнётам маладой душы. Свае, толькі свае скупыя часіны,— уранні, да пабудкі, калі праз акно трэцяга паверха добра было вітаць вясковым роз думам усход сонца, увечары ці нават

удзень, калі здаралася нейкая шчыліна свабоды і можна было ў закутку паміж ложкамі дарваццa да свайго галоўнага — што-небудзь пачытаць. У святы або на пасту «службовага», днявальнага па роце, ноччу той адзінокай свабоды выпадала зрэдку значна больш. У былой казарменнай царкве, перatворанай у «святліцу», была бібліятэка, без каталога, толькі з паненкай загадчыцай, недавучанай гімназісткай, якая міла-ветліва дазваляла браць усё, што знойдзеш сам.

У той бібліятэцы я ўпершыню сустрэўся з «Прыгодамі Швейка», старонкі якога вельмі адпаведна накладваліся і на нашу штодзенную салдацкую рэчаіснасць, там пачаў Рэймантавых «Мужыкоў», знайшоўшы толькі першы том, не кончыў Прусаву «Ляльку», бо і тут не хапіла другога тома, перачытваў па-польску Чэхава, Мапасана, браў на зуб іншыя выпадковыя кнігі, скажам, сухавата-патрыятычныя апавяданні Струга, не надта вальнадумную «Гісторыю Хрыста» італьянца Папіні, сёе-тое іншых аўтараў, менш цікавых ды значных. І не запомніў бы іх, каб не блакнот, каб не прывычка,— ужо прывычка на дваццаць другім годзе працоўнага сялянскага жыцця — запісваць тое, што ўпотай, шчасліва здавалася патрэбным, рабілася пра запас і з пэўнай рызыкай.

Гэты блакнот пранёс я і цераз палон, што было яшчэ больш рызыкоўна.

Вось адзін з тых салдацкіх запісаў, зробленых «службовым» кулямётнай роты на начным дзяжурстве:

«Чытаю, пішу, а на дварэ світае. Сям-там спознены туман, месяц — «кусок ртути», арошаная зяляніна, мокрыя кветкі на спакойных яблынях. Чырыкаюць вераб'і, каркаюць вароны, кахкаюць галкі. Усё пацягнута лёгкай фіранкай сіняватай імглы... Душа мая поўная міру, любові, паэзіі. Успамінаецца раніца героя «Чатырох дзён»: «Серый полумрак поднимался з земли...» Не, ні яму, ні мне «не да твару» быць сторажам карабінаў і кулямётаў, гэтых страшэнных носьбітаў смерці, што цярпліва дрэмлюць у чахлах, сытыя, выцацканыя старраннымі рукамі «вольных і нявольных»...

Зачараванасць літаратурай і юначы пацыфізм.

«Кусок ртути» — з «Карэнінай». «Чатырма днямі» Гаршына я быў у апошні год перад войскам не проста зачараваны, я пераклаў іх і спадзяваўся выдаць. Не памятаю ўжо дакладна — асобна выдаць ці ў зборніку першых апавяданняў, які таксама не быў выдадзены. Атрымаўшы павестку, я паспеў за тыя лічаныя дні дома толькі ўсё сваё перапісаць і выслаць у Вільню, мяркуемаму выдаўцу.

А пацыфізм мой ішоў ад Талстога, гадоў з шаснаццаці. Наіўная, чыстая шчырасць яго, да чаго я толькі дакрануўся ў «Птушках і

гнёздах», прайшла суровую праверку на перадавой пад Гдыняй, а пазней яшчэ раз у партызанах. У Хэлме, куды з Гдыні быў перанесены дурман рэкрутчыны, ён мне, той пацыфізм, прынёс нямала патайных пакут, хоць знешне я быў вясёлым ды кампанейскім хлопцам і нязгоршым салдатам.

Апроч кніг у «святліцы» былі яшчэ на сценах малюнкі Гротгера, графічныя цыклы якога, звязаныя з паўстаннем 1863 года, я памятаў са школы. Цяпер, на салдата, непараўнана большае ўражанне зрабіў балюча-сумны «Накцюрн»,— месяц і хмары над апусцелым полем крывавай сутычкі, а яшчэ больш — «Пасля бітвы»,— твар, вочы і слёзы маці над забітым сынам... Штосьці блізкае да Гаршына, па-свойму пра адно, пра тое самае... Матчыны слёзы жылі ў маёй душы яшчэ ўсё свежым успамінам пра сваю, ужо на схіле сёмага дзесятка і слабенькую, якой я не мог здалёк нічым дапамагчы, апроч пісьмаў, двойчы на тыдзень, як абяцаў, з размалёўваннем свайго жыцця ў самыя светлыя колеры. А чалавечы пратэст супраць вайны — гэта той, ужо ў двукоссі, «пацыфізм», які жыве ва мне і сёння. Марай пра мір і дружбу паміж народамі, службай слова ў гэтым, адзіна разумным напрамку.

З тое гары ў асветленым усходам сонца парку хэлмскі раздзел свайго мінулага я ўспамінаў не толькі цераз салдацкі блакнот. Ён мне там вельмі дарэчы ўспомніўся, а дома, вярнуўшыся з падарожжа, перад тым як пачаць тое, што цяпер пішу, я яго перачытваў.

У ім я запісваў і вершы, да якіх тады вярнуўся пасля даволі доўгага па тых вымярэннях перапынку, пазбаўлены магчымасці пісаць прозу, у смак якое дома толькі што ўваходзіў. З тых вершаў найбольш удалымі паўтарыліся ў памяці радкі, навеяныя ка лісьці красой навакольнай прыроды. Цяпер палі за горадам былі па-восеньску голыя, у іншай красе, а мне яны ўяўляліся ў той даўняй вясновай ды летняй раскошы. Тое, што мы бачылі на вучэбных «вымаршах», часамі даволі далёкіх. Густое жыта ў мой высокі рост (сваім, у вёску, я пісаў тады: «аж радуецца сэрца гаспадарскага дзіцяці»), алыя макі ў прыдарожным збожжы, белыя з лёгкай сінаватасцю мазанкі, з саламянай страхой, з адным акном ад вуліцы, з мальвам! перад акном... Такое мне, як праз шчаслівы сон, падабалася з малечага падарожжа па Украіне, калі мы вярталіся з Адэсы.

Толькі польскімі на Хэлмшчыне былі прыдарожныя капліčкі ды крыжы, парныя вазы з адным канём пры не вельмі слухмяным дышлі, касцёлы, шыльды, мова, песні... Уголас усё было польскае. Нават і ў хэлмскай царкве, куды салдат праваслаўных вадзілі кожнай нядзелі. Поп служыў абедню папольску, і вельмі вымучана, недарэчна гучала ў

яго паэзія старaславянскага слова, скалькаваная на польскую прозу, што вельмі прыкра, карыкатурна чулася мне ў вядомых са школьнага маленства песнапеннях. А мясцовыя цёткі ды бабкі шапталі нам, рассыпаным паміж імі: «Сідай, солдатіку, та відпочынь», бо каля сцен былі лаўкі, якія нам па-матчынаму саступаліся.

Была спроба і нас, чатырох у кулямётнай роце беларусаў, вярнуць «на лона веры бацькоў». У школе я чытаў у Рэймантавых нарысах «З земі хелмскей» пра пакуты мясцовых уніятаў, якіх царскія ўлады прымушалі пераходзіць у праваслаўную веру. Нас — толькі ўгаворвалі. I самае пацешнае было ў тым, што гэтай высокай місіяй заняўся сам «шэф кампаны», ротны старшына, востры службіст і грубы гарлапан. На ўсе яго ненатуральна ветлыя, цяпер без прывычнага, штомінутнага «курва маць», нягег лыя аргументы я адказаў прытворна-нявінным пытаннем: «Пане шэфе, а ці абавязкова гэта для справы абароны айчызны?» Насач наш падумаў, а потым: «Ну, не сказаў бы...» і нешта яшчэ такое ж. Ды тут ён заўважыў на «рэкруцкай мордзе» падазроную Усмешку і, гаркнуўшы: «Марш, бараны!», патурыў нас з канцылярыі. Не сказаўшы галоўнага, пра што ў казармах гаварылася,— што пярэхрысту неўзабаве давалі «лычка» яфрэйтара і невялікі «урлёп», паездку дахаты.

Тое самае, зрэшты, адзін з салдатаў, за год да гэтага, зарабіў інакш. Паблізу ад палкавых складаў быў шпіталь гхсіхічнахворых. Адзін з няшчасных неяк вырваўся з жоўтага дома, дабег да дроту нашай высокай агароджы, палез на яе. I вартавы, крыкнуўшы двойчы папярэджанне, за трэцім разам выканаў загад. Сцішна было ад думкі пра такую магчымасць паехаць дахаты, чаго, вядома ж, вельмі хацелася...

Вершы не толькі пісаліся. Наш ротны санітар, каржакаваты, вусаценькі, прыязна ўсмешлівы Сеня, украінец, пісаў таксама. Ён пазнаёміў мяне з іншымі ўкраінцамі, з суседняга артылерыйскага палка, таксама санітарамі. Пад вечар, праз дзірку ў паркане (дзірка заўсёды была і будзе!) мы пралазілі на сумежную тэрыторыю, а там — у апусцелую ад начальства санчасць, «ізбу хорых», дзе заўсёды былі белая кава і белы хлеб, замест агульнай чорнай і чорнага, якіх маладому салдату ніколі не бывае ўдосталь і ад якіх часам! «ажно ржавела ў роце». Мы гутарылі там на дзвюх родных мовах, спявалі і чыталі вершы, бо быў яшчэ адзін паэт, з артылерыстаў, Апанас, не санітар, а таксама госць у санчасці.

Аднак чытанне вершаў помніцца больш на траве каля царквы або далей за горадам, куды мы святамі ўцякалі,— майстэрства, якому я паспяхова вучыўся таксама ад украінцаў, салдатаў «старых», на

другім годзе службы. Апанас чытаў з памяці і сваё, але здавалася, што з яшчэ большай ахвотай Шаўчэнку, лірыку і «Каўказ», што мне амаль заўсёды ўспамі наецца, абы калі зноў дакрануўся душой да вогненна-мужных слоў гэтай паэмы. Прыгожы парубак з зялёным аколышам артылерыйскай канфедэраткі стаіць у траве на каленях, дэкламуе натхнёна, а мы сядзім або ляжым у зусім не салдацкай задуме...

На тых сустрэчах, у санчасці і ў горадзе або за ім, мяне часамі ўпотай, зайздросна расчульвала простая, непасрэдная шчырасць гэтых вясёлых, дасціпных хлопцаў. «Што, браты ўкраінцы, заспіваемо?» І такое — зусім сур'ёзна, можна сказаць, урачыста. Нямала песень я тады пачуў, запісаў у тым жа блакноце, засвоіў на светлы ўспамін ды зноў і зноў свежы паўтор на адзіноце і ў сябрыне.

У Гдыні ў нашай часці ўкраінцаў чамусьці не было, і іменна з Хэлма, кажучы трохі ўзнёсла, мне ўдзячна ўспамінаецца пачатак майго збліжэння з першым! прадстаўнікамі братняга народа, паэтычнымі дружбакамі з Хэлмшчыны, Валыні, украінскага Палесся.

І ў нашым, і ў артылерыйскім палках найбольш было салдат-палякаў. З Гдыні, у складзе часткі нашага батальёна, у Хэлм прыехалі нядаўнія партовыя рабочыя, марскія рыбакі кашубы, сілезскія шахцёры, сялянскія дзецюкі з келецкіх або мазурскіх вёсак. А ў Хэлме служылі хлопцы пераважна вясковыя, з бліжэйшага і не надта далёкага наваколля. Сярод нас, беларусаў, нямала было такіх, што закончылі... так і карціць сказаць: цэлую сямігодку, быў нават адзін нядаўні віленскі беларускі гімназіст. І вельмі здзівіла мяне, што сярод палякаў, і вясковых і гарадскіх, многія хлопцы былі зусім непісьменнымі. Не на «крэсах» — не ў беднай, цёмнай «Польшчы Б.», а тут, патагачаснаму — у самым цэнтры дзяржавы, што ганарыцца сваёй заходняй культурай.

Дзяцюк з прастадушна-жаночым прозвішчам Манька, нават і з выгляду, а тым больш па голасу падобны на нейкую жаласлівую цётку, дыктуе мне, прысеўшы побач да стала: «Дрога мамусю! Лепейбым я цэглэн на будове носіл, ніж я се тутай, у тым войску...» Сам гарадскі, а жаль традыцыйна сялянскі, знаёмы мне па пісьмах з войска ў нашу вёску. Скажам, такое, што весела паўтаралася потым, стаўшы амаль крылатым: «Лепш бы вы, мамо, мяне малога ў начовачках утапілі, чым тут мне гэтая вальтыжэрка...» Я ўсміхаюся і пішу. Аднаму, другому, трэцяму... Бывала, і пятаму ўзапар. І не ўсміхаюся ўжо, а часамі ледзь не злуюся, але пішу. Добрыя хлопцы былі. І бедныя. Як гаварылася: «На ўсю вёску адны боты, дый тыя ў пана солтыса, адна карова, дый тая ў ксяндза-прабошча». Меркаваць пра беднасць можна бышо па пасылках з дому, якімі мы часцей за ўсё

дзяліліся. Не сала якое ці масла ў Янэка або Стася, як у нашых Пятра або Паўла, а пірог з пшоннай кашай, халоднай і даўкай, не раўнуючы як мыла. Былі і багацейшыя. Нават адзін ледзь не пан, інтэлігент — шафёр-механік з Катавіцаў. Тоўсты прыйшоў, непаваротлівы, а паганялі, дык гаварылася: «Ён цяпер бэбах свой можа так адцягнуць, што скурай аперажацца». Добры быў хлопец, нават сардэчны, што я паспеў адчуць яшчэ ў Гдыні. Калі ён тут, у Хэлме, трохі падмуляўся, цягаючы станкач, і лёг у «ізбу хорых», яго ахвотна наведвалі. Аднойчы нават з ротнай «капэляй», з аркестрам прыйшлі. Ня850 рослы, прыгожы з твару дзецючок з падлюблінскай вёскі вельмі ахвотна, хораша, з усмешкай шчасця рэпіў на скрыпцы, прынесенай з дому, а здаравенны гдыньскі грузчык з-за адсутнасці іншага інструменту здорава і таксама нястомна дапамагаў яму на грабяньцы, цераз паперыну. Прадстаўніком ад дэлегацыі я падняўся на другі паверх, у палату, і мы з нашым абвялым таўсцюхом з акна прывітальна памахвалі рукамі, як магнаты, і смяяліся, цяпер мне хочацца думаць, што ён — расчулена.

Наш «дружыновы», камандзір аддзялення, якому належылася быць непрыступна строгім і якімі былі яго калегі, іншыя «фрайтры» ды капралі, і не крычаў без патрэбы, і не лаяўся брыдка, і ўсміхаўся палюдску, і любіў, нядаўні маёнткавы сыравар, каб я прыносіў яму з бібліятэкі штосьці цікавае, добрае пачытаць. Яшчэ больш людскага разумення было ў мяне з лодзінскім ткачом, «старым» салдатам з суседняй, стралковай роты. З выгляду франтаваты, Уладак быў шчыры, даволі светлы хлапчына, з ім было можна пра многае гаварыць. Не памятаю ўжо, як я з ім пазнаёміўся, як пазнаёміў яго з Сенем, важна галоўнае — мы і ўтрох сябравалі. Пра гэта сведчыць і фота, на якім я ў іх пасярэдзіне, а на адвароце два аўтографы, на польскай і ўкраінскай мовах — беларусу. Як сабе хочаце, але сімвал і памяць, такая ўжо доўгая, яшчэ ўсё светлая, хоць іх абодвух, можа, і няма, нядаўна ці даўно...

У Гдыні ў нашым батальёне не было таксама і яўрэяў.

Адурманьванне маладога салдата вялося таксама ж па нейкіх традыцыях. Адна з іх выяўлялася ў ледзь не свяшчэнным пераконванні рэкрутаў, што іхні, скажам, 76-ты полк непараўнана лепшы і за 75-ты, і за 77-мы, і за ўсе іншыя, што кавалерыя ды артылерыя, тады конная, гэта вам не пяхота, а марская пяхота — гэта вам не звычайныя «трусікі», хоць ні коней, ні караблёў у нас не было. Былі затое іншыя аргументы. Ужо на першым тыдні службы камандзір узвода, не надта старэйшы за падначаленых падпаручнік, ваяўніча вяшчаў перад строем, што мы, аказваецца, маем гонар служыць у

адзінцы, дзе «няма аніводнага жыда»!.. Дух часу, не без уплыву таго, што на працягу некалькіх перадваенных гадоў чадзіў на Польшчу з захаду, ад суседа, які ўсё больш ды больш выразна набліжаўся, як найбольшы вораг. Ужо і ультыматум, і пагроза смяротнага ўдару, а дух — у нечым той самы. «Маеце гонар...»

У хэлмскім пяхотным яўрэі былі. Аднак у параў нанні з мноствам цывільных, што ўразіла ў першы вечар і бачылася пасля, працэнт салдат-яўрэяў быў вельмі нязначны. Прысягалі па веравызнаннях: спачатку каталікі, якіх было найбольш, тады праваслаўныя, а напаследак «паляцы майжэшавэга вызнаня» — жменька яўрэяў, чалавек каля дваццаці. Яшчэ меншай яна, тая шэрая жменька, здавалася ў параўнанні з вялізным казарменным пляцам, яго зялёнай і жвіраванай прасторай. Тэкст прысягі для ўсіх быў адзін, толькі ў рабіна з пропускам — без «святое троіцы». Спачатку чуўся адзінокі голас рэбэ, словы якога, адно за адным, паўтараў не надта мацнейшы хор невялічкага строя. «Пшысенгам!.. Пшысенгам!.. Пану богу!.. Пану богу!.. I гэтак далей. Самотна неяк, як быццам разгублена ці ў адчаі. I раптам — громападобны голас пана палкоўніка з каня: «Глосьней! А то помыслён людзе...», што яўрэі не хочуць у войску служыць. Па каталіцкай і трохі па праваслаўнай калонах прайшоўся смех. I пачалося новае «пшы сенгам», хоць і не надта «глосьней».

У гэтым вокрыку і ў смеху было таксама штосьці ад «духу часу»...

Тым духам былі заражаны, вядома, далека не ўсе. Польшча светлая, польскі працоўны народ, яго прагрэсіўная інтэлігенцыя па праву ганарылася і гана рыцца сваёй шматвекавой талеранцыяй у адносінах да яўрэяў.

Уранку, на хэлмскай гары, мне было добра яшчэ раз успомніць свой салдацкі блакнот, а ў ім словы, якія я цяпер, дома, перачытаўшы іх, прыводжу не з меркаваннямі, так сказаць, юрыдычных, не як пацверджанне даўняга факта, а як прыемны ўспамін маладосці. Некалькі слоў: «У сталовай заступіўся за хлопца-яўрэя, да якога прыстаў «пан інструктар». Як яно было тады больш дакладна — не памятаю: якніяк сорак пяты гадок. Помніцца толькі, што той безабаронна ціхі хлопец і яфрэйтар, які да яго плюгавенька прычапіўся, былі не з нашай роты, бо ў нашай, кулямётнай, зноў жа яўрэяў не было. Хлопца я не ведаў, а чужога інструктара можна было і... паслаць, тым больш маючы за сабой, навокал сябе росла-плячыстую і дружную «марскую» братву.

Бліжэй пазнаёміцца з кім-небудзь з яўрэяў, ці ў казармах, ці ў горадзе, я за тры мітусліва-глухія рэкруц кія месяцы не паспеў.

...Пасля нашай слаўнай праходкі, гутаркі і маўчання ўдвух быў яшчэ хэлмскі цікавы дзень — да ад'езду пасля позняга абеду.

Падзяліўшыся на невя лікія групы, наша польска-савецкая дэлегацыя выступала перад рабочымі, вучнёўскай моладдзю, інтэлігенцыяй. Я быў у школе медсёстраў, дзе нас трох, польскага, рускага і беларускага пісьменнікаў ды ветэранаў, слухала мілае мноства маладзенькіх паненак, ужо без сацыяльнага аспекта ў гэтым акрэсленні. Была таксама сустрэча ў музеі, даволі сціплым, але з красамоўнымі экспанатамі з ліпеня сорак чацвёртага года, калі якраз у доме, дзе музей, быў выдадзены першы маніфест Польскага камітэта нацыянальнага вызвалення. На развітанне быў таварыскі абед у тых самых чырвонацагляных казармах, дзе я служыў, у тым колішнім казіно, дзе быць раней не мог. Цяпер прыйшлося выступіць.

Вечар і раніца даўніх успамінаў...

Пасля была дарога па маляўнічай па-восеньску і шматпакутнай у дні акупацыі зямлі, быў самавітапрыгожы Люблін, а назаўтра Майданак, дзе зноў прыгадаліся месцы нечалавечых пакут, а сярод іншых месцаў — толькі надоечы ўбачаны Сабібор. Вечны агонь і голас у лесе...

Яшчэ слоў некалькі.

На стыку чэрвеня і ліпеня таго ж — і ў нечым светлага, і на самым краёчку сусветнай трагедыі сцішнага — трыццаць дзевятага мы, марская пяхота, зноў пераапранутая ў яшчэ раз выпетраныя ў дэзінфекцыі хатнія неданоскі, паехалі ў Гдыню. Ужо як быццам гатовыя да сустрэчы з ворагам на самым крайнім рубяжы. Марскога нас там давучаць. Калі паспеюць... Думалася і так. Хоць і вяртацца было чамусьці весела.

Многа гадоў пазней, ужо з гістарычнай дыстанцыі, я ўспамінаў сяды-тады тыя суседнія палкі ў польскаўкраінска-яўрэйскім от сабе горадку, пяхотны і артылерыйскі, потым з дакументальнай літаратуры прыблізна ўведаў, дзе маім хэлмскім сябрам давялося сустрэцца з гітлераўскай навалай. У тых знаёмых мясцінах, дзе мог застацца і я. Назаўсёды. Не вельмі глыбока пад жытам або пад лесам. Пасаджаным ці прыродным. Хутчэй за ўсё безымянна.

1984

## ЦЯПЛО

Паміж лесам і полем, па летняй пясчанай дарозе паволі прашастаў чорна-пярэсты маўклівы статак кароў. Адна пры адной, адна за адной, самавіта дзябёлыя, гладкія, шчодрыя. І маўчаць як пра штосьці адно, і ніколі не скажуць, пра што.

Пакуль пастаяў, прапускаючы іх, яшчэ раз за столькі гадоў прыгадалася даўняе. З восені трыццаць дзевятага, з польска-нямецкай вайны.

Дванаццаць дзён, пачынаючы з досвітку першага верасня, мы, батальён марской пяхоты, прасядзелі ў акопах на ўсход ад Гдыні, на граніцы з тэрыторыяй "свабоднага горада" Гданьска, захопленага немцамі загадзя да нападу на Польшчу. Разоў некалькі, асабліва на самым пачатку, мы адбівалі варожыя атакі, а то ўсё гнуліся пад страшным артагнём, то сухапутным, то марскім.

Гэта, відаць, проста грэх — так вось спакойна, коратка, суха гаварыць пра тое, што тады перажывалася ў душы, і ўдзень, і начамі... Але ж я хачу пра адно. Як нас потым знялі з усходняй лініі абароны, як мы дажджлівай ноччу, без шынялёў, пад цяжарам станкавых кулямётаў (бліжэйшыя да мяне, наша рота) доўга і моўчкі ішлі праз шырока раскінуты па ўзгорках, завалены зацямненнем горад на яго заходнюю ўскраіну і далей — у дёмнае поле з цёмнымі вёскамі. Панурая, мокрая, зябкая ноч яшчэ ўсё не канчалася. Насцярожана, зрэдку акажацца далекім строкатам кулямета, самотным выбухам гранаты, размерана аднастайным стогнам партавога маяка, моўчкі пасвечвае тамсям бліжэйшымі, далейшымі пажарамі...

Да світання, кал і нас паднімуць у наступленне, якое кончыцца не апошнім разгромам, заставалася трохі часу, і нас нечакана, нягучна спынілі ў нейкім маёнтку.

На свежай, чыстай саломе ў доўгім кароўніку ляжала многа спакойных, цёплых кароў. Якой была тая салома, якімі былі каровы — гэта мы, стомленыя, ацэплыя, кожны сам сабе змрочны, хутчэй не ўбачылі, але адчулі. Палёгшы," пападаўшы паміж імі. Задаволена, асцярожна, каб і самому, нарэшце, пагрэцца і кагосьці не разбудзіць. Хоць і не спалі яны, каровы, а толькі моўчкі, няспынна, мудра жавалі. Зусім далёкія ад чалавечых дзіўных клопатаў.

Нядоўгім было яно,— як мы неўзабаве, у першай хмарнай бачнасці перакаваліся,— тое нязвычна ўтульнае цяпло...

1983

## СУВЕНІР

Слоніка з сандалавага дрэва падарыў мне ў паўднёвай Індыі Святаслаў Мікалаевіч Рэрых. Сказаўшы пры гэтым, што чым даражэйшы госць, тым меншы павінен быць слонік — звычай такі. Мой — маленькі, магчыма, бываюць і меншыя, але пра радасць знаёмства з абаяльным чалавекам, выдатным мастаком і сынам вялікага мастака мой слонік гаворыць мне многа.

Русалачку, што самотна, зажурана сядзіць на ўзбярэжным валуне, я купіў у адным з падарожжаў сам. І яна мне нагадвае не толькі пра збольшага ўбачаную Данію, яе раскошны Капенгаген, але і пра шчасце майго малечага захаплення казкамі Андэрсена.

Ярка-стракаты гліняны пеўнік прывезены з Партугаліі. За гзтым сімвалічным пеўнікам ва ўспамінах стаіць дарога берагам акіяна, пальмы з соснамі ўперамешку, а пад імі, у сонцы, зусім ужо нечакана, зусім па-нашаму расквітнелы верас. Да пеўніка часта і вельмі ахвотна цягнецца пацешна маленькая рука маёй няўрымсты-ўнучкі. Стаўшы на крэсла, яна яго дастае. Ён ужо двойчы падаў з гэтай ручкі на падлогу. Першы раз адляцела галава, за другім разам адбіўся фанабэрысты хвост. Мы яго, пеўня, склейвалі ўдваіх з малой, і ён стаіць у нас там, дзе стаяў. Дзе стаяць сувеніры з іншых маіх падарожжаў. Нават здаецца часамі, што ён калі-небудзь возьме ды, нарэшце, кукарэкне.

Вясной семдзесят трэцяга года наш цеплаход збіраўся адчаліць з Гамбурга ў далейшы шлях, і нас, удзельнікаў савецка-польска-гэдээраўскага рэйса міру, прыйшлі праводзіць і тыя заходнія немцы, з кім мы сустракаліся, і яшчэ больш тых, што не маглі быць на сустрэчах, але таксама супраць вайны, за разумную дружбу паміж народамі. Нас было чатырыста з нечым чалавек, іх — разоў у тры больш. Бо якраз і выходны быў. Гучалі прамовы, потым цікавы, яркі самадзейны канцэрт. Былі проста гутаркі ў святочна-неспакойным міжнародным натоўпе. І — як заўсёды і ўсюды — абмен сувенірамі.

Адзін з іх спачатку збянтэжыў мяне.

Старая жанчына з рабочай сям'і дала мне... звычайную шчотку. Прыняў, падзякаваў," але ў душы, калі можна так сказаць, паціснуў плячыма...

І вось ён, такі будзённы, па-нямецку практычны, па-людску шчыры падарунак хутка ўжо дзесяць год ляжыць у нашай прыхожай на падлюстэрніку. Часамі нехта з сямейнікаў, выходзячы з дому, папросіць трохі пачысціць яго на лесвічнай пляцоўцы, а калі і сам пра гэта папросіш, А то і так сабе, мімаходзь, зірнеш на невялікую,

зручную, вішнёвую колерам дрэва і чорную воласам "кляйдэбірстэ" — шчотку для адзення. Зірнеш — і зноў успомніцца весела, гаманліва шматмоўны натоўп на прасторным пірсе, на палубах белага цеплахода, натоўп людзей, у нейкай меры з'яднаных разуменнем галоўнага, успомніцца нейчая ціхая, працавітая і цярплівая маці з добрай усмешкай, за якою — загадка і мудрасць яшчэ аднаго, можа, нялёгкага ці нават шматпакутнага жыцця....

1983

## ПЕРАПРАВА

Цяпер тут проста брод. Каровы на той бок перапраўляюцца то брыдучы, то крыху плывучы, калі вада пабольшае. А дзецi з пасёлка, калі iдуць iх сустракаць апоўднi i ўвечары, спрытна i весела карыстаюцца "чайкай".

— Дзед, баба сказала, каб ты сiсазаў, цi можна мне з Iнкай паехаць у лодцы па iхнюю Кветку„ Дзед, мы з Iнкай будзем у лодцы плысцi, а кароўка сама. Гэтак во носiк наставiць. Я бачыла!..

Унучцы сёмы год, яна зусiм гарадская. Яна спяшаецца з просьбай, аж спатыкаецца на словах, нiбы гаворыць подбегам. I дзед, што нарадзiўся i вырас у вёсцы, не пястунцы сваёй, а бабе, якая етаiць паблiзу, на тым самым зялёным двары i чуе ўнучччыну просьбу яшчэ раз, кажа з вясёлым дакорам:

— Ты што гэта, Сямёнаўна, хочаш пазбавiць малую такога ўспамiну?

У дзеда ўчора пад вечар, калi ён адзiн прысеў над ракою, быў iншы ўспамiн. Далёкi i сумнаваты. Калi ён тут партызанiў, калi на гэтым бродзе была iх пераправа.

На трох фурманках, узводам, яны ад пушчы ехалi сюды, на гэты бок, у далейшую вёску. Адвячоркам было гэта, у познюю, змрочную восень сорак другога. Яшчэ да ракi не даехалi, калi з кустоў выйшаў мужчына, моўчкi даў знак, каб спынiлiся, узяў першага каня за аброць, яшчэ раз паказаў рукою, каб маўчалi, а тады, падышоўшы да воза, цiха сказаў:

— Хлопцы, далей не едзьце — засада.

Ен быў мокры па самыя пах i. Нi ком у з iх не знаёмы.

I сёння ўжо не дапытаешся, хто гэта быў. Не иадзякуеш за жыццё — сваё, сынава, унуччына, за ўсiх таварышаў, хто яшчэ ходзiць або дыхае. Не дапаможаш, калi i сам той чалавек жывы, цi з адзнакай якой, цi хоць даведкай пра сувязь.

З народа выйшаў, у iм i схаваўся.

1983

**ЗМЕСТ**

Брыль Я.

Ад сяўбы да жніва: Апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1987.— 599 с., I л. партр.

Народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль даўно, яшчэ сваімі першымі апавяданнямі пакарыў сэрцы чуйных да роднага слова чытачоў.

Янка Брыль — сапраўдны паэт у прозе, адзін з глыбокіх нашых псіхолагаў, майстар лепкі ў слове вобразаў, якія за вонкавай прастатой нясуць у сабе глыбокі падтэкст, мастацка-філасофскае асэнсаванне жыцця.
У кнігу ўвайшло лепшае у жанры апавядання, створанае аўтарам за паўвека плённага творчага жыцця.

Иван Антонович Брыль
ОТ СЕВА ДО ЖАТВЫ
Рассказы
Минск, издательство
«Мастацкая літаратура» На белорусском языке
Загадчык рэдакцыі Г. С. Шупенька. Рэдактар В. М. Хлебавец. Мастак В. П. Масцераў. Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін. Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал. Малодшы рэдактар С. Г. Расянчук. Карэктары А. Т. Глушчанка, І. М. Паланейчык. ІБ № 3001
Здадзена ў набор 29.05.86. Падп. да друку 18.02.87. АТ 07505. Фармат 84x108'/32- Папера друк. JFS і. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 31,504-0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 31,82. Ул.-выд. арк. 31,63. Тыраж НІ ООП экз. Зак. 2510. Цана 2 р. 30 к.
Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, II.
Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.